УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
«ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ»

**І. І. Трацяк**

# БЕЛАРУСКАЕ КАТАЛІЦКАЕ ДУХАВЕНСТВА Ў САЦЫЯКУЛЬТУРНЫМ ПРАЦЭСЕ ПЕРШАЙ ПАЛОВЫ XX СТАГОДДЗЯ

Манаграфія

У 2 частках
Частка 1

## АРГАНІЗАЦЫЯ БЕЛАРУСКАГА ДУШПАСТЫРСТВА ВА ЎМОВАХ КАНФЕСІЙНА-НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПАЛІТЫКІ 1913–1939 ГАДОЎ

Гродна
ГрДУ імя Я. Купалы
2019

УДК 27-725(476)
ББК 86.375(4Беи)-36
Т65

Рэкамендавана Саветам факультэта гісторыі, камунікацыі і турызму
ГрДУ імя Я. Купалы

Рэцэнзенты:
*Марозава С. В.*, доктар гістарычных навук, прафесар
(Установа адукацыі «Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт
імя Янкі Купалы»);
*Токць С. М.*, доктар гістарычных навук, прафесар кафедры
сацыяльна-гуманітарных і лінгвістычных дысцыплін
(Гродзенскі філіял Прыватнай установы адукацыі
«БІП – Інстытут правазнаўства»)

**Трацяк, І. І.**
Т65 Беларускае каталіцкае духавенства ў сацыякультурным працэсе першай паловы ХХ стагоддзя : манагр. У 2 ч. Ч. 1. Арганізацыя беларускага душпастырства ва ўмовах канфесійна-нацыянальнай палітыкі 1913–1939 гадоў / І. І. Трацяк. – Гродна : ГрДУ, 2019. – 323 с.
ISBN 978-985-582-258-6 (ч. 1)
ISBN 978-985-582-257-9

Разглядаюцца шматгранныя аспекты з дзейнасці беларускага каталіцкага духавенства, а менавіта: прававыя асновы і арганізацыя ксяндзоў-беларусаў у пераломныя моманты (1914–1921 гг.), віды і змест душпастырскай і грамадска-культурнай працы беларускага каталіцкага духавенства ва ўмовах ціску і праследу канфесійнай і нацыянальнай палітыкі ІІ Рэчы Паспалітай (1921–1939 гг.). Дадзеная манаграфія з'яўляецца лагічным працягам манаграфіі: «Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі» (Гродна : ГрДУ, 2013. – 267 с.). Адрасавана навукоўцам, студэнтам і ўсім, хто цікавіцца канфесійнай гісторыяй і культурай Беларусі.
Іл. 26, бібліягр.: 297 назв.

**УДК 27-725(476)**
**ББК 86.375(4Беи)-36**

**ISBN 978-985-582-258-6 (ч. 1)**
**ISBN 978-985-582-257-9**

## АБРЭВІЯТУРЫ І СКАРОТЫ

а. – айцец
АДПУ – аддзел дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення
Арк. – аркуш
БАНЛ – Бібліятэка Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх
БДАМЛіМ – Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва
БІГіК – Беларускі Інстытут гаспадаркі і культуры
БНА – Беларускае нацыянальнае аб'яднанне
БНР – Беларуская Народная Рэспубліка
БПК – Беларускі пасольскі клуб
БСРГ – Беларуская сялянска-работніцкая грамада
БСС – Беларускі сялянскі саюз
БХДЗ – Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць
БЦСНГА – Беларускі цэнтральны саюз нацыянальных грамадскіх арганізацый
В. – вопіс
ВМП – вышэйшая мера пакарання
В-наму – вяльможнаму
Выд-ва – выдавецтва
ДАГВ – Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці
ДГАЛ – Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы
Дэк. – дэканат
Кн. – кніга
КПЗБ – Камуністычная партыя Заходняй Беларусі
Кс. – ксёндз
ЛЦДА – Літоўскі цэнтральны дзяржаўны архіў
М. – мястэчка, места
МУС – Міністэрства ўнутраных спраў
НАРБ – Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь
НГАРБ – Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь у Гродна
Пав. – павет
С. – старонка
Св. п. – светлай памяці
Спр. – справа
ст. – стагоддзе
ТБШ – Таварыства беларускай школы
Ф. – фонд
ХДЗБ – Хрысціянска-дэмакратычная злучнасць беларусаў
ЦК – Цэнтральны камітэт
ЦНБНАНБ – Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі
Ч. – частка
Я. Э. – Яго Эксцэленцыя

...Суддзёй нам будзе гісторыя,
і мы ахвотна і смела
чакаем яе прысуду.

***I. Paparać***
*(ксёндз Адам Станкевіч)*

# УВОДЗІНЫ

***Манаграфія «***Беларускае каталіцкае духавенства ў сацыякультурным працэсе першай паловы XX стагоддзя» з'яўляецца лагічным працягам манаграфіі «Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі»[1], у якой, між іншым, у высновах было адзначана, што «...улічваючы шматлікія сацыякультурныя дэтэрмінанты і фактары, якія аказвалі істотныя ідэнтыфікацыйныя ўплывы на свядомасць і падсвядомасць каталіцкага духавенства, можна гаварыць пра прычыны і фактары фармавання ў першай чвэрці XX ст. свядомага ў нацыянальным выбары кантынгенту каталіцкага духавенства з арыентацыяй на беларускую рэлігійную, культурную і грамадска-палітычную дзейнасць. У больш шырокім сэнсе можна паставіць пытанне пра прысутнасць у культурным і грамадска-палітычным працэсе першай паловы XX ст. культуратворчага феномена беларускага каталіцкага духавенства, як аднаго з варыянтаў развіцця беларускай культурнай і грамадска-палітычнай думкі»[2].

Такім чынам, пра актуальнасць і важнасць тэмы даследавання беларускага каталіцкага духавенства шмат гаварылася ў папярэдняй манаграфіі, а тут толькі адзначым, што Рымска-Каталіцкая Царква і сёння з'яўляецца адной з найбольш актыўных інстытуцый маральнага і духоўнага ўдасканальвання грамадства, выхавання хрысціянскіх каштоўнасцей і агульнаеўрапейскіх нормаў суіснавання. Не менш важным з'яўляецца фактар рэлігійнага і культурнага патэнцыялу Рымска-Каталіцкага Касцёла ў свеце, у тым ліку і ў Рэспубліцы Беларусь; патэнцыял, з якім супрацоўнічаюць і ўзаемадзейнічаюць дзяржаўныя структуры і ўлады. Варта адзначыць і той факт, што дадзенае даследаванне праводзіцца ў межах актуалізацыі і вызначэння духоўнай, культурнай і гістарычнай ролі Рымска-Каталіцкай царквы на тэрыторыі Беларусі з пастаноўкай больш канкрэтнай мэты: даследаваць шматгранныя аспекты рэлігійнай, душпастырскай, грамадскай, культурнай і асветніцкай працы беларускага каталіцкага духавенства і вызначыць іх ролю і месца ў гісторыі беларускай культуры ў прыватнасці і ў гісторыі каталіцтва і хрысціянства ўвогуле.

Так, у папярэдняй манаграфіі «Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі» разглядаліся пытанні эвалюцыі і нацыянальнай ідэнтыфікацыі, вызначэнне сацыякультурных дэтэрмінан-

---

[1] Трацяк, І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі : манагр. / І. І. Трацяк. – Гродна : ГрДУ, 2013. – 267 с.
[2] Там жа. – С. 228.

таў і разнастайных фактараў уплыву на ўсведамленне беларускіх каталіцкіх святароў: біблейска-хрысціянскі фактар нацыянальных каштоўнасцей, фактар поліканфесійнасці і самасвядомасці народу, некаторыя аспекты канфесійнай і нацыянальнай палітыкі, асэнсаванне і разуменне патрэбы беларускай культурна-нацыянальнай дзейнасці як у пашырэнні рэлігійнай, так і нацыянальнай свядомасці народу. Прынамсі, аўтарам была прапанавана перыядызацыя нацыянальнага самавызначэння беларускага каталіцкага духавенства, а менавіта: 1) перыяд самавызначэння, альбо «шыпілаўская пара» (пач. XX ст. – 1910 г.), 2) перыяд культурна-асветніцкіх гурткоў (1909–1917 гг.), 3) арганізацыйны перыяд (1917–1921 гг.), 4) перыяд змагання (дзейнасць ва ўмовах польскай (1919–1939 гг.), савецкай (1919–1941 гг.), нямецкай (1941–1944 гг.) акупацый. Кожнаму перыяду характэрны свае грамадска-палітычныя і сацыякультурныя адметнасці, якія выклікалі шматлікія пытанні ў асэнсаванні нацыянальнай прыналежнасці, канфесійнай дзейнасці, палітычнага выбару. У згаданай манаграфіі больш падрабязна былі разгледжаны першыя два перыяды[3].

У дадзеным даследаванні гутарка пойдзе пра спосабы, формы і асноўныя кірункі арганізацыйнай, душпастырскай, культурнай, асветніцкай і рэлігійнай дзейнасці. Інакш: пра шматгранныя аспекты інкультурацыі – тэрмін, які найбольш поўна характарызуе дзейнасць духавенства ў соцыуме. А гэта не толькі штодзённая звычайная душпастырская праца, але і паўсюдная дзейнасць у пашырэнні хрысціянскай маралі, філасофіі, этыкі, а таксама і тэалагічныя, культуралагічныя і літаратурныя каштоўнасці творчай спадчыны беларускага каталіцкага духавенства (пераклады, тэалогія, гісторыя, публіцыстыка, мастацкая літаратура і крытыка).

Пры тым, важна ўлічваць асаблівасці сацыякультурнай і палітычнай сітуацыі адпаведна часу, спрыяльныя (неспрыяльныя) умовы станаўлення і працэсы інкультурацыі, што для беларускага каталіцкага духавенства на працягу першай паловы XX ст. заўсёды выклікала складанасці і цяжкасці праз забароны, ціск, абмежаванні і рэпрэсіі як збоку свецкіх уладаў, так і духоўных.

Такім чынам, дзейнасць беларускага каталіцкага духавенства з’яўляецца прадметам навуковага аналізу і даследуецца ў двух напрамках: духавенства, альбо канфесія і дзяржава (канфесійна-палітычны аспект) і інкультурацыя, альбо дзейнасць рэлігійная, культурная, нацыянальная (сацыякультурны аспект). Можна гаварыць асобна пра інкультурацыю – г. зн. вычляняць чыста рэлігійную, місійную дзейнасць духавенства ў плане духоўнага ўдасканальвання, але такі падыход не прэтэндуе на ўсебаковы аналіз дзейнасці. Інкультурацыя – панятак больш шырокі, ахоплівае іншыя культурныя сферы дзейнасці і творчасці духавенства з той розніцай, што галоўная і канчатковая мэта такой працы – уплываць на людскую свядомасць у плане вывучэння, асэнсавання, паглыблення хрысціянскай навукі і духоўнага ўдасканальвання.

[3] Трацяк, І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі : манагр. / І. І. Трацяк. – Гродна : ГрДУ, 2013. – 267 с.

Важна адзначыць адзін з найбольш істотных і адметных прынцыпаў дзейнасці беларускага каталіцкага святара ў соцыуме – гэта яго свядомае (несвядомае) праяўленне нацыянальнай пазіцыі. Кожны святар з кагорты каталіцкага духавенства рабіў вельмі важную і патрэбную справу нават і тады, калі ён толькі размаўляў са сваімі вернікамі на зразумелай для іх мове – на беларускай мове. Але і такія выпадкі не заўсёды знаходзілі водгукі ў грамадстве і месца на старонках тагачаснага друку (пра што, дарэчы, гутарка ішла ў папярэдняй кнізе). І зафіксаваць сёння ўсякую такую праяву святара вельмі складана, а то і немагчыма.

Аб'ектам даследавання з'яўляецца сацыякультурны працэс з вызначэннем такіх дамінантаў, як рэлігія, канфесіі і нацыянальныя аспекты ў жыцці соцыума. У якасці прадмета даследавання выступаюць эвалюцыйныя працэсы рэлігійнай і нацыянальнай свядомасці беларускага каталіцкага духавенства як формы душпастырства і змагання за духоўную, культурную і нацыянальную незалежнасць свайго народу. У першай частцы манаграфіі даследуецца душпастырская дзейнасць беларускага каталіцкага духавенства ў кантэксце польскай канфесійна-нацыянальнай палітыкі перыяду ІІ Рэчы Паспалітай (1918–1939 гг.).

Храналагічныя рамкі дадзенай працы ахопліваюць у асноўным канфесійна-нацыянальныя і культурныя працэсы першай паловы XX ст. Найбольшая актывізацыя дзейнасці беларускага каталіцкага духавенства прыпадае на наступныя перыяды: рэвалюцыйны перыяд (1917–1921 гг.); міжваенны перыяд (1921–1939 гг.). Працяг жа дадзенай тэмы прасочваецца ў перыяд Другой Сусветнай вайны (1939–1945 гг.) і пасляваенны перыяд (1945–1960 гг.).

Што датычыць геаграфічных межаў даследавання, адзначым, што гутарка пераважна будзе ісці пра дзейнасць святароў на этнічнай тэрыторыі Беларусі.

Метадалагічнай базай даследавання сталі адноўленыя за апошнія гады навуковыя погляды, падыходы і прынцыпы.

Навуковая навізна і значнасць атрыманых вынікаў працы грунтуецца на сістэматызаваным аналізе дзейнасці беларускага каталіцкага духавенства як з'явы неардынарнай, як своесаблівага культурнага феномену першай паловы XX ст. і адным з варыянтаў развіцця беларускай культуры ўвогуле. Змест манаграфіі абвяргае стэрэатыпы поглядаў, якія склаліся ў выніку тэндэнцыйнага асвятлення дзейнасці беларускага каталіцкага духавенства як дзейнасці антынароднай, рэакцыйнай і антыбеларускай.

Важна падкрэсліць, што часткова сістэматызаваны і прааналізаваны матэрыял па гісторыі беларускай канфесійнай і нацыянальнай культуры даследуемага перыяду набывае не толькі навукова-пазнавальную вартасць, але і рэкамендацыйны характар: змест і адпаведныя высновы могуць быць

улічаны органамі заканадаўчай і выканаўчай улады, прадстаўнікамі іерархій розных канфесій, палітычнымі партыямі і грамадскімі рухамі пры распрацоўцы, карэкціроўцы і прыняцці заканадаўства аб рэлігійных арганізацыях і нацыянальнай палітыкі і культуры, пры фармаванні палітыкі ўзаемаразумення і ўзаемаадносін між уладай, канфесіямі і вернікамі розных веравызнанняў. Некаторыя аспекты практычнай значнасці даследавання сутнасці беларускага каталіцкага духавенства ў сацыякультурным працэсе адзначаліся ў папярэдняй манаграфіі[4].

Манаграфія можа быць асновай для далейшых даследаванняў жыцця і дзейнасці персаналіяў (ксяндзоў А. Станкевіча, К. Стаповіча, В. Гадлеўскага, А. Цікоты, У. Талочкі, В. Шутовіча, Ф. Абрантовіча, С. Глякоўскага, Б. Пачобкі, І. Бобіча, Я. Белагаловага, Я. Тарасевіча і інш.), а таксама для больш спецыфічных навуковых кірункаў у галіне філасофіі, тэалогіі, гісторыі, культуры і літаратуры, канфесійнай гісторыі ў ВНУ, школах і іншых навучальных установах.

Фактычны матэрыял можа быць выкарыстаны пры чытанні курсаў лекцый і спецкурсаў па нацыянальнай культуры, пры навукова-даследчай і лекцыйна-асветніцкай працы, а таксама пры распрацоўцы адпаведных навучальна-метадычных дапаможнікаў і падручнікаў.

У структурным плане першая частка манаграфіі складаецца з уводзінаў, двух раздзелаў, кароткіх высноваў, дадаткаў і імяннога паказальніка.

### Пытанні гістарыяграфіі.

У дадзенай кнізе не ставіцца пытанне шырокага агляду і аналізу літаратуры і крыніц па тэме даследавання. Такая работа часткова была зроблена ў папярэдняй манаграфіі, у якой з большага акцэнт рабіўся на літаратуры і крыніцах даведачнага, інфармацыйнага і абагульняючага характару. Няма сэнсу разглядаць і аналізаваць архіўныя крыніцы – у дадзенай манаграфіі яны паўтараюцца толькі што з той розніцай, што акцэнт робіцца на дакументах, якія маюць непасрэднае дачыненне да дзейнасці і творчасці беларускіх каталіцкіх святароў.

Зварот да пытанняў гістарыяграфіі ў дадзены момант выкліканы патрэбай азнаямлення з літаратурай, у якой у той ці іншай ступені разглядаецца дзейнасць беларускага каталіцкага духавенства, падводзяцца высновы і даюцца канцэптуальныя ацэначныя крытэрыі такой дзейнасці. Так, да прыкладу, няма вялікай патрэбы праводзіць глыбокі аналіз савецкай гістарыяграфіі, у якой дзейнасць беларускага каталіцкага клеру разглядалася як дзейнасць рэакцыйная, клерыкальная і варожая савецкай уладзе і народу. Больш аб'ектыўна сталі гаварыць пра тыя ці іншыя аспекты дзей-

[4] Трацяк І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі… – С. 6.

насці беларускіх святароў у 1990-я гады[5]. А напачатку XXI ст. з'явіліся першыя сур'ёзныя аналітычныя даследаванні. Так, у якасці прыкладу такога крытэрыя літаратуры ў манаграфіі «Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі» аналізаваліся даследаванні М. Мароз[6] і У. Конана[7]. У згаданых кнігах гутарка ішла пра свядомасць, арганізацыю і фармаванне беларускага каталіцкага духавенства, фармаванне ідэалогіі Беларускай хрысціянскай дэмакратыі і багатую панараму сацыякультурнага працэсу. Былі зробленыя некаторыя заўвагі да аўтарскіх высноваў, якія падаліся аднабаковымі, няпоўнымі і недакладнымі.

Так, было заўважана, што ў манаграфіі М. Мароз «Крыніца»: ідэалогія і правадыры беларускага каталіцтва» гутарка ідзе пра ўсё разам: пра этнаканфесійную і палітычную сітуацыю і праблемы беларускага нацыянальнага адраджэння ўвогуле, пра адносіны польскіх свецкіх і рэлігійных уладаў і канкрэтных асобаў да беларускіх праблемаў у Заходняй Беларусі, пра шматгранную дзейнасць беларусаў католікаў і, у прыватнасці, палітычную і культурную дзейнасць БХД і яе арганізацыйных структураў. Можна зразумець жаданне аўтара паказаць ідэалогію беларускага каталіцтва ў палітычным, канфесійным і нацыянальным кантэкстах вельмі складанага перыяду станаўлення і рэалізацыі беларускай нацыянальнай ідэі – усё гэта добра, але сутнасць і ідэалогія беларускага каталіцтва, прынамсі, той групы беларусаў, якія згуртаваліся вакол «Крыніцы» і кс. А. Станкевіча, засталіся размытымі, неканкрэтызаванымі, на ўзроўні іх супрацíву палітыцы паланізацыі і барацьбы супраць дэнацыяналізацыі, што не вычэрпвае ўсю сутнасць ідэалогіі беларускага каталіцтва[8].

[5] Грыгор'ева, В. Каталіцкае духавенства ля вытокаў беларускага адраджэння / В. Грыгор'ева // Беларусіка : зб. арт. па матэрыялах Міжнар. навук. канф. «Фармаванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў», Маладзечна, 19–20 жніўня, 1992 г. / пад рэд. А. Анціпенка. – Мінск, 1992. – Кн. 2. – С. 293–297; Грыгор'ева, В. Праблемы каталіцкай царквы на Беларусі ў другой палове XIX–пач. XX ст. у творах Адама Станкевіча / В. Грыгор'ева // Кніга, бібліятэчная справа і бібліяграфія Беларусі. – Мінск, 1993. – С. 102–109; Сідарэвіч, А. Ксёндз Адам Станкевіч і яго справа / А. Сідарэвіч // Chryścijanskaja Dumka. – 1992. – № 2(211); Трацяк, Янка. Роля беларускіх святароў у адраджэнні роднай мовы / Янка Трацяк // Гарадзенскія запісы: старонкі гісторыі і культуры / гал. рэд. П. Сцяцко. – Гародня, 1993. – Вып. 1. – С. 66–71; Трацяк, Янка. «Палетку нашага араты...» / Янка Трацяк // Гарадзенскія запісы: старонкі гісторыі і культуры / гал. рэд. П. Сцяцко. – Гародня, 1993. – Вып. 1. – С. 115–119; Трацяк, Янка. Беларускія святары Гарадзеншчыны / Янка Трацяк // Наш радавод : матэрыялы Міжнар. гісторыка-краязнаўчых чытанняў, Ліда, 24–26 ліпеня, 1993 г. – Ліда, 1994. – Кн. 6. – С. 106–115; Багдановіч, Ірына. Ідэя нацыянальнага адраджэння ў паэтычнай і рэлігійна-філасофскай творчасці К. Сваяка / Ірына Багдановіч // Лёс нацыянальнай культуры на паваротах гісторыі : зб. дакладаў / рэд. М. Трусаў. – Мінск, 1995. – С. 63–74; Канфесіі на Беларусі (к. XVIII–XX ст.): В. В. Грыгор'ева, У. М. Завальнюк, У. І. Навіцкі, А. М. Філатава / пад рэд. У. І. Навіцкага. – Мінск : В. П. «Эксперктыва», 1998. – 340 с.

[6] Moroz, Małgorzata. «Krynica»: Ideołogia i przywodcy białoruskiego katolicyzmu / Małgorzata Moroz. – Białystok, 2001. – 230 s.

[7] Конан, У. Ксёндз Адам Станкевіч і каталіцкае адраджэнне ў Беларусі / У. Конан. – Мінск : Выд-ва «Про Хрысто», 2003. – 128 с.

[8] Трацяк І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі… – С. 23.

Не дакладным падалося выказванне У. Конана наконт нацыянальнай і культурна-грамадскай дзейнасці кс. Адама Станкевіча як дзейнасці ў рэчышчы беларускага каталіцкага адраджэння. Той час беларускага адраджэння, у якім жыў і працаваў кс. Адам Станкевіч, не варта падзяляць паводле канфесійнай прыналежнасці. З сутнасці, не існавала беларускага каталіцкага, альбо праваслаўнага, альбо пратэстанцкага адраджэння. Адраджэнне было адным, як адзіны арганізм: патрыятычная частка беларусаў, як праваслаўных, так і католікаў і пратэстантаў, – усе рабілі адну справу і імкнуліся да адной мэты[9]. Для самога кс. Адама Станкевіча больш важным быў хрысціянскі падыход, а не вузка канфесійна-каталіцкі, пра што яскрава сведчыць яго творчая спадчына.

Раскрываючы той ці іншы аспект дзейнасці беларускіх каталіцкіх святароў, вельмі важна даць аб'ектыўную ацэнку, якая павінна зыходзіць з асэнсавання тагачаснай сацыякультурнай сітуацыі, з разумення матывацый і патрэбаў такой дзейнасці, з абгрунтавання вытокаў і высноваў дзейнасці і, нават, індывідуальных характарыстык той ці іншай асобы.

Некаторым даследчыкам і сёння ўласціва нейкае навязлівае жаданне паказаць кс. Адама Станкевіча не столькі рэлігійна-хрысціянскім, ці культурна-нацыянальным дзеячам, колькі дзеячам выключна палітычным, ці грамадска-палітычным. А такога паказу карысці святару не будзе.

Калі гутарка ідзе пра палітыку і палітычную дзейнасць, трэба абавязкова ўлічваць формы і змест такой дзейнасці, бо гэта кранае канцэптуальныя пытанні асобы святара. Так, пасольская дзейнасць кс. Адама Станкевіча – гэта палітычная форма дзейнасці, але насычана яна была не столькі палітычным, колькі сацыякультурным зместам. Увесь пафас прамоваў кс. Адама Станкевіча – гэта абарона правоў і патрэбаў беларусаў у ІІ Рэчы Паспалітай: беларуская мова ў святынях і ў школе, беларуская адукацыя і асвета, грамадская апека і дзіцячыя прытулкі, эканамічныя і гаспадарчыя патрэбы – усё, што звычайна адносіцца да сацыякультурных праблемаў, але толькі не да палітычных. Тут не трэба блытаць дзве простыя рэчы: грамадска-палітычныя погляды, пазіцыю Адама Станкевіча (на што мае права кожны чалавек, у тым ліку і святар), і грамадскую, сацыякультурную дзейнасць святара і беларускага патрыёта. Рабіць з кс. Адама Станкевіча клерыкала не варта хаця бы таму, што гэта не з'яўляецца навуковай навізной – польскія канфесійныя і свецкія ўлады стараліся яго ўлічыць у замешанасці з палітыкай; з вялікім поспехам пра яго, як пра лідара «буржуазнага нацыяналістычнага клерыкалізму» гаварылі савецкія ідэолагі, і працягваць такую традыцыю сёння было б памылковым. Зразумела, што правесці мяжу вельмі і вельмі не проста, але тут трэба зыходзіць з таго, што было галоўным і дамінуючым у дзейнасці і творчасці асобы. Урэшце, абавязкова трэба рабіць спасылку на тое, што функцыянальнае значэнне панятку «палітыка» ў яго разуменні ў 1920–1930-я гады, – калі да палі-

[9] Трацяк І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі… – С. 19.

тыкі адносілі ўсякае беларускае слова святара, – істотна адрозніваецца ад сучаснага панятку тэрміна. Аналізуючы дзейнасць і творчасць кс. Адама Станкевіча, не трэба забывацца пра тое, што маем справу, у першую чаргу, з беларускім каталіцкім святаром; ад гэтага сану кс. Адам не адмовіўся і не прамяняў яго нават у абмен на жыццё – маецца на ўвазе прапанова савецкага ўраду ўзначаліць асобную ад Ватыкану беларускую епархію. І маем справу з вялікім беларускім рэлігійным і культурным дзеячам.

Фундаментальнай крыніцай даследавання дадзенай тэматыкі з'яўляецца сама творчая спадчына беларускага каталіцкага духавенства. Найбольш поўна і аб'ектыўна пра дзейнасць сваіх калегаў па сану і пра іх творчыя пошукі пісалі самі беларускія святары.

У гэтым плане неперасўзыдзеным узорам была і застаецца творчая спадчына кс. Адама Станкевіча, якая сёння ўяўляе сабой істотную крыніцу даследавання дзейнай і творчай спадчыны беларускага духавенства ўвогуле. Тэарэтычныя аспекты праблемы, гісторыю беларускасці ў святынях і ўвогуле ў хрысціянскім жыцці краю кс. Адам Станкевіч падаў у кнізе «Родная мова ў сьвятынях»[10], якая ўяўляе сабой не проста збор інфармацыі пра беларускамоўныя набажэнствы і казанні ў каталіцкіх храмах, а дакумент, які пераканаўча сцвярджае такія пачынанні і дзеянні і дае маральнае права для іх правядзення. У кнізе «Беларускі хрысьціянскі рух»[11] кс. Адам Станкевіч раскрывае гісторыю фармавання, сутнасць і асноўныя прынцыпы беларускай хрысціянскай дэмакратыі, той ідэалогіі, паводле якой, на яго думку, беларускі народ змог бы атрымаць трывалы фундамент для свайго духоўнага, эканамічнага і дзяржаўнага развіцця.

Творчая спадчына кс. Адама Станкевіча, а гэта 19 кніг і каля двух тысяч артыкулаў, прадмоваў і рэцэнзій, дае найбольш цэласнае і поўнае ўяўленне пра этнаканфесійную і сацыякультурную сітуацыю ў краі, творчую спадчыну беларускіх каталіцкіх святароў, ставіць праблемы беларускага каталіцкага духавенства, беларусізацыі касцёла, пытанні рэлігійнай і нацыянальнай свядомасці народу ў эпіцэнтр сацыякультурнага працэсу[12].

Годнымі паслядоўнікамі кс. А. Станкевіча ў даследаваннях тэматыкі беларускага духавенства можна лічыць такіх аўтараў, як святары Язэп Германовіч, Леў Гарошка, Пётр Татарыновіч, Часлаў Сіповіч, Аляксандр Надсан.

Так, даследаванні з гісторыі хрысціянства на Беларусі, дзейнасці беларускага каталіцкага і ўніяцкага святарства, яго барацьбе супраць паланізацыі і русіфікацыі ў абароне сваёй веры, культуры і нацыянальнага права, якія вартыя самай высокай ацэнкі, правёў а. Леў Гарошка. Яго кнігі і артыкулы – гэта пашыраная, паглыбленая, дапоўненая рэдкімі архіўнымі

[10] Stankiewicz, Ad. Rodnaja mowa u światyniach / Ad. Stankiewicz. – Wilnia : Adbitka z «Chryścijanskaj Dumki», 1929. – 190 s.

[11] Stankiewicz, Ad. Biełaruski chryścijanski ruch : histaryčny narys / Ad. Stankiewicz. – Vilnia : Chryscijanskaja Dumka, 1939. – 272 s.

[12] Найбольш поўна творчая спадчына кс. Адама Станкевіча пададзена ў выданнях : Станкевіч А. Выбранае / А. Станкевіч ; уклад., прадм. і камент. У. Конана. – Мінск : Кнігазбор, 2008, 360 с.; А. Станкевіч. З Богам да Беларусі / уклад., навук. рэд., камент., прадм.: А. Пашкевіч, А. Вашкевіч. – Вільня : Інстытут беларусістыкі, 2008. – 1097 с.

матэрыяламі, уласным досведам і ведамі распрацоўкі праблемаў, якія ў свой час паставіў кс. Адам Станкевіч[13].

У плане папулярызацыі жыцця і дзейнасці сваіх калегаў, святароў-беларусаў варта згадаць шматлікія артыкулы а. Язэпа Германовіча[14], кс. Пятра Татарыновіча[15], грунтоўныя разважванні а. Часлава Сіповіча[16], успаміны а. Тамаша Падзявы[17], якія прысвечаныя дзейнасці беларускіх айцоў марыянаў у Друі і ў Харбіне. Аб'ектыўная інфармацыя пра дзейнасць камісіі «Про Руссікум», магчымасці правядзення неауніі ў Заходняй Беларусі і руплівасці беларускіх каталіцкіх святароў у гэтым кірунку пададзены ў працах а. Аляксандра Надсана[18]. Праўда, некаторыя ацэначныя заўвагі а. А. Надсана могуць быць дыскусійнымі, маем на ўвазе сцвярджэнне а. А. Надсана аб нязначнай ролі Друйскага кляштару аа. марыянаў у беларускім нацыянальным руху[19].

Характэрнай асаблівасцю даследаванняў жыцця і дзейнасці беларускага каталіцкага духавенства ў працах і артыкулах святароў Л. Гарошкі, Я. Германовіча, Ч. Сіповіча, П. Татарыновіча, А. Надсана (сюды можна аднесці і даследаванні кс. А. Станкевіча) з'яўляецца апалагетычны метад: сцвярджэнне пазітыўнай ролі ў жыцці грамадства хрысціянскай ідэі і абарона духоўных каштоўнасцей і правоў свайго народу. Дарэчы, такі апалагетычны метад характарызуе ўсю творчую спадчыну беларускага каталіцкага духавенства, а гэта каля сотні асобных выданняў, дзесяткі тысяч розных публікацый: артыкулаў, даследаванняў, рэцэнзій, перакладаў, твораў мастацкай літаратуры. Больш падрабязна пра гэта будзе ісці гутарка ў другой частцы манаграфіі.

[13] Гарошка, Леў. Пад знакам «рускай» і «польскай» веры / Леў Гарошка // Божым шляхам. – 1954–1955. – № 60–64/65; Беларускія святары і рэлігійныя дзеячы Беларусі // Запісы («ZAPISY» 1999 by the Belarusan Institute of Arts and Sciences in the U.S.). – 1999. – № 24; Айцец Уладзіслаў Талочка // Божым шляхам. – 1955. – № 66–67. – С. 14–17; Айцец Адам Станкевіч // Божым шляхам. – 1955 – № 68–69. – С. 16–20; Айцец Антон Неманцэвіч // Божым шляхам. – 1956. – № 70–75. – С. 49–54.

[14] Германовіч, Яз. Успаміны аб Андрэю Цікоце / Яз. Германовіч // Божым шляхам. – 1969 – № 82. – С. 4–6; Мае прыяцелі – Вацлаў Аношка // Божым шляхам. – 1966. – № 95. – С. 10–11; Андрэй Цікота // Chryścijanskaja Dumka. – 1993. – № 1 (213). – С. 34–40.

[15] Znič. Na mahilu s.p. ajcu prafesaru Jazepu-Atamazu Reścheciu, OSB // Znič. – 1958. – № 44. – S. 3–5.

[16] Сіповіч, Часлаў. Айцец Архімандрыт Фабіян Абрантовіч / Часлаў Сіповіч // Божым шляхам. – 1957. – № 76–81. – С. 9–20; Sipowicz, Czeslaw. Domy bieloruskie w Druj, Wilnie i Londynie / Czeslaw Sipowicz // Marianie (1673–1973) / pod red. J. Bukowicza MIC i T. Górskiego MIC. – Rzym, 1975. – S. 232–243.

[17] Tomasz Podziawa, Ks, MIC. Wspomnienia / do druku przygotowal ks. Ian Bukowicz MIC. – Puszcza Marianska, 2001. – 227 s.

[18] Надсан, А. Друя і Грэка-Каталіцкая Царква на Беларусі, 1924–1938 / А. Надсан. – Лёндан : Божым шляхам, 2001. – 64 с.; Pro patria aliena. Кляштар беларускіх айцоў марыянаў у Друі (1924–1938). – Менск, 2006. – 160 с.; Магдалена Радзівіл і Грэка-Каталіцкая Царква ў Беларусі. – Лёндан : Божым шляхам, 2004; Біскуп Чэслаў Сіповіч: сьвятар і беларус. – Мінск : Бел-Франс, 2004. – 300 с.

[19] Надсан, А. Друя і Грэка-Каталіцкая Царква на Беларусі, 1924–1938 / А. Надсан. – Лёндан : Божым шляхам, 2001. – 64 с.

РАЗДЗЕЛ 1
# БЕЛАРУСКАЕ КАТАЛІЦКАЕ ДУХАВЕНСТВА Ў ПЕРАЛОМНЫЯ МОМАНТЫ (1914–1921 гг.)

## 1.1. ПРАВАВЫЯ АСНОВЫ АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКАГА КАТАЛІЦКАГА ДУШПАСТЫРСТВА

Пасля ганенняў на рымска-каталіцкае духавенства ў другой палове XIX ст. рэлігійнае жыццё католікаў у Расійскай Імперыі было ў поўным заняпадзе. Пачатак XX ст. асабліва пасля вядомага ўказу аб верацярпімасці 1905 г., быў азнаменаваны своеасаблівым адраджэннем ў рымска-каталіцкім жыцці, што вымагала ад духавенства максімум энергіі, руплівасці, здольнасцей і ахвярнасці. Шмат у гэтым кірунку было зроблена і тымі беларускімі святарамі, якія, адраджаючы касцёл, працавалі і на карысць адраджэння польскасці, і якія гаварылі з людзьмі «па-просту», і якія тлумачылі Святое Пісьмо на зразумелай ім мове, і якія стаялі ў вытоках беларусізацыі рэлігійнага жыцця пачатку XX ст.[20].

У дадзеным параграфе акцэнт ставіцца на фармаванні анталагічна-прававых аспектаў арганізацыі душпастырства як з'явы, якая ў сябе сінтэзавала апостальскія патрабаванні, выкананне рэлігійна-кананічных функцый і патрэбы культуратворчай сутнасці існавання нацыі ў кантэксце Божага промыслу. Апошні фактар фармаваў сутнасць беларускага каталіцкага душпастырства згодна прынцыпам: «Богу і Айчыне», альбо «Царкве і Бацькаўшчыне на карысць». У гэтым кантэксце можна адзначыць два аспекты дзейнасці духавенства: душпастырства і інкультурацыя.

Шматгранная сутнасць апостальскай працы раскрыта ў словах Ісуса Хрыста: «Дык ідзіце ж і навучайце ўсе народы, хрысьцячы іх у імя Айца і Сына і Святога Духа» (Мацьв. 28.19). Успрымаліся гэтыя словы як запавет, выкананнем якога была штодзённая руплівая праца святара, а гэта: 1) *душпастырства* – правядзенне набажэнстваў, казанняў, адпаведных рэлігійных святаў, рытуалаў і абрадаў, катэхізацыя; 2) дабрачыннасць, арганізацыя прытулкаў, харытатыўная дзейнасць; 3) шырокая культурна-асветніцкая праца з парафіянамі ў кірунку абуджэння рэлігійнай (хрысціянскай, каталіцкай), маральнай і нацыянальнай свядомасці народу; арганізацыя розных рэлігійных (Каталіцкая Акцыя, Каталіцкая Ліга) і культурных імпрэзаў і гурткоў (драматычныя, літаратурныя, спеваў і музыкі), друкарская і выдавецкая дзейнасць – усё, што магло заняць дарослых і моладзь у разуменні сутнасці Божых ісцін і прыхіліць бліжэй да веры.

Важным фактарам *душпастырскай* дзейнасці святароў была праца з дзяцьмі: катэхізацыя, арганізацыя і візітацыя школак, навучанне дзяцей

[20] Трацяк, І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі : манагр. / І. І. Трацяк. – Гродна : ГрДУ, 2013. – 267 с.

рэлігіі і выкладанне Закону Божага, рэкалекцыі і падрыхтоўка да першай споведзі, арганізацыя і ўтрыманне дзіцячых прытулкаў і іншае. Праца гэта патрабавала не менш часу і намаганняў чым з дарослымі і выцякала яна з адносінаў Ісуса Хрыста да дзяцей: «Пусьціце дзяцей, не забараняйце ім прыходзіць да Мяне, бо такім належыць Царства Нябеснае» (Мацьв. 18: 1–5; 19: 13–15; Марк. 9: 36, 37) і словы гэтыя святарамі ўспрымаліся як прамы абавязак давесці дзецям першаснае ўяўленне пра хрысціянскую веру.

Глыбокае разуменне Святога Пісьма і хрысціянскай філасофіі фармавала асноўныя прынцыпы душпастырскай дзейнасці. Як такую дзейнасць, да прыкладу, характарызаваў а. Фабіян Абрантовіч: «Што такое апостальскі місійны дух? Руплівасьць у пашырэньні Божага Валадарства. Абавязак кожнага, тым больш законьніка да апостальскае місійнае працы вынікае: а) з прыказаньня любові Бога і бліжняга; б) з прыкладу Хрыста. Кожны хрысьціянін – паводля сьв. Васілія – ёсьць другім Хрыстом; в) кожны ахрышчаны і мірапамазаны ёсьць апосталам і рыцарам Хрыста, як кажа Тэртуліян; г) у Старым Запавеце аб'яўлена: «І даў прыказ ім кожнаму адносна свайго бліжняга» (Эклез. XVII, 12) – гэта датычыць збаўленьня душы бліжняга; д) Царква апошнім часам вымагае, каб кожны вернік прымаў удзел у ерархічна зарганізаванай працы Царквы для пашырэньня валадарства Хрыста (Каталіцкая акцыя)... А дзе сутнасьць апостальска-місійнага духу кожнага законьніка (тым самым і кожнага Марыяніна)? 1. У шуканьні на першым мейсцы Божага валадарства (вера, пабожнасьць). 2. У захоўваньні законнае дысцыпліны. 3. У хрысьціянскай мудрасьці (веда і разважнасьць). Усё гэта выказана добра ў Марыянскіх канстытуцыях. Да 1-га: «Шукайце перш Божага Валадарства і Яго справядлівасьці, а ўсё іншае будзе вам дададзена»... «Шукайце» – трэба заўважыць, што Ісус ня ўжыў іншага слова, прыкладам «пажадайце, старайцеся зразумець» ці пад., але шукайце, гэта значыць, накіроўвайце вашыя крокі, ідзеце ў дарогу, будзьце заўсёды дзейнымі, старайцеся, змагайцеся, так жа ўжывайце вашых сілаў і здольнасьцяў, будзьце гвалтоўнікамі, бо Валадарства Божае церпіць гвалт і гвалтоўнікі яго вырываюць; Божага Валадарства трэба патрабаваць, трэба браць яго з боем»[21].

Важным момантам душпастырскай працы беларускіх каталіцкіх святароў быў абавязак выканання апостальскага патрабавання данесці слова Божае да парафіян у зразумелай ім форме. Звычайна такой формай з'яўляецца мова, якой карыстаюцца ў штодзённасці большасць вернікаў. Праблема мовы ўзнікала і пры працы з дзяцьмі, бо дзеці іншай мовы, апрача той, на якой размаўлялі дома, не ведалі. У беларускамоўных парафіях, вынікаючы з прыроднага права народу на сваю мову, не павінны былі

[21] З выступу а. Ф. Абрантовіча на тэму «Аб місійным апостальскім духу» на канферэнцыі ў рымскім доме Айцоў Марыянаў у 1939 г. – Цыт. пав.: А. Сіповіч, Часлаў. Айцец Архімандрыт Фабіян Абрантовіч / Часлаў Сіповіч // Божым Шляхам. – 1957. – № 76–81. – С. 18.

ўзнікаць праблемы. Але ў той сацыякультурнай сітуацыі праблема беларускай мовы ў касцельным жыцці набывала важны рэлігійны і грамадска-палітычны сэнс у кантэксце беларускага пытання ўвогуле і была цэнтральнай і асноўнай праблемай, якая павінна была шляхам зразумелага тлумачэння Святога Пісьма зацікавіць вернікаў (у тым ліку і праваслаўных) і павысіць іх узровень рэлігійнасці; з другога боку, праблема беларускай мовы абмяжоўвала паланізацыю і развязвала пытанні беларусізацыі рымска-каталіцкай царквы. Пад такой беларусізацыяй трэба разумець цэлы комплекс мерапрыемстваў: ад беларускамоўнага навучання дзяцей-католікаў да функцыянавання самастойнай беларускай рымска-каталіцкай царкоўнай іерархіі.

У дадзеным параграфе, для поўнага ўяўлення складанасці і важнасці праблемы, пераемнасці і трансфармацыі канфесійных, нацыянальна-культурных і дзяржаўна-палітычных працэсаў, мы вымушаны яшчэ раз звярнуць увагу на некаторыя асаблівасці беларускамоўных працэсаў у парафіі і практычную рэалізацыю права беларускай мовы ў касцельным жыцці.

Пазіцыя Ватыкана ў пытаннях адносна беларускіх дамаганняў у касцёле звычайна аргументуецца нешматлікай карэспандэнцыяй рэкамендацыйнага характару, а значыць, не абавязковай для выканання падуладным духавенствам[22]. Апошняе слова ў пытаннях ужывання той ці іншай мовы Ватыканам было дадзена на разгляд мясцовым касцельным уладам, якія былі болей асвядомленымі ў патрэбах ужывання іншых моваў. Тут можна дыскутаваць пра пазіцыю Ватыкана ў гэтым пытанні, але адзначым, што там добра разумелі функцыянальную розніцу ў грамадстве польскай і беларускай моваў і ў выбары між імі, свядома аддавалі перавагу польскай мове. Вось чаму ўжыванне беларускай мовы ў касцёле было праяўленнем ледзь не асабістай волі таго ці іншага біскупа, нягледзячы на тое, што яны адштурхоўваліся і спасылаліся на вышэйзгаданыя ватыканскія рэкамендацыі.

Так, перад сустрэчай з генерал-губернатарам А. А. Фрэзэ[23] ў чэрвені 1905 г. Віленскі біскуп Эдвард Роп нагадаў духавенству дыяцэзіі пра праб-

---

[22] Так, згадваецца ліст Магілёўскага архібіскупа Францішка Альбіна Сімана Папу Рымскаму ад 2 верасня 1896 г. з нагоды ўводу беларускай мовы ў духоўныя семінарыі і набажэнствы і рэзалюцыя кардынала Рамполла (лат.). Нагадаем, што, калі барацьба царызму з польскай мовай у касцёле завастрылася, то Магілёўскі архібіскуп Францыск Альбін Сімон прапанаваў ураду замест расейскай мовы ўвесці беларускую. Архібіскуп Магілёўскай архідыяцэзіі рэкамендаваў праводзіць на беларускай мове дадатковыя набажэнствы ў мясцовасцях з беларускім насельніцтвам. Адпаведны дазвол быў дадзены кардыналам Рамполі ў лісце ад 8 мая 1897 г. з правам ужываць беларускую мову там, дзе ёй карыстаецца народ. І гэтая ідэя часткова была падхоплена царскімі чыноўнікамі з той толькі што розніцай і дадаткам, што для беларускага насельніцтва можа быць роднай мовай і расейская. Чарговыя пастановы аб ужытку роднай мовы ў дадатковых набажэнствах былі выдадзены кардыналам Меры дель Валь ад 13.10.1906 г. і 29.06.1907 г.

[23] Нагадаем, што віленскі генерал-губернатар А. Фрэзэ прапанаваў у 1905 г. увесці беларускую мову з мэтай дэпаланізацыі (з адпаведным запытаннем, наколькі беларуская мова можа адпавядаць жаданням насельніцтва). Пра гэта больш падрабязна гл.: Смолянчук, А. Ф. Проблема белорусского языка в католическом богослужении в Минской и Виленской диоцезиях во второй половине XIX – начале XX века / А. Ф. Смолянчук // Lietuvių katalikų mokslo Akademijos. Metraštis XXVI. – Vilnius : Katalikų mokslo Akademijos, 2005. – С. 423.

лемы мовы і беларускія інтарэсы: «Беларуская мова павінна на самой справе, а не толькі на словах атрымаць прызнанне. Яна мае права на існаванне і развіццё, а таму павінна вывучацца нароўні з велікарускай мовай у народных школах. Беларуская літаратура не павінна мець перашкод для свайго развіцця, як рускімі, так і лацінскімі літарамі. <...> Не жадаючы быць паланізатарам беларускага народу (гэта не павінна быць задачай рэлігіі), пры тлумачэнні дзецям ісцін веры трэба выкарыстоўваць мову, на якой яны гавораць у сваёй хаце, г. зн. – беларускую. Духавенству трэба прыняць удзел у стварэнні агульнай, па магчымасці ўсім зразумелай літаратурнай беларускай мовы». У тым жа 1905 г. 22 жніўня біскуп Роп выдаў за № 4339 цыркуляр, у якім гаварылася: «…для дзяцей, якія ўжываюць беларускай мовы, у пачатковых школах дапускаецца ў меры патрэбы тлумачэньне прадмету па-беларуску»[24]. Цыркуляр гэты ўдала быў скарыстаны ў часы Першай імперыялістычнай вайны Камітэтам Беларускага Таварыства помачы пацярпелым ад вайны пры адкрыцці беларускіх школ. У цыркуляры Віленскага біскупа Казіміра Міхалькевіча ад 17.08.1913 г. за № 3364 ідзе гутарка пра тое, што «…каталіцкі вучыцель рэлігіі ў справе навучаньня праўд Сьвятой Веры павінен быць далёк ад усялякіх палітычных камбінацый і мець на мэці адно духоўную патрэбу і карысьць верных, ды ніколі не дапускаць, каб супроць волі і ахвоты верных ім навязвалі язык, якога яны не разумеюць у патрэбнай меры і якога ня хочуць»[25].

Афіцыйны погляд рымска-каталіцкага духавенства на гэтыя праблемы быў выкладзены ў пастанове з’езду духавенства Віленскага біскупства ад 18–19 лютага 1909 г., у якім між іншым адзначалася, што права нацыянальных меншасцей у касцёле часта ігнаруюцца супроць волі і жаданняў вернікаў і яны не чуюць Слова Божае на сваёй прыроднай мове – ім навязваюць мову большасці, якую яны не разумеюць і не хочуць, што прыводзіць да незадаволенасці, абурэння, нянавісці і іншых спакушальных сцэн у касцёле[26]. З’езд праводзіўся пад рэнегатствам біскупа К. Міхалькевіча. Той факт, што праз два гады, 25 красавіка 1911 г., біскуп у сваім пастарскім звароце да духавенства дыяцэзіі вымушаны быў зноўку акрэсліць праблемы пастырства і мовы гаворыць толькі пра абвастрэння сітуацыі вакол гэтых пытанняў. Між іншым, біскуп катэгарычна заявіў пра недапушчальнасць святарамі іншай, не душпастырскай працы ў парафіях: «... хаця культурная, асветніцкая і грамадская дзейнасць каталіцкага пастыра ўва ўсіх дазволеных і законных кірунках вельмі пажадана, але святар павінен трымацца ў баку ад выкарыстання касцёла ў якасці арэны

[24] Stankiewiecz, Ad. Rodnaja mowa u światyniach / Ad. Stankiewiecz. – Wilnia : Adbitka z «Chryścijanskaj Dumki», 1929. – S. 97.

[25] Святаполк-Мірскі, В. Віленская дыяцэзія й выклад рэлігіі ў школах па-беларуску / В. Святаполк-Мірскі // Гоман. – 1917. – № 101. – 18 сьнежня. – С. 2.

[26] НГАРБ у Гродна. – Ф. 490 (Киватичский р-к. костёл Пружанского р-на). – В. 1. – Спр. 14 (Распоряжение, предписание Виленской р-к консистории и др.). – Арк. 82.

якой бы не было, нават вельмі пажаданай і дазволенай дзейнасці, якая не мае нічога агульнага з пастырствам; касцёл і пастырства раз і назаўсёды павінны быць ізаляваны ад палітычных, нацыянальных і асабістых мэтаў. Каталіцкі пастыр пры выкананні сваіх абавязкаў павінен быць толькі пастырам каталіцкім, не польскім, літоўскім, ці яшчэ якім-небудзь іншым; ён павінен кіравацца прынцыпам: «Не народ для пастыра, а пастыр для народу»[27]. Біскуп яшчэ раз пацвердзіў патрэбы правядзення ў змешаных парафіях казанняў, навучанне малітвам і катэхізацыю на дзвюх мовах.

З моўнымі праблемамі сутыкаліся не толькі біскупы, але і пробашчы ў парафіях, прэфекты ў школах і гімназіях, перакладчыкі рэлігійнай літаратуры, рэдактары і выдаўцы беларускага рэлігійнага друку. З моўнай праблемай сутыкаліся і самі вернікі. Большасць парафіян пасля 1905 г. прытрымліваліся афіцыйных установак наконт мовы набажэнстваў альбо ў навучанні дзяцей рэлігіі. З ліста вернікаў прыходу ў Семятычах у Віленскае біскупства вынікала, што яны хацелі б, каб дзяцей вучылі рэлігіі на зразумелай мове – рускай, бо польскай яны не разумеюць[28] (ліст ад 1905 г.). А жыхары Пескаўскай воласці (Ваўкавыскі пав.) звярнуліся да біскупства з просьбай аб тым, што яны хоць і католікі і належаць да беларускай народнасці і прыродныя іх мовы польская і беларуская («домашній язык»), але разумеюць добра польскую мову і моляцца і ходзяць да споведзі і слухаюць казанні на польскай мове: «к чему привыкли и перемен никаких не желаем»[29] (ліст датуецца ад 9.04.1910 г.). Найбольш характэрную сітуацыю вакол гэтых праблемаў выклаў дырэктар Дуброўскага прыхадскога вучылішча ў лісце ад 22 лістапада 1906 г. інспектару народных вучылішч 2 участка Гродзенскай губерні. Ён паведамляў, што ў калектыўнай заяве бацькі дзяцей праявілі пажаданні, каб Закон Божы ў вучылішчы выкладаўся іх дзецям «непременно по-польскі», але сваёй прыроднай мовы ў заяве не назвалі. На яго пытанне аб прычынах замоўчвання роднай мовы адказвалі так: «Какой наш природный язык, вам хорошо известно, определять его мы не будем. Он составляет смесь русскаго с польским, хотя больше похож на русский (белорусское наречие), но мы молимся и изучаем религию на польском языке и желаем, чтобы наши дети изучали Закон Божий в школе на этом языке…»[30]. Такая пазіцыя саміх беларусаў-католікаў заслугоўвае ўвагі. Па-першае, яны свядома адносілі сябе да белару-

---

[27] НГАРБ у Гродна. – Ф. 490 (Киватичский р-к костёл Пружанского р-на). – В. 1. – Спр. 14 (Распоряжение, предписание Виленской р-к консистории и др.). – Арк. 82.

[28] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы (ДГАЛ). – Ф. 694. – В. 1. – Спр. 2810. – Арк. 11.

[29] ДГАЛ. – Ф. 694. – В. 1. – Спр. 2811. – Арк. 1–5. Цалкам дакумент прыводзіцца ў манаграфіі: Трацяк І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі… – С. 104.

[30] НГАРБ у Гродна. – Ф. 1. – В. 18. – Спр. 1099: О посещаемости и непосещаемости учениками римско-католического исповедания народных училищ (ноябрь 1906 – апрель 1907 гг.).

саў і размяжоўвалі сваю нацыянальную прыналежнасць ад польскай, па-другое, яны не былі абыякавымі да моўнай праблемы; даражылі сваёй мовай, што б пра яе не казалі чыноўнікі, духавенства і іншыя «вучоныя» (трэба мець на ўвазе, што ў якасці абаронцаў сваёй мовы выступалі звычайныя сяляне)[31]. А яшчэ варта адзначыць існуючы на той час стэрэатыпны практыцызм: на сваёй мове мы гаворым і будзем гаварыць у паўсядзённасці, на польскай – молімся, а вучыцца можна і на расейскай.

Нельга не пагадзіцца з заўвагай кс. Адама Станкевіча, што «Для народу было ўсё роўна: чужая мова польская, чужая і расейская, але да польскай ужо ён быў прывыкшы, ды ўсе ўцісканае, крыўджанае, як заўсёды бывае, многа ў сабе мае маральнай сілы і красы»[32]. Высакароднымі робіць беларусаў-католікаў той факт, што яны ў выбары маральнай сілы і красы сталі на бок пакрыўджанага і праследуемага народу, падтрымалі палякаў у час іх найбольшага дзяржаўнага і культурнага заняпаду пасля падзелаў Рэчы Паспалітай.

А яшчэ трэба ўлічваць адметнасці беларускага менталітэту і невысокі ўзровень нацыянальнай свядомасці. А ў цэлым, «якой нацыянальнай арыентацыі быў святар, такой магла б стаць і парафія»[33]. У гэтым сэнсе беларусы-католікі нагадвалі нечым «авечак Хрыстовых», альбо тую гліну, з якой можна было ў той час «зляпіць» і паляка, і «рускага», і беларуса. Таму і зразумела, чаму ў 1905–1913 гг. не ставілася адкрытага пытання перад рэлігійнымі ўладамі пра вострую патрэбу ўжывання беларускай мовы ў касцёльным жыцці. Такая акцыя магла б быць не зусім зразумелай у народзе і не падтрыманай духавенствам, але, з логікі тагачаснай сітуацыі выцякала, што такая патрэба існавала сама з сябе: і як патрэба данесці і зразумець Слова Божае ў найбольш даступным фармаце, і як патрэба ў пісьмовасці і абуджэнні нацыянальнай свядомасці народу, і як патрэба служыць гэтаму народу – пра што сведчаць шматлікія факты дзейнасці саміх святароў[34].

Важную інфармацыйную і аб’ядноўчую ролю ў арганізацыі беларускага каталіцкага душпастырства адыграла першая газета для беларусаў

[31] Трацяк І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі… – С. 105.

[32] Stankiewiecz Ad. Rodnaja mowa u światyniach... – S. 57.

[33] Трацяк, І. І. Этнаканфесійныя праблемы ў культурным жыцці Гродзеншчыны (першая трэць XX ст.) / І. І . Трацяк // Этнасацыяльныя і культурныя працэсы ў заходнім рэгіёне Беларусі: гісторыя і сучаснасць : матэрыялы Рэсп. навук. канф., Гродна, 5–6 снежня, 1997 г. / пад рэд. І. П. Крэня. – Гродна, 1998. – С. 258.

[34] Пра гэта больш падрабязна гл.: Stankiewiecz, Ad. Rodnaja mowa u światyniach / Ad. Stankiewiecz. – Wilnia : Adbitka z «Chryścijanskaj Dumki», 1929. – 190 s.; Станкевіч, А. Выбранае / А. Станкевіч ; уклад., прадм. і камент. У. Конана. – Мінск : Кнігазбор, 2008, 360 с.; Адам Станкевіч. З Богам да Беларусі ; уклад., навук. рэд., камент, прадм.: А. Пашкевіч, А. Вашкевіч. – Вільня : Інстытут беларусістыкі, 2008. – 1097 с. Трацяк, І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі : манагр. / І. І. Трацяк. – Гродна : ГрДУ, 2013. – 267 с.

католікаў «Беларус» (1913–1915 гг.). На яе старонках няцяжка было прасачыць, як паступова фармаваўся своеасаблівы вобраз беларускага каталіцкага душпастыра, які з разуменнем адносіцца да народу, да яго быту, культуры, мовы. Так, аўтар Саладух (кс. Уладзіслаў Талочка) вельмі зычліва пісаў пра высокія апостальскія якасці дваццаціпяцігадовай працы ксяндза Юліяна Элерта ў г. Гродна, які «як шчыры каталіцкі ксёндз не служыць палітыка-эндэцкай і прыхільна глядзіць на справу адраджэння беларусаў»[35]. Кс. Францішак Будзька ў артыкуле, прысвечаным светлай памяці біскупа-суфрагана Магілёўскай архідыяцэзіі кс. Сцяпана Данісевіча, паказаў яскравы прыклад узорнага душпастыра, акрэсліў сапраўды апостальскую дзейнасць біскупа-суфрагана сярод свайго народу, як біскупа, які быў моцна перакананы ў тым, што беларуская мова не пашкодзіць каталіцкай справе, а будзе карыснай для лепшага пазнаньня сваёй веры[36]. Аўтар з Ваўкалаты (Надвілейскі дэк., Вілейскі пав.) інфармаваў, што ў іх цяпер добры пробашч і яны вельмі радыя, што ён «часам у казанні выясьняе крыху па-беларуску. Але гэтага мала, хацелася б, каб усё казанне ксяндзы нам казалі ў нашай роднай мове, бо ў польскай мы рэдка што разумеем»[37]. Пробашчам у Ваўкалаце ад 1911 г. быў кс. Вінцэнт Габшэвіч (нар. у 1872 г., пасв. у 1895 г.)[38].

Варта яшчэ адзначыць і тое, што Папа Рымскі Піус X благаславіў выхад газеты «Беларус» (блаславенне атрымаў асабіста і даслаў у Вільню кс. Ільдэфонс Бобіч). Падтрымаў газету і Віленскі біскуп кс. Казімір Міхалькевіч і два разы дапамог у фінансаванні газеты. Адчувальна падтрымліваў беларускі рух у каталіцтве Ковенскі біскуп кс. Францішак Карэвіч. Так, газета інфармавала, што 4.05.1914 г. у касцёле Св. Кацярыны ў Пецярбургу адбылася кансекрацыя кс. Францішка Карэвіча на пасаду Ковенскага біскупа. 19 мая ў Коўна на ўрачыстым абедзе было сказана 16 прамоваў на розных мовах (літоўскай, польскай, латышскай, нямецкай). Ад беларусаў Жмудскай парафіі ў іх роднай мове віншаваў біскупа кс. Міхал Далецкі[39]. Ковенскі біскуп адкрыта выступаў у падтрымку нацыянальных патрабаванняў беларусаў-католікаў і не баяўся гэта пацвердзіць на афіцыйным узроўні. Пра гэта яскрава гаворыць яго ліст да рэдактара газеты «Biełarus» з нагоды выдання беларускага малітоўніка «Бог з намі»: «Шаноўны Пане! Цешуся, што Пан выдаў беларускі мадлітэўнік. Расказваў я ў прошлым леце ў Рыме Яго Эмінэнцыі Кардыналу Сакратару Стану, што маю ў сваёй дыяцэзіі каля 60 тысяч беларусаў, каторыя ў касьцёле

---

[35] Sołoduch. Horodno // Biełarus. – 1914. – № 2. – 9 studnia. – S. 5.

[36] X. P. B. Ś. P. Biskup Stefan Denisewicz // Biełarus. – 1914. – № 5. – 30 studnia. – S. 2–3.

[37] А. Б-віч. Ваўкалата // Biełarus. – 1914. – № 14–15. – 2 кrasawika. – S. 8.

[38] Caleydarium pro clero diocesis Vilnensis in annum domini 1915. – Vilnae : Sumptibus Cancellariae Curiae Episkopalis, 1914. – S. 51, 82.

[39] Kawalou, A. J. E. Bp. Franciszak Karewicz / A. Kawalou // Biełarus. – 1914. – № 22. – 30 maja. – S. 1–2.

казаньне і дадатковае набажэнства маюць толькі ў польскай мове, каторай большая часьць з іх не разумее, як гэта сьведчыў Сталіцы Апостальскай прад некалькімі гадамі Арцыбіскуп Сымон. На гэта Я. Э. Кардынал Меры дэль Валь адказаў: «Як Беларусы, што да сваёй народнасьці ўсьвядомяцца і самыя папросяць, каб у касьцёле для іх казалі навукі і адпраўлялі дадатковае набажэнство ў іх роднай беларускай мове, Касьцёл-Матка ўсіх народаў ні адмовіць Беларусам таго, што ім належыцца». Дык ад гэтага залежыць, каб Беларусы пакахалі сваю мову і прывыклі ў ёй чытаць»[40].

Несумненна, такія допісы, артыкулы, лісты надавалі больш павагі і аўтарытэту не толькі самой газеце, але і яе прыхільнікам – ксяндзам-беларусам і натхнялі да беларускай працы ў парафіі. У хуткім часе газета аб'яднала вакол сябе больш паўсотні святароў з рэгіёнаў, якія былі зацікаўлены беларускімі перакладамі рэлігійнай літаратуры і беларускімі справамі ўвогуле. Пра гэта больш падрабязна будзе яшчэ ісці гутарка.

У 1916–1917 гг. праблема мовы ў рэлігійным жыцці стала настолькі відавочнай, што адмахнуцца ад яе альбо не заўважыць было ўжо немагчыма. Яна стала цэнтральным прадметам абмеркавання як для беларускага каталіцкага духавенства, так і для свецкіх беларускіх культурных і нацыянальных арганізацый.

25 красавіка 1917 г. Беларускі нацыянальны камітэт у Менску падаў Магілёўскаму архібіскупу кс. Яну Цепляку мемарыял, у якім пераканаўча абгрунтоўваліся патрэбы уводу беларускай мовы ў касцёльным жыцці. Між іншым, у мемарыяле даводзілася: «Патрэба гэтая цяпер яшчэ большая, бо апроч беларускага руху, каторы жадае сваёй мовы ў касцёле, а такжа апрача карысьці, якую прынясе навучаньне веры ў роднай мове, сюды яшчэ далучацца патрэба нясьці сьвятло веры каталіцкай тым, каторыя цяпер наварачваюцца да Каталіцкага Касьцёлу і да каторых цяжка зварачвацца па-польску, бо яны яе зусім не разумеюць; іншымі словамі, польшчына ў цяперашніх варунках можа прынясьці толькі шкоду Каталіцкаму Касьцёлу на Беларусі, а не карысьць; і дзеля гэтага духавенства на Беларусі, апіраючыся на пальшчызьне, ня зможа зрабіць таго, што павінна зрабіць, і ня будзе спаўняць волі Касьцёла, каторы высылаючы місіянераў да чужых краёў, кажа ім спачатку навучыцца тамашняй мовы, а пасьля ўжо ісьці апавяшчаць Слова Божае». Для вырашэння гэтай праблемы аўтары мемарыялу выступаюць з пажаданнямі да арцыбіскупа: увесці ў Магілёўскай семінарыі лекцыі беларускай мовы, літаратуры, гісторыі; нагадаць духавенству ў Беларусі пра яго абавязак прамаўляць на беларускай мове; чытаць адозвы вышэйшага духавенства і на беларускай мове; выданне беларускіх рэлігійных кніг і часопісаў; прызначаць у Беларусь

[40] List Jaho Ekscelencii Ksiandza Franciszka Karewicza Biskupa Żmudzkaho ad 16 lipnia 1915 hodu u Widzach / Franciszak Karewicz // Białarus. – 1915. – 30 ліпеня. – S. 1.

ксяндзоў-беларусаў і біскупа-беларуса альбо прыхільнага да беларускасці. Мемарыял быў падпісаны старшынём БНК Р. Скірмунтам і сябрамі камітэту кс. В. Гадлеўскім, Э. Будзькам, П. Аляксюком[41].

Перыяд 1917–1921 гг. у гісторыі беларускага каталіцкага духавенства з'яўляецца па сутнасці арганізацыйным перыядам. З аднаго боку – гэта час ужо сфармаванага беларускага духавенства, якое практычна рэалізуе рэлігійна-нацыянальныя патрэбы ў жыцці краю; з другога – гэта час найбольш масавага прыходу святароў да беларускасці. І тлумачыцца гэта тым, што нацыянальная ідэя значна пашырыла межы свайго існавання, выйшла са старонак газет і гурткоў і ахапіла амаль што ўсе пласты беларускага грамадства. Рамкі гэтага перыяду ўмоўна можна абмежаваць з'ездамі беларускага каталіцкага духавенства.

Першы такі з'езд адбыўся у Мінску 24–25 мая 1917 г. у кафедральным касцёле[42], другі – 12–13 ліпеня 1921 г. у Вільні. Як на адным, так і на другім з'ездзе беларускага каталіцкага духавенства абмяркоўваліся пытанні і праблемы беларускай душпастырскай і культурна-асветніцкай працы ў беларускіх парафіях. Кожны з'езд выносіў свае рэзалюцыі, але якойнебудзь юрыдычнай моцай яны не валодалі ў асяродку духавенства і выкарыстоўваліся ў якасці пераканаўчых матываў для абгрунтавання патрабаванняў і просьбаў беларусаў-католікаў на сваё рэлігійнае жыццё.

Усплескам арганізаванай і праваюй беларусізацыі ў касцёлах паўночна-заходніх (Браслаўшчына, Дзісненшчына, Пастаўшчына) і, часткова, цэнтральных рэгіёнаў Беларусі (Вілейшчына, Лагойшчына) суправодзілася візітацыя біскупа кс. Эдварда Ропа, на той час Віленскага біскупа[43]. Візітацыя пачалася 20 ліпеня і закончылася ў кастрычніку 1917 г. Праз увесь час візітацыі вобак з польскімі адбываліся і беларускія казанні. Так, кс. Міхал Пятроўскі гаварыў у Друі, Іказьні, Германавічах, Шаркаўшчыне, Даўгінаве; кс. Станіслаў Эйсмант – у Ваўкалаце (Паўстаўскі пав.); кс. Вінцэнт Гадлеўскі – у Будславе, Касценевічах, Крывічах, Радашковічах; кс. Міхал Шалкевіч – у Красным, Мосары, Маладзечне; кс. Андрэй Цікота – у Будславе, Вялейцы; кс. Адам Станкевіч – у Друі, Дзісне, Барадзенічах, а ў наступным, 1918 г. – у Замошшы, Далёкіх, Ёдах, Пагосьце, Шаркаўшчыне, Германавічах, Міёрах, Іказьні, кс. Віктар Шутовіч – у Барадзенічах, Ёдах, Лужках, Пагосьце, Шаркаўшчыне[44]. Пасьля адбыцця візіта-

---

[41] Ab białaruskaj move u kaściele // Гоман. – 1918. – № 39. – 14 maja. – S. 2 (Pieradr. z «Вольнае Беларусі»); Stankiewicz, Ad. Rodnaja mowa u światyniach… – S. 92.

[42] Пра з'езд больш падрабязна будзе ісці гутарка ў параграфе «Спробы беларусізацыі рымска-каталіцкага жыцця ў Мінску».

[43] Апостальскай Сталіцай кс. Э. Роп не быў пазбаўлены пасады Віленскага біскупа і прабыў на Віленшчыне да позняй восені, хаця папская була аб яго прызначэнні на пасаду архібіскупа Магілёўскай архідыяцэзіі была падпісана 25 чэрвеня 1917 г.

[44] Stankiewicz Ad. Rodnaja mowa u światyniach… – S. 102–105; Stankiewič Adam, ks. U čeść Chrystowaha Apostała // Chryścijanskaja Dumka. – 1936. – № 10. – S. 5; Трацяк, І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі… – С. 139–140.

цыі, у развітальным лісце з пажаданнямі да духавенства, біскуп Э. Роп яшчэ раз нагадаў віленскаму духавенству пра ахвярнасць апостальскага служэння і патрэбы шырокай рэлігійна-асветніцкай працы сярод народу і пацвердзіў устойліваю пазіцыю ў адносінах да беларускага народу і яго нацыянальных патрабаванняў: «Старайцеся, каб казаньні вашы былі простыя, адчутыя і ясным тлумачэньням праўдаў Божых. Старайцеся, каб нічога не адымаючы з польскіх набажэнстваў, дадаваць казаньні ў мове лягчэйшай для народу – беларускай. Дзе ёсьць ксяндзы, каторыя знаюць гэту мову, хай канечна часта, калі можна штонядзелю, гавораць катэхізмовае казаньне па-беларуску, апрача звычайнай польскай прамовы. А дзе мясцовае духавенства не знае дастаткова народнай мовы, пробашчы сумленна павінны рупіцца аб тое, каб пры зьездзе духавенства такія казаньні былі гавораны. Гэта датычыць вёсак і малых мястэчак, бо ў большых цэнтрах трэба браць пад увагу мясцовыя варункі, каб ня сеяць непаразуменьня там, дзе нам расходзіцца аб прыязнь і лучнасць народаў, наш край засяляючых»[45]. Кс. Адам Станкевіч, каментуючы важнасць такога звароту, заўважыў: «З лісту гэтага, які лёг у фундамент далейшага разьвіцьця беларускай мовы ў Касьцёле, так і вее справядлівасьцяй і сапраўды апостальскай безстароннасьцяй»[46].

Нельга не пагадзіцца з такой ацэнкай, бо і сапраўды беларускамоўныя казанні, дазволеныя біскупам Э. Ропам, далі значны ўсплеск беларусізацыі касцёла, але, паралельна, трэба заўважыць, што Віленскі біскуп у гэты час нашмат больш турбаваўся за польскую мову. Трохі пазней у «Крыніцы» з'явіліся больш крытычныя (і думаецца, больш аб'ектыўныя) заўвагі да такой нацыянальнай дзейнасці біскупа. Беларускі пробашч (кс. В. Гадлеўскі) пісаў, што біскуп Э. Роп хоць і цікавіўся беларусамі і прызнаваў, што беларускі народ цёмны і ў рэлігійным жыцці дужа адсталы ад іншых народаў, але ніколі не згаджаўся з тым, што віною гэтай цемнаты і адсталасці ёсць адсутнасць сваіх пастыраў і навучанне ў чужой мове навуцы Хрыста. Сам біскуп Роп вельмі шанаваў і падтрымліваў польскасць у Беларусі і бачыў у ёй усю апору каталіцтва. Калі ў 1917 г. на Дзісненшчыне ён і дазволіў беларускамоўныя навукі, але пры гэтым шмат гаварыў пра паганскі нацыяналізм і вельмі баяўся, каб не была пакрыўджана і выпхнута з касцёла польскасць, а беларуская і літоўская справа каб не зрабілі нейкага рэлігійнага выламу; і забараняў беларускім ксяндзам вучыць дзяцей пацерам на беларускай мове – толькі на польскай альбо лаціне[47].

---

[45] Z słoū Arcybiskupa i Mitrapalita Edwarda Roppa. Naša mowa ū Kaściele // Krynica. – 1917. – № 5. – 3 śnieżnia. – S. 1; Пастарскі ліст Я. Эксцэленцыі Віленскага біскупа кс. Ропа ў справе беларускай мовы ў Віленскай дыяцэзыі // Гоман. – 1918. – № 83. – 22 кастрычніка. – С. 2; Stankiewicz Ad. Rodnaja mowa u światyniach… – S. 103.

[46] Stankiewicz Ad. Rodnaja mowa u światyniach… – S. 103; Stankiewič Adam, ks. U čeść Chrystowaha Apostała // Chryścijanskaja Dumka. – 1936. – № 10. – S. 6.

[47] Biełaruski Probašč. Pastyry-čužyncy // Krynica. – 1924. – № 19. – 26 lipnia. – S. 2, 4.

Наступным крокам ў патрабаванні прыроднага права народу ў арганізацыі свайго рэлігійнага жыцця стаў зварот Беларускага Цэнтральнага Саюзу Нацыянальных грамадскіх арганізацыяў (БЦСНГА)[48] у Вільні да яго эксцэленцыі ксяндза адміністратара Віленскай дыяцэзіі Казіміра Міхалькевіча. У лісце адзначалася: «У цьвёрдым перакананьні, што наш Сьвяты Касьцёл Каталіцкі прызнае нацыянальныя праявы нашага народу Беларускага нараўне з правамі ўсіх іншых нацыянальнасьцей, і памятаючы словы Вашай Эксцэленцыі, выказваючай у чысьленых гутарках з прадстаўнікамі Беларусаў <…>, мы ніжэйпадпісаныя ад імя арганізаванага беларускага грамадзянства зьвяртаемся <…> з пакорнай просьбай здаволіць найбольш пільныя патрэбы і жаданьні беларускага нацыянальнага жыцьця, зьвязаныя з Каталіцкім Касьцёлам»[49]. Да такіх патрэбаў адносяцца наступныя просьбы: 1) каб ад Новага 1918 г. у Віленскай Духоўнай Семінарыі і на падрыхтоўчых курсах для ксяндзоў была ўведзена абавязковая для ўсіх алюмнаў беларуская мова і літаратура; 2) каб ва ўсіх беларускіх школках, настаўніцкіх семінарыях і прытулках для дзяцей каталіцкая рэлігія выкладалася на беларускай мове з выкарыстаннем беларускамоўнай літаратуры; 3) каб на беларускай мове праводзілася катэхізацыя дзяцей; 4) каб усе абвесткі, выдаваныя біскупам для беларускіх парафіяў, выдаваліся і чыталіся ксяндзамі на беларускай мове. БЦСНГА звяртае ўвагу на тое, што для выканання іх просьбы ў дадзены момант не існуе ніякіх перашкодаў. Дадзены зварот датаваны ад 30 лістапада 1917 г. і падпісаны Урадам Беларускага Цэнтральнага Саюзу Нацыянальных грамадскіх арганізацый: Вінцэнтам Сьвятаполк-Мірскім, Казімірам Шафнагелем, Антонам Луцкевічам, Вацлавам Ластоўскім, Францішкам Аляхновічам[50].

Характэрнай і знакавай з'явай у гэты час быў дэканальны сход рымска-каталіцкага кліру ў Германовічах (Дзісьненскі пав.), на якім, між іншым, былі прынятыя канцэптуальныя пастановы: «...што адносіцца да грамадскай працы – уважаем, што, дзе няма народнай сьвядомасці, там няма і культуры. З'езд ксяндзоў Дзісненскага дэканату выказваецца за тое, што абшар дзейнасьці хрысьціянскай дэмакратыі ў дэканаце з'яўляецца беларускім...». У адносінах да адукацыі і школы было заяўлена, што «... у Дзісненскім дэканаце з прынцыпу школы павінны быць беларускія і з беларускай мовай навучаньня пры аўтаноміі для іншых народнасьцей»[51]. Вацлаў Ластоўскі пісаў, што ад шчырай душы вітаем такія пастановы ксяндзоў, дай Бог, каб іх праўдзіва хрысьціянскае і каталіцкае становішча паслужыла прыкладам для іншых дэканатаў, каб каталіцкі касьцёл на Беларусі перастаў быць месцам польскай агітацыі, а стаўся Маткай Апякун-

[48] У БЦСНГА ўваходзілі: Беларускае таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны, Беларускае таварыства апекі над дзяцьмі «Золак» – Вінцэнты Сьвятаполк-Мірскі, Беларускі Клюб – Антон Луцкевіч, Беларускі музыкальна-драматычны гурток – Францішак Аляхновіч, Беларускі кааператыў «Раніца» – Вацлаў Ластоўскі.

[49] Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛіМ). – Ф. 3. – В. 1. – Спр. 138. – Арк. 9, 14.

[50] БДАМЛіМ. – Ф. 3. – В. 1. – Спр. 138. – Арк. 9, 14.

[51] ЦНБНАНБ: Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 23. – В. 1. – Спр. 22. – Арк. 1. 2; Stankiewicz, Ad. Biełaruski chryścijanski ruch: histaryczny narys… – S. 138.

кай духоўных патрэбаў беларускага народу[52]. Такія, вынесеныя ў рэзалюцыю высновы, даюць належнае права назваць гэты сход беларускім. Сход праходзіў 6–7.08.1918 г. з дазволу каменданта гміны. Праводзіў яго дэкан кс. Вінцэнт Ташкун – адм. касцёла ў Дзісне, пратакол пісаў кс. Міхал Пятроўскі; ён жа быў і аўтарам рэзалюцый сходу. Варта адзначыць, што такі з'езд адбыўся дзякуючы падтрымцы і прыхільнасці дэкана кс. В. Ташкуна. На з'ездзе прысутнічалі: кс. Антон Гедгоўд – адм. касцёла ў Германовічах, кс. Яраслаў Войдаг – адм. касцёла ў Задарожжы, кс. Альбін Ярашэвіч – адм. касцёла ў Лужках, кс. Міхал Буклярэвіч – адм. касцёла ў Іказні, кс. Міхал Пятроўскі – адм. касцёла ў Шаркаўшчыне, кс. Віктар Шутовіч – адм. касцёла ў Барадзенічах, кс. Антон Зянкевіч – вікары касцёла ў Дзісне, кс. Ільдэфонс Бобіч – вікары касцёла ў Друі, кс. Баляслаў Шылка – адм. касцёла ў Пагосце, кс. Вечыслаў Гедрыс – вайсковы капелан, кс. Міхал Шалкевіч – вікары ў Мосары, кс. К. Матулайціс. Пра кожнага з іх можна гаварыць як пра добрых душпастыраў беларускага народу, нягледзячы на тое, што нехта з іх быў у большай ступені заангажаваны ў беларускім руху, нехта менш, але заслуга іх у тым, што ў Дзісненскім дэканаце ў гэты час не было ворагаў беларускасці сярод духоўных асобаў – усё духавенства дэканату разумела духоўныя патрэбы народу.

1918–1919 гады вылучаюцца найбольшай актыўнасцю ў беларусізацыі рымска-каталіцкага жыцця, чаму спрыялі шматлікія фактары і абставіны, а менавіта: уздым нацыянальных рухаў і канфесійна-нацыянальныя абуджэнні літоўцаў, украінцаў і саміх беларусаў, рост інтарэсу да самасвядомасці з боку саміх парафіянаў, праяўленне волі да дзяржаўна-палітычнай незалежнасці, зацікаўленасць значнай колькасці каталіцкага духавенства беларускімі пытаннямі. Паўсюдная беларусізацыя, у тым ліку і ў рэлігійным жыцці, становіцца важнай часткай працы беларускай грамадскасці. Яскравым пацверджаннем таму з'яўляецца і арганізацыя рымска-каталіцкага жыцця ў Мінску ў 1918–1919 гг. 2.XI.1917 г. Папам Рымскім Бенядыктам XV была адноўлена Мінская рымска-каталіцкая дыяцэзія з прызначэннем на пасаду яе ардынатара кс. Зыгманта Лазінскага, які ў верасні 1918 г. дазволіў навучанне беларускай мовы ў Мінскай рымска-каталіцкай духоўнай семінарыі і беларускія дадатковыя набажэнствы ў кафедральным касцёле і ў капліцы Дабрачыннасці[53]. Наконт гэтых беларускіх казанняў ёсць невялічкі каментар у працы польскага даследчыка касцёлу, які заўважыў, што на з'ездах і канферэнцыях епіскапату рэдка разглядаліся праблемы нацыянальных меншасцяў. Да падпісання канкардату (1925 г.) рэлігійна-нацыянальныя праблемы іншых народаў разглядаліся і вырашаліся непасрэдна мясцовымі біскупамі ў паразуменні з апостальскім нунцыям у Варшаве і пры згодзе Апостальскай Сталіцы. Прыкладам такога падыходу можа быць праблема ўжывання беларускай мовы ў набажэнствах Менскай дыяцэзіі, якая была парушана біскупам З. Лазінскім у 1918 г. Свае сумненні ў гэтай справе ён выклаў нунцыю кс. Рацці, а той звярнуўся да Апостальскай Сталіцы; сакратар кардынал кс.

[52] Zjezd ksiandzou Dzisenskaha Dekanatu // Krywičanin. – 1918. – № 1. – S. 30.
[53] R.-Katalicki Episkopat i adradżeńnże Biełaruskaho Narodu // Krynica. – 1919. – № 6. – 5 kastryčnika. – S. 1.

Гаспары даў магчымасць вырашыць праблему непасрэдна на месцы самому біскупу кс. З. Лазінскаму, які лепш ведае патрэбы сваіх вернікаў і ўпэўнена прыме правільнае рашэнне[54].

У чэрвені 1919 г. у Вільні была створана Беларуская цэнтральная рада Віленшчыны і Гарадзеншчыны, якая падала мемарыял Віленскаму біскупу а. Юры Матулевічу з наступнымі просьбамі: стварыць у Віленскай духоўнай семінарыі кафедру беларускай мовы, дазволіць беларускія казанні, прызначаць біскупа-суфрагана беларуса і ксяндзоў-беларусаў у беларускія парафіі. Кс. Адам Станкевіч адзначае, што кароткае жыццё і цяжкія варункі не далі біскупу магчымасці споўніць гэтыя просьбы[55]. Адзначым, што не толькі гэтыя прычыны былі перашкодамі споўніць просьбы беларусаў, але, нягледзячы на гэта, мудрая і ўраўнаважаная на той час нацыянальная палітыка Віленскага біскупа а. Юры Матулевіча спрыяла і натхняла святароў да беларускай працы ў парафіях. 19–20.08.1919 г. біскуп а. Ю. Матулевіч праводзіць з’езд дэканаў Віленскай дыяцэзіі, на якім прымаецца пастанова аб тлумачэнні дзецям-беларусам катэхізму на беларускай мове для лепшага разумення[56].

Праблема беларускай мовы ў касцёльным жыцці і пытанні культурна-нацыянальнага адраджэння сталі адной з найбольш надзённых тэмаў на старонках тагачаснага беларускага друку. Калі ў «Гомане» гэта былі пераважна артыкулы свецкіх асобаў: В. Ластоўскага, Я. Станкевіча, А. Луцкевіча, К. Шафнагеля, дык у «Крыніцы» аўтарамі такіх артыкулаў былі збольшага самі святары. Пераканаўчымі і аргументаванымі ў гэты час былі артыкулы кс. М. Краскоўскага[57], кс. К. Стаповіча[58], кс. А. Станкевіча[59], кс. У. Талочкі[60], кс. Я. Германовіча[61] і іншых.

---

[54] Wilk, Stanisław, ks. SDB. Episkopat Kościoła katolickiego w Polsce w latach 1918–1939 / Stanisław Wilk. – Warszawa, 1992. – S. 389.

[55] Stankiewicz Ad. Rodnaja mowa u światyniach… – S. 129.

[56] Там жа. – S. 128.

[57] Краскоўскі, М., кс. Да беларусаў трэба гаварыць пацеры па-беларуску / кс. М. Краскоўскі // Крыніца. – 1919. – № 4. – 14 верасня. – С. 1.

[58] Ко-ст. Пратэстанты ў Ваўкавыску // Крыніца. – 1919. – № 3. – 7 верасня. – С. 1, 3; Казімір Сваяк. Як яны гаманілі // Крыніца. – 1919. – № 4. – 14 верасня. – С. 2; Ко-ст. Воўк яго усё ж дык і з’еў // Крыніца. – 1919. – № 8. – 2 лістапада. – С. 2; Казімір Сваяк. Ф. Багушэвіч – пясьняр беларускі // Крыніца. – 1920. – № 2–5.

[59] Рэдакцыйныя артыкулы без подпісу належалі рэдактару кс. Адаму Станкевічу: Р-Каталіцкі Епіскапат і адраджэньне Беларускага Народу // Крыніца. – 1919. – № 6. – 5 кастрычніка – С. 1; Ігнат Папараць. Беларусы, шануйце сваю мову // Крыніца. – 1919. – № 11. – 30 лістапада – С. 1; Ігнат Папараць. Духавенства і народ // Крыніца. – 1920. – № 4. – 8 лютага. – С. 1; Ігнат Папараць. Наш чарод // Крыніца. – 1920. – № 11. – 30 траўня. – С. 1; Ігнат Папараць. У чым наша сіла // Крыніца. – 1920. – № 13. – 20 чэрвеня. – С. 1; Ксаст. Невялікая мудрасьць // Крыніца. – 1920. – № 15. – 19 сьнежня. – С. 1.

[60] Саладух Адам. Апостальская Сталіца і адраджэньне Беларускага Народу // Крыніца. – 1919. – № 3. – 7 верасня. – С. 1; Талочка, У., кс. Ненавісьці між намі быць не павінна // Крыніца. – 1919. – № 5. – 28 верасня. – С. 1; Саладух. Так дзе ж тут розум? // Крыніца. – 1919. – № 10. – 23 лістапада. – С. 1; Саладух. Беларускія біскупы-суфраганы ў Віленскай дыяцэзіі // Крыніца. – 1919. – № 12. – 25 снежня. – С. 1.

[61] Германовіч Язэп (Хлопчык з-пад Гродны). Зямля наша – беларуская // Крыніца. – 1920. – № 3. – 26 студня. – С. 1; Да здрадных беларусаў // Крыніца. – 1920. – № 7. – 21 сакавіка. – С. 1; Дарагія браты беларусы // Крыніца. – 1920. – № 10. – 2 травеня. – С. 1–2; № 16. – 25 снежня. – С. 2.

Праца душпастыра патрабавала не толькі патрэбы багаслоўскай адукацыі і навыкаў, адe і адпаведнага пакліканнія. Пра адукацыю і выкладчыцкую дзейнасць беларускіх каталіцкіх святароў гаварылася ў папярэдняй манаграфіі[62], а тут толькі адзначым, што высокі ўзровень адукацыі і інтэлекту, сапраўды апостальскія якасці многіх беларускіх святароў значна ўзвышалі іх асабісты аўтарытэт. Яны маглі б быць годнымі кандыдатурамі ў якасці прафесарска-выкладчыцкага складу для арганізацыі і функцыянавання вышэйшых навучальных установаў у Беларусі як духоўнага, так і свецкага профілю, але кадравая палітыка польскіх духоўных і свецкіх уладаў свядома іх адхіляла і не дапускала да такой дзейнасці. І шмат хто з іх мог бы быць годным кандыдатам для ўмацавання біскупскай іерархіі. Важна ўлічваць і такі момант: колькасць клерыкаў духоўных рымска-каталіцкіх семінарыяў у Вільні, Мінску, Наваградку і Пінску амаль што на 90 адсоткаў складалі выхадцы з этнічнай тэрыторыі Беларусі, і большасць з іх у той ці іншай ступені ўсведамляла сваю прыналежнасць да беларускага этнасу[63].

## 1.2. ІНТЭНЦЫІ БЕЛАРУСКАСЦІ Ў ДУШПАСТЫРСКАЙ ПРАЦЫ РЫМСКА-КАТАЛІЦКАГА ДУХАВЕНСТВА

Неад'емным абавязкам душпастыра была праца ў аднаўленні парафіі, упарадкаванні і арганізацыі касцельнага і рэлігійнага жыцця. Крытэрыем ацэнкі такой працы была зацікаўленасць прыхажан, іх узровень рэлігійнасці і напаўняльнасць касцёла вернікамі. Важным душпастырскім абавязкам было будаўніцтва альбо рамонт царквы ці капліцы, добраўпарадкаванне тэрыторыі і іншыя гаспадарчыя патрэбы. Збольшага такія работы былі ініцыяваныя святарамі, праводзіліся пад іх арганізацыяй на ахвяраванні фундатараў і парафіянаў. У першыя дзесяцігоддзі XX ст. сталі ўзводзіцца на ўсёй тэрыторыі Беларусі шэдэўры касцёльнай архітэктуры ў стылі неаготыкі, што сёння з'яўляецца неад'емнай і ўнікальнай культурнай спадчынай рэспублікі. Беларускія энцыклапедычныя выданні па сакральнай архітэктуры не заслужана не згадваюць прозвішчы тых святароў, намаганнямі якіх праводзілася такое будаўніцтва, а роля іх у гэтым была вельмі істотнай[64]. Прынамсі, у працэсе рэлігійнага адраджэння было за-

---

[62] Трацяк І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі… – 267 с.: Гл. параграф 4.2. Адукацыя і выкладчыцкая дзейнасць беларускіх каталіцкіх святароў. – С. 207–223.

[63] Там жа. – С. 222.

[64] Nasze Kościoły. Opis ilustrowany wszystkich Kościołów i Parafji znajdujacych się na obscharach dawnej Pilski i ziemiach przyległych / Archidiecezja Mohyłowska: ułożyli i wydali Ks. D. Baczkowski i Ks. J. Żyskar. – Warszawa – Petersbug, 1913. – T. I; Nasze Kościoły. Diecezja Mińska: pod redakcja Ks. Jozafata Żyskara. – Warszawa : Biblioteka Narodowa, 2001. – Tom 1. – Część 2; Nasze Kościoły. Archidiecezja Mohyłowska. Dekanat Lepelski: pod redakcja Ks. Jozafata Żyskara; Nasze Kościoły. Archidiecezja Mohyłowska. Witebszczyna. – Warszawa : Biblioteka Narodowa, 2001. – T. 1. – Część 3.

дзеяна ўсё рымска-каталіцкае духавенства незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці.

Вялікая роля ў душпастырскай працы належала арганізатарскім здольнасцям, індывідуальным асаблівасцям і якасцям пробашча (адміністратара) парафіі. Найбольшую пашану і павагу заслугоўвалі такія святары, якія для кожнага верніка рабіліся сваімі, гэта зн., былі не толькі аднаго сацыяльнага паходжання з вернікамі і ведалі іх патрэбы, але і жылі іх укладам жыцця, іх патрэбамі і былі надзейнай падпорай у іх пошуках справядлівасці ў адносінах з чыноўнікамі і іншымі прадстаўнікамі ўладаў; разам выжывалі ў складаных умовах Першай сусветнай вайны, рэвалюцый і пострэвалюцыйных войнаў. Яшчэ больш рабіўся ксёндз сваім пастырам для сялянаў, калі даносіў слова Божае ў іх роднай мове і не цураўся яе ў штодзённасці. Вера і мова яднала пастыра і парафіянаў у адну супольнасць, у адзін народ.

У першую чаргу тут варта згадаць тых святароў, якія ў складаных умовах этнаканфесійнай царскай палітыкі першых дзесяцігоддзяў ХХ ст. нашлі ў сябе смеласць, мужнасць і годнасць назваць сябе беларусамі паводле спісаў нацыянальнай прыналежнасці рымска-каталіцкага духавенства Віленскай дыяцэзіі. Так, паводле табліцы «Звесткі пра нацыянальны склад рымска-каталіцкіх парафій і іх ксяндзах па Гродзенскай губерні»[65] ў рымска-каталіцкіх прыходах у 1911 г. працавала 133 святары, з іх 36 (27 %) запісаныя беларусамі: Юльян Бароўка, Вацлаў Родзька, Люцыян Хамунт, Раман Тартыпа, Людзвіг Балабан, Генрых Сабалеўскі, Язэп Сарасек, Фелікс Любавіцкі, Баляслаў Яроцкі, Баляслаў Валейка, Ян Яновіч, Міхал Буклярэвіч, Міхал Глямбоцкі, Язэп Фарботка, Антон Шымялюнас, Макар Янцэвіч, Ян Сахарка, Антон Салатынскі, Станіслаў Гуневіч, Вікенці Баневіч, Язэп Юхневіч, Павал Доўжык, Франц Рамейка, Ян Жывіцкі, Язэп Сохань, Антон Валентыновіч, Адольф Алдзіеўскі, Ян Семашкевіч, Ян Жыткевіч, Фелікс Залеўскі, Міхал Земчанок, Язэп Картановіч, Фердынанд Гайковіч, Пётра Невяроўскі, Язэп Лапінскі, Ян Крыштофік, – што было на той час і не мала. Гэтая група духавенства не стала аб'ектам даследаванняў беларускіх навукоўцаў (за выключэннем хіба што некалькі асобаў: Я. Семашкевіча і Ф. Рамейкі). Не выклікалі яны асаблівай цікавасці і ў польскіх даследчыкаў па зразумелых прычынах (за выключэннем кс. М. Буклярэвіча і яго антыбальшавіцкага ўзброенага выступу). Папярэдне мы пісалі, што «ў неакрэсленай сітуацыі апынуліся тыя каталіцкія святары, якія атаясамлівалі сябе з беларускім народам і, больш таго, пацвярджалі сваю беларускасць у афіцыйных спісах, але не мелі ўстойлівага нацыятворчага фундаменту і заставаліся ў сваіх парафіях адзінокімі ў спробах няпольскай арыентацыі нацыянальнага выбару. З аднаго боку, яны не залічвалі сябе да палякаў і тым самым супрацьпаставілі сябе прапольскаму элементу сярод насельніцтва, і польскае духавенства на іх глядзела з

[65] Трацяк І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі… – С. 246–251.

падазронасцю, з другога – з такой жа падазронасцю ўспрымала іх і свецкая ўлада, бо не ведала, што з імі рабіць»[66]. Мусім тут трошкі паправіць і дапоўніць некаторыя моманты. Першае – вельмі спрэчнае пытанне наконт іх адзіноцтва ў спробах нацыянальнага выбару ў парафіі і ў асяродку духавенства. Больш як на 90 адсоткаў ад колькасці ўсіх святароў былі яны выхадцамі з беларускіх сялянскіх сем'яў. У парафіі яны з'яўляліся «сваімі ксяндзамі» як паводле паходжання, так і паводле культурнага, ментальнага і моўнага фактару. Яны добра разумелі сваіх парафіянаў, іх патрэбы, праблемы, і такім ксяндзам людзі давяралі нашмат больш. Роля і аўтарытэт такіх ксяндзоў былі нашмат вышэйшымі ў параўнанні з прыезджымі і іншамоўнымі. І як вынік таму – больш грунтоўнай і змястоўнай рабілася душпастырская праца такіх святароў, больш глыбокай і асвядомленай станавілася вера парафіянаў, больш высокім рабіўся іх рэлігійны і культурны ўзровень. Другая справа, што беларускасць гэтых святароў была стыхійнай і неарганізаванай. Такой жа неарганізаванай была і іх сувязь між сабою. У гэтым сэнсе ў сваім нацыянальным выбары яны і сапраўды выглядалі адзінокімі сярод сваіх калегаў. Тым больш, што спісы паводле нацыянальнай прыналежнасці духавенства па зразумелых прычынах не выносіліся на ўсеагульнае абмеркаванне і не друкаваліся. Другое – нешматлікі, але вельмі актыўны прапольскі элемент у парафіі стараўся кампраметаваць такіх святароў беспадстаўнымі абвінавачваннямі і правакацыямі ў вачах як рэлігійных уладаў, так і свецкіх. Амаль што кожны з святароў-беларусаў трапляў у складаную і вельмі заблытаную трохмоўную сітуацыю (беларуская, польская, расейская мовы), пры якой усякі варынт не ўспрымаўся тым ці іншым бокам, а іх беларускасць яшчэ больш насцярожвала. Той факт, што з святароў-беларусаў толькі адзінкі змаглі дасягнуць духоўнай кар'еры да ўзроўня дэкана (кс. Станіслаў Шырокі), яскрава гаворыць пра адносіны да іх з боку кіруючай эліты польскага духавенства. Трэцяе – свецкая (на той час царская ўлада) і сапраўды напачатку не ведала, што з імі рабіць і старалася больш-менш справядліва вырашаць узнікаючыя канфлікты, часам, на карысць беларускіх святароў (выпадкі з кс. Язэпам Фарботкам і з кс. Паўлам Грыбоўскім[67]). Але, калі стаў відавочным фактар беларускамоўных казанняў і набажэнстваў у касцёле як магнетычны фактар прыцягу праваслаўнага насельніцтва ў касцёл, на гэтым і закончылася ўся царская справядлівасць: рашэнні рымска-каталіцкага біскупа аб пераводзе таго ці іншага святара-беларуса ў небеларускія парафіі сталі супадаць з воляй генерал-губернатараў.

Безумоўна, дэманстрацыя беларускасці вышэйзгаданымі святарамі на афіцыйным узроўні суправаджалася моўнай дэманстрацыяй з амбону і ў штодзённасці, што часта прыводзіла да надуманых канфліктаў з паляку-

---

[66] Трацяк І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі… – С. 187.

[67] Там жа. – С. 187–192.

ючым кантынгентам ў краі (выпадкі з пробашчамі Камянецкага касцёла кс. Баляславам Яроцкім[68] і кс. Язэпам Фарботкам[69], а таксама пробашчам касцёла ў Крыпна кс. Паўлам Грыбоўскім[70])[71].

Папярэднія высновы, якія былі зроблены аўтарам ў манаграфіі «Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі» (с. 186–189) наконт душпастырскай працы з прыхільнасцю да беларускага народу і мовы ксяндзоў Баляслава Яроцкага і Язэпа Фарботкі, найшлі далейшае пацвярджэнне. Так, у газеце «Крыніца» за 1921 г. аўтар з в. Каменка пісаў пра тое, што «народ у нас беларускі і сведамасць гэтага не заглохла... Сярод пробашчаў, якія тут працавалі, асабліва ў памяці застаўся кс. Баляслаў Яроцкі. Гэта быў сапраўды народны ксёндз… (азначэнне *народны* ў той час успрымалася як сінонім *нацыянальнаму* (заўв. аўт. – *І. Т.),* і яго гарачыя казанні сведчылі аб яго гарачай і моцнай сялянскай душы. Пасля кс. Яроцкага добрых некалькі гадоў працаваў тут св. п. кс. Фарботка... (Нагадаем, што кс. Язэп Фарботка сутыкнуся ў тымі ж праблемамі і палякуючымі элементамі, што і кс. Баляслаў Яроцкі (заўв. аўт. – *І. Т.)*. …Цяпер пробашчам у нас кс. Яўхім Рачкоўскі[72]. Ён працуе не толькі ў касцёле, але таксама як пісьменнік і чалавек, любячы вельмі навуку ды кнігі. Кс. Рачкоўскі вельмі спагадае Уніі і шчыра хацеў бы штосьці зрабіць дзеля гэтай святой думкі. На гэтым грунце ён блізкі каталіцкаму беларускаму грамадзянству»[73]. Той факт, што прозвішчы гэтых святароў

[68] Кс. Баляслаў-Вікенці Яроцкі (1868–1922 гг., Вышкі, Бельскі дэканат) высвенчаны на ксяндза ў 1890 г. У 1892 г. быў прызначаны на пасаду пробашча касцёла ў Каменцы Гродненскага дэканату. Апошніх 5 гадоў працы ў Каменцы вёў барацьбу з рознымі праваакцыямі з боку палякуючых парафіянаў і беспадстаўнымі абвінавачваннямі ў каталіцкім фанатызме, нянавісці да ўсяго рускага і праваслаўнага, прыхільнасці да польскасці і паланізацыі парафіі. Кс. Б. Яроцкі знаходзіўся пад пастаянным наглядам паліцыі, на яго неаднаразова заводзіліся справы, якія не заўсёды заканчваліся апраўданнем. Апошняя справа, быццам у падбухторванні дзяцей кс. Б. Яроцкім да патрабавання польскай школы, закончылася яго пераводам 07.09.1907 г. у парафію Вінна (Бельскі пав.), але МУС запатрабавала яго звальнення са стану духоўнага, што і вымушаны быў зрабіць віленскі біскуп 27.09.1907 г. У наступным годзе быў прызначаны на пасаду пробашча касцёла ў Вышках Бельчыцкага дэк. (1908–1922 гг.).

[69] Кс. Язэп Фарботка (1877–1919 гг.) скончыў Віленскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю (1902–1906 гг.), пасвечаны на ксяндза ў 1906 г. і прызначаны на пасаду вікарыя ў касцёл Брэст-Літоўска, Брэсцкага дэк. (1906–1908 гг.), пробашч касцёла ў Каменцы, Гродненскага дэканату (1908–1919 гг.). Кс. Я. Фарботкі не стала 7.01.1919 г. Пахаваны ў в. Каменка каля касцёла.

[70] Кс. Паўла Грыбоўскі (1874–16.08.1932 г., Старасельцы, Беластоцкі дэканат) вучыўся ў Віленскай рымска-каталіцкай духоўнай семінарыі (1901–1905 гг.) разам з Янам Бурбам, Францішкам Грынкевічам, Станіславам Шырокім, пасвечаны на ксяндза ў 1905 г., прызначаны на пасаду вікарыя касцёла Ф. Ксаверыя (фарнага) у Гродна (1905–1910 гг.), пробашч касцёла ў Крыпна Беластоцкага дэканата (1910–1919 гг.), адміністратар касцёла ў Старасельцах Беластоцкага дэканата (1919–1932 гг.).

[71] Трацяк І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі… – С. 187–192.

[72] Кс. Яўхім Рачкоўскі нарадзіўся ў 1861 г., пасвечаны на святара ў 1892 г. Працаваў у Лынтупах, Свянцянскага дэканата (1902–1911 гг.), пробашчам у Лідскім дэканаце (1911–1918 гг.), у Каменцы, Гродзенскі дэканат (1919–?), Сакалянах Сакольскага дэканата (1927–1936 гг.). Апошнія гады быў пры Бернардзінскім кляштары ў Вільні. Памёр 23.05.1938 г.

[73] Teofił. Kamionka, Horadzienskaha paw. // Kryniсa. – 1921. – № 29. – 25 wieraśnia. – S. 7.

у такім кантэксце згадваюцца ў беларускай газеце, якую рэдагаваў кс. Адам Станкевіч, гаворыць у першую чаргу пра іх сапраўднае душпастырства і служэнне беларускаму народу.

Гісторыя з такімі святарамі, як ксяндзы Б. Яроцкі, Я. Фарботка, П. Грыбоўскі заканчвалася паводле аднаго сцэнару, а менавіта: пераводам ў іншыя (не беларускія) парафіі.

Другім вельмі важным момантам душпастырскай працы была патрэба ў навучанні дзяцей рэлігіі на зразумелай мове. Патрэба гэта была выклікана царскай моўнай палітыкай вакол праблемы «рускіх» школаў – царкоўна-прыхадскіх, школаў граматы і народных вучылішч, якія павінны былі наведваць дзеці католікаў і, такім чынам, вывучаць асновы праваслаўнай веры. Адносіны між свецкімі і рэлігійнымі ўладамі яшчэ больш абвастрыліся ў сувязі з пастарскім лістом біскупа С. Зваровіча ад 12.02.1902 г. да духавенства, у якім ён раскрыў сутнасць расейскай адукацыйнай палітыкі, якая была накіраваная супраць католікаў з мэтай прыцягнуць іх да праваслаўя і рускай народнасці. Па ўсёй Віленскай дыяцэзіі пракацілася хваля супраціву царкоўна-прыхадскім («рускім») школам. Святары абвясцілі ў касцёлах указ свайго біскупа, і дзеці каталіцкага веравызнання перасталі іх наведваць[74]. Такая сітуацыя вымушала духавенства да актыўнай арганізацыі тайных школак, якія паводле існуючых стэрэатыпаў ужо на той час (што каталіцкае, то польскае) атрымалі назву «польскія школы». Такі тэрмін замацаваўся і ў навуковай літаратуры. Несумненна, многія школкі выкарыстоўваліся ксяндзамі як пляцоўкі для выхавання польскага патрыятызму, але, між іншым, некаторыя дакументы і крыніцы ставяць пад сумнеў іх польскі характар, асабліва калі ўлічваць, што ў такіх школках часта выкладалі рэлігію святары, якія лічылі сябе беларусамі.

Так, пробашчам касцёла ў Драгічыне Бельскага павета, Гродзенскай губерні, кс. Вінцэнтам Баневічам у 1905 г. былі арганізаваныя ў сваёй парафіі тры тайныя школы, у якіх вывучалі рэлігію і польскую мову[75]. Тайная школка, у якой вывучаўся Закон Божы, руская і польская мовы, была адкрыта ў 1905–1906 гадах з ініцыятывы мясцовага ксяндза Сабалеўскага ў м. Індура, у яго ўласным памяшканні[76]. Кс. Антон Шымялюн у лістападзе 1907 г. адкрыў у м. Гелваны (Віленскі пав.) у доме Іцкі Рутмана тайную школу, у якой выкладаў рэлігію, расейскую і польскую мовы. Улады школку закрылі, а ксяндза асудзілі да 3 руб. штрафу[77]. 29.11.1909 г.

[74] Трацяк І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі… – С. 99–105.

[75] Kubicki, Paweł. Bojownicy kapłani za sprawę Kościoła i Ojczyzny w latach 1861–1915 : część druga. Dawna Litwa i Białoruś. T. II / Paweł Kubicki. – Sandomierz, 1936. – S. 31.

[76] Ганчар, А. И. Римско-католическая церковь в Беларуси (вт. пол. XIX – нач. XX вв.). Исторический очерк : моногр. / А. И. Ганчар. – Гродно : ГГАУ, 2010. – С. 296.

[77] Kubicki, Paweł. Bojownicy kapłani... : część druga. Dawna Litwa i Białoruś. T. III / Paweł Kubicki. – Sandomierz, 1936. – S. 281.

паліцыя выкрыла ў в. Сегневічы Пружанскага павета тайную польскую школу, якую ўтрымліваў за свой кошт і ў сваім памяшканні пробашч кс. Антон Салатынскі. У школцы ксёндз вучыў дзяцей польскай мове. Школку закрылі, а ксяндзу 17.08.1911 г. прысудзілі тры рублі штрафу[78]. 25.11.1910 г. паліцыя выкрыла тайную польскую школу ў в. Крынкі Гродзенскага пав. у дамах мяшчан Ядкоўскага і Матулевіча, якія былі арганізаваны пробашчам кс. Людвікам Балабанам. У школцы вучылі рэлігіі і мовам расейскай і польскай (uczono w niej religii oraz językow ros. i polskiego). Справа была перададзена ў суд, а школкі забаранілі[79].

Пра што гавораць гэтыя факты? Няўжо гэтыя школкі адкрываліся дзеля таго, каб вывучаць мовы? І як разумець той факт, што паралельна праходзіла навучанне дзяцей і расейскай мове? І гэта, прыкладна, у той час, калі хваля супраціву расейскай мове і царкоўна-прыхадскім школам у асяродках каталіцкага духавенства была вельмі істотнай: вядома, што ксяндзы адмаўляліся на расійскай мове вучыць дзяцей рэлігіі, чытаць розныя дзяржаўныя пракламацыі, звароты і прысягу, праводзіць малебны за цара і яго сям'ю і г. д., а тут знаходзяцца ксяндзы, якія тайна адкрываюць школку і вучаць з дзяцьмі, у тым ліку, і расейскую мову... Спробы разабрацца ў гэтай няпростай сітуацыі рабілі многія даследчыкі (Р. Радзік[80], С. Токць[81]), але больш канкрэтызаваныя высновы былі пададзены А. Ганчаром: «Супрацьдзеянне царкоўна-парафіяльным школам, якому салідарна была большасць прадстаўнікоў рымска-каталіцкага духавенства, з'яўлялася фактычна імкненнем захаваць сваю зону ўплыву на паству і не мела характару нацыянальнага (у дадзеным выпадку) польскага руху. Такі ж характар насіла праблема рускай мовы, некананічнасць якой адыходзіла на другі план, калі толькі на ёй можна было вучыць асновам каталіцызму. Разам з тым, пры любой магчымасці каталіцкі клір імкнуўся вярнуцца да польскай мовы ў «дадатковым» набажэнстве і выкладанні, тым самым выступаючы за захаванне традыцый каталіцтва на тэрыторыі Беларусі...»[82]. Але, калі ўлічваць той факт, што польская і расейская мовы дзецям былі малавядомыя і малазразумелыя, узнікае лагічнае пытанне: на якой мове тады быў наладжаны навучальны працэс у гэтых школах? А. Ганчар слушна заўважыў, што «Паколькі асноўную масу насельніцтва складалі беларусы, дык можна з поўнай упэўненасцю сцвярджаць, што ў таемных школах навуча-

[78] Kubicki Paweł. Bojownicy kapłani... : część druga. – T. III. – S. 143.

[79] Там жа. – Т. II. – S. 29.

[80] Radzik, R. Między zbiorowościa etniczna a wspólnota narodowa. Białorusini na tle przemian narodowych w Europie Środkowo-Wschodniej XIX stulecia / R. Radzik. – Lublin : Uniwersytet Marii Curie Sklodowskiej, 2000. – S. 150–152.

[81] Токць, С. М. Беларуская вёска на мяжы эпох: Змены этнічнай самасвядомасці сялянства ва ўмовах распаду традыцыйнага аграрнага грамадства (па матэрыялах Гарадзеншчыны XIX – першай трэці XX ст.) / С. М. Токць. – Гродна : ГрДУ, 2003. – С. 76–78.

[82] Ганчар А. И. Римско-католическая церковь в Беларуси (вт. пол. XIX – нач. XX вв.)… – С. 266.

ліся дзеці беларусаў, а, прыняўшы пад увагу, што сярод беларусаў было шмат каталікоў, для якіх польская мова была «мовай малітваў», можна гэтым растлумачыць, чаму ў таемных школах вывучаліся і беларуская, і польская мовы. Урад забараняў навучанне як на беларускай, так і на польскай мове»[83].

Такім чынам, найбольш праўдападобнай выглядае думка пра тое, што моўнае пытанне ў тайных школах было надуманым, штучным, другасным. На самай справе і ў большасці святары арганізоўвалі тайныя школы не дзеля таго, каб вывучаць польскую мову ці расейскую, а дзеля таго, каб вучыць дзяцей асновам хрысціянскай рэлігіі, маралі, этыкі... Каб давесці да іх свядомасці сутнасць каталіцкай веры, каб дзеці раслі добрымі каталікамі. Дасягнуць такой мэты можна было пры выкарыстанні мовы, якая была зразумелай дзецям – беларускай мовы. Менавіта беларускую мову іншы раз святары называлі свядома «рускай», каб маскаваць сваю нелегальную адукацыйную дзейнасць. У польскай літаратуры тэрмін «руская» атрымаў гучанне як «расейская», што фактычна ў сапраўднасці не было тоесным. Зразумела, што і такая апостальская практыка не задавальняла як рэлігійныя, так і свецкія ўлады. З аднаго боку праблема польскай мовы была скарыстана як яшчэ адзін (такі патрэбны) прыклад польскага патрыятызму, прыхільнасці да польскай культуры, каталіцкай Польшчы і каталіцтва ўвогуле, з другога – як нагода ўлічыць святара ў дзейнасці непрыхільнай дзяржаўнай палітыцы царызму.

Група каталіцкіх святароў, якія залічвалі сябе да беларускай народнасці, тым самым хацелі падкрэсліць сваю этнічную прыналежнасць да народу, сярод якога жылі і працавалі і скарыстаць беларускасць як маральна-прававы аргумент у апраўданні сваёй апостальскай дзейнасці несці Слова Божае ў зразумелай народу мове. Той факт, што такая дзейнасць стала трактавацца дзяржаўнымі і касцёльнымі ўладамі як палітычная, было вялікай недарэчнасцю і ў першую чаргу нанесла вялікі ўрон каталіцтву і хрысціянству ўвогуле.

Заслугоўвае ўвагі і той факт, што гэтая група святароў-беларусаў належала да святароў старэйшага пакалення, якія атрымалі святарскія пасвечанні ў другой палове XIX ст. альбо напачатку XX ст.: Людвіг Балабан (нарадзіўся ў 1872 г., пасвечаны ў 1897 г.), Язэп Сарасек (нар. у 1869, пасв. у 1892), Баляслаў Яроцкі (нар. у 1868, пасв. у 1891), Баляслаў Валейка (нар. у 1873, пасв. у 1898), Міхал Глямбоцкі (нар. у 1834, пасв. у 1857), Антон Шымялюнас (нар. у 1859, пасв. у 1883), Макар Янцэвіч (нар. у 1875, пасв. у 1901), Ян Сахарка (нар. у 1860, пасв. у 1887), Антон Салатынскі (нар. у 1871, пасв. у 1890), Вікенці Баневіч (нар. у 1863, пасв. у 1891), Павал Доўжык (нар. у 1871, пасв. у 1896), Антон Валентыновіч (нар. у 1873, пасв. у 1898), Міхал Земчанок (нар. у 1868, пасв. у 1898).

[83] Ганчар А. И. Римско-католическая церковь в Беларуси (вт. пол. XIX – нач. XX вв.)… – С. 273.

Пра іх сёння мала што вядома. Іх лёс, як і лёс іншых беларускіх святароў, нікога не цікавіў, таму і засталіся яны незаслужана незаўважанымі на маргінезе гісторыі. Сёння, запаўняючы гэты прабел, мы па магчымасці згадаем некаторых з іх.

Так, да прыкладу, кс. Міхал Глямбоцкі нарадзіўся ў 1834 г. – адзін з самых старэйшых святароў (на момант афіцыйнага пацвярджэння сябе беларусам у 1911 г. яму было 77 гадоў), у 1857 г. скончыў Віленскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю, быў пасвечаны ў святары і прызначаны вікарыем, а пасля пробашчам касцёла м. Глыбокае Дзісненскага дэканата. За сувязі з паўстанцамі 26.07.1864 г. быў арыштаваны вайсковымі ўладамі і змешчаны да суда ў дынабурскую фартэцыю. У ліпені 1865 г. быў вызвалены і накіраваны на пасаду вікарыя ў м. Трокі, а 14.03.1866 г. асуджаны з нагоды палітычнай нелаяльнасці і варожых адносінаў да ўсяго расейскага і праваслаўнага на высяленне пад суровым наглядам паліцыі ў Томскую губ. Але, улічваючы слабое здароўе і хваробу ксяндза, галоўны начальнік краю пастановай ад 30.04.1866 г. высылку ў Сібір замяніў на заключэнне пад нагляд паліцыі і прыора ў кляштар кармелітаў у Вільні[84]. Спробы касцёльных уладаў перавесці кс. М. Глямбоцкага на вікарыят у адзін з касцёлаў блакіраваліся галоўным начальнікам краю. І толькі ў 1871-м ён апынуўся на пасадзе вікарыя касцёла ў Нястанішках (Свірскі дэк., цяпер Смаргонскі р-н). Працаваў у розных парафіях Віленскай дыяцэзіі: адміністратарам касцёла ў Варнянах Віленскага дэканата (1878–1905), капеланам манастыра брыгідак у Гродна (1905–1908), пробашчам касцёла ў Калінаўцы Беластоцкага дэканата (1908–1912), ад 1912 г. пры касцёле ў Вілейцы ў якасці вольнага казнадзея і спавядальніка ў сувязі з пенсійным узростам. Памёр 15.06.1931 г. у Вілейцы.

Нялёгкі душпастарскі лёс выпаў кс. Вікенцію Баневічу (нарадзіўся ў 1863 г.). У 1891 г. скончыў Віленскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю і быў пасвечаны ў святары. У 1893 г. прызначаны пробашчам касцёла ў м. Драгічын (Бельскі дэк.). Прыцягваўся царскімі ўладамі ў 1894 г. да адказнасці (штрафу ў 50 руб.) за ігнараванне служб па пакойным імператары Аляксандру III[85], у 1895 г. была заведзена спецыяльная справа за аказанне рэлігійных паслуг уніятам[86]. У травені 1902 г. кс. В. Баневіч (паводле рапарту паліцэйскага спраўніка) забараніў сялянам в. Вярхуца пасылаць дзяцей у царкоўна-прыхадскую школу, што стала прычынай закрыцця школы і спынення кантракту з настаўнікамі[87]. У лютым 1905 г. ас-

[84] Kubicki Paweł. Bojownicy kapłani za sprawę Kościoła i Ojczyzny w latach 1861–1915 : część druga. Dawna Litwa i Białoruś. – T. II. – S. 244–245.

[85] Ганчар А. И. Римско-католическая церковь в Беларуси (вт. пол. XIX – нач. XX вв.)... – С. 329.

[86] Kubicki Paweł. Bojownicy kapłani za sprawę Kościoła i Ojczyzny w latach 1861–1915 : część druga. – T. I. – S. 421.

[87] Там жа. – Т. II. – S. 31.

вяціў установку крыжоў з нагоды 50-годдзя абвяшчэння Рымскім Папам новага дагмата аб непарочным зачацці Найсвяцейшай Багародзіцы. Устаноўка крыжоў не была забаронена, але рэзананс быў выкліканы тым, што адзін крыж быў пастаўлены ў варотах праваслаўнага Свята-Багародзічнага манастыра – былога бенедыктынскага кляштару. Справа дайшла да генерал-губернатара. Для пераносу крыжа ўлады спрабавалі выкарыстаць кс. Баневіча, але ён заслужыў рэпутацыю «неблагонадежного»: 31 мая 1905 г., абходзячы крыжовы шлях у в. Кляшчоўка, ён асвяціў пабудаваны дом былога праваслаўнага селяніна А. Яроцкага, які 7 мая перайшоў усёй сям'ёй у каталіцтва. Да таго ж кс. Баневіч, паводле афіцыйнай перапіскі, стараўся ўхіліцца ад ініцыяцыі пераносу крыжа і не меў вялікага ўплыву на сваіх парафіян, пра якіх адклікаўся не зусім добра[88]. Апошнія факты наводзяць на думку, што кс. Баневіч строга праводзіў сваю лінію ў парафіі, не азіраючыся на палякуючых парафіян і ўладныя абмежаванні ў душпастырскай працы. У лістападзе-снежні 1905 г. намаганнямі кс. В. Баневіча адкрываюцца тры тайныя школы для навучання дзяцей рэлігіі: у в. Путкавічы Надольныя ў доме селяніна Станіслава Згеруна, у в. Путкавічы Нагорныя і ў в. Вярхуца Нагорная ў доме Юзэфа Кавальчука[89]. Летам 1906 г. ён быў пераведзены пробашчам у касцёл Буйвіды Віленскага дэканата. Трэба думаць, што ў гэтым беларускім мястэчку кс. Баневіч канчаткова ўсвядоміў сябе беларусам і, магчыма, стаў праводзіць адпаведную працу. Наступны этап душпастырства – адміністратар касцёла ў м. Няміраў Бельскага дэканата (1911 г.). Менавіта з Нямірава ў 1911 г. ён даслаў у біскупства афіцыйнае пацвярджэнне сваёй беларускасці, і ў гэтым жа годзе яго перавялі на пасаду пробашча ў касцёл Гнёзна Ваўкавыскага дэканата, дзе прабыў ён каля года, а пасля каля 4 гадоў (1913–1917) прыслужываў у Вільні пры касцёле святых Францыска і Бярнарда (Бернардзінскі касцёл). У 1917 г. быў прызначаны на пасаду пробашча ў касцёл м. Гожа, Гродзенскага дэканата, а напачатку 1920-х пераведзены на такую ж пасаду ў парафію м. Кямелішкі (Свірскі дэк.).

Да гэтага спісу варта яшчэ аднесці святароў іншых нацыянальнасцей, якім прыходзілася працаваць сярод беларускага народу і якія з разуменнем адносіліся да беларускіх праблем і беларускага нацыянальнага адраджэння, спрыялі беларусам у асэнсаванні сваёй нацыянальнай прыналежнасці і годнасці, не цураліся беларускай мовы, а часам заахвочвалі да беларускай справы. Да такіх належалі святары, якія лічылі сябе ліцвінамі і былі запісаныя як літоўцы. Паводле вышэйзгаданага спісу да такіх адносіліся: кс. Антон Курыловіч – пробашч Бернардзінскага касцёла ў Гродна – ніколі не выступаў супраць беларускага руху, кс. Францішак Грынкевіч – капелан Брыгіцкага кляштару ў Гродна – вядомы арганізацыяй беларус-

[88] Ганчар А. И. Римско-католическая церковь в Беларуси (вт. пол. XIX – нач. XX вв.)… С. – 347.

[89] Kubicki Paweł. Bojownicy kapłani za sprawę Kościoła i Ojczyzny w latach 1861–1915 : część druga. – T. II. – S. 31.

кага культурна-асветніцкага гуртка ў Гародні, кс. Нікадзім Тарасевіч – Ваўкавыскі дэкан – быў прыхільным да беларускасці, але з узмацненнем польска-дзяржаўнага шавінізму стаў пакорлівым яго функцыянерам, кс. Уладзіслаў Лаўрыновіч – нязменны народны пробашч парафіі Рэпля, Ваўкавыскага пав.

Вядома, што ў 1898 г. кс. Уладзіслаў Лаўрыновіч выконваў абавязкі Ваўкавыскага дэкана і быў папярэджаны царскімі ўладамі за дазвол публічных спеваў у час пахавання[90]. Цікавы эпізод пра кс. У. Лаўрыновіча прыводзіць у сваёй кнізе А. Ганчар, а менавіта: 5.12.1905 г. кс. У. Лаўрыновічам было заяўлена, што ён будзе выкладаць у Вярэйкаўскім царкоўна-прыхадскім вучылішчы Закон Божы на польскай мове, нягледзячы на пастановы Віленскай навучальнай акругі ад 6.09.1905 г. пра выкладанне дадзенага прадмета на роднай мове навучэнцаў. 9.12.1905 кс. У. Лаўрыновіч раздаў вучням-католікам польскія падручнікі: «Катэхізіс» Філакоўскага, выд. 1904 г., і «Святую Гісторыю» Казлоўскага, выд. 1901 г., і ў прысутнасці настаўніка польскай мовы пачаў урок, патрабуючы адказаў таксама на польскай мове. Згодна даведцы прыстава Ваўкавыскага павета, усе жыхары яго стана, у тым ліку Вярэйская воласць, – беларусы. І настаўнік польскай мовы даводзіў, што сярод вучняў не было ні аднаго, хто гаварыў бы на польскай мове[91]. Вось такім катэгарычным паланізатарам выглядае кс. У. Лаўрыновіч паводле прыведзеных аўтарам архіўных матэрыялаў. Зусім інакш будзе выглядаць дадзеная сітуацыя, калі ўлічыць адзін невялікі факт, а менавіта: паводле тых жа пастановаў навучальнай акругі роднай мовай навучання для дзяцей беларусаў указвалася не беларуская, а расейская мова. Гэта, дарэчы, была тыповая сітуацыя, з якой сутыкаўся амаль што кожны ксёндз, атрымліваючы характэрны для таго часу адказ: «...Согласно п. 14 Именного Высочайшего указа правительствующему сенату 17 апреля 1905 года п.п. 2 и 3 Временных правил, преподования Закона Божия инословных христианских исповеданий велось Вашим Преподобием на родном языке учениц, т. е. для белорусок – на русском языке, для полек – на польском, для литвинок – на литовском и пр.»[92]. Зразумела, што ў выбары між польскай і расейскай мовай ксяндзы аддавалі перавагу польскай.

Пра высокамаральныя апостальскія якасці кс. Уладзіслава Лаўрыновіча[93] пісаў Язэп Найдзюк, які быў родам з вёскі Байдаці, што знаходзіла-

[90] Kubicki Paweł. Bojownicy kapłani za sprawę Kościoła i Ojczyzny w latach 1861–1915 : część druga. – T. I. – S. 629.

[91] Ганчар А. И. Римско-католическая церковь в Беларуси (вт. пол. XIX – нач. XX вв.)… – С. 292.

[92] ЦНБНАНБ. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 23. – В. 1. – Спр. 793. – Арк. 9.

[93] Кс. Уладзіслаў Лаўрыновіч (16.09.1869 г., в. Уждзелы, Свянцянскага пав. – 28.11.1937 г., Рэпля, Ваўкавыскі пав.) вучыўся ў Рызе, Пецярбургу, Віленскай рымска-каталіцкай духоўнай семінарыі (1888–1893 гг.), пасвечаны ў святары ў 1893 г. Прызначаны вікарыем парафіі Божага Цела і св. Мучаніка Юрыя ў в. Крамяніца Ваўкавыскага дэканата, цяпер Зэльвенскі р-н Гродзенскай вобл., ад 6.04.1895 г. і да канца свайго жыцця заставаўся нязменным пробашчам парафіі Рэпля.

ся ў паўтара кіламетрах ад м. Рэпля. Паводле Я. Найдзюка, кс. Ул. Лаўрыновіч узгадаваў у парафіі цэлае пакаленне (да якога належаў і аўтар допісу), пазнаў людзей і зжыўся з імі. І парафіяне паразумеліся з сваім душпастырам і, калі ўзнікала пагроза пераводу ксяндза ў іншую парафію, заўсёды дамагаліся просьбамі пакінуць ім іх святара. Яскравы прыклад хрысціянскай любові быў прадэманстраваны ў часы бальшавіцка-польскай вайны, калі кс. У. Лаўрыновіча схапілі бальшавікі і хацелі застрэліць. З усіх куткоў парафіі тады збегліся ўзброеныя каламі, віламі, сякерамі, косамі і нават абрэзамі і рэвальверамі людзі з патрабаваннем адпусціць ксяндза на волю... І адпусцілі. Цікавіўся і быў прыхільным кс. У. Лаўрыновіч да беларускага адраджэнскага руху. У прыватнай гутарцы з сялянамі найчасцей карыстаўся беларускай мовай, праўда, адкрыта не выяўляў сваіх сімпатый да беларускага руху, але часта і спрытна мог зацікавіць людзей іх нацыянальнай справай. Так, бывала, між іншым запытаецца, ці чытаюць яны свае беларускія газеты, якія выходзяць у Вільні, бо газеты гэтыя вельмі цікавыя. Заахвочваў ён да беларускай працы і Язэпа Найдзюка і выражаў найлепшыя жаданні. У казаннях з амбоны часта гаварыў, што «ніхто не павінен выракацца свае роднае мовы». Так ціха і непрыкметна кс. У. Лаўрыновіч, несучы духоўную рэлігійную падтрымку беларускаму народу, накіроўваў яго на свой уласны беларускі адраджэнскі шлях[94].

Такіх ксяндзоў, якія разумелі сітуацыю вакол беларускага пытання, было нямала. З прыхільнасцю да беларускасці адносіліся і тыя ксяндзы, якія ў спісах фігуравалі як палякі: Антон Зенкевіч, Аляксандр Хадыка, Антон Свіл, Уладзіслаў Клям і інш. Між іншым, паводле адных спісаў ксяндзы Антон Свіл, Юльян Занеўскі, Карл Сухоцкі праходзілі як беларусы, паводле другіх – як палякі. Кс. Павал Грыбоўскі запісаны ў спісе палякам, але паводле афіцыйных дакументаў у сувязі з канфліктнай сітуацыяй у парафіі між ім і палякуючымі парафіянамі праходзіў як беларус[95].

Пра кожнага з гэтых святароў можна сказаць нешта адметнае, нягледзячы на тое, што душпастырскі лёс іх быў тыповым: вучоба, размеркаванне, служба, ціск, абмежаванні і праследаванні з боку царскага рэжыму, а пасля нацягнутыя і нелаяльныя адносіны з боку польскіх касцёльных і свецкіх уладаў і частыя пераводы з парафіі ў парафію. Па-рознаму складваўся іх лёс у рэвалюцыйна-ваенныя часы і ў міжваенны перыяд, і тым не менш большасць з іх пранеслі як найдаражэйшую святасць і годнасць паклікання служыць усяленскім хрысціянскім ідэалам, узвышаючыся над вузкімі нацыяналістычнымі патрабаваннямі польскага кліру і бачыць каталіцтва толькі ў польскасці, і не быць ворагам іншым народам у нацыянальных патрабаваннях на сваю культуру, на рэалізацыю свайго права быць і мець і шукаць свой шлях да ўратавання.

[94] J. N. Ks. Ul. Łaurynowicz // Chryscijanskaja Dumka. – 1938. – № 1. – S. 3–4.

[95] Трацяк І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі… – С. 189–191.

Так, прыкладам узорнага душпастырства можа быць перыяд працы кс. Стэфана Данісевіча (будучага біскупа-суфрагана Магілёўскай архідыяцэзіі) у якасці адміністратара парафіі: «У Смаленску шмат працы палажыў для парахвіян, выбудаваў пекны касьцёл, залажыў прытулак для бедных дзяцей, а над усё стараўся, каб Яго парахвіяне былі добрымі каталікамі», – пісаў кс. Францішак Будзька пра свайго заступніка і духоўніка[96].

Між іншым, тут трэба падкрэсліць яшчэ адзін вельмі важны крытэрый каталіцкага душпастыра: «каб парахвіяне былі добрымі католікамі».

Душпастырскай працай біскуп кс. С. Данісевіч займаўся на Магілёўшчыне і Смаленшчыне. Гаварыў казанні ён звычайна на дзвюх мовах – беларускай і польскай: «…За гэта мясцовыя каталікі віталі яго ўрачыста з радассцей і ўспрымалі з непрытворнай сардэчнасьцю. Гэтая сардэчнасьць і прастата тамашніх Палякаў і Беларусінаў ня раз прыводзіла біскупа да сьлёзаў расчулінасьці»[97]. Пасля Маніфеста ад 17.04.1905 г. пачаў праводзіць казанні і на расейскай мове (у залежнасці ад мовы парафіян). Падзеля ўпэўненасці ў гэтым зачыне звярнуўся за парадай да Апостальскай Сталіцы. Кардынал Мерры де Валь ад імя Папы Рымскага адобрыў такія казанні[98]. Апостальскае разуменне сутнасці праявілася ў адносінах біскупа-суфрагана да беларускіх рэлігійных праблемаў. Ён адзін з першых духоўных асобаў, хто не проста бачыў беларускі народ, але і шчыра жадаў яму і дапамагаў у асэнсаванні і развіцці сваёй вартасці і духоўнасці. «...Будучы ўжо біскупам, – пісаў пра яго кс. Ф. Будзька, – пасьпяшыў на ўлюбёную Беларусь, каб адбыць візітацыю парахвіі. Тутака ў чыста беларускай парахвіі Фашчоўцы ня толькі казаў свайму капелану гаварыць навуку пабеларуску, але і сам меў навуку ў гэтай мове. Трэба было відзець вялікую радасьць парахвіян, што біскуп прагаварыў да іх у іх бацькоўскай, спрадвечнай мове»[99].

Беларуская дзейнасць каталіцкага святара ў парафіях была з’явай незвычайнай і дзіўнай. Калі парафіяне, з большага, беларускаму святару радаваліся, дык рэлігійныя і дзяржаўныя ўлады да такой дзейнасці адносіліся з асцярогай і нават з варожасцю.

Варта адзначыць, што не ўсе беларускія святары мелі магчымасці душпастырскай сталай і пастаяннай працы ў адной парафіі. Іншы раз святар толькі пачне наладжваць сувязь з парафіянамі ў зразумелай для іх мове, а яго пераводзяць у іншае месца. Такія пераводы да 1917 г. былі ініцыяваны як касцёльнымі ўладамі, так і Міністэрствам унутраных справаў Ра-

---

[96] Будзька, Пранцішак, Кс. Сьв. П. Біскуп Стэфан Данісевіч / Кс. Пранцішак Будзька // Bielarus. – 1913. – № 5. – 30 studnia. – S. 2–3.

[97] Wasilewski, Jan. Arcybiskupi i administratowie Archidieceziji Mohylowskiej / Jan Wasilewski. – Pinsk, 1930. – S. 154.

[98] Там жа.

[99] X. P. B. Ś. P. Biskup Stefan Denisewicz // Biełarus. – 1914. – № 5. – 30 studnia. – S. 2–3.

сійскай Імперыі. Па лініі МУС абмяжоўвалася дзейнасць святароў, якія былі ўлічаны ў прапольскай дзейнасці і ў непаслухмянасці свецкім уладам. Да такой дзейнасці адносіліся адмовы выкладаць Закон Божы на «родном русском языке» для вучняў беларусаў і выкладанне на польскай мове. Так, да прыкладу, кс. Вінцэнты Гарасімовіч – пробашч з Клецку (Мінская дыяцэзія) – паводле распараджэння міністра МУС быў высланы ў Архангельскую губерню на тры гады за «шырэнне паланізацыі»[100]. А між тым ёсць цікавыя сведчанні такой «паланізацыі», якія знаходзім у допісах парафіян у рэдакцыі беларускіх часопісаў і газет. Так, нехта з Ляхавіч паведамляў, што «беларуская нацыянальная сьведамасьць у нашай воласьці стаіць хоць не надта высока, але ўсе ж такі многа больш пашырана, як у суседніх. Першыя зярняткі гэтай сьведамасьці былі тут пасеяны яшчэ перад вайною, прыблізна ад 1907 г., дзякуючы тутэйшаму пробашчу каталіцкаму сьв. *(етлай)* п. *(амяці)* кс. Л. Кавэцкаму[101] і сьв. п. кс. Гарасімовічу, тагачаснаму пробашчу суседняй Клецкай парафіі…»[102]. Цікавыя весткі знаходзім пра ксяндзоў Гарасімовіча і Зэльбу ў № 6 «Przeglądu Wil.(enskiego)», што яны перад вайной лічылі сябе беларусамі і былі блізкія да беларускага адраджэнскага руху[103].

Кс. Вінцэнты Гарасімовіч – адзін з старэйшых патрыярхаў беларускага рэлігійнага адраджэння (нар. у 1870 г.). Скончыў Мітрапалітальную рымска-каталіцкую духоўную семінарыю ў Пецярбургу (1889–1894) і 17.12.1894 г. быў пасвечаны ў святары. Душпастырскую дзейнасць распачаў вікарыем у Мінскім Кальварыйскім касцёле (1895–1897). Пасля быў пераведзены на пасаду філіяліста ў Смалянскі касцёл Аршанскага дэканата (1897–1904). 17.03.1904 г. прызначаны пробашчам касцёла ў Клецку (на месца ксяндза-русіфікатара Я. Юргевіча) і адначасова выкладаў Закон Божы ў Мядзведзіцкім народным вучылішчы (ад 1906 г.). Дзякуючы яму ў кастрычніку 1905 г. у Мядзведзічах католікам быў вернуты рымска-каталіцкі касцёл, забраны царскімі ўладамі ў другой палове XIX ст. Кс. В. Гарасімовіча МУС арыштавалі 11.03.1911 г. і выслалі адміністрацыйна на тры гады ў Архангельск. Пасля гэтага яму было забаронена займацца душпастырскай дзейнасцю ў заходніх губернях. На з'ездзе беларускага каталіцкага духавенства ў Мінску (24–25.05.1917 г.) ён выступаў з рэфератам «Акцыя духавенства грамадска-эканамічная», быў сябрам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ад Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці (1918–1919). У першай палове 1920-х гг. выехаў у Польшчу.

[100] Wiadomości Archidyecezalne. – 1911. – № 6. – С. 84.

[101] Пра кс. Леанарда Кавэцкага вядома, што ён нарадзіўся ў 1883 г., быў пасвечаны ў святары ў 1906 г., у Ляхавічах працаваў ад 1910 г., дабудаваў касцёл, а ў міжваенны час сумленна выконваў свае душпастырскія абавязкі і як адміністратар Ляхавіцкага дэканата і як пробашч парафіяльнага касцёла.

[102] Каталік. З Ляхавіч каля Баранавіч // Chryścijanskaja Dumka. – 1939. – № 3. – S. 5.

[103] Ab ksiandzoch Harasimowiču i Zelbie // Chryścijanskaja Dumka. – 1937. – № 13. – S. 4.

Працаваў на пасадзе пробашча ў парафіі Машчаніцы Лодзінскай дыяцэзіі. Памёр 26.06.1932 г.

Сярод рознага кшталту абвінавачванняў каталіцкіх святароў з боку свецкіх уладаў вельмі часта сустракаецца фармулёўка «меў шкодны ўплыў на праваслаўных». Так, кс. Станіслаў Шырокі, пробашч касцёла ў в. Ражанцы, Лідскага павету, за тое, што «навяртаў праваслаўных і меў шкодны ўплыў на іх», расейскімі ўладамі быў пазбаўлены пасады пробашча[104]. Кс. Станіслаў Шырокі нарадзіўся 21.10.1881 г. у в. Чапялі Сакольскага павета Гарадзенскай губ. Скончыў Віленскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю (1901–1905). У 1905 г. быў пасвечаны ў святары і накіраваны на пасаду вікарыя касцёла ў Сакулцы (Сакульскі дэк.). У Ражанскім касцёле працаваў у 1909–1912 гг. Пасля страты пасады працягваў вучобу ў рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі ў Пецярбургу, дзе далучыўся да дзейнасці акадэмічнага беларускага культурна-асветнага гуртка клерыкаў.

Тут варта адзначыць, што польскамоўнаму ксяндзу на тэрыторыі Беларусі мець вялікі ўплыў на праваслаўных звычайна не ўдавалася. Уплывамі на праваслаўных валодалі тыя каталіцкія святары, якія звярталіся да народу на зразумелай ім мове, і гэта прыцягвала не толькі католікаў-беларусаў да іх, але і праваслаўных беларусаў.

Кс. А. Станкевіч са спасылкай на газету «Гоман» ад 16 красавіка 1918 г. прыводзіць цікавыя ўспаміны некага Р. пра беларускае казанне кс. Яна Бурбы ў касцёле Квасоўка Гродзенскага пав. Ксёндз гаварыў аб павіннасці святкаваць святыя дні, стрымлівацца ад працы і слухаць святую імшу. Слухачы былі ўражаны «плыннасьцю вымовы, лёгкасьцю і яркасьцюсказаў, багатай вобразнасьцю, не пазбаўленай сьціпнасьцю» ў казанні ксяндза. Пасля казання ў слухачоў «вочы глядзелі так, як глядзяць вочы дзяцей, калі спынілася цікаўная аповесьць. Удзячнасьць, зацікаўленьне асобай ксяндза, здаволенасьць пачутым мяшаліся разам на тварах гэтых шчырых жыхароў беларускай вёскі, першы раз у жыцьці сваім пачуўшых гэтак паважанае Слова Божае ў матчынай мове»[105].

У Віленскай дыяцэзіі ў гэты час працавалі два ксяндзы з аднолькавым імем і прозвішчам і абодва Яны Бурбы. Але чамусьці гэты факт выпаў з-пад увагі кс. А. Станкевіча, і ён нічога не згадаў пра другога кс. Яна Бурбу, які, дарэчы, згадваецца ва ўспамінах некага Р.: «Запрошаныя ксяндзом пробашчам, мы ў гэты дзень пасьля імшы зайшліся да гасьціннай і мілай плебаніі, дзе пазнаёміліся з ксяндзом, казаўшым казаньне. Гэта быў сваяк і аднаіменьнік пробашча – пачэсны каноннік – кс. Ян Бурба...»[106].

---

[104] Kubicki Paweł. Bojownicy kapłani za sprawę Kościoła i Ojczyzny w latach 1861–1915: Część druga: dawne krol. Polske. – T. I. – S. 829.

[105] Stankiewicz Ad. Rodnaja mowa u światyniach… – S. 84–85; R. Biełaruskaje kazańnie u Hrodzienščynie (z wakacyjnych uspaminau) // Homan. – 1918. – № 31. – 16 krasawika. – S. 2.

[106] R. Biełaruskaje kazańnie u Hrodzienščynie (z wakacyjnych uspaminau) // Homan. – 1918. – № 31. – 16 krasawika. – S. 2.

Пра аднаго кс. Яна Бурбу вядома, што ён нарадзіўся 16.06.1853 г. у в. Скопішкі (цяпер Скапішкіс, Літва). Скончыў Віленскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю і ў 1878 г. быў высвечаны на ксяндза. Працаваў душпастырам у шмат якіх парафіях Віленскай дыяцэзіі (Дзісна, Празарокі, Цверач, Вішневе, Даўгелішках). У 1903–1908 гг. быў пробашчам і дэканам Свенцянскага дэканату. У 1904 г. на запыт Віленскай дыяцэзіі да святароў даць інфармацыю аб сваёй нацыянальнасці абвесціў сябе беларусам. Атрымаў званне ганаровага каноніка ў 1908 г. Думаецца, што ў першым дзесяцігоддзі XX ст. кс. Ян Бурба (старэйшы) прыйшоў да пераканання, што «дзе народ ужывае беларускую мову, там і казаньне трэба гаварыць па-беларуску... гэта ўсім ясна...», што і было сказана ім і прадэманстравана парафіянам м. Квасоўка ў 1909 г. З таго, як зладжана ксёндз гаварыў казанне, з яго трапных і дасціпных адказаў на запыты з нагоды не польскага, а беларускага казання, можна зрабіць высновы, што такія казанні былі гавораныя ім і раней і не раз, тым больш, калі ўлічыць яго прыхільнасць і да літоўскага адраджэння. У 1910–1912 гг. ганаровы канонік быў прызначаны на пасаду адміністратара касцёла Нача (Радуньскі дэканат), а ад 1913 г. – мансіянерам у касцёле Даўгелішкі Свенцянскага дэк. Паніжэнне ў пасадзе (дэкан, пробашч, мансіянер) было звязана з цяжкай хваробай. Памёр 26.09.1915 г. (інш. версія 14.06.1915 г.) у в. Калтыняны (Літва)[107].

Другі кс. Ян Бурба (малодшы) прыходзіўся пляменнікам старэйшаму. Нарадзіўся ў 1880 г., вучыўся ў Віленскай рымска-каталіцкай духоўнай семінарыі (1900–1904 гг.), аднакурснікамі былі клерыкі Фр. Грынкевіч, П. Грыбоўскі, С. Шырокі. На 4 курсе (1904 г.) быў пасвечаны ў дыяканы і накіраваны ў Свенцяны на пасаду вікарыя, дзе ў гэты час адміністратарам дэканату і пробашчам парафіяльнага касцёла быў яго аднаіменнік і родны дзядзька кс. Ян Бурба[108]. У 1907 г. быў накіраваны на пасаду пробашча парафіі Квасоўка (Гродзенскі дэканат), дзе і адбываліся беларускамоўныя казанні. У 1911 г. кс. Ян Бурба (малодшы) быў пераведзены на пасаду адміністратара касцёла ў Осава (Радунскі дэканат), дзе заставаўся да пачатку 1920 гадоў. Вядома, што на імя Віленскага біскупа а. Ю. Матулевіча ад 19.10.1919 г., прыйшоў данос, што кс. Ян Бурба праводзіць дзейнасць, не прыхільную да Польшчы, а ўслед прыйшоў другі ліст у курыю ад парафіянаў, якія даводзілі, што гэта – фальш[109].

---

[107] Direkrorium horarum canonicarum et Missarum pro diocesi Vilnensi in Annum Domini Commumem MCMV. – [1905–1916 hh.] – Vilnae ; Максім Гацак. Адным з першых пачаў ужываць беларускую мову ў касцёле [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: http://bchd.info/13286–adnym–z–pershyh–pachau–uzhyvac–belaruskuyu–movu–u–kascele.html. – Дата доступу: 07.03.2018.

[108] Direkrorium horarum canonicarum et Missarum pro diocesi Vilnensi in Annum Domini Commumem MCMV1915. – Vilnae, 1904. – S. 170.

[109] ДГАЛ. – Ф. 694. – В. 3. – Спр. 1015. – Арк. 40, 41.

У гэтым жа артыкуле ў «Гомане» згадваецца нехта кс. Контрым – дамініканін, які паводле ўспамінаў старажылаў таксама гаварыў беларускамоўныя казанні ў суседніх Вярэйках. У Віленскай дыяцэзіі працавалі два Контрымы. Вядома, што адзін з іх – кс. Гаспар Контрым – нарадзіўся ў 1810 г., пасвечаны ў 1840 г., у 1870-х быў душпастырам у парафіях г. Гродна. Другі – кс. Канстанцін Контрым нарадзіўся ў 1840 г., у 1869 г., пасля заканчэння духоўнай семінарыі, быў пасвечаны на ксяндза. Вучыўся далей (верагодна) у рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі ў Пецярбургу. Ад 1899 г. у Вільні: пробашч касцёла Гары Спасіцеля (1899–1905), капелан касцёла святой Стэфаніі (1905–1908), далей – капелан пры касцёле святога Францыскі ў Вільні і касцёла ў Росса. Памёр у першай палове 1920-х гадоў. Беларускія казанні ў Вярэйках хутчэй за ўсё гаварыліся ў другой палове XIX ст. Які з іх кс. Контрым гаварыў – сёння прыходзіцца пакуль што толькі гадаць.

Значную ролю ў развіцці свядомасці і папулярызацыі нацыянальнай культуры ў асяродку беларусаў-католікаў і іх духоўнікаў адыграла газета «Наша Ніва», праз якую прайшлі ўсе свядомыя ксяндзы беларусы. Пра «нашаніўскі перыяд» у фармаванні свядомасці гаварылася ў папярэдняй манаграфіі[110]. Дапоўнім, што сярод лістоў чытачоў у рэдакцыю газеты за 1912 г. ёсць лісты ад кс. Міхала Пашкевіча з Слабодкі і кс. А. Жукоўскага з Барнаўла з просьбамі дасылаць ім «Нашу Ніву»[111].

Тут спынімся больш падрабязна на папулярызацыі першай беларускай каталіцкай газеты «Беларус» (1913–1915) у асяродку рымска-каталіцкага духавенства. (Пра гісторыю газеты і выдавецтва «Беларус», арганізацыю, фінансаванне, працу рэдакцыі, тэматыку, мову і іншае будзе ісці гутарка ў другой частцы манаграфіі.)

Так, газета была прыхільна сустрэта многімі каталіцкімі святарамі, пра што сведчыць перапіска рэдакцыі з сваімі чытачамі. Дабразычліва да яе адносіліся кс. К. Міхалькевіч – біскуп Віленскай дыяцэзіі (два разы дапамог фінансамі), кс. Я. Курчэўскі, кс. А. Кулеша, кс. М. Руткоўскі, ковенскі біскуп, кс. Ф. Карэвіч. Маральна і матэрыяльна падтрымлівалі газету беларускія святары: Я. Белагаловы, І. Бобіч, Л. Хвецька, Я. Рэшаць, У. Талочка, Ф. Грынкевіч, М. Далецкі, М. Пашковіч, В. Клам і інш. Газета распаўсюджвалася падпіскай і паступала ў продаж. Некаторыя святары выпісвалі некалькі нумароў, да прыкладу, кс. Антон Шылінас выпісваў каля 10 нумароў[112].

Паводле карэспандэнцыі рэдакцыі з сваімі чытачамі (рубрыка «Свая пошта») можна меркаваць пра прыхільнасць значнай групы святароў у асяродку духавенства да газеты і да беларускіх выданняў увогуле. Рэдакцыя ў асноўным дзякавала сваіх чытачоў, у тым ліку і святароў за мараль-

[110] Трацяк І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі… – С. 175–204.
[111] БДАМЛіМ. – Ф. 3. – В. 1. – Спр. 88 // Рэдакцыя газеты «Наша Ніва». – Арк. 16.
[112] Stankiewicz Ad. Biełaruski chryścijanski ruch : histaryčny narys… – S. 70.

ную і матэрыяльную падтрымку газеты, за добрыя словы і прадаплату, інфармавала пра дасланыя аўтарскія матэрыялы і перасылку газеты і іншых матэрыялаў. За малым выключэннем такое ліставанне было зашыфравана крыптонімамі, якія збольшага ўдалося разгадаць. Прапаноўваем версіі разгадкі крыптонімаў святароў і месца іх працы на той час:

«Вел-му Кс. Фр. Р-о. Што зрабіць з лішніцай – 10 злотымі» (1913, № 4) – Вельмішаноўнаму Ксяндзу Францішку Рамейку – на той час пробашчу касцёла ў м. Шэрашава, Пружанскага дэканата;

«Вел-му Кс. Б-у і ўсім прыхільнікам нашай працы дзякуем з усёй душы, з усяго сэрца, але аддруковываць усе вашыя лісты нам ня змога: іх наслалі больш, чым маглі мы спадзявацца, дык мейсца ў так маленькай газеце займаць пахваламі для сябе ня можам, дый не выпадае» (1913, № 4). Кс. Б-у, кс. Францішку Будзьку; менш верагодна – кс. Міхалу Буклярэвічу;

«Кс. П. Б. «Пчалінка» і «Гісторыя Святая» атрыманы (1914, № 7). Кс. П. Б. – Пранцішак (Францішак) Будзька, вікарый пры касцёле св. Станіслава ў Пецярбургу;

«Ваўкавыск. В-му кс. Талочку. Ня лік, а Вашы дарагія словы – вялікай падмогай для нас» (1913, № 15), «В-му кс. (В.) Талочку, (кс. В. Т-ко). За памяць аб нас шчыра дзякуем» (1914, № 2) – кс. Уладзіслаў Талочка – мансіёр касцёла св. Яна ў Вільні;

«Швейцарыя, Фрыбург. В-му кс. А. Ярашэвічу. З вялікай ахвотай спаўняем Ваша жаданьне» (1913, № 15) – кс. Альбін Ярашэвіч[113].

«Барнаул. В-му кс. А. Ж. З усяго сэрца дзякуем. Абяцаных вестак чакаем з вялікай нецярплівасьцю: яны для нас вельмі цікаўны. Усюды, дзе толькі б'ецца беларускае сэрца, як бы яно далёка не было, – для нас – блізкае, дарагое, роднае» (1913, № 16) – кс. Антон Жукоўскі[114], капелан у Барнауле;

[113] Кс. Ярашэвіч Альбін [1879 г., в. Ясянова Даліна Сакольскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Польшча – 18.07.1946 г.]. Скончыў Віленскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю (1900 г.), Фрыбургскі ун-т у Швейцарыі са ступенню магістра багаслоўя (1914 г.), пасвечаны ў святары (1901 г.). Быў пробашчам парафій на Беласточчыне і Вілейшчыне: касцёл у м. Калінаўка Кнышынскага дэканата (1903–1905 гг.), касцёл у мяст. Страбля, Бельскі дэканат (1905–1908 гг.), пробашч парафіі в. Альковічы Вілейскага дэканата (1908–1915 гг.), пробашч касцёла св. Міхала Арханёла ў в. Лужкі Глыбоцкага дэканата (1915–1919 гг.). У 1919–1927 гг. прафесар Віленскай духоўнай семінарыі. Ад 1927 г. пробашч і дэкан у Ваўкавыску, ад 1937 г. пробашч фарнага касцёла св. Францішка Ксаверыя ў Гродне, гродзенскі дэкан, ганаровы канонік. За арганізацыю Грамадскага камітэту дапамогі ахвярам вайны (жнівень, 1941 г.) быў двойчы арыштаваны гестапа. 20.07.1945 г. арыштаваны НКВД. Асуджаны 24.12.1945 г. ваенным трыбуналам НКВД да 8 гадоў ППЛ і 3 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны 25.09.1992 г. прэзідыумам Гродзенскага абл. суда. У 1920–1930-я гады ў беларускім руху ўдзелу не прымаў. *Крыніца інфармацыі*: Маракоў, Л. Рэпрэсаваныя каталіцкія духоўныя, кансэкраваныя і свецкія асобы Беларусі (1917–1964 гг.) / Л. Маракоў. – Мінск, 2008. – С. 478.

[114] Кс. Жукоўскі Антоні [25.02.1885 г., Барысаў Мінскай губ. – 12.10.1937 г., Новасібірск, турма НКВД], скончыў Магілёўскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю ў Санкт-Пецярбургу і быў пасвечаны (1909 г.). Працаваў душпастырам у Томскім, Іркуцкім і Омскім дэканатах. У 1920–1930 гг. неаднаразова арыштоўваўся і быў засуджаны органамі АДПУ. Апошні прысуд 4.10.1937 г. як «члена контррэвалюцыйнай шпіёнскай арганізацыі» падвёў пад ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 27.09.1989 г. *Крыніца інфармацыі*: Маракоў, Л. Рэпрэсаваныя каталіцкія духоўныя, кансэкраваныя і свецкія асобы Беларусі (1917–1964 гг.) / Л. Маракоў. – Мінск, 2008. – С. 174.

«Пану Рушчанцу. Ліст друкуем без пераменаў, хоць гэтаку мову ўважаем за нячыстую, бо ў ёй відзім многа слоў чыста польскіх і многа чыста расейскіх. З думкай вашай, каб усе карэспандэнты пісалі так, як у іх вёсках гаворуць, зусім згаджаемся. Мы рады адзержываць лісты, пісаныя чыста «па-свойму» (1913, № 22) – Язэпу Рэшацю (клерыку 4 курса рымска-каталіцкай духоўнай семінарыі ў Вільні) з в. Рушчаны (Беласточчына). У гэтым жа нумары былі надрукаваныя яго абразкі «Прышла нядзеля – што рабіці»;

«Пану Л. Хвецьку ў Дуброве. Ліст і маркі на 50 к. адзержалі, шчыра дзякуем. Газету будзем пасылаць, ліст будзе друкавацца ў чародным нумары, бо да гэтага спазьніўся» (1913, № 22). Люцыян Хвецька – клерык рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі ў Пецярбургу.

У наступным нумары быў надрукаваны артыкул з в. Дуброва ў рубрыцы «Да нас пішуць» пад псеўданімам Л. Малышэвіч;

«Кс. А. Ш-у. Грошы за 5 нумароў атрымалі, вельмі дзякуем за шырэньне нашай газеты» (1913, № 26), «Кс. А. Ш-су ў Пецярбургу. Пісульку адзержалі і просьбу споўнілі. Шчыра дзякуем за прыхільнасьць шырэньне нашай газеты» (1913, № 29), «Кс. А. Шылінасу. Пісульку і перавод атрымалі, шчыра дзякуем. Туды газета пасылаецца, «Беларус» шырыцца (1914, № 14–15), «В-наму кс. А. Ш – су. Атрымалі, дзякуем. Стараемся, толькі ці ўдасца (1914, № 19). Кс. Антон Шылінас – пробашч касцёла ў Выбаргу (1913–1915), заказваў па 5–10 нумароў «Беларуса»;

«Кс. Ал. А. Пісульку атрымалі і просьбу споўнілі» (1913, № 27), «А. Зязюлі. Дзівімся, чаму не дайшла газета № 27. Выслалі другі раз» (1913, № 29) – кс. Аляксандр Астрамовіч;

«Вел-му Кс. Г-у (Н-u). Чакаем абяцанкі» (1913, № 4). «Кс. Я. Г-чу. Газету выслалі, «Дудку» высылаем, за прысланае Бог Вам заплаціць» (1914, № 8). Варыянты: Кс. Я. Г-вічу, Я. Г-чу – кс. Язэпу Германовічу, вікарый касцёла м. Далістова, Беластоцкі дэканат;

«В-наму Кс. Я. Баравіку ў Фашчоўцы. Ліст атрымалі, шчыра дзякуем. Але тэкст прысланы пані Об-скай зусім ня тэй песьні» (1913, № 30) – кс. Ян Баравік – пробашч парафіі НПМ ў м. Фашчоўка Горацкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Шклоўскі р-н Магілёўскай вобл.[115];

[115] Кс. Ян Баравік [2.06.1877 г., Коўна (Каўнас, Літва) – 27.08.1937 г., Мінск, турма НКВД], скончыў рымска-каталіцкую духоўную семінарыю і акадэмію ў Санкт-Пецярбургу, пасвечаны ў святары (1903 г.). Вікарый (1904–1906 гг.), пробашч (1906–1912 гг.) касцёла Унебаўзяцця НПМ у в. Прыдруйск Дрысенскага пав. Віцебскай губ. (Піедруя, Латвія), у 1912–1920 гг. быў пробашчам парафіі ў в. Фашчоўка (Шклоўскі р-н Магілёўскай вобл.), у 1920–1930 гг. – пробашч шэрагу парафій у Усходняй Беларусі (в. Чарэя Чашніцкі р-н, парафія Талачын Аршанскі р-н, м. Сянно, райцэнтр Віцебскай вобл. Ад 1933 г. пробашч касцёла св. Роха на Залатой Горцы ў Мінску. Арыштаваны 31.05.1937 г. у Мінску. Асуджаны 25.08.1937 г. як «кіраўнік Мінскай філіі контррэвалюцыйнай паўстанцкай арганізацыі ПАВ», за «шпіянаж на карысць буржуазнай Польшчы і спробу звяржэння савецкай улады ў БССР» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 30.04.1989 г. пракуратурай БВА. (Маракоў, Л. Рэпрэсаваныя каталіцкія духоўныя, кансэкраваныя і свецкія асобы Беларусі (1917–1964) / Л. Маракоў. – Мінск, 2008. – С. 40.)

«Пану Каз. Сваяку. Мы ня ведалі добра вашага адрасу, дзеля чаго ня ведаем, ці дасталі вы 50 экз. «Алкаголю», што мы для вас выслалі. Будзьце ласкавы паведаміць» (1913, № 30), «Пану Каз. Сваяку. Твор пекны, але для сцэны трудны, яшчэ памяркуем, можа што выйдзе. Калі ласка, прышліце цяперашні свой адрас, бо ня ведаем» (1913, № 33), «Кс. К. Стаповічу. Вельмі дзякуем за прысланае» (1914, № 6);

«Пётру Простаму ў Рыме шчыра дзякуем за прысланыя матэрыялы і за дарагія для нас словы» (1913, № 31). Пётра Просты – Ільдэфонс Бобіч – студэнт Collegium Germanicum у Рыме;

«Кс. Пр. Белагаловаму. За прадаплату і ўвагу шчыра дзякуем. З паглядам у часьці згаджаемся» (1914, № 2). Кс. Францішак Белагаловы – адміністратар касцёла ў Івянцы;

«Пашт. ст. Ясна. Вель-му кс. Г-і (Н-і). За так пахвальныя для нас і шчырыя словы – вельмі дзякуем» (1913, № 6), «В-му кс. Галоўні ў Ясьне. За добрае зычанне шчыра дзякуем, дай Божа, каб гэтак сталася» (1914, № 3 ). Кс. Ян Галоўня, нар. у 1876 г. пасвечаны на святара ў 1900 г., ад 1910 г. – пробашч у Ясьне, Меркенайскага дэканата. Троцкага пав.;

«В-наму Кс. М. Далецкаму. Вельмі нас цешыць, што «Беларус» пада-баецца. За добрыя пажаданьні шчыра дзякуем...» (1914, № 5), «Кс. Д-скаму. Вельмі дзякуем за прысланае» (1914, № 7). Кс. Міхаіл Далецкі – адміністратар Старчыцкай парафіі Слуцкага дэканата;

«Кс. В. Кламму. За спрыянне «Беларусу» сардэчна дзякуем, дай Божа, каб такіх прыяцеляў мелі мы соткі (1914, № 3). Кс. Уладзіслаў Клам – адміністратар парафіі ў Крэмянцы, Ваўкавыскі пав.;

«В-наму Кс. С. Далецкаму. Дзякуем! (1914, № 27). Кс. Станіславу Далецкаму, пробашчу касцёла ў м. Сабеж, Дрыса-Сабежскі дэканат.

«М. П-вскаму. Пану Сочыўца газета пасылаецца, няхай пытаецца на пошце; за ўсё прысланае шчыра дзякуем» (1914, № 7) – кс. Міхал Пятроўскі – вікарый касцёла ў Далгінава, Віленскі дэканат;

«В-наму кс. Піліпу. Пасылаем, просім шырыць» (1914, № 17). Магчыма кс. Адольфу Філіпу (нар. у 1885 г. у маёнтку Забалоцце Лепельскага пав. Віцебскай губ. Беларус. У 1909 скончыў духоўную семінарыю у Пецярбургу і пасвечаны ў святары. Быў пробашчам касцёла св. Мікалая ў Лузе, С.-Пецярбужскай губ. (01.05.1912–01.04.1915)[116], пазней – адміністратар касцёла ў Полацку;

«В-наму кс. Аўгустайцісу. Прадплата дайшла, дзякуем. «Беларуса» пасылаем (1914, № 17);

«В-наму кс. А. С. Адрас такі самы. Кніжкі высылаем» (1914, № 28). Кс. Антон Салатынскі – адміністратар парафіі Брозава, Беластоцкага дэканата;

[116] Санкт-Петербургский мартиролог духовенства и мирян. Римско-Католическая церковь. Репрессированные священнослужители Петербургского деканата [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: http://www.petergen.com/bovkalo/mart.html. – Дата доступу: 25.05.2017.

«В-наму кс. М. Пашковічу. Жаданыя нумары высылаем, за спрыяньне «Беларуса» шчыра дзякуем (1914, № 11–12), «В-наму кс. М. П-вічу. Прошанае выслалі. Грошы атрымалі, Дзякуем» (1914, № 32), «В-наму Кс. М. Па-вічу. Жаданае споўнім цераз некалькі дзён. Раней ня можна было» (1915, № 14);

«В-наму кс. Т. Ку-аму. Прысланае атрымалі. Вельмі дзякуем» (1914, № 40). «В-наму кс. Т. Кул-скаму. Грошы, аб каторыя пытаецця атрымалі, дзякуем. Просьбу спаўняем» (1915, № 9) – кс. Тэадору Кульскаму;

«В-наму кс. В. М-вічу. Адрас змяніўся. Просім шырыць «Беларуса» між новымі парахвіянамі (1914, № 40) – кс. Уладзіслаў Маркевіч – вікарый касцёла ў Слоніме;

«В-наму Кс. Х... вічу. І выходзіць і пры ласцы Божай мае выходзіць далей» (1914, № 41) – кс. Хрышчановічу (?);

«В-наму кс. Т. З. Шчыра дзякуючы за спрыяньне нашай збожнай справе просім шырыць між парафіянаў каталіцкую газету ў іх роднай мове» (1915, № 3) – кс. Тадэвушу Завадскаму;

«В-наму кс. М. В-насу. Кніжка да набажэнства яшчэ ў друку, але за якія два-тры тыдні будзе гатова, тады вышлім» (1915, № 15–16). «В-наму кс. В-насу. Адасланыя за кніжкі грошы атрымалі; найшчырэй дзякуем» (1915, № 17–18)[117]. Кс. Міхал Варнас – пробашч касцёла ў Аглоне (Латвія);

«Кс. Т. Балтрушайтісу. Грошы праз пана А-ука *(Алексюка)* атрымалі і газету высылаем. Дзякуем за спрыяньне» (1915, № 21–22).

З ліста кс. Міхала Руткоўскага[118] з Разані ад 24.06.1915: «Прашу Вас вельмі прыслаць мне 10 кніжак для набажэнства, лепшых. (Маецца на ўвазе беларускі малітоўнік «Бог з намі» (заўв. аўт. – *І. Т.*). Грошы заплачу

---

[117] Кс. Міхал Варнас [1877 г., в. Шынкуны Ковенскай губ., цяпер Літва – 11.03.1938 г., Магілёў, турма НКВД], з беларускай сялянскай сям'і. Скончыў рымска-каталіцкую духоўную семінарыю ў Санкт-Пецярбургу і пасвечаны ў святары (1900 г.). Быў вікарыем і пробашчам касцёла ў в. Яшмуйжа (1902–1908 гг.), вікарыем касцёла НПМ пры кляштары дамініканцаў у в. Аглона, Дзінабургскага пав. Віцебскай губ., цяпер Латвія (1913–1923 гг.), пробашчам касцёла ў мяст. Лазавіца Клімавіцкага р-на і ў г. Мсціславе. Арыштаваны 23.08.1937 г. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 6.12.1937 г. як «агент буржуазнай Польшчы» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны Вярхоўным судом БССР 16.01.1989 г. (Маракоў, Л. Рэпрэсаваныя каталіцкія духоўныя, кансэкраваныя і свецкія асобы Беларусі (1917–1964) / Л. Маракоў. – Мінск, 2008. – С. 85.)

[118] Кс. Міхал Руткоўскі нарадзіўся 01.09.1862 г. у г. Беластоку. Скончыў Віленскую духоўную семінарыю (1883 г.), пасвечаны ў святары 15.11.1884 г. Займаў розныя пасады ў Віленскай дыяцэзіі: вікарый Эйшыцскага касцёла (1885–1886 гг.), філіяліст, капелан Слонім-скага манастыра ад 1897 г., пробашч касцёла Св. Францыскі ў Гродна (09.07.1905–1907 г.) і Вільні ад 15.02.1907 г. 30.11.1910 г. пераведзены ў Магілёўскую архідыяцэзію. Быў душпастырам у касцёлах Пецярбурга, Разані, Яраслаўля, Рыбінска. Неаднаразова арыштоўваўся савецкімі карнымі органамі і адбываў пакаранне ў турмах. У 1926 г. выехаў па абмену вязьняў у Польшчу. (Книга памяти. Мартиролог католической церкви в СССР // Серебряные нити. – М., 2000. – С. 391.)

туткі на пошце. Дай Бог дачакаць, каб усе беларусы маліліся пасвоему і ў касьцёлах каб мелі беларускую навуку і беларускую песьню! Дай Божа!»[119].

Сярод найбольш актыўных аўтараў газеты былі і прадстаўнікі беларускага каталіцкага кліру: Г. Бэта, Фр. Будзька, А. Жукоўскі, Андрэй Зязюля (кс. А. Астрамовіч), Казімір Сваяк (кс. К. Стаповіч), Пётра Просты (кс. І. Бобіч), Я. Рушчанец (кс. Я. Рэшаць), А. Станкевіч, Адам Саладух (кс. У. Талочка), Л. Хвецька, Ф. Пяткевіч, А. Барташэвіч, Ф. Красоўскі і інш.

Паводле карэспандэнцыі можна прасачыць і геаграфію распаўсюджвання «Беларуса», якая выходзіла далёка за межы этнічнай Беларусі (Пецярбург, Барнаул, Кіеў, Разань, Рым).

Беларускі святар Уладзіслаў Талочка пісаў: «Існуючы ў Вільні (1913–1915) беларускі тыгоднік «Беларус» меў выразную рэлігійную накіраванасьць і каталіцкую паслядоўнасьць, але ня здолеў зьяднаць вакол сябе усіх беларусаў-каталікоў, сярод якіх не адзін меў свае прытэнзіі, альбо да асобы рэдактара (рэд. Б. Пачобка), альбо да яго празмерна ўзгодніцкага, пануючага ў касьцёле, паланізацыйнага кірунку»[120]. Строгая ацэнка кс. У. Талочкі не была без падставаў, але галоўнае, што газета «Беларус» мела «выразную рэлігійную накіраванасьць і каталіцкую паслядоўнасьць», а ўсё астатняе – гэта было праблемай часу, часу, якога не хапала і было вельмі мала для аб’яднаўчых працэсаў. Варта ўлічваць невысокую нацыянальную свядомасць беларусаў католікаў і існуючыя стэрэатыпы адзінства польскасці і каталіцтва, падзеі Першай імперыялістычнай вайны, якія спынілі выхад «Беларуса», а таксама адсутнасць выражанага лідарства сярод ксяндзоў-беларусаў – будучыя арганізатары і рупліўцы беларусізацыі касцёла яшчэ толькі вучыліся ў сваіх духоўных навучальных установах.

## 1.3. ДУШПАСТЫРСКАЯ ПРАЦА КСЯНДЗОЎ-БЕЛАРУСАЎ: АРГАНІЗАЦЫЯ, ВІДЫ І ЗМЕСТ

**1.3.1. Душпастырская праца ў парафіях** *(ксяндзы: Ф. Будзька, А. Лісоўскі, А. Астрамовіч, А. Шыленіс, Я. Вэрсоцкі, І. Жаўняровіч, Я. Семашкевіч, М. Буклярэвіч, К. Стаповіч, Ф. Рамейка, Я. Германовіч, Г. Бэта, іншыя).*

Больш свядомай у нацыянальным пытанні была душпастырская праца ў парафіях. Але што было характэрным і што насцярожвала – гэта непастаяннасць знаходжання святара на адным месцы. Частыя перамяшчэнні святароў з месца на месца духоўнымі ўладамі пазбаўлялі магчымасці больш грунтоўнай духоўнай працы.

---

[119] Pizsuć da nas // Biełarus. – 1915. – № 25–26. – 3 lipnia. – S. 5.

[120] Adam Saładuch. «Krynica» (1919–1923) // Przegląd Wilienski. – 1923. – № 16. – 30 wrzesenia.

Так, пра кс. **Францішку Будзьку** Адам Станкевіч пісаў, што ён быў годным наследнікам біскупа Данісевіча ў справе беларускай мовы ў касцёле, адзін з піянераў як рэлігійнага, так і народнага беларускага сучаснага адраджэння... і ўжо будучы клерыкам цярпеў за беларускую справу: тагачасны адміністратар Віленскай дыяцэзіі кс. Францкевіч загадваў пробашчу ў Парфенаве, каб той не дапускаў Будзькі да катэхізацыі дзяцей пабеларуску і агулам, каб стараніўся яго як шкоднага для касцёла і грамадства беларуса... Праз яго беларускасць польскія касцёльныя ўлады доўга не пасвячалі яго на ксяндза[121]. Стаў ён ксяндзом у 1907 г. дзякуючы біскупу-суфрагану С. Данісевічу. 9.01.1908 г. кс. Ф. Будзька быў накіраваны ў Полацк на вікарыя ў былы дамініканскі касцёл, адкуль вельмі часта ездзіў па просьбе сваіх калегаў у суседнія парафіі з беларускамоўнымі казаннямі. Найчасцей – ва Улу, дзе яшчэ да гэтага пробашч Уладзіслаў Межвіньскі карыстаўся ў касцёле беларускай мовай. Адначасна кс. Будзька ўзяўся за аднаўленне рэлігійнага жыцця ў Шацілаве (23 кіламетры ад Полацка), дзе каталіцкая парафія была скасаванай царскімі ўладамі. Служыў набажэнствы ў прыватным доме і збіраў грошы на пабудову капліцы. У 1912 г. яго пераводзяць у Пецярбург на вікарыя пры касцёле св. Станіслава і прэфекта школ у Пецярбургу. Тут ён становіцца адным з арганізатараў і фундатараў каталіцкай газеты «Беларус» (1913–1915 гг.). У 1916 г. кс. Ф. Будзька вяртаецца на радзіму і купляе ў крэдыт невялікі фальварак Янатруда (каля ст. Глушаніна) недалёка ад Полацку, дзе адбудаваў капліцу, адкрываў беларускія школкі, гаварыў беларускія казанні, па сутнасці, закладаў самастойную беларускую парафію і планаваў пра заснаванне самастойнай беларускай уніяцкай парафіі[122]. Тут ён хацеў пабудаваць касцёл у беларускім народным стылі (праект распрацаваў архітэктар Лявон Вітан-Дубейкаўскі), і нават быў атрыманы дазвол ад царскіх уладаў на будаўніцтва, але ўсяму перашкодай сталі далейшыя ваенныя падзеі і прыход бальшавікоў. Памёр кс. Будзька 2.02.1920 г. у Янатрудзе ад запалення лёгкіх.

Не быў выключэннем у плане перамяшчэнняў з месца на месца вельмі паважаны ў асяродку духавенства сваёй разважлівасцю і далікатнасцю **кс. Адам Лісоўскі** – таксама адзін з піянераў беларускага хрысціянскага адраджэння: быў высвенчаны і накіраваны ў 1907 г. вікарыем у касцёл Дзевы Марыі ў г. Магілёве, пасля прызначаны капеланам мужчынскай гімназіі ў Пецярбурзе (працаваў у перапынак між навучаннем у Інсбруку і Мюнхене ў 1909 г.). Пасля служыў у парафіях св. Тройцы і св. Роха ў Мінску (1910 г.), выконваў абавязкі адміністратара ў касцёле святых Сымона і Алены (1911 г.), нядоўгі час быў прэфектам школ у г. Сума (Украіна) пры філіяльным касцёле (1912 г.), а пасля быў пераведзены ў г. Маскву, дзе

[121] Stankiewicz Ad. Rodnaja mowa u światyniach. – Wilnia, 1929. – S. 77–78.
[122] Там жа.

выкладаў Закон Божы ў свецкіх навучальных установах (1912–1914 гг.). Пазней служыў пробашчам у парафіі Гарадзішча на Піншчыне. З 1916 г. – адміністратар і дэкан у м. Ігумен Мінскай губ. У 1918–1920 гг. працаваў пробашчам парафіі Каралішчавічы і адміністратарам у парафіі Анопаль, адначасова абслугоўваў парафію Камень (Івянецкі дэканат) ад 1919 г. У 1921 г. біскупам С. Лазінскім прызначаны генеральным вікарыем часткі Мінскай дыяцэзіі ў Савецкай Беларусі і пробашчам кафедральнага сабору ў Мінску. Пасля арышту савецкімі органамі, зняволення і дэпартацыі ў Польшчу па абмену вязняў (1924 г.), працаваў адміністратарам у парафіі Гарадзішча каля Пінска, пазней – пробашчам у парафіі Вышкі на Падляссі.

Праблемы з пастаянным месцам душпастырскай працы меў **кс. Аляксандр Астрамовіч** (паэт Андрэй Зязюля). Кс. А. Астрамовіч меў праблемы ад пачатку свайго паклікання быць святаром. Так, яму прыйшлося ехаць у Пецярбург, бо ў духоўную семінарыю ў Вільні яму не ўдалося трапіць: «...ён быў занадта ясны ў нацыянальнай сьведамасьці, і гэта калола ў вочы духоўным уладам, якія былі настроеныя няпрыхільна да беларусаў», – тлумачыў такую сітуацыю яго сябра і зямляк[123]. Пасля заканчэння духоўнай семінарыі ў 1910 г. быў пасвечаны ў святары. Першую імшу адправіў у вёсцы Трабы Валожынскага павета (15.02.1911 г.), пасля быў размеркаваны на Камчатку. Кс. Я. Германовіч адзначаў, што «Астрамовіч ніколі ў сваей сьведамасьці і любові Бацькаўшчыны не захістаўся і дзеля таго ня меў зразуменьня і падтрымкі ў значнай частцы ўлады духоўнай, а падпадаў пад падазрэньне і нават ціхі прасьлед і націск... Гэта вельмі не падабалася польскім дзеячам, і праз іх інтрыгі Астрамовіч ледзь здолеў дастаць, хоць з апазьненьнем, духоўныя пасьвячаньні; а пасьля ледзь здолеў вярнуцца з самай далёкай духоўнай пляцоўкі на Камчатцы!»[124]. З Камчаткі кс. А. Астрамовіч вярнуўся, прыкладна, праз год і працаваў вікарыем касцёла ў Ракаве, пасля вікарыем у парафіі Анопаль Мінскага дэканата (02.07.1912 – да лютага 1915 г.). Пазней быў прызначаны вікарыем у Бабруйскую парафію. Са снежня 1916 г. служыў вікарыем у Смілавічах (Ігуменскі пав.), Рубяжэвічах (Стаўпецкі пав.) і ў суседніх касцёлах, выконваў абавязкі адміністратара касцёла ў Гарадзішчы. З 09.09.1917 г. – пробашч касцёла ў Абольцах Аршанскага дэканата. Несумненна, беларуская мова гучала з вуснаў кс. Аляксандра Астрамовіча ў тых парафіях, дзе яму прыходзілася працаваць: Ракава, Анаполь, Смілавічы (Мінскі дэканат), Бабруйск, Лунінец, Осава, Гарадзішча... 26 лістапада 1914 г. гаварыў жалобнае казанне на беларускай мове на паховінах князя Мікалая Радзівіла ў Кухцічах (Ігуменскі пав.). Кс. А. Станкевіч пісаў, што «нялёгка жылося Зязюлю. За сваю беларускасьць, любоў да беларускага народу нямала прыйшлося яму пацярпець ад сільных гэтага сьвету. Было і так,

[123] Германовіч, Я., а. Мае прыяцелі / а. Я. Германовіч // Божым шляхам. – 1965. – № 2. – С. 6.
[124] Там жа.

што цэлыя два гады быў ён за сваю народніцкую ідэю пазбаўлены парафіі і жыў на ласцы ў ксяндзоў прыяцеляў... Аднак заўсёды заставаўся верным і Касцёлу і Народу»[125]. Трапную характарыстыку даваў кс. Я. Германовіч душпастырскім здольнасцям кс. Астрамовіча: «З свайго характару і з вайсковай шліфоўкі ён вырабіў моцны, рашучы і адважны спосаб жыцьця: быў добрым і вытрывалым арганізатарам, разумным прапагандыстам і вымоўным аратарам»[126]. Калі ж выбухнула Кастрычніцкая рэвалюцыя, меў шмат прыкрасьцяў кс. Астрамовіч і ад камуністычных уладаў. А касцёльныя ўлады ў гэты час пераводзяць яго ў Сянно (Аршанскі дэканат), дзе ён 17.01.1921 г. раптоўна памёр, маючы ўсяго 43 гады. Смерць кс. Астрамовіча стала нечаканасцю для тых, хто яго добра ведаў. Кс. Я. Германовіч пісаў: «Якая была прычына сьмерці, ня ведаю... Мусела здарыцца штосьці цяжкое, ці наглае, што такі здаровы чалавек, загартаваны працай фізычнай у вясковым асяродзьдзі, памёр у поўнай сіле веку... Магчыма, што час рэвалюцыі, недастатку і, магчыма, голаду падарваў яго здароўе, бо памёр ён у зоне савецкай»[127]. Кс. А. Станкевіч прычынай смерці ўказваў хваробу сэрца[128], бо і сапраўды, якое ж трэба было мець сэрца, каб гэта ўсё вытрываць, але а. Леў Гарошка ставіў пад сумненні такі дыягназ, сцвярджаючы, што абставіны і прычыны ягонае прадчаснае смерці да гэтага часу няведамыя і з'яўляюцца загадкавымі, бо меў Астрамовіч добрае здароўе[129]. Пахаваны на мясцовых каталіцкіх могілках. Паўсюдна душпастырская праца кс. А. Астрамовіча характарызавалася беларускамоўным фактарам: казанні і рэлігійныя спевы ў касцёле, размовы з людзьмі, папулярызацыя беларускага друку, перакладная і літаратурная дзейнасць. Кс. А. Станкевіч пісаў: «Не малыя так-жа для беларускай справы заслугі Зязюлі ня толькі як паэта, але так-жа як ідэйнага грамадзяніна. Усе тыя куткі роднай Ашмяншчыны і Валожыншчыны, як Гальшаны, Трабы, Вішнева, Баруны, Крэва, дзе часта прабываў Зязюля, помняць яго і сёньня. Нёс ён туды прамень праўды, сьвятло народнай беларускай сьведамасьці як жывым словам, так і праз родную кніжку і газету»[130].

Шмат прыйшлося пакалясіць па свеце **кс. Антону Шылінісу** – напачатку вікарыя касцёла ў Дзвінску (1908), пасля ў Барысаве, пасля вікарыя ў Росіцы (студзень 1909 г.), пасля пераведзены з Росіцы на вікарыя ў парафію Ліксна (сакавік 1909 г.), з Ліксна – у Томск, а пасля капеланам у

[125] Stankiewicz Ad. Rodnaja mowa u światyniach. – Wilnia, 1929. – S. 83; Stankiewicz Ad. Andrej Ziaziula // Chryścijanskaja Dumka. – 1931. – № 2. – S. 1.

[126] Германовіч, Я., а. Мае прыяцелі / а. Я. Германовіч // Божым шляхам. – 1965. – № 2. – С. 7.

[127] Там жа.

[128] Stankiewicz Ad. Andrej Ziaziula // Chryścijanskaja Dumka. – 1931. – № 2. – S. 1.

[129] Гарошка, Леў, а. Беларускія сьвятары й рэлігійныя дзеячы Беларусі / а. Леў Гарошка // Адзін Госпад, адна Вера, адзін Хрост : крыніцазн. дасьлед. / укл., прадм. А. Любіча, бібл. Л. Юрэвіча. – Мінск : Кнігазбор, 2007. – С. 14.

[130] Stankiewicz Ad. Andrej Ziaziula // Chryścijanskaja Dumka. – 1931. – № 2. – S. 1–2.

Барнаул (жнівень 1909 г.), з Барнаўла на пробашча ў Серафіна Мінскага дэканата (17.10.1911 г.), з Серафіна ў Пецярбург у Выбаргскі касцёл (сакавік 1913 г.)[131]. Пра беларускасць кс. Антона Шылініса ўжо гаварылася, калі гутарка ішла пра яго як пра пробашча парафіі Серафіна. Кс. А. Шылініс размаўляў з парафіянамі на беларускай мове і на ёй «прымушаў» парафіянаў вучыць катэхізм. Болей таго, на беларускай мове вітаў архібіскупа В. Ключынскага ў час візітацыі ім парафіі ў 1912 г.[132]. Відаць, гэтыя абставіны паўплывалі на тое, што ўжо ў наступным годзе кс. А. Шылініс апынуўся ў Выбаргу (1913–1915 гг.), пасля ў Шлісельбургу (Расія) у касцёле Узвышэння Св. Крыжа (1915–1918 гг.), пасля быў пераведзены ў Дзвінск (Даўгаўпілс, Латвія), пробашчам касцёла св. Апосталаў Пятра і Паўла (1919–1926 гг.). З нагоды яго смерці (19.07.1926 г.) «Сялянская Ніва» пісала, што нябожчык належаў да значнай часткі літоўскай інтэлігенцыі, якая шчыра спагадала беларусам. А кс. А. Шылініс не толькі спагадаў, але і прымаў актыўны ўдзел у беларускім руху: у Дзвінскай беларускай гімназіі і школе выкладаў рэлігію на беларускай мове, і ўсюды і заўсёды казаў: «Дзеці, не чурайцеся свайго роднага, бо памрэце!»[133]. Застаецца яшчэ дадаць, што кс. А. Шылініс быў вельмі актыўным у падтрымцы і распаўсюджванні газет «Беларус» і «Беларуская Крыніца».

Чым бы не тлумачылася такая ратацыя кадраў (вытворчай неабходнасцю ці нейкімі іншымі прычынамі), наўрад ці яна была апраўданай з пункту гледжання нармалізацыі душпастырскай працы ў парафіях, калі маладому ксяндзу-беларусу за пяць першых гадоў працы прыходзіцца чатыры разы мяняць месца працы не па сваёй волі. Да прыкладу, **кс. Ян Вэрсоцкі:** высвенчаны ў 1915 г. і прызначаны на вікарыя ў Смаленск, пасля пераведзены вікарыем у касцёл св. Тройцы ў Мінск (1916–1919 гг.), пасля накіраваны на пасаду пробашча парафіі Забялы Дрыса-Сябежскага дэканата (1919 г.), пазней – у парафію Дрыса.

Не менш разнастайнай і такой жа раскіданай была душпастырская геаграфія беларускага духавенства ў іншых беларускіх рэгіёнах.

Так, **кс. Янка Семашкевіч;** псеўд. Янка Быліна (10.03.1883 г., в. Лакцяны, Свянцянскага пав. – 02.08.1956 г., Марыянава, Беластоцкі пав.), належаў да беларускіх святароў старэйшага пакалення – А. Астрамовіча, Ф. Будзькі, Ф. Грынкевіча, А. Лісоўскага, Ф. Рамейкі, У. Талочкі, з якімі быў звязаны не толькі гадамі вучобы, але і цесным сяброўствам. Скончыў Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю (1907 г.) і ў гэтым годзе быў пасвечаны ў святары. Служыў спачатку вікарыем, а пасля пробашчам у

---

[131] Wiadomości Archidyecezalne. – 1909, № 1, № 3, № 8; 1911, № 21; 1913, № 7.

[132] Трацяк І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі… – С. 191.

[133] Памёр ксёндз-Ліцьвін Антоні Шыляніс – прыяцель беларускі // Сялянская Ніва. – 1926. – № 25. – 18 жніўня. – С. 3.

Ільы (Вілейскі пав.), дзе за шлюб праваслаўнага з каталічкай быў асуджаны на 25 руб. штрафу і адхілены на тры месяцы ад пасады. У кастрычніку 1910 г. кс. Ян Семашкевіч быў прызначаны на пасаду пробашча Смаргонскага касцёла (паводле інфармацыі павятовага спраўніка, ён адмовіўся ад гэтай пасады)[134], бо ўжо 17 лістапада 1910 г. быў прызначаны Віленскім біскупам на пасаду пробашча ў м. Дварэц, Слонімскага уезда; у чэрвені 1912 г. быў пераведзены ў Ашмянскі дэканат на пасаду пробашча Дудскага касцёла, але тут доўга не затрымаўся, як быў прызначаны ў парафіяльны касцёл м. Граўжышкі (1912–1915 гг.). У часы Першай сусветнай вайны прадстаўляў беларускае каталіцкае духавенства ў Віленскім камітэце дапамогі пацярпелым ад вайны. У 1917–1918 гг. прымаў удзел у арганізацыі і правядзенні ў Вільні Беларускай канферэнцыі. Ад 1917 г. быў пробашчам у парафіі Лаварышкі і Цудзенішкі (Ашмянскі пав.), абслугоўваў парафіі Меднікі і Дукшты Піярскія (Віленскі пав.). Актыўна выступаў за беларусізацыю рэлігійнага жыцця беларусаў-католікаў; у паўсядзённай душпастырскай дзейнасці выкарыстоўваў беларускую мову.

**Ксёндз Міхаіл Буклярэвіч**, будучы ў 1908–1912 гг. адміністратарам Нарэўскай парафіі, Пружанскага пав. (сёння Гайнаўскі пав., Польшча), заарганізаваў парафію і пачаў будаваць на ахвяраванні парафіян новы касцёл у м. Нарэўка[135]. Якім аўтарытэтам і любоўю карыстаўся кс. М. Буклярэвіч у сваіх парафіян яскрава сведчаць іх лісты «Его Высокоподобию Господину Управляющему Виленской Епархией» з нагоды яго пераводу ў іншую парафію: «З яго адыходам мы страцім кіраўніцтва нашых душаў, хрысталюбага спавядальніка, шчырага, добрага сьвятара, ды і справы царквы пацерпіць» (Ліст ад 22.04.1912 г., больш сто подпісаў)[136]. Адпаведны ліст на імя Его Высокоподобію даслалі працоўныя і служачыя крыштальнага завода ў Нарэўцы, між іншым яны пішуць: «Наш глыбокапаважаны і вельмі любімы ксёндз Міхаіл Буклярэвіч аб'вясьціў аб сваім пераводзе ў другую парафію. Такімі перамяшчэньнямі Вы нас крыўдзіце і прычыняеце страту ў пачатай будоўлі касьцёла, які нам вельмі патрэбен»[137]. Але нягледзячы на просьбы парафіян, кс. М. Буклярэвіч быў пераведзены ў іншую парафію.

**Ксёндз Канстанцін Стаповіч.** Душпастырская праца беларускага каталіцкага духавенства не замыкалася толькі ў выкананні непасрэдных абавязкаў душпастыра. Актыўная пазіцыя іншага святара надавала гэтай працы шматгранны характар парафіяльнай дзейнасці ў хрысціянска-асветніцкім і культурным жыцці парафіянаў. Так, пэўную ролю ў такой дзей-

---

[134] НГАРБ у Гродна. – Ф. 1. – В. 18. – Спр. 1562. О вредной деятельности кс. Иоанна Семашкевича (об изобличении в ненависти к православной религии).

[135] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы (ДГАЛ). – Ф. 694. – В. 3. – Спр. 1014. – Арк. 5–6.

[136] ДГАЛ. – Ф. 694. – В. 3. – Спр. 1014. – Арк. 5–6.

[137] Там жа. – Арк. 7–8.

насці адыгрывалі хоры, драматычныя, музычныя і літаратурныя гурткі, арганізатарамі якіх у парафіях выступалі беларускія святары. Узорны прыклад такой дзейнасці прадэманстраваў малады ксёндз Канстанцін Стаповіч у 1916 г. у роднай Клюшчанскай парафіі (Свірскі дэканат, Свянцянскі пав.). У 1915 г. К. Стаповіч скончыў вучобу ў рымска-каталіцкай акадэміі ў Пецярбургу, быў пасвечаны на святара і накіраваны ў м. Камаі (Свянцянскі дэк.) на пасаду вікарыя. У сувязі з падзеямі Першай сусветнай вайны (лінія фронту, Свянцянскі прарыў, Нарачанская аперацыя) рэлігійнае жыццё мястэчка было парушана, і малады вікарый не без дазволу духоўнай улады душпастырскую працу стаў праводзіць у парафіі Клюшчаны, дзе жылі бацькі К. Стаповіча. Тамашні кс. Рафал Юхнік пакінуў парафію пры набліжэнні фронту.

Апрача спраўнага выканання святарскіх абавязкаў у парафіі, малады ксёндз К. Стаповіч арганізаваў пры мясцовым касцёле беларускі царкоўна-народны хор колькасцю 40 удзельнікаў з рэпертуарам як царкоўных песняў, так і народных. Мяркуючы па характарыстыцы калегі Я. Германовіча пра тое, што К. Стаповіч «у навуцы асабліва быў здольны да языкоў: лаціну і французскі ўспрымаў значна скарэй ад мяне, але ў матэматыцы аказаўся слабейшы. Іграў на скрыпцы; а голас меў – такі прыемны, далікатны першы тэнар, што здавалася выб’ецца на сапраўднага артысту»[138] і сам быў актыўным удзельнікам спеваў. Хутка касцёльны хор развіўся да беларускай нелегальнай суполкі «Хаўрус Сваякоў», якая разгарнула шырокую нацыянальна-асветніцкую працу сярод вяскоўцаў[139]. Галоўнай задачай «Хаўрусу» была самаадукацыя моладзі на падставах хрысціянскай этыкі. Рыхтаваліся і чыталіся рэфераты хрысціянскай тэматыкі і на тэмы беларускай гісторыі, мовы, культуры, ладзіліся літаратурныя вечарыны, канцэртныя і сцэнічныя прадстаўленні, сустрэчы з вядомымі людзьмі, арганізоўвалася праца народнай бібліятэкі, праводзілася апякунства над беларускімі школкамі. Пры «Хаўрусу» арганізавалася драматычная група, для якой кс. К. Стаповіч часта пісаў сцэнарыі, сцэнічныя абразкі і нават п’есы (п’еса «Пахмельнае зельле», прэм’ера якой адбылася 12 чэрвеня 1916 г. у спецыяльна абсталяваным месцы аднаго з сяброў «Хаўрусу» Віктара Смаленскага «пры поўным гумне народу»[140]). Пазней п’еса «Пахмельнае зельле» была пераіменавана ў «Янка Канцавы». Кс. К. Стаповіч праводзіў прадуманую і мэтанакіраваную барацьбу з алкаголем. Як праводзілася такая праца, яскрава сведчыць арганізаваная маральна-этычныя гутарка ў гуртку моладзі «Хаўрус сваякоў» на тэму: «Які ха-

[138] Германовіч, Язэп, а. Мае прыяцелі (успаміны): Кастусь Стэповіч (1890–1926) сьвятар, паэт, пісьменьнік / а. Язэп Германовіч // Божым шляхам. – 1964. – № 87. – С. 15.

[139] Stankiewiecz Ad. Kazimir Swajak i narys ab jahonaj ideolohii. (U 5-yja uhodki śmierci). – Wilnia : Chryścijanskaja Dumka, 1931. – 60 s.

[140] Стаповіч, Бярнард. З успамінаў пра Казіміра Сваяка / Бярнард Стаповіч // Полымя. – 1990. – № 2. – С. 196.

рактар лічыш за найлепшы і чаму?». Вось што гаварыў кс. К. Стаповіч з гэтай нагоды: «...Чалавека, каторы відзіць пакорна слабасьць і ўсьцяж стараецца папраўляцца, бязупынна да гармонійнага выканчэньня сябя ісьці, я назаву чалавекам найлепшага характару. Пакора бароніць ад найгоршай хваробы характару, ад бязьверра, каторае ёсьць затратай пачуцьця адказнасьці прад Богам. Пакора асьцерагае прад самаглюбствам, навучаючы, што ты ня лепшы за другога, а затым мусіш мець выразумеласьць для людзей і пашану. Пакора бароніць ад неахвоты і роспачы, бо дае зразуменьне слоў Хрыстуса: «Без Мяне нічога ня можаце». Дае спазнаньне слоў сьв. Паўла: «Усё магу з Тым, каторы змацняе мяне». Агульне скажам, што характар найлепшы мусіць быць дасканальным, мусіць мець усе ўлады розуму, волі гармонічна разьвітымі... У Хрыстусе маем найстрайнейшы ўзор характару. Каб мець характар блізкі да гэтага Боскага ўзору, патрэба: 1) старацца мець вялікую жыцьцёвую спраўнасьць, каторая вучыла б нас кожны выпадак жыцьцёвы абярнуць для карысьці духоўнага разьвіцьця характару. Назавём гэта бязупыннай творчасьцяй духа, 2) мець вялізную чуласьць на тое, што вокал нас дзеецца, каб усё відзець і разумець у сьвятле вечнатрывалай асновы несьмяротнай ідэі. Назавём гэта дарам вышэйшае празорнасьці... [141]. Можна толькі ўявіць, якімі рэлігійна-філасофскімі і глыбокапазнавальнымі былі казанні кс. К. Стаповіча, тым больш, калі ўлічыць, што яны былі гавораны на зразумелай народу мове – беларускай. У сваім дзённіку кс. К. Стаповіч напіша, што «Справа беларушчыны зачынае прымаць зусім праўдны характар, там, дзе складаецца арганізацыя, якая як-кольвечы здабывае права для сваёй мовы і звычаю. Як можна дадумацца, зложыцца звольна і касьцёльнае жыцьцё з правам для мовы роднай. «Гоман» віленскі ясна даводзіць патрэбу адбудовы ўніі – адвечнай веры бацькоў нашых… Пад гэтым новым павевам і я ў сваім родным касьцёле сказаў 21.XI.1915 г. добрую часьць казаньня роднай гаворкай»[142]. Мовай сваіх бацькоў і сяльчан карыстаўся кс. Стаповіч і ў штодзённасці ў гутарках з людзьмі. Апрача гэтага выступіў арганізатарам беларускіх школак, настаўніцкіх курсаў пры іх і выкладчыкам прадметаў на курсах. У дзённіку ён пісаў: «У часе калядным зладзілі мы тут “курсы”, каб на скорую руку прыгатаваць вучыцялёў вясковых. Аснавалі 7 школкаў, з каторых 4, маючыя лепшых вучыцялёў, і дагэтуль чынныя. Усюды было дадзена права для роднае мовы. Было пастаноўлена, каб пачатковая навука адбывалася па-беларускаму, а старшыя дзеці мелі побач і па-польску. Работа пайшла ахвотна, хоць некаторыя гаспадары спачатку крывіліся на язык “просты”...»[143].

Вось толькі невялікі пералік тых добрых справаў кс. Стаповіча, якія паднялі Клюшчанскую парафію на больш высокі маральна-хрысціянскі і

[141] Сваяк, Казімір. Дзея маёй мысьлі, сэрца і волі / Казімір Сваяк. – Выд. 2-е. – Лёндан : Божым шляхам, 1991. – С. 25.

[142] Там жа. – С. 24.

[143] Там жа.

культурны ўзровень у параўнанні з іншымі. Але ці не гэтыя добрыя справы сталі нагодай пераводу святара ў іншую парафію.

«Паўсталі такжа проціў мяне і паны, – працягваў пісаць кс. Стаповіч у дзённіку. – Яны былі нездаволены з майго сяброўства з «простымі». Даказвалі яны народу, што беларушчына – справа шкодная для каталіцкага касьцёла, што шырыць умілаваньне гэтай «рускай» гаворкі ня мае сэнсу, што касьцёл тутэйшы быў заўсёды польскім і г. д. Адзін з іх перадаў вестку ў Вільню, што парафія Клюшчаны беларусіцца. Як відаць, палякі ня хочаць прызнаваць беларусу права браць лёс свой у свае рукі...»[144].

Беларуская праца святара ў парафіі прывяла да канфлікту з польскімі духоўнымі і свецкімі ўладамі. Парафіяне Клюшчанскай парафіі неаднаразова выступалі з заявамі ў абарону кс. К. Стаповіча і з просьбамі пакінуць яго ў парафіі, улічваючы той факт, што ксёндз з'яўляецца не толькі высокагуманным чалавекам, але і робіць усё, «каб людзі ў зразумелай мове пазнавалі Закон Божы»[145], але такія просьбы ўжо не змаглі дапамагчы. У пачатку лістапада 1916 г. кс. К. Стаповіч быў высланы на Беласточчыну ў г. Карыцын (Сакольскі пав.) у якасці вікарыя. У дзённіку ён адзначыць, што, азнаёміўшыся з парафіяй, убачыў, што тут амаль што ўсе беларусы і размаўляюць на мове, якая «мала рожніцца і ад нашай надвялейскай», стаў асцярожна праводзіць беларускую працу: заспяваў колькі беларускіх песень, сказаў пару казкаў, задэкламаваў «Званара» і даў пачытаць «Пчалінку». Але далей гэтага праца не пайшла, бо быў строга папярэджаны тамашнім пробашчам[146]: «...Прашу ня шырыць ані песьняў, ані казкаў, ані дэклямацыяў беларускіх... Гэтага вымагае касьцельная палітыка з Вільні... Ёсьць-бо небясьпека, што ад умілаваньня роднай мовы, Беларус пачне дамагацца нават рэформы ў касьцёле»[147].

Адкрытая беларуская пазіцыя святара і невылечаная ў тыя часы хвароба (сухоты), з чым былі выкліканыя частыя выезды на лячэнне ў Закапанае, не спрыялі пастаяннаму месцу душпастырскай працы кс. К. Стаповіча. Вясной 1918 г. ён выехаў у Закапанае і ў Карыцын больш не вярнуўся. Летам 1919 г. спыніўся ў Лапеніцы ў кс. Язэпа Германовіча, а пасля зноў Закапанае, часовае пражыванне і праца ў Падброддзе, Клюшчанах і Буйвідах, пакуль у канцы 1921 г. яго не прызначылі на сталае месца пробашча ў парафію Засвір, дзе і там трывала зацвердзіў сябе як беларускі ксёндз, уводзячы беларускую мову ў набажэнствы і абуджаючы ў сваіх парафіянах беларускую нацыянальную свядомасць[148].

[144] Сваяк Казімір. Дзея маёй мысьлі, сэрца і волі... – С. 24.
[145] ДГАЛ. – Ф. 694. – В. 3. – Спр. 821а. – Арк. 46.
[146] Пробашчам у Карыцыне ў гэты час быў кс. Стафан Раманоўскі.
[147] Сваяк Казімір. Дзея маёй мысьлі, сэрца і волі... – С. 30.
[148] Глагоўская, Лена. Браты Стаповічы / Лена Глагоўская // Беларусіка – Albaruthenica 8. Беларусь – Расія – Японія. Матэрыялы Першых Астравецкіх краязнаўчых чытанняў, прысв. памяці Іосіфа Гашкевіча / рэд. Г. Брэгер [і інш.]. – Мінск : ННАЦ імя Ф. Скарыны, 1997. – С. 70–76.

**Кс. Францішак Рамейка**[149], пробашч парафіі Шэрашава (Пружанскі пав.) заўсёды быў сваім чалавекам для парафіян. У «Беларускай Думцы» чытаем: «...цэнным працаўнікам у гэтым мястэчку, шчырым сынам Беларусі, каторы ціха, бяз розгаласу, ужо больш як дзесяць год няўпынна працуе – гэта кс. Ф. Рамейка... Дзякуючы яму маладзёж шануе сваю мову і звычаі, не закідае сваіх строяў нацыянальных, ахвотна горніцца да прасьветы, чытаюць беларускую літаратуру і арганізуюць беларускі хор... Цяжка было працаваць кс. Рамейку аднаму без маральнай паддзержкі і парады з іншымі, працуючы на гэтым полю, маючы каля сябе гэтулькі ворагаў нашай справы. Столькі цяжару прышлося перанесьці, столькі прыкрасьці пераЖыць...»[150]. Але, не зважаючы на гэта, кс. Ф. Рамейка ў парафіі м. Шэрашава адкрываў беларускія школкі, апекаваўся дзіцячым прытулкам для дзяцей сіротаў вайны; праводзіў катэхізацыю дзяцей ў беларускай мове, арганізаваў і кіраваў беларускім касцельным хорам[151]. Кс. Я. Германовіч пісаў, што «Рамейка меў музыкальныя здольнасьці: ахвотна пяяў сам і вучыў моладзь і дзяцей пяяць па-беларуску. Да сьпеву памагаў сваёй гітарай, і гэтым ажыўляў кожную сьпеўку»[152]. Апрача гэтага кс. Фр. Рамейка калекцыяваў беларускія старажытнасці. У яго зборах было 150 каштоўных дакументаў XVI–XVII ст.ст. на беларускай мове, якія ён хацеў бы ахвяраваць у беларускі нацыянальны музей. Далей аўтар пісаў пра тое, што кс. Рамейка выступаў супраць выканання ў касьцёле польскага гімна «Boże coś Polske», а «Kurjer Polski» назваў яго «шкоднікам для справы нарадовай» і мясцовыя польскія шавіністы рабілі розныя несправядлівыя і непраўдзівыя закіды, каб выслаць ксяндза ў самую Польшчу, «дзе яго добра б правучылі»[153]. Інакш складвалася сітуацыя ў кс. Ф. Рамейкі з простымі людзьмі. Айцец Я. Германовіч адзначаў, што «Францысь меў ахвоту пагутарыць зь людзьмі на ўсякія гаспадарскія і грамадзкія тэмы: быў у парахвіі ўсюды сваім чалавекам, які разумеў сваіх людзей і яны яго разумелі і ахвотна ўсюды прыймалі… На беларускай мове праводзіў казанні ў касцёле і гаварыў з людзьмі ў парафіі»[154]. У Шэрашаўскай парафіі кс.

[149]Кс. Францішак Рамейка (11.07.1885 г., в. Нецькі Свірскай вол. Свянцянскага пав. Віленскай губ. (цяпер – Мядзельскі р-н Мінскай вобл.) – 16.06.1931 г., Вільня). Скончыў Віленскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю (1905–1909 гг.). У 1909 г. быў высвечаны на святара. Вікарый Бернардынскага касцёла ў Вільні (1909–1910 гг.), пробашч касцёла ў в. Сялец (1910–1912 гг.) і парафіі Шэрашава Пружанскага дэканата (1913–1921 гг.), пробашч касцёла ў в. Задарожжа Глыбоцкага дэканата (1921–1929 гг.), касцёла Кямялішкі Варнянскага дэканата (1929–1931 гг.).

[150] П-нка. З падарожы // Беларуская Думка. – 1919. – № 22. – 16 чэрвеня. – С. 2–3.

[151] Там жа. – С. 2–3; Stankiewicz Ad. Rodnaja mowa u światyniach. – Wilnia, 1929. – С. 86.

[152] Германовіч, Я. Мае прыяцелі – Францісь Рамейка / Я. Германовіч // Божым шляхам. – 1965. – № 3. – С. 6–7.

[153] П-нка. З падарожы // Беларуская Думка. – 1919. – № 22. – 16 чэрвеня. – С. 2–3.

[154] Германовіч, Я. Мае прыяцелі – Францісь Рамейка / Я. Германовіч // Божым шляхам. – 1965. – № 3. – С. 6–7.

Ф. Рамейка за гады свае працы (1913–1921 гг.) аднавіў і прывёў у парадак парафіяльны касцёл, адкрыў капліцу ў Вялікім Сяле[155]. У сувязі з яго перамяшчэннем у іншую парафію на адрас Яго Эксцэленцыі ў Вільні прыйшло некалькі лістоў ад парафіянаў з просьбамі пакінуць кс. Ф. Рамейку. Так, парафіяне з в. Вялікае Сяло (каля ста подпісаў) пішуць, што ксёндз Ф. Рамейка не пакідаў іх у самыя крытычныя часы вайны, аднавіў і прывёў у парадак парафіяльны касцёл, яго стараннямі была адкрыта капліца ў Вялікім Сяле[156]. Аналагічны ліст (больш 100 подпісаў) быў дасланы ад парафіян м. Шэрашова[157]. Больш 300 парафіян падпісаліся пад просьбай у Віленскую курыю пакінуць ім кс. Францішка Рамейку ў Шэрашава: «...працуючы колькі гадоў для нашага дабра, ведае нашы патрэбы, стасункі, патрафіў заскарбіць наша спачуванне і шчыру міласць так, што глыбока мы адчуем яго страту». Ліст ад 3.04.1921[158]. Але, нягледзячы на просьбы вернікаў, у 1921 г. кс. Ф. Рамейка быў пераведзены ў іншае месца.

Што было характэрным для такіх, незразумелых для вернікаў пераводаў, дык гэта тое, што яны заўсёды выклікалі непаразуменні ў іх. Таму і суправаджаліся яны шматлікімі зваротамі парафіян з подпісамі да касцёльных уладаў з просьбамі не забіраць ад іх святара. Мы ўжо згадвалі пра выпадкі з кс. М. Буклярэвічам, кс. К. Стаповічам і кс. Ф. Рамейкам. Заступніцтва парафіян за свайго святара перад духоўнай уладай было з'явай паўсюднай сярод беларусаў-католікаў. Яшчэ адзін такі характэрны прыклад быў звязаны з кс. Ігнатам Жаўняровічам, у абарону якога ў 1924 г. вернікі Аршанскай парафіі выступілі з вельмі характэрнымі абгрунтаваннямі сапраўднай душпастырскай дзейнасці святара: «Его Эксцеленции Епископу Могилёвской Диецезии в Петрограде Прихожан Оршанского Римско-Католического Приходского Костёла. ...Помимо приведения кс. И. Жолнеровичем по получении им в своё ведение нашего расшатанного во всех смыслах до этого прихода в цветущее состояние; оказанной им за время почти трёхлетнего пребывания Настоятелем Оршанского Р.-К. Приходского Костёла неутомимой энергии в деле укрепления католических, нравственных основ в прихожанах вверенного ему прихода, – им за это время детально изучены моральные и материальные условия жизни каждого из нас. Кроме того, знакомство кс. И. Жолнеровича с нашим местным Белорусским языком облегчало наше общение с ним»[159].

---

155 Германовіч Я. Мае прыяцелі – Францісь Рамейка // Божым шляхам. – 1965. – № 3. – С. 6–7; Stankiewiecz Ad. Rodnaja mowa u światyniach… – С. 86.

156 ДГАЛ. – Ф. 694. – В. 3. – Спр. 1151. – Арк. 14.

157 Там жа. – В. 3. – Спр. 1151. – Арк. 25.

158 Там жа. – Арк. 26.

159 Заява каталіцкіх вернікаў Аршанскай парафіі ў справе душпастырскай дзейнасці святара Ігната Жаўняровіча (ЦГИА, ф. 826). Цыт. паводле: Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя: Жыццяпісы. Мартыралогія. Успаміны / аўт.-уклад. Ю. Гарбінскі. – Мінск : Мюнхен, 1999. – С. 525.

**Кс. Язэп Германовіч,** яшчэ адзін беларускі патрыёт і вядомы пісьменнік, распачаў душпастырскую працу ў 1914 г. у Далістове (Беластоцкі пав.) вікарыям ксяндза Гуневіча з перамяшчэннем у Беласток (1915 г.), пасьля ізноў у Далістова, пасля ў Крыпна, Мсьцібова і, нарэшце, пробашчам у Вялікую Лапеніцу Ваўкавыскага пав. (1919–1920 гг.), дзе апрача звычайна душпастырскай працы ён гаварыў казанні на роднай мове і арганізоўваў беларускія школкі. Вось што пра гэта пісаў у дзённіку навочны сведка і ўдзельнік такой працы кс. К. Стаповіч: «27.VII.1919. Лапеніца. Прамаўляў тут па-беларуску. Неспадзявана добрай душой была выслухана прамова, хоць колькі асоб з мяйсцовай шляхты спачатку ўсьміхнуліся, то «папросту» аб Богу стаў вучыць... Заінтэрэсаваньне збудзілася аднак немалое – асабліва (як паказалася пасьля) спаміж праваслаўных. Гэтых апошніх можна было б такім парадкам пацягнуць да Касьцёла і яго навукі, бо польшчыны яны ня церпяць... 3.VIII. Другое казаньне. Спачатку адзін голас (на хорах) нездаваленьня... Ціш, заінтэрэсаваньне небывалае. 8.VIII. Прышоў ліст ад дзекана, забараняе навук беларускіх цэлай сваей «павагай». 10.VIII. Адзін шляхціц перасьцерагае, каб навукаў беларускіх ня ўводзіць. 17.VIII. Навукі няма. Адначасна адбываўся зьезд ксяндзоў і дзекана. Выснавам быў пратэст, падпісаны ксяндзамі проці ўваджэньня беларускай мовы ў касьцёл. Проціў пробашча кс. Я. Германовіча пачаўся байкот цэлага дзеканату. Адзін малады ксёндз, а такжа клерык стаў па старане пробашча. 24.VIII. Ад рана сход сялян у справе школ. Вось што прыгаварылі: «Дня 24 жніўня 1919 г. мы грамадзяне з вёсак: Грыневічы, Дзямідавічы, Мухайлы, Боркі, Камяніца і Малая Лапеніца разьбіралі ў будынку школьным патрэбу адкрыцьця школ. Сход адбыўся пад загадам кс. пробашча Лапяніцкага Кс. Я. Германовіча. Сход пастанавіў: 1. Адкрыць дзьве школы ў Мал. Лапеніцы (для хлапцоў і дзяўчат) і адну ў Вялікай Лапеніцы. 2. Навука ў гэтых трох школах павінна адбывацца пабеларуску, з дадатковым прадметам польскім. 3. Сход выбраў спаміж сябе Раду Школьную з ніжэй падпісаных асоб: старшынёй кс. Я. Германовіча, сэкрэтаром С. Шчыглінскага, сябрамі Тодара Пякарскага з Грыневіч, Яся Бублея і Пятрука Ляхоўскага. 4. Сход даручае Радзе Школьнай здабыць грошы на паправу будынкаў школьных, знайсьці вучыцялёў Беларусаў і каб чым хутчэй магла пачацца навука. (Подпісаў трыццаць). 25.VIII. Прышоў адказ ад біскупа, у каторым паклікаючыся на цьверджаньне дзекана, што беларускія казаньні быццам шкодзяць Касьцёлу, забараняе ўводзіць іх...»[160].

Кс. Я. Германовіч пра гэтыя падзеі пісаў у тлумачальнай Дэкларацыі, што казанні на беларускай мове гаварыліся кс. Стаповічам па яго просьбе спецыяльна для праваслаўных, пасля навукі польскай, якую праводзіў ён сам. Такія казанні патрэбны не дзеля натуры народнай, а дзеля мэтаў

[160] Сваяк Казімір. Дзея маёй мысьлі, сэрца і волі… – С. 34.

місійных. Казанні такія былі забароненыя Ваўкавыскім дэканам кс. Н. Тарасевічам і прыватным лістом біскупа а. Ю. Матулевіча[161].

Баляслаў Пачобка трохі пазней пісаў, што калі ў 1919 г. у Лапеніцы было сказана некалькі казаньняў на беларускай мове, дык «касьцёл быў перапоўнены праваслаўнымі, але розныя «патрыёты» ударылі ў тарабаны, што кс. шырыць «бальшавізм» і ксяндза ледзь не арыштавалі. Зараз касьцёл сьвеціць пусткамі і ўсё больш хіліцца да ўпаду»[162]. Дарэчы, сёння касцёл у Лапеніцы не дзейнічае – ад памяшкання застаўся толькі разбураны мур.

У 1920 г. кс. Язэпа Германовіча перавялі ў Луконіцу Слонімскага пав. (1920–1923 гг.), дзе прыйшлося перанесці напачатку арышты і праследы ад бальшавікоў, а пасля 1921 г. ціск і праследы з боку польскіх уладаў. Айцец Часлаў Сіповіч пісаў пра гэты перыяд працы кс. Германовіча: «Сьвятарская праца сама па сабе ня ёсьць лёгкай, а што-ж, калі выпадзе яна ў час вайны, голаду, заразьлівых хваробаў і рэвалюцыяў. Тады сьвятару патрэба большай разважнасьці, маральнай і фізычнай сілы, каб сам не загінуў марна і каб другім дапамог. Аднак ідэёвыя сьвятары пры помачы Божай перамагаюць усе цяжкасьці і ў жыцьці іхнім спраўджаецца тое, што ўсе дарогі вядуць да Бога. Гэтак яно сталася ў жыцьці і дзейнасьці а. Я. Германовіча»[163].

* * *

Апрача вышэйзгаданых святароў, шчыра працавалі ў гэты час на душпастырскай беларускай ніве такія святары, як Уладзіслаў Клам, Сіман Сідзевіч, Генрых Бэта, Генрых Гарасімовіч і іншыя[164]. Так, кс. Уладзіслаў Клам (1874–6.08.1920 гг.) скончыў Віленскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю і ў 1901 г. быў пасвечаны на святара. Служыў адміністратарам касцёла св. Апосталаў Пятра і Паўла ў в. Ражанка Лідскага дэканата. Быў рэктарам Згуртавання Сясцёр Беззаганных у кляштары бернардынцаў у Слоніме, катэхет гімназіі. З 1905 г. – адміністратар парафіі Божага Цела і св. Мучаніка Юрыя ў в. Крамяніца Ваўкавыскага дэканата (цяпер Зэльвенскі р-н Гродзенскай вобл.). Матэрыяльна і духоўна падтрымліваў газету «Беларус», гаварыў беларускія казанні і спрыяў папуля-

[161] ЦНБНАНБ. – Ф. 23. – В. 1. – Спр. 27. – Арк. 1.

[162] Bolesław Poczobka. Paru słow o biełorusinach i ich patrebach // Przegłęd Wilenski. – 1923. – № 20. – 26 listopada. – S. 6.

[163] Вучань Вінцука Адважнага [а. Часлаў Сіповіч]. Айцец Язэп Германовіч – жыцьцё і творчасьць (З нагоды 50-х угодкаў сьвятарства) // Божым шляхам. – 1964. – № 82. – С. 10.

[164] ДГАЛ. – Ф. 694. – В. 3. – Спр. 1151; ЦНБНАНБ. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 5. – В. 1. – Спр. 1; Stankiewicz Ad. Rodnaja mowa u światyniach… – S. 80–85; Трацяк, Янка. Беларускае духавенства (пач. XX ст. – 1930-я гады) / Янка Трацяк // Беларускі гістарычны часопіс. – 1999. – № 2. – С. 42; яго ж: Беларускае духавенства ў першай палове XX ст. // Białoruskie Zeszyty Historyczne. – Białystok, 1999. – № 12. – S. 68.

рызацыі беларускасці. У жніўні 1920 г. у час наступу войск Чырвонай арміі быў арыштаваны бальшавікамі па даносе за арганізацыю быццам бы легіёнаў супраць іх і расстраляны аддзелам літоўскіх добраахвотнікаў пад кіраўніцтвам Міцкевічуса. У пачатку мая 1921 г. выпадкова каля Нясвіжу знайшлі цела забітага бальшавікамі кс. У. Клама, Крамяніцкага пробашча. Перад Сёмухай вельмі ўрачыста адбылася працэсія перапахавання кс. Клама. «Многа было прамоў; яшчэ больш сьлёз...», – пісала «Крыніца». Цела кс. Клама пахавалі каля капліцы[165].

Нехта Міхалка з Аўгустова паведамляў пра тое, што духоўныя ўлады ў Сейнах справядліва адносяцца да ўсіх народаў і Сейненскі біскуп прызнае правы беларускай мовы ў касцёле і ўсюды... І ў іх, як і ў іншых кутках Беларусі, ёсць шчырыя ксяндзы-беларусы, як, да прыкладу, кс. прафесар Бэта і кс. Траско (Trzasko), якія сапраўды любяць свой бедны народ і шмат дзеля яго дабра працуюць[166]. Дапоўнім інфармацыю тым, што біскупам Сейненскай дыяцэзіі быў кс. Антоні Карась (07.04.1910–28.10.1925 гг.), які прызнаваў у сваёй дыяцэзіі правы летувіскай і беларускай моваў. У 1918 г. ён прыняў літоўскае грамадзянства, падтрымліваў літоўскі нацыянальны рух.

Прозвішча кс. Траско больш не сустракалася ў беларускай прасторы[167], а вось пра ксяндза і прафесара Генрыха Бэта (пасвечаны ў святары 17.06.1911 г.) варта сказаць больш. Скончыў духоўную каталіцкую семінарыю ў Сейнах (1908 г.), дзе быў сведкам актыўнасці летувіскага нацыянальнага асяродку клерыкаў. У Мітрапалітальнай духоўнай каталіцкай акадэміі ў Пецярбургу (1908–1912 гг.) быў адным з ініцыятараў і сябрам культурна-асветнага гуртка беларусаў-клерыкаў, выступаў як аўтар і фундатар газеты «Bieiarus» (1913–1914 гг.). Па заканчэнні акадэміі быў накіраваны ў Сейненскую дыяцэзію, дзе працаваў на розных касцёльных пасадах у парафіях Аўгустова, Сейна і Сейненскай дыяцэзіяльнай рымска-каталіцкай духоўнай семінарыі на пасадзе прафесара Святога Пісьма, куды быў запрошаны сваім былым выкладчыкам па семінарыі, прафесарам і віцэ-рэктарам семінарыі кс. Рамуальдам Ялбжыкоўскім. У 1919 г. пры рэарганізацыі семінарыі быў прызначаны кс. Р. Ялбжыкоўскім (памочнікам біскупа Антона Карася) на пасаду рэктара і прафесара дыяцэзіяльнай каталіцкай семінарыі ў г. Ломжа (Польшча)[168].

---

[165] Маракоў Л. Рэпрэсаваныя каталіцкія духоўныя, кансэкраваныя і свецкія асобы Беларусі (1917–1964)… – С. 222–223; Ściapuk Wok. Kremianica, Waukawyskaho paw // Krynica. – 1921. – № 18. – 12 czerwienia. – S. 6.

[166] Міхалка. Аўгустова. Сувальская губ. // Крыніца. – 1919. – № 4. – 14 верасня. – С. 3.

[167] Кс. Ігнат Троска праз увесь міжваенны час сумленна выконваў душпастырскія абавязкі ў розных парафіях Беласточчыны, пры тым не быў ён заўважаным у друку ў польскай агітацыі, але і актыўнага ўдзелу ў беларускім руху не прымаў.

[168] Wyższe Seminarium Duchowne im. Papieża Jana Pawła II w Łomży [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: http://wsd.lomza.pl. – Дата доступу: 09.03.2017 г.

Свае адносіны як душпастыра да рэлігійных і нацыянальных праблемаў, да беларускага пытання ў прыватнасці кс. Генрых Бэта засведчыў у лісце да кс. А. Станкевіча: «Думаецца мне, што ў поглядах і адносінах да нацыянальнай праблемы мы аднолькавай думкі. У нашым святарскім жыцці нацыянальная справа можа мець ролю толькі другарадную. З моманту пасвячэння выракаемся ўсяго, што мае ў сабе партыкулярную выключнасць: выракаемся родных, сямейнага жыцця, а нават уласнай волі і г. д. А ўсё дзеля таго, каб быць «усім для ўсіх». Мы ў многім – ахфярныя авечкі на алтары Хрыстусовага ўніверсалізму. З такім становішчам рэчаў сёння можам быць «беларусамі», а заўтра «туркамі»... Не змагу зразумець святара-нацыяналіста. Раіў бы яму прачытаць трактат з Тангрэнцыя «Unitati Ecclesial advertatur nationalizmus»... У кожнай справе кіруемся розумам, сумленнем і дабром касцёла... Адраджэнне Беларусі – факт відавочны. І ў адносінах да яго варта мець тую ці іншую пазіцыю. Я гэтую справу бачу наступным чынам: 1) беларусы, як кожны іншы народ, маюць правы да адраджэння; 2) гвалт над беларускім рухам і дэнацыяналізацыю лічу нонсэнсам. А нават рэччу шмат у чым шкодную… 3) мы павінны лічыцца з фактам адраджэння беларусаў як нацыі. Гэтым нацыянальным рухам будуць кіраваць альбо сумленныя і ахвярныя людзі, альбо ашуканцы і прайдзісветы. Думаю, што «саветы» магчыма і выкарыстаюць гэты рух для сваіх мэтаў. Чаму ж у такім разе яго не выкарыстаць і не скіраваць на царкоўны млын?.. Я – прыхільнік спакойнай працы і дзейнасці. Кіравацца нянавісцю да сваіх ворагаў лічу за рэч шкодную і кампрамітацыйную. Нацыянальных праблемаў не вырашаюць на працягу аднаго тыдня... Беларусь патрабуе спакойнай і сістэматычнай працы...». *Кс. Генрык Бэта. Ломжа. 18.III.1921 г.*[169].

Вернікі м. Ашмяны, з нагоды пагалоскі аб пераводзе кс. Генрыха Гарасімовіча[170], пісалі, што «вялікім жалем напаўняліся нашы сэрцы, калі пачулі, што такі важны ксёндз, які шчыра любіць сялянскі беларускі люд, можа ад нас выехаць. Калі ў нас былі немцы, дык кс. Гарасімовіч быў сапраўды нашым бацькам, апякуном і заступнікам. Колькі ён напісаў нам нямецкіх прашэньняў, сьвядоцтваў і г. д., дык гэта і злічыць трудна...»[171].

Аўтар пад псеўданімам Шчыры з в. Адамчукі, Леварышскай парафіі Віленскага пав. пісаў: «Людцы нашы агулам кажучы ведаюць, што яны

---

[169] ЦНБНАНБ. – Ф 4. – В. 1. – Спр. 138. – Арк. 2; Перадрук: Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя: Жыццяпісы. Мартыралогія. Успаміны / аўт.-уклад. Ю. Гарбінскі. – Мінск : Мюнхен, 1999. – С. 520–522.

[170] Кс. Гарасімовіч Генрых (нар. у 1884 г., вучыўся ў Віленскай рымска-каталіцкай духоўнай семінарыі ў 1904–1909 гг., пасвечаны ў святары ў 1908 г.). Працаваў на пасадзе вікарыя ў Перлейева Бельчыцкага дэканата (1915–1919 гг.). Насцярожвае той факт, што такі «важны ксёндз, які шчыра любіць сялянскі беларускі люд» увесь міжваенны перыяд так і заставаўся на пасадзе школьнага капеляна і катэхета гімназіі ў Ашмянах (1919–1931 гг.), а пасля катэхета школ у Вільні (1931–1939 гг.).

[171] Parachwijanin. Ašmiana // Krynica. – 1919. – № 3. – 7 wierasnia. – S. 2.

беларусы і зачынаюць што раз больш любіць усё беларускае. У гэтым шмат ім памагае вікарый з Леварышак кс. С. Сідзевіч[172]. Ён любіць праўду, дык і аб Беларусі праўду гаворыць і тым асьвячае цёмных беларусаў. Некалі наш Беларус шчыра падзякуе кс. Сідзевічу, што ён памог яму знайсьці самога сябе»[173].

Кс. У. Талочка інфармаваў у адным з лістоў кс. А. Станкевіча пра беларускія казанні кс. Нікадзіма Тарасевіча ў Іўі і ў Ваўкавыску, пра беларускую мову кс. М. Руткоўскага і кс. Гарасімовіча, а таксама пра арцыбіскупа Спрынговіча, які планаваў два беларускія дэканаты ў Латвіі і кс. Навіцкі прамаўляў да люду мовай латышскіх беларусаў[174].

З ліста кс. П. Татарыновіча (wasz ptič) да кс. А. Станкевіча ад 3.10.1929 г. выцякала, што збіралі подпісы і падавалі паданні на беларускія казанні ў 1917–1918 гг. да біскупа з Ляхавіч, Мядзьведзіч і Новай Мышы. У Мядзьведзічах беларускія казанні гаварыў у 1917 г. неапрасьвітэр Антон Дземашкевіч, а ў 1918 г. П. Татарыновіч: «Парафіяне слухалі казаньняў з вялікім зацікаўленьнем, плакалі і радаваліся»[175].

### 1.3.2. Душпастырская праца ксяндзоў-беларусаў у Дзісненскім павеце *(А. Станкевіч, А. Зянкевіч, М. Буклярэвіч, М. Пятроўскі, В. Шутовіч).*

Беларускамоўныя казанні, распачатыя у час візітацыі Дзісненскага дэканата біскупам Э. Ропам у 1917 г., не замаўкалі тут да канца 1920-х гадоў. Так, паводле адмысловага падліку насельніцтва ў Дзісненскім павеце («хто з тутэйшых сялянаў за каго сябе лічыць») амаль што ўсе ў Шаркаўскай валасці, а гэта якіх восем тысяч асобаў, падалі сябе за беларусаў[176]. Прыкладна так выглядала сітуацыя па ўсім Дзісненскім павеце. Таму і не дзіўна, што дэканальны сход духавенства Дзісненскага павета ў Германовічах у 1918 г. выказаўся аднагалосна за тое, што «абшар дзейнасьці хрысьціянскай дэмакратыі ў дэканаце з'яўляецца беларускім...».

У карэспандэнцыі з Шаркаўшчыны ў «Крыніцы» паведамлялася: «... Ня згінула дарма праца **кс**. **Адама Станкевіча**, які ўлетку 1917 году ў большай часткі павету гаварыў па Касьцёлах беларускія навукі, клічачы сьмела і шчыра ўсіх беларусаў, як каталікаў, так і праваслаўных, да еднасьці, да згоды, да веры дзядоў нашых – Уніі. На гэтыя казаньні ішлі людцы здалёку, часта аж за 20–30 вёрст, абы толькі пачуць Божае Слова ў

[172] Кс. Сіман Сідзевіч нар. у 1890 г., вучыўся ў Віленскай рымска-каталіцкай духоўнай семінарыі (1909–1914 гг.) у адзін час з Ільдэфонсам Бобічам і Язэпам Рэшацем, высвенчаны на святара ў 1914 г. і размеркаваны на пасаду вікарыя ў касцёл Леварышкі Віленскага дэканата (1914–1919 гг.), у 1919 г. пераведзены на пасаду пробашча касцёла ў м. Бездзеж Кобрынскага дэканата.

[173] Ščyry. Adamčuki // Kryniсa. – 1919. – № 8. – 2 listapada – S. 3.

[174] ЦНБНАНБ. – Ф. 4. – В. 1. – Спр. 33. – Арк. 11.

[175] Там жа. – Спр. 32. – Арк. 2.

[176] M. H. Šarkauščyna. Dzisnenskaha paw. // Kryniсa. – 1919. – № 12. – 25 śniežnia. – S. 3.

сваёй роднай мове...»[177]. Дарэчы, як народам успрымаліся такія казанні, маем пасведчанне кс. Адама Станкевіча з праведзенага ім казання пра поўнапраўную роўнасць народаў у Валадарстве Хрыстовым ад 27 ліпеня 1917 г. у касцёле г. Дзісна: «Пачуўшы словы мовы роднай, так пагарджанай дагэтуль, твар слухачоў ажывіўся, заясьнеў. Запанавала сьвятая цішыня. Кожнае слова слухачы, здаецца, жыўцом глыталі. Узрушэньне маё сардэчнае хутка ўдзялілася ўсёй вялізарнай грамадзе слухаючых і нямую ціш у касьцёле замяніў нічым не ўстрыманы плач галосны. Ліліся сьлёзы ручаём мнагаводным, сьлёзы радасьці і шчасьця з вачэй гаротнага паднявоненага Беларуса»[178].

Дарэчы, кс. А. Станкевіч занатаваў амаль кожнае беларускае казанне ў час візітацыі біскупа Э. Ропа[179], тым не менш цікавы эпізод згадвае Янка Станкевіч пра беларускае казанне ў Ваўкалаце, якое праводзіў кс. С. Эйсмант[180] у час візітацыі. Кс. Эйсмант папярэдне паставіў пытанне выбару, на якой мове хацелі б людзі слухаць казанне, і калі ўсе ў касцёле выказаліся за беларускую мову, распачаў казанне[181]. Падобная метода была выкарыстана кс. Міхалам Шалкевічам у м. Краснае. А ў парафіі Мосары парафіяне звярнуліся з просьбай да кс. біскупа Э. Ропа, каб ён ім пакінуў кс. М. Шалкевіча, бо «гэты ксёндз і дзяцей нашых будзе вучыць па-беларуску»[182].

Беларускія казанні былі падхопленыя многімі святарамі, у тым ліку і тымі, якія не былі заангажаванымі ў беларускім руху. Лічылася гэта справай зразумелай, натуральнай і патрэбнай, чаму можна знайсці шмат пацверджанняў. Так, «Крыніца» паведамляла, што нядаўна ў Вільню прыехаў кс. А. Кобрыньскі, які некалькі месяцаў быў у Пагосьце Дзісненскага пав. Расказваў, што казанні ў Пагосьце ён гаварыў на беларускай мове, бо гэтага дамагаліся самі парафіяне: «...і смешна было б, – гаварыў гэты малады ксёндз, – каб да беларусаў гаварылі казанні на польскай мове»[183].

З м. Мікалаева (Дзісненскі пав.) паведамлялася, што «цэлай апорай для беларускага сялянскага люду ёсць **кс. А. Зянкевіч.** Ён сьмела стаіць за праўду, за справядлівасьць, за думкі Хрыстосавы... Ён не стараецца перарабляць беларусаў у палякі, але беларускую народнасьць стараецца падтрымаць. Ён нат і казаньні часта гаворыць па-беларуску. За ўсё гэта, калі не цяпер, дык некалі вялікі наш народ шчыра яму падзякуе»[184]. Кс.

[177] M. H. Šarkauščyna // Krynica. – 1919. – № 12. – 25 śniežnia. – S. 3.
[178] Stankiewicz Ad. Rodnaja mowa u świątyniach… – S. 100.
[179] Там жа. – S. 100.
[180] Кс. Станіслаў Эйсмант, пасвечаны на ксяндза 6 мая 1912 г., быў прызначаны на вікарыя ў касцёл Святой Тройцы ў Мінску. У час візітацыі суправаджаў працэсію ў якасці запрошанага ксяндза.
[181] Янучонак Я. Беларуская мова ў касьцеле // Гоман. – 1918. – № 57. – 23 ліпня. – С. 1–2.
[182] Там жа. – С. 2.
[183] Białaruskija kazańnia u katalickich kaściołach // Krynica. – 1919. – № 5. – 28 wieraśnia. – S. 3.
[184] Sused. Mikałaewo, Dziśnienskaho paw. // Krynica. – 1920. – № 5. – 22 lutaho. – S. 4.

Антон Зянкевіч, адзін з удзельнікаў дэканальнага сходу каталіцкага духавенства ў Германовічах, і сапраўды заслугоўвае вялікай пашаны з боку беларускага народу: будучы па нацыянальнасці палякам, яму не раз прыходзілася цярпець ад сваіх за абарону правоў беларусаў-католікаў.

Калі гутарка ідзе пра гістарычную Дзісеншчыну, дык варта яшчэ было б нагадаць допіс некага Мілашоўца з Ідольці ў «Крыніцу» за 1921 г.: «Ва ўсёй нашай парафіі вялікі жаль. Нядаўна наш пробашч Кс. Др. І. Бобіч пакінуў нашу парафію. Цяжка было нам з ім раставацца, бо дужа мы з ім зжыліся! Кс. Бобіч сярод нас радзіўся, гадаваўся і праз усю вайну быў у нас пробашчам. Не баяўся ён ані бальшавікоў, ані каго іншага. Заўсёды ён быў з намі, і цяжкія нашы перажыванні яго ад нас не адстрашылі: наша гора было і ягоным горам. Цяпер у нас палякі. Агульны настрой тутэйшага беларускага народу такі, што тут усе чакаюць беларускага войска. Такі настрой пануе ў ва ўсім Дзісненскім павеце. Бальшавікі тут не прасьледавалі беларускай справы, а нат часта памагалі, дарма даючы беларускія кніжкі»[185].

Што да самого места Дзісна і парафіі, дык паводле карэспандэнцый з газет места гэта выглядала вельмі сумна. Тут праходзілі значныя баі Першай імперыялістычнай і савецка-польскай войнаў. Усё было разбурана, зруйнавана, пашкоджана. Але нягледзячы на гэта, парафія памалу аднаўлялася. 23 верасня 1920 г. у Дзісне адбыўся фэст. «Крыніца» паведамляла, што прыязджаў на фэст з Валынцаў Віцебскай губерні кс. Ян Вэрсоцкі, які гаварыў казанне на беларускай мове. У Валынцах пануюць бальшавікі. З плебаніі ксяндза Вэрсоцкага выгналі і ён жыве ў лазьні… з'яўляецца свецкім служачым, за што атрымлівае паёк. У той жа Віцебскай губерні ў Прыдруйску памаленьку вядзецца беларуская работа, бо там кс. Язэп Гайлевіч – беларус. А яшчэ «беларускія казанні гаворацца заўсёды ў Шаркаўшчыне і што агулам шырока там разьвіваецца беларуская справа»[186].

Пачатыя беларускамоўныя казанні пры біскупу Э. Ропу працягваліся і пры біскупу Ю. Матулевічу. Так, да іх звярталіся: у Ідолце – кс. І. Бобіч, у Барадзенічах – кс. В. Шутовіч, у Шаркаўшчыне – кс. М. Пятроўскі і кс. З. Якуць, у Пагосце – кс. Я. Жук, а таксама ў Германавічах, Іказні, Далёкіх, Ёдках, Баравых, Навалы, Удзяле[187].

Светлай памяці нашчадкаў заслугоўвае беларускі душпастыр кс. **Міхаіл Буклярэвіч** – удзельнік з'езду беларускага каталіцкага духавенства ў Мінску (1917) і дэканальнага сходу ў Германовічах (1918 г.). У 1912 г. ён быў пераведзены ў парафію Іказнь (Дзісненскі пав.), дзе праводзіў сам беларускамоўныя казанні ці запрашаў для гэтага іншых ксяндзоў-беларусаў, арганізаваў пачатковую школку і дзіцячы прытулак[188]. З прыходам Чырвонай Арміі кс. М. Буклярэвіч арганізаваў атрад (каля 300 чала-

---

[185] Miłašowiec. Z našych wiosak. Dziśnienski paw.: Idolta // Krynica. – 1921. – № 1. – 1 studnia. – S. 4.

[186] Naddźwinski. Z našych wiosak. Dziśnienski paw.: Dzisna // Krynica. – 1921. – № 1. – 1 studnia. – S. 4.

[187] Stankiewicz Ad. Rodnaja mowa u światyniach…– S. 97–102.

[188] ДГАЛ. – Ф. 694. – В. 3. – Спр. 1014. – Арк. 5–7.

век) і аказаў супрацiў бязбожнікам. Дарэчы, у сувязі з забойствам кс. М. Буклярэвіча бальшавікамі 27.06.1919 г. «Крыніца» пісала, што гэта быў верны слуга Хрыстуса, быў шчыра аддыны працы дзеля духовага і матэрыяльнага дабра нашага сялянства, закладаў хаўрусныя крамы, адчыняў пачатковыя школы, прытулкі, смела гаварыў сваім парафіянам, што яны не Палякі і не Расейцы, а Беларусы, помніў аб бедных і пакрыўджаных, быў паважным заступнікам слабых прад сільнымі гэтага сьвету...»[189].

«А хто ж ацэніць працу дзеля дабра душы і цела Беларуса Ксяндза М. Пятроўскага, да нядаўняга часу Шаркаўскага пробашча? – пісаў аўтар з Дзісненшчыны. – Ён беларускімі навукамі ў Касьцёле, беларускімі школамі, беларускай хрысьціянскай дэмакрацыяй, сваёй грамадзянскай працай засеяў у душы Беларуса зярно, зь якога цяпер вырастае прыгожае краска. Таксама дужа многа працуюць на роднай ніве і ў суседніх парафіях кс. В. Шутовіч у Барадзенічах і кс. Др. І. Бобіч у Ідолці і іншыя»[190].

Нялёгкі душпастырскі шлях выпаў на долю кс. **Міхала Пятроўскагу.** Скончыў Віленскую духоўную рымска-каталіцкую семінарыю (1910 г.) і паступіў у рымска-каталіцкую духоўную акадэмію ў Пецярбургу, але вучобу прыйшлося перарваць, быў высвечаны на святара (1912 г.) і адразу накіраваны на пасаду вікарыя ў Мосар (Глыбоцкі дэк.), адтуль – на вікарыя касцёла ў Сакулцы, Сакульскага дэк. (1912 г.), у чэрвені 1913 г. пераведзены на вікарыя ў м. Жалудок, пасля – у Далгінава, Віленскага дэк. (1914 г.). Пасля аднаўлення вучобы ў духоўнай акадэміі (1914–1917 гг.) працаваў вікарыям у Віленскай дыяцэзіі (Жалудку, Вільні, Масарах), пробашчам у Шаркаўшчыне (1917–1919 гг.), дзе распачаў шырокую рэлігійную і беларуска-народную працу. На яго беларускамоўныя казанні, «якія заўсёды адзначаліся сілай адчуцьця душы людзкой і сапраўды мастацкай формай, ахвотна ішлі ня толькі беларусы каталікі, але і беларусы праваслаўныя так-жа і з суседніх парафіяў»[191]. Актыўна закладваў гурткі хрысціянскай дэмакратыі, быў ініцыятарам, арганізатарам і душой дэканальнага з'езду каталіцкага духавенства ў Германовічах (6–7.08.1918 г.) і аўтарам беларускай рэзалюцыі сходу. Магчыма, такая дзейнасць стала нагодай яго пераводу ў 1919 г. у м. Баруны (Ашмянскі пав.).

**Кс. Віктар Шутовіч[192] – душпастырская дзейнасць.**

Асаблівай увагі заслугоўвае душпастырская дзейнасць кс. Віктара Шутовіча ў Барадзенічах. Распачыналася яна таксама з візітацыі арцыбі-

[189] V. Кс. М. Буклярэвіч // Крыніца. – 1919. – № 5. – 28 верасня. – С. 2.

[190] M. H. Šarkauščyna. Dzisnenskaha paw. // Kryniсa. – 1919. – № 12. – 25 śniežnia. – S. 3.

[191] Кс. Міхал Пятроўскі // Беларуская Крыніца. – 1931. – № 25. – 10 жніўня. – С. 3.

[192] Кс. Віктар Шутовіч [27.10.1890 г., в. Шутавічы Ашмянскага павета, Віленскай губ. (Смаргонскі р-н, Гродзенскай вобл.) – 01.03.1960 г., г. Барысаў]. Скончыў гарадскую школу ў Ашмянах, Віленскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю (1909–1913 гг.). Пасвечаны ў святары 16(29(?)).06.1913 г. у Вільні. Вучыўся ў Мітрапалітальнай духоўнай каталіцкай акадэміі ў Пецярбургу (1914–1916 гг.) – не скончыў у сувязі з матэрыяльнымі цяжкасцямі. Прызначаны на пасаду пробашча ў м. Краснае (верасень–снежань, 1916 г.), пробашчам парафіі м. Барадзенічы (1917–1927 гг.), вікарыем у Ліду (1927 г.), вікарыем парафіі Тцяннэ, Польшча (1927–1929 гг.), знаходзіўся ў ЗША (1929–1932 гг.). Пасля вяртання прызначаны вікарыем у м. Харошч (1932–1943 гг.).

скупа Э. Ропа, які, будучы ў Барадзенічах у 1917 г., даў дазвол на просьбу дэлегацыі ад парафіі гаварыць казанні на беларускай мове. Пазней парафіяне напішуць, што за ўсё гэта трэба дзякаваць арцыбіскупа Ропа, кс. Адама Станкевіча, які ў часе нямецкай акупацыі часта бываў у нашай парафіі, і кс. пробашча Віктара Шутовіча: «Вось вышэйуспомненыя два змагары і сьветачы праўды і справядлівасьці здолелі вытлумачыць, хто мы такія, і ўсьвядоміць народ нашай парафіі. Яны, як верныя Хрыстусавыя апосталы, пачалі вучыць народ аб Богу ў яго роднай мове... Між іншым трэба адзначыць, – піша далей аўтар, – што некаторыя парафіяне беларусы, пачуўшы першае казаньне ў роднай мове з радасьці плакалі, асабліва старыя, кажучы: «Дзякаваць Божаньку! Вось калі мы хоць перад сьмерцяй пачулі казаньне ў касьцёле, якое добра разумеем»[193].

Калега і сябра кс. В. Шутовіча кс. Язэп Германовіч пісаў: «Пасьля навукі ў Сэмінарыі, каб не апусьціцца, ён паводле мэтоды Мюллера практыкаваў швэдзкую гімнастыку і масаж. Зрэшта, будучы на парафіі, ня чураўся фізычнай працы. Жыцьцё вёў цьвярозае і дзейнае: ні табака, ні карты, ні алькаголь яго не ўцягнулі, а наймілейшым яго таварыствам была беларуская вёска… Сам вясковы выхаванак, Віктар знаў усе патрэбы сялян: умеў выслухаць і парадзіць, памагчы і пацешыць. Шутовічу добра было прабываць з беларускімі людзьмі – ад малога да старога. Ён станавіўся адным зь іх: усе яго лічылі сваім і роўным – то бацькам, то братам. Гэтак ён вучыў нашых цёмных людзей жыць па-людзку, жыцьцём лепшым, разумнейшым і весялейшым»[194]. Не менш важным фактарам блізасці да народу, крытэрыям свайго ксяндза быў моўны прыклад: цяжка было стаць сваім ксяндзу, які ў беларускіх парафіях размаўляў выключна на польскай мове.

Ксёндз В. Шутовіч, прызначаны ў 1917 г. Віленскім біскупам Эдв. Ропам на пробашча ў Барадзенічы (Браслаўскі пав.), адразу разгарнуў вельмі актыўную працу, уводзячы беларусізацыю ў касцёле (беларускія казанні, малітвы, песні і касцёльныя запісы). Як успрымалася такая праца і наколькі яна была аргументаванай, пераканаўча сведчылі самі парафіяне: «...калі пачалі ксяндзы беларусы гаварыць казаньні ў роднай беларускай мове... і сталася дзіва, народ, каторы, здавалася, раней быў апатычны да спраў веры, аджыў; ён стаў прымаць сьвядомае ўчасьце ў казаньні і набажэнстве... Падчас казаньня ў польскай мове, бязмална ўсе стаяць на гасьцінцы ля касьцёла, гутараць аб розных справах, гамоняць; пачынаецца казаньне па-беларуску і ўсе гурмам валяць у касьцёл»[195].

Пазней кс. В. Шутовіч адзначыць: «Я хутка пазнаў, што значыць беларусаў вучыць вечных праўдаў аб Богу. Калі я выступлю да народу ў кась-

---

[193] Marwič. Biełaruskaje kaścielnaje žyćcio (Baradzieničy, Brasłauskaha paw.) // Biełaruskaja Krynica. – 1926. – № 46. – 24 śnieżnia. – S. 4.

[194] Германовіч, Я., а. Добры пастар – Віктар Шутовіч / а. Я. Германовіч // Божым шляхам. – 1964. – № 84. – С. 13.

[195] Барадзініцкая. Беларуская мова ў касьцёле // Беларуская Думка. – 1919. – № 45. – 15 ліпня. – С. 3–4.

цёле і стану яго па-беларуску вучыць, тады я бачу, што мяне запраўды людзі слухаюць і разумеюць. Няхай сабе як хто хоча гаворыць і думае, але я да сьмерці не зракуся таго пракананьня, што рэлігіі беларусаў трэба вучыць па-беларуску»[196].

І тут нельга не пагадзіцца з кс. В. Шутовічам. Толькі такая праца каталіцкага святара ў парафіі яднала яго з народам, рабіла яго ідэйным і духоўным правадыром, заступнікам і абаронцам свайго народу. І народ верыў свайму святару, верыў яго навукам хрысціянскай любові і міласэрнасці.

Што да працы кс. Шутовіча ў Барадзенічах, дык яна ўвесь час была працай глыбока душпастырскай і шчыра беларускай. Барадзеніцкія парафіяне пісалі: «Наш пробашч ужо ў нас нешта гады чатыры. Былі тут немцы, палякі, некалькі разоў бальшавікі, а цяпер узноў палякі, а наш пробашч заўсёды заставаўся з намі. Колькі ён тут перажыў бяды і гора, то яму толькі аднаму вядама... Пастаянна гаворыць беларускія казаньні, закладае беларускія школы, гуртуе беларускую моладзь. Такая праца нашага пробашча дужа карысная для Беларускага народу і яна не аграніčваецца толькі адной нашай парафіяй, а расходзіцца шырока па ўсім нашым павеце. Такую працу ацаніць як трэба зможа толькі гісторыя»[197]. Апрача гэтага, кс. В. Шутовіч распаўсюджваў беларускія газеты і кніжкі, пры ўсякіх нагодах вучыў народ любіць сваю мову і сваю культуру, змагацца за свабоду свайго народу: «... Яго любілі як роднага бацьку, як запраўднага Пастыра, гатовага аддаць сваё жыцьцё за свае авечкі, якія дзяліліся зь ім апошнім кавалкам хлеба ў часе голаду 1918–1919 гг.» – так пісалі пра кс. В. Шутовіча яго вучні і выхаванцы[198]. Не спалохаў кс. В. Шутовіча прыход бальшавікоў на пачатку 1919 г. У гэты час, калі навакольныя святары пакідалі свае парафіі ды паўцякалі, ён стаў абслугоўваць іх парафіі: хрысціў, вянчаў, хаваў, да хворых ездзіў за 20–25 км; і гаварыў беларускія казанні ў Новым Пагосце, Шаркаўшчыне, Германовічах, Іказні, Далёкіх, Друі, Ёдах; у капліцах Барадзеніцкай парафіі – у мясцовасцях Баравыя, Навалака, Удзяла. Наведваў Жодзішкі і Вільню[199].

У парафіі Барадзенічы кс. Віктар Шутовіч: 1) залажыў прытулак для дзяцей ахвяраў вайны: дзеці былі забяспечаны харчам, абуткам, адзеннем, цёплым памяшканнем, атрымлівалі пачатковае навучанне. Прытулак праіснаваў каля двух з паловай гадоў (1917–1919 гг.)[200]; 2) арганізаваў беларускі касцёльны хор. Паводле ўспамінаў а. Я. Германовіча: «Віктар

[196] Ks. V. Š. U 25-tyja uhodki majho światarstwa (1913–1938) // Chryscijanskaja Dumka. – 1938. – № 18. – S. 2.

[197] Nadwaziorny. Baradzieničy // Krynica. – 1921. – № 1. – 1 studnia. – S. 4.

[198] Карасэвіч В. Кс. Віктар Шутовіч праўдзівы патрыёт і добры пастыр (З нагоды атрыманых вестак аб ягонай сьмерці) // Źnič. – 1960. – № 76. – С. 4.

[199] Карасэвіч В. Кс. Віктар Шутовіч праўдзівы патрыёт і добры пастыр (З нагоды атрыманых вестак аб ягонай сьмерці) // Źnič. – 1960. – № 76. – С. 4; Marwič. Biełaruskaje kaścielnaje żyćcio (Baradzieničy, Brasłauskaha paw.) // Biełaruskaja Krynica. – 1926. – № 46. – 24 śnieżnia. – S. 4.

[200] ЦНБНАНБ. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 1 – В. 1. – Спр. 207. – Арк. 3.

меў цудоўны першы тэнар: у хоры браў лёгка найвышэйшыя тоны і ніколі не пудлаваў і ня мучыўся. Ягоныя лёгкія, як кавальскія мяхі, былі проста невычэрпнымі, а галасныя струны – моцнымі і далікатнымі… А ягоная песьня чаравала ўсіх: ад яго вучыліся цаніць і любіць сваю родную песьню і яна грымела па ўсёй Барадзеніцкай парафіі»[201]; 3) адкрыў некалькі беларускіх школ, у якіх ён сам выкладаў рэлігію ў роднай мове. У сувязі з гэтым у кс. В. Шутовіча ўзніклі сур'ёзныя праблемы з свецкімі ўладамі, але ён, нягледзячы на гэта, зарганізаваў будаўніцтва новай школы, якая, на яго думку і думку вернікаў, павінна была стаць беларускай школай, бо будавалася на сродкі парафіянаў. Але гэтым марам не суджана было збыцца: сітуацыя ў краі вясной 1921 г. змянілася з горшай на яшчэ больш горшую...

### 1.3.3. Баруны: справа кс. Міхала Пятроўскага *(пачатак).*

Дзякуючы руплівасці беларускага каталіцкага духавенства беларуская свядомасць стала пашырацца геаграфічна, даходзіць у многія іншыя парафіі і ахопліваць большыя колы грамадскасці. Беларускія казанні гаварыліся і ў іншых парафіях: у Барунах (Ашмянскі дэк.) – кс. М. Пятроўскім; у Лапеніцы (Ваўкавыскі дэканат) – кс. К. Стаповічам і кс. Я. Германовічам; гучала беларуская мова ў касцёлах у Мінску, Вільні і іншых куточках Беларусі.

Так, невядомы аўтар з м. Барунаў (Ашмянскі пав.), куды быў пераведзены кс. Міхал Пятроўскі (1919 г.), пісаў, што кс. Міхал Пятроўскі – «шчыры прыяцель беднага беларускага народу, што людзі яго найбольш палюбілі за тое, што ён не цураецца нашай беларускай мовы і заўсёды гаворыць у роднай мове... Такога дабрадзейства мы ніколі не бачылі, і гэтага мы да сьмерці не забудзем. Гэта ж толькі такім парадкам мы пачнем пазнаваць, што і мы нечага варты і што мы не патрабуем быць слугамі паноў, а што мы ім роўны, і што наша мова ані трохі ня горшая ад іх. На пацеху можна сказаць, што гэта ўжо блізу ўсе нашы беларусы разумеюць...»[202]. У чарговым нумары «Крыніца» адзначала шырокую асветніцкую працу кс. М. Пятроўскага ў Барунскай парафіі ў арганізацыі нядзеляшніх школ не толькі для дзяцей, але і для непісьменных сялянаў, у талкаванні для беларусаў важных жыццёвых справаў, у дабразычлівасці да іншых, «вучыў, каб любячы чужое, не чурацца роднага»[203]. Так, у Барунах кс. М. Пятроўскі адразу акунуўся ў арганізацыю беларускага душпастырства: ў былых базыльянскіх мурах арганізаваў дзіцячы прытулак для дзяцей сіротаў і ахвяраў вайны. Такі прытулак быў вельмі патрэбным, асабліва калі ўлічваць, што Баруны ў 1915–1917 гг. знаходзіліся ў прыфрантавой пала-

[201] Германовіч, Я., а. Добры пастар – Віктар Шутовіч / а. Я. Германовіч // Божым шляхам. – 1964. – № 84. – С. 13.
[202] Barunski. Baruny, Ašmianskaha pawietu // Krynica. – 1919. – № 4. – 14 wieraśnia. – S. 3.
[203] Baruny, Ašmianskaha pawietu // Krynica. – 1919. – № 11. – 30 listapada. – S. 3.

се. Прытулак сваю працу распачаў з новага 1919 г. Паводле ўспамінаў Я. Багдановіча ў Барунскім прытулку было каля сотні дзяцей поўных і няпоўных сіротаў з Барунскай, Крэўскай, Вішнеўскай і іншых воласцей; дзеці маглі пазнаёміцца першы раз з беларускай кніжкай – была гэта кніжка для набажэнства, быць на сустрэчах з калегамі і сябрамі свайго пробашча кс. А. Станкевічам, клерыкамі К. Смулькам і В. Хамёнкам, якія размаўлялі выключна на беларускай мове, чыталі і развучвалі з дзяцьмі вершы Ф. Багушэвіча[204]. Пры прытулку кс. М. Пятроўскі заснаваў беларускую пачатковую школку і актыўна дапамагаў С. Рак-Міхайлоўскаму ў арганізацыі беларускай настаўніцкай семінарыі, стварэнне якой было мэтазгодным у базыльянскіх мурах – дзеці з прытулку і школкі без лішніх хлопатаў маглі б стаць навучэнцамі семінарыі[205]. Апрача гэтага кс. М. Пятроўскі распаўсюджваў «Крыніцу» і арганізаўваў гурток Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай злучанасці. Так, Адзін з аўтараў «Крыніцы» пісаў у рэдакцыю: «Пасылаем Паважанай Рэдакцыі вялікі дзякуй за газетку «Крыніцу», каторую дастаём у Барунах у нашага пробашча Кс. Пятроўскага, які ёсьць сапраўды шчырым прыяцелем сялян беларусаў...»[206].

Актыўная беларуская пазіцыя ксяндза выклікала незадаволенасць мясцовых панкоў, якія атрымалі значную падтрымку ў сувязі з польскай акупацыяй перыяду бальшавіцка-польскай вайны (польская ўлада ў Барунах стала арганізоўвацца ў маі–чэрвені 1919 г.). Ад гэтага моманту за кс. М. Пятроўскім быў наладжаны тайны нагляд як з боку свецкай, так і духоўнай улады. І, прыкладна, недзе ў гэты час дэкан кс. Ч. Гурскі папярэджваў: «Ні гаварыць увесь час з людзьмі па-беларуску, а ні тым больш казаньні прамаўляць на беларускай мове не раю, бо люд разумее папольску. Не раю, бо ўжо ўсе ксяндзы ўстрывожаны паводзінамі ксяндза пробашча, абурэньне паўстала вялікае... за гэта можна дужа моцна пацярпець»[207]. Але пацярпець напачатку прыйшлося ад савецкіх уладаў. У чэрвені 1920 г., у сувязі са зменай палітычнай сітуацыі і прыходам бальшавікоў, кс. М. Пятроўскі быў арыштаваны як усякі каталіцкі ксёндз, які можа быць патэнцыяльным ворагам савецкай улады. Паводле ўспамінаў а. Віталя Хамёнкі гэта быў якраз час вакацый, калі ён з такім жа клерыкам Казімірам Смулькам вучылі дзяцей Катэхізму ў Барунах. Бальшавікі арыштавалі тады ўсіх трох і пасадзілі ў турму «да разбірацельства» ў г. Ліда:

---

[204] Багдановіч, Янка. На жыцьцёвым шляху. Успаміны / Янка Багдановіч. – Мінск : Маст. літ., 1992. – С. 33.

[205] Трацяк, І. І. Беларуская настаўніцкая семінарыя ў Барунах (1920–1922 гг.) і яе значэнне для развіцця беларускай школы // Ашмяншчына: гісторыя і сучаснасць : матэрыялы навук.-практ. краяз. канф. / І. І. Трацяк. – Гродна–Ашмяны, 1995. – С. 87–89.

[206] Stankevič, Staś. Wioska Arllniaty, Ašmianskaha paw. / Staś Stankevič // Kryniсa. – 1919. – № 9. – 9 listapada. – S. 3.

[207] ЦНБНАНБ. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 23. – В. 1. – Спр. – 24. – Арк. 1; Кс. Міхал Пятроўскі // Беларуская Крыніца. – 1931. – № 25. – 10 жніўня. – С. 3.

«Лідзкія каталікі сабралі для нас гэтулькі прадуктаў, што мы маглі падзяліцца з стражнікамі, якія нас пільнавалі, і з іншымі вязьнямі. Кс. Язэп Дашута, вікарый у Лідзе, меў над намі добрае вока. А на канчатку ліпеня праводзілася інспэкцыя і прэзэс палявога трыбуналу, убачыўшы нас, выпытаў і назначыў сьледзтва, а нават варункова выпусьціў нас пад дамовы арышт у Лідзе, з нашым словам, што заўтра зьявімся на расправу. Як мы назаўтра прыйшлі, дык ён нас і звольніў, а нам сакрэтна сказаў, што наагул звальняе інтэлігенцыю, а пакідае толькі крыміналістаў...»[208]. Вызваленню паспрыяла і арганізаваная шматлікая дэлегацыя парафіян з м. Баруны ў Ліду з патрабаваннямі вызваліць не ў чым не вінаватага кс. пробашча, што прымусіла бальшавіцкія ўлады адпусціць кс. Пятроўскага на волю[209]. Гэтыя факты даюць падставы думаць пра нейкія сфабрыкаваныя і фальшывыя акты абвінавачвання кс. Пятроўскага, у аб'ектыўнасці якіх нават бальшавікі засумняваліся. А хто стаяў за гэтымі абвінавачваннямі – няцяжка здагадацца. У жніўні 1920 г. кс. М. Пятроўскі вярнуўся ў Баруны і прадоўжыў сваю душпастырскую працу. У сувязі з ваеннымі падзеямі, зменамі акупацый, голадам і разрухай, утрымліваць прытулак для дзяцей стала немагчымым і да прыходу халадоў кс. М. Пятроўскі вымушаны быў расфармаваць прытулак. У каго нехта заставаўся з бацькоў ці радні, тых дзяцей адсылалі да іх. Каму ж не было куды ісці, тых адправілі ў беларускі прытулак у Вільні, якім апекаваўся кс. А. Станкевіч[210]. Так, кс. М. Пятроўскі датрываў у Барунах да 1921 г.

**1.3.4. Арганізацыя беларускага рымска-каталіцкага жыцця ў Мінску** (*кн. М. Радзівіл, кс. В. Гадлеўскі, кс. Ф. Абрантовіч, кс. З. Лазінскі, кс. А. Цікота*).

У 1917–1920 гадах Мінск становіцца важным цэнтрам беларускага нацыянальнага адраджэнскага руху і цэнтрам беларускага каталіцтва. Нагадаем, што апрача вядомых беларускіх дзеячаў (А. Смоліча, Р. Зямкевіча, М. Багдановіча, А. Паўловіча, П. Алексюка, А. Лявіцкага і інш.) у Мінску і ваколіцах было нямала прадстаўнікоў беларускага каталіцкага духавенства, а менавіта: святары Язэп Белагаловы, Карл Лупіновіч, Антон Матвейчык, Вінцэнт Гадлеўскі, Аляксандр Астрамовіч, Ян Вэрсоцкі, Фабіян Абрантовіч, Ян Семашкевіч, Адам Лісоўскі, Андрэй Цікота, Станіслаў Эйсмант – усе яны з рознымі тэрмінамі ў гэты час выконвалі тут свае душпастырскія абавязкі. Да места тут будзе згадаць рукапісныя нататкі Антона Луцкевіча ад 3.04.1918 г. з яго «Мемарыялу аб палажэньні ў Усходняй Беларусі»: «… мы бачым адкрытае, арганізованае выступленьне беларускіх ксяндзоў… на зьездзе і Мінску арганізаваўся саюз ксяндзоў

[208] Хамёнак, Віталіс. Мой жыцьцяпіс / Віталіс Хамёнак // Божым шляхам. – 1969. – № 2. – С. 14.
[209] Iednaść. – 1921. – 5 czerwienia. – S. 2.
[210] Багдановіч Янка. На жыцьцёвым шляху. Успаміны… – С. 43–85.

каля 200 членаў. Між каталікамі трэба адзначыць імёны найбольш актыўных: магістр тэалогіі кс. В. Гадлеўскі (у Мінску), кс. Сак, Астрамовіч, магістр тэалогіі Лісоўскі, Лапошка (у Магілёве), магістр тэалогіі Шырокі (у Парафіянава), Шалкевіч (у Мосары), д-р філязофіі Бобіч (у Друі), Будзька, магістр тэалогіі Станкевіч, магістр тэалогіі Цікота, Жалняровіч, Я. Вэрсоцкі, Герасімовіч, д-р Абрантовіч, Аляшкевіч, Борык і іншыя»[211].

Не выпадкова А. Луцкевіч у сваім «Мемарыяле…» пачынае пералік найбольш актыўных з магістра тэалогіі кс. Вінцэнта Гадлеўскага. Так, кс. В. Гадлеўскі быў адным з першых, хто распачаў актыўную арганізацыйную працу па беларусізацыі каталіцкага жыцця ў Менску, куды быў прызначаны ў 1916 г. (пасля заканчэння рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі ў Пецярбургу) на пасаду вікарыя кафедральнага касцёла. У сваіх успамінах кс. В. Гадлеўскі пісаў, што была ў гэты час вялікая цемната народу: «Ворагі беларушчыны распускалі розныя благія весткі пра беларускі рух, казалі, што гэта панская ды польская інтрыга, што палякі праз Беларусь дамагаюць завясьці паншчыну, людзей праваслаўных палохалі польскасьцю ды польскім каралём, а каталікоў праваслаўем ды рускасьцю»[212]. «У той жа час я пачаў усьведамляючую акцыю пасярод менскага каталіцкага грамадзянства, – пісаў кс. В. Гадлеўскі ў аўтабіяграфічных нататках. – Пачаткі гэтай працы былі вельмі цяжкія. Трэба было разьвеяць усе эндэцкія забабоны, якія моцна заселі ў галовах мяшчанства, трэба было ўсьведаміць аб розніцы паміж рэлігіяй і народнасьцю, трэба было змагацца з адной стараны з бураю рэвалюцыі, якая гудзела штораз то мацней, а з другой стараны – з польскім чарнасоценствам, якое пачало кідаць у мяне балотам і падрываць усялякімі спосабамі маё добрае імя ў веруючых масах»[213].

Кс. В. Гадлеўскі прымаў непасрэдны ўдзел ад Каталіцкай дэмакратычнай злучанасці ў з’ездзе Беларускіх нацыянальных арганізацый і партый 25–27 сакавіка 1917 г., дзе выступаў аб неабходнасці арганізацыі Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай партыі. Пры фармаванні Беларускага нацыянальнага камітэту (БНК) увайшоў у яго склад, а таксама ў склад дэлегацыі да Расейскага ўрада. Нагадаем, што на гэтым з’ездзе Р. Скірмунт быў абраны старшынём Бел. Нац. Камітэту і кіраўніком дэлегацыі ў ліку 7-мі чалавек да расейскага ўраду з мэтай перадаць рэзалюцыі і дамаганні з’езду ў справе школьніцтва, самаўраду і аўтаноміі Беларусі[214].

[211] БДМЛіМ. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 3. – В. 1. – Спр. 134. – Арк. 34–35: Луцкевіч Антон. Мэмор’ял аб палажэньні ў Усходняй Беларусі (рукапіс).

[212] W. H. Z maich uspaminau. Biełaruski zjezd u Miensku 5–12.XII.1917 h. // Krynica. – 1925. – № 14–15. – 12 krasawika. – S. 6.

[213] Hadleuski, W. Z życca i dziejnaści ks. W. Hadleuskaha: Autobiohrafičny narys / W. Hadleuski // Biełaruskaja Krynica. – 1928. – № 14. – 16 lutaha. – S. 3; Перадрук: Гадлеўскі Вінцэнт. Аўтабіяграфічны нарыс // Гарадзенскія запісы: старонкі гісторыі і культуры / гал. рэд. П. Сцяцко. – Гродна, 1993. – Вып. 1. – С. 124.

[214] Гадлеўскі В. З беларускага палітычнага жыцця ў Менску ў 1917–18 гг. : Рэфэрат кс. В. Гадлеўскага, прачытаны на Надзвычайным Агульным Сходзе Беларускага Нацыянальнага Камітэту Вільні ў 16-я ўгодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі дня 25 сакавіка 1934 году // Беларуская Крыніца. – 1934. – № 18. – 22 красавіка. – С. 2–3.

23.04.1917 г. БНК падаў заяву «Да Яго Эсцэленцыі Магілёўскага архібіскупа аб беларускай мове ў касцёле». У заяве ставіліся патрэбы хадайніцтва вышэйшай касцёльнай улады наконт уводу курсаў лекцый у рымска-каталіцкую духоўную семінарыю ў Петраградзе па беларускай мове, гісторыі і літаратуры, абавязкаў духавенства чытаць абвесткі, навучаць веры і звяртацца да народу ў яго мове, выданнях беларускамоўнай рэлігійнай літаратуры, прызначэнні біскупа і ксяндзоў-беларусаў, спрыянні ў беларусізацыі касцёла. Сярод падпісантаў ад дэлегацыі нацыянальнага з’езду беларускіх дзеячаў і сяброў камітэту (Р. Скірмунт, А. Будзька, П. Аляксюк) стаіць прозвішча кс. В. Гадлеўскага[215]. Зразумела, што ён быў адным з ініцыятараў дадзенага звароту і аўтарам тэксту.

Менавіта кс. В. Гадлеўскі выступіў ініцыятарам і арганізатарам першага з’езда беларускага каталіцкага духавенства, які праходзіў у Мінску 24–25 мая 1917 г. у кафедральным касцёле. У аўтабіяграфіі кс. В. Гадлеўскі пісаў: «У гэтым часе 24–25 траўня 1917 г. я склікаў з’езд беларускага духавенства. Прыехала больш 20 прадстаўнікоў нашага духавенства»[216]. Для правядзення з’езду быў створаны арганізацыйны камітэт, у склад якога ўваходзілі святары А. Астрамовіч, Ф. Будзька, В. Гадлеўскі, А. Цікота, Л. Хвецька. У запрашэнні на з’езд паведамлялася, што ў сувязі з развіццём беларускага руху арганізуюцца ўсе, хто імкнецца да адной мэты, а г. зн. трэба арганізоўвацца і ксяндзам-беларусам, бо інакш гэта можа дрэнна адбіцца на справах каталіцкай і народнай [217]. У з’ездзе прынялі ўдзел каля 30 ксяндзоў (Фабіян Абрантовіч, Францішак Аляшкевіч, Аляксандр Астрамовіч, Язэп Байко, Язэп Белагаловы, Міхаіл Борык, Францішак Будзька, Міхаіл Буклярэвіч, Янка Вэрсоцкі, Вінцэнт Гадлеўскі, Вінцэнт Гарасімовіч, Ігнат Жаўняровіч, Данат Лапошка, Карл Лупіновіч, Антон Матвейчык, Аляксандр Сак, Францішак Рамейка (?), Янка Семашкевіч, Адам Станкевіч, Канстанцін Стаповіч (?), Люцыян Хвецька, Андрэй Цікота, Станіслаў Шырокі, Станіслаў Эйсмант і іншыя. У першы дзень былі зачытаны рэфераты: «Беларускі рух і яго адносіны да жыцця касьцёльнага, а таксама да акцыі каталіцкай у Беларусі» (кс. А. Лісоўскі – чытаў А. Станкевіч), «Палітычна-народная акцыя каталіцкага духавенства на Беларусі ў нашых

---

[215] Аб беларускай мове ў касьцёле // Гоман. – 1918. – № 39. – 14 мая. – С. 2.

[216] Hadleuski, W. Z żyćca i dziejnaści ks. W. Hadleuskaha : Autobiohrafičny narys / W. Hadleuski // Biełaruskaja Krynica. – 1928. – № 14. – 16 lutaha. – S. 3.

Тут можа ўзнікнуць пытанне, чаму кс. А. Станкевіч нідзе не згадаў пра кс. В. Гадлеўскага як пра арганізатара першага з’езду, беларускага каталіцкага духавенства? Будучы ўдзельнікам з’езду кс. А. Станкевіч быў добра асвядомлены ў тым, хто найбольш рупіўся ў Мінску дзеля таго, каб сабраць нацыянальна свядомую частку каталіцкага духавенства. Логіка тагачасных абставін пераканаўча сведчыць, што іншай асобы, апрача маладога ксяндза В. Гадлеўскага, здольнай у той час ініцыяваць і арганізаваць такі з’езд у Мінску, проста не было.

[217] Stankiewicz Ad. Bielaruski chryscijanski ruch: histaryčny narys. – Vilnia, 1939. – S. 106.

часах» (кс. В. Гадлеўскі), «Акцыя духавенства грамадска-эканамічная» (кс. В. Гарасімовіч), «Прасветная акцыя духавенства» (кс. Ф. Абрантовіч), «Выдавецкая дзейнасць духавенства» (кс. Л. Хвецька)[218].

У другі дзень працы, паводле сведчання В. Пануцэвіча, кс. В. Гадлеўскі зачытаў яшчэ адзін рэферат: «Стварэньне каталіцкай партыі»[219] і была прынята рэзалюцыя, якая ўключала наступныя моманты: аўтаномія Беларусі ў складзе дэмакратычнай Расіі, навучанне ў школах на беларускай мове, патрэба казанняў і набажэнстваў на беларускай мове, а таксама ўвод гісторыі Беларусі і беларускай мовы як прадметаў у духоўныя навучальныя каталіцкія ўстановы. Ставілася пытанне аб выданні беларускіх кніг і газетаў, неабходнасці склікання з'езду ксяндзоў-беларусаў і агульнага з'езду каталіцкага духавенства ў Беларусі. Янка Станкевіч у газеце «Гоман» падаў не зусім дакладную інфармацыю пра колькасць ўдзельнікаў з'езду, але цікавую ў плане абмеркавання надзённых пытанняў і перспектываў: «...Арганізатары з'езду даслалі запросіны на з'езд толькі тым ксяндзам, аб каторых ведалі, што яны запраўды сьвядомыя беларусы. З'явілася больш сотні ксяндзоў. З'езд быў 4 дні... Пастанавілі выдаваць газету «Бацькаўшчына» (рэдактарам выбраны Хвецька і Гадлеўскі)... купіць друкарню Пянткоўскага за 75 тысяч рублей... Было закладзена выдавецкае таварыства, намеці на восень закладанне беларускіх школ»[220]. Трэба думаць, што запросіны на з'езд былі дасланыя больш сотні на той час свядомым ксяндзам-беларусам. Кс. Адам Станкевіч пісаў: «Гэты з'езд меў вялізарнае значэньне. Ён разбудзіў да працы і тых з ксяндзоў, якія ўжо даўно былі забыўшыся аб сваёй беларускасьці. Пасьля з'езду шмат дзе па землях беларускіх ксяндзы пачалі па касьцёлах гаварыць беларускія казаньні»[221]. Першы з'езд беларускага каталіцкага духавенства паклаў пачатак арганізацыі Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, выхаду газеты «Крыніца» і шырокай беларускай культурна-асветніцкай працы ў парафіях.

З імем кс. В. Гадлеўскага звязаны і працэсы фармавання і арганізацыі беларускага хрысціянска-дэмакратычнага руху ў Мінску. Пра гэта больш падрабязна будзе ісці гутарка ў наступных параграфах.

2 лістапада 1917 г. Папам Рымскім Бенядыктам XV была адноўлена Мінская рымска-каталіцкая дыяцэзія. У сувязі з гэтым абвастрыліся праблемы вакол рымска-каталіцкіх храмаў і манастырскіх забудоваў, якія былі зачыненыя на працягу XIX ст. расейскімі ўладамі. Так, у друку з'явілася інфармацыя пра тое, што дзякуючы энэргіі рэктара кс. Бараніслава Усаса

---

[218] Бібліятэка Акадэміі навук Літвы. Аддзел рукапісаў. – Ф. 21. – Спр. 687.

[219] В. Пануцэвіч пісаў: «Ужо з самай тэматыкі рэфэратаў мы бачым, што а. Гадлеўскі зь першых пачаткаў сваёй грамадзскай дзейнасьці вызначаў сябе як палітыка з мэтай арганізацыі як царкоўнага, так і агульнабеларускага жыцьця» (Пануцэвіч, В. Кс. Вінцэсь Гадлеўскі – Дзяржаўны Муж і Правадыр Народу / В. Пануцэвіч // Спадчына. – 1993. – № 3. – С. 51–71.)

[220] Янучок. Беларускі рух сярод беларускага каталіцкага духавенства // Гоман. – 1917. – № 84. – 19 кастрычніка. – С. 2.

[221] Stankiewicz Ad. Rodnaja mowa u światyniach… – S. 93.

будзе праведзены рамонт падамініканскага касцёла, які быў закладзены ў 1603 г. на ахвяраванні Сафіі Слуцкай і складак польскага рыцарства. «Каля месяца ходзяць чуткі, – паведамляе «Dziennik Micski», – што ідзе збор подпісаў сярод пэўных сфер люду, каб гэты касцёл быў перададзены беларусам для правядзення беларускіх казанняў. Лісты з подпісамі будуць уручаны біскупу ў час яго прыезду»[222]. Чуткі гэтыя былі не без падстаў. Так, прызначаны ў лютым 1917 г. на пасаду пробашча дамініканскага касцёла св. Тамаша Аквінскага, кс. Браніслаў-Мяфодый Усас, вельмі актыўны дзеяч польскага нацыянальнага і каталіцкага руху ў Беларусі, адразу ўключыўся ў барацьбу за дамініканскія муры і дамогся пасля лютаўскай рэвалюцыі рэвіндыкацыі (звароту маёмасці) дамініканскага касцёла і кляштару. Дапамагалі яму кс. Юзэф Ранц і кс. Францішак Руткоўскі, а польскую люднасць прадстаўлялі 17 жанчынаў і польскія салдаты (64 асобы) – сябры Хрысціянска-дэмакратычнай партыі, якую, дарэчы, кс. Б. Усас і зарганізаваў з іх. Колькі ксяндзоў, у тым ліку і беларускія святары, былі нязгоднымі з такімі намаганнямі кс. Усаса і паведамілі адміністратару дыяцэзіі кс. О. Рурка, і той забараніў рэвіндыкацыю, але пасля даў згоду і 17.03.1918 г. правёў урачыстае пасвячэнне дамініканскіх муроў. Нестабільная палітычная сітуацыя і, магчыма, беларуска-польскае супрацьстаянне вакол касцёла зацягнула справу з яго рэстаўрацыяй, і толькі 12.04.1920 г. быў нарэшце зацверджаны ў міністэрстве праект адбудовы дамініканскага касцёла ў Мінску: «...праект той цалкам адпавядае задачам кансервацыі і характару архітэктуры польскай і прымаецца да рэалізацыі...», – паведамлялася ў адпаведных дакументах[223]. Такім чынам, дамініканскі касцёл і кляштар, нягледзячы на намаганні беларускай грамадскасці (збор подпісаў), хадайніцтва княгіні Магдалены Радзівіл аб яго куплі з мэтай перадачы беларусам, быў аддадзены ў рукі польскага духавенства. Тут да месца нагадаць, што вядомая беларуская мецэнатка княгіня М. Радзівіл мела намер выкупіць надзел зямлі з пабудовамі былой рымска-каталіцкай кансісторыі, семінарыі і дамініканскіх муроў яшчэ ў 1914–1915 гг. і аддаць гэта ўсё на выкарыстанне беларускаму каталіцкаму духавенству; дамініканскія муры планаваліся пад арганізацыю дзіцячага прытулку. Але ў сувязі з энергічным пратэстам Мінскага праваслаўнага епіскапа і расейскіх грамадскіх дзеячаў (справа дайшла да Пецярбурга і атрымала вялікую пагалоску) прадажа была забаронена царскімі ўладамі ў Пецярбургу і, адпаведна, мінскімі ўладамі, нягледзячы нават на тое, што кн. М. Радзівіл прапанавала адразу выплату ў суме 350 тыс. руб. (у тыя часы для гарадской казны – вялікія грошы)[224].

---

[222] Dziennik Miński. – 1918. – № 135. – S. 5.

[223] Biblioteka katolieckłego uniwiersitetu Lubielskego (BKUL). Dział rekapisow. – Zbiory Ks. Br. Ussasa. – Rkps. 910. – K. 193.

[224] BKUL. Dział rekapisow. – Rkps. 910. – K. 21–60.

Ксяндзам-беларусам быў прапанаваны Бернардзінскі касцёл і кляштар, перадача якіх адбылася 18.11.1919 г.

У сувязі з аднаўленнем Мінскай рымска-каталіцкай дыяцэзіі, ардынатарам дыяцэзіі быў прызначаны кс. Зыгмант Лазінскі (12.11.1917 г.), але ўзначаліў дыяцэзію ён толькі 14 жнівеня 1918 г. (да гэтага часу дыяцэзіяй кіраваў генеральны вікарый Магілёўскай архідыяцэзіі кс. Эдвард О'Руркэ).

10 кастрычніка 1918 г. намаганнямі новага біскупа З. Лазінскага, кс. Фабіяна Абрантовіча і дзякуючы фінансавым ахвяраванням княгіні М. Радзівіл у Мінску была адкрыта рымска-каталіцкая духоўная семінарыя з падзелам на вышэйшую (6 гадоў навучання) і ніжэйшую (4 гады навучання). Семінарыя размяшчалася на другім паверсе будынка манастыра айцоў дамініканцаў. Рэктарам быў прызначаны кс. Ф. Абрантовіч; пракуратарам – кс. Б. Усас. У склад прафесараў уваходзілі святары Андрэй Цікота – кандыдат тэалагічных навук і ксяндзы-палякі Усас, Гергет, Свірскі, Барысевіч. Першы набор клерыкаў – 10 чалавек[225]. У 1919 г. у семінарыі было 29 вучняў, з іх 25 беларусаў.

У Мінскай рымска-каталіцкай духоўнай семінарыі біскуп З. Лазінскі дазволіў навучанне беларускай мовы і беларускія дадатковыя набажэнствы ў кафедральным касцёле і ў капліцы Дабрачыннасці. «Крыніца» паведамляла: «…Знача творацца цэлыя кадры, цэлыя палкі беларускага маладога духавенства, якое з цэлай моцай выступае ў абароне свайго пакрыўджанага народу. Ёсьць тут і касьцёлак (капліца) для беларусаў, дзе кожную нядзелю кс. прафесар Абрантовіч адпраўляе сьв. Імшу, гаворыць беларускія навукі, а хор пяе сьвятыя беларускія песьні»[226]. Сярод клерыкаў былі будучыя ксяндзы-беларусы: Вацлаў Аношка, Язэп Гайлевіч, Віталій Хамёнак, Казімір Смулька, Пётр Татарыновіч. Рэктар кс. Ф. Абрантовіч і кс. А. Цікота дамагаліся таго, каб семінарыю зрабіць беларускай; у семінарыі была адкрыта кафедра беларускай мовы, самі як у сценах семінарыі, так і па-за яе сьценамі размаўлялі з усімі (незалежна ад субяседнікаў, у тым ліку і клерыкаў) на беларускай мове. На ёй чыталіся шматлікія прадметы. Супраць такіх пачынанняў выступілі польскія ксяндзы Гергет і Барысевіч, апошні прынцыпова звярнуўся да біскупа З. Лазінскага з просьбай аб вызваленні яго ад абавязкаў прафесара семінарыі, аргументуючы тым, што Ф. Абрантовіч і А. Цікота «з часам стануць прычынай непажаданых вынікаў для дыяцэзіі»[227]. Айцец Тамаш Падзява ўспамінаў, што «актыўная беларуская дзейнасць кс. Андрэя Цікота як прафесара і эканома духоўнай семінарыі ў перыяд сакавіка 1919 – ліпеня 1920 гг. выкліка-

[225] BKUL. Dział rekapisow. – Rkps. 910. – K. 21–60.

[226] R.-Katalicki Episkopat i adradžžeńne Biełaruskaho Narodu // Krynica. – 1919. – № 6. – 5 kastryčnika. – S. 1; Z Mienska // Krynica. – Wilnia, 1919. – № 12. – 25 śnieżńia. – S. 2–3.

[227] BKUL. Dziai rekapisow. – Rkps. 910. – K. 211; Трацяк І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі… – С. 218.

ла нядобразычлівасць з боку польскага духавенства, якое заўсёды шукала заганы і памылкі ў яго духоўнай і адміністрацыйнай рабоце з мэтай яго кампраметацыі ў вачах духоўнага начальства і грамадскасці. Быў ён тады беспадстаўна абвінавачаны ў парушэнні фінансавых справаў у эканоміцы семінарыі. Пасля такія абвінавачванні працягваліся і ў Друі[228].

Рэктар і прафесар семінарыі кс. Ф. Абрантовіч робіць у гэты час захады па арганізацыі ў Мінску рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі, але палітычныя абставіны мяняюцца так, што становіцца не да акадэмій: улада ў горадзе мяняецца некалькі разоў. Летам 1920 г. польскія войскі пакідаюць Мінск. Біскуп З. Лазінскі пераводзіць клерыкаў у семінарыі Влоцлавака і ў Кельцэ.

Трэба прызнаць, што Мінская рымска-каталіцкая духоўная семінарыя перыяду 1918–1921 гг. увайшла ў гісторыю як адзіная беларуская паводле духу і нацыянальнай прыналежнасці семінарыя[229]. У кастрычніку 1921 г. духоўная семінарыя была пераведзена ў Навагрудак.

Біскуп Зыгмант Лазінскі не толькі дазволіў у Мінску духавенству гаварыць беларускамоўныя казанні, але гэтую справу пачаў сам у кафедральным касцёле. Пра гэтае важнае ў беларускім каталіцкім жыцці здарэнне пісаў Рамуальд Зямкевіч у «Беларускай Думцы»: «Новы біскуп Лазінскі як паляк не надта быў спачатку прыхільным да беларусаў. На вітанні па-беларуску, адказваў толькі па-польску. Але час ішоў, біскуп цікавіўся рухам беларускім і, пераканаўшыся, што гэтая рэч жыццёвая, разважная, зрабіў беларусам неспадзеўку. 6 снежня 1918 г. а 8 гадзіне зранку адбылася першая беларуская імша ў Менску. Служыў сам біскуп Лазінскі. У часе Імшы спяваў па-беларуску рэлігійныя і старабеларускія песні хор пад кіраўніцтвам рэктара семінарыі кс. Фабіяна Абрантовіча... У канцы Імшы сам біскуп Лазінскі прачытаў па-беларуску евангеліе і на тэму з евангелія сказаў казанне гарачо, ад сэрца і добра па-беларуску.... Цэлая імша і казанне ўхапілі за душу не толькі беларусаў-католікаў, але і беларусаў-праваслаўных. Усе мелі слёзы ў вачах. Ад гэтай пары пастаянна адбываецца беларуская імша кожную нядзелю ў капліцы Добрачыннасці ад 11 да 12 гадзіны, заўсёды з чытаннем евангелія і казаннем па-беларуску. Народу паўнюсенька: ходзяць і каталікі і праваслаўныя. Справа з беларускай мовай у Менску пастаўлена моцна, фундаментальна»[230]. Хвалебна пра гэты перыяд беларускага рэлігійнага жыцця ў Мінску пісала «Крыніца»: «Без сумніву асяродкам беларускага рэлігійнага жыцьця становіцца наша сталіца – Менск. Там гэтае жыцьцё, не маючы такіх перашкодаў, як у Віленскай і Гарадзенскай Беларусі, разьвілося буйна і надзейна. «Хрысь-

[228] Podziawo Tomasz, Ks. Wspomnienia. – Puszcza Mariańska, 2001. – S. 54.
[229] Трацяк І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі… – С. 218.
[230] Суніца, Раман. Справа беларускага біскупа / Раман Суніца // Беларуская Думка. – Вільня, 1919. – № 19. – 9 чэрвеня. – С. 1–2.

цыянская Дэмакратычная Злучанасьць» у ліку больш як 500 чалавек, на чале з прафесарам Абрантовічам, духоўная сэмінарыя, а ў ёй клерыкі беларусы і катэдра беларускае мовы, капліца для беларусаў-каталікоў, ды кожнае нядзелі і сьвята беларускія казаньні і песьні – вось прыгожая краска беларускага рэлігійнага жыцьця ў Менску…»[231]. «Дужа многа працуе тут на ніве роднай культуры, на ніве адраджэньня беларускага народу кс., др., прафесар Ф. Абрантовіч... Гэты чалавек з беларускай шчырасьцю і дзіўнай сьветласьцю і шырокасьцю розуму, з незвычайна людзкой і добрай шляхотнай душой, сапраўды можа быць названы першаўрадавай сілай беларускага народу і правадыром ягоным, якога працу ацаніць патрапіць толькі гісторыя»[232].

Поспех беларускага каталіцкага духавенства ў Мінску ў гэты час тлумачыўся як актыўнасцю саміх беларусаў, так і паслабленнем польскіх палітычных уплываў у сувязі з падзеямі савецка-польскай і грамадзянскай вайны. Нягледзячы на сітуацыю, беларускія католікі трывала замацоўвалі свае пазіцыі. Неўзабаве «Крыніца» паведамляла, што цяпер у Мінску адзін з лепшых касцёлаў св. Алены і Сымона на Захараўскай вуліцы належыць беларусам. Пробашчам гэтага касцёла з’яўляецца кс. прафесар Абрантовіч. Навукі ў касьцёле заўсёды гаворацца па-беларуску, пяюцца беларускія рэлігійныя песні, людзей заўсёды паўнюсенька. Бальшавікі да атрымання беларусамі касцёла аднесліся дужа прыхільна. «Дык вышла так, што Бог адмерыў беларусам сваю справядлівасьць праз бальшавікоў»[233]. Праўда, паспешлівыя высновы «Крыніцы» наконт «справядлівасці праз бальшавікоў» не спраўдзіліся.

Канфесійна-нацыянальная палітыка Мінскага біскупа кс. З. Лазінскага была прадуманай і асцярожнай, але ставіць яго ў кантэкст душпастыра беларускага каталіцкага духавенства было б не варта – яго падтрымка беларускасці ў касцёльным жыцці была часовай (сітуацыйнай), не шчырай і не спагадлівай для ідэалогіі беларускага каталіцтва. Яшчэ адно пацвярджэнне таму – асцярожнае аддаленне ад Мінску беларускіх каталіцкіх святароў у іншыя парафіі ў мэтах не толькі ўраўнаважыць нацыянальныя (беларускія і польскія) ўплывы ў касцёльным жыцці, але і дасягнуць польскай дамінацыі. Так, менш чым за год такой палітыкі з кагорты беларускіх каталіцкіх святароў у Мінску засталіся стала працаваць толькі кс. Ф. Абрантовіч і кс. А. Цікота. Адным з першых, каго біскуп маментальна выдаліў з Мінску, быў кс. В. Гадлеўскі. 14 жніўня біскуп узначаліў дыяцэзію і, «паддаўшыся польскай эндэцкай палітыцы», абвясціў кс. В. Гадлеўскаму альбо ўстрымацца ад ўсякай грамадскай і палітычнай дзейнасці,

[231] Biełaruskaje relihijnaje życcio siarod biełarusau-katalikou za 1920 h. // Biełaruskaja Krynica. – 1921. – № 1. – 1 studnia. – S. 2.
[232] Z Mienska // Krynica. – Wilnia, 1919. – № 12. – 25 śnieżńia. – S. 2–3.
[233] Miensk // Krynica. – 1921. – № 4. – 23 studnia. – S. 3.

альбо пакінуць Мінскую дыяцэзію. А 8.09.1918 г. кс. В. Гадлеўскі быў прызначаны ў Нясвіж на пасаду вікарыя і разам на прэфекта польскай гімназіі і рэктара Бернардзінскага касцёла. Пры тым актыўная культурная і грамадска-палітычная дзейнасць кс. В. Гадлеўскага ў Мінску адрознівалася ад такой жа актыўнай і насычанай дзейнасці польскага кс. Б. Усаса толькі тым, што мела беларускую афарбоўку. Але кс. Б. Усас быў гарачым польскім патрыётам і застаўся ў Мінску як апостал польскага асяродку, а кс. В. Гадлеўскі, відаць, такім «апосталам» быць не хацеў. Відавочным было адно, што рашэнне біскупа наконт кс. В. Гадлеўскага насіла палітычны характар. Прынамсі, пра гэта і пра сваю працу ў Нясвіжы кс. В. Гадлеўскі пісаў у аўтабіяграфіі: «Гэтыя абавязкі адрывалі мяне ад якой колечы грамадскай работы ды ўрэшце нада мною вісела палітычная суспенса біскупа Лазінскага»[234].

У Нясвіжы кс. В. Гадлеўскі не застаецца па-за ўдзелам у грамадскім жыцці. Яго абіраюць у мясцовую раду, дзе быў «заўсёды павадыром і кіраўніком усіх спраў...»[235]. Арганізаваў і апекаваўся дзіцячым прытулкам у Нясвіжы (1918–1921 гг.). У мясцовай гімназіі, у якой сярод вучняў былі свядомыя беларусы (Вінч, Рымашэўскі, Чаінскі, Сікорскі і інш.), чытаў лекцыі на беларускай мове па гісторыі і культуры. У в. Ушанка праводзіў набажэнствы і гаварыў па-беларуску, з чаго біскуп Лазінскі зрабіў цэлы працэс. Больш таго, у сценах былой расейскай настаўніцкай семінарыі ён арганізаваў моладзёвы гурток «Прасьвета», удзельнікамі якога былі родны брат Якуба Коласа Міхась Міцкевіч (Антось Галіна), будучы драматург Васіль Сташэўскі, Мікалай Раманоўскі (Кузьма Чорны) ды іншыя; у 1919 г. рабіў спробы рэфармавання семінарыі ў беларускую навучэльню, але польскія ўлады на месцы былой расейскай адкрылі польскую педагагічную школу.

Беларусізацыя рымска-каталіцкага жыцця ў Мінску нейкі час яшчэ трывала пасля сакавіка 1921 г., а пасля, у сувязі з пераводам духоўнай семінарыі ў Наваградак і гучнымі бальшавіцкімі судовымі працэсамі над духавенствам, стала заціхаць.

### 1.3.5. Арганізацыя беларускага рымска-каталіцкага жыцця ў Вільні (*кс. У. Талочка, кс. А. Станкевіч*).

Гаворачы пра праблемы душпастырства беларускага каталіцкага духавенства, немагчыма прайсці побач г. Вільні – цэнтра рэлігійнага, культурнага і, ад пачатку XX ст., беларускага нацыянальнага адраджэння. З Вільні разыходзіліся ў беларускія парафіі першыя беларускія газеты «Наша Доля» і «Наша Ніва», а пасля «Беларус», распаўсюджвальнікамі якіх у шматлікіх выпадках былі і каталіцкія святары.

---

[234] Hadleuski, W. Z życia i dziejnaści ks. W. Hadleuskaha : Autobiohrafičny narys / W. Hadleuski // Biełaruskaja Krynica. – 1928. – № 14. – 16 lutaha. – S. 3.

[235] Там жа. – S. 3.

Адным з першых беларускіх рупліўцаў з асяродку духавенства ў Вільні быў кс. Уладзіслаў Талочка[236]. У Вільні ён з’явіўся 17.02.1914 г. у якасці мансіянера (ксяндза-спавядальніка) пры касцёле св. Яна і адразу разгарнуў шырокую беларускую культурна-асветніцкую дзейнасць.

Кс. А. Станкевіч пісаў, што «...ў гэтым часе, аб якім гутарка, кс. Ул. Талочка быў кіраўніком і галавой і будзіцелем беларускага каталіцкага руху як такога. Усё, што тады рабілася беларускае каталіцкае, – гэта была яго справа…»[237].

У Вільні беларусы-каталікі ў 1916 г. зрабілі першыя крокі, каб завесці беларускую мову ў касцёле і пры навуцы рэлігіі ў школе. Адміністратару Віленскай дыяцэзіі была пададзена просьба з подпісамі, каб хоць у адным з віленскіх касцёлаў дадатковыя малітвы, казанні, катэхізацыя і споведзі адбываліся на беларускай мове, ды каб быў прызначаны ксёндз-беларус, які вучыў бы беларускіх дзяцей рэлігіі ў школах па-беларуску…[238]. «Вось жа стаpанні і пачынанні ў гэтай справе – мусім дадаць – належалі да кс. Ул. Талочкі...»[239]. У захаваным чарнавым варыянце просьбы (частка машынапісу на польскай мове, а рукапіс і подпісы на беларускай лацінцы) «Да Яго Эксцэленцыі Адміністратара Віленскай Рымска-Каталіцкай Дыяцэзіі» згадваецца, што ў Вільні паводле перапісу, які праводзілі пры немцах, свядомых беларусаў больш, чым дзьве тысячы. Далей вернікі пішуць, што «Як мы самі, так і шмат іншых нашых суродзічаў, што ня маюць магчымасьці падпісаць гэтую просьбу, ня можам больш цярпець, што нас не прызнаюць за праўдзівых католікаў толькі таму, што мы ў штодзённым нашым жыцьці карыстаемся нашай беларускай мовай. Мы хочам услаў-

[236] Пасля вучобы ў рымска-каталіцкім універсітэце ў Інсбруку (1909–1911 гг. ) кс. У. Талочка 12.12.1911 г. быў прызначаны Віленскім рымска-каталіцкім біскупам на пасаду вікарыя Ваўкавыскага касцёла. У наступным годзе завязваецца цікавая карэспандэнцыя кс. У. Талочкі з свецкімі ўладамі наконт мовы выкладання Закону Божага ў гарадскім вучылішчы і жаночай гімназіі ў г. Ваўкавыску. Царскія ўлады патрабавалі ад святароў даць гарант у тым, што выкладанне рэлігіі ў навучальных установах будзе праводзіцца на расейскай мове. Характэрны для таго часу дакумент, які атрымаў 13.05.1912 г. ад дырэктара Ваўкавыскай жаночай гімназіі а. У. Талочка: «...Согласно п. 14 Именного Высочайшего указа правительствующему сенату 17 апреля 1905 г. п.п. 2 и 3 Временных правил, преподования Закона Божия инословных христианских исповеданий велось Вашим Преподобием на родном языке учениц, т. е. для белорусок – на русском языке, для полек – на польском, для литвинок – на литовском и пр.» (Цэнтральная бібліятэка Акадэміі Навук Рэспублікі Беларусь. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 23. – В. 1. – Спр. 793. – адз. зах. 9). У сувязі з нязгодай выкладаць рэлігію на расейскай мове, кс. У. Талочка не быў прызначаны законавучыцелем. 09.10.1913 г. быў пераведзены з Ваўкавыска ў Гродна на пасаду мансіянера Гродзенскага фарнага касцёла, а 17.02.1914 г. апынуўся на такой жа пасадзе ў Віленскім касцёле св. Яна. Кс. У. Талочка падтрымліваў сувязі з кс. Ф. Грынкевічам і з гуртком беларускай моладзі ў Гродне (1909–1913 гг.), з газетай «Беларус» (1913–1915 гг.), якой аказваў неаднаразовую матэрыяльную падтрымку і дзе зрэдку з’яўляліся кароценькія карэспандэнцыі кс. У. Талочкі.

[237] Stankiewicz Ad. Biełaruski chryścijanski ruch : histaryčny narys… – S. 88.

[238] Mialeszka I. Narod i relihija / I. Mialeszka // Homan. – 1916. – № 10. – 17 marca. – S. 2.

[239] Stankiewicz Ad. Biełaruski chryścijanski ruch : histaryčny narys… – S. 88–94.

ляць Пана Бога на нашай роднай мове і ведаем, што гэта ня можа быць забаронена нашым Сьв. Касьцёлам. Да таго ж, прыйшоў такі час, што наш народ беларускі абудзіўся ад векавога сну і просіць аб прызнаньні сваёй мовы ў Касьцёле ня толькі ў Вільні, але і ў цэлай нашай беларускай зямлі». Апрача гэтай просьбы, вернікі яшчэ хочаць, каб дзеці, якія ходзяць у беларускія школкі, мелі магчымасць рыхтавацца да першай і Велікоднай споведзі на беларускай мове. Ліст датуецца ад 15 красавіка 1916 г. Сярод падпісантаў: (?) Корф, Ян Дубовік, Баляслаў Пачопка, Марыся Грынцэвіч, Вацлаў Ластоўскі, Баніслаў Лукашэвіч, М. Знамероўска, М. Рапацэвіч, І. Юргелевіч, К. Маскевіч, Іван Даўлідовіч, А. Саковіч, Янка Амбражэвіч, Кароль Міхайлоўскі, Казімір Стэфановіч, А. Станкевічанка, І. Івашкевіч і інш. (усіх – больш ста подпісаў)[240]. (Гл. дадатак 1.) Ініцыятарам і аўтарам звароту быў кс. У. Талочка. Айцец Л. Гарошка пісаў, што духоўная ўлада дала вымінаючы адказ на гэту просьбу: няма нічога супраць беларускай мовы, але трэба ўстрымацца да канца вайны з новаўвядзеннем[241].

Між іншым, першыя набажэнствы на літоўскай мове пачалі адпраўляцца ў касцёле св. Крыжа ў Вільні з дазволу біскупа К. Міхалькевіча ў лістападзе 1914 г. Ініцыятарам быў кс. Міхал Абаровіч[242].

Наступным крокам руплівасці кс. У. Талочкі было заснаванне ўвосені 1917 г. у Вільні новага беларускага таварыства па аказанні дапамогі дзецям «Золак». Кс. У. Талочка быў ідэйным кіраўніком таварыства; пры адкрыцці «Золаку» ён асвяціў памяшканне і па-беларуску прамаўляў[243]. Беларуская арганізацыя «Золак» была ініцыявана Камітэтам Беларускага Таварыства помачы пацярпелым ад вайны, сябрам якога быў кс. У. Талочка. Арганізацыі належаў інтэрнат, пасля заменены на прытулак, у якім працавалі ідэйныя каталічкі пад кіраўніцтвам кс. У. Талочкі, і каплічка. У 1918 г. у прытулку «Золак» было 160 дзяцей. Таварыству «Золак» належалі пачатковая беларуская школа, дзіцячы хор, тэатральны гурток, курсы для дзяцей дашкольнага веку, майстэрні для папраўкі вопраткі і вырабу абутку, а таксама лецішча ў Чорным Бары каля Вільні «Вырай». Прытулкам апекаваўся кс. У. Талочка. Яго заслуга была і ў арганізацыі беларускага дзіцячага хору прытулка, хору, без якога не абыходзіліся многія ўрачыстыя беларускія набажэнствы, а таксама розныя імпрэзы беларускіх нацыянальных арганізацый у Вільні[244].

Варты ўвагі выступ кс. У. Талочкі на беларускай канферэнцыі ў Вільні

---

[240] БДАМЛіМ. – Ф. 3. – В. 1. – Спр. 134. – Арк. 45–47.

[241] Гарошка, Леў, а. Айцец Уладыслаў Талочка / а. Леў Гарошка // Божым шляхам. – 1955. – № 66–67. – С. 15.

[242] Biełarus. – 1914. – № 48. – 27 listapada. – S. 4.

[243] Stankiewicz Ad. Biełaruski chryścijanski ruch: histaryčny narys. – Vilnia, 1939. – S. 88–94.

[244] Stankiewicz Ad. Biełaruski chryścijanski ruch: histaryčny narys… – S. 97; Гарошка Леў, а. Айцец Уладыслаў Талочка / а. Леў Гарошка // Божым шляхам. – 1955. – № 66–67. – С. 14–16.

ў 1918 г.: «...няма на сьвеце вялікшага грэху крыўды, як душагубства, пакрыўджаньне малых, забойства. З гэтых некалькі слоў ужо ясна, дзе маё мейсца як каталіцкага ксяндза, зьвязанага паходжаньнем з беларускім народам. Яно ж маё места быць з гэтым людам. Для мяне гэта лагічны абавязак, а не якая рэч густу, сымпатыі. <…> Служэньне гэтаму народу ня можа быць справай карыснасьці, а толькі работай шчырага ідэялізму. Для гэтага мала любіць свой народ, мала хацець для яго шчасьця, трэба працаваць над яго правільным сьветапоглядам, каб ён ня стаў на матэрыялістычны шлях»[245]. Прамова кс. У. Талочкі была з сваёй сутнасці праграмным дакументам, кіраўніцтвам беларускаму каталіцкаму духавенству да дзеяння.

Апрача гэтага, кс. У. Талочка ўвайшоў у склад створанага на канферэнцыі Беларускага Навуковага Таварыства, а 26.01.1918 г. у катэдральнай капліцы сьв. Казіміра адправіў імшу на беларускай мове з удзелам беларускіх рэлігійных песняў дзіцячага хору прытулку «Золак». «2.05.1918 г. першы раз бачым беларусаў-каталікоў, афіцыйна бяручых удзел у працэсіі на Божае Цела ў Вільні, – пісаў далей кс. Адам Станкевіч пра беларускія справы кс. У. Талочкі. – Беларусы-каталікі на гэтай працэсіі несьлі свой сьцяг з беларускімі надпісамі з абодвух бакоў, а хор «Золак» пяяў беларускія рэлігійныя песьні. І ў гэтым рука кс. Талочкі… У тым жа 1918 г. 24 жніўня паўстае так жа яшчэ адна бел. арганізацыя «Сувязь Культурна-нацыянальнага Адраджэньня Беларускага Народу», у якім галоўную іграюць роль Беларусы каталікі, а прадусім той жа кс. Талочка»[246].

У час прывітальнага слова з нагоды ўрачыстасцяў у гонар новага Віленскага біскупа а. Юрыя Матулевіча (08.01.1918 г.) кс. У. Талочка сказаў вельмі кранальную прамову, якую мог сказаць толькі ксёндз-беларус, сапраўдны патрыёт і апостал свайго народу: «…Усе народы перажываюць цяпер цяжкую хвіліну, аднак самая страшэнная хвіліна для народу Беларускага: яму глядзіць у вочы сьмерць пэўная, калі ён ня ўстане да жыцьця, калі не абудзіцца. Вось чаму сьведамыя Беларусы і ксяндзы Беларусы ў Віленскай дыяцэзіі як сыны народу зьвяртаюць свой голас сыноўскі да Вашай Пастарскай Міласьці, просячы апекі і помачы для ўсіх рэлігійных, культурных і нацыянальных патрэб Беларусаў…»[247]. Праблемы, якія агучыў кс. У. Талочка ў звароце да біскупа былі вельмі кранальнымі і хвалявалі не толькі аднаго кс. У. Талочку. Чытачы «Гомана» не аднойчы звярталіся да рэдакцыі з просьбай расказаць што-небудзь пра беларусаў-каталікаў Вільні і Віленшчыны, пра іх святароў, магчымасці маліцца і вучыцца на роднай мове, але рэдакцыі, па сутнасці, не было што казаць, апрача таго, што польскія ўлады тут робяць усё магчымае (за выключэннем той

---

[245] ЦНБНАНБ: Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 23. – В. 1. – Спр. 21. – Арк. 1–2; Stankiewiec Ad. Bielaruski chryscijanski ruch : histarycny narys... – S. 91–93.

[246] Stankiewicz Ad. Biełaruski chryścijanski ruch : histaryčny narys... – S. 88–94.

[247] Там жа. – S. 96.

часткі дыяцэзіі, якая часова апынулася на тым баку фронту – Дзісненшыны), каб не дапусціць беларускай мовы ў касцёл (маладых ксяндзоў-беларусаў не прызначаюць у дыяцэзію, а былых святароў беларусаў стараюцца выслаць у польскія парафіі); беларускія набажэнствы і казанні ў Вільні не праводзяцца, бо беларусы не маюць свайго касцёла, і адзіным беларускім святаром у Вільні на гэты момант з'яўляецца кс. У. Талочка[248].

Апрача гэтага, кс. У. Талочка пры ўтварэнні Літоўскай дзяржаўнай рады ўвайшоў у склад Літоўскай Тарыбы, дзе рэпрэзентаваў беларусаў (1918–1919 гг.)[249].

У 1920 г. кс. У. Талочка звяртаецца да прадстаўніка ад Літвы пры Апостальскай сталіцы Юры Нар'яўскага з просьбай аб патрэбах беларусаў у касцёльным жыцці. У 1921 г. ад імя беларусаў дасылае ліст архібіскупу Пражскаму і сенатару А. Стояну з адпаведнай просьбай перад Папам Рымскім.

Зразумела, што праз увесь складаны час 1917–1921 гг. беларускі святар займаў вельмі актыўную пазіцыю грамадскага, культурнага і рэлігійнага дзеяча, абараняючы ў першую чаргу ідэю беларускага каталіцка-хрысціянскага і нацыянальнага адраджэння. Нездарма Язэп Найдзюк згадвае кс. У. Талочку ў адным шэрагу з найбольш аўтарытэтнымі беларускімі адраджэнцамі: «Найвыдатнейшымі беларускімі дзеячамі ў гэтую пару ў Вільні былі браты Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, др. інж. Вацлаў Іваноўскі, кс. Ул. Талочка і Янка Станкевіч»[250].

У 1919 г. беларускую душпастырскую місію ў Вільні падхоплівае кс. Адам Станкевіч, які на гэты час ўжо быў вядомым беларускім дзеячам. Дзякуючы біскупу а. Ю. Матулевічу, ён у жніўні 1919 г. вярнуўся з Драгічына над Бугам, куды быў размеркаваны восенню 1918 г. кіраўніцтвам Віленскай курыі, і адразу распачаў актыўную дзейнасць па аднаўленні газеты «Крыніца» і арганізацыі беларускіх ксяндзоў, апякунства над беларускім дзіцячым прытулкам у Вільні і выкладанне Закону Божага і іншых прадметаў у Віленскай Беларускай Гімназіі, а ад красавіка 1920 г. узначаліў Беларускі Камітэт помачы пацярпелым ад вайны.

У гадавым аглядзе рэлігійнага жыцця за 1920 г. кс. У. Талочка адзначаў, што «ў гэтым жа годзе пачаўся збор подпісаў пад просьбай да біскупа віленскага, каб даў у Вільні на пачатак якую каплічку беларусам-каталікам. Лік подпісаў усё расьце. Таксама арганізуецца патроху ў Вільні гурток беларускай хрысціянскай дэмакратыі і хор»[251]. Ініцыятарам звароту беларусаў-католікаў Вільні да духоўных уладаў (Віленскага біскупа а.

[248] Ліст у рэдакцыю. Адказ рэдакцыі // Гоман. – 1918. – № 83. – 22 кастрычніка. – С. 2, 4.

[249] Ponarski Zenowiusz. Władysław Tołoczko – ostatni obywatel Wielkoho Księstwa Litewskiego // Białoruskie Zeszyty Historyczne. – Białostok, 1997. – № 8. – S. 81–89.

[250] Найдзюк, Язэп. Беларусь учора і сёньня / Язэп Найдзюк, Іван Касяк. – Менск, 1993. – С. 150.

Ю. Матулевіча) з просьбай аб вызначэнні ім асобнага касцёла для правядзення набажэнстваў на гэты раз быў кс. А. Станкевіч, але справа не рухалася з палітычных прычынаў.

У студзені 1920 г. беларусы-каталікі Вільні ў складзе дэлегацыі (кс. А. Станкевіч, Ф. Ярэміч, К. Душэўскі, М. Мараўская) падалі папежскаму візітатару асобны мемарыял, у якім выклалі ўсе свае рэлігійныя патрэбы. Візітатар прыняў дэлегацыю вельмі прыхільна і абяцаў мемарыял данесці Папежу[252]. Дарэчы, у Мемарыяле (на расейскай мове) да Папы Рымскага гутарка ішла пра патрэбы ўводу беларускай мовы ў касцёлы і духоўныя семінарыі, давалася гістарычная даведка аб культуры Беларусі, мовы, паланізацыі. Згадвалася, што епіскап С. Сестранцэвіч у 1776 г. прасіў дазволу ў расейскіх уладаў друкаваць касцёльныя кнігі на беларускай мове, але атрымаў адмову. Магілёўскі біскуп Сіман у 1896 г. звярнуўся з адпаведнай просьбай і таксама атрымаў адмову[253]. Нічога не атрымалі і беларусы-каталікі на гэты раз; нават адказу не атрымалі, быццам іх і не было ў Вільні.

Пасля яшчэ звярталася дэлегацыя ад беларусаў з такою ж нагодай да апостальскага нунцыя Ахілеса Рацьяга ў час яго побыту ў Вільні ў 1920 г., але таксама безвынікова.

Кс. У. Талочка, падсумоўваючы беларускія рэлігійна-каталіцкія справы за 1920 г., акцэнтаваў увагу на двух найбольш значных аб'яднаўчых фактарах абуджэння беларускасці – гэта: у Вільні тыднёвая газета «Крыніца», а ў Менску – Хрысьціянская дэмакратычная лучнасць: «Правы грамадзянства ў касьцёле здабыла наша беларуская мова пакуль што ў Менску. Вялікія ў гэтым ёсьць заслугі кс. рэктара Абрантовіча, а з каталікоў свецкіх – п. Крэпскага і інш. Вялікія надзеі маем на клерыкаў менскай Рымска-Каталіцкай Духоўнай Сэмінарыі. «Хр.-Дэм. Лучнасьць ідзе ў народ і падтрымлівае ідэю адраджэньня ў хрысьціянскім духу. Чым для Менску ёсьць «Лучнасьць», тым для Вільні «Крыніца»»[254].

* * *

Несумненна, беларуская мова ў гэты час гучала ў каталіцкіх парафіях і касцёлах і з вуснаў такіх святароў, як кс. Францішак Аляшкевіч – удзельнік з'езду беларускіх каталіцкіх святароў у Мінску (1917 г.), пробашч м. Удзял Глыбоцкага дэканату; а. Вацлаў Аношка – вікарый м. Ляхавічы (Баранавіцкі дэканат); кс. Аляксандр Аўгусціновіч – пробашч і адміністратар касцёлаў у Беніцы і Лоску Ашмянскага дэканата; кс. Язэп Байко –

---

[251] Кс. Ул. Талочка. З агляду рэлігійных спраў на Беларусі ў 1920 г. // Наша Думка. – 1920. – № 2. – 31 сьнежня. – С. 2.

[252] Там жа. – С. 2.

[253] Літоўскі цэнтральны дзяржаўны архіў. – Ф. 582. – В. 1. – Спр. 54. – Арк. 1–5.

[254] Кс. Ул. Талочка. З агляду рэлігійных спраў на Беларусі ў 1920 г. // Наша Думка. – 1920. – № 2. – 31 сьнежня. – С. 2.

удзельнік з'езду беларускіх каталіцкіх святароў у Мінску (1917 г.), адміністратар парафіі Спас Вілейскага дэканата; кс. Юльян Бароўка – пробашч парафіі Нараўка Пружанскага дэканата; кс. Міхаіл Борык – удзельнік з'езду беларускіх каталіцкіх святароў у Мінску (1917 г.), пробашч касцёла Дзеркаўшчына Надвілеўскага дэканата; кс. Міхаіл Буклярэвіч – удзельнік з'езду беларускіх каталіцкіх святароў у Мінску (1917), адміністратар касцёла Іказнь Дзісненскага дэканата; кс. Міхаіл Далецкі – адміністратар Старчыцкай парафіі Слуцкага дэканата; кс. Антон Зянкевіч – адміністратар касцёла Мікалаева Дзісненскага дэканата; кс. Данат Лапошка удзельнік з'езду беларускіх каталіцкіх святароў у Мінску (1917 г.), кс. пробашч парафій у Пінскім дэканаце, кс. Францішак Рамейка – пробашч у Сельцах Дзісненскага і Шэрашова Пружанскага дэканатаў; кс. Янка Семашкевіч – пробаш у Леварышках Ашмянскага дэканата; кс. Канстанцін Стаповіч – пробашч ў Засвіры Свенцянскага дэканата; кс. Андрэй Цікота – удзельнік з'езду беларускіх каталіцкіх святароў у Мінску (1917 г.), пробашч касцёла ў Маладзечне; кс. Леанард Чарняк – пробашч у Эйшышках Радунскага дэканата і Смаргоні Ашмянскага дэканата; кс. Францішак Чарняўскі – вікары ў Сухаволі (Сакольскі дэканат): кс. Станіслаў Шырокі удзельнік з'езду беларускіх каталіцкіх святароў у Мінску (1917 г.), пробашч парафіі Парафіянава Надвілейскага дэканата; кс. Зянон Якуць – пробашч парафіі Шаркаўшчына Дзісненскага дэканата, кс. Генрык Бэта ў Аўгустове, кс. Генрых Гарасімовіч у Ашмянах, кс. Антон Шышко – у Свіслачы.

Антон Луцкевіч згадваў аб «саюзе ксяндзоў-беларусаў», які ў 1918 г. налічваў 200 чалавек[255] (А. Луцкевіч, хутчэй за ўсё, меў на ўвазе колькасны склад сяброў суполкі БХДЗ альбо, як тады яе называлі – Беларускай каталіцкай дэмакратычнай злучнасці, якая была арганізавана кс. В. Гадлеўскім у Мінску. Ідэя стварэння Саюза ксяндзоў-беларусаў па прынцыпе БХДЗ (Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці) была агучана В. Гадлеўскім на першым з'ездзе беларускіх каталіцкіх святароў у Мінску (24–25 травеня 1917 г.), а ініцыятыва фармальнага зацвярджэння статуту і Саюзу ксяндзоў як арганізацыі рэлігійнай належала да больш позняга часу. Але А. Луцкевіч мае рацыю ў тым, што і сапраўды ў 1918 г. каля 200 рымска-каталіцкіх ксяндзоў гатовыя былі да беларускай душпастырскай і культурнай працы. Часткова гэтую інфармацыю пацвердзіў кс. Пётр Татарыновіч, адзначаючы, што беларускага нацыянальна-свядомага духавенства ў пачатку 1920 гг. было каля 200 чалавек[256].

Такая сітуацыя не магла не хваляваць шавіністычна настроенае польскае грамадства. Нават у польскім друку, дзе прынцыпова не заўважалі ксяндзоў-беларусаў, загучалі ноткі трывогі. Дайшло і да таго, што непрыхільная да

---

[255] А. Л. Усходняя Беларусь : статыстычныя і гістарычныя матэрыялы. – Мінск : Выд. Народнага Сэкрэтарыяту Міжнародавых спраў, 1918. – С. 6.

[256] Znič. – 1955. – № 34–35. – S. 4.

беларускасці «Gazeta Warszawska» прызналася, што на чале беларускага руху стаяць маладыя ксяндзы-беларусы і выводзяць беларускую справу на шырокую дарогу развіцця... Штораз болей знаходзяць яны прыхільнікаў і беларуская свядомасць шырыцца і развіваецца па ўсім краі... Калі такая праца будзе працягвацца і далей, дык па касцёлах запануе беларуская мова і будзе створана беларускае каталіцтва... Польскае духавенства, за выняткам некалькі ксяндзоў, нічога не робіць... Адам Станкевіч падзякаваў за прызнанне, але расцаніў гэты допіс як спробы агітацыі і актывізацыі касцёльных і свецкіх уладаў для барацьбы з беларускім каталіцкім духавенствам [257].

## 1.4. УДЗЕЛ У РЭЛІГІЙНЫХ І КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІХ АРГАНІЗАЦЫЯХ

На прыканцы XIX і пачатку XX ст. Апостальская Сталіца неаднаразова звярталася да духавенства і вернікаў у справе актывізацыі дзейнасці ў грамадскім жыцці. Для першых дзесяцігоддзяў XX ст. характэрным быў рост розных каталіцкіх арганізацыяў, суполак, таварыстваў і брацтваў, але іх актыўнай дзейнасці перашкодзілі войны і рэвалюцыі. Але менавіта ў гэты час узнікаюць і дзейнічаюць амаль што праз увесь міжваенны перыяд некалькі дзясяткаў розных рэлігійных арганізацый, мэтамі якіх было пашырэнне асветы, культуры, навукі, маралі ў духу хрысціянска-каталіцкіх ідэй. Найбольш значнымі сярод іх былі «Таварыства св. Вінцэнта і св. Паўла», «Каталіцкі мужчынскі саюз», «Саюз каталіцкіх жанчын», «Каталіцкія саюзы моладзі», рэлігійныя брацтвы: «Брацтва марыянскае інтэлігенцыі мужчын», «Брацтва марыянскае інтэлігенцыі жанчын», «Брацтвы вучняў сярэдніх школаў», арганізацыя «Папежская справа св. Апостала Пятра», «Таварыства народнай школы», «Таварыства народнай бібліятэкі», дабрачынная акцыя і інш.[258]. Зразумела, што ўсе гэтыя арганізацыі ўзнікалі пад кіраўніцтвам рымска-каталіцкага духавенства і былі моцна спаланізаванымі.

Найбольш масавай рэлігійна-асветніцкай арганізацыяй было Таварыства св. Вінцэнта і Паўла – мужчынскія і жаночыя аддзелы, якія ўзніклі ўпершыню з ініцыятывы біскупа Яна Цепляка ў Пецярбургу ў 1909 г. (7.14 (27) снежня 1909 г. быў утвораны жаночы аддзел). Галоўнымі мэтамі таварыства былі: арганізацыя культурна-грамадскага руху, міласэрнасць, дабрачыннасць і ўзаемадапамога, прапаганда хрысціянска-каталіцкіх прынцыпаў супольнасці, сацыяльныя праблемы, патрыятызм. З ініцыятывы Таварыства св. Вінцэнта і Паўла ўзнікалі розныя культурныя і сацыяльныя інстытуцыі: Бюро пасрэдніцтва працы і прытулку для служачых, камітэты ўзаемападтрымкі слухачоў вышэйшых навуковых курсаў і рукадзельніц, часопіс-штотыднёвік «Пад знакам Крыжа», каталіцкая кнігар-

---

[257] Pryznajucca… // Biełaruskaja Krynica. – 1920. – № 10. – 2 trawnia. – S. 1.
[258] Rocznik statystyczny Kosciola Katolickiego w Polše. – War-wa, 1937. – S. 258–259.

ня, інтэрнат для бедных дзяцей і інш. У Таварыстве св. Вінцэнта і Паўла было задзеяна амаль што ўсё рымска-каталіцкае духавенства. У міжваенны час дабрачынныя аддзелы Таварыства Вінцэнта і Паўла існавалі амаль што пры кожным касцёле.

Масавай свецкай культурнай арганізацыяй выступала Польскае таварыства «Асвета» (Polskie Towarzystwo «Oświata»), якое было заснавана ў 1905 г. у Мінску і дзейнічала на тэрыторыі Мінскай губерні ў канспірацыі да 1907 г. 11.01.1907 г. таварыства было афіцыйна зарэгістравана і працягвала працу з чаргаваннем легальнай і канспірацыйнай дзейнасці да 1917 г. Арганізатарамі і актыўнымі дзеячамі «Асьветы» былі як асобы свецкія (Эдвард Вайніловіч, Раман Скірмунт, князь Геранім Друцкі-Любецкі, граф Ежы Чапскі, граф Канстанцін Прушынскі, Міхал Ленскі, Ігнат Віткевіч, Вітальд Ваньковіч), так і духоўныя: кс. Казімір Міхалкевіч (фундатар і ад 12.03.1907 г. старшыня таварыства), кс. Казімір Букраба, кс. Адам Лісоўскі. Галоўнымі мэтамі «Асветы» было выхаванне жыхароў Мінскай губерні (асабліва дзяцей) у духу «польскасці», каб супрацьстаяць русіфікацыі края праз арганізацыю і падтрымку прыватнай польскамоўнай і рэлігійнай (каталіцкай) адукацыі. Таварыства ўхілялася ад палітызацыі сваёй дзейнасці, афіцыйна дэкларуючы толькі асветніцка-культурныя мэты, але само распаўсюджанне польскай мовы і падтрымка каталіцызму выклікалі негатыўную рэакцыю і пераслед з боку афіцыйнай расійскай улады, бо ўваходзілі ў супярэчанне з неафіцыйнай палітыкай урада па русіфікацыі Заходняга края Расійскай імперыі[259]. Варта адзначыць, што лідары «Асветы» (у першую чаргу – Эдвард Вайніловіч) і многія сябры таварыства былі занятыя рэалізацыяй ідэй ліберальна-кансерватыўнага кірунку «краёвасці»: аўтаномія свайго края ў складзе Расійскай імперыі, скасаванне саслоўных адрозненняў, прававая роўнасць народаў, моў, культур, канфесій і інш. Пазней, у 1927 г. Э. Вайніловіч выказваўся, што паланізаванасць карэннага каталіцкага дваранства беларускіх зямель мела павярхоўны характар (беларуская мова не забывалася), а таксама, што пасля «адарвання» Беларусі ад Расіі і стварэння беларускай дзяржавы магчыма адмова ад тагачаснай павярхоўнай паланізаванасці мясцовага дваранства і інтэлігенцыі і вяртанне да пастаяннага выкарыстання беларускай мовы[260].

Факты гэтыя мы прыводзім дзеля таго, каб зразумець, што «Асьвета» ўяўляла сабой не столькі польскую арганізацыю, колькі арганізацыю «краёўцаў» і было б вялікай памылкай залічваць іх усіх без разбору да паланізатараў краю.

[259] Польскае таварыства «Асвета» у Мінску (1905–1917) // Каталіцызм (З пляцоўкі «Вікіпедыя»). – Рэжым доступу: http://www.wikiwand.com/be/Польскае таварыства «Асвета» ў Мінску /cite_ref–27. – Дата доступу: 08.02.2016.

[260] Woyniłowicz, E. Wspomnienia. 1847–1928 / E. Woyniłowicz. – Wilno : Józef Zawadzki, 1931. – Cz. 1. – S. 212.

Каталіцкае дабрачыннае і культурна-асветніцкае таварыства пад такой жа назвай – «Асвета» было арганізавана а. Ю. Матулевічам у 1907 г. у Пецярбургу. Сябрам «Асьветы» быў кс. Ф. Абрантовіч, які на адным з пасяджэнняў таварыства ў 1909 г. прачытаў лекцыю на тэму «Навука і касцёл»[261]. Дзейнае ядро «Асьветы» складалі выкладчыкі і прафесура рымска-каталіцкіх навучальных устаноў (акадэміі і семінарыі), а таксама рымска-каталіцкае духавенства г. Пецярбурга. Зразумела, што ў асяродку такіх быў не толькі адзін кс. Ф. Абрантовіч, хто пазней далучыўся да беларускага руху.

Актыўнасць і рост розных культурных арганізацый і партый прыпадае на 1912–1921 гг. Менавіта ў гэты час значна актывізавалася польскае рымска-каталіцкае духавенства, якому належыць ініцыятыўная роля ў стварэнні розных каталіцкіх і польскіх рэлігійных і нацыянальных таварыстваў і арганізацыяў. Так, у лісце Міністэрства ўнутраных справаў ад 12.01.1912 г. на імя Віленскага біскупа адзначалася, што «в пределах подведомственной Вашему Высокопреподобию епархии существует целый ряд римско-католических братств (Терциаров, Тела Господня, Св. Анны, Милосердия, Остробрамское, Апостолата Молитвы, Сердце Иисуса, Сердце Марии, Покрова, Успения, Благовещания и Милостивой Пресвятой Богородицы, Провидения Св. Тайн, Св. Семейства, Обретения, Сретения, 5 ран Господних, Воздвижения, Иосифа Обручника, Св. Феклы, Св. Варвары, Михаила Архангела, Св. Рожанца, Кармелитскаго Шкаплера, Трезвости и т. п.), не имеющих утверждённых правительством уставов. При таких условиях деятельность в пределах России означенных братств, представляется незаконной, и все лица, выступающие в качестве членов сих братств, подлежат ответственности по п.п. 3 и 4 ст. 124 Уголовнаго Уложения»[262].

Актыўна дзейнічалі польскія арганізацыі і розныя таварыствы ў гэты час у Мінску. Так, ксёндз Браніслаў Усас за гады сваёй працы ў Мінску (1917–1921 гг.) арганізаваў Польскую хрысціянска-дэмакратычную партыю, Камітэт дапамогі дзецям, Саюз моладзі крэсовай, Саюз скаўтаў, Таварыства прыяцеляў навук, Таварыства польскіх тэхнікаў[263]. Адпаведныя арганізацыі існавалі ў Вільні і ў правінцыі. Адметнасцю іх было тое, што яны ствараліся вакол касцёла і арганізатарамі выступалі пробашчы парафій.

Дзейнасць такіх таварыстваў, арганізатарамі якіх выступала каталіцкае духавенства, а ўдзельнікамі маглі быць і свецкія асобы і святары, размежаваць на дзейнасць рэлігійную, культурную, асветніцкую і палітычную няпроста. Калі з аднаго боку відавочна выступала хрысціянска-каталіцкая

---

[261] Spustek Irena. Polacy w Piotrogradzie 1914–1917. – Warszawa, 1966. – S. 55.

[262] НАРБ у Гродна. – Ф. 1. – В. 18. – Спр. 1842 [Дело Копии (отношений) МВД по духовным вопросам]. – Арк. 3.

[263] Dzicrzkowska Danuta. Zbior rukopisow afiarowanych, przez ks. Br. Ussasa bibliotece Uniwiersiteckiej KUL. – Lublin : Tow-wa Naukowa Katolick. Uniwer. Lubelskiego, 1979. – S. 4–5.

тэматыка адраджэння Касцёла, з другога – каталіцкая тэматыка падавалася ў кантэксце адраджэння польскасці – культуры польскага народу і польскай дзяржаўнасці, што ва ўмовах царскага рэжыму выходзіла па-за межы чыста рэлігійнай і культурна-асветніцкай дзейнасці і набывала палітычны кантэкст. Няма сэнсу задавацца спрэчнымі пытаннямі, кшталту, да якой дзейнасці трэба адносіць забароненыя тайныя польскія школкі і вывучэнне польскай мовы, ініцыятарамі чаго часта выступалі каталіцкія святары? Адказ відавочны, але пры гэтым трэба ўлічваць і той факт, што на пачатку XX ст. такая запалітызаванасць ксяндзоў была выклікана патрэбамі адраджэння польскай дзяржаўнасці і культуры. Наколькі яна ўяўляла сабой масавую пагрозу для расейскай дзяржаўнасці – іншае пытанне.

## 1.5. НА ШЛЯХУ ДА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ

Актыўны ўдзел прымала беларускае каталіцкае духавенства ў грамадскім і грамадска-палітычным руху, які склаўся ў перыяд 1915–1921 гг.

У сувязі з падзеямі Першай імперыялістычнай вайны царскі ўрад забараніў дзейнасць грамадска-палітычных згуртаванняў у армейскім тыле, але была дазволена дзейнасць нацыянальных камітэтаў па аказанні дапамогі ахвярам вайны. Так, на тэрыторыі Беларусі адкрыліся адпаведныя яўрэйскія, затым польскія камітэты. 12 мая 1915 г. было створана Беларускае таварыства пацярпелым ад вайны (Беларускі камітэт дапамогі ахвярам вайны). Напачатку таварыства ставіла дзве мэты – «даваць апеку, страву, прытулак і лякарскую дапамогу тым, хто разышоўся па зямлі Беларускай у межах Віленскай, Гродзенскай, Мінскай, Віцебскай і Магілёўскай губерняў і дапамагаць народу адбудоўваць спаленыя хаты, наладзіць гаспадарку і здабыць спосаб ізноў узяцца за працу дзеля куска хлеба»[264]. Старшынёй таварыства быў абраны В. Іваноўскі, акрамя яго ў адміністрацыю ўвайшлі А. Луцкевіч і В. Ластоўскі (намеснікі), П. Аляксюк, І. Біндзюк, У. Сталыгва, ксёндз С. Савіцкі, Н. Клім і І. Буйніцкі [265]. З дакументальных даведак гэтага таварыства вынікала, што «яно аб'яднала вакол сябе ўсе палітычныя групы беларусаў, аб'яднала католікаў і праваслаўных і стала агульнанацыянальнай арганізацыяй»[266]. Камітэт існаваў за кошт ахвяраў і грашовых складак (тры рублі). У руках гэтага камітэта ў той час былі ўсе беларускія справы, у тым ліку адкрыццё беларускіх школак і дзіцячых прытулкаў, пра што ўжо гутарка ішла ў папярэдніх параграфах. Апрача гэтага, Таварыства дапамогі праводзіла шырокую культурную працу. Пра гэта сведчыць і той факт, што 2.12.1916 г. камітэт за подпісам Антона Луцкевіча звярнуўся да адміністратара Віленскай дыяцэзіі

[264] Da hramadzian Biełarusi // Biełarus. Tydniowaja katalickaja hazieta. – Wilnia. – 1915. – № 21–22. – 4 czerwienia. – S. 7–8.

[265] БДАМЛіМ. – Ф. 3. – В. 1. – Спр. 126. – Арк. 1.

[266] Там жа. – Арк. 11.

з просьбай «назначыць аднаго з Ксяндзоў – калі можна ксяндза Абаровіча[267] – дзеля выкладу рэлігіі на Беларускіх вучыцельскіх курсах»[268]. Камітэт узначалівалі ў розныя гады розныя асобы: А. Луцкевіч, К. Душэўскі, П. Мятла, Р. Астроўскі, Э. Будзька. У складзе Віленскага камітэту дапамогі ахвярам вайны актыўна працавалі беларускія сьвятары Уладзіслаў Талочка, Адам Станкевіч і Ян Семашкевіч – арганізоўвалі і кіравалі прытулкамі для дзяцей-сіротаў. «Крыніца» за 1920 г. паведамляла, што у гэтым камітэце апошнім часам робяцца некаторыя змены; абраны новы ўрад камітэту: кс. А. Станкевіч – старшыня, п. Багдановіч – скарбнік; робяцца захады дзеля лепшага ўтрымання беларускага прытулку і арганізацыі новага[269].

У Менскім аддзеле камітэту плённа працавалі кс. Аляксандр Астрамовіч і кс. Вінцэнт Гадлеўскі.

У склад Беларускага таварыства ў Петраградзе па аказанні дапамогі пацярпелым ад вайны ўваходзілі беларускія каталіцкія святары Ф. Абрантовіч, Ф. Будзька і Л. Хвецька[270].

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі (1917 г.) шматлікія аддзелы Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны значна пашырылі сваё поле дзейнасці, аб'яўляючы сябе Часовымі беларускімі нацыянальнымі камітэтамі.

З ініцыятывы Мінскага аддзела «Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны» у Мінску з'явілася «беларуская хатка», якая стала культурным цэнтрам беларускіх пісьменнікаў, паэтаў, мастакоў, публіцыстаў і іншых культурных дзеячаў. Яна размяшчалася ў сталовай гэтага таварыства ў доме пад нумарам 18 па Захараўскай вуліцы каля Чырвонага касцёла. У яе рабоце таксама, як і ў працы таварыства, прымалі актыўны ўдзел буйны беларускі землеўласнік Р. Скірмунт, прадстаўніца старога беларускага роду княгіня Магдалена Радзівіл, кс. В. Гадлеўскі, тэатральныя дзеячы У. Галубок, У. Фальскі, вучоны А. Смоліч, архітэктар Л. Дубейкаўскі, вядомыя літаратары (Ядвігін Ш, Змітрок Бядуля, А. Паўловіч, Я. Фарботка, Р. Зямкевіч) і дзеячы беларускага нацыянальнага руху (Я. Лесік, Ф. Шантыр, Зоська Верас і інш.).

Камітэт Беларускага Таварыства помачы пацярпелым ад вайны арганізоўваў беларускія школкі, гімназіі, дзіцячыя прытулкі. Дзякуючы

---

[267] У Віленскай дыяцэзіі ў гэты час працавалі тры ксяндзы пад прозвішчам Абаровіч: кс. Нікадзім – у Радуньскім дэк., кс. Хрыстафор – у Іўі (Вішнеўскі дэк.) і кс. Міхаіл – пробашч касцёла Святога Крыжа (касцёл баніфратараў) у Вільні. Антон Луцкевіч, хутчэй за ўсё, меў на ўвазе кс. Міхаіла Абаровіча, які вядомы быў тым, што ў 1914 г. атрымаў дазвол ад біскупа (кс. К. Міхалькевіча) праводзіць дадатковыя набажэнствы і казанні ў сваім касцёле на літоўскай мове.

[268] БДАМЛіМ. – Ф. 3. – В. 1. – Спр. 126. – Арк. 68.

[269] Biełaruski kamitet pomačy paciarpiełym ad wajny // Kryniсa. – 1920. – № 2. – 14 studzienia. – S. 4.

[270] Скалабан, В. У. Беларускага таварыства ў Петраградзе па аказанні дапамогі пацярпелым ад вайны / В. У. Скалабан // ЭГБ. У 6 т. Т. 1. – С. 361.

яго захадам у 1915 г. узніклі першыя легальныя беларускія школы, лік якіх за час нямецкай акупацыі дасягнуў больш за 200[271]. Паводле звестак А. Луцкевіча на працягу 1917–1918 гг. былі адкрытыя 153 беларускія пачатковыя школы. У 1917 г. Камітэт таварыства арганізаваў 2 дзіцячыя прытулкі недалёка Вільні (на 70 і 40 дзяцей). У Вільні былі адкрыты 2 сталоўкі. З канца 1918 г. дзейнасць таварыства ў сувязі са складанай ваеннай і палітычнай сітуацыяй на Віленшчыне пачала згортвацца. У маі – чэрвені 1919 г. з-за адсутнасці грошай на закупку прадуктаў сталі зачыняцца дзіцячыя прытулкі.

У справе апякунства дзіцячымі прытулкамі і адкрыцці беларускіх школак вельмі актыўна праявілі сябе беларускія каталіцкія святары М. Буклярэвіч, В. Гадлеўскі, М. Пятроўскі, Ф. Рамейка, К. Стаповіч, А. Станкевіч, У. Талочка, В. Шутовіч і інш.

Адным з найбольш актыўных беларускіх дзеячаў у асяродку каталіцкага духавенства быў кс. В. Гадлеўскі. Ён прымаў непасрэдны ўдзел ад Каталіцкай дэмакратычнай злучанасці ў з’ездзе Беларускіх нацыянальных арганізацый і партый 25–27.03.1917 г., дзе ставіў пытанні пра неабходнасць арганізацыі Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай партыі[272]. Пры фармаванні Беларускага нацыянальнага камітэту (БНК) увайшоў у яго склад, а таксама ў склад дэлегацыі да Расейскага ўрада[273].

23 красавіка 1917 г. БНК падаў заяву «Да Яго Эсцэленцыі Магілёўскага архібіскупа аб беларускай мове ў касцёле»[274].

Сябрамі БНК былі беларускія святары А. Астрамовіч і Д. Лапошка. Айцец Д. Лапошка быў дэлегатам у БНК ад Магілёўскай рады[275]. Як сведчыць пратакол пасяджэнняў Магілёўскага нацыянальнага камітэта ад 23.03.1917 г., ён жа быў накіраваны ў якасці дэлегата на Усебеларускі з’езд[276].

Калі паўстала Цэнтральная Рада беларускіх арганізацый і партый (першае пасяджэнне адбылося 5–6.08.1917 г.), у м. Смілавічы быў арганізаваны гурток партыі «народных сацыялістаў». Старшынёй быў абраны кс. Я. Семашкевіч. На агульным сходзе гуртка (28.07.1917 г.) пастанавілі выслаць свайго прадстаўніка кс. Я. Завістоўскага на з’езд Беларускіх нацыянальных партый і арганізацый. Дарэчы, у першым спісе сяброў Беларус-

---

[271] Stankiewicz Ad. Biełaruski chryścijanski ruch: histaryčny narys… – С. 86–87.

[272] ЦБАНЛ: Аддзел рукапісаў. – Ф. 21. – Спр. 871. – Арк. 35.

[273] Hadleuski W. Z žyćca i dziejnaści ks. W. Hadleuskaha : Autobiohrafičny narys // Biełaruskaja Krynica. – 1928. – № 14. – 16 lutaha. – S. 3; Гадлеўскі В. З беларускага палітычнага жыцьця ў Менску ў 1917–18 г. : Рэфэрат Кс. В. Гадлеўскага, прачытаны на Надзвычайным Агульным Сходзе Беларускага Нацыянальнага Камітэту Вільні ў 16-я ўгодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі дня 25 сакавіка 1934 году // Беларуская Крыніца. – 1934. – № 18. – 22 красавіка. – С. 2–3.

[274] Аб беларускай мове ў касьцёле // Гоман. – 1918. – № 39. – 14 мая. – С. 2.

[275] Stankiewicz Ad. Biełaruski chryścijanski ruch : histaryčny narys…. – S. 125.

[276] БДАМЛіМ. – Ф. 3. – В. 1. – Спр. 136. – Арк. 21.

кай народнай партыі сацыялістаў (была створана ў травені 1917 г.) былі кс. В. Гадлеўскі і кс. А. Цікота[277]. Кс. В. Гадлеўскі патлумачыў захапленні сацыялістычнымі ідэямі: «У псыхіцы мае стварылася тагды такое пракананьне, што толькі сацыялізм можа даць шчасьце народным масам, і дзеля гэтага ў той час кожная партыя, нават такая, якая ня мела ў сваей ідэолёгіі нічога социялістычнага, выступала пад фірмай сацыялізму. І так – творацца тагды (апроч сацыялістаў-рэвалюцыянэраў) яшчэ іншыя «сацыялістычныя» партыі: народных сацыялістаў, сацыялістаў-фэдэралістаў, сацыялістаў-аўтанамістаў, незалежных сацыялістаў і іншыя. Так і Б.(еларуская) Сац.(ыялістычная) Грамада ня была чыста сацыялістычнай партыяй (з пункту гледжанныя марксызму), апіраючай сваю ідэолёгію на матэрыялізьме і інтэрнацыяналізьме, а была партыяй беларускіх патрыётаў, якія, пасвоему разумеючы сацыялізм, імкнуліся да адраджэньня Беларусі пры помачы модных тагды сацыялістычных клічаў»[278].

На Ўсебеларускім з’ездзе ў Мінску (15–17.12.1917 г. ) прымалі ўдзел беларускія сьвятары Я. Вэрсоцкі, А. Астрамовіч, Д. Лапошка. Кс. В. Гадлеўскі афіцыйна ў склад делегацыі не ўваходзіў: «...Тады якраз вялася процi мяне сільная агітацыя ў польскіх духоўных акругах, каб выслаць мяне ў Маскву. Аднак дзякуючы заступніцтву народу і спагаднасці О’Роўрка, які тады быў вікарыем генеральным у Менску, я астаўся, і папера біскупа Цепляка мне даручана не была. На з’ездзе я выступіў як лектар аб беларускай справе, аднак і тады польскія газеты зрабілі гвалт, называючы мяне «Отец Гектор», «Дэмагог в сукні духовнай» і г. д.[279].

У канцы 1917 г. беларускія арганізацыі аб’ядналіся ў «Арганізацыйны камітэт» дзеля скліканьня агульнабеларускай нацыянальнай канферэнцыі ў Вільні. У прэзідыум камітэту ад беларускага каталіцкага духавенства ўваходзілі ксяндзы-беларусы У. Талочка і Я. Семашкевіч.

Спрэчныя моманты выклікаюць закіды наконт адсутнасці прадстаўнікоў духавенства і хрысціянска-дэмакратычнай плыні на абвяшчэнні Акту аб незалежнасці Беларусі 25 сакавіка 1918 г. Кс. В. Гадлеўскі тлумачыў такую сітуацыю тым, што першая Рада БНР складалася выключна з сяброў адной партыі БСГ, на пасяджэнні Рады БНР 25 сакавіка беларускія каталіцкія святары і хадэкі прысутнічаць не маглі. Прынамсі, іх і не запрашалі. А сталася гэта ў сувязі з тым, што ў ліпені 1917 г. Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ) перахапіла палітычную ініцыятыву ў свае рукі і не дапусціла да Выканаўчага камітэта Рады Усебеларускага Канг-

---

[277] Stankiewicz Ad. Biełaruski chryścijanski ruch : historyčny narys… – S. 126.

[278] Гадлеўскі В. З беларускага палітычнага жыцьця ў Менску ў 1917–18 г. : Рэфэрат Кс. В. Гадлеўскага, прачытаны на Надзвычайным Агульным Сходзе Беларускага Нацыянальнага Камітэту Вільні ў 16-я ўгодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі дня 25 сакавіка 1934 году // Беларуская Крыніца. – 1934. – № 18. – 22 красавіка. – С. 2–3.

[279] Гадлеўскі, Вінцэнт. Аўтабіяграфічны нарыс / Вінцэнт Гадлеўскі // Гарадзенскія запісы. – Гродна, 1993. – Вып. 1. – С. 127.

рэсу, які пазней стаў асновай Рады БНР, ніводнага народніка, хадэка, альбо народнага сацыяліста[280]. Астатнія беларускія палітычныя групы і партыі 25.02.1918 г. стварылі Менскае Беларускае Народнае Прадстаўніцтва і абралі Выканаўчы Камітэт Прадстаўніцтва ў колькасці 9 асобаў на чале з Р. Скірмунтам; у склад Камітэта ўваходзілі кс. В. Гадлеўскі, пратаірэй Кульчыцкі, генерал Кандратовіч, А. Уласаў, Р. Зямкевіч, П. Аляксюк і інш. І толькі, калі Пастановай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ад 12 красавіка 1918 г. Выканаўчы Камітэт Беларускага народнага Прадстаўніцтва ўвайшоў у склад Рады БНР, гэтым самым стварыўся ізноў адзіны беларускі нацыянальны фронт, які быў парваны ад ліпня 1917 г., і ўзнікла магчымасць шматпартыйнага складу Рады БНР[281]. Паводле пасведчання Народнага Сакратарыяту Рады БНР ад 3.05.1918 г., кс. В. Гадлеўскі быў зацверджаны на пасадзе асобаўпаўнаважанага па беларускіх бежанскіх справах[282].

З Радай БНР у розныя часы былі звязаны і іншыя ксяндзы-беларусы. Кс. А. Астрамовіч атрымаў 28.05.1918 г. пасведчанне Народнага Сакратарыяту Рады БНР з даручэннем арганізоўваць местачковыя, павятовыя і губернскія рады БНР у раёнах Магілёўскай губерні. 3.09.1918 г. Народны Сакратарыят БНР заслухаў справаздачу кс. А. Астрамовіча пра арганізацыю беларускіх радаў на Магілёўшчыне. Між тым, дакладчык адзначыў, што сяляне адносяцца недаверліва, а польскія памешчыкі ўсімі сіламі не даюць працаваць і нават пры дапамозе акупацыйнага начальства адабралі мандат на арганізацыю радаў[283].

24 жніўня 1918 г. адбыўся ўстаноўчы сход Сувязі (Саюзу) культурна-нацыянальнага адраджэння беларускага народу па выбары Камітэта Саюза. У Камітэт абраны такія вядомыя дзеячы, як В. Ластоўскі, В. Святаполк-Мірскі, К. Шафнагель, кс. У. Талочка і кс. Я. Семашкевіч[284]. Пазней кс. У. Талочка пісаў, што праца ў гэтым камітэце была цяжкай, а вынікі няважныя і праз колькі месяцаў яны перасталі прымаць удзел у камітэце, бо не бачылі ў такой працы карысці для адраджэння беларусаў-каталікоў[285].

Кс. Фабіян Абрантовіч з верасня 1919 г. быў сябрам Рады Часовага Беларускага нацыянальнага камітэта ў Менску, уваходзіў у склад дэлегацыі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі да Юзэфа Пілсудскага (пратакол ад 19.09.1919); быў супрацоўнікам Міністэрства Замежных Справаў

[280] Гадлеўскі В. З беларускага палітычнага жыцьця ў Менску ў 1917–1918 г. … // Беларуская Крыніца. – 1934. – № 18. – 22 красавіка. – С. 2–3.
[281] Там жа.
[282] Архівы БНР. (Дзяржаўны архіў Літвы. – Ф. 582, Рада Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі) / уклад. С. Шупа. Беларускі інстытут навукі і мастацтва, Тав-ва беларускага пісьменства «Наша ніва», Вільня – Нью-Ёрк – Менск – Прага, 1998. – Т. 1. – Кн. 1. – Спр. 0265. – С. 115; Спр. 0343. – С. 142.
[283] Там жа. – Спр. 0434. – С. 164; Спр. 0920. – С. 247.
[284] Krywičanin. – 1918. – № 1. – S. 30.
[285] Sołodych Adam. Pro doma sua // Przegląd Wileński. – 1923. – № 19. – 11 pazdrenika. – S. 7.

БНР: паводле праектаванай місіі павінен быў узначаліць дэлегацыю БНР у Рыме[286].

Паводле надзвычайнага сходу Рады БНР у Менску ад 13.12.1919 г., у склад сяброў Рады БНР быў уключаны кс. Адам Станкевіч ад Беларускага Камітэта дапамогі ахвярам вайны. Дарэчы, на гэтым пасяджэнні былі зацверджаны мандаты на сяброўства ў Радзе БНР Саваневіча і Мірановіча ад Беларускай хрысьціянскай дэмакратычнай злучнасьці, заместа выбыўшых сяброў БХДЗ Верамея і кс. В. Гарасімовіча[287]. Пры ўтварэньні Дзяржаўнага Камітэта БНР (17.04.1921 г.) кс. А. Станкевіч увайшоў у яго склад у якасьці сябра[288].

Важным момантам у дзейнасці святароў у 1917–1921 гады з'яўляўся іх удзел у выбраных структурах мясцовай альбо рэгіянальнай улады. Такіх выпадкаў няшмат, але яны яскрава дэманструюць давер з боку мясцовага насельніцтва да беларускіх святароў. Так, кс. М. Шалкевіч, пробашч у Мосары, Дзісненскага павету, быў аднагалосна выбраны прэзэсам валаснога камітэту, пры гэтым варта адзначыць, што «не чуваць было, каб хоць адзін з ксяндзоў палянізатараў быў выбраны ў які-небудзь камітэт...»[289].

І кс. В. Гадлеўскага ў Нясвіжы, куды ён быў пераведзены ў верасні 1918 г. Мінскім біскупам З. Лазінскім за празмерную беларускую дзейнасць, людзі абралі ў Мейскую раду. Праўда, займаць такія пасады ў самаўрадах святар мог толькі з дазволу біскупа: тут біскуп З. Лазінскі пайшоў на ўступку. У радзе кс. В. Гадлеўскі прабыў да 1921 г. Паводле ўспамінаў, быў «заўсёды павадыром і кіраўніком усіх спраў. А справы ішлі даволі добра, бюджэт ніколі не выказваў дэфіцыту, што дазваляла абараніць лішні даход на грамадскія патрэбы (прытулак для дзяцей, дапамога прыватным школкам, арганізацыя бібліятэкі і інш.»)[290]. Пасля 1921 г. абранне беларускіх каталіцкіх святароў у мясцовыя формы ўлады прыпыніцца і стане немагчымым.

Асветніцкая грамадска-палітычная праца праводзілася святарамі непасрэдна сярод насельніцтва. Для такой працы характэрны былі гутаркі і прамовы на актуальныя праблемы часу. Да першага афіцыйнага выступлення перад народам можна аднесці прамову кс. А. Станкевіча ў в. Мілашова (Браслаўскі пав.) у чэрвені 1917 г., падчас выбараў валаснога старшыні. Прамова там, сказаная першы раз на беларускай мове на тэму «Як грамадзяне маюць карыстацца з рэвалюцыі, каб яе не змарнаваць»,

---

[286] Архівы БНР... – Т. 1. – Кн. 1. – Спр. 1360; Спр. 1576.

[287] Там жа. – Спр. 1561. – С. 531.

[288] Архівы БНР... – Т. 1. – Кн. 2. – Спр. 2722. – С. 1082.

[289] Янучок. Беларускі рух сярод беларускага каталіцкага духавенства // Гоман. – 1917. – № 84. – 19 кастрычніка. – С. 2; Stankievič Ad. Biełaruski chryścijanski ruch (histaryčny narys)… – С. 176.

[290] Гадлеўскі, Вінцэнт. Аўтабіяграфічны нарыс / Вінцэнт Гадлеўскі // Гарадзенскія запісы. – Гродна, 1993. – Вып. 1. – С. 128.

мела тады вялікае значэнне на прабуджэнне ў сялян народнай беларускай і агулам грамадзянскай сведамасці»[291]. А калі немцы ў чэрвені 1918 г. надумалі параіцца з народам Браслаўшчыны і Дзісеншчыны на тэму, да каго людзі хочаць далучыцца: да Расеі, Літвы ці да Курляндыі, кс. А. Станкевіч арганізаваў у Браслаўі мітынг і растлумачыў народу, што далучацца трэба да Беларусі. З аналагічнай прамовай хацеў ён выступіць і ў Дзісне, але такая агітацыя супярэчыла нямецкім планам і ён вымушаны быў пакінуць Дзісну[292].

Кс. У. Талочка браў непасрэдны ўдзел 25–27.01.1918 г. у арганізацыі агульнабеларускай канферэнцыі ў Вільні. Менавіта на гэтай канферэнцыі кс. У. Талочкам было заяўлена, што яго ідэалам як каталіцкага ксяндза, звязанага паходжаннем з беларускім народам, з'яўляецца абавязак быць з гэтым народам: «Для мяне гэта логічны абавязак, а не якась рэч густу, сымпатыі. Я зусім не хачу пытаць сябе, ці мне гэта падабаецца, ці карысна, ці цяжкая работа, ці лёгкія варункі, ці вочы мае тут бачаць якую карысьць. Тут маё месца, тут павінен сваю руку прылажыць я да работы. З матарыяльнага пункту беларуская справа мала карысны інтэрэс. Тым болей яна дарагая для мяне. Беларускаму народу за яго вернасьць Касьцёлу, запячатаную крывёю яго сыноў, народу, жыцьцё каторага дагэтуль было такое сумнае, сапраўды належыцца з боку каталіцкіх ксяндзоў вялікшая апека, як тая, якую мы бачым да апошніх дзён…»[293].

У сувязі са зменай палітычнай і эканамічнай сітуацыі пасля 1921 г. у Беларускім Таварыстве помачы пацярпелым ад вайны праходзіць шэраг рэформаў, звязаных з актывізацыяй Таварыства, размеркаваннямі фінансаў, змены Статуту і карэктуры зместу працы. 12 кастрычніка 1924 г. на гадавым справаздачным сходзе Таварыства быў прыняты новы статут рэарганізаванага Таварыства як Беларускага дабрадзейнага таварыства. У Камітэт Таварыства былі абраны Будзька Эд. – старшыня, ад каталіцкага духавенства: кс. А. Станкевіч – пам. старшыні, кс. Я. Рэшаць – нам. старшыні, астатнія ўсе – свецкія асобы[294].

У міжваенны перыяд у Зах. Беларусі склалася добрая традыцыя адзначаць дзень абвяшчэння Беларускай народнай рэспублікі – 25 сакавіка як Дзень абвяшчэння незалежнасці Беларусі. Так, у 1921 г. 25 сакавіка выпала на перадвелікодную Вялікую пятніцу, і беларусы-каталікі Дзень Незалежнасці адзначалі толькі на трэці дзень Вялікадня ўрачыстым набажэнствам у Віленскім касцёле баніфратараў і пастаноўкай у Беларускім Клубе п'есы «Бутрым Няміра». А з нагоды трэціх угодкаў абвяшчэння

[291] Stankievič Ad. Biełaruski chryścijanski ruch (histaryčny narys)… – S. 132.

[292] Там жа. – S. 135–137.

[293] ЦНБНАНБ: Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 23. – В. 1. – Спр. 21. – Арк. 1–2; Stankiewiec Ad. Bielaruski chryscijanski ruch: histarycny narys… – S. 91–93.

[294] У Беларускім Таварыстве помачы пацярпелым ад вайны // Сялянская Праўда. – 1924. – № 10. – 22 кастрычніка. – С. 3.

БНР «Крыніца» надрукавала артыкул кс. М. Краскоўскага «Беларускае народнае сьвята» – адзін з першых артыкулаў, у якім аўтар слушна абгрунтаваў неабходнасць урачыстасці як беларускага дзяржаўна-нацыянальнага свята: «...Значыцца, дзень 25-га сакавіка кожнага году – вялікае сьвята Беларускага Народу; дзень 25-га сакавіка кожнага году – заранка сьветлай, магутнай, вялікай і шчасьлівай будучыны шматмільённага Беларускага Народу. Няхай жывець Вольная, Незалежная, Непадзельная Беларусь!»[295]. У наступным нумары «Крыніцы» ажно два артыкулы былі звязаны з тэмай незалежнасці Беларусі. У адным артыкуле кс. А. Станкевіч праводзіць паралелі між патрэбамі беларускага адраджэння і патрэбамі царкоўнага аб'яднання як кансалідуючага грунту беларусаў праваслаўных і беларусаў католікаў, што яскрава было прадэманстравана на агульным святкаванні Дня Незалежнасці, калі прападае розніца ў веры і ствараецца адна вялікая беларуская сям'я, з адной душой і з аднымі думкамі[296]. У другім артыкуле аўтар В. Скальманоўскі (кс. В. Гадлеўскі) даводзіць, што святкуючы трэцюю гадаўшчыну незалежнасці Беларусі, трэба размяжоўваць палякуючых ксяндзоў і іх прыхільнікаў ад Рымска-Каталіцкага Касцёла і помніць, што між Касцёлам і беларускім адраджэннем няма прынцыповых разыходжанняў і нязгодаў[297]. І ў наступныя гады дзень 25 Сакавіка адзначаўся вельмі ўрачыста: ладзіліся набажэнствы, пасяджэнні з выступамі, на якіх заўсёды адзначалася прысутнасць беларускага каталіцкага духавенства ў якасці ўдзельнікаў, арганізатараў і лектараў. Рэфераты звычайна чыталі кс. А. Станкевіч, кс. В. Гадлеўскі, кс. П. Татарыновіч і іншыя. Урачыстасць завяршалася канцэртнымі і тэатральнымі праграмамі.

Такім чынам, агульнапалітычная сітуацыя, якая склалася ў 1917–1921 гг., вымушала кожнага пісьменнага і свядомага чалавека выбіраць шлях служэння свайму народу, абароны яго агульначалавечых і палітычных правоў, барацьбы за яго духоўнае і культурнае адраджэнне і дзяржаўна-палітычную незалежнасць. Польскае рымска-каталіцкае духавенства стала, па сутнасці, рухавіком адраджэння Польскай дзяржаўнасці, літоўскае – Літоўскай. Зразумела, што ўхіліцца ад такой барацьбы беларускае каталіцкае духавенства не магло.

## 1.6. У ВЫТОКАХ БЕЛАРУСКАЙ ХРЫСЦІЯНСКАЙ ДЭМАКРАТЫІ (БХДЗ – БХД)

Удзел беларускага каталіцкага духавенства ў сацыякультурным жыцці ў даследуемы перыяд вызначаўся згодна тром асноўным кірункам дзей-

[295] Ks. M. Kraskouski. Biełaruskaje Narodnaje Świata // Krynica. – 1921. – № 9. – 25 sakawika. – S. 1–2.

[296] Ŕd. St. Kutok ab Unii (Paśla światkawańnia 3-aj hadauyščyny abwiaščeńnia niezależnaści Biełarusi) // Кгупіса. – 1921. – № 10. – 3 krasawika. – S. 1–2.

[297] W. Skalmanouski. Niezależnaść Biełarusi i Katalicki Kaśćiol // Кгупіса. – 1921. – № 10. – 3 krasawika. – S. 2.

насці: рэлігійна-асветніцкі, культурна-грамадскі і грамадска-палітычны. Такі падзел, вядома, носіць адносны характар. Зразумела, што ўся дзейнасць святароў у першую чаргу насіла рэлігійна-канфесійны характар і зыходзіла з хрысціянскай і каталіцкай ідэалогіі, але тым не менш працэсы інкультурацыі гэтай ідэалогіі патрабавалі адпаведнай арганізацыі і методыкі праз стварэнне розных канфесійных і культурных суполак, таварыстваў і партыяў, якія ў дасягненні сваіх мэтаў звярталіся да шырокай культурна-асветніцкай працы. Нагадаем, што ніякага дачынення не маглі мець каталіцкія святары хіба што да арганізацый сацыялістычнага, сацыял-дэмакратычнага і камуністычнага кірункаў.

Крытэрыі палітычнай дзейнасці каталіцкага духавенства доўгі час былі размытымі і неакрэсленымі дакладна. Зразумела, што падзел функцыяў між рэлігійнай і свецкай уладай існаваў заўсёды, але такі падзел не абмяжоўваў духавенства займацца справамі грамадскімі і палітычнымі. Звычайна, пад палітычнай дзейнасцю разумелася барацьба за незалежнасць, руплівасць у адраджэнні альбо стварэнні сваёй дзяржаўнасці. Тым не менш польскія даследчыкі схільныя акцэнтаваць увагу на тым, «…што пад палітычнай дзейнасцю разумеецца і прапаганда хрысціянскіх каштоўнасцей у грамадскім жыцці, фармаванне грамадскасці паводле ісцін, абвешчаных праз Касцёл»[298]. Такое тлумачэнне ставіць усякі рэлігійны інстытут у дзяржаўны ідэалагічны кантэкст, бо фармаванне грамадскасці – адна з функцый дзяржавы. Калі канфесійныя і царкоўныя праблемы залічваць да палітычных, тады ўся дзейнасць духавенства носіць адпаведны палітычны характар. Такое разуменне, а роўна і падыход можа быць апраўданым у становішчы няволі, ціску і абмежаванні рэлігійных, канфесійных і нацыянальных праяваў. Да прыкладу, праблемы каталіцкага духавенства ў царскай і савецкай Расіі маглі б быць вырашаны толькі палітычнымі метадамі. І дзейнасць каталіцкага духавенства, якой бы яна не была канфесійнай ці рэлігійнай, залічвалася да палітычнай дзейнасці.

Адной з першых сур'ёзных палітычных каталіцкіх арганізацый у Беларусі і Літве стала Канстытуцыйна-каталіцкая партыя (ККП), якая была створаная з ініцыятывы віленскага біскупа Эдварда Ропа ў пачатку 1906 г. Праект праграмы ККП рассылаўся ў парафіі для абмеркавання. Так, 12.01.1906 г. у доме гарадзенскага дэкана кс. Юлія-Алайзія Элерта адбыўся сход ксяндзоў, якія аднагалосна ўвайшлі ў ККП і прынялі праграму партыі як аснову для палітычнага выхавання парафіян[299]. У Гродзенскім дэканаце ў той час працавалі такія святары, як Паўла Грыбоўскі, Міхал Руткоўскі, Міхал Глябоцкі, Кастусь Тэжык, Баляслаў Яроцкі, Людвік Балабан і іншыя. У праграме партыі падкрэслівалася, што кожны народ мае права развіваць сваю культуру ва ўмовах грамадзянскай і палітычнай роўнасці: права выкарыстання сваёй мовы ў публічным жыцці, права на адк-

[298] Piela Michal, SDS. Udział Duchowienstwa w polskim zyciu politycznym w latach 1914–1924. – Lublin : Wyd. Katolick. Uniwer. Lubelskiego, 1994. – S. 13.

[299] Смалянчук, А. Ф. Палякі Беларусі і Літвы ў рэвалюцыі 1905–1907 гг. / А. Ф. Смалянчук. – Гародня : Ратуша, 2000. – С. 105.

рыццё сваіх школаў, таварystваў, інстытуцый для развіцця сваёй мовы, літаратуры, культуры. У галіне адукацыі КПП выказвалася за бясплатныя народныя школы, абавязковую навуку рэлігіі, выкладанне прадметаў у навучальных установах на роднай мове, патрэбы настаўнікаў сваёй нацыянальнасці і веры[300]. У заснаванні ККП Літвы і Беларусі актыўны удзел браў кс. Ян Бурба (той старэйшы кс. Ян Бурба, які ў будучым будзе гаварыць беларускамоўныя казанні ў Квасоўцы (заўв. аўт. – *І. Т.* ); на ўстаноўчым з'ездзе ён быў абраны ў склад яе Цэнтральнага камітэту[301]. Партыя ККП праіснавала два гады.

Гурткі прыхільнікаў хрысціянска-дэмакратычных ідэяў заўсёды існавалі ў асяродках каталіцкай інтэлігенцыі ў Пецярбургу да 1917 г. Быў такі гурток і сярод беларускіх католікаў.

Вядома, што польскае каталіцкае духавенства не засталося ўбаку пры стварэнні польскіх палітычных партыяў, сярод якіх найбольш уплывовай была Польская народна-дэмакратычная партыя (эндэкі). Яе арганізатар і лідэр Р. Дмоўскі насамперш быў «нацыяналістам і палякам і толькі пасля католікам». Адзін з лідэраў партыі сцвярджаў, што «паляка з каталіцтвам звязвае не толькі інтарэс рэлігійны, а насамперш інтарэс палітычны»[302]. Ксяндзы-эндэкі праз касцёл дамагаліся свайго палітычнага інтарэсу на тырыторыі Беларусі і Літвы. Да найбольш дзейных «эндэкаў» адносіліся такія ксяндзы, як Ю. Бародзіч, С. Мацілевіч, К. Любянец і інш.

Другой, паводле папулярнасці і масавасці, была Хрысціянска-дэмакратычная партыя. Яна найбольш адпавядала хрысціянскім і дэмакратычным прынцыпам, але ў адным з праграмных дакументаў польскай хадэцыі бало адзначана, «што каталіцкае – то польскае, а што польскае – то каталіцкае»[303].

Выключную ролю ў гісторыі беларускага хрысціянскага і нацыянальнага руху адыграла Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучанасць (БХДЗ).

У савецкай гістарыяграфіі БХД характарызавалася як «беларуская буржуазна-нацыяналістычная клерыкальная партыя, якая аказвала ўплыў на беларусаў-католікаў. У сваёй праграме БХД абвяшчала ажыццяўленне буржуазных патрэбаў, адстайвала ўласнасць, выступала за рэстаўрацыю капіталізму ў БССР і адрыў Савецкай Беларусі ад СССР. Прапаноўвала

---

[300] Program Stronnictwa Konstytucyjna-Katolickego na Litwe i Białorusi. – Wilno, 1906. – S. 5–10.

[301] Смоленчук, А. Ф. Конституционно-католическая партия Беларуси и Литвы 1906–1907 гг. / А. Ф. Смоленчук // Наш радавод : матэрыялы Міжнар. навук. канф. «Царква і культура народаў ВКЛ і Беларусі XIII – пач. XX ст.» (Гродна, 28 верасня – 1 кастр. 1992 г.) / адказ. рэд. і ўклад. Д. Караў. – Гродна, 1992. – Кн. 4. – С. 681–688.

[302] Piela Michal. Udzał Duchowienstwa w polskim zyciu politycznym w latach 1914–1924. – Lublin, 1994. – S. 227.

[303] Там жа. – S. 226–229.

некаторыя дэмакратычныя патрэбы»[304]. Тут, зразумела, дастаткова адной характарыстыкі, каб беларускіх «хадэкаў» прызнаць ворагамі савецкага народу і замаўчаць іх гісторыю альбо падаваць у выгадным савецкай ідэалогіі ракурсе.

Прызнаным летапісцам беларускага хрысціянскага руху лічыцца кс. Адам Станкевіч. Яго непераўзыдзеная заслуга ў тым, што яму ўдалося паказаць сапраўдную сутнасць беларускай хрысціянскай дэмакратыі, яе намаганні, спробы і змаганні як за хрысціянскую ідэю, так і за беларускую[305].

Ідэалогія хрысціянска-дэмакратычнага руху выцякала непасрэдна з сацыяльна-эканамічных праблемаў часу, якія былі выкліканы ўзрастаючай роляй тэхнічнага прагрэсу, развіццём прамысловай вытворчасці, капіталу і класу працоўных (пралетарыяту), збяднелай часткі грамадства. Згаданыя сацыяльныя праблемы маглі вырашацца альбо рэвалюцыйным шляхам, у асновы якога закладвалася марксісцкая ідэалогія барацьбы класаў, альбо шляхам мірным. Такая сітуацыя ў грамадстве не магла застацца па-за ўвагай Папы Рымскага Льва XIII, энцыкліка якога «Rerum Nowarum» была накіраванай на мірнае рэгуляванне сацыяльных, эканамічных, палітычных і нацыянальных праблемаў у кантэксце хрысціянскай ідэалогіі[306].

У Магілёўскай рымска-каталіцкай архідыяцэзіі арганізацыйныя пытанні ў стварэнні Хрысціянска-дэмакратычнай арганізацыі (ХД, «хадэцыя») разглядаліся 8 сакавіка 1917 г. на агульным з'ездзе рымска-каталіцкага духавенства ў Пецярбургу. Арганізатарамі новай партыі выступілі ксяндзы А. Вайціцкі, С. Мацієвіч, З. Лазінскі, К. Будкевіч, І. Радзішэўскі. Не апошняя роля ў арганізацыі належала кс. Ф. Абрантовічу – ён уваходзіў у Арганізацыйны камітэт і Галоўны камітэт грамадскіх справаў. Пасяджэнні Арганізацыйнага камітэта, на якіх выпрацоўвалася праграма і тактыка дзейнасці, праходзілі 10 і 13.03.1917 г. 22 сакавіка пад кіраўніцтвам архібіскупа Яна Цепляка, пры ардынаце Магілёўскай архідыяцэзіі пачала працу Грамадская Рада партыі, у склад якой увайшоў яшчэ адзін ксёндз-беларус Л. Хвецька. Спрэчныя пытанні праграмы абмяркоўваліся на агульных нарадах і сходах духавенства. Такімі пытаннямі былі адносіны да палітыкі і да нацыянальных патрэбаў іншых народаў. У праграме адзначалася, што ХД прызнае права суседніх народаў Літвы, Латвіі, Беларусі, Украіны на самавызначэнне. Але ў тых жа праграмных дакументах сцвярджалася, што ў Расіі Касцёл стаў выразным чыннікам польскасці: «што каталіцкае – тое польскае, што польскае – тое каталіцкае»[307]. Праўда, створаная ў сакавіку 1917 г. Хрысціянска-дэмакратычная злучанасць

---

[304] Цыт. паводле: Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР : документы и материалы. Т. 2. – Мінск : Гос. изд-во БССР ; ред. соц.-экон. лит., 1972. – С. 519.

[305] Stankievič Ad. Biełaruski chryścijanski ruch : histaryčny narys. – Vilnia, 1939. – 272 s.

[306] Рерум Новарум. Окружное послание Льва XIII от 15 мая 1891 г. «О положении трудящихся» // Сто лет социального христианского учения. – М. : Дом Марии, 1991.

(ХДЗ) у Пецярбургу мела інтэрнацыянальны характар, прынамсі, без азначэння ў назове як «польскае», налічвала яна больш за 1000 чалавек, але колькасная перавага належала палякам. ХДЗ мела свае філіі ў г. Мінску, дзе былі закладзены тры гурткі ХДЗ колькасцю каля 660 сяброў (арганізатары: кс. Б. Усас, кс. В. Гадлеўскі). Патрэба такой арганізацыйнай формы, якая давала б магчымасці польскаму рымска-каталіцкаму духавенству ў Расіі браць удзел у барацьбе за незалежнасць Польшчы, не парушаючы пры тым царкоўных дагматаў і хрысціянскіх ідэалаў, была выклікана палітычнай сітуацыяй і магчымымі зменамі еўрапейскай дзяржаўна-палітычнай карты. Аб такой грамадска-палітычнай арганізацыі, якая здолела б аб’яднаць усіх у адно цэлае і супрацьстаяць ворагам Касцёла, ставіў пытанне ў пачатку 1917 г. архіепіскап Магілёўскай архідыяцэзіі Ян Цяпляк[308]. Такім патрэбам найбольш адпавядаў хрысціянска-дэмакратычны рух («хадэцыя»), для якога рэлігійныя праблемы не былі першаснымі. Але калі на гэтым фундаменце ўтваралася палітычная партыя, тады можна смела ставіць пытанні пра дамінацыю дзяржаўна-палітычных, эканамічных і культурных інтарэсаў у дзейнасці такой партыі, тым болей, што дзейнасць яе была блаславёнай энцыклікай Папы Рымскага Льва XIII. Заканамерна, што дамінуючай сілай хрысціянска-дэмакратычнага руху было рымска-каталіцкае духавенства.

Далейшыя памкненні польскага духавенства скарыстаць «хадэцыю» для барацьбы за польскія дзяржаўныя і культурныя інтарэсы падштурхнулі фракцыю беларускіх хадэкаў да стварэння сваёй арганізацыі.

У гісторыі беларускага хрысціянскага дэмакратычнага руху можна выдзяліць некалькі перыядаў: 1) Пецярбургскі: пачатак XX ст. – жнівень 1918 гг.; 2) Мінскі: верасень 1918–1920 гг.; 3) Віленскі: 1921–1939 гг. У сваю чаргу, віленскі перыяд можна ўмоўна падзяліць яшчэ на некалькі падперыядаў: арганізацыі і дзейнасці БХДЗ (1921–1926 гг.), дзейнасці аднаўленай БХД (1926–1935 гг.) і перыяд Беларускага нацыянальнага аб’яднання (1935–1939 гг.).

У вытоках беларускага хрысціянска-дэмакратычнага руху стаялі кс. Ф. Абрантовіч і кс. Л. Хвецька. Яны ў траўні 1917 г. у Пецярбургу заснавалі беларускую фракцыю ХДЗ. Кс. А. Станкевіч звяртаў увагу на тое, што беларуская хрысьціянска-грамадзкая арганізацыя звалася «Хрысціянска-Дэмакратычная Злучнасць» і толькі без слова «беларуская». Гэта было ў імя хрысціянскага інтэрнацыяналу. Але гэта не перашкаджала ёй быць наскрозь беларускай, бо належалі да яе тыя, хто быў цалкам працяты беларускім духам[309]. Калі ўлічваць, што ў арганізацыі былі на гэты час

---

[307] Piela Michal, SDS. Udział Duchowienstwa w polskim zyciu politycznym w latach 1914–1924… – S. 229.

[308] Там жа. – S. 123.

[309] Stankievič Ad. Biełaruski chryścijanski ruch : histaryčny narys… – S. 115.

адны каталікі, паралельна існавала і другая назва – «Каталіцкая Дэмакратычная Злучнасьць».

У другой палове 1917 г. ХДЗ беларусаў налічвала каля 300 сяброў. Сярод свецкіх беларусаў найбольш актыўнымі былі Б. Эпімах-Шіпіла, В. Ластоўскі, М. Грачанік, В. Радзевіч, А. Яцына і інш. Камітэт ХДЗ беларусаў збіраўся на кватэры кс. Ф. Абрантовіча альбо кс. Л. Хвецькі. Беларуская ХДЗ мела двухкаляровы сцяг: на белай палове быў намаляваны абраз Вострабрамскай Багародзіцы, а на светла-сіней – «Пагоня». Беларускае каталіцкае духавенства – сябры беларускай фракцыі ХДЗ ініцыявалі набажэнствы і казанні на беларускай мове, арганізоўвалі драматычныя секцыі, праводзілі лекцыйную працу, выдавалі сваю газету.

«Крыніца» як друкаваны орган ХДЗ паведамляла: «Хр.Д.З. мае на мэце злучыць усіх хрысьціян, найбольш каталікаў, у вадну моцную арганізацыю, каторая памагала б у барацьбе з труднасьцямі жыцьця і супакойвала б патрэбы душы. Хр.Д.З. мае на мэце не рэлігійныя патрэбы, а эканамічныя і грамадзянскія, пранікнутыя духам Хрыстовым: бяз ненавісьці, бяз несправядлівай барацьбы. Ідзе да сваёй мэты рознымі спосабамі: найбольш праз прасьвету старых і дзяцей, праз сходы, праз створаньне розных эканамічных хаўрусаў, напр., крам»[310].

ХДЗ беларусаў 1917 г. не ставіла пытання наконт дзяржаўнай незалежнасці. Беларускую рэспубліку, пакуль што, бачылі ў межах Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі.

Першыя гурткі Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці ў сельскай мясцовасці ўзніклі летам 1917 г. у час візітацыі Віленскім біскупам Э. Ропам Дзісненскага і Браслаўскага паветаў. Першы гурток быў закладзены ў Дзісне. Душой яго і фактычным кіраўніком быў дэкан кс. Вінцэнт Ташкун. Наступныя гурткі былі заснаваны кс. А. Станкевічам у Друі, кс. Ф. Абрантовічам у Прыдруйск, кс. В. Шутовічам у Барадзенічах і Іказні; кс. М. Пятроўскім у Шаркаўшчыне[311]. Вядома, што з’езд каталіцкага духавенства Дзісненскага дэканата (6–7.08.1918 г.) выказаўся ў падтрымку дзейнасці беларускай хрысціянскай дэмакратыі.

Далейшы працэс развіцця беларускага хрысціянска-дэмакратычнага руху звязаны з г. Мінскам. У сувязі з прыпіскай да ХДЗ назвы «польская», група беларускіх дзеячаў (святары: А. Астрамовіч, Я. Вэрсоцкі, А. Лісоўскі і свецкія: А. Лявіцкі, А. Крэпскі, В. Верамей, Вальчэўскі, Бултрымовіч і інш.) на чале з кс. В. Гадлеўскім ствараюць у Мінску сваю беларускую фракцыю Хрысціянска-дэмакратычнай злучанасці. Пра стварэнне такой партыі кс. В. Гадлеўскі ставіў пытанне на з’ездзе Беларускіх арганізацыяў

[310] Chryśc. Dem. Złučnaśc // Krynica. – 1917. – № 5. – S. 1; Stankievič Ad. Biełaruski chryścijanski ruch : histaryčny narys… – S. 115.

[311] Stankievič Ad. Biełaruski chryścijanski ruch : histaryčny narys… – S. 133.

і партый (25–27.03.1917 г.) і на з'ездзе Беларускага каталіцкага духавенства (24–25.05.1917 г.). Кс. В. Гадлеўскі пісаў: «Закладаючы ў Менску 4.IX.1918 г. Бел. Хр.-Дэмакратычную злучнасьць, каторая пасьля майго пераходу ў Нясьвіж, так бліскуча развівалася пад сьветлым кіраўніцтвам вельмі паважанага Кс. Ф. Абрантовіча і да каторай гарнулася ўся працоўная бедната г. Менску, я ставіў сваім жаданьнем згуртаваць беларускія сілы, якія не адкідаючы хрысьціянскіх ідэалаў, маглі б з карысьцяй працаваць для беларускага народу ў галіне палітычнага, грамадскага і культурнага жыцьця»[312].

25.09.1918 г. урад Беларускай Каталіцкай Дэмакратычнай злучнасьці на чале з старшынём ураду Р. Скірмунтам быў вельмі прыхільна прыняты мінскім біскупам З. Лазінскім, які абяцаў усяляк дапамагаць Каталіцкай Злучанасьці. Дзеля гэтага ўрад Злучнасьці спадзяецца, што па вясковых парафіях мяйсцовыя ксяндзы будуць арганізоўваць сялянскі рух у нацыянальнай хрысціянскай злучнасці, каб ён зразумеў, што калі ёсць Беларусь, дык ёсць і мова беларуская, і што ў гэтай мове ён мае права выказываць боскі абавязак і свае погляды і яму не трэба ламаць сваю мову і вучыцца нinfоdным мовам. Урад Злучнасці дзякаваў пастыра за намінацыю патронам Злучнасці вядомага Петраградскага прафесара філасофіі кс. Абрантовіча, шчырага і сьвядомага беларуса[313].

Нагадаем, што ў верасні 1918 г. у Мінск прыехаў кс. Фабіян Абрантовіч па запрашэнні біскупа З. Лазінскага і ўзначаліў ХДЗ беларусаў (кс. В. Гадлеўскі быў пераведзены ў Нясвіж). Пра гэты перыяд дзейнасці БХДЗ у Менску пісала «Крыніца»: «Ня можна прайсьці моўчкі «Беларускай хрысьціянскай дэмакратычнай Злучнасьці». Арганізацыя гэта існуе ўжо другі год, мая яна 200 сяброў. Душой яе і вокам – кс., праф. Ф. Абрантовіч. Пад яго загадам адбываюцца штонядзелі сабраньні сяброў «Злучнасьці», на якіх адбываюцца роўныя карысныя гутаркі, беларускія песьні і іншае. «Злучнасьць» калі некалі даець прадстаўленьні, закладае свае школы і кооператывы» [314].

У 1919–1920 гг. гурткі БХД ствараюцца ў Ашмянскім, Віленскім, Вілейскім, Ваўкавыскім, Пружанскім і другіх паветах. Іх стваральнікамі былі святары М. Пятроўскі, Я. Германовіч, К. Стаповіч, Ф. Рамейка, А. Станкевіч, В. Шутовіч, Я. Рэшаць. Паводле кс. А. Станкевіча БХДЗ у 1920 г. налічвала 500 чалавек[315].

У часы рэвалюцыйных пераўтварэнняў беларускія хрысціяне-дэмакраты ад духавенства стрымліваліся ад актыўнага ўдзелу ў палітычнай барацьбе. Растлумачыць гэта можна духам і характарам ідэалогіі ХДЗ, хоць бела-

---

[312] Ks. W. Hadleuski. Moj adkaz u sprawie Chr. Demakratyčnaj Złučnaści // Biełaruskaja Krynica. – 1926. – № 19. – 7 červienia. – S. 2.

[313] Прадстаўнікі Злучнасьці ў кс. Лозінскага // Гоман. – 1918. – № 79 (275). – 8 кастрычніка. – С. 3.

[314] Z Mienska // Krynica. – Wilnia. – 1919. – № 12. – 25 śnieżnia. – S. 2–3.

рускія хадэкі, у тым ліку і святары (аа. А. Астрамовіч, В. Гадлеўскі, Я. Вэрсоцкі, Д. Лапошка, Я. Семашкевіч, А. Станкевіч, У. Талочка і інш.) прымалі ўдзел у працы беларускіх сацыяльна-палітычных і культурных арганізацыяў.

У 1920-х гг., у сувязі з агульнапалітычнай сітуацыяй, БХДЗ робіць захады на пераўтварэнне партыі ў масавую грамадска-палітычную арганізацыю на асновах хрысціянскай ідэалогіі. У распрацоўцы новай праграмы БХДЗ актыўны ўдзел прымалі беларускія каталіцкія святары: А. Станкевіч (аўтар і каардынатар), Ф. Абрантовіч, В. Гадлеўскі, У. Талочка, І. Бобіч, Я. Рэшаць, В. Шутовіч і інш.

У 1920 г. у Мінску быў выдадзены «Статут і Праграма Хрысціянска-Дэмакратычнай Злучнасьці Беларусаў» з апрабацыяй Мінскага каталіцкага біскупа кс. З. Лазінскага. Праграму гэтую распрацоўваў кс. Фабіян Абрантовіч у супрацы з кс. Андрэем Цікотам і некаторых свецкіх інтэлігентаў[316]. Паводле праграмы, мэтаю ХДЗБ з'яўляецца «арганізаваньне ўсіх тых, хто хочуць жыць, апіраючыся на сацыяльнай справядлівасьці і хрысьціянскй міласьці, паводле асноў хрысьціянскага сьветаагляду». Для рэалізацыі гэтых мэтаў ХДЗБ праводзіць культурна-асветніцкую, рэлігійна-маральную, грамадскую і эканамічна-гаспадарскую дзейнасць. Паводле сваёй прыроды ХДЗБ ёсць эвалюцыйная, надпалітычная, міжнародная, наддзяржаўная арганізацыя. ХДЗБ змагаецца з капіталізмам, у якім бачыць адну з найважнейшых прычын беднасці і нэндзу працоўных мас і хоча завесці такі лад, каб кожнаму чалавеку магчыма было сваёю працаю здабыць сабе патрэбны хлеб і карыстацца ўсімі культурнымі багаццямі.

У галіне рэлігіі ХДЗБ за свабоду культу, супраць усякіх дзяржаўных абмежаванняў у гаспадарстве, за прызнанне Каталіцкага Касцёла ў якасці самастойнага інстытута, за права мець рухомасць і нерухомасць, за магчымасць адкрыцця школ і манастыроў і працы капелянаў у іх, у бальніцах, у войску, у дамах працы і г. д. Спецыяльнай мэтай ХДЗ у Беларусі з'яўляецца з'яднанне ўсіх католікаў і праваслаўных у адной веры з рознымі абрадамі.

ХДЗБ выступае супраць распусты, гвалту над рэлігійнымі перакананнямі і згубных практык для матак і дзяцей; за неразлучнасць шлюбу, дапамогу сем'ям, нармальныя ўмовы жыцця і працы, навучанне ў пачатковых класах і навукі рэлігіі на беларускай мове, адукацыі паводле хрысціянскай маралі.

У адносінах да ўласнасці ХДЗБ прызнае, што «прыватная ўласнасць ёсць падстава цывілізацыйнага поступу грамадзянства, <…> памагае да выраблення ў людзях ініцыятывы і самадзельнасці». У зямельным пытанні ХДЗБ прапаноўвае раздел дзяржаўнай зямлі між беззямельнымі і малазямельнымі з мэтай стварэння малой уласнасці, абвяшчае барацьбу

[315] Stankievič Ad. Biełaruski chryścijanski ruch : histaryčny narys… – S. 122.

[316] Ks. W. Hadleuski. Moj adkaz u sprawie Chr. Demakratyčnaj Złučnaści // Biełaruskaja Krynica. – 1926. – № 19. – 7 červienia. – S. 2–4.

супраць капіталізму, выступае за свабодную і разумную арганізацыю і права абароны працы. ХДЗБ стаяла на пазіцыях роўнага права ўсіх народаў у культурным, рэлігійным, грамадскім, палітычным і эканамічным жыцці дзяржавы. Што да сваёй Айчыны, ХДЗБ выступала за вольную, цэльную і непадзельную Беларусь, за грамадзянскую роўнасць і свабоду і гарантыю правоў нацыянальных меншасцяў[317].

Дадзеная праграма цалкам адпавядала асноўным палажэнням заходне-еўрапейскіх хрысціянска-дэмакратычных праграмаў, за выключэннем розніцы поліканфесійных, нацыянальных і геапалітычных праблемаў рэгіёна. Кс. А. Станкевіч адзначае, што еўрапейская хрысціянская дэмакрацыя была звычайнай афіцыяльнай грамадскай навукай Каталіцкага Касцёлу і была ўтворанай каталіцкім духавенствам: «Ня дзіва, такім чынам, што БХД арганізавалі прадусім каталіцкія ксяндзы-беларусы, і што гэта арганізацыя, асабліва ў першых гадох свайго існаваньня, працу сваю праводзіла ў духу выключна каталіцкім і прадусім сярод беларускага каталіцкага насельніцтва. <…> Беларусы-праваслаўныя хоць былі часта дужа спагадныя і блізкія да яе, фармальна аднак у склад яе не ўваходзілі. Факт гэты мусіць тлумачыцца тым, што праваслаўныя беларусы, будучы яшчэ пад сільным уражаньнем царскай маскоўскай апекі і пад уплывам маскоўскай культуры, ХДЗл., як вытвар каталіцкай Зах. Эўропы, належна не маглі ацаніць і прыняць да сэрца»[318].

Далейшы лёс беларускай ХДЗ быў звязаны з кс. А. Станкевічам. Ён стаў каардынатарам беларускага культурна-нацыянальнага жыцця ў Заходняй Беларусі і фактычным арганізатарам і кіраўніком БХД. Ад 1919 г. кс. А. Станкевіч у Вільні рэдагуе «Крыніцу», якая адыграла з'яднаўчую ролю ў беларускай хрысціянскай дэмакратыі.

## 1.7. РЫМСКА-КАТАЛІЦКАЯ ІЕРАРХІЯ І БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ РУХ (*пачатак*)

Арганізацыя душпастырскай працы, культурная і нацыянальная дзейнасць беларускага каталіцкага духавенства ў пераломныя моманты (1914–1921 гг.) працякала ў строгіх рамках тагачаснай канфесійнай палітыкі духоўных і свецкіх уладаў. Вытокі, фармаванне і сутнасць такой палітыкі ў адносінах да беларускага пытання папярэдне былі разгледжаны намі ў спецыяльным раздзеле (3) «Беларускае пытанне ў кантэксце канфесійнай і нацыянальнай палітыкі канца XIX ст. – 1921 г.»[319]. У прыватнасці, краналіся пытанні пра асаблівасці канфесійнай і нацыянальнай палітыкі Расійскай імперыі ў дачыненні да беларусаў і ролі Рымска-Каталіцкага Касцёла ў Беларусі як фактару польскага патрыятызму.

---

[317] Stankievič Ad. Biełaruski chryścijanski ruch : histaryčny narys… – S. 138–147.
[318] Там жа. – S. 173, 176.

У дадзены момант мэтазгодна звярнуцца яшчэ раз да апошняга фактару падзеля дзвюх важных прычын: 1) для паўнаты цэласнага ўяўлення канфесійнай сітуацыі і абставін, у якіх прыходзілася беларускаму духавенству выжываць і 2) вельмі важна прасачыць лагічную сувязь ад польскага патрыятызму каталіцкага духавенства ў часы Расейскай Імперыі да ўзрастаючай ролі польскага дзяржаўнага шавінізму ў перыяд адраджэння і будаўніцтва II Рэчы Паспалітай.

Між іншым, у высновах папярэдняй манаграфіі было адзначана, што польская грамадскасць, страціўшы сваю дзяржаву і будучы пад уладай Расіі праз усё XIX ст., яшчэ больш згуртавалася каля Каталіцкага Касцёла – адзінага дазволенага расійскімі ўладамі асяродка польскасці. На долю польскага каталіцкага духавенства выпаў цяжар выхавання польскага патрыятызму, польскага духу, арганізацыі польскіх нацыянальных суполак і мэтанакіраваная дзейнасць у адраджэнні дзяржавы, бо так хоча сам пан Бог – гэта быў апошні аргумент, які выводзіў з палітычнай стагнацыі палякаў. Дарэчы, дагматы Рымска-Каталіцкага Касцёла не супярэчылі змаганню за волю сваёй Айчыны, што давала магчымасць палякам, у тым ліку і духавенству, заручыцца боскай падтрымкай і наканаванасцю пры такой барацьбе. Такім чынам рэлігійныя і нацыянальныя пачуцці ядналіся ў адно цэлае: для Бога і Айчыны. Але ад гэтага палякі не сталі большымі католікамі, а сталі яшчэ большымі палякамі. Аналагічная трансфармацыя свядомасці адбылася і ў асяродку польскага каталіцкага духавенства. Такі паварот тлумачыўся логікай палітычных падзеяў, канфесійнай сітуацыяй і фармаваннем польска-каталіцкай нацыянальнай ідэі, пры якой каталіцтва можа свабодна развівацца толькі ў свабоднай і незалежнай Рэчы Паспалітай Польскай, якая і надалей будзе выконваць ролю фарпоста Каталіцкага Касцёла на ўсходзе. А для гэтага барацьба за сваю Айчыну станавілася святым абавязкам кожнага паляка як барацьба за святыя ідэі Касцёла. Перыяд такой барацьбы (другая палова XIX ст. – 1921 г.) як для палякаў, так і яго духавенства не быў перыядам рэлігійнага (каталіцкага) уздыму – гэта быў перыяд палітычнай барацьбы, дзяржаўна-палітычнага прагматызму (што нічога не мела агульнага з рэлігіяй і каталіцтвам), але ў такой барацьбе арганізатарская і вырашальная роля належала польскаму каталіцкаму духавенству[320]. І ці варта тут ставіць пытанне з асуджэннем польска-каталіцкага клерыкалізму, калі народ і духавенства аб'ядналіся ў дасягненні высокай нацыянальна-вызваленчай і дзяржаўнай ідэі. Пытанне тут можна паставіць іншае, чаму Каталіцкі Касцёл стаў звацца польскім далёка па-за межамі польскасці – на ўсходзе Еўропы і Расіі? Адам Станкевіч пісаў, што такую праяву можна бачыць не толькі ў

[319] Траця І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі…– С. 88–174.

[320] Там жа. – С. 225–226.

Беларусі і Літве, але і ў Азіі: Туркестане, Сібіры, Ташкенце, Харбіне і ва Уладзівастоку, дзе паўсюль квітнее польская культура пры дапамозе польскага касьцёла. Такому мог бы пазайздросціць нават А. Македонскі, які нёс грэцкую культуру па ўсёй Азіі пры дапамозе свайго войска, а Польшча здабыла сабе яшчэ большую прастору па нейкаму гістарычнаму недаразуменню, змешваючы пальшчызну з каталіцкім касцёлам і выкарыстоўваючы пры гэтым цемнату падняволеных народаў (беларусаў, літоўцаў, украінцаў і іншых)... Гэта ж не жартачкі, – пісаў аўтар, – па усёй былой Расеі пануе польская вера і польскі касцёл. Пры ўсёй гэтай велічы прастору яшчэ большае значэнне набывае польскі народ і польская культура[321].

Парадаксальным было і тое, што паводле ўзмацнення пазіцый дзяржаўнай незалежнасці Польшчы ў 1918–1921 гг., барацьба за польскасьць у Касцёле яшчэ больш узмацнілася і набыла адкрыты ваяўнічы характар. Нагадаем, што ў 1918–1921 гг. касцёлам у Польшчы кіравалі прыкладна 90 асобаў, у тым ліку біскупы і апостальскія візітатары. Сярод лацінскіх іерархаў за выключэннем двух летувісаў (біскуп А. Карась і біскуп Ю. Матулевіч), аднаго немца (біскуп А. Розэнтрэтэр) – усе астатнія былі палякамі. Біскуп Ю. Тэадаровіч належаў да армянскай нацыянальнасці, але быў гарачым польскім патрыётам. Усе грэка-каталіцкія іерархі былі ўкраінцамі. Мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі паходзіў з польска-ўкраінскай сям'і, але пасля стаў украінцам[322].

Абумоўленасць беларускага фактару ў Касцёле выцякала не толькі са знешніх абставін – рэвалюцыйна-ваеннага ліхалецця часу, сутыкнення ідэалогій, нацыянальных памкненняў і барацьбы за ўладу і дзяржаву, але і з вельмі важных унутраных кампанентаў: якаснае забеспячэнне духоўных і нацыянальных патрэбаў народу ў сувязі з неабходнасцю паглыблення рэлігійнасці і ростам яго самасвядомасці. Лідары беларускага нацыянальнага адраджэння цудоўна разумелі, што гэта вельмі важны фактар у станаўленні нацыі, пошуку яе шляхоў да Бога і барацьбе за духоўную, культурную і дзяржаўную незалежнасць. Але што заставалася нязменным і што чыніла найбольшыя перашкоды ў дасягненні такіх мэтаў, дык гэта фактар польскасці Каталіцкага Касцёла ў Беларусі, які з новай моцай абрушыўся на кволыя праявы беларускасці ў рэлігійным жыцці ў перыяд польскай акупацыі 1919–1920 гг. І найбольш дзейным фактарам барацьбы за польскасць было неўспрыманне і непрызнанне беларускасці ўвогуле, што практычна немагчыма было растлумачыць з пазіцыі рацыянальнага асэнсавання падзей. Рэзананс такога неўспрымання кампраметаваў рымска-каталіцкую ерархію і Апостальскую Сталіцу, дзівіў міжнародную супольнасць, а найбольш абураў беларускіх дзеячаў і святароў. Дастатко-

[321] S. K-i. «Польскі» касьцёл і беларусы // Беларуская Крыніца. – 1925. – № 3. – 11 кастрычніка. – С. 2.

[322] Wilk Stanisław, ks. SDB. Episkopat Kościoła katolickiego w Polsce w latach 1918–1939 / Stanisław Wilk, ks. SDB. – Warszawa, 1992. – S. 44.

ва згадаць вострыя публікацыі ў «Гомане», «Беларускай Думцы»[323] і артыкулы ў «Крыніцы», якія тут ужо згадваліся.

Так, «Крыніца» найбольш пільна адсочвала прапольскую і антыбеларускую дзейнасць духавенства і ксяндзоў-палякаў. Рэдактар газеты кс. А. Станкевіч прыводзіў цікавыя аргументы ў тым, што «непрызнанне Польшчай беларускага народу і яго правоў на дзяржаўную незалежнасць правакуе ў будучым падзел Беларусі між Расеяй і Польшчай, што адмоўна адаб’ецца на унутранай палітыцы Польшчы, бо праваслаўная частка беларусаў (больш мільёна) застанецца ў такой дзяржаве чужой і варожай да Польшчы; а Расія заўсёды будзе ўмешвацца, абараняючы правы сваіх братоў па веры, словам пачнецца вечная барацьба за Беларусь і супакою для беларускага і польскага народаў не будзе»[324]. Але такія прарочыя словы, выказаныя ў 1919 г., не даходзілі да свядомасці польскай грамадскасці і духавенства.

Яшчэ адзін беларускі каталіцкі святар Уладзіслаў Талочка разглядаў фактар непрызнання каталіцкімі духоўнікамі беларускай мовы ў касцёле як нейкі штучны парадокс: з аднаго боку, ксяндзы даводзяць, што беларуская мова нікуды не годная, хамская і паганская, але з’езд дэканаў у Вільні (19–20 жніўня 1919 г.) адобрыў прапановы ў выкарыстанні беларускай мовы пры вывучанні рэлігіі дзяцей, а шматлікія ксяндзы пасля казанняў у польскай мове стараюцца пераказаць іх па-беларуску для большага разумення сутнасці... «Так дзе ж тут розум?..» – ставіў пытанне беларускі святар[325].

У гэты час польскімі, як свецкімі, так і рэлігійнымі ўладамі былі зліквідаваны альбо паралізаваны амаль што ўсе кропкі беларускасці ў касцёлах. Абмежаванні ў дзейнасці, пільныя адсочванні ў перамяшчэннях і сустрэчах, строгая цэнзура да беларускага друку, забароны беларускамоўных казанняў, набажэнстваў і вывучэнне рэлігіі на роднай мове, пераводы ў небеларускія парафіі – усё стала нормай палітыкі ў адносінах да беларускага каталіцкага духавенства. Найбольш ад такой палітыкі пастрадалі самі ініцыятары беларускасці – святары. На імя Віленскага біскупа а. Ю. Матулевіча прыходзілі сотні даносаў з парафій у абвінавачванні святароў у дзейнасці, «не прыхільнай да Польшчы»[326]. Зразумела, што іншай варожай дзейнасці да Польшчы, апрача беларускай (альбо літоў-

[323] Янучок (Янка Станкевіч): Беларускі рух сярод беларускага каталіцкага духавенства (Гоман. – 1917. – № 84); І. Даўбня. У справе прыезду папескага нунцыя (Гоман. – 1918. – № 81); А. Н. (Антон Луцкевіч). У іх нічога няма (Гоман. – 1917. – № 15); Казімір Шафнагель. – Да нашай краёвай інтэлігенцыі (Адкрытае пісьмо) (Гоман. – 1917. – № 86); Раман Суніца (Рамуальд Зямкевіч). Справа беларускага біскупа (Беларуская думка. – 1919. – № 19).

[324] Polšč pawinna pamahčy nam zbudawać niezaležnuju Biełaruś // Krynica. – Wilnia. – 1919. – № 7. – 19 kastryčnika. – S. 1.

[325] Sаładuch. Tak hdzie-ž tut rozum? // Krynica. – Wilnia, 1919. – № 10. – 23 listapada. – S. 1.

скай) у асяродку каталіцкага духавенства быць не магло. Ініцыятары такіх лістоў свядома ўводзілі ў зман польскую грамадскасць, ставячы знак варожасці між беларускім і польскім нацыянальным і рэлігійным адраджэннем.

Адным з найбольш дзейных спосабаў абмежавання дзейнасці і пакарання былі размеркаванні выпускнікоў духоўных навучальных установаў і перамяшчэнні няўгодных святароў у іншыя парафіі з паніжэннем пасады альбо ў небеларускія парафіі ўвогуле – метад, вядомы з часоў Расійскай імперыі, выкарыстоўваўся праз увесь міжваенны перыяд. Так, пры размеркаванні на працу выпускнікоў духоўных семінарыяў і акадэміі ўлічваліся, відаць, і такія акалічнасці, як удзел у беларускіх гуртках і заяўленая заангажаванасць у беларускім руху. Праўда, і тут ёсць апраўданне для рэктарату і касцёльных уладаў, калі ўлічваць, што духоўныя навучальныя ўстановы ў Пецярбургу (Петраградзе) рыхтавалі спецыялістаў для ўсёй тэрыторыі Расіі, а Віленская духоўная семінарыя – для Віленскага біскупства, у склад якога ўваходзілі спрэчныя ў этнанацыянальным вызначэнні памежныя тэрыторыі. Вядома толькі, што Францішку Будзьку архібіскуп Я. Цяпляк адмовіўся высвячаць на святара праз яго адкрытую беларускасць, а выпускнік духоўнай акадэміі Адам Станкевіч быў па заканчэнні накіраваны ў далёкі Драгічын[327]. Пакручастым быў лёс і астатніх выпускнікоў – удзельнікаў беларускіх культурных гурткоў у рымска-каталіцкіх духоўных семінарыях і Мітрапалітальнай духоўнай рымска-каталіцкай акадэміі ў Пецярбургу. Толькі адзінкам удалося застацца на беларускай этнічнай тэрыторыі і практычна кожны ў той ці іншай ступені быў падвергнуты рэпрэсіўным уздзеянням з боку рэлігійных і свецкіх уладаў, асабліва, калі прасачыць іх далейшы лёс праз прызму дзяржаўна-канфесійнай палітыкі 20–30-х гадоў.

Такі гвалтоўны паланізацыйны ціск у гэты час тлумачыўся яшчэ і звычайнай палітычнай, дзяржаўнай і рэвалюцыйна-ваеннай неразбярыхай. Нават бальшавікі, з большага, тады яшчэ не ваявалі з Касцёлам так, як Польшча з беларусамі, бо не было адпаведнага загаду, і больш-менш паблажліва адносіліся да вернікаў і польскіх ксяндзоў, што давала магчымасці апошнім утрымліваць касцёл як непераможную польскую пляцоўку. А народ не валодаў яшчэ такім узроўнем свядомасці нацыі, каб масава аказаць супраціў палітыцы паланізацыі. Гэтым польскія ўлады і карысталіся, насаджваючы польскіх ксяндзоў у беларускія парафіі. Бо ўсякі бела-

---

[326] Менавіта з такой фармулёўкай прыйшоў ліст ад 19.10.1919 г. у Віленскую дыяцэзальную курыю пра дзейнасць кс. Яна Бурбы. Праўда, услед прыйшоў ліст ад парафіянаў, якія даводзяць, што гэта – фальш. – (ДГАЛ. – Ф. 694. – В. 3. – Спр. 1015. – Арк. 40, 41).

[327] Пра гэты факт паведамляла газета «Гоман»: «Нядаўна быў выпадак. З Пецярбурга з акадэміі вярнуўся кс. Станкевіч, сьвядомы беларус. Калі прышлося даць яму парафію, то адміністратар дыяцэзіі кс. Ганусовіч вызначыў у ... Дрогічын, Бельскага павету, амаль ня між самымі мазурамі». – (Доўбня, І. У нас па-старому / І. Доўбня // Гоман. – 1918. – № 76 (272). – 27 верасьня. – С. 2).

рускі ксёндз выводзіў парафію з-пад польскіх уплываў і рабіў яе няпольскай. Наколькі адчувальнымі былі такія замены, можна прасачыць у тагачасным друку. Тэматыка такіх лістоў сцвярджае шматлікія факты беларускасці ў парафіі (казанні, набажэнствы, беларускія школкі, газеты, гурткі і г. д.), але з прыходам польскага ксяндза ўсё гэта праследуецца і ўрэшце знікае, і ўсё становіцца польскім.

Пра масавыя перамяшчэнні ксяндзоў у 1918 г. паведамлялася ў «Гомане»: «... загадам р-к. біскупа Лазінскага перамешчана з старых месц на новыя цэлая група ксяндзоў. З паміж імі заслужаны і паважаны жыхарамі пробашч сьвержанскага касьцёла кс. Ясінскі.... Усе перамешчаныя ксяндзы ў той ці іншай ступені ўчасьнікі беларускага руху...»[328] , «...Хай толькі на беларускай парафіі паявіцца ксёндз-беларус, зараз пастараюцца яго перавесьці на польскую парафію»[329]. Можна згадаць гучныя пераводы К. Стаповіча, Ф. Рамейкі, іншых.

З другога боку, цяжка было ўлічыць і абвінаваціць касцёльныя ўлады ў тым, што таго, ці іншага святара перавялі з іншай, а не з неабходнай вытворчай і душпастырскай нагоды. Падазронасць выклікаў толькі той факт, што чамусьці кандыдатамі ў такія перамяшчэнні былі звычайна тыя, хто заяўляў пра беларускасць у парафіі і патрабаваў больш шырокага для яе поля дзейнасці.

Многія беларускія святары былі ўвогуле пазбаўлены сваіх парафій. Так, без працы ў гэтыя бурлівыя, рэвалюцыйна-ваенныя гады заставаліся святары А. Астрамовіч, Ф. Будзька, А. Сак, Я. Семашкевіч, К. Стаповіч... І шмат каму з кагорты беларускіх святароў доўга шукалі месца працы сярод свайго люду, і не заўсёды гэтае месца знаходзілася такім святарам, як Язэп Белагаловы, Люцыян Хвецька, Ян Семашкевіч, Антон Шыленіс, Вітальд Пашкевіч і іншым святарам, прыхільным да беларускасці. Так, шмат хто з іх у гэтыя гады сталі ахвярамі польскага ціску.

Вельмі трапную характарыстыку такой палітыцы касцёльных уладаў Віленскай дыяцэзіі перыяду 1918–1921 гадоў даў Браніслаў Туронак у артыкуле «Голас крыўды». Так, аўтар пісаў, што Каталіцкі Касцёл у Віленскай дыяцэзіі і надалей застаўся злой матчыхай да сваіх вернікаў беларусаў-католікоў. Дыяцэзальныя ўлады не толькі не пайшлі насустрач духоўным патрэбам беларусаў, што павінны былі зрабіць, але, што яшчэ горш, занялі варожае становішча да беларусаў. Добра ўсе помняць двулічную касцёльную палітыку адносна католікоў-беларусаў кс. Міхалькевіча. У час яго кіравання дыяцэзіяй вядомы нам беларус-каталік звярнуўся да яго, каб атрымаць дазвол надрукаваць на абразках беларускія малітвы, дык яго сакратар кс. Стэцкевіч адмовіў з надпісам: «за отсутствием белорусского духовного цензора, знающего белорусский язык, прошение откло-

[328] Перамяшчэнтне ксяндзоў // Гоман. – 1918. – № 76 (272). – 27 верасьня. – С. 2.
[329] Доўбня, І. У нас па-старому / І. Доўбня // Гоман. – 1918. – 76 (272). – 27 верасьня. – С. 2.

нено». Другі яго памочнік кс. Ганусовіч выганяў беларускіх святароў А. Станкевіча і В. Лукшу ў польскія парафіі над Бугам...[330].

Па жывых слядах польскай акупацыі прайшліся К. Езавітаў[331] і А. Луцкевіч[332]. Дарэчы, вартая тут будзе заўвага А. Луцкевіча пра ролю польскага духавенства ў гэты час: «Вырабіцца ад прасьледавання, часта абсалютна не на чым не аснованнага, мог толькі той, хто меў свайго роду «сьвядоцтва благанадзёжнасьці» ад ксяндза. Плябаніі абярнуліся як быццам у жандарскія ўпраўленьні, каторыя выдавалі «благанадзёжнасьць» адно толькі «добрым каталіком». Гэты звычай з вёскі перайшоў і да места: тутака атрыманьне якой-колечы службы залежала ў поўнай меры ад таго, як глядзеў на цябе пробашч тваёй парафіі»[333]. Парадаксальным у гэтай сітуацыі было тое, што атрымаць такое «сьвядоцтва», г. зн. быць «добрымі каталікамі» не маглі не толькі свядомыя беларусы-католікі, але і іх духоўнікі – беларускія каталіцкія святары.

Улічваючы такія абставіны, Урад Беларускай народнай рэспублікі вымушаны быў звярнуцца з мемарандымумам да Апостальскага Пасаду ў справе арганізацыі Беларускай нацыянальнай каталіцкай царквы ад 7 лютага 1921 г. (БДАЛіМ, ф. 3). Галоўная мэта Мемарандума сфармулявана ў наступным: «Урад Беларускай Народнай Рэспублікі лічыць сваім абавязкам, у інтарэсах сьв. Каталіцай Царквы, зьвярнуць увагу Апостальскага Пасаду на тое, што ў гэты час адраджэньня беларускай нацыі хрысьціянская навука ў Касьцеле і ў школах Беларусі ня можа больш карыстацца польскай мовай, як тое гвалтоўна ўвайшло ў звычай ад цяжкіх часоў польска-маскоўскіх эксперыментаў дынацыяналізацыі беларускага народу. Беларуская мова павінна мець належнае ёй месца і ў беларускім касьцёле і ў тым, што датычыцца рэлігійнай навукі ў беларускай школе. Гэта ёсьць права беларускай нацыі, і настаў ужо час распольшчыць беларускі касьцёл... У апошнія часы, асабліва цяпер, за кароткі час польскай акупацыі, беларусы-каталікі зразумелі праўдзівы сэнс і мэту польскай палітыкі. Яны зразумелі, што гэтая ілюзорная апека палякаў над душой беларуса мае мэтай вясьці яе не да неба, а толькі да Варшавы. Яны зразумелі, што дарогу да сьв. Касьцёлу яны знаюць і бяз польскай апекі. Беларус-каталік шчыра кахае сьв. касьцёл, шчыра аддадзены ён Сьв. Айцу і толькі просіць,

---

330 Krywičonak M. Hołas Kryudy // Kryniсa. – 1921. – № 11. – 10 krasawika. – S. 1.

331 Езовитов, К. Б. Белоруссы и поляки : документы и факты из истории оккупации Белоруссии поляками в 1918 и 1919 годах : пер. с бел. / К. Б. Езовитов. – Ковна : Изд-во им. Ф. Скорыны, 1919. – 124 с.

332 Луцкевіч, А. Польская акупацыя Беларусі / А. Луцкевіч. – Вільня, 1920; Перадрук: Луцкевіч Антон. Польская акупацыя Беларусі // Выбраныя творы: праблемы культуры, літаратуры і мастацтва / уклад., прадм., камэнт., індэкс імёнаў, пер. з пол. і ням. А. Сідарэвіча.– Мінск : Кнігазбор, 2006. – С. 202–214.

333 Луцкевіч, Антон. Польская акупацыя Беларусі / Антон Луцкевіч // Выбраныя творы: праблемы культуры, літаратуры і мастацтва / уклад., прадм., камэнт., індэкс імёнаў, пер. з пол. і ням. А. Сідарэвіча.– Мінск : Кнігазбор, 2006.– С. 212.

каб дазволілі яму маліцца роднай мовай і бяз польскага апякуна...»[334]. Довадам неабходнасці рэалізацыі сваёй просьбы служаць разьдзелы дакумента, якія прысвечаныя кароткаму агляду гісторыі Беларусі, характарыстыцы насельніцтва, палітычнай гісторыі і гісторыі Каталіцтва; асаблівая ўвага звернута на беларускамоўны фактар гісторыі і культуры і польскамоўны характар каталіцтва ў Беларусі. У якасьці неабходнага урад БНР прапануе, каб ў касцёлах на этнічных тэрыторыях Беларусі казанні, катэхізмы, пабочныя песні і дадатковыя набажэнствы адпраўляліся на беларускай мове; каб у духоўных семінарыях як абавязковыя прадметы выкладаліся беларуская мова, літаратура і гісторыя; каб на пасаду біскупаў і ў беларускія парафіі прызначаліся беларусы...

Дадзены Мемарандыум ураду Апостальскай Сталіцы засведчыў факт адказнасці ураду БНР за тэрыторыі, якія павінны належаць БНР, але спадзяванні беларускай грамадскасці на Апостальскую Сталіцу не спраўдзіліся, і гэта стала відавочным пасля вядомага Рыжскага трактату ад 18.03.1921 г.

[334] Цыт. паводле: Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя: Жыццяпісы. Мартыралогія. Успаміны / аўт.-уклад. Ю. Гарбінскі. – Мінск : Мюнхен, 1999. – С. 502, 516.

# РАЗДЗЕЛ 2
# БЕЛАРУСКАЕ КАТАЛІЦКАЕ ДУХАВЕНСТВА ВА ЎМОВАХ КАНФЕСІЙНАЙ ПАЛІТЫКІ II РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ (1921–1939 гг.)

Мы, Ксяндзы-Беларусы, ў гэтым пытанні спакойныя: як гісторыя не асудзіла польскага клеру, які дбаў пра польскасць і адраджэнне польскага народу, так не асудзіць і нас, што працуем над адраджэннем нашага беларускага народу.

*Кс. Вінцэнт Гадлеўскі*

## 2.1. РЫМСКА-КАТАЛІЦКАЯ ІЕРАРХІЯ І БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ РУХ (*працяг*)

Паводле Рыжскай мірнай дамовы ад 18.03.1921 г. Віленская і Луцкая дыяцэзіі Магілёўскай мітраполіі апынуліся ў Польшчы. Мінская дыяцэзія была падзеленай: на баку Савецкай Беларусі засталіся 7 дэканатаў і 57 парафій; у Заходняй Беларусі – 8 дэканатаў, 57 парафій, 96 капланаў і 102 809 вернікаў[335].

Такі падзел Беларусі яшчэ больш абвастрыў сітуацыю між польскім каталіцкім духавенствам і беларусамі-католікамі[336]. Прынамсі, як былі ўспрыняты вынікі Рыжскага трактату Мінскім біскупам Зыгмунтам Лазінскім вядома, але варта было б іх нагадаць з нагоды іх нябіскупскай запалітазаванасці. Так, у артыкуле «W rocznicę traktatu ryskiego» біскуп катэгарычна выступіў супраць таго, што расійскай «савдэпіі» пакінулі Міншчыну разам са сталіцай яго дыяцэзіі. Абвінавачваў ён у «легкамысленасці» і «здрадзе дзяржаве» польскую дэлегацыю, якая вяла перамовы ў Рызе, таму што на той бок мяжы засталася паўмільённая польская меншасць. Даводзіў, што падзел Белай Русі, якая цалкам мае права належаць да Польшчы так, як ваяводствы Навагрудскае, Палескае і Валынскае – гэта дармовы падарунак ворагам і вялікая памылка дэлегацыі. Замацаваная ў дагаворы лінія мяжы перакрэслівала яго праграму цеснага саюзу ўсёй Беларусі з Польшчай. Біскуп Лазінскі ставіў пытанне: «Чаму за Польшчай захавалі землі не менш польскія, як паветы Брэсцкі, Пружанскі, Кобрынскі,

---

[335] Kumor B. Mitropolia Mohylowska // Archiwa, Biblioteki i Muzea Kościelne. – 1970. – № 20. – S. 296.

[336] Як гэты трактат быў успрыняты беларускай грамадскасцю, яскрава сведчаць наступныя радкі: «20 сакавіка 1921 г. падпісана мірная дамова ў Рызе з урадам, які сам з’яўляецца не ўпэненым, але здолеў здзівіць панам Данбскім і Камп. (кампаніяй) і за 30 міліёнаў купіў Беларусь, а гандаль правёў з савецкімі беларускімі прадстаўнікамі, самазванцамі, пра якіх ніхто і нідзе не чуў, а паднёс іх да становішча ўрада. Гэта ёсьць не дзень славы, а дзень нацыянальнай ганьбы, за якую, каб будучыня не карала цэлага народу за нявартасныя дзеі яго прадстаўнікоў». – Kwiestyja białoruska w oświetleniu obszarnika mińskiego // Przegląd Wilenski. – 1935. – № 7–8. – 17 kwietnia.

але адрэзалі тыя, у якіх польскі, каталіцкі элемент з'яўляецца значна мацнейшым, менавіта паветы: Мінскі (усходні), Барысаўскі, Лепельскі, Ігуменскі і заходняй Магілёўскай зямлі, у дадатак з адзіным на ўсёй усходняй лініі вышэй Вільні, вялікім цэнтрам польскага жыцця – Мінскам»[337].

Яшчэ можна было б неяк зразумець біскупа, калі б ён так клапаціўся і перажываў не за «цэнтр польскага жыцця», а за душы вернікаў католікаў, якія засталіся пад уладаю бязбожнікаў бальшавікоў.

Пад канец 1922 г. Пінскі біскуп З. Лазінскі заяўляў, што «Крыніцу» ў сваю дыяцэзію ён не дапусціць[338]. На гэта, зразумела, былі ў біскупа свае прычыны, і адна з іх – нязгода рэдактара кс. А. Станкевіча на прапанову біскупа пераехаць у Мінск і выдаваць газету для праваслаўных беларусаў у мэтах пашырэння ўніі, а не беларуска-каталіцкай свядомасці народу. Не заўсёды, відаць, падабалася біскупу тое, што друкавала «Крыніца», хаця кс. А. Станкевіч стараўся быць карэктным і аб'ектыўным. У артыкуле «Зьмяняюцца часы і людзі» ён пісаў, што біскуп З. Лазінскі пры візітацыі дыяцэзіі загадваў ксяндзам гаварыць беларускія казанні, а інакш ксёндз і не можа гаварыць, бо хто ж зразумее польскія казанні ў Піншчыне ці Наваградчыне[339]. Але гэты факт стаў нагодай яшчэ раз згадаць пра адносіны біскупа да беларускай справы. Так, паводле біскупа: «1) беларусам-католікам тлумачыць, каб яны дамагаліся сваёй мовы ў касцёле, навучання гэтай мовы клерыкаў у духоўных семінарыях – няможна. Гэта належыць ад біскупа; 2) будзіць беларускую сведамасць сярод беларусаў-каталікоў – няможна, бо такім чынам слабее польскасць сярод каталікоў, а ўзмацняецца расейскасць сярод праваслаўных; 3) пачынаць пашырэнне беларускай сведамасці можна толькі сярод беларусаў праваслаўных, а сярод католікаў – не, каб не адымаць ім польскасць; 4) калі беларусы самі зажадаюць сваёй мовы ў касцёле, тады ім даць, але тлумачыць ім аб іх правох – нельга... «Такі пагляд на беларускасьць у Касьцёле на Беларусі зусім зразумелы ў галаве паляка-патрыёта, – робіць высновы кс. А. Станкевіч. А што да беларускіх казанняў, дык тут: «...або настолькі ўзрасла сьведамасьць сярод беларусаўкатолікаў, што біскуп прымушаны з ёй рахавацца, або ў сумленьні Біскупа аб'ектыўная каталіцкасьць узяла верх над польскасьцю»[340].

---

[337.] Czeczot, W. Diecezja mińska i jej pasterz Zygmunt Łoziński / W. Czeczot. – Wilno, 1925. – Ч. 2, Т. 1. – S. 644; Мруз, М. Каталіцызм на пагранiччы. Адносіны Каталіцкай царквы да ўкраінскага і беларускага пытання ў Польшчы ў 1918–1925 гг. / М. Мруз ; пер. з пол. Я. Зелінскага ; навук. рэд. Г. Сагановіч. – Мінск : Медысонт, 2009. – С. 37.

Пра адносіны самога біскупа да беларускага пытання больш падрабязна гл. : Трацяк, І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі : манагр. / І. І. Трацяк. – Гродна : ГрДУ, 2013. – Раздзел «Рымска-каталіцкая іерархія і беларускі нацыянальны рух: ксёндз Зыгмунт Лазінскі – біскуп Мінскай, Пінскай рымска-каталіцкіх дыяцэзій». – С. 151–157.

[338] Мруз, М. Каталіцызм на пагранiччы. Адносіны каталіцкай царквы да ўкраінскага і беларускага пытання ў Польшчы ў 1918–1925 гг. / М. Мруз ; пер. з пол. мовы Я. Зелінскага ; навук. рэд. Г. Сагановіч. – Мінск : Медысонт, 2009. – С. 144.

[339] I. Paparać. Źmianiajucca časy i ludzi // Krynica. – 1923. – № 14. – 9 listapada. – S. 2–3.

[340] Там жа. – S. 2–3.

Але, калі больш уважліва ўчытацца ў такія біскупскія рэкамендацыі: «Беларусам-католікам тлумачыць, каб яны дамагаліся сваёй мовы ў касцёле, навучання гэтай мовы клерыкаў у духоўных семінарыях – няможна... Будзіць беларускую сведамасць сярод беларусаў-каталікоў – няможна...» (але пры гэтым не забаранялася гаварыць, што яны палякі), дык становіцца відавочнай наскрозь уся гэта нейкая хітра прадуманая, няшчырая і цынічная палітыка ў адносінах да беларусаў-католікаў. Уявіце сітуацыю: маласвядомаму народу ксяндзы не маюць права гаварыць, хто яны ёсць на самай справе, не маюць права сляпых рабіць відушчымі, не маюць права весці іх сваім шляхам да Бога... Ксяндзы павінны былі быць нейкімі двудушнымі палітыкамі: добра ведаючы, што беларусы-каталікі – не палякі (факт гэты быў відавочным), маўчаць пра гэта, а лепш гаварыць, што яны палякі...

Вынікі такой «біскупскай апекі» будучага «блажэннага» чакаць прыйшлося нядоўга. Улічваючы той факт, што ксяндзы і сапраўды вымушаны былі прытрымлівацца ўказаў біскупа, каб не трапіць у біскупскую няміласць і не апынуцца за Бугам, малейшыя патрабаванні беларусаў замоўчваліся і нейтралізаваліся ў парафіях самімі ксяндзамі. Калі гэтага было недастаткова, умешвалася свецкая ўлада з паліцыяй. Але, што найбольш абурае ў такой сітуацыі, дык гэта спроба падаць такую палітыку ў якасці ініцыяцыі самога народу, маўляў, народ сам не хоча аніякай беларускасці, а наадварот, – хоча польскасці. На такую акалічнасць звярнуў увагу кс. В. Гадлеўскі ў рэцэнзіі на кнігу В. Чачота «Dyecezya Mińska i jej pasterz biskup Zygmunt Łoziński» (Wilno, 1925). Кс. В. Гадлеўскі пісаў: «К сваёй першай часьці, гаворачы аб дзеях Менскай дыяцэзіі, аўтар зачапляе мімаходам і беларускую справу ў касьцельным жыцьці і кажа, што беларускага языка ў Менскай дыяцэзіі ніхто ня хоча і людзі, калі іх спытацца, найчасьцей быццам кажуць «няхай будзе так, як за нашых бацькоў было...». Далей кс. В. Гадлеўскі пісаў, што невядома, ці хто калі пытаўся, а калі і пытаўся, дык ці мог растлумачыць хто народу ў чым справа, калі сам біскуп не дазваляе гэтага, называючы такое тлумачэнне беларускай агітацыяй. А калі сам дзе падтрымае беларускія казанні, дык гэта толькі яшчэ больш уводзіць народ у невядомасць, а растлумачыць – нельга: «...дык і выходзіць, што біскуп з народам гуляе ў «жмуркі»»[341]. Дарэчы, такой тактыкі прытрымліваўся і яшчэ адзін «спецыяліст» па беларускіх пытаннях – Віленскі арцыбіскуп Р. Ялбжыкоўскі, які карэспандэнту польскай газеты «Rzeczpospolita» даводзіў, што ён «асабіста дазнаўся, з асабістых «баданьняў», што беларусы і літвіны ня хочуць, каб іх родная мова ўводзілася ў касцёл – усе здаволеныя польскаю моваю»[342].

У Мемарыяле беларускіх соймавых паслоў-каталікоў св. Айцу (аўтарства належыць кс. Адаму Станкевічу) пра біскупа Менскага кс. З. Ла-

[341] W. «Dyecezya Mińska i jej pasterz biskup Zygmunt Łoziński. Wilno, 1925» // Biełaruskaja Krynica. – 1925. – № 2. – 4 kastryčnika. – S. 3–4.

[342] Усё добра // Сялянская Ніва. – 1927. – № 74. – 12 кастрычніка. – С. 3.

зінскага гаворыцца, што ён «ёсьць ня толькі паляк, але часта вядзе польскую палітыку, шкодную для беларускага народу»[343]. А трохі пазней у газеце з'явіцца невялікая заўвага: «Пра Менскага біскупа Лазінскага і гаварыць няма што – ён некалі прабаваў крыўду беларусаў-каталікоў паправіць, ды збаяўся паноў і стаў пашыраць "польскую веру"»[344]. І як не дзіўна, для самога біскупа ў гэтых словах нічога не было крыўднага – інакш, такія заявы біскуп апратэставаў бы ў друку.

Неадназначнай успрымалася яго дзейнасць і сярод беларускай грамадскасці. Так, цікавыя факты з адносінаў біскупа З. Лазінскага да нацыянальных праблемаў падаў а. Леў Гарошка: «… пакуль у Пінску жыў Я(го) Э(ксцэленцыя) Жыгімонт Лазінскі (†1932), дык ён хоць і не адзначаўся асаблівою прыхільнасьцю да беларусаў, але так жа не баяўся выступіць супраць загоністых дамаганьняў польскіх нацыяналістаў адносна беларусаў. Аднойчы ён выпрасіў за дзьверы высокага польскага генерала, які дамагаўся зьнішчэньня ўсяго беларускага ў рэлігійным жыцьці, а іншым разам патрапіў сказаць цьвёрдае слова за гэткае ж дамаганьне нават самому маршалку Пілсудскаму. На жаль, і гэты ерарх у канцы ўлягаў націску польскіх кіраўнікоў і паволі ачышчаў Пінскую духоўную семінарыю ад беларускасьці і ад беларусаў, а беларускіх сьвятароў пераносіў у парахвіі з польскім насельніцтвам»[345]. Памыляўся, відаць, кс. А. Станкевіч, калі дапускаў магчымасці верху «аб'ектыўнай каталіцкасьці над польскасьцю» ў свядомасці біскупа. Проста, выходзіць, што біскуп не толькі з народам любіў пагуляць у «жмуркі». Пра адносіны біскупа З. Лазінскага да беларускіх святароў трапна іранізавала «Беларуская Крыніца», называючы «Новым Сібірам» глухі куток Бельскага павету, у якім жылі выключна адны палякі (мазуры), і куды біскуп ссылаў ксяндзоў-беларусаў: кс. А. Лісоўскага – пробашчам у Вінну, кс. П. Татарыновіча – вікарыем у Топчэва, кс. Дулінца – вікарыем у Бранск, кс. Кулпекшу – вікарыем у Пярлеева. Газета адзначае, што ўсе засланыя дзеля таго, каб не маглі займацца навуковай і культурнай працай[346]. Заўважым, што такой практыкай трохі пазней будзе карыстацца і Віленскі арцыбіскуп Р. Ялбжыкоўскі, дзякуючы якому ў польскіх парафіях з'явяцца ксяндзы-беларусы М. Пятроўскі (Вінна-Пасьвента), Я. Семашкевіч (Янава, Міхалова), Я. Рэшаць (Беласток), Ст. Глякоўскі (Доўнары), В. Шутовіч (Трысценнае, Харошч).

Слушныя думкі выказваў Браніслаў Туронак пра тое, што беларускаму народу не каталіцкі, а польскі Касцёл у Віленскай дыяцэзіі прыносіць вялікую крыўду тым, што не задавальняе іх духоўных патрэбаў у пазнанні

[343] Memoryjał biełaruskich sojmawych pasłou katalikou św. Ajcu // Biełaruskaja Krynica. – 1924. – № 2. – 18 studnia. – S. 2.

[344] Bielaruski Probasc/ Pastyry-cuzyncy // Kryniсa. – 1924. – № 19. – 26 lipnia. – S. 2, 4.

[345] Гарошка, Леў. Пад знакам «рускай» і «польскай» веры / Леў Гарошка // Божым шляхам. – 1954. – № 62. – С. 6.

[346] Nowy Sibir // Bielaruskaja Krynica. – 1926. – № 26. – 26 żniżnia. – S. 6.

навукі Хрыста ў зразумелай для іх роднай мове. Апрача такіх кіраўнікоў дыяцэзіі, як кс. Міхалькевіч і яго памагатыя кс. Стацкевіч і Ганусовіч, аўтар згадвае і Віленскага біскупа а. Юры Матулевіча, на якога шмат надзей ускладалі беларусы-каталікі ў магчымасці адраджэння свайго рэлігійнага жыцця ў сувязі з яго прызначэннем у 1918 г. на пасаду. Але, на жаль, праз тры гады працы біскупа а. Ю. Матулевіча, усе гэтыя адзнакі сапраўды добрага пастыра біскупа Матулевіча не спраўдзіліся на беларусах каталіках. Так, Папскую булу аб сваім прызначэнні на пасаду біскупа а. Ю. Матулевіч, спужаўшыся капітулы, не дазволіў чытаць на беларускай мове. Не былі задаволены просьбы беларускай грамадскасці на імя біскупа аб выкладанні беларусазнаўства ў Віленскай духоўнай семінарыі. У час візітацыі летам 1920 г. Берасцейскага і Бельскага паветаў ні аднаго разу не адазваўся да беларусаў у іх роднай мове і не браў з сабою ксяндза, які гэта мог бы зрабіць, а тым часам сам гаварыў патрыятычныя польскія прамовы да беларусаў. Далей біскуп, няведама чаму, прызначае ў беларускія парафіі ксяндзоў паланізатараў, як Даніловіча і Бобеля назначыў у Дзісненскі павет. І гэтым самы псуець наш пастыр сьвятыя, сапраўды хрысьціянскія пачынаньні працы біскупа Ропа. Не даў біскуп дазволу і аніякага адказу на шматлікія прашэнні беларусаў-каталікоў з подпісамі аб магчымасцях беларускамоўных казанняў у іх парафіях. Не адклікнуўся біскуп Матулевіч і на просьбы беларусаў-каталікоў Вільні ў іх жаданні мець хаця бы сваю каплічку для правядзення набажэнстваў на сваёй мове[347]. Факты, якія прыводзіць Б. Туронак, трохі інакш характарызуюць біскупа ў параўнанні з тым, якія мы прыводзілі ў папярэдняй манаграфіі[348].

Паводле тагачаснага друку няцяжка прасачыць, у якой складанай сітуацыі апынуўся Віленскі біскуп пасля Рыжскага трактату 1921 г. Так, «Крыніца» і далей улічвала а. Ю. Матулевіча ў несправядлівасці ў адносінах да рэлігійных патрэбаў беларусаў-католікаў. У артыкуле «Нас можна крыўдзіць» ставілася пытанне, чаму біскуп так хутка рэагуе і прыслухоўваецца да паклёпаў у польскіх газетах на беларускіх святароў і «зараз жа карае «вінаватага», а не чуе і не бачыць крыўды і здзеку над беларусамі-каталікамі і беларускімі святарамі з боку польскіх уладаў, якія падаюцца амаль што ў кожным нумары «Крыніцы». Нагодай для такой заўвагі стала рэакцыя біскупа на публікацыю ў «Gazecie Wilenskiej» артыкула пра тое, што ксяндзы-беларусы Шутовіч, Жук і Якуць у Дзісненскім пав. не прымаюць да споведзі польскіх дзяцей. Біскуп даслаў Дзісненскаму дэкану гэты нумар газеты з надпісам разглядзець гэтую справу[349].

---

347 Krywičonak M. Hołas Kryudy // Krynica. – 1921. – № 11. – 10 krasawika. – S. 1–2.
348 Трацяк І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі… – С. 157–167.
349 Nas možna kryudzić… // Krynica. – 1921. – № 17. – 27 traunia. – S. 6.

Іншым разам «Крыніца» паведамляла пра ўражанні ад наведвання Віленскім біскупам парафіі Леварышкі (Віленскі пав.), дзе біскуп вельмі прыхільна аднёсся да беларускага хору, да прамоваў кс. Яна Семашкевіча да яго на беларускай мове і адказаў біскупа таксама на беларускай мове[350]. Кс. Адам Станкевіч, які адносіўся да біскупа з вялікай прыязнасцю і спадзяваннямі, адказваючы на несправядлівыя абвінавачванні ў польскім друку, выказаў свой жаль з нагоды таго, што «ён у справе беларускасці ў касцёле дагэтуль не зрабіў нічога, не споўніў ніякай просьбы беларусаў-каталікоў[351]. Абвінавачвалі беларусы біскупа і ў тым, што ён праз свой нязмерны страх польскіх паноў не звярнуў увагі на крыўды клерыкаў беларусаў: «Аж дагэтуль Віленская духоўная семінарыя – гэта кузьня польскіх агітатараў на беларускіх землях»[352], і ў тым «... што біскуп Матулевіч да гэтага часу ня даў беларусам-каталікам касьцёла ў Вільні, нягледзячы на многія і многія просьбы»[353].

З другога боку, біскуп а. Ю. Матулевіч трапляў пад вельмі вострую крытыку ў польскім перыядычным друку. Яго абвінавачвалі ў тым, што ён «...свядома дазваляе беларускаму духавенству рабіць тое, чаго і Мураўёў не мог зрабіць – русіфікацыю касцёла, ад якой толькі крок да праваслаўя...»[354]; што ён «стварыў тып ксяндза-беларусіна абсалютна незнанага перад кс. Ю. Матулевічам з элементаў найнебяспечнейшых, дэмагагічных, падшытых бальшавізмам» («Rzeczpospolita», 1921, № 80), а таксама спрыяў літоўскаму і беларускаму руху, што стала пагражаць цэласьці Рымска-каталіцкага касьцёлу і польскай дзяржаўнасці («Dziennik Wielenski», 1924, № 186; 1925, № 58, № 109; «Gazeta Warszawska», 1924 ад 16.08; 1924, № 81).

На падставе такіх выпадаў супраць а. Ю. Матулевіча кс. Антон Зянкевіч зрабіў высновы, што віленская эндэцыя зняславіла біскупа Матулевіча ня толькі як грамадзяніна Польшчы, але і як рымска-каталіцкага біскупа, дыскваліфікуючы яго як пастыра, няздольнага да выхавання каталіцкасці і маралі сярод падначаленага духавенства і вернікаў[355]. Палітычны куратар Віленшчыны ад Польскага ураду дэлегат В. Роман характарызаваў дзейнасць біскупа як мэтанакіраванае і свядомае выцясненне польскасці з касцёла, аслабленне польскіх палітычных і культурных уплываў на карысць літоўскіх і беларускіх элементаў, якія прызнаваў у якасці аўтахтанічных і праўных краю. З пункту польскіх дзяржаўных інтарэсаў такі біскуп не можа заставацца надалей у Вільні, бо як літоўскі патрыёт не можа заставацца абыякавым да польска-літоўскага канфлікту[356].

---

350 Parafijanin. Ławaryszki, Wilenskaha paw. // Krynica. – 1922. – № 3. – 17 wierasnia. – S. 7.

351 I. Paparac. Ichnaja «prauda» // Krynica. – 1923. – № 9. – 1 wierasnia. – S. 2–4.

352 Bielaruski Probasc. Pastyry-cuzyncy // Krynica. – 1924. – № 19. – 26 lipnia. – S. 2, 4.

353 Мсьціслаўскі, А. Беларускі касьцёл / А. Мсьціслаўскі // Беларускія ведамасьці. – 1921. – № 2. – 19 верасьня. – С. 3–4.

354 I. Paparac. Ichnaja «prauda» // Krynica. – 1923. – № 9. – 1 wierasnia. – S. 2–4.

355 Zienkiewicz Ant., ks. Dowody // Przegląd Wilenski. – 1925. – № 14. – 13.09. – S. 6.

356 Górcki, Tadeusz MIC. Rozmiłowany w Kościele: Błogosławiony Arcybiskup Jerzy Matulewicz / Tadeusz Górckł. – Warszawa, 1987. – S. 209.

Адзначым, што і ў наступныя і ў апошнія гады свайго біскупства і архібіскупства а. Ю. Матулевіч практычна анідзе не змог адкрыта выступіць у абарону беларускасці ў касцёльным жыцці. Прынамсі, варта адзначыць і тое, што ў гэты час ён быў адзіным чалавекам у вышэйшай касцёльнай іерархіі, хто не супраць быў бы дапамагчы беларусам-католікам, але паралізаваны спольшчанай біскупскай Віленскай рымска-каталіцкай курыяй, зрабіць гэта не мог.

Беларусы-католікі з разуменнем ставіліся да а. Юры Матулевіча. У Мемарыяле беларускіх соймавых паслоў-католікаў св. Айцу Папу Рымскаму Пію XI такая сітуацыя тлумачылася наступным чынам: «Біскуп віленскі Я. Э. др. Ю. Матулевіч, хоць чалавек справядлівы, але будучы літвінам, дзеля прычын тактычных, каб польскія палітыкі і распалітыкаванае польскае духавенства не ўважала яго за паступаючага на карысьць беларусаў са шкодай для палякаў, ня можа адважыцца споўніць жаданні нашага люду...»[357].

3 жніўня 1925 г. віленскі біскуп а. Юры Матулевіч адрокся ад біскупства. Кс. В. Гадлеўскі тлумачыў такі крок біскупа нежаданнем быць уцягнутым у палітычныя і дзяржаўныя разборкі. Ён пісаў, што Польшча будуе сваю дзяржаву на паліцыі, асадніцтве і школе і толькі не хапала для гэтага касцёла, бо біскуп а. Ю. Матулевіч, хоць і не дапамагаў польскаму ўраду адкрыта ў такой палітыцы, але стараўся ісці на ўсе іх уступкі. Але польскаму ўраду гэтага было мала – урад хацеў, каб Каталіцкі Касцёл стаў прыладай розных палітычных мэтаў. Біскуп а. Ю. Матулевіч на гэта не пайшоў[358]. Гаворачы пра адносіны а. Ю. Матулевіча да беларусаў, кс. В. Гадлеўскі адзначае, што для нас ён быў і не добры і не благі. Не быў ён добрым таму, што нічога пазітыўнага не зрабіў: не выдаў аніякага распараджэння ў справе беларускай мовы ў касцёле, не даў беларусам касцёла ў Вільні, нават папскую булу ў час свайго інгрэсу не прачытаў на беларускай мове... А з другога боку, нельга сказаць, каб ён ставіўся варожа да нас, заўсёды шкадаваў, што нічога не можа зрабіць для беларусаў, бо звязаны палітыкай польскага ўраду: «Відзеў ён усе нашы крыўды, усе зьдзекі і нядолю, літаваўся над беларускім народам, як над палітычным Лазарам, разумеў ягоныя імкненьні – але падаць яму руку і падняць з нядолі не адважыўся...». Разам з тым біскуп заслугоўвае шчырай і глыбокай падзякі ад беларусаў за сваю справядлівасць, якая праяўлялася ў духоўнай падтрымцы, не перашкаджала беларускамоўным казанням і беларускаму друку, не дазваляла ганяць беларускіх ксяндзоў у польскія парафіі і крыўдзіць беларусаў[359].

---

[357] Memoryjał biełaruskich sojmawych pasłou katalikou św. Ajcu // Biełaruskaja Krynica. – 1924. – № 2. – 18 studnia. – S. 2.

[358] S. K-i. Zračeńnie Wilenskaha Biskupa Ks. Juraha Matulewiča // Biełaruskaja Krynica. – 1925. – № 2. – 4 kastryčnika. – S. 1–2.

[359] Там жа. – S. 1–2.

Слушна пісаў кс. А. Станкевіч, што пасля Канкардату 1925 г. між Апостальскай Сталіцай і Польшчай, «для біскупа Матулевіча было ясным, што вытварыўшаеся палажэньне само праз сябе ўцягне яго як заінтарэсаванага дзеля яго касьцельнага становішча ў вір барацьбы між урадам і нацыянальнымі меншасьцямі, так-жа і ў жыцьці касьцельным. Усякай-жа барацьбы, усякага дзейнага змаганьня, біскуп Матулевіч, дзеля сьвятасьці свайго характару, стараніўся, дык дзеля гэтага летам 1925 г. прасіў сьв. Айца аб прыняцьці яго зрачэньня з Віленскай сталіцы…»[360].

У гэтым выказе кс. А. Станкевіча можна ўскосна знайсці адказ і на такое недарэчнае пытанне, як «чаму пры біскупу а. Ю. Матулевічу падначаленая яму курыя стала цэнтрам польска-ксяндзоўскага шавінізму?».

Дарэчы, пра Віленскую рымска-каталіцкую курыю, якая пераўзыходзіла ў нянавісці да беларускасці нават дзяржаўныя інстытуцыі, можна шмат гаварыць асобна, але прывядзём толькі некалькі фактаў. Так, кс. У. Талочка згадвае цікавы факт пра тое, што ў 1920 г. на пасаду біскупа-суфрагана была пададзена кандыдатура кс. каноніка К. Любянца, які, будучы інспектарам духоўнай семінарыі ў Вільні, «паказваў брак элементарнай талеранцыі да беларусаў-клерыкаў... Голас абурэньня беларускага грамадзянства па поваду гэтай эндэцкай кандыдатуры гучным рэхам даляцеў да Рыму і кандыдатура была зьнята»[361]. Адносіны да беларусаў-клерыкаў інспектара Віленскай духоўнай семінарыі праз усе гады заставаліся такімі ж нязменнымі: «кс. Любянец, як і раней, не радзіць клерыкам запісвацца беларусамі, даказваючы пры гэтым, што беларусаў ніколі не было і няма»[362].

Дарэчы, усе просьбы да духоўнай улады пра ўвядзення ў Віленскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю прадметаў беларускай мовы, літаратуры, гісторыі ня мелі аніякіх вынікаў. Наадварот, на думку Б. Туронка, у семінарыі яшчэ больш сталі ўзмацняцца паланізатарскія тэндэнцыі: «Духоўная каталіцкая семінарыя ў Вільні – гэта чужая і варожая для нашага народу ўстанова, гэта ўстанова толькі паланізатарская, гэта кузьня не здаровых і сільных характараў, не праўдзівых слуг Хрыстусавых, а кузьня польскасьці, і польскай, а не каталіцкай веры»[363]. Пераканаўчым прыкладам таму былі адсутнасць не толькі беларускіх прадметаў у навучанні, але і адсутнасць выкладчыкаў-беларусаў. Ненадоўга затрымаўся на пасадзе прафесара філасофіі і апалагетыкі ў духоўнай семінарыі кс. Я. Рэшаць – доктар філасофіі і тэалогіі, які пры спрыянні біскупа а. Ю. Матулевіча ў 1922 г. трапіў у семінарыю, а ў 1925 г. пры «спрыянні» рэктара семінарыі кс. Ушылы і біскупа-суфрагана К. Міхалькевіча бес-

[360] Stankiewicz Ad. Rodnaja mowa u światyniach. – Wilnia, 1929. – S. 147.

[361] Кс. Ул. Талочка. З агляду рэлігійных спраў на Беларусі ў 1920 г. // Наша Думка. – 1920. – № 2. – 31 сьнежня. – С. 2.

[362] Крывічонак, М. Духоўная каталіцкая семінарыя / М. Крывічонак // Крыніца. – 1921. – № 31. – 16 кастрычніка. – С. 1.

[363] Там жа. – С. 1.

падстаўна быў пераведзены ў Беласток. У гэтую справу вымушаны былі ўмяшацца беларускія паслы-каталікі, якія ў лісце ад 1.10.1925 г. апостальскаму нунцыю ў Варшаве аргументавалі статыстыкай пражывання беларусаў у Віленскай архідыяцэзіі не толькі неабходнасць уводу беларускай мовы, літаратуры і гісторыі для прыслугі пастыраў беларускага народу, але і патрэбу прафесараў ксяндзоў беларускай народнасці. Паслы лічаць звальнення кс. Я. Рэшаця з прычыны «скарачэнне ліку прафесараў» фактарам палітычным і вялікай несправядлівасцю[364].

Яшчэ адзін з найбольш уплывовых асобаў курыі пралат кс. Адам Савіцкі «праз сорак гадоў свайго пралацтва заўсёды адносіўся варожа да беларусаў, асабліва да ксяндзоў-беларусаў, на якіх пры сустрэчы нападаў з абурэннем і з крыкам»[365]. Непрыхільныя і шавіністычныя адносіны да беларусаў-католікаў і беларускіх святароў праяўлялі і такія ксяндзы курыі, як І. Баярунец, Я. Ганусовіч, С. Маціевіч, Л. Пуцята, Я. Ушыла і іншыя.

Пра тое, як пры біскупе З. Лазінскім (а пасля пры яго верным прадаўжальніку біскупе К. Букрабе), і Віленскім архібіскупе Р. Ялбжыкоўскім паступова паланізаваліся Пінская дыяцэзія і Віленскае архібіскупства, вынішчаўся беларускі элемент не толькі з касцёлаў, але і з школ, гутарка будзе ісці ў кантэксце дзейнасці беларускіх каталіцкіх і ўніяцкіх святароў, а тут толькі варта заўважыць, што Рыжская дамова трывала замацоўвала дзяржаўнае права на далучаныя тэрыторыі, а гэта давала поўнае права духавенству на паланізацыю краю. Прынамсі, як біскуп З. Лазінскі, так і сотні падобных яму былі перакананыя ў тым, што гэта гістарычна абгрунтаваная ziemia Polske (Польская зямля). Адзінае, што магло б перашкодзіць польскаму духавенству займацца вынішчэннем няпольскіх адметнасцей у касцёльным і сацыякультурным жыцці, дык гэта пазіцыя Ватыкана.

Тое, што Ватыкан быў асвядомленым становішчам беларусаў-каталікоў давала нейкія надзеі, але не давала гарантый. Пазіцыя Ватыкана ў пытаннях адносна беларускіх дамаганняў аргументавалася нешматлікай карэспандэнцыяй, якая ўжо згадвалася ў дадзеным даследаванні: ліст архібіскупа Ф. Альбіна Сімана, рэзалюцыі кардынала Рамполі і кардынала Меры дэль Валь[366]. Але ўсе гэтыя захады насілі рэкамендацыйны характар. Апошняе слова Ватыканам было дадзена на разгляд мясцовым касцёльным уладам.

Нешта падобнае атрымалася і з прызначэннем 12.01.1923 г. Папам Пій XI кс. К. Міхалькевіча на пасаду біскупа-суфрагана Віленскай дыяцэзіі. З нагоды яго намінацыі кс. У. Талочка пісаў, што невядома, наколькі

---

[364] U sprawie Ks. Dr. J. Rešecia // Biełaruskaja Krynica. – 1925. – № 2. – 4 kastryčnika. – S. 3–4.

[365] Яшчэ аб пралаце Савіцкім // Беларуская Крыніца. – 1934. – № 38. – 28 кастрычніка. – С. 4.

[366] Адбітак ліста (лат.) знаходзіцца: Цэнтральная бібліятэка Акадэміі Навук Рэспублікі Беларусь (ЦНБНАНБ). Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 23. – В. 1. – Спр. 15.

істотна бралі пад увагу кандыдатуру кс. др. Фабіяна Абрантовіча, былога рэктара духоўнай семінарыі ў Мінску. На тры вакансіі – прадстаўнікі ад трох народаў (літоўцы, палякі, беларусы) трэба было дамагацца, каб адна з іх дасталася кс. Ф. Абрантовічу, паважанаму нават у польскіх колах[367]. «Дзіўная рэч, – пісала пра такое рашэнне Ватыкана «Крыніца», – што Рым так мала думае аб патрэбах беларусаў-католікаў у Віленскай дыяцэзіі. Нягледзячы на тое, што дыяцэзія гэта ў большасці заселена беларусамі-каталікамі, і што ўжо некалькі разоў беларусы пісалі аб гэтым у Рым, Папеж замест біскупа-суфрагана беларуса, назначыў кс. К. Міхалькевіча»[368]. Адносіны біскупа К. Міхалькевіча да беларускіх праблемаў былі добра вядомыя, але і яны не былі адназначнымі. Гэта яму належыць некалькі нядобразычлівых выказванняў, кшталту «...о белорусском яз.(ыке) в данном случае, по-моему мнению, и речи быть не может...»[369] і «... бо ў беларусаў нічога няма»[370]. Тым не менш беларускі гурток у Віленскай духоўнай семінарыі з бібліятэкай клерыкаў-беларусаў знаходзіў разуменне і падтрымку адміністратара Віленскай дыяцэзіі К. Міхалькевіча[371]. Прыхільнасць біскупа да беларусаў адзначаў кс. У. Талочка: «Міхалькевіч быў заўсёды зычлівым да беларусаў. Дапамагаў матэрыяльна Баляславу Пачобку выдаваць «Беларуса». У 1918 г. настойліва заахвочваў да духоўна-каталіцкай працы на беларускай мове кс. Яна Семашкевіча, які тады насіўся з праектам выдання народнага тыгодніка «Сейбіт»[372]. Пра тое, што кс. Міхалькевіч як адміністратар дазваляў карыстацца беларускай мовай пры катэхізацыі і за сваё аб'ектыўнае ў гэтым выпадку становішча меў шмат прыкрасцей ад палякаў, пісала і «Крыніца» з спадзяваннем, што біскуп-суфраган будзе справядліва адносіцца да беларусаў[373]. Але гэта бадай што і ўся дапамога біскупа беларусам-католікам.

[367] Kantryba, Piotr. Po nominacji / Piotr Kantryba // Przegłęd Wileński. – 1923. – № 20. – S. 5.

[368] Кс. К. Міхалькевіч біскупам-суфраганам у Вільні // Крыніца. – 1923. – № 2. – 27 лютага. – С. 11.

[369] «...о белорусском яз(ыке) в данном случае, по моему мнению, и речи быть не может, так как язык этот не введён ни в школе, ни в местных административных и судебных учреждениях, ни даже в православной церкви, к которой, как известно, принадлежит преобладающее число белорусов. И тут непонятным является, почему именно одно лишь р(имско)-к(атолическое) духовенство должно идти вопреки очевидным стремлениям правительства...». Ліст біскупа К. Міхалькевіча ад 21.04.1912 г. дырэктару Дэпартамента духоўных справаў цалкам надрукаваны ў кнізе: Трацяк, І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі… – С. 148–149.

[370] «І вось, калі нехта з немцаў спытаўся ў галавы каталіцкага духавенства беларускай часткі Краю, чаму Каталіцкі Касьцёл не дапускае ў сябе, да ўжытку народнай беларускай мовы, ён пачуў адказ: "Бо ў беларусаў нічога німа"». – A. N. «U ich ničocha nima» // Homan. – 1917. – 20 lutacha.

[371] Туронак, Юры. Язэп Германовіч – сьвятар і пісьменьнік / Юры Туронак // Мадэрная гісторыя Беларусі. – Вільня : Інстытут беларусістыкі, 2006. – С. 420.

[372] Kantryba Piotr. Po nominacji // Przegłęd Wilenski. – 1923. – № 20. – S. 5; R.-Katalicki Episkopat i adradżennie Biełaruskaho Narodu // Krynica. – 1919. – № 6. – 5 kastryčnika. – S. 1.

[373] Adnosiny J. E. Biskupa sufragana Kaz. Michalkiewica da bielarusau // Krynica. – 1923. – № 3. – 31 sakawika. – S. 2.

Зразумела, чаму перавага была аддадзена кс. К. Міхалькевічу, і тым не менш, віленская капітула выразіла хваляванні з нагоды намінацыі другога біскупа літоўскай нацыянальнасці. Узгадала апостальскаму візітатару непрыхільныя адносіны да палякаў з боку Жмудскага біскупа Францішка Карэвіча і Магілёўскага архібіскупа Вінцэнта Ключынскага, асцерагаючыся, што такое можа здарыцца і з біскупам Юры Матулевічам[374]. Незразумелым тут заставалася адно: чым быў выкліканы такі недавер з боку капітулы, нягледзячы на ўсю прыхільнасць кс. К. Міхалькевіча да польскасці?.. Але ўсе страхі капітулы былі дарэмнымі – біскуп-суфраган кс. К. Міхалькевіч добра разумеў, каму ён абавязаны і за што, і надалей заставаўся верным слугою не столькі Хрыста, колькі сваіх гаспадароў. «Казённым пастырам» яго празвалі парафіяне м. Вялікая Лапеніца (Ваўкавысці пав.) з нагоды візітацыі 9.06.1924 г. парафіі. З прагнасцю вернікі-беларусы (якіх тут значная большасць) лавілі кожнае слоўца біскупа ў надзеі быць заўважанымі і пачуць слоўца пацехі беларусам-каталікам, але дарэмна – Пастыр у сваіх прамовах некалькі разоў толькі і нагадваў што пра «нашу Айчызну Польшчу каханую» і ні слоўца пра беларусаў-каталікоў і іх патрэбы[375].

Пазіцыя Ватыкана ў адносінах да беларусаў-католікаў і на гэты раз выглядала такой жа цмяннай, туманнай і глухой, як і ва ўсе часы. Калі б яна была больш канкрэтнай і канструктыўнай, больш смела паводзілі б сябе біскупы а. Ю. Матулевіч, кс. З. Лазінскі і кс. К. Міхалькевіч. Такую пазіцыю вядомы беларускі дзеяч Вінцэнт Жук-Грышкевіч тлумачыў тым, што ў «Ватыкане сядзела моцная польская рэпрэзэнтацыя, якая прадстаўляла рэлігійнае жыццё ў Польшчы ў сваёй вэрсыі і старалася не дапусьціць пабочных, непрыемных для яе вестак. Да таго ж голас у Ватыкане мог мець толькі біскуп, да годнасьці якога не дапускалі беларусаў…»[376].

У агульна-тэарэтычным плане ў Ватыкане шмат удзялялі ўвагі праблемам Касцёла, народаў і роднага духавенства. Так, Папа Рымскі Піус XI ад 28.02.1926 г. выдаў энцыкліку «Rerum Ecclesiae» у якой падкрэсліў патрэбу роднага духавенства і роднай ерархіі, аргументуючы тым, што роднае духавенства лепш ведае мову, гісторыю свайго народу, ягоныя патрэбы, імкненні, свядомасць і характар і хутчэй дасягае мэты сваёй працы. Дзеля гэтага Папеж раіць закладаць адпаведныя духоўныя семінарыі і выхоўваць маладое духавенства для адпаведнай працы. Сакратар Кангрэгацыі прапаганды веры арц. Салоцці выказваў на старонках ватыканскага часопіса «Osserwatore Romano» (ад 14.01.1932 г.) цікавыя думкі наконт таго, што для паўсюднага пашырэння Хрыстовага валадарства неабходна

[374] Wilk Stanisław, ks. SDB. Episkopat Kościoła katolickiego w Polsce w latach 1918–1939… – S. 25.

[375] Katalik. «Kazionny Pastyr» // Krynica. – 1924. – № 17. – 8 lipnia. – S. 5.

[376] Жук-Грышкевіч, Вінцэнт. Рэфлексыі на сьмерць кс. Віктара Шутовіча / Вінцэнт Жук-Грышкевіч // Раіса Жук-Грышкевіч. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. – Таронта – Канада, 1993. – С. 274.

паўсюдна ствараць роднае духавенства і краёвую іерархіі[377]. Кс. А. Станкевіч, аналізуючы такую інфармацыю, пісаў: «Як жа гэтыя вялікія апостальскія пачынаньні Піуса XI многа даюць для думак для нас беларусаў, і як жа яны для нас праўдзівыя і патрэбныя! Міліён беларусаў-каталікоў пад Польшчай не мае дагэтуль свайго роднага духавенства...»[378].

Вось у чым можна пагадзіцца з кс. А. Станкевічам, дык гэта ў тым, што апостальскія пачынанні Піуса XI і сапраўды многа давалі беларусам для думак, але нічога больш канкрэтнага не давалі, а таму і не мелі беларусы сваёй духоўнай ерархіі. Зразумела, што ўся інфармацыя, якая паступала ў Ватыкан пра беларускія каталіцкія патрэбы, агучвалася вуснамі прадстаўнікоў польскага епіскапату пры Ватыкане і насіла аднабаковы беспраблемны характар. У якасці прыкладу можна прывесці інфармацыю «Хрысьціянскай Думкі» за 1932 г. пра тое, што кс. Мейштовіч выехаў у Рым у якасці касцёльнага дарадчыка ў польскім пасольстве пры Ватыкане і будзе інфармаваць Апостальскую Сталіцу ў тым ліку і пра беларусаў, але «добрага з гэтых інфармацыяў мы спадзявацца ня можам нічога, бо ксёндз гэты да беларусаў настроены варожа»[379]. На старонках «Хрысьціянскай Думкі» (кс. А. Станкевіч) ставіліся пытанні пра патрэбы для беларусаў свайго апостальскага візітатара з Ватыкана, паводле прыкладу спецыяльнага апостальскага візітатара для Галіччыны, якому было даручана даследаваць каталіцкае жыццё ўкраінцаў і далажыць Апостальскай Сталіцы[380]. Але ў большай аб'ектыўнасці і праўдзівасці інфармацыі пра патрэбы беларусаў-католікаў, відаць, і сам Ватыкан быў мала зацікаўлены. Складвалася ўражанне, што ў Ватыкане не хацелі чуць галасы гукаючых беларусаў-католікаў у II Рэчы Паспалітай толькі таму, што Ватыкан не хацеў псаваць адносін з польскімі свецкімі і духоўнымі ўладамі. Зразумела, што для Ватыкана нашмат было выгадней не заўважаць беларусаў і іх духоўныя патрэбы, чым канфліктаваць праз іх з уладай дзяржавы, якая была і ёсць і ў перспектыве можа быць надзейнай падпорай каталіцтва на ўсходзе Еўропы. Прынамсі, магчыма, так разважаў і Папа Пій XI, адносіны якога з польскім духавенствам і свецкімі ўладамі былі вельмі цеснымі. Кс. Ахіл Раці ў травені 1918 г. з'явіўся ў Польшчы ў якасці апостальскага візітатара, а 6.06.1919 г. быў прызначаны Папам Рымскім Бенедыктам XV на пасаду першага нунцыя Польшчы з атрыманнем сану біскупа. Тут нельга не пагадзіцца з заўвагай расейскага гісторыка Царквы, які адзначаў, што «...так завязваліся адносіны між будучым Папам Піем XI і каталіцкім духавенствам у Польшчы. З гэтых адносін абодва бакі ўзялі

[377] Ab patrebie rodnaha duchawienstwa // Chryścijanskaja Dumka. – 1932. – № 5. – S. 1–2.
[378] Там жа. – S. 1–2.
[379] Wyezd ks. Mejštowiča u Rym // Chryścijanskaja Dumka. – 1932. – № 6. – S. 9.
[380] Čamu my za biełaruskaść u Kaściele // Chryścijanskaja Dumka. – 1935. – № 1. – S. 1–2.

для сябе ўсё, што можна было ўзяць»[381]. Перад хіратоніяй на Апостальскі пасад 13.01.1922 г., Язэп Пілсудскі ўзнагародзіў тады яшчэ кардынала А. Рацi вышэйшым польскім ордэном Белага Арла. 6.02.1922 г. кардынал Рацi быў абраны Папам, якога паводле сцвярджэння А. Панікоўскага (прэм'ер-міністра Польшчы), правільна называлі «польскім папам»... 20.02.1922 г. ён, ужо будучы Папам, дзякуе ўрад Польшчы за высокую ўзнагароду ў асабістым лісце А. Панікоўскаму, у якім, між іншым ёсць і такія радкі: «...Гэта яшчэ больш узмацніць нашу прыхільнасць да Польшчы, якая ўжо і так дарагая нашаму сэрцу»[382].

Апрача такой запалітазаванасці і паланізацыйнага кірунку, у асяродку рымска-каталіцкага духавенства ў першыя гады існавання Польшчы як незалежнай дзяржавы сталі па-новаму праяўляцца і такія, не характэрныя Касцёлу тэндэнцыі, як залежнасць духавенства ад эканамічнай і грамадска-сацыяльнай магутнасці пануючага класа. Кс. Адам Станкевіч звярнуў увагу на тое, што такая сітуацыя зрабіла дзіўна вялікі ўплыў на погляды і дзейнасць духавенства, зацміла ў яго душы рэлігію і маральнасць і прывяла да таго, што спольшчанае духавенства далучыла да сваіх рэлігійна-маральных абавязкаў і абавязак абароны пануючага класу багатых, г. зн. існуючага капіталістычнага грамадскага ладу [383]. З другога боку, у гэтым нічога не было новага. Дастаткова згадаць аналіз канфесійнай палітыкі, які мы праводзілі ў раздзеле «Беларускае пытанне ў кантэксце канфесійнай і нацыянальнай палітыкі канца XIX ст. – 1921 г.» [384].

Яскравы прыклад ціску на духавенства – шырокая агітацыя з боку польскіх памешчыкаў і асаднікаў беларускіх сялян католікаў ігнараваць візітацыю Віленскага біскупа кс. Ю. Матулевіча парафій Ашмянскага дэканата толькі таму, што гэты біскуп не з'яўляецца палякам, варожа настроены да Польшчы і не будзе абараняць іх інтарэсаў. У такой агітацыі найбольш праславіліся паны: Жылінскі ў Солах і Ластоўскі ў Казароўшчыне[385].

Варта сказаць колькі слоў і пра такую тэндэнцыю, як залішняя ўгодлівасць некаторых ксяндзоў перад больш багатымі і прыўладнымі асобамі. Такая ўгодлівасць мела як эканамічную карысць (пан можа дапамагчы матэрыяльна, фінансамі, рэчамі, прадуктамі), так і культурную (ксёндз, учарашні сялянскі сын, мог трапіць у больш адукаваную і элітную прастору грамадства). Той факт, што на гэтую ўгодлівасць звярнула ўвагу «Кры-

[381] Николаев К. Н. Экспансия Рима в Россию. Восточный обряд (Рим – Польша – Россия). – М., 2005. – 360 с.; Константин Николаев. Восточный обряд [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: http://www.blagogon.ru/biblio/248/. – Дата доступу: 7.04.2018.

[382] Там жа.

[383] Ihnat Paparać. Čas źwiarnucca na ułasnuju darohu // Krynica. – 1924. – № 22. – 22 žniuńia. – S. 1.

[384] Трацяк І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі… – С. 88–174.

[385] Paparać Ihnat. Čas źwiarnucca na ułasnuju darohu // Krynica. – 1924. – № 22. – 22 žniuńia. – S. 2.

ніца» (кс. Адам Станкевіч), гаворыць пра тое, што з’ява і сапраўды была вельмі папулярнай у асяродку духавенства Віленскага біскупства[386]. Усе гэтыя прыклады добра паказваюць шляхі, якімі ксёндз рабіўся «панскім ксяндзом» і чужым для простых парафіянаў.

Цэнтрам беларускага жыцця пасля 1921 г. у Заходняй Беларусі становіцца Вільня. Менавіта тут дзейнічалі шматлікія беларускія арганізацыі, партыі, выдавецтвы, Беларуская гімназія, кааператывы, дзіцячыя прытулкі і інш. Праз усё міжваеннае дваццацігоддзе ў Вільні стала альбо з невялікімі перапынкамі знаходзіліся беларускія святары – гэта кс. Адам Станкевіч, які фармаваў і рэарганізоўваў Беларускую хрысціянскую дэмакратыю, выдаваў «Крыніцу» і «Хрысьціянскую Думку», праводзіў шырокую прапагандысцкую працу па беларусізацыі рэлігійнага жыцця, кс. Уладзіслаў Талочка, кс. Станіслаў Глякоўскі. Зыходзіліся тут шляхі кс. Ільдэфонса Бобіча, кс. Язэпа Рэшаця, кс Вінцэнта Гадлеўскага, кс. Язэпа Германовіча і іншых.

Чаго беларусы-каталікі не змаглі дабіцца ў Вільні, дык гэта свайго касцёла. Вострая патрэба ў сваім касцёле ўзнікла ў сувязі з адкрыццём Віленскай Беларускай гімназіі (1918 г.) і ў першую чаргу для правядзення набажэнстваў для вучняў гімназіі і для дзяцей беларускага прытулку. «Хрысціянская Думка» пісала, што Віленскі біскуп а. Ю. Матулевіч разумеў духовыя патрэбы беларусаў і спрыяў ім, але каб не выклікаць да сябе лішнюю нянавісць польскіх шавіністых, вызначыць беларусам асобны касцёл у Вільні не мог адважыцца[387]. Кс. А. Станкевіч са спадзяваннямі на біскупа пісаў, што 10.11.1921 г., дзякуючы намаганням беларускай каталіцкай грамадскасці і біскупскай волі а. Юры Матулевіча, пачаліся рэгулярныя набажэнствы для беларусаў-каталікоў у касцёле сьв. Мікалая ў Вільні[388]. На самай справе католікі-беларусы мусілі звярнуцца да літоўскага духавенства з просьбай касцёла для правядзення беларускіх службаў і адпаведных рытуалаў. Насустрач пайшоў пробашч касцёла св. Мікалая кс. В. Язукевіч, які сам хадайнічаў дазволу на гэта ад біскупа Ю. Матулевіча. Ад беларусаў просьбу падпісалі дырэктар Віленскай Беларускай гімназіі (М. Кахановіч), прадстаўнік ад бацькоўскага камітэту (В. Грыневіч), прэфект гімназіі (кс. А. Станкевіч), загадчыца дзіцячага прытулку С. Кішко. Просьба была пададзена 1.11.1921 г.[389].

Але такое рашэнне не было вырашэннем праблемы. Наступныя шматлікія просьбы, афіцыйныя звароты беларусаў Вільні ў жаданні мець свой храм да Віленскага біскупа а. Ю. Матулевіча, нават да папежскага пасла Мансігнора Лаўрага ў Варшаве заставаліся безвыніковымі. Звярталіся з

[386] S. K-i. Lišniaja uhodliwaść // Krynica. – 1925. – № 1. – 4 studnia. – S. 3–5.

[387] 10-yia uhodki nabaženstwau dla Biełarusau u wilenskim kaściole św. Mikałaja // Chryścijanskaja Dumka. – 1931. – № 17. – S. 1.

[388] ЦНБНАНБ. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 4. – В. 1. – Спр. 10. – Арк. 97.

[389] 15-leccie biełaruskich nabaženstwau u kaściole św. Mikałaja u Wilni // Chryścijanskaja Dumka. – 1936. – № 11. – S. 1.

мемарыялам да прадстаўніка Апостальскага пасаду з адпаведнай просьбай, але ў адказ пачулі, што гэта справа мясцовага біскупа. Калі ж чарговы раз звярнуліся да біскупа а. Ю. Матулевіча, дык ён стаў даводзіць, што гэта вельмі небяспечная справа, што не трэба злаваць польскае грамадзянства, якое ўсімі сіламі будзе старацца паралізаваць захады беларусаў... Нягледзячы на тое, што некалькі касцёлаў у Вільні ўвогуле пуставала, беларусы-каталікі так і не атрымалі свайго касцёла[390]. З прыходам на арцыбіскупскую кафедру кс. Р. Ялбжыкоўскага патрабаванні беларусаў-католікаў у жаданні свайго касцёла рэлігійнымі ўладамі Вільні сур'ёзна не разглядаліся.

## 2.2. АРГАНІЗАЦЫЯ БЕЛАРУСКАГА КАТАЛІЦКАГА ДУШПАСТЫРСТВА

*(кс. А. Шышка, кс. Я. Семашкевіч, кс. К. Валадкевіч, кс. К. Стаповіч, іншыя)*

Пасля падзелу Беларусі (18.03.1921 г.) сітуацыя для беларускага каталіцкага духавенства змянілася з кепскай на яшчэ горшую – прапольскія касцёльныя ўлады атрымалі моцную падтрымку ў выглядзе свецкай улады і адпаведных дзяржаўных структураў у змаганні за непахіснасць польскасці ў касцёльна-каталіцкім жыцці краю і ўвогуле ў сцвярджэнні польскасці «на крэсах».

У сувязі са зменай палітычнай сітуацыі ў краі, беларускае каталіцкае духавенства стала распрацоўваць новую праграму дзеянняў «з мэтай надаць больш арганізаваны і планавы кірунак каталіцка-беларускай працы і паглыбіць гэтую працу[391]. Тэарэтычна-метадалагічны агляд сітуацыі быў прааналізаваны на старонках «Крыніцы» кс. К. Стаповічам. У прыватнасці, ён пісаў: «Углядаючыся ў жыцьцё сучаснага Касьцёла на нашай зямельцы, мы знаходзім вельмі важныя зачаткі значных перамен у недалёкай будучыне. Грамадзянская сьведамасьць у беларусаў расьцець буйна, а зь ёю жыцьцё прымае родныя формы ў кожнай галіне культуры. Касьцёл не астанецца ад агульнай эвалюцыі народнай, – і вось мы бачым, як скрозь па Беларусі касьцёльнае жыцьцё павольна страсае зь сябе чужацкія наплывы і адзяе родную вопратку. Рэч зусім для нас ясная і зразумелая, як з боку нацыянальнага, так і з боку агульнай патрэбы касьцёла, каторы дапушчае, а нават загадвае даваць рэлігійную навуку ў народнай мове...»[392]. «... Мы павінны асьцярожна, але станоўча згадзіцца, што ў Беларусі форма адносін рэлігійных ужо змяняецца, і пайсьці сьмела на спатканьне но-

[390] S. K-i. Polskaje hramadzianstwa i patreba kaściela dla Biełarusay u Wilni // Krynica. – 1924. – № 34. – 23 listapada. – S. 3–5.
[391] Stankiewicz Ad. Rodnaja mowa u światyniach… – S. 130.
[392] Ko-St. Śledam za dziedam // Krynica. – 1921. – № 21. – 10 lipnia. – S. 2.

вых патрэб. Тая сьмешная ўрадовасьць і палітыканства спольшчанай часьці духавенства нашага краю найлепшым служыць доказам, што гэты дух, так папулярны за часоў расейскіх, ужо загавеў на адсталасьць... Трэба нам выступаць як ксяндзом касьцёла міжнароднага і міжпартыйнага, а не спецыяльна аднэй народнасьці, або партыі. Такое становішча прымусіць нас для кожнай народнасьці тварыць жыцьцё рэлігійнае роднымі формамі, а не пазычанымі ад чужацкага панаваньня... З обсэрвацыі сучаснага палажэньня ў нашым Краі, кожны ксёндз-беларус павінен: 1. Пільна спасцерагаць і сачыць працэс народнага даспявання беларусаў, каб не адстаць ад агульнага культурнага развітку душы народнай. 2. Старацца ўвесці ў свае парафіі калі не заўсёды, дык перыядычна ў вялікія святы навуку па-беларуску, а таксама арганізаваць па-беларуску спеў рэлігійны на хоры. 3. Прычыняцца як мага да выдавецтва рэлігійнага, каб мець гатовы матэрыял у запатрабаванні на нашу творчасць. 4. Быць у жыцці народнікам і карыстацца мовай народнай згодна з псіхалогіяй нашага народа і паводле правіла «не прымушай, але пераканай». 5. Працаваць у імя ідэі Каталіцызму, а не нацыяналізму пад дэвізам: «З народам, для Бога»[393].

У плане арганізацыі і практычнай дзейнасці меркавалася 12–13.07.1921 г. склікаць чарговы з'езд беларускага каталіцкага духавенства ў Вільні. «Крыніца» паведамляла, што ўжо некалькі гадоў як існуюць выдавецкія суполкі ксяндзоў палякаў «Lumen» і суполкі духавенства летувіскага. Чаму ж не могуць мець такіх арганізацый і ксяндзы-беларусы? Болей таго, польскія цывільныя ўлады ахвотна далі згоду на правядзення такога арганізацыйнага сходу і нават духоўныя ўлады прынцыпова нічога не мелі супраць[394]. У склад арганізацыйнага камітэту ўвайшлі святары І. Бобіч, У. Талочка, А. Станкевіч. Праграмай з'езду былі арганізацыйныя, выдавецкія і іншыя справы. Парадак дня выглядаў наступным чынам:

I. Аб патрэбе арганізацыі ксяндзоў-беларусаў. Рэферэнт – Кс. К. Стаповіч.

II. Назва арганізацыі; разгляд статуту і яго прыняцце.

III. Аб беларускай мове ў касьцёле: а) Беларуская мова ў Духоўнай семінарыі; б) Беларускі біскуп-суфраган. Рэферэнт – Кс. А. Станкевіч.

IV. Аб беларускім рэлігійным выдавецтве. Рэферэнт – Кс. І. Бобіч.

V. Аб Уніі. Рэферэнт – Кс. Я. Германовіч.

VI. Бягучыя справы [395].

Шмат хто з асяродку беларускага каталіцкага духавенства быў апавешчаны і запрошаны на з'езд. А напярэдадні самога з'езда «Крыніца» раптам змясціла кароценькае паведамленне пра тое, што 12–13 ліпеня меўся адбыцца ў Вільні з'езд ксяндзоў-беларусаў, але зрабіць гэта не даз-

---

[393] Ksiondz biełarus. Piśmo u redakcyiu // Krynica. – 1921. – № 24. – 5 žniunia. – S. 8.
[394] R. Pad ciażkim endeckim strachaćciom // Krynica. – 1921. – № 24. – 5 žniunia. – S. 4.
[395] ЦНБНАНБ. – Ф. 4. – В. 1. – Спр. 145.

воліла духоўная ўлада[396]. «Усё было б добра, – пісала «Крыніца» ў наступным нумары, – каб не гэты пракляты эндэцкі тэрор, які і стаў прычынай таго, каб у апошнюю хвіліну духоўная ўлада прымушана была не даць дазволу на сход»[397]. Кс. Віктар Шутовіч – адзін з удзельнікаў гэтага з'езда – пры аглядзе беларускага каталіцкага жыцця за 1921–1922 гг. адзначаў, што ў палове ліпеня меўся ў Вільні адбыцца з'езд ксяндзоў-беларусаў, але не адбыўся з прычыны «дзіўных вымаганняў улады і эндэцкага тэрору»; толькі прыватная гутарка вялася сярод часткі прыехаўшых з правінцыі святароў[398].

Інфармацыя наконт забароны распаўсюджвалася, хутчэй за ўсё, для таго, каб адцягнуць увагу і праслед уладаў ад з'езда і яго ўдзельнікаў. Сёння цяжка меркаваць, хто прысутнічаў у прыватнай гутарцы часткі святароў, апрача арганізацыйнага камітэту, і якая была колькасць прыехаўшых. Тым не менш на сустрэчы былі прынятыя адпаведныя пастановы, у тым ліку пра патрэбы ўводу беларускай мовы ў духоўную каталіцкую семінарыю ў Вільні і аб прызначэнні на пасаду віленскага біскупа-суфрагана беларуса, матывуючы тым, што без ведання беларускай мовы ў асяродку духавенства і вышэйшай касцёльнай іерархіі, увод яе ў Касцёл будзе немагчымым: з'езд прапаноўваў кандыдатуру а. Ф. Абрантовіча. Пастановы былі перададзеныя біскупу а. Ю. Матулевічу, які паводле магчымасці абяцаў іх выканаць. Удзельнікі сустрэчы прынялі статут таварыства ксяндзоў «Рунь», галоўнай мэтай якога павінна быць праца ў каталіцкім і беларускім духу сярод свайго народу; гаварылі пра выданне сваёй газеты і колькасны склад свядомых ксяндзоў-беларусаў, лік якіх у Віленскай і Менскай дыяцэзій даходзіў да паловы сотні, пры тым з кожным годам колькасць святароў-беларусаў павялічвалася за кошт выпускнікоў духоўных навучальных установаў[399]. Трэба думаць, што арганізатары з'езду разлічвалі на прысутнасць каля паловы сотні беларускіх святароў. Кс. Адам Станкевіч схіляўся да характарыстыкі дадзенага схода як з'езда, асабліва калі ўлічваць важнасць пытанняў і рэзалюцый. «Як вынік гэтага з'езду, – пісаў ён, – паўстала арганізацыя ксяндзоў-беларусаў пад назовам «Сьветач», але камісар ураду м. Вільні адмовіў у легалізацыі статуту без права апеляцыі вышэй»[400]. Так, 23.04.1924 г. арганізатары Таварыства каталіцкіх ксяндзоў-беларусаў «Светач» падалі ўладам Статут таварыства, мэтай якога было

[396] Zjezd Ksiandzou biełarusau nie adbudziecca // Krynica. – 1921. – № 21. – 10 lipnia. – S. 8.

[397] R. Pad ciażkim endeckim strachaćciom // Krynica. – 1921. – № 24. – 5 žniunia. – S. 4.

[398] W. S. Ahlad biełaruska-katalickaha žyćcia na Biełarusi u 1921–1922 h. // Krynica. – 1923. – № 5. – 25 traunia. – S. 3.

[399] Там жа.

[400] Paparać I. Čyja wina? // Krynica. – 1924. – № 3. – 21 lutaha. – S. 1; Stankiewicz Ad. Rodnaja mowa u światyniach… – S. 130–131.

развіццё самабытнай беларускай культуры і рэлігійна-культурная праца сярод беларусаў, і атрымалі адказ такога зместу: «З даручэння дэлегата Ураду ў Вільні гэтым паведамляю, што Міністэрства Спраў Унутраных адмовілася зацвярджаць Т-ва Ксяндзоў Беларусаў «Светач». Ад гэтай пастановы не даецца права звярнуцца да вышэйшай улады адміністрацыйнай». У сувязі з гэтым кс. Адам Станкевіч як пасол вымушаны быў звярнуцца з інтэрпеляцыяй да пана-міністра з наступнымі пытаннямі: 1) ці пан міністра мае намер падаць падрабязныя выясьненні, на якой аснове не зацверджаны Статус Т-ва «Светач»; 2) ці гатоў узяць назад сваю пастанову і зацвердзіць Статут Т-ва Ксяндзоў-Беларусаў «Сьветач»[401]. Інтэрпеляцыя засталася без адказу.

Гаварыць пра канкрэтную колькасць прадстаўнікоў беларускага каталіцкага духавенства на гэты час вельмі складана. Паводле інфармацыі А. Луцкевіча і кс. П. Татарыновіча, у 1918–1920 гг. налічвалася каля 200 ксяндзоў-беларусаў[402]. Такая значная колькасць ксяндзоў-беларусаў у гэты перыяд тлумачыцца жаданнем і відавочнай патрэбай працы сярод беларускага народу. Варта адзначыць і той факт, што палякам у гэты час было не да беларускіх праблемаў у касцёле, за малым выключэннем духоўных уладаў і польскага вайсковага тэрору ў 1919 г. У ліпеньскім нумары «Крыніцы» за 1921 г. была змешчана невялічкая заўвага пра тое, што «дзеля абароны волі беларускай люднасці і абароны праў беларускай мовы ўжо сёння працуе аж 30 з гарой ксяндзоў-беларусаў, злучаных у арганізацыю»[403] – хутчэй за ўсё мелася на ўвазе арганізацыя «Сьветач», якая складалася з групы святароў Віленскай дыяцэзіі, аб’яднаных вакол кс. Адама Станкевіча, – групы найбольш заангажаванай у беларускасці. Зразумела, што дакладнай статыстыкай ніхто не валодаў: ані самі святары (П. Татарыновіч, А. Станкевіч), ані беларускія дзеячы і публіцысты (А. Луцкевіч, Я. Станкевіч, Б. Туронак (Крывічонак), таму што крытэрыі ўдзелу ў беларускім руху, падтрымка, прыхільнасць, датычнасць былі рознымі як па тэрмінах (часовыя і пастаянныя), так і па ўзроўню заангажаванасці (павярхоўныя і глыбокія). Тут можна хіба што ставіць пытанне пра гатоўнасць каталіцкага кліру праводзіць беларускамоўныя набажэнствы і казанні не дзеля таго, каб некага рабіць беларусамі ці палякамі, а дзеля больш даступнага мета-

[401] Paparać I. Čyja wina? // Krynica. – 1924. – № 3. – 21 lutaha. – S. 1; Krynica. – 1924. – № 15. – 17 cerwienia. – S. 5; Інтэрпеляцыя Пасла Кс. А. Станкевіча да п. Міністэрства Спраў Унутраных у справе незацвярджэньня Т-ва Ксяндзоў Беларусаў «Светач» // Інтэрпеляцыі беларускіх паслоў у Польскі Сойм 1922–1928 гг. : зб. дакументаў. – Менск : Беларускае дзяржаўнае выд-ва, 1927. – С. 25; Stankiewiecz Ad. Rodnaja mowa u światyniach… – S. 130–131.

[402] А. Л. Усходняя Беларусь: Статыстычныя і гістарычныя матэрыялы. – Мінск : Выд. Народнага Сэкрэтарыяту Міжнародавых спраў, 1918. – С. 6; Znič. – 1955. – № 34–35. – S. 4.

[403] Krywičonak, M. U sprawie biełaruskaj mowy u Kaściele // Krynica. – 1921. – № 23. – 29 lipnia. – S. 1.

ду пазнання Слова Божага. У парафіях усцяж працавалі ксяндзы, якія добра валодалі беларускай мовай і карысталіся ёю ў сваёй душпастырскай дзейнасці, нягледзячы на палітычныя змены. І такіх было нашмат больш, чым 30 чалавек. Празмерная большасць святароў у беларускіх парафіях, прыкладна каля 90 адсоткаў, была не супраць беларускамоўных казанняў і набажэнстваў і беларускага нацыянальнага адраджэння ўвогуле. Ворагамі беларускасці ў асяродках каталіцкага духавенства была пераважна кіруючая эліта і адзіночкі ксяндзы-палякі, кшталту кс. С. Маціевіча, кс. Р. Дроніча, кс. Ю. Бародзіча.

У пацвярджэнне такіх высноваў прывядзём некалькі фактаў з перыядычнага друку першых гадоў пасля падзелу Беларусі. У першую чаргу варта заўважыць, што плённа працягвалі душпастырскую працу ў беларускім духу тыя святары, пра якіх ішла гаворка ў папярэдніх раздзелах. Па-другое, з'яўляліся і новыя прозвішчы святароў, хто праяўляў цікавасць да краю, да лёсу народу, яго гісторыі і культуры.

Так, у карэспандэнцыі з Ваўкавыску аўтар «Крыніцы», між іншым, згадвае, што ў в. Ятвязі (Мсцібаўскай парафіі) жыве ў бацькоў кс. Шышка[404], вядомы беларускі патрыёт, шмат пацярпеўшы за свае народныя перакананні[405]. У карэспандэнцыі са Свіслачы невядомы аўтар пісаў пра цяжкія ўмовы жыцця і яшчэ больш складаныя цяжкасці беларускай працы. Адзначаў, што «найбольш працаваў для свайго народу ў нас – гэта ксёндз Антоні Шышко. Ён многа перанёс, як з часоў нямецкіх, так і цяпер ад палякаў за сваю працу на карысьць Бацькаўшчыны... Многім працаўніком прыходзілася па колькі раз бываць на «курсах у польскай акадэміі», а кс. Шышка яшчэ і цяпер не мае права нікуды выязджаць. Надта здзекавалася ў Свіслачы польская дэфензыва. Без усякага разбору, часам па аднаму слову вясковай бабы арыштоўвалі людзей, асабліва інтэлігентаў і садзілі ў турму...»[406]. Нешта падобнае, відаць, было і з ксяндзом Антонам Шышкам. Вядома, што ён быў сябрам беларускага культурна-асветніцкага гуртка ў часы вучобы ў духоўнай семінарыі ў Пецярбургу, актыўным дзеячам

---

[404] Шышка (Шышко) Антоні Станіслававіч [7.03.1892 г., в. Ятвезь Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. (паводле іншых крыніц – в. Ятвеск, цяпер Свіслацкі р-н, Гродзенскай вобл.) – 6.03.1959 г., Замартэ (Zamarte), Польшча]. Вучыўся ў Магілёўскай рымска-каталіцкай духоўнай семінарыі ў Санкт-Пецярбургу (1911–1914 гг.), дзе 12.10.1914 г. быў пасвечаны на дыякана. У пачатку Першай сусветнай вайны вярнуўся дадому. Працягваў вучобу ў Віленскай духоўнай семінарыі, якую скончыў у 1918 г. з прыняццем сакрамэнту святарства (25.07.1918 г.). Працягваў вучобу на тэалагічным ф-це Варшаўскага ун-та і ў Папскім Грыгарыянскім ун-це ў Рыме (1921–1924 гг.), які скончыў са ступенню доктара кананічнага права. Служыў у парафіі Божага Цела ў мяст. Крошын Сталовіцкага дэканата, цяпер Баранавіцкі р-н Брэсцкай вобл. (1925–1929 гг.), выконваў абавязкі пробашча ў парафіі Лунін Пінскай дыяцэзіі (1929–1932 гг.). Ад 1933 г. служыў у касцёлах Польшчы (Кляшчэлі, Бельскага пав., Пшэмыслаў), не маючы касцёльнай пасады. Апошнія перадваенныя гады жыў у мястэчку Свіслач Беластоцкага павета.

[405] Zet. Waukawyck // Krynica. – 1921. – № 4. – 1 studnia. – S. 4.

[406] J. A. Swisłač // Krynica. – 1921. – № 17. – 27 traunia. – S. 5.

Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Той факт, што ён апынуўся ў гэты час на сваёй малой радзіме без душпастырскай працы, гаворыць пра тое, што касцёльные ўлады не забяспечылі яго такой магчымасцю спецыяльна. Яго сяброўства і супрацоўніцтва з Баляславам Пачопкам (неафіцыйным дырэктарам Беларускай настаўніцкай семінарыі ў Свіслачы на той час) наводзіць на думку яго працы ў гэтай навучэльні. У пачатку 1920-х гадоў кс. А. Шышка разам з Б. Пачопкам спрабавалі аднавіць выданне каталіцкай газеты «Biełarus» у Беластоку. Пасля вышэйшых студыяў у Рыме (1925 г.), ён зноў вярнуўся на радзіму і працаваў у Крошыне і Луніне (Пінская дыяцэзія). Выступаў у падтрымку беларускай мовы ў выкладанні ў каталіцкіх семінарыях у Вільні, Пінску і ў душпастырскай дзейнасці ў беларускіх парафіях. Ад імя беларускага каталіцкага духавенства падпісаў «Мемарыял пятнаццаці», які быў прадстаўлены 19.05.1925 г. на агульнапольскай канферэнцыі біскупаў і закранаў пытанне шырокага выкарыстання беларускай мовы ў душпастырскай дзейнасці. У 1931 г. кс. Антон Шышка быў пераведзены з Пінскай дыяцэзіі ў Віленскую архідыяцэзію на вікарыя ў парафію Сухаволя (Сакольскага пав.), а ў 1932 г. прызначаны пробашчам у Лунін Пінскай дыяцэзіі.

У рубрыцы «Свая пошта» газеты «Крыніца» ёсць цікавы запіс: «Кс. Врублеўскаму ў Пяршаях: «Крыніцу» пасылаем. Пашырайце роднае слова»[407]. Кс. Альф. Врублеўскі (Wrubliewski) нар. у 1861 г., пасвечаны ў 1891 г., у 1920-х гг. духоўнай уладай быў накіраваны ў Рым). Больш яго імя ў беларускай культурнай прасторы сустрэць не ўдалося.

«На вялікдзень прыязджаў да нас (у в. Рудзішкі Трокскага пав.) кс. Ташкун[408], былы дзекан у Дзісне, вялікі прыяцель адраджэньня народу беларускага, шмат заслуг палажыўшы для пашырэньня нашай сьвядомасьці»[409]. Кс. В. Ташкун вядомы быў і тым, што пры яго дэканацтве ў 1918 г. у Германавічах адбыўся дэканальны сход, які прыняў спрыяльныя для беларускага руху рэзалюцыі.

У паведамленні з Адэльску (Сакольскі пав.) аўтар, між іншым, пісаў, што «пробашчам ёсьць тут вельмі сімпатычны кс. Варатынец. Быў ён калісьці дзеканам у Ковеншчыне, а таму некалькі наццаць гадоў пераехаў у нашу дыяцэзію. Народ тут беларускі. Наш пробашч вядзе тут працу чыста каталіцкую і пальшчэньнем беларусаў не займаецца»[410]. Пра кс. Зянона

[407] Swaja počta // Krynica. – 1921. – № 19. – 19 perwienia. – S. 8.

[408] Кс. Вінцэнт Ташкун нарадзіўся ў 1880 г., скончыў Віленскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю і пасвечаны на ксяндза (1903 г.), вучыўся ў рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі ў Пецярбургу (1911–1915 гг.), працаваў вікарыем касцёла Усіх Святых у Вільні (1903–1906 гг.), адміністратарам касцёла Ласк у Лідскім дэканаце (1906–1911 г.), у Дзісненскім дэканаце (1915–1922 гг.), рэктарам касцёла Святога Сцяпана ў г. Вільні і школьны катэхетам (1922–1924), ад 1924 г. – прафесар рымска-каталіцкай духоўнай семінарыі ў Вільні.

[409] Rudy. Rudziški. Trockaha paw // Krynica. – 1921. – № 20. – 26 perwienia. – S. 6.

[410] Hość. Odelck // Krynica. – 1921. – № 21. – 10 lipienia. – S. 5.

Варатынца мала што вядома. Належыў ён да ксяндзоў старэйшага пакалення (нарадзіўся ў 1851 г.), быў пасвечаны на святара (1878 г.), у 1906 г. быў пераведзены на пробашча парафіі Шчучын (Лідскі дэк.), ад 1909 г. – пробашч у Адэльску (Сакольскі дэк.), пасля – у Мастах (1927–1932 гг.). Памёр 31.10.1932 г.

У Вялікай Бераставіцы працуе кс. В. Сарасек[411], вельмі сумленны пробашч[412]. Пад сумленнасцю пробашча мелася на ўвазе незалежніцкая пазіцыя святара ад польска-эндэцкай палітыкі. Такія святары не выкарыстоўвалі касцёл у мэтах паланізацыі і не выступалі супраць нацыянальнага адраджэння іншых народаў.

Па просьбе парафіян[413] і з дазволу біскупа а. Ю. Матулевіча ад 3 чэрвеня 1921 г. сталі гаварыцца беларускія казанні ў Клюшчанах (роднай парафіі кс. К. Стаповіча). Гаварыў такія казанні тамашні кс. Даніла Буйвіс[414] – летувіс паводле паходжання[415].

«11 чэрвеня на «Божае Цела» ў Бальбінаўскім касьцёле было сказана казаньне Друйскім ксяндзом у беларускай мове, якое дужа зацікавіла жыхарства. Казаньне цягнулася 3 гадзіны і з вялікай паважнасьцю слухалася парахвіянамі»[416]. Зразумела, што казанне гаварыў нехта з Друйскіх айцоў марыянаў.

[411] Кс. Вітольд Сарасек нарадзіўся ў 1888 г. У 1911 г. скончыў Віленскую рымска-каталіцкую семінарыю, быў пасвечаны на святара і накіраваны на вікарыя ў парафію Ганёндзы, Беластоцкага дэканата (1911–1914 гг.), пасля ў Дамброва Сакольскага дэканата (1914–1919 гг.). У В. Бераставіцу быў прызначаны на пасаду пробашча ў 1920 г., пасля пераведзены ў Сакольскі дэканат, парафію Кундзін (1924 г.), дзе і заставаўся на пасадзе пробашча да 1939 г.

[412] Tr. Wialikaja Brastawica // Krynica. – 1921. – № 24. – 5 żniunia. – S. 5.

[413] «Яго Эксцэленцыі Кс. Біскупу Дыяцэзіі Віленскай. Просьба. Парафія наша па сваім складзе народным здаўна беларуская, не магла як дагэтуль карыстаць з права свайго да роднай мовы ў касьцёле, бо з аднаго боку народ даўней ня меў ніякага голасу і ніхто зь ім не лічыўся, другой-жа стараны Расейцы не хацелі Беларусаў прызнаць асобнай нацыяй і – правам дужага – маглі-б цягнуць нас на сваю расейскую веру. У гэтым аднак часе, калі Бог народ наш збудзіў з нядолі і процьмы на чысьцейшы шлях да ажыўленьня рэлігійнае культуры ў сэрцах нашых, і калі расейшчыны ўжо справядлівасьць ягоная скасавана, пара нам адважна і з сумленьнем спакойна заявіць сьвету аб сваім прыродным праве да роднай мовы ў справах сьвятой веры нашай. І вось дзеля гэтага, з пакорай прад (Пастарскім Аглядам) Вашае Эксцэленцыі, мы – беларусы Клюшчанскае парафіі – адважваемся прасіць, каб нашу мову родную дапусьціць у Клюшчанскі Касьцёл хаця-б у тыя фэсты, калі гаварыцца навука і па-літоўску. Гэта сулічыць на фэст Сэрца Езуса і на Сьв. Яхіма. Просім хоць на гэтыя два разочкі – на Нешпары Сэрца Езуса і Сьв. Яхіма – і асьмелімся дабавіць, што ў нас прамовы па-беларуску ўжо здараліся і спатканы былі народам як зусім на сваім мейсцы. Перасылаючы просьбу нашу праз рукі свайго Дастойнага Пробашча, просім Вас, Эксцэленцыя, багаславіць нас бедных Русьнячкоў і учыніць так, як хоча Ваша Пастырскае сумленьне (закрэсьлена) сэрца». Парафіяне – каля 100 подпісаў. – (Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (ЦНБНАНБ). Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 23. – В. 1. – Спр. 28 «С»).

[414] Кс. Даніла Буйвіс – адзін з старэйшых святароў Віленскай дыяцэзіі (нар. у 1872 г., пасв. у 1896 г.). Працаваў у Глыбоцкім, Гедройцскім, Варнянскім дэканатах. У Клюшчаны быў прызначаны на пасаду пробашча ў 1919 г. Пасля быў пераведзены ў Гервяты (1927 г.). Як ксёндз-летувіс праводзіў набажэнствы на летувіскай мове.

[415] Kluščanskija biełarusy. Biełaruskaje kazańnie ŭ Kluščanach // Krynica. – 1921. – № 18. – 12 červienia. – S. 5.

[416] Беларускасьць і ксяндзы // Думка беларуса (аднаднёўка). – 1925. – 22 ліпеня. – С. 4.

З вёскі Кульбакі, што каля Гродна, пісалі ў «Крыніцу», пра тое, што ў іх вёсцы жывець блізкая радня кс. У. Талочкі. «Калі ён жыў у Горадні і тут вучыўся, быў сабе звычайным панічом і мо нат крыху чураўся вёскі і вясковых людзей, быццам ён сам з другой мукі. Затое як стаў ксяндзом, ад самага пачатку вярнуўся да свайго народу і цяпер усім сэрцам спрыяе яму»[417].

Паводле інфармацыі з в. Алковічы (Вялейскага пав.) выцякала, што перад цяперашнім ксяндзом, ад якога беларускага слова не пачуеш, быў тут кс. Антоні Хомскі[418]. Прабыў ён тут нядоўга, але пакінуў пра сябе вельмі добрыя ўспаміны. З мясцовымі абшарнікамі дружбы не меў, простых людзей і іхняе роднае мовы не цураўся і сам любіў пагаварыць па-беларуску і паспяваць беларускія песні. Паляваннямі на звяроў, як робіць цяперашні ксёндз, брыдзіўся, быў рупным да сваіх пастарскіх абавязкаў, пабываў у кожнай сялянскай хаце, пазнаў усіх сваіх парафіянаў. Але нягледзячы на старанні сялянаў і адмысловыя дэлегацыі да арцыбіскупа, яго прызначылі ў іншае месца[419]. У парафіі Алковічы ад 1932 г. пробашчам быў кс. Ладзіслаў Пачкоўскі.

Некалькі малавядомых беларускіх святароў і спрыяльных да беларускасці згадаў кс. А. Станкевіч у «Хрысціянскай Думцы». Так, пра смерць кс. Б. Цехановіча, пробашча ў Навасадах, Пінскай дыяцэзіі, ішла гаворка як пра смерць ксяндза-беларуса[420]. З нагоды смерці (28.12.1932 г.) кс. З. Штафінскага, вікарага ў Парафіянава «Хрысьціянская Думка» пісала, што «быў свядомым беларусам. Апошнія гады свайго жыцця хварэў падучай хваробай, якая давяла яго да магілы»[421].

З пашанай і павагай згадала «Хрысьціянская Думка» кс. Канстанціна Тэжыка[422] з нагоды яго заўчаснай смерці: «…кс. К. Тэжык, апрача многіх добрых старон сваёй душы, будучы сам Палякам, адзначаўся зразуменнем беларускага адраджэння і талеранцыяй да Беларусаў…». Калі ў 1927 г. Віленскі арцыбіскуп адправіў Барадзеніцкага пробашча кс. В. Шутовіча на вікарыя ў Трысценнае да кс. Тэжыка, дык апошні прыняў кс. В. Шутовіча з адкрытай і шчырай душой і выказаў свой спагад і разуменне беларускай справы. Кс. В. Шутовіч успамінаў кс. К. Тэжыка як найлепшага чалавека і хрысціяніна[423].

---

[417] Z. Kulbaki // Krynica. – 1921. – № 25. – 14 žniunia. – S. 6.

[418] Кс. Антон Хомскі (нар. у 1896 г., пасвечаны ў святары ў 1924 г.) працаваў у розных парафіях вікарыем: у Іўі (1928 г.), у Трыценнае на Беласточчыне (1929–1930 гг.), Алковічах (1931 г.); у 1932 г. быў пераведзены ў Свір.

[419] П-ну. Аб нашай ваколіцы // Беларуская Крыніца. – 1935. – № 8. – 11 лютага. – С. 4.

[420] Śmierć Ksiandza Biełarusa // Chryścijanskaja Dumka. – 1930. – № 19–20. – S. 7.

[421] Там жа. – S. 9.

[422] Кс. Канстанцін Тэжык нарадзіўся ў 1874 г. у Гародні, скончыў Віленскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю і быў пасвечаны на святара (1899 г). Ад 1912 г. працаваў пробашчам у Трысценнае і Кнышскім дэканам. Памёр у Вільні 6.09.1932 г.

[423] L. M. Žałobnyja uspaminy // Chryścijanskaja Dumka. – 1932. – № 10. – S. 6.

Добрымі словамі згадаў кс. Ст. Гуневіча (з нагоды яго смерці 18.04.1937 г.) яго калега кс. Я. Германовіч: «Хоць у беларускім адраджэнскім руху не працаваў, аднак у маладых гадох быў нашым прыхільнікам. Памог усьвядоміцца некаторым маладым людзям, пазьнейшым дзеячом, каторым так жа памагаў маральна і матэрыяльна... Чалавек справядлівы, разумеў патрэбы беларускай мовы, каторай ахвотна карыстаўся ў зносінах з беларусамі, а нават, будучы вікарыем, пашыраў беларускае друкаванае слова»[424].

У лісце з Спаса Даўгінаўскай парафіі Вялейскага павету мясцовы «сусед» пісаў, што «некалькі гадоў тут быў пробашчам кс. Матвейчык. Часта яго можна было ўбачыць на Вяллі з сялянамі з вудою ў руках, а гэтаксама часта-густа сустрэць яго ў сялянскіх хатах. Не цураўся ён беднаты і беларусчыны, а адкрыта прызнаваўся да яе і гутарыў заўсёды па-беларуску. Цяпер у Спасе паляк, а пры ім пайшлі «новыя» парадкі»[425]. Кс. Антон Матвейчык – адзін з прыхільнікаў беларускага хрысціянскага руху ад часоў вучобы ў Рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі ў Пецярбургу, быў пробашчам парафіі Спас, Вілейскага дэканата ў 1922–1930 гг., пасля – парафіі Аборак, Вішнявіцкага дэк. (1930–1937 гг.).

У дадзеным выпадку гутарка ідзе не пра «радыкальна настроеных ксяндзоў-беларусаў», а пра звычайных ксяндзоў, якія бачылі розніцу між дзейнасцю душпастырскай і дзейнасцю палітычнай. Такіх ксяндзоў было не дзясяткі, а сотні, але не ўсіх прозвішчы трапілі на старонкі друку альбо былі зафіксаваныя ў адпаведных дакументах.

У перапісцы рэдакцыі «Крыніцы» з сваімі чытачамі і ў падзяках за ахвяраванні на газету ў гэты час (1920–1922 гг.) можна сустрэць некалькі дзясяткаў прозвішчаў святароў (апрача вядомых ксяндзоў-беларусаў), якія былі зацікаўленыя ў беларускім адраджэнні. Гэта ксяндзы В. Лукша, В. Ташкун, Я. Жамейць, А. Аўгустыновіч, Л. Чарняк, А. Зянкевіч, К. Валадкевіч, Ант. Шышка, Навіцкі, Янка Медзяла, Я. Бароўка, Я. Дашута, Я. Ляйковіч, Дубеніс, Вольскі, Маслоўскі, Д. Пешка, Я. Гайлевіч, Альшэўскі, Бурак, З. Шымкевіч... Кідаецца ў вочы і той зразумелы факт, што некаторыя ксяндзы перасталі падпісвацца сваімі поўнымі прозвішчамі: кс. Х., кс. Y., кс. М. Ж., кс. К., кс. Н. Н., кс. М. С., кс. Ф. А., кс. І. Б., кс. Х.Х.Х., кс. А. М., кс. Д., кс. А. Г., кс. С., кс. Я. (J.), кс. В. А., кс. І. Г., кс. К., кс. Ж., кс. П. і іншыя. Калі да гэтага спісу дадаць найбольш актыўных святароў у справе беларусізацыі касцёла, дык атрымаецца даволі значны спіс духавенства, здольнага да адпаведнай беларускай працы ў парафіі.

Амаль што адразу пасля Рыжскай дамовы распачаліся шумныя працэсы ў абвінавачванні каталіцкіх святароў у дзейнасці, якая не адпавядала палітыцы новай дзяржавы. Значны палітычны рэзананс у той час мела

[424] Ks. J. H. †Ks. St. Huniewič // Chryścijanskaja Dumka. – 1937. – № 9. – S. 2.
[425] Sused. Listy z wioski. Spas // Chryścijanskaja Dumka. – 1936. – № 4. – S. 9.

выдаленне вайсковага капелана кс. Урбановіча з Вільні. Зроблена гэта было як дэманстрацыя ўлады да няўгоднага духавенства і дзеля таго, што ён «быў дэмакратам, належаў да "Адраджэньня", спрыяў літоўцам і беларусам і наагул не быў эндэкам»[426]. У лік падазроных і абвінавачаных траплялі дзясяткі святароў, замешаных у антыдзяржаўнай альбо антыпольскай дзейнасці.

У сувязі з падрыхтоўкай да выбараў у Віленскі сойм (снежань 1921 г.) і Варшаўскі Сойм (студзень 1922 г.) значна актывізаваліся правакацыі з боку польскіх уладаў у адносінах да беларускіх каталіцкіх святароў. Пры тым мэтамі такіх правакацый было знайсці малейшую зачэпку, каб абмежаваць магчымасці беларускіх святароў уплываць на выбар сваіх парафіянаў. У сувязі з гэтым некаторыя беларускія святары прыбягалі да простых хітрасцей. Так, айцец Ч. Сіповіч пісаў, што, «калі адбываліся выбары ў польскі сойм, а. Ф. Чарняўскі[427], улажыўшы «Крыніцу» ў польскую газэту «Пшыяцель Люду», разаслаў яе і гэтак мог народ паінфармаваць пра беларусаў кандыдатаў у польскі сойм»[428]. Нагадаем, што ў 1922 г. кс. Ф. Чарняўскі быў вікарыям у Сакулцы (Сакольскі дэканат).

Хваля рэпрэсіўных мерапрыемстваў і працэсаў у першыя гады II Рэчы Паспалітай у першую чаргу кранула беларускіх святароў старэйшага пакалення, вядомых у краі сваёй беларускай незалежніцкай пазіцыяй, носьбітаў беларускасці ў парафіях, арганізатараў і сяброў Беларускага хрысціянска-дэмакратычнага саюзу.

**Кс. Ян Семашкевіч.**

Адзін з першых такіх працэсаў звязаны з асобаю кс. Яна Семашкевіча, які на гэты час быў пробашчам у парафіі Ляварышкі (Варнянскі дэканат, Свянцянскага пав.) і адначасна прэфектам школы. Справа разгарэлася праз тое, што кс. Семашкевіч падрыхтаваў дзяцей да споведзі на беларускай мове і пры катэхізацыі карыстаецца беларускай мовай. Не да спадобы гэта было некаторым палякам, якія праінфармавалі, што гэта было зроблена супраць іх волі, г. зн. волі бацькоў. З гэтай нагоды паводле загаду старасты начальнік II раёну Віленскага павету правёў 13.05.1921 г. тайнае дазнанне, запісаўшы паказанні чатырох парафіянаў у чатырох вёсках. Дазнанне гэта нагадвала здзеклівы фарс з асуджэннем учынку кс. Семашкевіча, да прыкладу, адзін з сведкаў (сведкамі былі праціўнікі беларус-

[426] Wywaz ksiandza Urbanowiča // Krynica. – 1921. – № 18. – 12 perwienia. – S. 7.

[427] Кс. Францішак Чарняўскі нарадзіўся 03.11.1893 г. у в. Чухны Ашмянскага пав. Віленскай губ. (цяпер Смаргонскі р-н). Паходзіў з беларускай сялянскай сям'і Яна і Ганны (з дому Гецэвічаў). Скончыў Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю (1920 г.), папскі Усходні інстытут у Рыме (1924–1927 гг.). Пасвечаны ў святары 30.05.1920 г. Душпастырскія абавязкі распачаў на пасадзе вікарыя ў парафіі Сухаволя (Сакольскі дэканат). Пазней працаваў у парафіях Саколка і Кузніца. Звяртаўся да вернікаў з казаннямі на беларускай мове, распаўсюджваў сярод парафіян беларускія рэлігійныя выданні, часопісы і газеты.

[428] Дзедзінка, А. Айцец Францішак Чарняўскі (1893–1979) / А. Дзедзінка // Божым шляхам. – 1980. – № 151. – С. 10–14.

касці) пачаў свой выступ словамі: «У мяне асабіста малых дзяцей няма, але…», другі скардзіўся на ксяндза за тое, што ён слухаць ня хоча тых, хто просіць, каб дзяцей да споведзі рыхтавалі па-польску і яны прасілі, каб у іх замянілі ксяндза, каб прыслалі ксяндза-паляка, які здолее выхаваць іх дзяцей у польскім духу[429]. Адзін сведка даводзіў, што кс. Семашкевіч вучыць дзяцей і па-польску і па-беларуску. На падставе такіх «паказанняў» Начальнік II р-ну Віленскага павету робіць выснову, што «дзяцей кс. Семашкевіч хоча выгадаваць на беларусаў паміма яўнага выражанага нездавальнення ўсёй парафіі»[430]. Наступным крокам быў ліст Віленскага старасты ад 8.06.1921 г. на імя Віленскага біскупа ў тым, каб той зрэагаваў на беларускую агітацыю пробашча кс. Семашкевіча. Ліст гэты суправаджаўся пратаколамі і скаргамі парафіян на пробашча з 132-ма подпісамі (на 5 з паловай тысяч вернікаў). Калі пачалася барацьба за кс. Я. Семашкевіча, 10 парафіян даслалі просьбы да біскупа, каб іх подпісы былі скасаваны, бо яны не ведалі за што падпісваюцца[431].

Толькі актыўнае заступніцтва парафіян-беларусаў прадухіліла перавод кс. Я. Семашкевіча ў іншую парафію, але моўныя праблемы парафіі засталіся не вырашанымі, пра што сведчыць чарговы ліст парафіянаў Лявырышскага касцёла да Яго Эксцэленцыі Віленскага біскупа: «Мы пакорныя авечкі Твайму сеўцу, пагарджаныя праз вякі, пераносячыя розны ўціск і ад таго замкнуўшыся самі ў сябе дасюль не выказвалі недзе нікому сваіх пажаданьняў апроч аднаго разу сваёй просьбы да Цябе, дарагі Пастыр наш, у 1921 годзе. Цяпер, калі рэакцыя ўціску, як быццам, упала, неадважна, але з вялікай пэўнасьцяў звяртаемся да Цябе, дарагі наш Пастар, з гарачай просьбай, сагрэць нашы сэрцы Сьвятою Навукаю Хрыстуса ў зразумелай і роднай нам матчынай мове беларускай, а задавальненьне гэтых, даўно замкнёных у нас саміх нашых пажаданьняў вельмі лёгка, адно толькі пазволіць нашаму пробашчу кс. Я. Семашкевічу, знаючаму добра сваіх парафіян, сэрцам і душою зусім прыхільнаму да нас, казаць казаньні Сьвятой Навукі Хрыстуса ў нядзелю і сьвяты ў роднай і зразумелай нам матчынай мове беларускай. Падаем да ног Тваіх, дарагі Пастар наш, а вышэй пісаным горача просім». 12 сакавіка 1925 г., 124 подпісы[432]. Адказу парафіяне, відаць, не дачакаліся, бо ў чарговым лісце ад 12.05.1925 г. просьба паўтараецца[433]. Лісты гэтыя пісаліся тады, калі яшчэ была нейкая надзея на архібіскупа а. Ю. Матулевіча. Тым не менш сітуацыя вакол кс. Я. Семашкевіча толькі ўскладнялася і далёка не на яго карысць.

Праблемы беларусаў-каталікоў былі агучаны з трыбуны Варшаўскага Сойма паслом кс. Адамам Станкевічам, у прыватнасці, ён акцэнтаваў ува-

[429] ЦНБНАНБ. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 4. – В. 1. – Спр. 100. – Арк. 2.
[430] Stankiewicz Ad. Rodnaja mowa u światyniach… – S. 133–134.
[431] Там жа. – S. 134.
[432] ЦНБНАНБ. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 4. – В. 1. – Спр. 100. – Арк. 6.
[433] Там жа. – Арк. 6.

гу на тым, што польскія ўлады звольнілі кс. Яна Семашкевіча, пробашча ў Леварышках, з пасады прэфекта школ, дзеля таго, што ён беларус і карыстаецца беларускай мовай [434]. А ў 1928 г. архібіскуп кс. Р. Ялбжыкоўскі перавёў кс. Я. Семашкевіча з Леварышак у Дукшты (Віленскі дэканат), а на яго месца прызначыў з Дукштаў кс. К. Захарэўскага. І справа з беларускай мовай у Леварышках паціху стала заміраць. Вымушаны быў абмежаваць сваю беларускую душпастырскую працу і кс. Ян Семашкевіч. У 1932 г. ён адрокся ад Дукштаў па сваёй ахвоці і быў прызначаны на вікарыя ў парафію Янава (Сакольскі пав.); у 1937 г. пераведзены ў Ялаўку (Ваўкавыскі пав.), пасля – Міхалова і Бомблю на Беласточчыне.

**Кс. Каспар Валадкевіч.**

Пад нагляд тайнай польскай паліцыі трапіў і малады вікарый Каспар Валадкевіч, які паводле рапарту «дэфензівы» (прыкладна 1921 г.) нядаўна прыехаў у Жырмуны з Эйшышак і з першых дзён стаў актыўна праводзіць беларускую агітацыю (сцвярджаць, што тут будзе не Польшча, а Беларусь, у склад якой павінны ўвайсці губерні: Віленская, Віцебская, Гродзенская, Магілёўская, Мінская і частка Смаленскай), гаварыў з парафіянамі на беларускай мове і ў хуткім часе заваяваў іх сімпатыі як свой чалавек. На пратэсты мясцовага пробашча кс. Адама Сакалоўскага не рэагаваў, тым больш, стаў яго агітаваць за беларускасьць[435]. Кс. Каспар Валадкевіч закончыў Віленскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю ў 1920 г., быў высвенчаны на святара, і душпастырскую працу распачынаў вікарыем у Саколцы. З усяго відаць, што шлейф беларускасці за ім цягнуўся з духоўнай семінарыі, што і стала нагодай для частых перамяшчэнняў: неўзабаве ён быў пераведзены ў Эйшышкі, а адтуль у Жырмуны, дзе ўжо ў ліпені 1921 г. на падставе рапарту «дэфензівы» быў абвінавачаны ў антыдзяржаўнай дзейнасці паводле артыкулаў 129 і 130 Крымінальнага кодэкса Польскай Рэспублікі. Следства па яго справе, якое вяла пракуратура Акруговага суда ў Вільні, скончылася 26.10.1923 г. апраўданнем[436]. Пасля гэтага кс. Каспар Валадкевіч доўга не заставаўся на адным месцы. Быў пераведзены ў Сакольскі дэканат, парафію Маёва на пасаду пробашча (1923–1929 гг.), пасля – у Малую Бераставіцу, Бераставіцкага дэканата (1929–1934 гг.), пасля ў Квасоўку Гродзенскага дэканата (1934–1937 гг.), Анжадава, Тургелішскі дэканат, дзе заставаўся да 1939 г.

**Засвір: душпастырская праца кс. Кастуся Стаповіча.**

У канцы 1920 г. кс. К. Стаповіч прыняў новую парафію Засвір Свірскага дэканату. Тое, што ён апынуўся менавіта тут, не было нейкай выпадковас-

---

[434] Pramowa pasła Ks. A. Stankiewiča u Sojmie dnia 28.IV. h. h. padčas dyskusii ab biudżecie Aswiety i Relih. Wyznańniau // Krynica. – 1925. – № 19. – 10 traunia. – S. 6.

[435] Тайны рапарт польскай «дэфензівы» пра беларускую дзейнасць каталіцкага святара Каспара Валадкевіча (LCVAф. 131) : Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя: Жыццяпісы. Мартыралогія. Успаміны / аўт.-уклад. Ю. Гарбінскі. – Мінск : Мюнхен, 1999. – С. 609.

[436] Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя: Жыццяпісы. Мартыралогія. Успаміны / аўт.-уклад. Ю. Гарбінскі. – Мінск : Мюнхен, 1999. – С. 33.

цю. У парафіі, якія знаходзіліся пры франтавой паласе Першай імперыялістычнай вайны, ксяндзы дабравольна не ехалі. Кс. К. Стаповіч быў тут першым пробашчам пасля вайны. Яму прыйшлося ўсё пачынаць з нуля: рамонт разбураных вайной касцёла і плябаніі, арганізацыя парафіі, школы і людзей, якія адвыклі праз шматгадовую адсутнасць святара ад рэлігійнага жыцця, арганізацыя і апякунства дзіцячым прытулкам. Але што было добра, дык гэта тое, што парафія была беларускай.

Пра сваю працу ў Засвірскай парафіі пісаў кс. К. Стаповіч у сваім дзённіку, а яшчэ добра напісаў пра свайго брата ва ўспамінах Бярнард Стаповіч, які быў сведкам тых умоваў і абставінаў, у якіх прыходзілася працаваць старэйшаму брату[437].

У Засвір кс. К. Стаповіч прыехаў добра вядомым ксяндзом-беларусам, таму і не дзіўна, што кожны крок яго сталі пільна адсочваць мясцовыя ўлады. Да таго ж сачылі за ім і што робіцца ў плябаніі і даносілі дыфензіве работнікі прытулку і іншыя невядомыя асобы.

Мясцовыя прадстаўнікі польскай улады (войт, стараста, паліцэйскі ўчастка, начальнік аддзела паліцыі) вельмі часта прыбягалі ў адносінах да ксяндзоў-беларусаў да звычайных правакацый. Так было і з кс. К. Стаповічам у 1921 г. у час правядзення парафіяльнага свята – фэсту Святога Язафата. Гісторыя выглядала такім чынам. Парафіяне падалі заяву з подпісамі на імя пробашча з просьбай правесці ў час свята казанне на беларускай мове. За тыдзень да свята кс. К. Стаповіч у касцёле абвясціў, што беларускае казанне будзе ў час няшпары (не як асноўнае, а як дадатковае). Такая абвестка зрушыла, як муравейнік, мясцовае эндэцкае прапольскае кола, і яны напісалі заяву на імя начальніка паліцыі IV Свірскага ўчастка, Свянцянскага пав. з просьбай, каб такога казання не было. Начальнік паліцыі Ул. Чарняўскі ў сваю чаргу даслаў кс. К. Стаповічу афіцыйны ліст ад 28.XI.1921 г. за № 1751 такога зместу: «Дайшло да майго ведама, што Вялебны ксёндз мае намер гаварыць у Засвірскім касцёле казанне ў беларускай мове. Прадбачу, што гэта можа выклікаць смуту ў касцёле, дзе, як сцвярджаюць парафіяне, беларускіх казанняў не хочуць. Прашу адмовіцца ад казанняў у згаданай мове, інакш адказнасць за магчымы інцыдэнт падзе на Вялебнага Ксяндза»[438]. У кароткім каментары да гэтага ліста рэдакцыя акцэнтавала ўвагу на тым, што за парадкам набажэнстваў у касцёле ксёндз нясе адказнасць перад сваім біскупам, а не перад рэверам (начальнікам паліцыі); здзіўляе і той факт, што каталіцкі Касцёл дажыў да такога часу, калі праціўнікі мовы народу ў касцёле карыстаюцца дапамогай паліцыі[439]. На свята сабралася шмат жандармерыі, звычайнай і палі-

[437] Сваяк, Казімір. Дзея маёй мысьлі, сэрца і волі / Казімір Сваяк. – Выд. 2-е. – Лёндан : Божым шляхам, 1991. – С. 24; Стаповіч, Бярнард. З успамінаў пра Казіміра Сваяка / Бярнард Стаповіч // Полымя. – 1990. – № 2. – С. 192–205.

[438] Nowy «biskup» polski // Biełaruskaja Krynica (adnadniouka). – 1921. – 25 śnieżnia. – S. 5.

[439] Там жа. – S. 5.

тычнай паліцыі і нават са службы «Бяспекі краю» – усім стала зразумела, што арыштуюць ксяндза, і людзі не ведалі, што ім рабіць: маліцца ці ўцякаць. Калі прыйшоў час беларускага казання, на амбону выйшаў кс. К. Становіч і заявіў, што беларускай навукі не будзе, «бо самі бачыце, што прыгатавана», прачытаў просьбу, у якой парафіяне прасілі казанне, і растлумачыў, што калі ў касцёле столькі людзей дзеля авантуры і начальнік паліцыі папярэджваў пра арышты, дык лепш навуку адкласці на іншы раз[440]. Але без арышту ўсёроўна не абышлося: праз колькі дзён кс. К. Становіч быў пакараны дамашнім арыштам, г. зн. знаходзіўся пад наглядам паліцыі, быў абмежаваны ў выездзе і сустрэчах з людзьмі. «Беларуская Крыніца» адназначна заяўляла, што арышт гэты быў звязаны з выбарамі ў Сойм[441].

«А тым часам у выніку дзейнасці Кастуся пачынае хутка ў ваколіцы пашырацца беларуская нацыянальная свядомасць, – пісаў Бярнард Становіч – родны брат пробашча, які быў сведкам многіх падзей у Засвіры. – Мала таго, што новы пробашч паслугоўваецца заўсёды беларускай мовай на клябаніі і ў гутарцы з парафіянамі, але ў гэтага ксяндза можна заўсёды дастаць беларускую кніжку і свежую беларускую газету…». Таму і не дзіўна, што швэндаліся каля касцёла нейкія цёмныя тыпы і намаўлялі людзей, каб напісаць скаргу на маладога пробашча, які «кацап» і «бальшавік» і прасіць новага духоўніка[442].

Аднавіць беларускія казанні кс. К. Становічу ўдалося толькі ў 1924 г. У «Крыніцы» паведамлялася, 16 лістапада на свята св. Язафата пачаліся беларускія навукі, якіх раней увесці не атрымлівалася. Некалькі гадоў таму кс. Становіч спрабаваў гэта зрабіць, але сабралася столькі паліцыі тайнай і яўнай, што гаварыць не было як. Для беларускіх казанняў мясцовы пробашч запрасіў ксяндза з Жодзішкаў, і той па просьбе ўсіх парафіянаў гаварыў беларускія навукі. На казанні прысутнічаў і Свірскі дэкан, які родам з тутэйшых беларусаў і бацька яго гаворыць па-беларуску, але сам дэкан моцна трымаецца за Польшчу і беларусаў не любіць[443]. Нагадаем, што пробашчам з Жодзішак быў кс. Вінцэнт Гадлеўскі, а Свірскім дэканам быў кс. Валеры Галяк.

Гучала беларуская мова ў Засвірскай парафіі і касцёле да апошніх гадоў жыцця кс. К. Становіча, нягледзячы на нейкае ўрадавае пісьмо пра забарону. Такі парадак быў зацверджаны біскупам а. Ю. Матулевічам[444].

---

440 Nienartowič Wincuk. Ab biełaruskim kazańni u Zaświry, Świrskaha paw. // Biełaruskaja Krynica (adnadniouka). – 1921. – 25 śnieżnia. – S. 7.

441 Świrćak Swaboda wybarau. Zaświr, Świrskaha paw. // Biełaruskaja Krynica (adnadniouka). – 1921. – 25 śnieżnia. – S. 6.

442 Становіч, Бярнард. З успамінаў пра Казіміра Сваяка / Бярнард Становіч // Полымя. – 1990. – № 2. – С. 201.

443 Niedaloki. Rodnaja mowa u kasciele // Krynica. – 1924. – № 38. – 24 snieznia. – S. 4, 5.

444 Становіч, Бярнард. З успамінаў пра Казіміра Сваяка / Бярнард Становіч // Полымя. – 1990. – № 2. – С. 201.

**2.2.1. Душпастырская праца ксяндзоў-беларусаў у Браслаўскім і Дзісненскім паветах** *(кс. А. Зянкевіч, кс. З. Якуць, кс. Я. Германовіч, кс. І. Бобіч).*

Рэзка сталі пагаршацца адносіны польскіх цывільных і канфесійных уладаў да беларускай мовы ў касцёлах Браслаўшчыны і Дзісненшчыны. Так атрымалася, што тут у гэты час стала працавалі вядомыя ксяндзы-беларусы: Зянон Якуць – у Шаркаўшчыне, Віктар Шутовіч – у Барадзенічах, Ільдэфонс Бобіч – у Друі і Ідальце, Міхал Шалкевіч – у Удзяле і Мосары, Міхал Борык – у Дзеркаўшчыне, Станіслаў Широкі – ў Парафіянава, Францішак Аляшкевіч – у Канстанцінаве і Удзяле, кс. Міхал Далінкевіч – у Глыбокім, Янка Жук – у Новым Пагосце, Цыпрыян Лазоўскі – у Ідальце. Да таго ж, у Задарожжа быў пераведзены кс. Францішак Рамейка (1921 г.), у Лужкі – кс. Язэп Германовіч (1923 г.), а ў Германовічы – кс. Ільдэфонс Бобіч (1923 г.), шмат было і іншых прыхільнікаў беларускасці на гэты час сярод духавенства паўночнай часткі Віленскай дыяцэзіі: кс. В. Ташкун, кс. А. Зянкевіч, кс. Л. Балабан, кс. А. Ярашэвіч і другія. Беларускія святары трымалі між сабою кантакт, наведвалі адзін аднаго з нагоды парафіяльных святаў і іншых касцёльных урачыстасцей і патрэбаў. Адзін з актыўных удзельнікаў тагачаснага беларускага жыцця пісаў, што ў 1922 г. на фэсьце ў Новым Пагосьце ў Браслаўскім павеце было з суседніх парафіяў 24 ксяндзоў, зь якіх быў толькі адзін паляк і адзін летувіс (з Браслава), а ўсе іншыя 22 былі беларусы. Праз пяць гадоў, г. зн. у 1927 г. не было ўжо ніводнага ксяндза-беларуса на парафіі ва ўсім Браслаўскім і Дзісненскім паветах[445] (за выключэннем айцоў марыянаў у Друі).

Найбольш шумныя рэзанансы былі выкліканыя несправядлівымі адносінамі польскіх касцёльных і свецкіх уладаў да душпастырскай дзейнасці такіх святароў, як кс. Антон Зянкевіч, кс. Зянон Якуць, кс. Ільдэфонс Бобіч, кс. Віктар Шутовіч.

Так, **кс. Антона Зянкевіча**[446] мы ўжо згадвалі як добрасумленнага пробашча і пастыра. Гэта быў адзін з нямногіх святароў, які рэзка адмяжоўваўся ад польскай шавіністычнай і эндэцкай палітыкі. Кс. Адам Станкевіч пісаў, што кс. А. Зянкевіч з'яўляецца шчырым дэмакратам, сумленным абаронцам люду, праўдзівым пастарам сваёй парафіі. Ён заўсёды смела і адкрыта выступаў проціў тамтэйшых паноў, якія дрэнна адносіліся да працоўнага люду[447]. Калі а. Ю. Матулевіч стаў біскупам, ён неўзабаве перавёў кс. А. Зянкевіча з Глыбоцкага дэканату ў Вільню, але такому

[445] Жук-Грышкевіч, Вінцэнт. Рэфлексыі на сьмерць кс. Віктара Шутовіча / Вінцэнт Жук-Грышкевіч // Раіса Жук-Грышкевіч. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. – Таронта – Канада, 1993. – С. 274.

[446] Кс. Антон Зянкевіч нарадзіўся ў 1988 г., у 1911 г. скончыў Віленскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю і быў высвенчаны на святара. Працаваў вікарыем, а пасля пробашчам у касьёле св. Стэфана ў Вільні (1911 г., 1920 г.), пробашчам у Лужках (Дзісненскі дэканат). У 1924 г. прызначаны біскупам а. Ю. Матулевічам на пасаду пробашча касцёла ў Глыбокім і адміністратарам Глыбоцкага дэканату.

[447] Siarmiaha A. Muczalnik za pracouny lud // Krynica. – 1922. – № 1. – 2 wieraśnia. – S. 5.

пераводу супрацівілася Віленская курыя, і гэты інцыдэнт меў адпаведны рэзананс. Так, «Наша Думка» паведамляла, што голасным рэхам адазваўся па ўсёй Вільні нахальны націск, зроблены эндэкамі на рэктара касьцёла св. Стэфана кс. Антона Зенкевіча, каб ён адрокся ад кіраўніцтва мясцовага выхаваўчага таварыства «Пойсцёнгласць і праца» і ад касцёла. Нагодай такога нетактычнага патрабавання стала не беларускасць ксяндза (ён яе дэманстратыўна не праяўляў), колькі факт таго, што ён нідзе не выступіў супраць беларускасці[448]. Наколькі эндэцыя была ўплывовай у Вільні, сведчыць той факт, што кс. Антон Зянкевіч мусіў неўзабаве вярнуцца ў Глыбоцкі дэканат на месца пробашча парафіі Друя, Дзісненскага пав. Але на гэтым праследаванні сумленнага пробашча не закончыліся. Кс. А. Станкевіч пісаў, што маючы выключна беларускую парафію, ён ніколі не шкодзіў беларускай справе, як гэта робяць многія ксяндзы, а шчыра спрыяў ёй як сапраўды годнай і справядлівай. Усё гэта вельмі абурала і злавала мясцовых паноў і прыбылых здалёку польскіх вайскоўцаў. 13 жніўня 1921 г. у Леанполі (Дзісненскі пав.) у час арганізацыі дазволенай тэатральнай вечарыны польскі афіцэр Немчык ударыў кс. А. Зянкевіча па галаве шабляй з намерам забойства, але ўдар не быў смяротным таму, што шабля зачапілася за бэльку. У сувязі з гэтым кс. Адам Станкевіч адзначаў, што здарэнне гэта мае гістарычнае значэнне. Беларусаў і іх правадыроў білі і б'юць тыя, якія замест волі і долі Беларусу, замест ягонай самабытнасьці духовай, нясуць нам няволю і безгалоўе, нясуць пакасьць чужой культуры і аружжам яе прывіваюць»[449]. Рэзананс ад гэтага здарэння быў адчувальным. Некалькі разоў пра гэта згадвала «Крыніца» (1922 г., № 2 ад 9 верасня; № 4 ад 24 верасня). Пасол кс. А. Станкевіч 23.08.1922 г. выступіў ініцыятарам інтэрпеляцыі ад Беларускага пасольскага клубу да міністэрстваў (справядлівасці і вайсковага) «у справе праступнага чыну падпаручыка Немчыка»[450].

У выпадку з кс. А. Зянкевічам важна падкрэсліць яго сапраўды апостальскае разуменне годнасці душпастыра, асабліва калі ўлічваць той факт, што ён свядома залічваў сябе да польскай народнасці, але заўсёды выступаў на баку беларусаў, абараняючы іх ад несправядлівых шавіністычных выхадкаў палякаў.

**Кс. Зянон Якуць**[451].

Чарговы інцыдэнт быў звязаны з нагоды беларускамоўнага казання ў 1921 г. кс. З. Якуця ў парафіі Шаркоўшчына, Дзісненскага дэк. «Перад

[448] N. Эндэцкая гаспадарка ў Вільні // Наша Думка. – 1921. – № 10. – 11 сакавіка. – С. 6.

[449] Siarmiaha A. Muczalnik za pracouny lud // Krynica. – 1922. – № 1. – 2 wieraśnia. – S. 5.

[450] Інтэрпеляцыі беларускіх паслоў у Польскі Сойм 1922–1928 гг. : зб. дакументаў… – С. 44, 46.

[451] Кс. Зянон Якуць нарадзіўся 22.01.1894 г. у засценку Скурцішкі Новааляксандраўскага павета Ковенскай губ. (цяпер Браслаўскі р-н). Скончыў Віленскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю. Быў удзельнікам беларускага культурна-асветнага гуртка студэнтаў-семінарыстаў. Пасвечаны ў святары ў 1919 г. і прызначаны біскупам а. Юры Матулевічам на пасаду вікарыя ў пар. Лынтупы (Свянцянскі дэканат), пасля – пробашчам парафіі Шаркоўшчына, Дзісненскага дэканата (1920–1924 гг.). Памёр 03.01.1924 г. у Шаркоўшчыне. Пахаваны на мясцовых парафіяльных могілках.

Сёмухай, – пісаў кс. З. Якуць у Мемарыяле аб адносінах начальніка III вокруга Дзісненскага стараства п. М. Сташкевіча да духавенства, – прыслаў да мяне п. М. Сташкевіч парафіяніна Пяткевіча з ваколіцы Змітроўшчына з прыказам, каб на фэсьце не было казаньня беларускага. Ведаючы, што начальнік раёну не мае права даваць такога распарадку, бо ён ня біскуп, – казанне меў я і па-беларуску»[452]. На гэтым казанні, 15 мая, з кампаніяй спецыяльна прысутнічаў і М. Сташкевіч; яны сталі гучна абражаць святара Зянона Якуця і біскупа (а. Ю. Матулевіча), называць іх бальшавікамі і халерамі. Кс. Зянон Якуць, у сувязі з такімі метадамі і злоўжываннямі службай даслаў некалькі лістоў свецкім і рэлігійным уладам. З нотай пратэсту выступілі беларусы Шаркаўскай парафіі. Ліст падпісалі 9 чалавек ад імя ўсіх парафіян, сярод якіх два ксяндзы – Віктар Шутовіч з Барадзеніч і Юзэф Эрціш (?) з Замосця[453].

Кс. Зянон Якуць праводзіў паслядоўную душпастырскую і беларускую працу ў парафіі Шаркаўшчына, куды быў прызначаны ў 1920 г. у якасці пробашча замест кс. М. Пятроўскага. Варта нагадаць, што беларуская мова ў Шаркаўскім касцёле гучала ў 1917 г. у час візітацыі біскупа Э. Ропа з вуснаў кс. А. Станкевіча, пасля з вуснаў кс. М. Пятроўскага, адміністратара касцёла ў 1917–1919 гадах, – пераканаўчыя факты таго, каб быць справядлівым ксяндзом да сваіх парафіянаў. Такім і быў кс. З. Якуць. Глыбока філасофскія беларускамоўныя казанні кс. З. Якуця былі апраўданымі ў парафіі патрэбамі народу. Яго калега, кс. Язэп Германовіч, пазней пісаў: «Аб гэтым Якуцю прыйшоў да мяне ўжо розгалас, што ён – беларус і што чалавек дзейны, добры прамоўца, спавядальнік і г. д. – усё самае найлепшае... Аказалася, што слава яго ня была пустая: ён сказаў такое казаньне па-беларуску (казанне было сказана ў Лужках у 1923 г. (заўв. аўт. – *І. Т.*), што надоўга асталося ў людзей у памяці. Дый спавядаў людзей працавіта і пад час абеду быў весялун, што ўсім дапаў да сэрца»[454].

Заўчасная смерць кс. З. Якуця была вялікай і незаменнай стратай для беларускага каталіцкага духавенства. Кс. А. Станкевіч адзначаў, што кс. З. Якуць быў духоўным пастырам і правадыром не толькі ў Шаркаўшчыне, але і ва ўсім Дзісненскім павеце, што быў ён праўдзівым духоўнікам і слугам Хрыстовым. Ня кланяўся ён і плашчыўся прад сільнымі і багатымі, а гнеў іхні для яго быў нястрашны. Ён быў сапраўдным апосталам праўды, шчырасьці, чыстасьці сумленьня.... Як праўдзівы апостал разглашаў навукі Хрыстуса пераважна ў роднай мове сваіх бедных слухачоў... Быў прыкладам ідэальным сваім калегам-ксяндзам, як незвычайна прыгожа сходзіліся разам сярод беларускага люду духоўнае пастырства і

[452] Ko-St. Śledam za dziedam // Krynica. – 1921. – № 21. – 10 lipnia. – S. 4.

[453] ЦНБНАНБ. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 23. – В. 1. – Спр. 107.

[454] Германовіч, Я. Мае прыяцелі: Зэнон Якуць / Я. Германовіч // Божым шляхам. – 1965. – № 1. – С. 6.

беларускасьць. Кс. Зянон усёй сілай чыстай душы сваёй любіў свайго роднага сярмяжніка, ён быў тыповы ксёндз-беларус. Глыбока разумеў кс. Зянон важнасць беларускага адраджэньня, цаніў яго і прыкладаў да справы роднай усе свае сілы...[455]. Кс. Я. Германовіч падкрэсліваў вялікі аўтарытэт свайго калегі, якога паслухаць прыязджалі людзі здалёку: «Светлай памяці кс. Якуць пакінуў вялікую славу як здольны прамоўца. Яго казаньні ў касьцёле ў нашай жывой мове былі праўдзівым бальзамам для набалеўшай душы беларускай. Яго прыклады жыцьцёвыя пераходзілі з хаты да хаты па далёкіх вёсках і парафіях Дзісненскага павету»[456]. З нагоды заўчаснай смерці З. Якуця адгукнуўся з болем вершаваным творам Казімір Сваяк (кс. К. Стаповіч): «Агонь ты нёс і сьветачам быў зорным / Гарэў пламенна цэлаю істотай, – / Прад Богам быў і кволы і пакорны, Людзям служыў з анельскаю ахвотай»[457].

На пахаронах кс. Зянона Якуця прысутнічала вельмі шмат народу: 11 каталіцкіх святароў і 2 праваслаўныя святары. Над магілай гаварылі казанні кс. І. Бобіч (на польскай мове) і кс. Я. Германовіч (на беларускай мове).

**Кс. Язэп Германовіч** быў пераведзены з Луконіцы ў Лужкі (Дзісненскага пав.) у 1923 г. Тут ён бліжэй сходзіцца з беларускімі святарамі кс. А. Зянкевічам, Ф. Рамейкам, З. Якуцем і іншымі. Вучань кс. Я. Германовіча кс. Ч. Сіповіч пазней пісаў пра казанне, сказанае кс. Я. Германовічам на магіле кс. З. Якуця: «... Усе прысутныя, а асабліва правасл. сьвятары, былі зварушаныя да сьлёз шчырасьцю прамоўцы, яснасьцю яго рэлігійнай думкі і глыбокім пачуццём народным»[458].

Гаварыў беларускія казаньні кс. Германовіч у в. Чарневічы («Увесь Божы народ слухаў затаіўшы дух; і так глядзелі ў вочы, каб ня згубіць аніводнага слоўца» і в. Задарожжы Задарожскай парахвіі на Гаспажу (Унебаўзяцьце Найсьвецейшай Дзевы Марыі), дзе пробашчам быў кс. Ф. Рамейка, а таксама ў 1924 г. у Друйскай парахвіі ля капліцы Малькоўшчына ў дзень Сьв. Яна, якая належыла айцам марыянам.

Беларускія казанні кс. Я. Германовіча, як і кс. З. Якуця і В. Шутовіча, былі яскравым прыкладам не толькі багаслоўскага красамоўства, але і доказам таго, як у звычайнай і простай мове можна даступна і зразумела гаварыць пра вечныя, глыбока тэалагічныя і філасофскія ісціны. Такія казанні ўзносілі статут беларускай мовы не толькі да ўзроўню польскай, але і вышэй, бо гэта была родная мова. Менавіта такая акалічнасць найбольш абурала некаторых палякаў.

---

[455] Stankiewicz Ad. Rodnaja mowa u świątyniach… – S. 126; Ad. St-ič. Paśmiertny uspamin // Krynica. – 1924. – № 3. – 2 lutaha. – S. 3.

[456] W. A. Św. p. ks. Zenon Jakuć // Krynica. – 1924. – № 5. – 1 sakawika. – S. 4.

[457] Kaz. Swajak. Na śmierć kollehi ks. Z. Jakucia // Krynica. – 1924. – № 4. – 15 lutaha. – S. 2.

[458] Вучань Вінцука Адважнага. Айцец Язэп Германовіч – жыцьцё і творчасьць (з нагоды 50-х угодкаў сьвятарства) // Божым шляхам. – 1964. – № 82. – С. 11.

Чарговы невялічкі інцыдэнт адбыўся 9.06.1924 г. у капліцы Малькоўшчына (Друйская парафія). У час беларускамоўнага казання кс. Язэпа Германовіча мясцовы пан Язэп Яцына пракрычаў: «А досыць тобе по москевску гадаць! Нам ня трэба беларусшчыны!..», чым абурыў прысутных вернікаў, якія сталі наступаць на Яцыну з пагрозамі расправы. Святарам кс. Германовічу і кс. Цікоту прыйшлося заступацца за Яцыну і яго сына, які размахваў рэвальверам. Калі ж Яцыны ўцяклі, кс. Цікота паставіў пытаньне наконт мовы далейшых казанняў і ўсе як адзін далі згоду «па-беларуску»[459]. З гэтай нагоды кс. А. Станкевіч пісаў, што народ не толькі слухае беларускія казанні, але і сам ужо стаў дамагацца сваіх правоў, і калі касцёльныя ўлады не зменяць сваіх адносінаў да рэлігійнага жыцця беларусаў-католікаў, дык можа хутка прыйсці такая хвіліна, калі беларусы-каталікі заявяць, што ім пастыры чужынцы не патрэбныя[460].

У Лужках кс. Я. Германовіч прабыў толькі год, бо ўжо ў 1924 уступіў у закон айцоў марыянаў у Друі. На гэтым закончыўся ў жыцці кс. Язэпа пэрыяд працы свецкага святара, які трываў 11 гадоў. «Усюды, дзе толькі працаваў кс. Германовіч, ён стараўся навучаць людзей праўдаў Божых у той мове, у якой яны гаварылі, – пісаў а. Ч. Сіповіч. – Гэтая справа сама сабой зусім натуральная і ў гэтым ніякай заслугі, здаецца, няма; аднак у тую пару выступаць з беларускім словам у касьцёле – трэба было вялікай рызыкі – проста гэройства! Польскім урадоўцам і рознага тыпу палякам ці спольшчаным беларусам гэта калола вока і выклікала на а. Гэрмановіча нагонку. Чым большы посьпех мела родная мова ў людзей, тым больш польская адміністрацыя яе баялася і прасьледавала»[461].

**Кс. Ільдэфонс Бобіч –** адзін з піянераў беларускасці ў асяродку рымска-каталіцкага духавенства. Гэта ён атрымаў у 1913 г. блаславення ад Папы Рымскага на выхад газеты «Беларус», а пасля быў сталым яе аўтарам; пісаў пад сваім прозвішчам і псеўданімам Пётра Просты. Чаго толькі былі варты яго «Ойча наш» Беларуса» і «На што Беларусам газеты», для абуджэння нацыянальнай свядомасці, памяці і гонару[462].

Працаваць кс. І. Бобічу прыходзілася ў розных парафіях: пасля вікарыяту ў Друі (1915–1917 гг.) яго перавялі на пасаду рэктара, а пасля пробашча ў Ідольце, Дзісненскага дэканата (1917–1920 гг.), пасля – вікарыят пры Віленскай кафедры і адначасна праца настаўнікам ў Віленскай беларускай гімназіі (1920–1923 гг.), ад 1923 г. – пробашч у парафіі Германовічы (Дзісненскі дэк.).

[459] Германовіч, Я. Мае прыяцелі – Францісь Рамейка / Я. Германовіч // Божым шляхам. – 1965. – № 3. – С. 6–7.

[460] Paparać Ihnat. Ważnaja prajawa // Krynica. – 1924. – № 17. – 8 lipnia. – S. 1–2.

[461] Вучань Вінцука Адважнага. Айцец Язэп Германовіч – жыцьцё і творчасьць (з нагоды 50-х угодкаў сьвятарства) // Божым шляхам. – 1964. – № 82. – С. 11–12.

[462] Трацяк, Я. Чалавекам быў ён простым / Я. Трацяк // Скрыжалі памяці: З творчай спадчыны пісьменнікаў Беларусі, якія загінулі ў гады Другой сусветнай вайны. У 3 кн. Кн. 3 / уклад., біягр. дав. і камент. А. Бельскага. – Мінск : Бел. кнігазбор, 2005. – С. 43–48.

У Германавічах кс. І. Бобіч дэманстраваў узорны прыклад душпастыра, пра што можна даведацца з яго карэспандэнцыі да кс. У. Талочкі. Так, у лісце ад 13.08.1923 г. ён пісаў, што навука катэхізіса ў дзяцей працягвалася месяц паводле навейшых заўвагаў дэдактыкі. Вынікі нядрэнныя. Гэта была «трасянка» польскай і беларускай моваў. Пасля было прадстаўленне «Перамяненне Пана» і 40-гадзіннае набажэнства на адпусты. Усё трывала 4 дні. На працягу першага дня былі тры казанні: польскае – у часе сумы, літоўскае – пасля сумы і беларускае – пасля няшпараў. Як новаўвядзенне кс. І. Бобіч прапанаваў на «адпусты» чытаць рэфераты на душпастырскія тэмы і сам выступіў з тэмай «Мы і казнадзейства». Вырашылі, што на адпусты ў Задарожжы рэферат аб катэхізацыі будзе чытаць кс. Германовіч. Пасля была агульная нарада (пародыя на яе) пад кіраўніцтвам дэкана, на якой узніклі спрэчкі на нацыянальным грунце з прычыны інцыдэнту ў суседнім мястэчку Лужкі[463]. (Гл. дадатак 2.)

Інцыдэнт у Лужках быў не варты таго розгаласу, які раздзьмулі вакол яго ў польскіх газетах. Кс. І. Бобіч у лістах да кс. У. Талочкі выклаў больш аб'ектыўную інфармацыю пра гэты выпадак, з якой можна даведацца, што група парафіянаў у Лужках востра выступіла супраць кс. Рэшаця, таму што навука катэхізісу праходзіла выключна на беларускай мове і на ёй гаварылі з дзяцьмі пасля першага прычасця. «Як на Лужкі, – пісаў кс. І. Бобіч, – мястэчка, дзе ёсць інтэлігенцыя і шмат шляхты – рызыкоўная навіна. Усё там было спакойна да прыезду кс. Рэшаця (ён не рэальны чалавек), а пасля Адамкі і яго соймавых сяброў... Я быў іншага меркавання ў дычыненні да катэхізацыі на беларускай мове, я не вельмі вітаю навязванне беларускай мовы ў касьцёле… Мне сказалі шмат непрыемнасьцей у вочы, а адзін з гасьцей – кс. Шутовіч – увесь час вёў сябе непрыстойна і ў канцы паехаў не разьвітаўшыся. Я гэтаму не зьдзіўляюся, таму што ён родам са Смаргоні…»[464].

Рэха барацьбы за і супраць беларускіх казанняў у Дзісненскім дэканаце дакацілася да Вільні. Польскі публіцыст і рэдактар «Dziennika Wileńskiego» J. O. (Яўхім Обст) у 186-м нумары абвінавачваў беларускіх каталіцкіх святароў (Язэпа Рэшаця, Язэпа Германовіча, Зянона Якуця, Віктара Шутовіча, Ільдэфонса Бобіча) у авантурызме з нагоды іх беларускай дзейнасці ў парафіях і антыдзяржаўнай дзейнасці ўвогуле. Даволі тэндэнцыйна Я. Обст падаў інцыдэнты ў Лужках і Задарожжы, сітуацыю вакол беларускай мовы ў Барадзенічах, Шаркаўшчыне і іншых парафіях, дзе мелі месца беларускія казанні. Наколькі польскі публіцыст перайшоў усякія межы сумленнасці можна меркаваць толькі па адным абзацы, дзе ён піша пра тое, што мае вельмі шмат скаргаў з Дзісненскага пав. на беларускамоўныя казанні, у якіх вінаватыя ў першую чаргу Віленскі біскуп

[463] ЦНБНАНБ. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 23. – В. 1. – Спр. 792. – Арк. 9–10.
[464] Там жа.

(а. Ю. Матулевіч), які «усё гэта дазваляе рабіць з ненавісці да Польшчы і дзеля таго, каб тараваць дарогу да праваслаўя (?), бо сам народ беларускіх казанняў і слухаць не хоча...». Абвінавацію эндэцкі публіцыста і пасла, кс. А. Станкевіча ў тым, што той у сваіх прамовах выступае супраць польскай школы і польскай улады[465]. Пра кс. І Бобіча было сказана, што ў яго парафіі ў Германовічах творацца пастаянныя скандалы праз беларускамоўныя казанні[466].

На такія абвінавачванні вельмі балюча адрэагаваў кс. Ільдэфонс Бобіч. У лісце кс. У. Талочку ад 27.08.1923 г. ён пісаў: «Артыкул гэты подлы, калі б я ня бачыў інцыдэнту, які ў ім апісаныя, уласнымі вачыма, дык ніколі б не паверыў, што можна так несумленна лгаць… Я думаю, што і астатнія ксяндзы, якіх датычыць гэтая справа, не павінны даравацъ крыўду. Сама вінаватым я лічу кс. Рэшаця. Гэта ён увёў непакой у Лужэцкай парафіі (а гэты непакой працягваецца да сёньняшніх дзён, быў нават следчы ў Лужках, нейкі Масьлёнка, і дапытваў жыхароў, кс. Славінскага і нават самога кс. Германовіча). Вядома, былі нетактычныя сітуацыі з боку беларусаў, але не было таго, пра што піша Я. Обст. У Задарожжы я быў на адпусьце і бачыў усё здарэньне: кс. Германовіч гаварыў казаньне на добрай беларускай мове і людзі слухалі вельмі ўважліва. Частка з іх выйшла, але не падзеля пратэсту, а таму, што набажэнства было занадта доўгім. Пратэставаў адзін Яцына, мясцовы грамадзянін-хуліган (кс. Ташкун хіба яго ведае), які перад няшпарамі піў на плябаніі. Ён у пачатку казаньня выйшаў з прэзьбітэрыі ў касьцёл і гаворачы: «Ганьба! Выходзьце!», стаў штырхаць людзей да выхаду, пакуль яго нехта не стукнуў у рэбры і не сказаў: «Калі такая ганьба, дык выходзь!». Гэта ўсё. Больш нічога не адбылося ў той дзень. А на другі дзень дзьве патрыёткі-дзедзічкі надта гучна пакінулі свае мейсцы, як толькі на амбону увайшоў кс. Якуць. Было затое штосьці іншае. На гэтым мерапрыемстве ўручылі кс. Германовічу пратэст парафіянаў Лужэцкіх – было каля 200 подпісаў – супраць беларускіх казаньняў. Пратэст гэты ўручыў лужэцкі паліцыянт, таму што ад парафіян, як гавораць, пробашч не хацеў браць. Кс. Германовіч, не прачытаўшы пратэсту, парваў яго на кавалачкі і кінуў пад ногі паліцыянту. І так пачалася барацьба. Следчы папярэдзіў, што ксяндза Германовіча перавядуць на другую пасаду. Ня хочаць даваць яму парафіянаў на рамонт касьцёла. Кс. Германовічу трэба было прадаць карову, каб заплаціць работнікам пры касьцёле. Парафіяне ня вельмі яму спачуваюць, бо гавораць, што за адну карову, якую ён прадасьць, «шаснастка» купіць яму тры каровы…»[467].

Нечакана ў «Przegląd Wilenskim» з'явілася афіцыйнае тлумачэнне і апраўданне кс. І. Бобіча на абвінавачванні яго ў беларускай дзейнасці.

[465] I. Paparać. Ichnaja «prauda» // Krynica. – 1924. – № 1. – 1 wieraśnia. – S. 1–4.
[466] J. O. Nasze Kresy // Dzieńnik Wileńskie. – 1923. – № 186.
[467] ЦНБНАНБ. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 23. – В. 1. – Спр. 792. – Арк. 11.

Кс. Бобіч заяўляў, што беларускіх казанняў у касьцёле ён сам нідзе і ніколі не гаварыў… Што з’яўляецца капланам і толькі капланам, ніякім не агітатарам, не палітыкам: выхаваны ў польскіх традыцыях і польскасьць шануе і падтрымлівае… Разумее каталіцтва шырэй, чым эндэцыя і кожную мову ўважае як добрую і дапушчальную ў казаннях, абы была з гэтага найбольшая хвала Богу… У парафіі ён не падзеля таго, каб зрабіць кагосьці беларусінам ці палякам, а для таго, каб паглыбіць каталіцкасць[468].

Такая заява актыўнага і аўтарытэтнага ў мінулым беларускага каталіцкага святара была нечаканай для многіх католікаў-беларусаў. Болей таго, яна прыўносіла нейкую неразбярыху ў ідэалогію беларускага каталіцкага духавенства: з аднаго боку, так – каталіцтва трэба ставіць вышэй, чым польскасць ці беларускасць, але, з другога – як зрабіць некага добрым католікам, калі яму перашкаджае зразумець такое каталіцтва моўны бар’ер?..

На такія і іншыя супярэчнасці, заблытанасці і нават страх кс. І. Бобіча звярнуў увагу нехта Беларус-каталік з Н-Пагоста, які ўлічыў прызнанні кс. Бобіча няшчырымі, супярэчнамі самому сабе і незразумелымі. Да прыкладу, як можна было зразумець нядаўнюю беларускасць кс. Бобіча, яго «Нядзеляшнія Евангеллі»[469] на беларускай мове і перакананні ў тым, што мова не можа быць перашкодай для паглыблення каталіцтва, што выхаванне ў польскіх традыцыях не з’яўляецца перашкодай даносіць каталіцкія навукі ў зразумелай народу мове і г. д.[470].

У чарговым лісце кс. У. Талочку кс. Бобіч скардзіўся на тое, што вакол яго памянялася сітуацыя, стала напружанай і нервовай, а яшчэ шмат палемікі выклікала яго публікацыя ў «Przegląd Wilenskiě». Найбольш востра выступіла супраць яго Друя – кс. Антоні (Зянкевіч) і кс. Андрэй (Цікота), дакаралі яго, што ён трус, служыць эндэцыі і так зрабіў падзеля кар’еры… А ён хацеў быў шчырым і не больш… «Я заўважыў, што сярод беларусаў няма аніводнага, хто падзяляў бы мае погляды. Я зусім адзінокі, мабыць я заблудзіўся, але сёння я не магу памяняць сваіх поглядаў, бо лічу іх правільнымі і рэальнымі»[471]. У гэтым жа лісце ён выказаў здагадку, што «Непаразуменні» напісаў пэўна кс. Станкевіч, «хаця гэты артыкул спакойны і прыстойны і не зусім падобны да яго стылю»[472]. Адказ Беларусу-католіку кс. Бобіч збіраўся напісаць у трох экзэмплярах і даслаць кс. А. Станкевічу, кс. Антону ў Друю і Яго Эксцэленцыі ў Вільню.

У наступным лісце кс. І. Бобіч пісаў кс. У. Талочку, што Адамка (кс. А. Станкевіч) даслаў яму вельмі жахлівы ліст, але адмовіўся ад таго, што

[468] Ks. Dr. Ild. Bobicz. Klamstwa i potwarze «Dzieńnika Wileńskiego» // Przegląd Wilenski. – 1923. – № 15. – 15 wrzesenia. – S. 6.
[469] У 1922–1923 гадах вышлі з друку ў выдавецтве «Крыніца» кнігі І. Бобіча на беларускай мове па казнадзейству ў трох тамах: «Niadzielasnija Ewanhielii i Nawuki». Прадмову да кніг напісаў кс. А. Станкевіч.
[470] Biełarusin-Katolik z N-Pagosta. Nieporozumienie // Przegląd Wilenski. – 1923. – № 16. – S. 7–8.
[471] ЦНБНАНБ. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 23. – В. 1. – Спр. 792. – Арк. 12.
[472] Там жа.

ён аўтар «Непаразуменняў». Тое самае зрабіў і кс. Рэшаць, а кс. Антоні зусім не даў адказу, можа пад уплывам айца Андрэя...[473].

Каментаваць такія лісты – няма вялікай патрэбы. Тут адно можна сказаць з упэўненасцю, што кс. І. Бобіч стаў адным з першых тых беларускіх святароў, якія, арыентуючыся на палітычную сітуацыю, вырашылі быць у сваё апраўданне не столькі беларускімі каталіцкімі святарамі, колькі каталіцкімі. На першы погляд у гэтым нічога кепскага не было, і кагосьці дакараць у гэтым было б не зусім правільна, каб не супярэчнасць такой дылемы ў тым, што каталіцкасць і далей заставалася для іх выгаднай прэрэгатывай польскасці. У дадзеным выпадку гутарка ідзе пра сітуацыю, якая была створана польскімі рэлігійнымі і свецкімі ўладамі, калі нашмат выгадней было абвінаваціць не тых, хто стварыў несправядлівасць альбо патураў ёй, а тых, хто стаў выступаць супраць несправядлівасці альбо стаў яе ахвярай. Сама ганебнае, што магло быць у такой сітуацыі, дык гэта тое, што людзі, якім лёсам было наканавана быць абаронцамі святасці і ісціны, сталі выступаць абаронцамі несправядлівасці і, часам, свядома даводзілі, што так трэба ў імя Бога і Каталіцтва.

У 1926 г. з Германавіч, дзе кс. І. Бобіч быў пробашчам, парафіянін пісаў у «Беларускую Крыніцу», што ў іх у касцёле былі беларускія навукі да таго моманту, пакуль не з’явіўся кс. І. Бобіч. Напачатку беларусы цешыліся, што прызначылі вядомага ксяндза-беларуса, але спадзяванні іх былі дарэмнымі. Калі на першым парафіяльным камітэце за навуку ў касцёле на беларускай мове прагаласавала 12 чалавек (што магло выявіць волю ўсёй парафіі) і толькі 3 чалавекі супраць, кс. І. Бобіч, які заўсёды падкрэслівае сваю выключную каталіцкасць, дэманстратыўна ігнараваў волю парафіяльнага камітэту і «стаў на грунце польскім, ды да таго польскім, што ў некаторых справах перавышае нават нашых эндэкаў (прыклад: байкот беларускіх ксяндзоў, якія сапраўды сталі на каталіцкім і народным грунце)». Не апраўдваюць моўнай палітыкі парафіяне кс. І. Бобіча і ў тым, калі на шматлікія просьбы парафіянаў гаварыць беларускія казанні на Спаса, ён дазволіў праводзіць набажэнства нейкаму расейскаму ксяндзу і гаварыць казанні ў расейскай мове. Вось тут і ўзнікаюць лагічныя пытанні кшталту: чаму на польскай і расейскай мовах можна, а на беларускай – не?[474].

Неўзабаве пробашча ў Германовічах кс. І. Бобіча рэлігійныя ўлады прызначылі дэканам Міёрскага дэканата (1923–1930 гг.), а ў 1930 г. яго перавялі ў Іўе на пасаду пробашча і дэкана Вішнявецкага дэканата. Як бачым, такая руплівасць кс. І. Бобіча была заўважана, але, будучы дэканам, кс. І. Бобіч страціў усякі давер як з боку сваіх калегаў святароў-беларусаў, так і ўвогуле беларусаў.

[473] ЦНБНАНБ. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 23. – В. 1. – Спр. 792. – Арк. 13.
[474] Hermanawicki. Sprawa biełaruskich kazańiau // Biełaruskaja Krynica. – 1926. – № 31. – 12 wieraśnia. – S. 2, 4.

Неяк ужо ў Іўі наведаў яго аднойчы а. Леў Гарошка: «…Ягонае прозьвішча я чуў ня раз і меў нават зборнік ягоных беларускіх казаньняў, толькі ня ведаў, дзеля якіх прычынаў ад некаторага часу ён адышоў ад беларускага рэлігійнага руху й дзеля гэтага хацелася пагутарыць зь ім. Ужо вечарэла, калі я зайшоў да кс. Бобіча. Прыняў мяне ветліва й ахвотна згадзіўся, каб я пераначаваў у яго, аднак гаварыў толькі па-польску і ў гутарцы старанна ўнікаў усякіх намёкаў на беларускія тэмы. Толькі неяк прыпадкам прагаварыўся, што меў нейкія нелады зь іншымі беларускімі сьвятарамі. Гледзячы на яго, я меў уражаньне, што гэта зламаны дуб. Затое ягоная цётка гаварыла са мною па-беларуску, але так жа вельмі паўстрымана. Падчас вячэры спачатку гаварыў выключна кс. Бобіч аб сваіх выдавецкіх справах, а потым пераняў гутарку вікарны ксёндз, і ён між іншым закрануў справу калішняе беларускае дзейнасьці кс. Бобіча, але той адразу перавёў гутарку на іншую тэму»[475].

У Іўі быў найбольш спакойны перыяд жыцця і творчасці кс. І. Бобіча. Апрача душпастырства і тэалагічных прац, даследаваў гісторыю парафіі і гісторыю Іўеўскага касцёла[476]. (Гл. дадатак 3.)

### 2.2.2. Барадзенічы: кс. Віктар Шутовіч.

Пасля Рыжскай дамовы, пасля таго, як скончыліся ўсе войны, сітуацыя ў Барадзенічах з беларускасцю стала пагаршацца. Паводле ўспамінаў кс. В. Шутовіча: «...Тады паднялася вайна супраць беларускай мовы ў Барадзеніцкім касьцёле. Першы, хто супраць гэтага выступіў, гэта быў так званы рэвіровы (начальнік паліцыі). Ён мне напісаў дужа войструю паперыну, што гэта гэрэзія па-беларуску навучаць у касьцёле і забараніў мне гэта рабіць далей...». Даслоўны тэкст загаду гучаў так: «стараства Дзісненскае. Начальнік III участка. Дн. 9 сакавіка 1921 г. № 110, м. Шаркаўшчына. – Да ксяндза Барадзеніцкай парафіі. Прашу ксяндза пробашча выкарыстоўваць у касцёле толькі польскую мову. За казанні ў іншых мовах ксёндз будзе несці адміністрацыйную адказнасць. М. Сташкевіч. Нач. рай.». Дакумент гэты цытаваў кс. К. Стаповіч у сваім артыкуле і так пракаментаваў загад: «Чытаючы гэта, проста чуеш рускі дух царызму, што апрануўся ў вопратку белага арла»[477]. Такія загады начальнік участка дасылаў і ў іншыя парафіі.

Далей кс. В. Шутовіч пісаў: «...З такой забароны я пасьмяяўся. Тады стары адзін шляхціц прыходзіў у касьцёл, сядаў за прэзбітэрыюм і ба-

[475] Гарошка, Леў, айцец. Праз навальніцы й нягоды / айцец Леў Гарошка // Запісы. – New York : Беларускі інстытут навукі й мастацтва, 1999. – № 24. – Рэжым доступу: http://belarus8.tripod.com/ZapisyBINIM/24.03.htm.

[476] Трацяк, І. Ільдэфонс Бобіч – святар, пісьменнік, тэолаг / І. Трацяк // З гісторыі вякоў і пакаленняў Іўеўскага краю : матэрыялы навук.-практ. краязн. канф. / пад рэд. І. П. Крэня. – Гродна : ГрДУ, 1999. – С. 186–190.

[477] Ko-St. Śledam za dziedam // Krynica. – 1921. – № 21. – 10 lipnia. – S. 2.

разьніў мне ў беларускім казаньні. Тутака было крыху горай, бо гэта ў касьцёле і ўсё ж такі ён мне перашкаджаў. Але я і на шляхціца не зьвяртаў увагі. Тады заявіліся весткі ў польскіх газэтах у Вільні аб беларускай мове ў Барадзеніцкім касьцеле. Разумеецца, што ўся бяда тады звалілася на мяне...»[478].

«Крыніца» паведамляла, што «Gazeta Wilenska» (у адным з травеньскіх нумароў) надрукавала словы «поўныя яду нянавісці да беларусаў, поўныя фальшу і подласьці...». Пісалася там, што Кс. В. Шутовіч, пробашч у Барадзенічах, мала таго, што гаворыць казаньні па-беларуску, але «польскіх дзяцей не прымае да споведзі»... На гэтую подлую брахню Яго Эксцэленцыя біскуп Матулевіч жыва адклікнуўся і даручыў Дзісненскаму дэкану Асціловічу, што жывець у Міёрах, зрабіць следства...»[479]. Далей аўтар (Б. Туронак) сумняваецца ў тым, што біскуп мог выдаць даручэнне наконт следства беларускага казання, бо казанні тут праводзяцца з дазволу біскупа Э. Ропа ад 1917 г.; хутчэй за ўсё было даручана правесці следства наконт таго, што кс. В. Шутовіч «не прымае польскіх дзяцей да споведзі». Але гэтага ўчынку кс. В. Шутовіч не мог зрабіць, каб і хацеў, бо ў парафіі няма польскіх дзяцей. Дэкан кс. А. Асціловіч на 29 траўня прызначыў плебесцыт з нагоды беларускіх казанняў у касцёле. Вось як навочны сьведак апісвае ход гэтага следзтва: «Прыехаў дзекан кс. Асьціловіч з Міор. Ён зажадаў гаварыць у часе Імшы казаньне па-польску, каб людзям выясьніць мэту свайго прыезду. Разумеючы, што дзекан будзе ў касьцёле агітаваць беларусаў проціў беларускіх казаньняў, і што гаворачы казаньне польскае тады, калі гаварылася заўсёды беларускае, дзекан толькі ўзбурыць людзей, наш Барадзеніцкі пробашч кс. Шутовіч рабіць гэтага не дазволіў, і сам, растлумачыўшы людзям, чаго дзекан прыехаў, заявіў, што пасьля Імшы на цьвінтары дзекан з людзьмі пагаворыць. Так і сталася. Дзекан вышаў на цьвінтар і пачаў гаварыць з людзьмі аб беларускай мове ў касьцёле. Сяляне з яго слоў даведаліся, што ён стаіць за польскую мову, а беларускай ён не прызнае. Дзекан казаў, што беларускай мовы ў касьцёл дапускаць ня можна, бо інакш: 1) Папеж на нас за гэта загневаецца, 2) могуць прыйсьці бальшавікі і 3) праз беларускую мову могуць усіх беларусаў-каталікоў перацягнуць у праваслаўе. З гэтакай гутаркі нашы сяляне толькі пасьмяяліся, а пробашч кс. Шутовіч адразу-ж разьясьніў людзям поўныя лгарства і нязграматнасьці словы дзекана. Пасьля гэтага пачалося галасаваньне. За казаньні польскія падняла рукі ўверх невялічкая грамадка шляхцюкоў, падымаўшых дзьве рукі і некаторых дурнейшых і загнаных сялян. Усе іншыя сяляне, як мур стаялі за родную мову ў сьвятыні. Дзекан гэтым не задаволіўся. Ён усім тым, што стаяць за польскія ка-

[478] Ks. V. Š. U 25-tyja ŭhodki majho światarstwa (1913–1938) // Chryscijanskaja Dumka. – 1938. – № 18. – S. 2.

[479] Krywičonak M. Ździek nad duszoj bielarusa sialanina // Krynica. – 1921. – № 18. – 12 czerwienia. – S. 3–5.

заньні, казаў прыйсьці да яго і асобна выказаць сваю жальбу на беларускасьць у касьцёле і на пробашча Шутовіча. Гэтыя вырадкі пайшлі і прасілі дзекана, каб замест кс. Шутовіча даць ім паляка…»[480]. Больш таго, раз у плебаніі ксяндза В. Шутовіча з'явілася паліцыя, якая заявіла, што ксёндз ім перашкаджае паланізаваць мясцовую люднасць, і калі ён не спыніць беларускіх казанняў у касцёле, дык будзе выселены ў іншае месца[481].

Аналізуючы такую сітуацыю, Б. Туронак ставіў вельмі эмацыйныя пытанні: «Дык што гэта, пытаем голасна? Што робяць з душой беларуса розныя дзеканы паланізатары?.. Чаму біскуп Матулевіч усьцяж пазваляе крыўдзіць беларусаў-каталікоў, чаму ён усьцяж бязкарна дазваляе таптаць бруднымі лапцямі розных дзеканаў найсьвяцейшыя правы беларусаў на зямлі беларускай і чаму безучасна глядзіць, як зьдзекуюцца над намі яго падуладныя?..»[482].

Плебісцыт у Барадзенічах паказаў значную перавагу прыхільнікаў беларускага казання ў касцёле і прыхільнікаў кс. В. Шутовіча (толькі 3 адсоткі былі супраць). Гэта была значная перамога. І біскупу а. Ю. Матулевічу нічога не заставалася, як толькі пацвердзіць факт існавання беларускай мовы ў касцёле, а гэта быў вельмі важны факт падтрымкі пробашча кс. В. Шутовіча, і ён працягваў сваю душпастырскую працу ў такім жа беларускім духу і надалей. Што з гэтага атрымалася, пісаў адзін з вучняў кс. В. Шутовіча і актыўных удзельнікаў культурнага працэсу ў Барадзенічах: «... Мала таго, што ў нас у касьцёле ўсё па-беларуску, але тут нядзелямі з вялікай карысьцяй чытаюцца публічныя лекцыі для народу. Людзі тут карыстаюцца шырока беларускімі кніжкамі і газетамі, якіх у нас хапаець у доваль. Тут адбываюцца беларускія тэатры і канцэрты ня толькі вакальныя, але і музычныя. Разумеецца, што галоўнай пружынай гэткага жыцьця ў Барадзенічах з'яўляецца наш пробашч кс. Віктар Шутовіч. Але і мы самі каля яго, як тыя пчолкі каля маткі, вядзём шырока беларускую работу…»[483]. Другі сведка апавядае пра вечарыну, якую ладзіла моладзь 22 лістапада 1925 г.: «...Вялікі хор з 50 чалавек пад дырэкцыяй мясцовага пробашча слаўна праспяваў некалькі беларускіх песьняў, з якіх найбольш спадабаліся «Божа, што калісьць народы на асобкі падзяліў», «Ад веку мы спалі», «Жыў на сьвеце Лявон» і іншыя. Хлопцы дэкламавалі прыгожыя вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, іншых. Гэта ўсё адбылося так неяк добра, так свойска, што нас аж за сэрца хапала...»[484].

---

[480] Krywičonak M. Ździek nad duszoj bielarusa sialanina // Krynica. – 1921. – № 18. – 12 czerwienia. – S. 3–5.

[481] Ko-St. Śledam za dziedam // Krynica. – 1921. – № 21. – 10 lipnia. – S. 4.

[482] Krywičonak M. Ździek nad duszoj bielarusa sialanina // Krynica. – 1921. – № 18. – 12 czerwienia. – S. 3–5.

[483] Mikita Zawala. Biełaruskaje życcio burlić (Baradzieničy, Brasłauskaha paw.) // Biełaruskaja Krynica. – 1926. – № 16. – 16 traunia. – S. 5–6.

[484] Aułasionak Mikita. Haroj baradzienickaja moładź // Biełaruskaja Krynica. – 1925. – № 12. – 13 śnieżnia. – S. 7.

Паводле ўспамінаў Янкі Шутовіча – пляменніка кс. В. Шутовіча: «У Барадзенічах па некалькі разоў у год адбываліся з'езды беларускага духавенства з удзелам беларускай свецкай інтэлігенцыі. Як правіла, такія з'езды, канферэнцыі праходзілі пад час вялікага парафіяльнага свята – у дзень святога Роха, патрона парафіі. Свята трывала тры дні. Прыязджала маса народу не толькі з Барадзенцкай парафіі, але і з суседніх»[485].

Апрача гэтага пад кіраўніцтвам пробашча кс. В. Шутовіча быў дабудаваны на сродкі парафіян прасторны будынак пад беларускую школу, але, нягледзячы на патрабаванні парафіян і існуючыя неспрыяльныя ўмовы для вучобы, улады цягнулі з яе адкрыццём[486].

Увогуле, у прамове, прысвечанай кс. В. Шутовічу, Янка Шутовіч адзначаў, што «Барадзенічы за часы дзейнасці дастойнага юбіляра сталіся адным з буйных асяродкаў беларускага культурна-нацыянальнага і рэлігійнага жыцця, сталіся бастыёнам беларускай вызвольна-нацыянальнай думкі, які саграваў цяплом патрыятычных праменняў іншыя асяродкі заходнебеларускай зямлі»[487]. І такая ацэнка не з'яўляецца перабольшваннем фактаў, і калі было б інакш, дык і не было б таго гучнага рэзанансу вакол кс. В. Шутовіча і яго дзейнасці ў Барадзенічах. Варта адзначыць і той факт, што папулярнасць кс. Шутовіча, яго аўтарытэт як святара, духоўніка, чалавека і беларуса былі добра вядомымі далёка за межамі Дзісненскага павета. У лісце ад 05.09.1929 г. са ЗША да кс. А. Станкевіча, на яго просьбу падаць інфармацыю пра беларускія казанні да кнігі «Родная мова ў сьвятынях», кс. В. Шутовіч пісаў: «…Я ж гаварыў па-беларуску ў Шаркаўшчыне кожны год на 40-гадзінным набажэнстве на Сёмуху, у Новым Пагосьце вельмі ўдавалася мне два гады даваць рэкалекцыі парахвіяльныя, дзе я гаварыў навукі аб споведзі, а людзі слухалі раты паразяўляючы. У Германовічах разы са два гаварыў. У Ікзьні ў 1919 і 1920-м годзе даволі часта гаварыў, як там замяніваў пробашча. У Далёкіх прабаваў са два разы. У Друі часта прыходзілася на фэстах і рэкалецыях. У Ёдах са два разы сказаў. У Баравых і Каплічцы, і ў Навалаце, таксама ў капліцы час ад часу гаварыў. У Удзеле разы са два… Вось, здаецца, і ўсё. Усюды, дзе гаварыў, дык людзі вельмі ўважліва слухалі і каждае слова разумелі і аж словы глыталі. А што часамі пасля навукі нібы палякі мясцовыя выражалі сваё нездавальненьня, дык гэта ня мела ніякага значэньня»[488].

Значную ўвагу беларускай і польскай грамадскасці ў 1921–1925 гг. прыцягнула да сябе пытанне вакол мовы навучання дзяцей рэлігіі ў шко-

---

[485] ЦНБНАНБ. Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў. – Ф. 1. – В. 1. – Спр. 382. – Арк. 5 : Янка Шутовіч. Прамова з нагоды 70-годдзя кс. Віктара Шутовіча.

[486] Zawala Maksim. Sialane stajać za školu biełaruskuju. Baradzieničy // Biełaruskaja Krynica. – 1926. – № 13. – 18 krasawika. – S. 4.

[487] ЦНБНАНБ. Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў. – Ф. 1. – В. 1. – Спр. 382. – Арк. 5 : Янка Шутовіч. Прамова з нагоды 70-годдзя кс. Віктара Шутовіча.

[488] Там жа. – Ф. 23. – В. 1. – Спр. 847. – Арк. 7.

лах Барадзеніцкай парафіі. Першы канфлікт між інспектарам школ Дзісненскага павета і кс. В. Шутовічам адбыўся у 1921 г., калі інспектар распараджэннем ад 12 снежня не дазволіў выкладаць рэлігійныя навукі ў іншай мове, апроч польскай у агульнай школе ў Ёдах, дзе працаваў кс. В. Шутовіч[489]. І хаця гэта забарона была вельмі ўдала аспрэчана кс. В. Шутовічам, але пытанне заставалася адкрытым, і ў наступныя гады спрэчка між кс. В. Шутовічам і польскім школьным інспектарам Жукевічам вакол мовы выкладання рэлігіі яшчэ больш абвастрылася. Урэшце, інспектар даў загад дырэктару Ёдкаўскай школы, каб той забараніў кс. В. Шутовічу прыязджаць у школу і чытаць лекцыі па-беларуску, што той і зрабіў 12 лістапада 1924 г.[490]. «Крыніца» з гэтай нагоды пісала, што ўжо другі год як вядзецца барацьба вакол пытання: ці мае права кс. Шутовіч у сваёй парафіі Ёдах (дзе нават паводле польскай статыстыкі 81 адсотка беларусаў, а ў народных школках вучацца толькі сялянскія дзеці, бо паны туды сваіх дзяцей не пускаюць) у польскіх школах (бо беларускай школкі сяляне так і не змаглі дабіцца, нягледзячы на звароты да польскай школьнай улады) вучыць рэлігіі на беларускай мове? Інспектар рознымі пагрозамі забараняе родную мову навучання, патрабуе і прымушае пробашча да мовы польскай, бо ў польскай школе ўсе прадметы павінны выкладацца на польскай мове. Пробашч, які з'яўляецца абаронцам правоў сваіх парафіян, не можа ісці супраць іх волі і патрабаванняў (сяляне самі сабралі патрэбныя подпісы за беларускамоўнае навучанне рэлігіі) і сам пробашч перакананы ў тым, што павінен дзяцей вучыць толькі ў зразумелай для іх мове, што і робіць з поспехам і карысцю для дзяцей, не звяртаючы ўвагі на пагрозы інспектара. Аўтар артыкула прыводзіць вельмі пераканаўчыя прыклады ў абарону кс. В. Шутовіча. Так, ён адзначае, што навука рэлігіі ў школе з'яўляецца вельмі важным прадметам і далейшым працягам выхавання дзіцяці. А калі не можна агулам вучыць дзяцей у чужой мове, дык тым болей гэтага нельга рабіць з рэлігіяй. Гэта аснова педагогікі даўно ўжо прынята ва ўсім цывілізаваным свеце. Паступаць інакш – гэта значыць у пэўным сэнсе пасягаць на сумленне як бацькоў, так і дзяцей. Апрача гэтых довадаў, ёсць яшчэ і доказы юрыдычнага характару, якія абавязваюць польскія ўлады забяспечваць навучанне дзяцей няпольскай нацыянальнасці ў іх роднай мове, у тым ліку міжнародны Дагавор аб правах нацыянальных меншасцях 1919 г. (арт. 9), Канстытуцыя Польшчы (арт. 109, арт. 120) і шэраг моўных законаў, якія рэгулююць моўныя пытанні на карысць іншых народаў. Кс. В. Шутовіч, выкладаючы рэлігію ў сваёй парафіі ў польскай школе для дзяцей беларусаў на беларускай мове, паступае згодна з навукай этнаграфіі, статыстыкі, педагогікі, гісторыі, згодна з воляй народу, згодна міжнародным і польскім законам, згодна з сумлен-

[489] ЦНБНАНБ. Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў. – Ф. 4. – В. 1. – Спр. 109. – Арк. 1.
[490] Там жа. – Ф. 23.– В. 1. – Спр. 845. – Арк. 1.

нем пастыра і сына беларускага народу. А школьны інспектар пастурае толькі ў інтарэсах польска-панскай палітыкі[491]. Кс. Адам Станкевіч з трыбуны Варшаўскага Сойма засяродзіў увагу на тым, што супраць кс. В. Шутовіча вядзецца цэлая барацьба з куратарыумам і інспектарам, якія не дапушчаюць яго ў школу толькі таму, што ён па жаданні бацькоў выкладае рэлігію на беларускай мове. «Не думаў я, каб у гэтай справе ў Польшчы было горш, чым за расейскіх часоў, – гаварыў кс. А. Станкевіч, – калі палякі навуку рэлігіі ў школах мелі ў астатніх часох па-польску...»[492]. Развіваючы думку кс. Адама Станкевіча далей, можна дадаць яшчэ і той факт, што нягледзячы на розныя «распалячванні» касцёла ў Расійскай імперыі, касцёл заставаўся адзіным апірышчам польскасці і фундаментам польскага адраджэння толькі таму, што царскімі ўладамі дазваляліся набажэнствы і рэлігійная літаратура на польскай мове.

У рапарце Яго Эксцэленцыі Віленскапу біскупу а. Юры Матулевічу кс. В. Шутовіч пісаў, што «людзі, сярод якіх я працую як душпастыр, усе па народнасьці беларусы і мова іх беларуская. Затым, апіраючыся на закон біскупа Ропа з 1917 г., калі-некалі пачаў я мовіць навукі ў касьцёле па-беларуску… Прыходзіла да таго, што на казаньні польскім аставалася да трох-чатырох чалавек… Парахвіяне мае добра прывыклі да беларускай мовы ў касьцёле. Ахвотна слухаюць беларускіх навук і пяюць беларускія касьцёльныя песьні. Дзеці іхнія да першай споведзі і сьвятой камуніі прыгатаўліваюцца па-беларуску і навук рэлігіі па школах пачатковых слухаюць так жа па-беларуску… Палякаў, сталых жыхароў маёй парахвіі ёсьць асоб якіх пяць, а польскіх урадаўцаў таксама дужа мала. У касьцёл яны ходзяць досыць рэдка. Такім чынам, дзеля карысьці і збаўленьня душаў у маёй парахвіі ў навучаньні людзей усталяваўся гэтакі парадак: па-беларуску адбываецца навука кожнай нядзелі і сьвята пад час сумы, а па-польску ў важнейшыя сьвяты, як Каляды, Новы год, Сьвятога Язэпа, Вялікдзень, Сьв. Пятра і Паўлы, Зыход Сьв. Духа, Унебаўшэсьця Сьв. Дзевы Марыі і Сьв. Роха тры дні. Гэтым прашу Вашу Эксцэленцыю такі парадак навучаньня ў Барадзеніцкім касьцёле зацьвердзіць як сталы»[493]. Ліст датуецца сакавіком 1925 г.

Просьба кс. В. Шутовіча не магла быць задаволенай паводле розных нагодаў, але галоўнай нагодай было заключэнне канкардату між Ватыканам і Польшчай (26.03.1925 г.), пасля чаго сітуацыя ў Барадзенічах стала рэзка мяняцца да горшага. Амаль што адразу за кс. В. Шутовіча ўзялася паліцыя: «Бяруцца за нашы беларускія казанні і рэлігійныя песьні ў Барадзеніцкім касьцёле, – пісалі парафіяне ў «Беларускай Крыніцы». Палі-

[491] Mamonić Ł. Pa bielarusku, ci pa polsku // Krynica. – 1925. – № 3. – 18 studnia. – S. 1.
[492] Pramowa pasła Ks. A. Stankiewiča u Sojmie dnia 28.IV. h. h. padčas dyskusii ab biudžecie Aswiety i Relih. Wyznańniau // Krynica. – 1925. – № 19. – 10 traunia. – S. 7.
[493] ЦНБНАНБ. Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў. – Ф. 4. – В. 1. – Спр. 109. – Арк. 2 : Рапарт Барадзеніцкага пробашча кс. В. Шутовіча.

цыя ўжо працуе па вёсках парафіі, распытываючыся сялян на розныя лады ў гэтай справе. Людзі кажуць, што былі яны і ў нашага пробашча. Мы добра самі не ведаем, адкуль гэта ўзялося, каб паліцыя сьлядзіла за беларускай мовай у касьцёльным навучаньні...»[494]. Але, як паказвала папярэдняя практыка, магчымасці паліцыі былі абмежаваныя сферай свецкай улады. Паліцыя не мела паўнамоцтваў умешвацца ў касцёльнае жыццё парафіі і не магла нават забараніць выкарыстанне ў касцёле беларускай мовы, нягледзячы на адпаведны ціск, пагрозы і праследы з яе боку. Такі прагал быў улічаны з прызначэннем на пасаду Віленскага архібіскупа кс. Р. Ялбжыкоўскага. Тагачасныя газеты пісалі: «Яшчэ адзін удар па Беларусах. Польскі арцыбіскуп, які толькі што прыехаў у Вільню, здолеў ужо прысланць Барадзенічам другога ксяндза – польскага прэфекта. У далёкія, глухія ды бедныя Барадзенічы прысланць другога ксяндза ды Паляка, гэта нешта значыць...». Далей аўтар прыводзіць цікавыя факты, што ў суседніх дзвюх парафіях увогуле няма ксяндзоў, у іншых парафіях, дзе пяць – дзесяць тысяч вернікаў – па аднаму ксяндзу. Новы ксёндз актыўна ўзяўся за польскую працу: гаворыць толькі на польскай мове, дзяцей, якія маліліся на беларускай мове, вучыць іх рэлігіі па польскай мове і перарабляе на палякаў, сялян агітуе супраць беларускасці, збірае подпісы супраць кс. В. Шутовіча і супраць беларускай мовы ў касцёле[495]. У лісце да кс. А. Станкевіча ад 4.01.1927 г. кс. В. Шутовіч пісаў, што Арцыбіскупу выслана аж 10 просьбаў з вялікім лікам подпісаў і ўсе ў справе пробашча і беларускай мовы ў набажэнствах і дзве спецыяльныя просьбы з 500-мі подпісамі аб навучанні прэфектам у школах парафіі на беларускай мове. Калі арцыбіскуп не выслухае просьбаў парафіянаў, яны збіраюцца звярнуцца да нунцыя ў Варшаве... А з прэфектам гэтым адна бяда – змушае дзяцей гвалтам вучыць пацеры на польскай мове. У школах в. Сьнегі і Падгайцы дзеці супраціўліліся прэфекту з польскімі пацерамі і плакалі, калі ён патрабаваў таго. Прэфект наказваў дзецям і бацькам, каб не прыносілі беларускіх кніг для набажэнства, бо яны не бласлаўлёныя, і лаяў бацькоў з амбону за тое, што іх дзеці ня ведаюць пацераў на польскай мове[496]. У гэтым лісце ёсць цікавая прыпіска: «…Гэтыя справы парушыць трэба перад біскупам…», якая змушае задумацца над наіўнасцю кс. В. Шутовіча і яго верай у справядлівага для беларусаў каталіцкага біскупа. Але, трэба думаць, кс. В. Шутовіч вельмі хутка расчараваўся ў сваёй веры ў добрага біскупа, калі стала відавочным, што да такой паланізацыі ў касцёле, у якім дзесяць гадоў як не замаўкала беларуская мова, арцыбіскуп мае непасрэдныя адносіны.

---

[494] Parachwijanin Biełarus. Haroj za rodnuju mowu, Baradzieničy // Biełaruskaja Krynica. – 1926. – № 17. – 23 traunia. – S. 4.

[495] Дзядзька Якуб. Арцыбіскуп палячыць (Барадзенічы, Браслаўскага пав.) // Сялянская Ніва. – 1926. – № 40. – С. 2–3; Marwič. Biełaruskaje kaścielnaje žyćcio (Baradzieničy, Brasłauskaha paw.) // Biełaruskaja Krynica. – 1926. – № 46. – 24 śnieżnia. – S. 5.

[496] ЦНБНАНБ. Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў. – Ф. 23. – В. 1. – Спр. 847. – Арк. 2.

Аўтар Марвіч (Мар'ян Пецюкевіч) пісаў у «Беларускай Крыніцы», што «арцыбіскуп паслухаў фальшывых даносаў на нашага пробашча кс. В. Шутовіча», што быццам ён закладае гурткі «Грамады», даручыў зрабіць следства асабістым ворагам яго і яўным ворагам беларускасьці – кс. Бобічу[497] і кс. Славінскаму. Трудна верыць, каб яны аб кс. Шутовічу ды праўду сказалі»[498]. Дарэчы, у лісце ад 16.XI.1926 г. кс. А. Станкевічу кс. В. Шутовіч пісаў: «… у гутарцы маёй з Арцыбіскупам у м. Глыбокім дня 28.X.1926 г. крэпка мяне абурыла тое, што біскуп накінуўся на мяне, быццам я з вар'яцкімі камуністамі маю сувязь, а калі я на гэта Арцыбіскупу востра паставіўся, тады ён звярнуў мову на іншы тэмат, кажучы, што справу гэту разбярэць суд свецкі…»[499].

Працэс такога «следства» падрабязна быў апісаны кс. В. Шутовічам ў лісце да Яго Эксцэленцыі Мітрапаліта Арцыбіскупа Віленскага Р. Ялбжыкоўскага ў мэтах падаць праўдзівую інфармацыю сітуацыі ў парафіі. Між іншым ён пісаў, што следства па яго справе 6.12.1926 г. было аднабаковым і высновы, зробленыя кс. І. Бобічам і кс. І. Славінскім, не прадстаўлялі агулам жаданні ўсіх парафіян, бо кс. І. Бобіч праз войта і паліцыю сабраў людзей, якія былі настроены супраць кс. В. Шутовіча і прапанаваў ім такі спосаб: хто мае што на свайго пробашча, няхай застанецца, а хто нічога не мае – можа ісці да дому. У выніку – сведчылі толькі палякі і асабістыя ворагі пробашча. Беларусы і асобы шырэй знаныя з сваёй учцівасці сведчыць у такім выпадку не маглі. Апрача гэтага згаданыя ксяндзы з'яўляюцца асабістымі ворагамі кс. В. Шутовіча з нагоды яго нацыянальных перакананняў, што могуць пацьвердзіць кс. А. Зянкевіч з Глыбокага і кс. Я. Германовіч з Друі. Такім чынам, у якасці сведак выступілі войт гміны, камендант пастарунку паліцыі, настаўнікі польскіх школаў, солтыс і некалькі асобаў амаральных і не маючых павагі і добрага імя ў парафіі – усе яны аб'ектыўнай інфармацыі пра ксяндза-беларуса даць не маглі. Дазнанні праз такіх сведкаў не маюць ані праўнай, ані фактычнай вартасці. У той жа час тысячы парафіян не мелі магчымасці падаць свой голас за пробашча. У гэтым жа лісце кс. В. Шутовіч адвяргае надуманыя абвінавачванні арцыбіскупа ў лісце ад 15.12.1926 г. у быццам бы ненавісці парафіян да яго, страце добрага імя і шкоднай акцыі супраць касцёла. У заканчэнні кс. В. Шутовіч пакорна просіць арцыбіскупа аб справядлівым трактаванні сітуацыі, бо звальненне яго з пробаства ў Барадзенічах паводле прычын, указаных следчымі (кс. І. Бобічам і кс. І. Славінскім), было б для яго вялікай крыўдай, якую ён сваёй дзейнасцю і капланскім жыццём ані перад Богам, ані перад Яго Эксцэленцыяй не заслужыў[500]. (Гл. дадатак 4.)

[497] Тут можа ўзнікнуць пытанне, асабліва да асобы кс. Ідэльфонса Бобіча, а менавіта, як так атрымалася, што адзін з піянераў беларускага адраджэння фігуруе ў беларускім друку (у якім нядаўна быў адным з найбольш актыўных аўтараў) у якасці «ворага беларускасці»?

[498] Marwič. Biełaruskaje kaścielnaje życcio (Baradzieničy, Brasłauskaha paw.) // Biełaruskaja Krynica. – 1926. – № 46. – 24 śnieżnia. – S. 5.

[499] ЦНБНАНБ. Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў. – Ф. 23. – В. 1. – Спр. 847. – Арк. 1.

[500] Там жа. – Спр. 845. – Арк. 17.

12.01.1927 г. загадам Віленскага арцыбіскупа Р. Ялбжыкоўскага кс. В. Шутовіч быў пазбаўлены пасады пробашча парафіі ў Барадзенічах. У спецыяльным паведамленні ад 12.01.1927 г. арцыбіскуп інфармаваў кс. В. Шутовіча аб правядзенні інвентарызацыі ў прысутнасці дэкана кс. І. Бобіча і перадачы касцёла пераемніку кс. С. Мажэйку[501].

Кс. В. Шутовіч быў накіраваны на пасаду вікарыя ў г. Ліду. Прычыны такой кары, альбо чаму кс. В. Шутовіч не можа надалей застацца пробашчам у Барадзенічах, паводле афіцыйнай заявы арцыбіскупа Р. Ялбжыкоўскага зводзіліся да наступнага: нянавісць народу, дрэнная слава ў паважных людзей, асабліва ў суседніх ксяндзоў, і дзейнасць на шкоду Касьцёла ў Ёдах. У рэдактарскім артыкуле «Беларуская Крыніца» не пакінула нават і малейшага сумнення ў надуманасці, штучнасці і хвальшу такіх абвінавачванняў, сцвярджаючы, што абсурдна гучаць абвінавачванні ксяндза ў нянавісці парафіян – не сталі б парафіяне збіраць шматтысячныя подпісы і ладзіць шматразавыя дэлегацыі і звароты да арцыбіскупа ў абарону кс. В. Шутовіча і беларускіх казанняў у касцёле. Нават мясцовая шляхта і тая не супраць кс. В. Шутовіча як пробашча, толькі хацела б, каб у касцёле не гучала беларуская мова. Нянавісць хіба што маюць прысланыя з Польшчы дзеячы: розныя сышчыкі, паліцыянты, настаўнікі. Але яны не маюць нічога супольнага з касцёлам, іх мэты – нішчыць праявы беларускага жыцця і паланізацыя, а ксёндз-беларус – значная перашкода ў дасягненні такой палітыкі. Не маюць падставы абвінавачванні і ў тым, што кс. В. Шутовіч страціў добрае імя ў паважаных людзей (суседніх ксяндзоў). Так, у тых ксяндзоў, якія паланізуюць праз касцёл беларускі народ і глумяць яго ўсякія адраджэнскія пачынанні кс. В. Шутовіч і сапраўды не мае аўтарытэту, але гэта далёка не тое, што паводле кананічнага права маецца на ўвазе пад утратай добрага імя пробашча. Ніхто, нават ворагі кс. В. Шутовіча, не змаглі ўлічыць яго у непрыстойных, амаральных, не вартых чалавечага гонару і святарскага сану ўчынках... Наадварот, больш непрыстойнымі і нават амаральнымі выглядаюць абвінавачванні кс. В. Шутовіча ў дзейнасці шкоднай касцёлу, пад якімі маецца на ўвазе адмова кс. В. Шутовіча прыняць удзел у авантуры па закрыцці праваслаўнай царквы ў Ёдах і размяшчэнне ў ёй каталіцкага касцёла. Ва ўсёй Барадзеніцкай і суседніх парафіях не пачуеш слова дрэннага пра кс. В. Шутовіча, не спаткаеш чалавека, які скардзіўся б на кс. Шутовіча, не спаткаеш таго, каго абразіў бы, на каго загневаўся, альбо каго не паслухаў бы кс. В. Шутовіч. Уся парафія не можа зразумець тых прычын, дзеля якіх забіраюць ад іх пробашча...[502].

Адзін з парафіянаў – Мар'ян Пецюкевіч – з гэтай нагоды пісаў: «Усю віну трагедыі нашага касьцёльнага жыцьця складаем на суседніх ксяндзоў: І. Бобіча, Славінскага, Мацкевіча. Але найбольш чуем жаль да Бобі-

---

[501] ЦНБНАНБ. Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў. – Ф. 4. – В. 1. – Спр. 109. – Арк. 6.
[502] Kryčačaja niesprawiadliwaćś // Biełaruskaja Krynica. – 1927. – № 4. – 21 studnia. – S. 1.

ча. Ён жа калісь працаваў з намі, гэта зн. з беларускім Народам, ён жа сын гэтай зямлі, якая яго ўзгадавала, ён жа сын гэтага сярмяжнага народу... А сягоньня гэты няўдзячны марнатраўны сын Беларусі, запрадаўшыся ў чужую скуру, звярнуў востры меч проціў сваёй роднай Маці Беларусі...»[503].

Кс. Я. Германовіч вельмі коратка каментаваў дзеянні ўладаў: «... І кс. В. Шутовіча мучылі і каралі націскам адміністрацыі, пагрозамі, байкотам і ўсякімі спосабамі, каб застрашыць і яго і людзей-парафіян, а такжа збунтаваць супраць яго народ і г. д. Калі і гэта не памагло, яго безпадстаўна выгналі з Барадзеніч»[504].

Кс. В. Шутовіч звяртаўся ў пошуках праўды ў Віленскую курыю, да нунцыя ў Варшаве і да Папы Рымскага.

Так, у лісце ў Ватыкан кс. В. Шутовіч пісаў, што, будучы ўпэўненым у справядлівасці Апостальскай Сталіцы, вымушаны звярнуцца да яе з ласкавай просьбай у развязванні справы несправядлівага пазбаўлення арцыбіскупам яго пасады пробашча, што з’яўляецца для яго вялікай і незаслужанай крыўдай, бо ён не ўчыніў малейшага праступства, якому адпавядала б такая цяжкая кара. Далей кс. В. Шутовіч падае кароткую гісторыю сваёй працы ў Барадзенічах і ўказвае шэсць супярэчнасцей несправядлівага распараджэння арцыбіскупа, сярод якіх: неапраўданая змена катэгорыі парафіі «inamovibilis» як пастаянная і нязменная ў катэгорыю зменную, што дае права змены пробашча; кароткі тэрмін (5 дзён) для вырашэння справы, якога не дастаткова для таго, каб сабраць аб’ектыўную інфармацыю пра невіноўнасць і фактычны стан рэчаў; пры першым і пры паўторным дазнанні ў адхіленні ад пасады пробашча ніхто не звяртаўся да самога пробашча і да яго парафіянаў; пры тым просьба кс. В. Шутовіча пра справядлівае развязванне справы праз духоўны суд была адхілена; беспадстаўныя, надуманыя і неправераныя абвінавачванні кс. В. Шутовіча арцыбіскупам у нянавісці да яго парафіянаў, страце добрага імя, шкоднай дзейнасці для касцёла, а таксама сумніўнае «следства» і фальшывыя сведчанні[505]. (Гл. дадатак 5.)

Доўга вернікі не маглі супакоіцца з тым, што іх голас ня быў пачуты, і яшчэ з нейкай надзеяй дасылалі ў Віленскую Рымска-Каталіцкую кансісторыю свае лісты з просьбамі і жаданнямі чуць беларускую мову ў касцёле. Але на месца былога святара-беларуса прысылаліся надзейныя святары-палякі, што выклікала чарговыя ўсплёскі новых лістоў-скаргаў. Так, парафіяне Барадзеніцкага касцёла пісалі Яго Эксцэленцыі Віленскаму Арцыбіскупу пра тое, што «доўгія гады ў жыцьці нашым рэлігійным мы цярпелі вялікую крыўду. Праўда, на працягу апошніх 10 гадоў блiснула

[503] Marwič. Dakanalasia! (z pryčyny wyjezdu z Baradzienič Ks. W. Šutowiča) // Biełaruskaja Krynica. – 1927. – № 7. – 11 lutaha. – S. 2.

[504] Гэрмановіч, Я. Добры Пастыр – Віктар Шутовіч / а. Я. Гэрмановіч // Божым шляхам. – Лондан, 1964. – № 84. – С. 13.

[505] ЦНБНАНБ. Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў. – Ф. 23. – В. 1. – Спр. 845. – Арк. 27–28.

нам сонца справядлівасьці і мы пачулі Божае Слова ў роднай нашай мове, але цяпер зноў гэтае сонца засоўваецца хмарамі, бо прыслалі ксяндза, які ўсё па-польску…» У дадзеным лісце звяртаюцца вернікі з просьбай, каб хоць вярнуць беларускую мову ў школу пры навучанні дзяцей рэлігіі (ліст ад 4.12.1926 г.)[506].

Адна з першых дэлегацый ад Барадзеніцкіх парафіян да Віленскага арцыбіскупа ў абарону кс. В. Шутовіча была арганізавана 5.01.1927 г. Арцыбіскуп Р. Ялбжыкоўскі абяцаў парафіянам прыслаць ксяндза, які будзе гаварыць казанні на беларускай мове і не будзе парушаць парадку, які быў заведзены кс. В. Шутовічам. Але новы кс. С. Мажэйка ні слова не гаворыць на беларускай мове і спаралізаваў касцёльнае жыццё парафіянаў....[507].

У час візітацыі Барадзеніцкай парафіі арцыбіскупам Р. Ялбжыкоўскім, 6–9 верасня, яго наведала дэлегацыя парафіян з просьбай даць загад цяперашняму пробашчу кс. Мажэйку гаварыць казанні ў касцёле на беларускай мове. Арцыбіскуп абяцаў выканаць просьбу пры ўмове, калі чацьвёртая частка парафіян з подпісамі падасць адпаведную заяву [508].

Чарговая заява ад 14.11.1927 г. з патрэбнымі подпісамі была аформлена барадзеніцкімі парафіянамі і даслана арцыбіскупу з просьбай вярнуць беларускую мову ў касцёл[509]. Але дарэмна. Больш таго, што толькі пасля гэтага не выдумлялі ксяндзы-палякі, каб збіць хвалю папулярнасці кс. В. Шутовіча ў Барадзеніцкай парафіі. Так, у час аднаго казання адзін з ксяндзоў гаварыў пра тое, што кс. В. Шутовіч выгнаў з Барадзеніцкага касцёла Бога і што ў гэтым касцёле зусім ужо няма Бога…[510]. Але больш цынічнымі і амаральнымі можна назваць дзеянні Віленскай рымска-каталіцкай курыі, у якой знайшліся аўтары, якія інфармавалі Дэпартамент па справах веравызнанняў справаздачамі з наступным зместам: «У Барадзенічах да гэтага часу парафіяне не жадаюць навязанага ім праз кс. Віктара Шутовіча беларускага дыялекту – амаль што палова парафіян, больш за 2000 чалавек, на працягу шасці гадоў не прыступаюць да Святых Сакрамэнтаў. Неаднаразова барадзеніцкія парафіяне звярталіся ў Курыю са скаргамі і просьбамі, каб іх абаранілі ад беларускага дыялекту, які навязваюць ім у касцёле. Афіцыйныя даследаванні паказалі як абгрунтаванасць іх скаргаў, так і неправамерныя шавіністычныя дзеянні кс. Віктара Шутовіча, які паводле гэтых злачынстваў, прадугледжаных у Кодэксе Кананічнага Права, пазбаўлены парафіі, а на яго месца прызначаны кс. Станіслаў Мажэйка, добра знаёмы з беларускім дыялектам. Тым не менш, кс. Ма-

---

[506] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. – Ф. 604. – В. 1. – Спр. 6215. – Арк. 1.

[507] Hołas kryudy // Biełaruskaja Krynica. – 1927. – № 9. – 25 lutaha. – S. 4.

[508] Беларуская мова ў Барадзеніцкім касьцёле // Сялянская Ніва. – 1927. – № 71. – 1 кастрычніка. – С. – 3.

[509] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. – Ф. 604. – В. 1. – Спр. 6215. – Арк. 4.

[510] Цыбук, Кароль. Ахвяры на касцёл бяз Бога / Кароль Цыбук // Сялянская Ніва. – 1927. – № 64. – 7 верасьня. – С. 4.

жэйка калі выявіў, што толькі некалькі сем’яў, загітаваных беларускімі шавіністамі, прагнуць беларускага дыялекту ў касцёле, перастаў гаварыць з амбона ў беларускім дыялекце. Пасведчыць гэты факт могуць кс. Дэкан Ільдэфонс Бобіч, беларускага паходжання, кс. пробашч Казімір Мацкевіч з Пагосту, кс. Дэкан Савіцкі, Браслаўскі стараста і іншыя»[511].

Не засталася ўбаку ад праследавання кс. В. Шутовіча і свецкая ўлада. Супраць змагара за беларускую мову ў касцёле была заведзена судовая справа, ініцыяваная тайнай паліцыяй пры ўдзеле розных прапольскіх элементаў, паводле арт. 129, ч. 1, пункт 3–6 Крымінальнага Кодэксу (свядомае падбухторванне адной часткі насельніцтва супраць другой)[512]. У гэтай справе важная роля сведкі і абвінаваўцы кс. В. Шутовіча належала дэкану кс. І. Бобічу. Адносіны дэкана да кс. В. Шутовіча прымусілі апошняга звярнуцца ў суд, пра што сведчыць ліст натарыуса Арцыбіскупскага суду ад 21 верасня 1928 г., адрасаваны кс. В. Шутовічу з паведамленням таго, што 17 б.(ягучага) м.(есяца) быў закрыты судовы працэс у справе Вялебнага Ксяндза з Кс. І. Бобічам, і што кс. В. Шутовіч мае права падаць суду свае заўвагі да 15 кастрычніка перад канчатковым выракам[513].

Суд над кс. В. Шутовічам адбыўся 15.12.1928 г. у Браславе. Паводле пастановы суда справа кс. В. Шутовіча была скасавана[514].

Нехта С. Хлопскі дамогся сустрэчы з кс. В. Шутовічам у Лідзе (кс. В. Шутовіч знаходзіўся там пад пільным наглядам тамашняга духавенства) і быў уражаны яго нязломнай энергіяй і ахвотай працаваць на карысць адраджэння беларускага народу: «... З далейшай гутаркі я пазнаў, што гэта чалавек жалезнай волі, што ніякая бура яго не зломіць, ніякія гвалты, уціскі не заб’юць яго, што ён жыцьцё сваё зложыць на алтар адраджэньня нашае Бацькаўшчыны...»[515].

Дарэчы, з Ліды кс. В. Шутовіч пісаў кс. А. Станкевічу ад 27.02.1927 г., што Баярунец (Лідскі дэкан) не перастае грызьці беларусаў і ліцьвінаў і робіць гэта быццам жартам, але такія жарты не на месцы. Пры гэтым тысячы разоў сцвярджае, што лідскія парафіяне чыстыя палякі, толькі крыху зрушчаныя, бо жывуць бліжэй да маскалёў… А яшчэ, што ў Лідзе надта развіта шпіёнства: лісты чытаюць зручна і хутка і даносы ў курыю таксама ідуць хутка[516]. Неўзабаве з Ліды ён быў пераведзены ў м. Трысценнае, што за Беластокам, дзе трапіў пад вельмі моцны ціск польскай адміністрацыі.

---

[511] «Do J. Wielmożnego Pana Profesora J. Ptaszyckiego. Warszawa, Departament Wyznań Religijnych». Ліст цалкам надрукаваны ў: Materiały zródłowe: Zatarg o język kazań w żodziszkach: Prezentowany zbiór dokumentów Małgorzata Moroz // Białoruskie Zeszyty Historyczne. – Białostok, 1998. – № 10. – S. 163–165.

[512] Buduć sudzić ks. Šutowiča // Biełaruskaja Krynica. – 1928. – № 2. – 5 studnia. – S. 3.

[513] ЦНБНАНБ. Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў. – Ф. 4. – В. 1. – Спр. 109. – Арк. 17.

[514] Sud nad ks. W. Šutowičam // Biełaruskaja Krynica. – 1928. – № 58. – 21 śnieżnia. – S. 2.

[515] Chłopski S. Z adwiedzin Ks. Šutowiča // Biełaruskaja Krynica. – 1927. – № 14. – 1 krasawika. – S. 4.

[516] ЦНБНАНБ. Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў. – Ф. 23. – В 1. – Спр. 847. – Арк. 4.

«…То раз тут (на плябаніі) быў стараста і напаў на мяне, што я не паляк, – пісаў ён кс. У. Талочку. – Гэта ўсё было вельмі брутальна, але я перанёс з гонарам. Злосьць і шавінізм не маюць у людзей граніц…»[517].

Такая сітуацыя вымусіла кс. В. Шутовіча пакінуць Трысценнае і выехаць у ЗША, дзе ён прабыў два гады (1929–1932 гг.). Але і ў далёкай Амерыцы яго не пакідалі думкі пра лёс свайго краю, у якім ён стаў ізгоем. У лісце кс. А. Станкевічу ад 28.XI.1929 г. з Амерыкі ён пісаў, што сядзіць быццам у турме, «што турма мая зусім параўнацца можа з царскім выгнаньнем на Сібір… што гэта вязьніца мая пачалася тады, калі на пасад біскупскі ў Вільні засеў Рамуальд Ялбжыкоўскі. Падарожжа маё ў Ліду, пасьля ў Трысьценнае, і пасьля ў Амэрыку – гэта адна і тая самая Сібір…»[518].

У 1932 г. кс. В. Шутовіч вярнуўся з ЗША і быў накіраваны ў парафію Харошч (Беласточчына), дзе зноў жа сутыкнуўся з аднымі і тымі ж праблемамі: «… І цяпер са мной ня лепей у Харошчы, як было гэныя гады, – пісаў ён кс. У. Талочку 28.X.1938 г. – Я ўжо вельмі прывык да ўсякіх манёўраў і пераношу гэта з дастоінствам… Праз гэта яны проста гавораць мне: «кідай беларускае і рабіся палякам», тады будзе табе магчыма ў нас працаваць і жыць, а інакш мы табе не дадзім жыцьця. Гэта вельмі перашкаджае ў працы»[519].

### 2.2.3. Баруны: справа кс. Міхала Пятроўскага *(працяг).*

Вялікі палітычны рэзананс набыла ў 1921 г. справа кс. Міхала Пятроўскага ў Барунах. Апынуўся ён тут у 1919 г. і, ўбачыўшы выключна беларускую парафію, стаў у душпастырскай працы выкарыстоўваць беларускую мову як мову, зразумелую значнай большасці парафіян. Нагадаем, што ў чэрвені 1920 г. кс. М. Пятроўскі быў арыштаваны бальшавікамі і пасаджаны ў турму ў г. Ліда. Пасля вызвалення ён вярнуўся ў Баруны і прадоўжыў сваю працу. Але са зменай акупацыі з бальшавіцкай на польскую вярнуліся ў Баруны былыя паны і падпанкі – невялікае кола асобаў на чале з Адзінчыхай, не больш дзесяці, – і сталі чыніць усемагчымыя перашкоды ў беларускай рэлігійнай і культурна-асветніцкай дзейнасці кс. М. Пятроўскага, даходзячы да абсурдных абвінавачванняў у тым, што кс. Пятроўскі арганізуе паўстанне, раздае зброю, раскідвае бальшавіцкія ўлёткі, мае сувязі з бальшавікамі і нават дзіцячым прытулкам кіраваў не так як трэба, і г. д. Дзякуючы ім, як пісаў дзекан кс. Гурскі: «...абурэнне паўстала вялікае...»; менавіта з іх ініцыятывы ў польскай газеце «Rzeczpospolita» (1921, № 118) з'явіліся падобныя абражальныя і поўныя хлусні артыкулы з абвінавачваннем кс. М. Пятроўскага ў супрацоўніцтве з бальшавікамі. У якой тады сітуацыі апынуўся кс. М. Пятроўскі, можна

[517] Бібліятэка Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх. Аддзел рукапісаў. – Ф. 21. – Спр. 695. – Арк. 4.
[518] ЦНБНАНБ. Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў. – Ф. 23. – В. 1. – Спр. 847. – Арк. 9.
[519] Бібліятэка Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх. Аддзел рукапісаў. – Ф. 21. – Спр. 695. – Арк. 4.

меркаваць з інфармацыі мясцовых аўтараў: «Кожны дзень прыносіць нам сумныя весткі. У Барунскай парахвіі ў вёсцы Арляняты залажылі каплічку. Час ад часу зьбіраюцца туды акалічныя сяляне беларусы на набажэнства. І вось на гэтым набажэнстве да беларусаў, у вёсцы, якой сяляне свядомыя беларусы і з якой выйшла аж некулькі беларускіх дзеячоў, ксёндз-беларус гаворыць казаньні па-польску! Дык што гэта? Пэўня-ж не здрада, бо аб беларускасьці Барунскіх ксяндзоў ня сумняваемся. Гэта паншчынскі страх і толькі. Нам перадаюць, што на набажэнства ў беларускія Арленяты быўшы дзекан Ашмянскі Гурскі прыслаў нейкую бабу як даносчыка, з Ашмяны (за 28 вёрст) прыехаў агент тайнай паліцыі, але што з гэтага? Ці гэта знача, што ксёндз беларус, дзеля страху нейкай бабы і жандарма мае выракацца правоў беларускага народу і можа важыцца і сам крывіць душой і калечыць душы сваіх братоў беларусаў?..»[520].

Як гэтае польскае казанне кс. М. Пятроўскага, так і допіс у газеце былі невялічкай шырмай, каб адцягнуць час арышту ксяндза, вакол якога сітуацыя рабілася ўсё больш і больш напружанай. «Беларуская Крыніца» пісала: «Прад польскай уладай стаяла тады вялікае для яе заданьне – справа далучэньня нашага краю да Польшчы. Ведала яна добра, колькі ёй у гэтым можа папсуць кс. М. Пятроўскі, дык пачала проціў яго атаку. Польская партыя «Одродзэньне» на сваім з’ездзе 16.ІІ.1921 г. скаржыцца, што кс. М. Пятроўскі і яму падобныя дужа перашкаджаюць ёй у справе полёнізацыі і ў справе затрыманьня нашага краю пры Польшчы. Гэткага ж зьместу паяўляюцца скаргі вайсковых, якія нават падазраюць кс. М. Пятроўскага ў блізасьці з бальшавікамі. Генерал Макрэцкі, старшыня часовай урадавай камісіі так званай Сярэдняй Літвы дамагаецца ад біскупа Матулевіча спыніць беларускую дзейнасьць кс. М. Пятроўскага...»[521].

Неўзабаве кс. М. Пятроўскі быў абвінавачаны паводле тых жа фальшывых даносах, арыштаваны польскімі ўладамі і пасаджаны ў астрог Лукішкі ў Вільні. Паводле рапарту ад 9.12.1921 г. самога святара біскупу а. Ю. Матулевічу: «26 чэрвеня 1921 г. адміністрацыйныя ўлады Ашмянскага павету па загаду судзьдзі да важнейшых спраў Стульгінскага ў парафіяльным доме ў Барунах, дзе я зьяўляюся пробашчам, зрабіўшы найдакладнейшую рэвізію, заявілі мне, што я абвінавачаны з арт. 129 Кодэксу карнага за тое, што быццам імкнуўся да палітычнага перавароту... Абвінавачваньне гэта цалкам фальшывае: ня мае яно аніякіх падставаў, ані сведкаў… Прасьледаванне мяне пачалося яшчэ ў мінулым годзе. Прычынай гэтага ёсьць тое, што я ксёндз каталіцкі, а ня «польскі», як гэтага жадала «эндэцыя»... Апрача гэтага, я не паляк, а беларус. Паводле паглядаў «эндэцыі», у Польшы іншы ад польскага народ ня можа ані карыстаць з правоў, ані існаваць...»[522].

---

[520] Ksiandzy biełarusy połonizatory // Krynica. – 1921. – № 11. – 10 krasawika. – S. 3.
[521] Кс. Міхал Пятроўскі // Беларуская Крыніца. – 1931. – № 25. – 10 жніўня. – С. 3.
[522] Stankievič Ad. Biełaruski chryścijanski ruch : histaryčny narys... – S. 159–160.

У віну кс. М. Пятроўскаму ставілі яго блізасць да бальшавікоў (таму што быў імі арыштаваны!), беларускасць (як антыпольскасць), «імкненне да палітычнага перавароту» і антыдзяржаўную дзейнасць. 4 ліпеня 1921 г. Беларускі нацыянальны камітэт на сваім пасяджэнні разглядзеў справу арышту кс. Пятроўскага і вынес пратэст супраць таго, што Польская ўлада без суда і следства ўкінула ў турму ксяндза, дастойную асобу, паважанага дзеяча: «Віленскаму Нацыянальнаму камітэту чыннасьць кс. Пятроўскага вядома як пашырэньне нацыянальнай сьведамасьці сярод каталікоў-беларусаў яго парафіі, а гэта ня ёсьць праступак. Нарэшце арышт ужываецца кожнаю ўладаю толькі проціў тых асоб, якія могуць мець замеры ўхіліцця ад суду і кары, аб чым ніяк ня мог думаць ксёндз, прымацаваны да сваіх парафіян абавязкам сваёй місіі...». БНК выступае супраць арышту духоўніка толькі за тое, што ён беларус і адкрыта да гэтага прызнаецца. Такая мера польскіх уладаў носіць чыста палітычны характар і не адпавядае практыцы заходне-еўрапейскага ладу[523]. Пратэст гэты быў даведзены да ведама генералу Жэлігоўскаму, пракурору суда, Лігі Народаў[524], генералу Макрэцкаму і Віленскаму біскупу. Апрача гэтага, вышэйзгаданым асобам была пададзена просьба дэлегацыі з м. Баруны аб вызваленні кс. Пятроўскага. Просьбу падпісалі каля двух тысяч дарослых парафіян, што і не мала, калі ўлічваць, што ў парафіі было крыху больш за тры тысячы вернікаў разам з дзяцьмі. Дэлегаты заяўлялі, што ўся парафія ўзбурана арыштам і гатовая ісці ў Вільню вызваляць свайго пробашча[525]. Абурэнне барунскіх парафіян выклікала і чарговая публікацыя ў «Rzeczpospolitaj» быццам бы супольнага ліста (без подпісаў) ад барунскіх парафіянаў, у якім яны выяўляюць сваю радасць і цешацца з нагоды арышту іх пробашча[526]. Дадзеная публікацыя была абвергнута чарговым пратэстам і зваротам барунскіх парафіян да пракурора. У прыватнасці, парафіяне заяўлялі, што артыкул «Głos z parafji Borucskiej» не можа быць выяўленнем агульнай волі і выступленнем супраць кс. М. Пятроўскага ад імя Барунскай парафіі, бо парафія ўжо выступіла ў абарону свайго пробашча з лікам каля двух тысяч подпісаў. Калі і быў такі ліст, – заўляюць парафіяне, – дык яго маглі б падпісаць некалькі адзінак, альбо зусім чужыя людзі. І на гэты раз пратэст падпісалі ўласнаручнымі подпісамі каля дзвюх тысяч парафіян[527].

Так, нехта А. Мсьціслаўскі, аналізуючы сітуацыю з беларускім касцёлам, пісаў, што з інтарэсаў беларускага народу, справа беларускага касьцёла стаіць лепей, чым беларускае царквы: ёсць многа свядомых ксян-

---

[523] Pratest Biełaruskaha Nacyjianalnaha Kamitety u sprawie arysztu ks. Piatrouskaha // Krynica. – 1921. – № 21. – 10 lipnia. – S. 7.

[524] Biełarusy i aryšt kś. Piatrouskaha // Krynica – 1921. – № 21. – 10 lipnia. – S. 8.

[525] Ŕryšt kś. Piatrouskaha i jaho parachwija // Krynica. – 1921. – № 21. – 10 lipnia. – S. 8.

[526] Głos z parafji Boruńskiej // Rzeczpospolita. – 1921. – № 21. – 21 lipca. – S. 2.

[527] Krywičonak M. Kś. Piatrouski, Ułada Siaredniaj Litwy i «Rzeczpospolitaj» // Krynica. – № 25. – 14 źniunia. – S. 3–5.

дзоў-беларусаў, сапраўдных пастыраў свайго духоўнага статку. Яны на беларускай мове выдаюць сваю дэмакратычную газету і духоўныя кнігі, гавораць казанні, змагаюцца супраць ксяндзоў-паланізатараў і ўсюды выступаюць абаронцамі простага народу. Маюць нават свайго мучаніка ў асобе барунскага пробашча Пятроўскага, каторы па фальшываму даносу ворагаў нашага адраджэньня пакутваў за сваю беларускасьць і свой дэмакратызм у Лукішскай турме ў Вільні і цяпер яшчэ пакуль суд ды сьледства сядзіць у няволі пад хатнім арыштам... Праўда, сам генерал Жэлігоўскі сказаў аб ім беларускай дэлегацыі, што тут нейкая абмылка, што кс. Пятроўскі ня мог рабіць беларуска-бальшавіцкіх баявых дружын, але тым часам быцьцё ксяндза-беларуса ў вастрозе застаецца фактам...»[528].

Браніслаў Туронак пісаў, што кс. М. Пятроўскі у сваёй пастырскай працы ўсе свае старанні скіраваў на тое, каб «прасьвяціць цёмнага нашаго сяляніна, каб вырваць яго з процьмы заняпаду народнага, каб ясна паказаць яму светлую ягоную будучыню. Святая гэта праца ішла як нятрэба лепш. Свядомасьць беларуская, зразуменьне цаны сабе сярод нашаго сялянства пашырылася значна ня толькі ў межах Барунскай парахвіі, але і блізу ўва ўсім Ашмянскім павеце... Паедзьце ў Барунскую парахвію, запытайце, сколькі людцы тамтэйшыя пралілі сьлёз па сваім духоўным правадыры, сколькі ў іх душах балючага, глыбокага абурэньня і абразы за гвалт над іх пробашчам дакананы, сколькі рупнасьці, каб ратаваць яго з няволі, калі за два, тры дні патрапілі напісаць просьбы да ўлады з подпісамі да двух тысяч сялян і выслаць дэлегатаў і столькі ўрэшце беларускай сьведамасьці і зразуменьня патрэбы бараніць сваёй мовы, сваіх правоў, свайго – роднаго беларускаго адраджэньня!»[529].

На думку кс. Адама Станкевіча, улады так званай Сярэдняй Літвы арыштавалі кс. М. Пятроўскага, каб не перашкаджаць рабіць палякам выбары ў Сойм Віленскі дзеля далучэння Віленшчыны да Польшчы і агулам, каб адхацелася яму бараніць беларускі народ і правы яго мовы, як у жыцці агульным, так і ў касьцёльным[530]. Арышт кс. М. Пятроўскага быў прыспешаны і з нагоды плануемай імпрэзы каранацыі культу Божай Маці Барунскай на Валадарку Польскай Кароны і абвяшчэння яе ў якасці апякункі польскага народу. Беларускі святар, відаць, задаваў недарэчныя для польскага вуха пытанні і ўводзіў у «зман» парафіян тым, што Багародзіца ніколі не прэтэндавала на польскую карону і тым больш быць апякункай толькі для палякаў.

Невядома, якая роля ў дадзенай сітуацыі ў лёсе кс. М. Пятроўскага належала біскупу а. Ю. Матулевічу. Публічна яго голасу чуваць не было, але гэта не значыць, што біскуп спакойна назіраў за тым, як свецкія ўлады здзекваюцца над яго падначаленым.

[528] Мсьціслаўскі А. Беларускі касьцёл // Беларускія ведамасьці. – 1921. – № 2. – 19 верасьня. – С. 3–4.

[529] Krywičonak M. Мучальнік за долю Беларуса // Krynica. – 1921. – № 21. – 10 lipnia. – S. 1.

[530] Stankiewicz Ad. Rodnaja mowa u światyniach. – Wilnia, 1929. – S. 138.

14 ліпеня, з прычыны хваробы на сэрца і пры хадайніцтве кс. Антона Зянкевіча, кс. М. Пятроўскі быў пераведзены пад стражай з турмы да пробашча касцёла Святога Якуба (кс. П. Жарноўскага), а 15 ліпеня пад апеку рэктара касцёла Святога Сцяпана ў Вільні кс. А. Зянкевіча. Але па загадзе суддзі ў адным пакоі з ім быў змешчаны і паліцыянт, узброены карабінам, супраць чаго выступілі кс. А. Зянкевіч, кс. А. Цікота, з адпаведнай заявай генеральны вікары кс. К. Міхалькевіч (кс. А. Станкевіч згадваў і пра пратэст біскупа Ю. Матулевіча) – у выніку чаго 17 ліпеня паліцыянта з пакоя выдалілі і прыставілі да брамы[531]. Такім чынам, і далей кс. М. Пятроўскі знаходзіўся пад строгім наглядам паліцыі, яму было забаронена праводзіць службы, выезды і вольныя перамяшчэнні па месце. І толькі 21.10.1921 г. стража была знята і кс. М. Пятроўскі апынуўся на волі, але без права вярнуцца ў сваю парафію ў Баруны. Нейкі час ксёндз заставаўся без месца працы, а ў травені 1922 г. быў пераведзены ў Даўгінава Вялейскага пав., дзе гэтак жа актыўна праявіў сябе рупліўцам хрысціянскай і беларускай справы. У 1925 г. быў абвінавачаны польскімі ўладамі ў «беларускай агітацыі» сярод парафіян Даўгінава. Магчыма, гэта стала адной з прычыны яго пераводу на Беласточчыну ў парафіяльны касцёл святой Дароты ў Вінна-Пасьвента (Бельскі пав., зараз Высокамазавецкі пав., Падляскае ваяводства), дзе адышоў ад актыўнай беларускай працы, магчыма, і таму, што не было сярод каго працаваць у польскім мястэчку, магчыма, і таму, што давала знаць пра сябе хвароба на сэрца. 26.07.1931 г. яго не стала. Газета «Беларуская Крыніца» пісала з нагоды яго заўчаснай смерці: «Кс. М. Пятроўскі ўсюды, дзе толькі быў, карыстаўся вялікім уплывам сярод народу. Чуткі на людзкія патрэбы, заўсёды гатовы да помачы, несрэбралюб, незмардаваны працаўнік на ніве рэлігійна-маральнай і прасьветнай, адважны заступнік за пакрыўджаных прад сільнымі гэтага сьвету, здольны, урэшце, прамоўца – кс. М. Пятроўскі ўсюды і заўсёды быў улюбёнцам народу, які за ім хоць у агонь пайшоў бы»[532].

Пахаваны на мясцовых могілках.

### 2.2.4. Жодзішкі: справа кс. Вінцэнта Гадлеўскага.

1.09.1921 г. Віленскі біскуп а. Юры Матулевіч паводле асабістай просьбы кс. Вінцэнта Гадлеўскага перавесціся ў Віленскую дыяцэзію прапанаваў яму парафію Жодзішкі, Свірскага дэканату (цяпер Смаргонскі р-н). Парафія была зруйнаваная падзеямі Першай імперыялістычнай вайны: спаленыя вёскі, разбураныя хаты і касцёл, бедныя і запалоханыя сяляне. Адраджаць і арганізоўваць парафію кс. В. Гадлеўскаму, нягледзячы на працу папярэдняга ксяндза, прыйшлося амаль што з нуля. Чым прыцягнуў увагу да сябе новы ксёндз, дык гэта тым, што з першых дзён свайго знаходжан-

[531] Кс. Міхал Пятроўскі // Беларуская крыніца. – 1931. – № 25. – 10 жніўня. – С. 3.
[532] Там жа.

ня пачаў з людзьмі гаварыць «па-просту». Неўзабаве пачалі з'яўляцца ў беларускім друку трывожныя весткі з Жодзішкаў вакол актыўнага праяўлення беларускасці ў асяродку сялянства, з запалохваннем, неапраўданымі штрафамі і здзекам паліцыі над сялянамі. Так, «Крыніца» пісала, што паліцыя найбольш чапляецца да пробашча парафіі кс. В. Гадлеўскага, на яго пішуць даносы, складаюць пратаколы праз дробязі і штрафуюць, як гэта было пасля калядавання, калі хлопцы заспявалі «Ад веку мы спалі», а пробашч дапамагаў спяваць[533]. Чаму чаплялася паліцыя да пробашча – гэта не было нейкім сакрэтам: кс. В. Гадлеўскі быў добра вядомым беларускім дзеячам: гаварыў з людзьмі ў парафіі на беларускай мове, распаўсюджваў беларускія газеты, арганізаваў беларускі хор пры касцёле і сам спяваў беларускія песні, больш таго, праводзіў апытванне сваіх парафіян наконт таго, як яны адносяцца да беларускай мовы, да беларускага слова, да беларускіх казанняў у касцёле... І калі стала зразумела, што ў парафіі няма тых, хто супраць (толькі адзінкі былі за польскую мову), 7.09.1924 г. кс. В. Гадлеўскі сказаў першае казанне ў касцёле на беларускай мове. Пробашч гаварыў пра тое, што ў каталіцкіх касцёлах заўсёды было такое правіла, каб навучаць народ у зразумелай для іх мове: так рабілі Апосталы, так рабілі іх наступнікі, і так павінна быць... А яшчэ калі мець на ўвазе, што ўсе мовы перад Богам роўныя – няма горшых, няма лепшых, ён сёння хоча прапанаваць на суд сваіх парафіян казанне ў іх роднай мове... Тры чалавекі выйшла з касцёла, нехта з іх клікнуў паліцыю, прыйшлі паліцыянты, пастаялі паслухалі, выйшлі і склалі пратакол[534]. Вестка пра беларускія казанні ў Жодзішках хутка абляцела не толькі ўсю парафію, але і суседнія парафіі. У наступную нядзелю, на Гаспожку, – паводле навочнага сведкі з Жодзішкаў, – народ паваліў валам; прыйшлі нават і тыя паны, якія ходзяць да касцёла вельмі рэдка. У час беларускага казання на гэты раз з касцёла выйшлі чатыры чалавекі. Між іншым пробашч адзначыў, што калі будзе сабрана сто подпісаў за польскую мову, дык ён будзе праводзіць казанні і на польскай мове. Тут трэба ўдакладніць, што подпісаў за беларускую мову не збіралі – таму што не было патрэбы і таму, што за гэта маглі б добра пацярпець зборшчыкі подпісаў і агітатары. Вырашылі так, калі гэта патрэбна палякам, хай яны і збіраюць, тым больш, што іх ніхто за гэта не аштрафуе і не пасадзіць у турму. Але за польскую мову ніхто не хацеў падпісвацца, і тады палякі прыбеглі да звычайнага ашуканства. Прыходзілі ў хату і пыталіся, маўляў, каго хацелі б – папа ці ксяндза?. Людзі адказвалі ксяндза і ставілі подпісы «там дзе трэба», альбо пыталіся, куды хочаш – пад Беларусь ці пад Польшчу? І нехта, баючыся большай бяды, ставіў подпісы пад Польшчу, іншыя ставілі подпісы за польскую

[533] Żodzišny. Żodziški. Świancianckaha pawietu // Krynica. – 1923. – № 5. – 25 traunia. – S. 7.

[534] Żodzišnyja Biełarusy. Biełaruskaja mowa u kaściele // Krynica. – 1924. – № 30. – 25 kastryčnika. – S. 2.

мову праз страх перад сваімі панамі, а за некаторых распісваліся самі зборшчыкі подпісаў. Пры тым, што толькі не гаварылася ў адрас пробашча В. Гадлеўскага: і тое, што хоча стаць папом і прыняць праваслаўе, што хоча перайсці ў унію, што хоча ажаніцца. Так усякімі праўдамі і няпраўдамі было сабрана каля 200 подпісаў. На парафію ў 3 300 чалавек гэта было вельмі мала. Толькі подпісы тыя кс. В. Гадлеўскі, ведаючы, як яны збіраліся, не прызнаў. Пры тым даў параду ехаць да больш вышэйшага кіраўніцтва і там вырашаць праблему. А штонядзелі ў Жодзішках сталі гучаць беларускамоўныя казанні, на якія прыходзілі людзі з-пад Свіра (24 вярсты) і з іншых далёкіх вёсак[535]. Вялікае ўражанне рабілі на людзей такія казанні і песні ў роднай мове. І людзі пра гэта гаварылі, як пра нейкае дзіва: «Мы думалі, што з нашай мовай і сапраўды нікуды няможна паказацца, а тым часам як запяюць песьню ў роднай мове, то так бярэ за сэрца, што аж плакаць хочыцца...». І некаторыя сапраўды плакалі, – пісаў аўтар з Жодзішак, – асабліва пачуўшы песні «Матачка Божая», «О, мой Божа, веру Табе»[536]. І на такія набажэнствы прыходзіла вельмі шмат народу, як усёроўна на фэст. З другога ж боку, цікавасць да польскамоўных казанняў упала настолькі, што на іх заставалася ўсё менш і менш людзей. Дайшло да таго, што на першы дзень Вялікадня польскую навуку засталася слухаць толькі адна кабета[537].

Рэзананс пра беларускія казанні і дадатковыя набажэнствы на беларускай мове ў Жодзішках быў сапраўды вялікі. Дайшоў ён, відаць, і да Вільні, і адтуль паехалі розныя правяраючыя, дэлегаты, інспектары, кантралёры, паліцыя і іншыя прыўладныя колы. «Начальства ўсё ездзіць», – пісаў у «Крыніцу» мясцовы аўтар[538]. І ўсе сталі страшыць як людзей, так і пробашча. Казалі, што сашлюць яго на пакуту, вывязуць у Польшчу, пасадзяць у турму і знімуць сутану... Але «пробашч на ўсе гэтыя страхі нават і вухам не вядзе, а толькі сваё робіць». Пасля навісла пагроза над касцёльным камітэтам, маўляў, яны вінаватыя ў тым, што дапусцілі беларускасць у касцёл. А пасля ўзяліся за школу, бо сяляне в. Няхведы сабралі подпісы на адкрыццё беларускай школы, а ўлады вымушаны былі спраўдзіць тыя подпісы і хадзілі зноў хатамі з агітацыяй, маўляў, «калі хочаце па-беларуску, дык да вас поп прыйдзе», альбо «хто запішыцца ў беларускую школу, дык пад суд пойдзе», альбо «...будзе хадзіць вучыцца ў Беларусь, а тут Польшча». Але, нягледзячы на такія страхі і «перспектывы», дзеці са сваімі бацькамі самі вырашалі свой лёс; у в. Стаўбуцева з 60 дзяцей толькі 5 запісаліся ў польскую школу. Апрача гэтага, паліцыя адсочвала і папярэджвала тых, хто чытаў «Крыніцу», але і тут сяляне не губляліся, казалі

---

[535] Żodzišnyja Biełarusy. Biełaruskaja mowa u kaściele // Krynica. – 1924. – № 30. – 25 kastryčnika. – S. 3–4.

[536] Tamašni. Prauda ab Żodziškach // Krynica. – 1925. – № 22. – 24 traunia. – S. 2–4.

[537] Там жа.

[538] Żodzišny. Načalstwa ucio jeźlzić // Krynica. – 1924. – № 30. – 25 kastryčnika. – S. 4.

паліцыянтам, хай яны ідуць у Вільню і закрыюць газету, бо газета легальная[539].

Праз увесь гэты час кс. В. Гадлеўскі падтрымліваў сувязі праз ліставанне з Віленскім біскупам а. Ю. Матулевічам. У асноўным, гэта былі разгорнутыя і пераканаўчыя інфармацыйныя рапарты пра падзеі, якія адбываліся ў парафіі. Так, у адным з іх ад 15 лістапада 1924 г. кс. В. Гадлеўскі падаў тлумачэнне прычын, падзеля якіх ён стаў праводзіць беларускамоўныя казанні ў касцёле, а гэта і ўказ біскупа Э. Ропа ад 1917 г., і спасылка на канон 1332, і беларускасць парафіі, і зацікаўленасць і жаданні саміх парафіянаў. У другой частцы свайго рапарту кс. В. Гадлеўскі даходліва абверг надуманыя абвінавачванні яго ў антыдзяржаўнай дзейнасці, а менавіта, што быццам бы ён намаўляў з амбону выганяць з краю палякаў, якіх называў ваўкамі, і пляваць у твар польскім чыноўнікам, гаварыў, што калі выйдзе сонца незалежнай Беларусі, нятрэба будзе плаціць высокіх падаткаў і служыць у войску, што быццам у час яго казанняў людзі пакінулі касцёл, бо мусіла быць бойка ў касцёле, што нічога падобнага ніколі не было, і гэта могуць пацвердзіць сотні парафіянаў... Для вырашэння справы кс. В. Гадлеўскі прапаноўваў стварыць спецыяльную камісію, якая б аб’ектыўна змагла б вывучыць сітуацыю на месцы[540]. (Гл. дадатак 6.)

У лісце ад 26 лютага 1925 г. ён пісаў: «Спаўняючы загад Вашай Эксцэленцыі з дн. 2.XI.24 г. за № 3687 было зараз жа ўведзена ў Жодзісны касьцёл казаньне ў польскай мове, пры гэтым было абвешчана з амбона аб вышэй успомненым загадзе Вашай Эксцэленцыі, каб усе жадаючыя слухаць слова Божае па-польску ведалі аб гэтым і аставаліся па суме ў касьцёле...». Далей кс. В. Гадлеўскі прыводзіць статыстыку: жадаючых слухаць навукі на польскай збіраецца ўсяго толькі 20–25 асобаў, у той жа час, як жадаючых слухаць беларускія казанні збіраецца поўны касцёл, і людзі слухаюць з большай увагай, і такія казанні прыцягваюць нават падлеткаў 14–17 гадоў, якіх не было відаць на казаннях польскіх. Улічваючы такія абставіны, пробашч звяртаецца да біскупа з просьбай выдаць афіцыйны загад у справе ўпарадкавання стасунку польскіх казанняў да беларускіх з тым, каб лічба беларускіх і польскіх казанняў адпавядала ліку слухачоў адных і другіх казанняў[541].

Той факт, што кс. В. Гадлеўскаму прыходзілася тлумачыць і апраўдвацца перад біскупам у сваёй правамоцнасці, гаворыць пра тое, што біскуп

---

[539] Ščyry Biełarus. Z żyćcia biełaruskaj wioski // Krynica. – 1925. – № 7. – 15 lutaha. – S. 3–4.

[540] Do Jego Ekscelencyji Biskupa Vileńskiego raport proboszcza Żodziskiego : ЦНБНАНБ. Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў. – Ф. 4. – В. 1. – Спр. 92. – Арк. 12, 13.

[541] Zatarg o język kazań w żodziszkach, cd.: Korespondencja do Kurii Wileńskiejw sprawie używania języka białoruskiego w kościele w Żodziszkach (dokumenty wybrała i opracowała M. Moroz) // Białoruskie Zeszyty Historyczne. – 1998. – № 10. – S. 126–127.

атрымліваў зусім іншую інфармацыю пра парадкі ў Жодзішках. Так, Міністэрства па веравызнаннях і народнай адукацыі даслала біскупу а. Ю. Матулевічу ліст ад 20.03.1925 г. аб антыдзяржаўным выступе пасла кс. А. Станкевіча 1–2 лістапада з амбону ў Жодзішскім касцёле. Быццам, у казаннях кс. пасол намаўляў людзей не звяртаць увагі на Польскі ўрад, які не з'яўляецца міралюбным да тутэйшага люду, і заклікаў народ да еднасці, да стварэння незалежнай Беларусі і да непадпарадкавання ўладам і невыканання іх загадаў. У гэтым «данясенні» ёсць цікавая прыпіска: «У тым духу выступае з казаннямі і кс. Гадлеўскі»[542]. У адказе Яго Эксцэленцыі кс. А. Станкевіч адмовіў усякую палітычную дзейнасць у касцёле ў Жодзішках: «…праблемы палітычнай у касьцёле не парушаў нідзе»[543]. На гэтым справа кс. А. Станкевіча як пасла Сойму была, відаць, прыпынена.

Колькі такіх даносаў атрымлівалі Міністэрства па веравызнаннях і адукацыі, Віленскі біскуп і Міністэрства унутраных справаў на кс. В. Гадлеўскага – цяжка сказаць.

Замест афіцыйнага загаду ў справе ўпарадкавання казанняў – чаго дамагаўся кс. В. Гадлеўскі – Віленскім біскупам была створана спецыяльная камісія, якая павінна была на месцы разабрацца ў сітуацыі і далажыць біскупу. Аўтар артыкула «Праўда аб Жодзішках» (магчыма, сам кс. В. Гадлеўскі) акцэнтуе ўвагу на тым, што праводзіць галасаванне ці плейбісцыт камісіі не было даручана[544]. Болей таго, у склад камісіі, якая павінна была разглядаць беларускую справу, увайшлі ксяндзы-палякі: кс. Станіслаў Кударэўскі – пробашч м. Данюшава, Казімір Паўловіч – пробашч парафіі Кабыльнікі і Свірскі дэкан кс. Валерыян Галяк (старшыня камісіі). Пра кс. Галяка свірскія парафіяне пісалі яшчэ ў 1920 г. (калі яго прыслалі на месца памёршага дэкана кс. Валунаса – ліцьвіна і вельмі спагадаючага беларусам), што ён сам з прыроды чысцейшы беларус з Загацкай парафіі і бацька яго гаворыць толькі на беларускай мове, а сам кс. Галяк даводзіць, што вельмі любіць беларускія народныя песні, але праследуе беларусаў як толькі можа[545]. 26 красавіка (нядзеля) кс. В. Галяк і з'явіўся са сваёй камісіяй у Жодзішках.

У тым, што адбывалася пасля, вельмі шмат супярэчлівага і заблытанага настолькі, быццам спецыяльна, каб не дакапацца да сутнасці. Паводле тагачаснага друку і дакументаў карціна прыкладна выглядала так:

Кс. В. Гадлеўскі ў той дзень гаварыў два казанні: на беларускім прысутнічала вельмі шмат народу, чаго нельга было сказаць пра казанне на польскай мове, у час якога людзі сталі выходзіць з касцёла і шумець, што вымушала пробашча некалькі разоў рабіць заўвагі. Дэкан прапанаваў, каб пры выхадзе з касцёла парафіяне вызначыліся ў сваім выбары: хто за польскія казанні – ідзе направа (да званіцы), хто за беларускія – налева

---

542 ЦНБНАНБ. Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў. – Ф. 4. – В 1. – Спр. 47. – Арк. 1.

543 Там жа. – Арк. 2.

544 Tamašni. Prauda ab Žodziškach // Krynica. – 1925. – № 22. – 24 traunia. – S. 2–4.

545 Adam z pad Świra. M. Świr, Świancianskaha paw. // Krynica. – 1920. – № 8. – 4 krasawika. – S. 3.

(на цментажы). Пры заканчэнні працэдуры ўсе ўбачылі вялікі натоўп людзей (некалькі тысяч) каля званіцы за казанні беларускія – і маленькую кучку, прыехаўшых з усяго наваколля, нават з суседніх парафіяў і дэканатаў, паноў-асаднікаў,ураднікаў і шляхцюкоў за казанні польскія. Паводле дазнанняў некаторых сведак, дэкан Галяк у гэты час агучыў папярэднія вынікі «галасавання»: 60 % – за беларускія казанні, 40 % – за польскія. Але тут пачаўся крык і шум з боку беларусаў з той нагоды, што вельмі шмат сярод палякаў было прысутных з іншых парафіяў, і тады кс. Галяк даў загад выйсці чужым за агароджу, а палякам перайсці на іншы бок. Магчыма, такім чынам кс. дэкан хацеў аддзяліць жодзісных парафіян ад чужых, а пры сустрэчным руху з беларусамі ў працэсе падзяліць народ на дзве роўныя часткі. Інакш, дэкан свядома даў магчымасці сустрэчнага руху, што ў дадзенай сітуацыі справакавала да сутыкнення між парафіянамі. Многія палякі замахалі кулакамі, выхапілі рэвальверы, пачуліся крыкі «юж польска гіне!». Пачаўся шум, гвалт, неразбярыха. Кс. В. Гадлеўскі, як мог, стрымліваў ад такіх правакацыяў натоўп, і большасць заставалася каля званіцы. Тады дэкан прапанаваў, каб кожная вёска абрала двух дэлегатаў для вырашэння гэтай справы, што зрабіць у той сітуацыі было немагчыма. І тады на цментары, дзе толькі што была камісія, з'явілася ўзброеная паліцыя з кулямётам. Толькі людзі не спалохаліся, ані пісталетаў, ані кулямётаў і не разыходзіліся. Калі трохі прыціхла, з'явіўся дэкан і аб'явіў вынікі: 60 % – за беларускія казанні, 40 % – за польскія. Калі ж натоўп зноў загудзеў, бо за польскія насамрэч было не больш ад аднаго да пяці адсоткаў, дэкан заявіў, што яму нішто не перашкодзіць напісаць за польскія казанні і 100 %. На гэтым «плейбісцыт» быў завершаны[546].

У рапарце ад 30.04.1925 г. да біскупа з нагоды такога «плейбесцыту» кс. В. Гадлеўскі адзначыў такія моманты, як аднабаковасць біскупскай камісіі, якая складалася з адных палякаў, што адбілася на аднабаковых высновах камісіі; замест таго, каб выканаць загад біскупа і вызначыць факты, выкладзеныя кс. В. Гадлеўскім у лісце да біскупа ад 26.02.1925 г., камісія сваім одумам стала праводзіць галасаванне, блытаючы людзей незразумелымі пераходамі ўправа і ўлева, што раздражняла і абурала парафіян. А неабдуманыя і правакацыйныя дзеянні дэкана кс. Галяка былі нават востра раскрытыкаваныя адным з сябраў самой камісіі – кс. Паўловічам[547].

---

[546] Świedka. Zmahańnie za biełaruskuju mowu u kaściele. (Żodziszki, Świancianskaha pawietu) // Krynica. – 1925. – № 18. – 3 traunia. – S. 2–4; Tamašni. Prauda ab Żodziškach // Krynica. – 1925. – № 22. – 24 traunia. – S. 2–4; Tomaszewski Jerzy. Zatarg o język kazań w Żodziszkach w kwietniu 1925 roku : zbiór dokumentów // Biełoruskie Zeszyty Historyczne. – Białostok, 1996. – № 1. – S. 123–164; Moroz Małgorzata. Zatarg o język kazań w Żodziszkach, cd : zbiór dokumentów Biblioteka Litewskiej Akademii Nauk: Dział Rękopisów; Wileńska Kuria Metropolitarna (1388–1940) Fond 44–123 // Biełoruskie Zeszyty Historyczne. – Białostok, 1998. – № 10. – S. 124–165.

[547] Zatarg o język kazań w śodziszkach, cd.: Korespondencja do Kurii Wileńskiejw sprawie używania języka białoruskiego w kościele w Żodziszkach (dokumenty wybrała i opracowała M. Moroz) // Białoruskie Zeszyty Historyczne. – 1998. – № 10. – S. 128–129.

Не вядома, якія былі адказы біскупа на просьбы кс. В. Гадлеўскага і ўвогуле ці маглі быць такія, калі ўлічваць пільнасць курыі. Але пазіцыю біскупа а. Ю. Матулевіча ў гэтым пытанні можна было ўявіць: была гэта пазіцыя вымушанага абсерватара, якому, з аднаго боку, было далёка не ўсёроўна, што робіцца ў яго дыяцэзіі, але з другога – асцерагаўся ён сваім умяшаннем ці заступніцтвам зрабіць яшчэ горш. Праўда, што можна было зрабіць святару яшчэ горш, чым у перспектыве беспадстаўны прысуд на два гады турмы, цяжка сказаць, хіба што пазбаўленне сану, адлучэнне ад касцёла, праклён... Але для пастаноўкі менавіта такога пытання кс. В. Гадлеўскі не даваў аніякіх зачэпак, і нават «беларусажэр» арцыбіскуп Р. Ялбжыкоўскі не звяртаўся да такіх метадаў.

Выпадак у Жодзішках меў вялікі розгалас як у польскім, так і беларускім друку. Найбольш хвалявалі людзей такія пытанні, як, што ж на самай справе здарылася ў Жодзішках? Няўжо пытанне мовы казанняў не магчыма было развязаць без умяшання паліцыі з кулямётамі? Пасля гэтага людзі вельмі доўга яшчэ ўспаміналі і пераказвалі некаторыя цікавыя моманты, якія мелі месца ў той дзень; удакладнялі і дапаўнялі некаторыя факты і дэталі. Так, гаварылі пра тое, як няведама чаго спалохаўся камендант, як трэсліся ад страху польскія настаўнікі ў пастарунку, як Толя Башчанскі кідаўся з кулакамі на беларусаў, араслянскі пан Блін галасіў, што гіне Польшча... Вядомым стаў і той факт, як мясцовыя паны наведалі дэкана перад яго прыездам і запэўнілі ў тым, што ўся беларускасць у Жодзішках трымаецца толькі на адным пробашчу, а народ аніякай Беларусі і знаць не хоча... Што і стала адказам на пытанне, чаму так бесцырымонна і неабдумана паводзіла сябе тая камісія – яна была ўпэнена ў сваёй перамозе. На вельмі цікавыя развагі наводзіў парафіян адзін вельмі важны момант, а менавіта: чаму ў Жодзішкі вырашаць праблему казанняў у касцёле прыехала вельмі шмат паноў з іншых рэгіёнаў? Якое мелі дачыненне да гэтага паны Кярсноўскія з Данюшава, паны Ясноўскія з Палян, або Івашкевічы з Гервятаў, ці Мульскія з Войстама – яны не адносіліся да Жодзішскай парафіі? Як пісаў адзін з удзельнікаў «галасавання», – уся справа ў тым, што «паны добра ведаюць, што раз беларусы ўвядуць свае права ў касьцёл, то захочуць увясьці і ў гміну, а калі ўвядуць у гміну, то ўвядуць і ў Соймік павятовы, а калі ў Соймік «павятовы», то і ў Соймік «ваяводскі» і так далей – а потым чаго добрага паставяць свае права па ўсім краі, а потым... запатрабуюць ад паноў зямлю... Вось таму і баяцца пускаць беларушчыну ў касцёл, бо тады ўжо народ нічым не ўтрымаеш...»[548].

Такія меркаванні сялян наводзілі на глыбокі роздум. Нават з псіхалагічнага гледзішча такія паводзіны ўлады не былі дэманстрацыяй сілы ўлады як гаспадароў гэтай зямлі – былі праявай слабасці ўлады, няўпэненасці і страху. Так, звычайна, паводзяць сябе акупацыйныя ўлады на чу-

[548] Horki. Ab čym u nas tałkujuć // Krynica. – 1925. – № 29. – 5 lipienia. – S. 3.

жых тэрыторыях, што і было прадэманстравана ў Жодзішках. Далейшыя адносіны ўладаў да беларускага казання ў Жодзішках, да найбольш актыўных парафіянаў і, у прыватнасці да кс. В. Гадлеўскага (а ў больш глабальным сэнсе, увогуле да беларускага пытання ў II Рэчы Паспалітай), былі яскравым пацвярджэннем палітыкі акупацыйных уладаў, для якіх няма большай небяспекі ў краі, як нацыянальнае ўсведамленне заваяванага народу. З чым немагчыма было не пагадзіцца, дык гэта з большасцю меркаванняў у тым, што на прыкладзе парафіян Жодзішскай парафіі ўсяму свету была прадэманстравана воля беларускага народу да свайго касцёльнага жыцця і гатоўнасць змагацца за свае правы нават пад дуламі кулямётаў. А гэта ўжо польскімі ўладамі разглядалася як прэтэндэнт на рэвалюцыйную сітуацыю і палітычны канфлікт.

На пасяджэнні Варшаўскага Сойму кс. Адам Станкевіч звярнуў увагу на той факт, што нягледзячы на паўторнае следства па справе кс. В. Гадлеўскага, нічога антыдзяржаўнага ў яго дзейнасці не было знойдзена і даказана, «бо мы маем права ўжываць сваю мову ў касьцёле і за касьцёлам»[549].

У сувязі з падзеямі ў Жодзішках, Беларускі пасольскі клуб выступіў з інтэрпеляцыяй да п. Міністра унутраных справаў Польшчы з пытаннямі наконт таго: 1) ці мае намер Міністр забараніць паліцыі ўмешвацца ў рэлігійныя справы? 2) ці думае пакараць каменданта паліцыі ў Жодзішках за тое, што прывёў узброеную паліцыю на касцёльны цментар і пагрозы да беларускай люднасці? [550].

22.06.1925 г. кс. Вінцэнт Гадлеўскі быў арыштаваны ў Жодзішках на падставе фальшывага даносу адной асобы (імя яго добра ведалі ў Вільні) па загадзе следчага 6-й акругі Віленскага акружнога суда і пасаджаны ў турму Лукішкі (Вільня). Абвінавачвалі яго па 129 арт. (антыдзяржаўная дзейнасць) у тым, што 25 сакавіка ў час святкавання ў Вільні 400-годдзя беларускага друку гаварыў беларускае казанне ў касцёле св. Мікалая ў Вільні (гаварыў пра патрэбы для беларускай душы самастойнай беларускай рэлігійнай культуры), у якім быццам бы заклікаў беларусаў да бунту супраць Польшчы…[551]. Што трэба заўважыць, дык хіба тое, што кс. В. Гадлеўскаму паставілі ў віну не падзеі ў Жодзішках (там адсутнічаў адкрыты палітычны кантэкст і склад злачынства), а зусім іншыя абвінавачванні.

Арышт гэты яшчэ больш абурыў грамадскасць і не толькі беларускую. Антон Луцкевіч пісаў, што з вялікай прыемнасцю ён прачытаў артыкул у «Кур'еры Віленскім» пад загалоўкам «Ongiś i dziś», падпісаны

[549] Pramowa pasła ks. A. Stankiewiča u Sojmie dnia 28.IV. h.h. padčas dyskusii ab biudżecie Aswiety i Relih.Wyznańniau // Krynica. – 1925. – № 19. – 10 traunia. – S. 7.

[550] Interpelacja pasłou Biełfruskaha Kłubu da p. Ministra Unutranych Sprau u sprawie umiešwańnia u relihijnyja sprawy palicyi i dastauki imi ahniastrelnaha aružža i kuliamiotu na kaśćielny ćmintar u Žodziškach // Krynica. – 1925. – № 32. – 26 lipienia. – S. 4, 5.

[551] Aryšt biełaruskaha ksiandza W. Hadleuskaha // Krynica. – 1925. – № 28. – 28 červienia. – S. 2.

поўным прозьвішчам аўтара – ксяндзом Вітальдам Чачотам, у якім «першы раз з польскіх вуснаў на віленскім грунце пачулі мы пратэст проціў поступу ўлады ў адносінах да беларуса – кс. В. Гадлеўскага... Ужо тое, што ксёндз-паляк заступіўся за ксяндза-беларуса, з'яўляецца для Польшчы нечым абсалютна неспадзяваным, бяспрыкладным і затым годным увагі!»[552]. Абурыла кс. В. Чачота «лёгкамыснасць» польскай улады, пры якой дастаткова даносу нейкай цёмнай фігуры, каб каталіцкі ксёндз, як нейкі бандыт, быў пасаджаны ў астрог. Згадвае ён падобны выпадак з часоў царскага панавання, калі ён дапусціў праступак перад уладай, але ніхто ў суд яго за гэта не цягнуў і ўсё абайшлося толькі заявай. Кс. В. Чачот у сваёй заяве зрабіў несуцяшальныя высновы для польскай улады, што ўсякія параўнанні з царскім рэжымам сёння не на карысць польскай карнай і судовай сістэме[553].

У сувязі з арыштам кс. В. Гадлеўскага, «... у парафіі паўстаў такі плач, што здавалася, людзі страцілі роднага бацьку... Плакалі ўсе: і старыя і малыя, і кабеты і мужчыны... Усюды шкадавалі нашага пробашча, бо й сапраўды ён заўсёды заступаўся за нашага брата...»[554]. Парафіяне напісалі 7 паданняў (заяваў-просьбаў), у тым ліку да дэлегата Урада, Віленскага біскупа і ў Беларускі Пасольскі клуб, за суткі сабралі сотні патрэбных подпісаў. У заяве-просьбе біскупу а. Ю. Матулевічу парафіяне пісалі: «Асірацелая парафія глыбока і балюча адчула няхват свайго паважанага і дарагога пробашча і адразу ўся заварушылася, каб ізноў і як найхутчэй яго відзець у сябе на абавязку пастыра і правадыра духоўнага… Усе закіды антыпанствовыя проціў нашага пробашча, гэта адна брахня і прычэпка, што можа пацвердзіць аднагалосна цэлая парафія, за выняткам некалькіх асобаў…»[555]. (Гл. дадатак 7.)

Апрача гэтага дэлегацыя парафіян з Жодзішак наведала Вільню. З Вільні парафіяне даслалі дзве тэлеграмы ў Варшаву: адну да п. Прэзідэнта Польскай Рэспублікі, другую – да Папежскага Нунцыя кс. Лаўрага. Тэлеграмы былі такога зместу: «22 чэрвеня с. г. нашага пробашча са Жодзішскай парафіі кс. В. Гадлеўскага паліцыя забрала ад нас і вывезла, каб навесьці паніку і страх на нас, беларусаў-католікаў за тое, што наш Кс. Гадлеўскі стаў гаварыць у нашым касьцёле навукі ў нашай роднай мове. Просім і настайваем, каб п. Прэзідэнт зьлітаваўся над беднымі беларусамі-каталікамі і распарадзіўся вярнуць нам нашага пастыра, які сілай ад нас узяты. 29.6.1925. Жодзішныя парафіяне»[556].

---

[552] А. Н. «Калісьць і цяпер» // Жыцьцё Беларуса. – 1925. – № 13. – 21 кастрычніка. – С. 2.

[553] Там жа.

[554] Tamašni. Paślia smutku – wialikaja radaść // Krynica. – 1925. – № 30. – 12 lipienia. – S. 5.

[555] Jego Ekscelencyji Ksiandzu Juramu Matulewiču Biskupu Vilenskfmu ad pradstaunikou parafii Žodzišnaj… Zajawa-Prożba. – ЦНБНАНБ. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 4. – В. 1. – Спр. 92. – Арк. 51–53.

[556] Telehramy Žodzišnych parachwijan u sprawie aryštu ich probašča Ks. W. Hadleuskaha // Krynica. – 1925. – № 29. – 5 lipienia. – S. 6.

Парафіяне схільны былі лічыць, што «гэтая дэлегацыя і подпісы паказалі, што за пробашчам стаіць цэлая парафія, і што з арыштам пробашча слабыя жарты. Тады ўлада пайшла на ўступкі і 30 чэрвеня наш пробашч ужо быў выпушчаны з Лукішак», – паведамлялася ў «Крыніцы»[557].

Кс. В. Гадлеўскага і сапраўды вызвалілі па загадзе таго ж следчага суддзі 6-й акругі м. Вільня пад залог на суму не 5 тыс. зл., як прапаноўвалася раней, а толькі адну тысячу[558].

Чарговы арышт кс. В. Гадлеўскага быў праведзены па загадзе Свянцянскага пракурора 29.09.1925 г. з абвінавачваннем па арт. 130 К.К. Р.П. Парафіяне як пры першым арышце, так і пры другім праявілі многа жалю і энергіі ў вызваленні свайго пробашча: зноў дасылаліся тэлеграмы да прэзідэнта, міністраў, нунцыя, збіраліся тысячы подпісаў з адпаведнымі просьбамі, адпраўляліся дэлегацыі ў Вільню. Так, у лісце Беларускаму пасольскаму клубу з просьбай заступніцтва парафіяне сцвярджаюць, што кс. В. Гадлеўскі «ніякай агітацыяй не займаўся, хацеў асвяціць цёмных мужыкоў навукай у роднай беларускай мове, а гэта было не на руку акалічным панам і польскім ксяндзам з суседняй парафіі». Дзеля гэтага вернікі пратэстуюць супраць такога гвалту і просяць Беларускі пасольскі клуб стаць у абарону беларускіх сялян-каталікоў (ліст ад 7.10.1925 г. падпісалі парафіяне з усіх вёсак парафіі – больш 600 чалавек)[559]. Аналагічны ліст-паданне з вытлумачэннем сітуацыі і просьбаю вярнуць іхняга святара быў дасланы Яго Эксцэленцыі Віленскаму архібіскупу і апостальскаму нунцыю ў Варшаве[560].

Пасол кс. Адам Станкевіч з трыбуны Варшаўскага Сойма каментаваў сітуацыю вакол першага і другога арышту кс. В. Гадлеўскага як сітуацыю несправядлівую, незаконную і недарэчную. Звярнуў ён увагу і на дзейнасць польскай тайнай паліцыі ў Жодзішках, якая, праводзячы дазнанні, так і не атрымала ад парафіян кампраметуючых матэрыялаў на кс. В. Гадлеўскага і свядома падтасавала ў сваёй справаздачы факты і вынікі дазнанняў[561]. На працу такіх следчых скардзіліся і самі сяляне, маўляў, гэтыя «тайныя» цэлым роем ходзяць па нашай старане нечага шукаючы... Асабліва стараецца адзін – усё шукае нейкую арганізацыю. А тут хоць радзі – няма арганізацыі. Дык надумалі зрабіць такой рэвалюцыйнай арганізацыяй касцёльны хор, які спявае беларускія песні. І пачалі ўжо праводзіць следства, допыты людзей, страшыць, што пабяруць усіх спевакоў, толькі ніхто не спалохаўся...[562]. Паводле службовай запіскі камenданта паліцыі ў

[557] Tamašni. Paślia smutku – wialikaja radaść // Krynica. – 1925. – № 30. – 12 lipienia. – S. 5.

[558] Zwalnieńnie ks. W. Hadleuskaha. Telehramy Żodzišnych parachwijan u sprawie aryštu ich probašča Ks. W. Hadleuskaha // Krynica. – 1925. – № 29. – 5 lipienia. – S. 6.

[559] ЦНБНАНБ. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 4. – В. 1. – Спр. 92. – Арк. 37–39.

[560] Там жа. – Арк. 91–92.

[561] Pramowa pasła ks. A. Stankiewiča padčas dyskusii nad ekspoze Premjera 22.X.1925 h. // Biełaruskaja Krynica. – 1925. – № 6. – 1 listapada. – S. 6.

[562] Kastyr. Šukajuć niejkaj arhanizacyi bu sabak stralajuć // Biełaruskaja Krynica. – 1925. – № 13. – 21 śnieżnia. – S. 6.

м. Жодзішках (прыкладна, восень 1925 г.) вынікала, што ў тутэйшай гміне каля 3 гадоў дзейнічае тайная беларуская арганізацыя пад кіраўніцтвам тутэйшага пробашча Вінцэнта Гадлеўскага як «Кола млодзёжы» беларускага касцёльнага хору ў Жодзішках (каля 40 чалавек). Задачы гэтай арганізацыі вельмі простыя: выхоўваць беларускі люд у духу нянавісці да польскіх уладаў і да усяго, што ёсць польскае; вызваленне з-пад панскага панавання пры спрыяючых абставінах шляхам узброенага выступу і стварэння беларускай дзяржавы[563].

Вызвалілі кс. В. Гадлеўскага з турмы на Лукішках 14 кастрычніка 1925 г., дзякуючы старанням пасла кс. Адама Станкевіча і пасла Плаўскага (П.П.С.). Вызваленню паспрыяў і загад Міністра Справядлівасці[564]. А 7 лістапада кс. В. Гадлеўскі атрымаў акт абвінавачвання. Абвінавачвалі беларускага ксяндза па арт. 129, п. 6 і па арт. 130, п. 1. К. К. R.P. Змест акту заслугоўвае ўвагі:

«... Пракуратарскі Урад пры Акружным Судзе ў Вільні вінаваціць жыхара вёскі Жодзішак, пав. Свянцянскага, кс. В. Гадлеўскага ў тым, што: 1) у часе ад 1921 да 1925 году ў граніцах Жодзіснай парафіі, Свянцянскага пав. у Віленшчыне, гаворачы з вясковай люднасьцю гэтай парафіі, у большасьці сваёй паходжаньня беларускага, непублічна пашыраў пагляд, што беларусы ў Польшчы ёсьць нявольнікамі, што калі на абшарах, заселеных беларусамі, дадзержыцца польская ўлада, то будзе заведзена паншчына, дык дзеля гэтага беларусы павінны арганізавацца, каб у адпаведнай часіне, калі ў Польшчы выбухне якое паўстаньне, або вайна, адарвацца ад Польшчы і так, як Літва, стварыць незалежную Беларусь, што з гэтай мэтай трэба нават падняць рэвалюцыю, каторай у 1924 г. ужо не ўдасца зрабіць, але якую павінны адлажыць да вясны 1925 г. і што ад часу стварэньня незалежнай Беларусі, ня трэба будзе даваць столькі салдатаў як цяпер, ня трэба будзе плаціць гэтакіх вялікіх падаткаў, як у Польшчы, а зямля паноў будзе падзелена паміж сялянамі; і што гэтакім чынам створаная Беларусь злучыцца з Літвой або Расеяй, бо лепей жыць у згодзе з літоўцамі, або расейцамі, чым з палякамі... 2) што з верасьня 1924 г. у парафіяльным касьцёле у в. Жодзішках гаварыў казаньні, пабуджаючыя да ненавісьці паміж беларусамі і палякамі, называючы палякаў бязбожнікамі, адшчапенцамі, ашуканцамі, ворагамі беларускай мовы і беларусаў...»[565].

Кс. В. Гадлеўскі, ведаючы, што на гэтым справа не закончыцца, абыходзячы па калядзе парафію, склаў спецыяльны спіс з апытваннем кожна-

[563] Службовая запіска «пра тайную беларускую арганізацыю» пад кіраўніцтвам святара Вінцука Гадлеўскага (LCVA, ф. 131) // Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя: Жыццяпісы. Мартыралогія. Успаміны / аўт.-уклад. Ю. Гарбінскі. – Мінск : Мюнхен, 1999. – С. 623.

[564] Narodny zmahar // Biełaruskaja Krynica. – 1925. – № 4. – 18. – kastryčnika. – S. 1–2, 7.

[565] Akt abwinawačwańnia Ks. W. Hadleuskamu // Biełaruskaja Krynica. – 1925. – № 9. – 22 listapada. – S. 7; Akt abwinawačwańnia Ks. Hadleuskaha // Biełaruskaja Krynica. – 1925. – № 13. – 21 śnieżnia. – S. 7.

га парафіяніна наконт мовы ў касцёльным жыцці. Паводле гэтага спісу аказалася: каля 85 % беларусаў за беларускую (былі нават такія вёскі, як Няхведы, Навасёлкі, дзе не было ніводнага паляка), 10,5 % – палякаў, 4,5 % такіх, якім было ўсёроўна. Такая статыстыка не магла спадабацца ўладам, і солтысу было загадана зрабіць свой спіс па нацыянальнаму складу насельніцтва з разлікам на тое, што людзі, магчыма, не маглі адмовіць пробашчу ў той сітуацыі, а солтысу не асмеляцца заявіць пра сваю быццам бы беларускасць. Але выйшла ўсё наадварот – паводле спісу солтыса беларусаў аказалася яшчэ больш, чым ў спісе кс. В. Гадлеўскага[566].

Пазіцыя самога кс. В. Гадлеўскага, нягледзячы на аніякія абставіны, была нязломнай. У гэты час ён пісаў у віленскім друку: «Мы Ксяндзы Беларусы ў гэтым пытанні спакойныя: як гісторыя не асудзіла польскага клеру, які дбаў пра польскасць і адраджэнне польскага народу, так не асудзіць і нас, што працуем над адраджэннем нашага беларускага народу»[567].

Яшчэ перад судом кс. В. Гадлеўскі наведаў сваю малую радзіму. Будучы ў Поразаве меў намер як каталіцкі святар прыняць удзел у рэлігійным фэсце, які быў прысвечаны Крыжаўзвышэнню, але кс. Сперскі катэгарычна выступіў супраць і не дапусціў яго нават да плебаніі. А на магіле бацькі (пахаваны ў Поразаве), дзе яго знайшла паліцыя, яму прыйшлося даваць тлумачэнні.

1–2 сакавіка 1926 г. у залі Акружнога Суда ў Вільні адбыўся суд над кс. В. Гадлеўскім і найбольш актыўным парафіянінам з Жодзішак П. Рагачом. На судзе як давераныя асобы прысутнічалі кс. А. Станкевіч, кс. М. Шалкевіч і кс. Я. Семашкевіч. Суд пастанавіў: «...на аснове арт. 130 ч. 1 кс. В. Гадлеўскага за пашырэнне ад 1921 да 1925 г. у гутарцы з люднасьцю думак, нахіляючых да бунтаўнічага чыну адарваньня Беларусі ад Польшчы – засудзіць на два гады крэпасьці...»[568]. П. Рагач быў апраўданы. Суд запатрабаваў 2 тыс. зл. каўцый (выкупу), а не арышту. Патрэбную суму сабралі непасрэдна ў зале, і кс. В. Гадлеўскі быў часова адпушчаны на волю. Кс. А. Станкевіч пісаў, што «суд гэты мы назвалі гістарычным. І сапраўды ён такім ёсьць у адраджэньні Беларускага Народу. Каталіцкі ксёндз, які агулам беручы да астатняга часу, дзякуючы гістарычным падзеям, у нашым краі заўсёды быў уважаны за сымбаль польскасьці, 2 сакавіка 1926 г. праз польскі суд асуджаны на два гады крэпасьці за беларускую палітыку...»[569].

Адвакаты кс. В. Гадлеўскага (Смяроўскі, Ліберман з Варшавы і Казлоўскі з Вільні) падалі апеляцыйную скаргу ў Найвышэйшы суд у Варша-

---

[566] Niebajaźliwy. Błahoje na dobraje abwaračwaecca // Biełaruskaja Krynica. – 1926. – № 15. – 8 traunia. – S. 5.

[567] Godlewski Wincenty. Dzikie obyczaje // Przegląd Wilenski. – 1925. – № 18. – 8 listopada. – S. 6.

[568] Krušyna M. Histaryčny sud // Biełaruskaja Krynica. – 1926. – № 9. – 14 sakawika. – S. 1–2.

[569] Там жа. – S. 1–2.

ве. 18.01.1927 г. Апеляцыйны суд у Варшаве прысуд кс. В. Гадлеўскаму пакінуў без змен. А з 23 на 24 сакавіка 1927 г. па загадзе пракурора Віленскага Апеляцыйнага суду кс. В. Гадлеўскі быў арыштаваны паліцыяй у Жодзішках і адпраўлены ў Макатоўскі астрог, што пад Варшавай. Такія дзеянні польскай улады былі яскравай дэманстрацыяй польскага беззаконня і бяспраўя. Пратэсты супраць такіх дзеянняў улады з боку кс. В. Гадлеўскага і Беларускага пасольскага клубу (Ф. Ярэміч) не мелі вынікаў і мець не маглі. Уся справа ў тым, што кс. В. Гадлеўскі быў асуджаны свецкім судом на крэпасць (абмежаванне волі) без пазбаўлення правоў цывільных і духоўнага стану. Паводле Канкардату, арт. 22, такі асуджаны павінен адбываць кару не ў свецкай турме, а ў спецыяльным кляштары. Болей таго, бяспраўным з'яўляецца і сам спосаб арышту і канвайраванне свецкімі сілавымі структурамі ксяндза, які не пазбаўлены свецкіх і касцёльных правоў – гэта прэрагатыва біскупа, а не пракурора і паліцыі. Менавіта біскуп з'яўляецца выканаўцам прысуду адносна свайго падуладнага ксяндза і не павінен паводле кананічнага права даваць дазволу свецкім уладам умешвацца ў кадравую палітыку і такім чынам вяршыць па-свойму лёс няўгодных уладам святароў. У абарону ксяндза магла б выступіць толькі духоўная ўлада ў асобе Я. Э. Віленскага Арцыбіскупа кс. Р. Ялбжыкоўскага. «Аднак, на вялікі жаль, – пісала «Беларуская Крыніца», – гэтага заступніцтва пакуль што і ня бачым, і ня чуем» не толькі на ўзроўні апекі, але нават і на ўзроўні, вынікаючага з каталіцкай ідэі і кананічнага права (духоўная ўлада абавязана браць пад апеку і абарону сваіх духоў-нікаў ад свецкай улады (заўв. аўт. – *І. Т.*). Аўтар артыкула (кс. А. Станкевіч (?)) такую сітуацыю тлумачыць глыбокай хваробай каталіцтва ў нашым краі – хваробай польскага пануючага нацыяналізму[570].

У справе кс. В. Гадлеўскага (як і ў справе кс. В. Шутовіча) больш за ўсё ўражвае цынізм Віленскай курыі, пра які сведчыць ліст курыі, адрасаваны ў Дэпартамент па справах рэлігіі (Варшава) Да Я.(го) Вельможнага Пана Прафесара Я. Пташыцкага (J. Ptaszyckiego): «На ласкавы ліст ад 29 б. м. паводле пажадання Я. Э. Ксяндза Арцыбіскупа спяшаемся адказаць наступнае. Усе ўзнятыя факты мемарыялу-скаргі Беларускага пасольскага клубу, адрасаваныя ў Лігу Нацый, наконт касцёльна-рэлігійнай нетэлеранцыі ў Віленскай Архідыяцэзіі ўключаюць у сябе суцэльны набор вымышленай хлусні…». Далей аўтар (канцлер курыі кс. А. Савіцкі) даводзіць, што ў Віленскай Архідыяцэзіі няма сістэматычнай дэнацыяналізацыі беларусаў на касцёльным грунце, бо няма ніякіх беларусаў-каталікоў, за выключэннем адзінак... Што няма ні адной парафіі з большасцю беларускага насельніцтва, а ў трох парафіях: Барадзенічы і Друя (Браслаўскі пав.) і Жодзішкі Вілейскага пав., с. п. Арцыбіскуп Юры Матулевіч незаконна ў

---

[570] Katalicki ksiondz u polskim wastrozie // Biełaruskaja Krynica. – 1927. – № 14. – 1 krasawika. – S. 1.

стасунках да Канкардату дазволіў часова праводзіць набажэнствы на беларускім дыялекце з умовай, каб не было шкоды для польскай мовы... Што парафіяне ў Жодзішках увогуле не патрабавалі таго, пра што сведчаць шматлікія скаргі і заявы, дасланыя ў Віленскую Курыю, а толькі прасілі абароны супраць беларускага дыялекту ў касцёле... Што ўпарты шавініст Кс. Адам Гадлеўскі [так у арыгінале] давёў да поўнага выцяснення польскай мовы ў касцёле, а сродкі, якімі ён карыстаўся, былі такія, што свецкі суд прысудзіў Кс. Адама Гадлеўскага [sic!] да двух гадоў крэпасці... Што на яго месца прызначаны Кс. Рамуальд Дроніч, беларус [так у арыгінале] і ў мінулым карэспандэнт (???) «Беларускай Крыніцы», якому было даручана ўсіх парафіянаў абслугоўваць у роднай мове [к. 41v.]. Але, калі ён выявіў, што беларускі дыялект жадаюць толькі адзінкі і ў мэтах як хутчэй знішчыць рэлігію, а не паглыбляць яе, ён перастаў прымушаць вернікаў [sic!] слухаць казанні на беларускім дыялекце і выкарыстоўваць гэты дыялект у касцёльных спевах. Сведкамі ў гэтай справе могуць быць Кс. Дэкан Валер'ян Галяк, Кс. Пробашч Станіслаў Кударэўскі, Вілейскі стараста і іншыя[571].

### 2.2.5. Кс. Францішак Рамейка – трагічны згон.

У сакавіку 1921 г. кс. Ф. Рамейка быў пераведзены касцёльнымі ўладамі з Шэрашава ў парафію Задарожжа (Браслаўскі пав.). Не выпадкова Віленская курыя старалася перавесці ксяндзоў-беларусаў у такія парафіі, якія знаходзіліся па лініі былога фронту Першай сусветнай вайны. Папершае, у такія парафіі адмаўляліся ехаць самі святары (можна прыгадаць выпадак з кс. Янам Семашкевічам, які «не даехаў» (магчыма, і з іншых прычын) да Смаргоні і Жодзішак), па-другое, парафіі гэтыя ўяўлялі сабою альбо цалкам, альбо напалову знішчаныя вайной вёскі разам з касцёламі. Да таго ж, трэба ўлічваць адсутнасць дарог, суцэльную глуш, людскую цемнату і беднасць. Наладжваць і арганізоўваць рэлігійнае жыццё ў такіх парафіях прыходзілася з нуля.

«Крыніца» паведамляла, што з прыездам кс. Ф. Рамейкі ў Задарожжа ўстрывожыліся паны, асабліва граф Брзастоўскі, які вельмі не любіць сялян і агулам беларусаў. З гэтай нагоды ў Глыбокім адбыўся сход, на якім паны абгаварвалі спосабы барацьбы з ксяндзамі-беларусамі ў Дзісненшчыне, адзначалася, што галоўнае – гэта пільны нагляд паліцыі за кожным крокам такога ксяндза[572].

Відаць, не зусім ветліва сустрэлі ксяндза-беларуса прапольскія элементы ў новай парафіі, бо не прайшло і двух месяцаў, як рэдакцыя газеты

[571] Do J. Wielmożnego Pana Profesora J. Ptaszyckiego. – Warszawa : Departament Wyznań Religijnych. (Ліст цалкам надрукаваны ў: Materiały zródłowe: Zatarg o język kazań w żodziszkach: zbiór dokumentów Małgorzata Moroz // Biełoruskie Zeszyty Historyczne. – Białostok, 1998. – № 10. – S. 163–165.)

[572] Pany spużalisia // Krynica. – 1921. – № 17. – 27 traunia. – S. 6.

«Крыніца» пісала: «Кс. Ф. Рамейку ў Задарожжы: «Крыніцу і «Думку» Вам пасылаюць. Пашырайце! Пішыце, ці праўда, што паны на вас насядаюць? Нас так паведамілі»[573].

Але нягледзячы на паноў, кс. Ф. Рамейка, гэтак жа як і ў Шэрашава ў хуткім часе стаў у Задарожжы сваім пробашчам і разгарнуў шырокую душпастырскую і культурна-асветніцкую беларускую працу, балазе задарожскія парафіяне ўяўлялі сабой суцэльны беларускі элемент; распаўсюджваў «Беларускую Крыніцу» і беларускую рэлігійную літаратуру, гаварыў казанні і вучыў дзяцей рэлігіі на беларускай мове, згуртаваў беларускі касцёльны хор і гурток БІГіК. Кс. Язэп Германовіч згадваў выпадак, калі неяк раз у Задарожжы пярун ударыў у касьцёл, прабіў франтавую сцяну і папсаваў арган, хоць шмат шкоды не нарабіў, але палякі казалі, што гэта божая кара затое, што на хоры гралі і спявалі беларускія набожныя песні[574].

Зразумела, што паны не пакідалі ў супакоі беларускага святара і чынілі розныя каверзы, каб нашкодзіць. Кс. Адам Станкевіч як пасол Сойму ў сваёй прамове адзначаў, што кс. Рамейка ў Задарожжы перацярпеў такую непрыемнасць: нейкі шпіён украў у яго брашурку «Касьцёльные песьні» з апрабатай біскупа Цепляка, і з гэтага зрабілі справу аб яго антыдзяржаўнай дзейнасці. Праўда, усё скончылася тым, што пракурор адаслаў тую брашурку назад і справа была скасавана, але сам факт вельмі характэрны і паказвае, у якіх варунках вымушаны жыць беларусы ў Польшчы[575].

Пра ўмовы працы кс. Францішкі Рамейкі ў парафіі Задарожжа найлепшым чынам сведчыць яго ліставанне ў 1926–1928 гг. з куратарыяй Віленскай школьнай акругі, якая забараніла кс. Ф. Рамейку выкладаць рэлігію ў публічных школах у Задарожжы, Плісе і Парэччы, матывуючы гэта трыма прычынамі: зрыў лекцыі ў Пліскай школе, жаданне зняць дзяржаўны герб у Парэцкай школе і выкладанне рэлігіі на беларускай мове[576]. У карэспандэнцыі з Віленскім архібіскупствам кс. Ф. Рамейка даводзіў, што і лекцыя была, і герб вісеў на месцы, і навукі рэлігіі ён праводзіў на польскай мове з тлумачэннем некаторых выразаў на беларускай, каб дзеці лепш разумелі, але арцыбіскуп так і не вырашыў гэтую справу станоўча да новага пераводу[577].

Вернікі ўжо Задарожскага касцёла (Дзісненскі пав.) у паданні ад 17.06.1928 г. да Віленскага арцыбіскупа з’вярталі ўвагу на тое, што за восем гадоў працы кс. Францішак Рамейка як «найлепшы каплан, сваімі

---

[573] Swaja počta // Krynica. – 1921. – № 17. – 27 traunia. – S. 8.

[574] Германовіч, Я. Мае прыяцелі – Францісь Рамейка / Я. Германовіч // Божым шляхам. – 1965. – № 3. – С. 6–7.

[575] Pramowa pasła Ks. A. Stankiewiča u Sojmie dnia 28.IV. h.h. padčas dyskusii ab biudżecie Aswiety i Relih. Wyznańniau // Krynica. – 1925. – № 19. – 10 traunia. – S. 7.

[576] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. – Ф. 694. – В. 3. – Спр. 1151. – Арк. 38–42.

[577] ДГАЛ. – Ф. 694. – В. 3. – Спр. 1151. – Арк. 43, 114.

набожнасьцю, учцівасьцю і добрымі ўчынкамі зьяўляецца прыкладам для ўсіх веруючых, не шкадуе для дабра Касьцёлу Рымска-Каталіцкага і парафіян сваёй працы, трудоў і здароўя. Дзякуючы гэтаму ня толькі рымска-каталіцкая, але і праваслаўная люднасць пачала хадзіць да Касцёла...»[578]. Аналагічны ліст з просьбаю пакінуць у парафіі кс. Францішка Рамейку і подпісамі ад 16.06.1928 г. да Віленскага арцыбіскупа кс. Р. Ялбжыкоўскага быў дасланы ад парафіянаў з ваколіцы[579]. Такая актыўная ўсенародная падтрымка вернікамі свайго святара падштурхнула другі бок, прапольскі, да свайго ліставання з архібіскупам. У сваім паданні ад 13.08.1928 г. яны, між іншым, адзначаюць, што ў той час, калі ідзе сцвярджэнне польскасці на Крэсах і польскай культуры, якая тут мае глыбокія традыцыі, кс. Ф. Рамейка не разумее гэтага, ён далёкі ад гэтых традыцый. Сярод польскага люду ён пачаў праводзіць беларускую агітацыю, распаўсюджваць «Крыніцу» аж ад 1921 г., беларускія кнігі, брашуры, каляндары і г. д., пачаў ужываць у школах беларускую мову ў выкладанні рэлігіі. Сам сцвярджае, што ён беларус, і яго абавязак абеларусіць дзяцей, каб не спольшчыліся, «каб не калечыць беларускіх дзяцей», дапамагае той люднасці, якая была раней польскай, ствараць беларускія школкі. Кс. Рамейка бярэ прыклад ад літоўскіх ксяндзоў, якія ў перадваенны час стварылі неіснуючую літоўскую праблему, галоўная мэта якой – супрацівіцца польскасці. Згадваліся і іншыя грахі кс. Францішкі Рамейкі, да прыкладу: перашкаджаў ён, чым толькі мог, у будаўніцтве польскай школы ў Задарожжы; пры выбарах у Сойм агітаваў за беларускі спіс і іншыя яго дзеянні, якія звязаныя ў асноўным з яго беларускасцю[580]. З абвінавачваннем у антыпольскай дзейнасці накінуўся на кс. Ф. Рамейку «Dzionnik Wilenski» (1928, № 186). У абарону святара парафіяльны камітэт на адрас рэдакцыі даслаў ліст, у якім даводзіў, што «кс. Ф. Рамейка не агітуе нас супраць Польшчы, як піша газета, а катэхізацыю і навукі ён праводзіць у той мове, якая зразумела і дзецям і нам»[581]. Зразумела, што для Віленскага архібіскупа Р. Ялбжыкоўскага больш пераканаўчымі былі абвінавачванні кс. Ф. Рамейкі. 7 сакавіка 1929 г. ён праінфармаваў Міністэрства веравызнанняў і асветы ў Варшаве аб «замешчонай транслакацыі Кс. Ф. Рамейкі, пробашча ў Задарожжы, пав. Дзісненскага, на пробашча да Кямелішак»[582].

Парафія Кямелішкі (Варнянскі дэк.) карысталася нядобрай славай. У наваколлі дзейнічала нейкая банда, якая рабавала і мардавала людзей. Так, 8 лістапада 1924 г. у наваколлі Кямелішак знайшлі забітым кс. Вінцэнта Баневіча (лічыў сябе беларусам). Дзякуючы мясцоваму краязнаўцу Алесю Юркойцю сталі вядомыя некаторыя факты гэтай трагедыі. Стан забі-

[578] ДГАЛ. – Ф. 694. – В. 3. – Спр. 1151. – Арк. 46.
[579] Там жа. – Арк. 45.
[580] Там жа. – Арк. 48.
[581] Там жа. – Арк. 17.
[582] Там жа. – Арк. 51.

тага святара сведчыў, што над ім доўга здзеквалася група бандытаў. Бандыты былі з мясцовых і мардавалі святара ў мэтах рабаўніцтва. Краязнаўцам была адшукана і магіла забітага святара на могілках м. Каркожышкі (Літва)[583]. Дарэчы, напады на ксяндзоў у мэтах рабаўніцтва адбываліся ў гэты час і ў іншых месцах, да прыкладу ў Дзеркаўшчыне (Глыбоцкі дэканат)[584].

Папярэдні пробашч Кямелішскай парафіі кс. Гілярый Даніловіч ніякай беларускасцю тут не займаўся, больш таго, відаць, знішчыў і тыя парасткі беларускага, якія тут спрабаваў быў пакінуць кс. В. Баневіч. 11.04.1929 г. кс. Ф. Рамейка прыняў парафію. Але распачаць душпастырскую працу ў Кямелішках з такім жа размахам, як і ў папярэдніх парафіях, было не суджана. Касцёльныя ўлады неўзабаве забаранілі праводзіць Сьв. Імшу і, увогуле, займацца царкоўнымі справамі. Шматлікія рапарты кс. Ф. Рамейкі ў Віленскую курыю да архібіскупа наконт магчымасці станоўчага развязвання праблемы і адпаведнага дазволу займацца сваёй працай на працягу больш як двух гадоў заставаліся безвыніковымі[585]. Нагадаем, што перад гэтым былі яшчэ два гады забароны выкладаць рэлігію ў школе. Адхіленне ад касцёла, ад душпастырскай працы – сітуацыя для святара вельмі прыгнечаная, ганебная і нервовая. Знешне выглядала, што прычынамі ўсяму з'яўляецца беларускасць (гэта значыць – антыпольскасць) кс. Ф. Рамейкі. Тут праблема магла б быць вырашанай пераводам у польскую парафію з паніжэннем у пасадзе, альбо высылка з краю (што практыкавалася ў адносінах да шматлікіх беларускіх святароў) альбо праз суд і Макатоўскую турму (як было з кс. Вінцэнтам Гадлеўскім), але ўлады быццам спецыяльна марудзілі.

Урэшце, 17.06.1931 г. прагучаў той трагічны стрэл, і пасля амаль што ўсе перыядычныя выданні ў Вільні падалі інфармацыю пра самагубства пробашча. Паводле афіцыйнай версіі кс. Ф. Рамейка пасля працяглай хваробы скардзіўся на трывожныя сімптомы нервовага знясілення і маніі праследу. 16 чэрвеня ён пракансультаваўся з некалькімі лекарамі, але тыя не пацвердзілі такога дыягназу. А 17 чэрвеня каля 4 гадзін апоўдні на кватэры кс. Адама Станкевіча выстралам з пісталета абарваў сябе жыццё[586].

«Беларуская Крыніца» тлумачыла такі шалёны крок пробашча прычынамі псіхалагічнага і фізіялагічнага характару. Маўляў, кс. Рамейка належыў ды тых ксяндзоў-адраджэнцаў, якія моцна адчувалі адвечную крыўду беларускага народу, з якога яны выйшлі, і стараліся яму дапамагчы. Але ў сваёй працы напаткалі вельмі шмат перашкодаў з боку польскіх духоўных і свецкіх уладаў. На кс. Рамейку моцна паўплывалі такія падзеі,

---

[583] Астравецкая праўда. – 2013. – 24 сакавіка [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: http://www.ostrovets. by/news/obshchestvo/istoriya/news3997.html

[584] Bandyty nia dremiać // Krynica. – 1924. – № 27. – 11 kastryčnika. – S. 4.

[585] ДГАЛ. – Ф. 694. – В. 3. – Спр. 1151. – Арк. 56, 57, 64.

[586] Tragiczny zgon ks. Franciszka Romejki // Wiadamości Archidiecezalnie Wileńskie. – Wilno, 1931. – № 11–12. – 10–25 czerwca. – S. 174.

як перавод кс. В. Шутовіча ў польскую парафію, суд над кс. В. Гадлеўскім і зняволенне ў турму, забарона віленскім архібіскупам чытаць святарам «Беларускую Крыніцу» і належыць да БХД. Сітуацыю ўскладнялі хваробы: грып, пухліна ў галаве і запаленне суставаў. Пасля трохмесячнага знаходжання ў бальніцы, ён быў слабым, разбітым і знерваваным. Скончыў жыццё выстралам з пісталету, які меў пры сабе[587]. Да гэтага яшчэ можна дадаць, што самастрэл адбыўся на кватэры кс. Адама Станкевіча ў час яго адсутнасці. Пытанне, каму належаў пісталет, не столькі ўжо і важнае, але больш праўдападобным выглядае той факт, што ў сувязі з крымінальнай абстаноўкай у акрузе Кямелішак (пра што ўжо гаварылася) кс. Ф. Рамейка меў дазвол на нашэнне зброі.

Віленская прапольская газета «Słowo» напісала пра нябожчыка вельмі цёплы ўспамін, як аб чалавеку вялікай ахвярнасці і ідэі, які свае сілы і здароўе аддаў для дабра парафіі і які за сваю ідэйнасць і чыстасць характару заслужыў на любоў усіх: «Трагічная смерць каплана, глыбока рэлігійнага і ахвярна аддадзенага працы душпастырскай, была страшнай і нечаканай для атачэння... Страцілі мы, сапраўды добрага каплана і праслаўненага намі, парафіянамі, пробашча, але гэтая смерць яго нас не згоршыла, імя ягонае застанецца надоўга ў нашых сэрцах». Пасля сябе пакінуў ліст, у якім прасіў апекавацца сваёй сястрой і ліст той закончыў роспачным выкрыкам: «Я больш не магу! Прабачце!»[588].

Гаворачы аб трагедыі кс. Ф. Рамейкі, нельга не згадаць адну важную дэталь. У асабістай справе кс. Ф. Рамейкі знаходзіцца цікавы ліст ад 20.01.1928 г. ад нейкай Марыі Апецёнак, якая працавала ў 1921–1922 гг. гаспадыняй у кс. Ф. Рамейкі ў Задарожжы. Дык вось, былая гаспадыня ў лісце даводзіць, што кс. Ф. Рамейка з'яўляецца прычынай граху, які пацягнуў за сабой з'яўленне на свет дзіцяці – дачкі Ядвігі. У сувязі з гэтым яна вымушана была (з просьбы кс. Ф. Рамейкі) выехаць, але кс. Рамейка (як бацька дзіцяці) не дапамагаў, і ёй было вельмі цяжка з дзіцём, і яна пайшла на споведзь і усё расказала ксяндзу, той даў параду звярнуцца ў Віленскую рымска-каталіцкую кансісторыю з просьбай «аказання ўплыву на кс. Ф. Рамейку з мэтай выдзялення мне сталай дапамогі на дзяцятка…» і калі не будзе патрэбных для яе вынікаў, з аналагічнай просьбай яна звернецца ў Міністэрства веравызнанняў і адукацыі ў Варшаве...[589].

Паводле стылю дадзенага ліста відавочна адно, што не сама М. Апецёнак пісала ліст: цяжка сказаць і аб сапраўднасці фактаў, выкладзеных у лісце. Больш таго, у вёсцы ўсё жыццё на відавоку, тым больш жыццё ксяндза: сама Апецёнак піша, што «ёсць сведкі, якія могуць пацвердзіць, што

---

[587] Samahubstwa ks. Franciška Ramiejki // Biełaruskaja Krynica. – 1931. – № 22. – 27 červienia. – S. 1–2.

[588] Tragiczny sgon ś. p. ks. Fr. Ramejki // Słowo. – 1931. – № 137. – 18 czerwca; Samahubstwa ks. Franciška Ramiejki // Biełaruskaja Krynica. – 1931. – № 22. – 27 červienia. – S. 1–2.

[589] ДГАЛ. – Ф. 694. – В. 3. – Спр. 1151. – Арк. 34.

ў часе сваёй службы ў названага ксяндза, не мела аніякай блізасці і знаёмстваў з іншымі мужчынамі, і ніхто да яе не прыходзіў». Той, хто быў аўтарам гэтага ліста, добра ведаў, што на такі непераканаўчы довад і сапраўды можна было знайсці сведкаў з ліку тых жа паноў, якія з першых дзён з'ўлення ксяндза-беларуса ў парафіі ўспрынялі яго варожа. З другога ж боку, нават сам факт заляцання кс. Ф. Рамейкі, які на вёсцы схаваць вельмі цяжка, тут жа стаў бы набыткам галоснасці, і ворагі кс. Ф. Рамейкі абавязкова выкарысталі б яго, але ў іх вельмі негатыўных лістах у Курыю пра ксяндза-беларуса маральны бок святара не кранаецца. У той жа час, у адным з лістоў парафіянаў арцыбіскупу ў абарону кс. Ф. Рамейкі ёсць цікавы допіс: «…А што да асобаў, якія непрыязныя да нашага Ксяндза Пробашча і злажылі свае подпісы, то мы, як дэлегацыя хацелі бы, каб Ваша Эксцэленцыя выясніла іх маральнасць»[590]. Больш таго, наўрад ці сталі б так актыўна абараняць такога святара і самі парафіяне, калі б нешта было падазронае, а так наадварот: парафіяне падкрэсліваюць высокую рэлігійную пераканананасць, маральнасць і святасць свайго пробашча кс. Ф. Рамейкі.

У сувязі з гэтай трагедыяй узнікала вельмі шмат пытанняў, на якія ніхто так і не здолеў даць адказу. Што застаўляла кс. Францішку Рамейку на працягу больш як двух гадоў весці інтэнсіўную перапіску з Віленскай курыяй на прадмет сваёй невінаватасці (лісты, дарэчы, захоўваюцца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы (Ф. 694. – В. 3)). Ці стаў бы ксёндз страляцца, калі б ён быў на самай справе такім віноўнікам?! Ці стаў бы кс. Ф. Рамейка так актыўна і бясстрашна абараняць беларускасць і выступаць супраць польскіх уладаў, ведаючы аб магчымым кампрамаце на сябе? Менавіта як ксёндз ён паклаўся б на волю Божую і рабіў бы тое, што ад яго патрабуюць, і Бог для яго быў бы адзіным суддзёй. Чаму на працягу трох з паловай гадоў (Ліст Марыі Апецёнак датуецца ад 20.01.1928 г.) духоўныя ўлады здзекаваліся псіхалагічна і маральна над кс. Ф. Рамейкам? І нарэшце, што мяшала арцыбіскупу пазбавіць кс. Ф. Рамейку духоўнага сана за такі праступак? Ці не была гэта Апецёнак арыгінальнай ідэяй Віленскай курыі, якім чынам можна было б пазбавіцца ад яшчэ аднаго няўгоднага ўладам беларускага святара, бо ўсе астатнія метады – высылкі, пераводы, суды і турмы – рабілі вельмі шмат непатрэбнага шуму?..

Як бы там не было, але атрымліваецца, што апошнім штуршком да псіхічнага разладу асобы стала пазіцыя Віленскай курыі, дзе ўсе цудоўна разумелі, у чым справа (якой хутчэй за ўсё і не было), і толькі адзін кс. Ф. Рамейка нічога не разумеў. А як было зразумець, калі свядомая крывадушнасць зыходзіла ад людзей, якія божай клятваю былі заручаны змагацца з усякай няпраўдай і хлуснёй – тут, і сапраўды, вельмі цяжка захаваць веру ў людзей і цвярозы розум.

Заўвага кс. Язэпа Германовіча, які добра ведаў свайго калегу наконт таго, што «…Рамейка ня мог перанесьці націску палітычнай і духоўнай

[590] ДГАЛ. – Ф. 694. – В. 3. – Спр. 1151. – Арк. 46.

улады супраць беларускай дзейнасьці ў касьцёле і ў парахвіі…»[591], наводзіць на думку, што наўрад ці сам кс. Ф. Рамейка ведаў пра той ліст Марыі Апецёнак.

Ва ўсякім разе, як бы не было, але выходзіць на тое, што сваёй «палітыкай» вельмі жорства адпомсціла Віленская курыя свайму калегу за яго беларускасць. Пахавалі кс. Ф. Рамейку (з дазволу курыі) на Бернардынскіх могілках у Вільні паводле хрысціянскіх рытуалаў; працэсія праходзіла ранкам, каб ніхто не бачыў і не ведаў дзе. Сёння магіла яго застаецца невядомай.

## 2.3. ДЗЕЙНАСЦЬ КСЯНДЗОЎ-ПАЛАНІЗАТАРАЎ

*(кс. С. Мацievіч, кс. Р. Дроніч, кс. Ю. Бародзіч, іншыя)*

Пра польскі характар каталіцкага касцёла на этнічных беларускіх тэрыторыях даволі шмат ужо гаварылася ў папярэдніх параграфах. У рымска-каталіцкіх парафіях, нягледзячы на пераломныя моманты, і далей стала працавалі шматлікія ксяндзы, якія праводзілі сваю душпастырскую працу паводле склаўшыхся стэрэатыпаў непадзельнасці польскасці і касцёла. Няма сэнсу гаварыць пра кожнага з іх – тыповы прыклад такога ксяндза і яго працы добра ахарактарызаваны на старонках «Крыніцы» самімі парафіянамі. Да прыкладу, нехта «Барунскі» пісаў, што сялянам вельмі цяжка было дайсці да пазнання саміх сябе, бо іх пробашч кс. Мікульскі ўбіваў ім у галаву, што яны польскай веры і павінны быць палякамі; не хацеў ён закладваць беларускія школкі і выпісваць беларускія газеты, а ўсё вярнуў іх на Польшчу: «...Словам, гэта быў нейкі панскі ксёндз, ён аб беларусу селяніну не дбаў...»[592].

Зразумела, што такія «панскія ксяндзы» актывізаваліся ў перыяд польскай акупацыі 1919–1920 гг. Парадаксальнасць такой сітуацыі была ў тым, што з развіццём і станаўленнем польскай дзяржаўнасці, з аднаго боку, і з ростам беларускай свядомасці і нацыянальнага адраджэння – з другога, польскі характар касцёла набывае яшчэ большыя рысы ваяўнічасці, запалітазаванасці і нейкай сляпой веры «панскіх ксяндзоў» у польскую выключнасць. Так, у карэспандэнцыі «Крыніцы» (1921 г.) паведамлялася, што ксяндзы не трацяць надзеі на свае палітычныя правы. Ідучы за прыкладам кс. Любянца паволі, але ўпорыста стараюцца зрабіць з касьцёлаў мітынговыя залі. 28.III., напрыклад, у Астрабрамскім касьцёле з амбоны людзі даведаліся многа чаго новага, а асабліва, што беларус, літвін, француз і ўсе іншыя нацыі ня могуць лічыць на апеку Маткі Боскай і іншых сьвятых. Нават і тыя, каторыя будуць галасаваць за Літву ці Беларусь не могуць лічыць на іх ласку, бо ўсе яны (сьвятыя) апякуюцца толькі палякамі»[593].

---

[591] Германовіч, Я. Мае прыяцелі – Францісь Рамейка / Я. Германовіч // Божым шляхам. – 1965. – № 3. – С. 6–7.

[592] Barunski. Baruny, Ašmianskaha pawietu // Krynica. – 1919. – № 4. – 14 wieraśnia. – S. 3.

[593] Z Wilni. Ksiandzy palitykujuć // Krynica. – 1921. – № 10. – 3 krasawika. – S. 4.

Пасля падзеяў 1921 г. польскае каталіцкае духавенства, заручыўшыся падтрымкай як свецкай, так і духоўнай уладаў, стала яшчэ больш шчыраваць у беларускіх парафіях з адкрытай прапагандай і дэманстрацыяй польскасці, змаганнямі з беларускімі каталіцкімі і ўніяцкімі святарамі, забаронамі беларускамоўных набажэнстваў і казанняў, забаронамі беларускай мовы ў навучанні дзяцей рэлігіі ў школках і іншых навучальных установах. Непрызнанне, ігнараванне і нават прыніжэнне беларускасці адбывалася ў шматлікіх беларускіх каталіцкіх парафіях, праваднікамі чаго выступалі ў большасці ксяндзы-паланізатары. Усё гэта сеяла сумненні, недавер і нават страх у справе ўсведамлення беларускасці ў асяродку тых святароў, якія сваім паходжаннем залічвалі сябе да беларусаў, але выступіць адкрыта ў яе абарону не асмеліваліся. І нават у абмеркаванні беларускіх справаў не было аднадумства і сярод беларускіх святароў, пра што сведчаць шматлікія ліставанні. Цікавую думку выказаў кс. Казімір Бурак у лісце да кс. Язэпа Рэшаця: «На пісьмо Яго міласьці да мяне 13.05.1925 г. – мой адказ: на № 1 пасылаю сваю згоду, а на № 2 і № 3 – не. Гэта трэба разьясьніць на зьезьдзе Ксяндзоў і нашага біскупа. Тутака палітыка. Хто можа заручыць, што маскоўцы ня прыйдуць за колькі лет і не захочуць даць нам па касьцёлах мовы расійскай. Як і чым абаронімся?»[594].

З другога боку, такая антыбеларуская дзейнасць каталіцкіх духоўнікаў не надавала ў краі ім аўтарытэту і павагі сярод каталікоў-беларусаў. Так, на старонках «Przeglądu Wilenskiego» кс. У. Талочка ўступіў у распачатую на старонках друку палеміку з нагоды публікацыі ў газеце «Siowa» артыкула на тэму: чаму польскія ксяндзы трацяць уплывы на «крэсах». Так «Słowa» сцвярджала, што гэта не залежыць ад польскіх ксяндзоў альбо біскупскай ерархіі – ува ўсім вінаватыя ксяндзы літвіны і беларусіны… Кс. У. Талочка пералічыў сем прычын падзення аўтарытэту польскага духавенства, сярод іх: «Люд наш што раз радзей чуе з вуснаў ксяндзоўпалякаў добрыя казаньні ў выключна рэлігійным характары. Заместа гэтага што раз часьцей яго кормяць з касьцельнай амбоны казаньнямі на нацыянальныя, палітычныя, сацыяльныя, эканамічныя тэмы… Сёньня, што раз часьцей можна чуць ад саміх палякаў, што такія казаньні занадта празьмерныя»[595].

Кс. І. Бобіч у лісце ад 2.XII.1923 г. пісаў кс. У. Талочку з нагоды яго артыкула, што як паляк, так і беларус у сутане будзе траціць уплыў, калі ён не тое, чым павінен быць – ксяндзом… «Ведаю ксяндзоў-беларусаў, якія ня маюць ніякага ўплыву, ведаю палякаў, якія моцна трымаюць свае парафіі. Люд наш менш цікавіцца нацыянальнасьцю ксяндза, чым яго маральнай вартасьцяй… Але неяк так атрымліваецца, што ксяндзы-бела-

---

[594] ЦНБНАНБ. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 23. – В. 1. – Спр. 33 «С». – Арк. 7.

[595] Gardiner. Dlaczego ksiądz polski traci u nas coras bardzej swe wpływy // Przegląd Wilenski. – 1923. – № 20. – 26 listopoda.

русы лепш сябе паводзяць, чым ксяндзы-палякі (гавару найперш пра Дзісненшчыну), але ёсьць і выключэньні…»[596].

Кс. Я. Германовіч быў больш катэгарычным з нагоды гэтай палемікі: «Траціць і будзе траціць! – заявіў ён. – Ксёндз палітык, ня важна хто ён – Літвін, Беларус, Паляк – будзе траціць… Калі каталіцкае духавенства не адчуе біццё сэрца тутэйшага люду і далей будзе парушаць асабістыя народныя погляды, памылак не пазьбегнуць…»[597].

Прыкладаў не зусім ксяндзоўскай і рэлігійнай дзейнасці такіх пастыраў можна прывесці вельмі шмат. Аператыўна на гэтыя з'явы рэагавала аднаўленая кс. Адамам Станкевічам «Крыніца». Адзін з першых, хто ў такім амплуа з'явіўся на яе старонках, быў Ашмянскі дэкан кс. Часлаў Гурскі: «...Наш дзекан кс. Гурскі даўно ўсіх нас на палякаў перарабляе. Чаго ён толькі не рабіў, каб да гэтай мэты дайсьці! Пад яго націскам так шмат пісалася фальшывага з Ашмяншчыны ў польскія газеты, што, чытаючы іх, здаецца, што ўжо беларуская Ашмяншчына сталася чыста польскай, мазурскай...»[598]. На гэты допіс кс. Гурскі адрэагаваў, бо ў адным з нумароў газеты пад рубрыкай «Свая пошта» можна прачытаць наступнае: «Ксяндзу Гурскаму ў Ашмяне: Пісьмо Ваша мы атрымалі. Пішыце, што вы шмат зрабілі добрага для беларускага люду. Аб гэтым добрым мы даволі ведаем з газеты «Наш Край» і з пісьмаў, пісаных да нас з Ашмяншчыны. Няма чым хваліцца»[599]. Пра кс. Гурскага яшчэ пісалі ў «Крыніцу», што на фоне адраджэння беларускасці ў Ашмяне ёсць адна бяда – кс. Гурскі, які ладзіць нейкі камітэт, каб далучыць Беларусь да Польшчы на такіх правах, на якіх яна належыла да Расеі[600]. Пільна адсочваў Ашмянскі дэкан дзейнасць беларускага святара М. Пятроўскага ў Барунскай парафіі. Бывалі выпадкі, калі апошняму прыходзілася праводзіць казанні на польскай мове, бо на набажэнствах прысутнічалі даносчыкі з Ашмяны дэкана Гурскага і агенты тайнай паліцыі[601]. Дарэчы, на старонках «Крыніцы» адзначалася, што Баруны з'яўляюцца беларускім мястэчкам, і людзі разумеюць, што яны не палякі ці рускія, а беларусы католікі ці праваслаўныя.

Але найбольш выдзеліўся ў барацьбе з беларускасцю у Барунах кс. С. Мацievіч – дэпутат Польскага Сойму, абіраўся па Бельскай акрузе, вядомы сваёй непрыхільнасцю, нават нянавісцю да ўсяго беларускага. Кс. Мацievіч неяк выступаў у Барунах на мітынгу з агітацыяй за Польшчу, маўляў, тут ёсць і будзе, але людзі не вельмі яго слухалі, і яму прыйшлося

---

[596] ЦНБНАНБ. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 23. – В. 1. – Спр. 792. – Арк. 14.
[597] Winzuk Ad. Dlaczego ksiądz wpływy traci? // Przegląd Wilenski. – 1924. – № 7. – 13 kwecien.
[598] Parachwijanin. Ašmiana // Krynica. – 1919. – № 3. – 7 wieraśnia. – S. 2.
[599] Swaja počta // Krynica. – 1919. – № 10. – 23 listapada.– S. 4.
[600] Ašmiančuk. Ašmiana // Krynica. – 1920. – № 13. – 20 červienia.– S. 3.
[601] Ksiandzy biełarusy połonizatory // Krynica. – 1921. – № 11. – 10 krasawika. – S. 3.

перайсці на крык, даводзячы, што «ўсе каталікі з'яўляюцца палякамі і павінны гарнуцца і маліцца за Польшчу, і каб помнілі, што ў Польшчы вельмі шмат гарматаў». А ў красавіку 1921 г. на свяце з нагоды гадавіны вызвалення ад бальшавікоў на Лукішскім пляцы кс. Мацієвіч публічна аблаіў беларускага клерыка Казіміра Смульку за тое, што той меў няшчасце прысутнічаць на мітынгу ў Барунах і расказаць пра «гарматы» ў Вільні[602]. Яго дзікасць праяўлялася неаднойчы – паведамляе «Крыніца». Так, пры абвяшчэнні папскай буллы з нагоды прызначэння кс. Э. Ропа на пасаду Магілёўскага архібіскупа була зачытвалася на розных мовах (лаціне, літоўскай, польскай, рускай) і толькі, калі кс. Л. Хвецька стаў чытаць на беларускай, кс. С. Мацієвіч у касцёле Св. Кацярыны (у Пецярбургу) публічна, груба і дзіка запратэставаў супраць гэтага. Такой дзікай выхадкай ксяндза дзівіліся нават іншыя ксяндзы-палякі[603]. Вацлаў Ластоўскі пісаў: «Да якой меры даходзіць польскі шавінізм паміж духоўнымі палякамі, сведчыць гэткі факт: кс. пасол Мацяевіч, візітуючы беларускую сярэднюю школу ў Барунах, пагражаў вучням: «Кулька ў лоб кожнаму, хто будзе чытаць беларускія кніжкі»[604]. Праўда, наколькі словы пра «кульку» належылі дэпутату Сойма ксяндзу С. Мацієвічу, можна паставіць аддзельна пытанне. Паводле цытуемага дакумента Беларускай школьнай рады ў «Нашай Думцы» так выказваўся 14.03.1921 г. у інтэрнаце беларускага прытулку перад дзяцьмі ўзброены карабінам і шабляй паліцыянт пастарунку ў Барунах Кірдзік[605]. Але наўрад ці хто засумняваўся ў тым, што, калі ксёндз гаварыў пра гарматы, дык мог сказаць і пра кульку. Рэзананс ад шавіністычна-эндэцкай дзейнасці ксяндза адгукнуўся не толькі ў беларускім друку. Нават у рускамоўнай дэмакратычнай газеце «Виленское Слова» (1921, № 145, ад 11 лютага) быў змешчаны артыкул «Ксёндз Мацеевіч і беларусы», у якім праваслаўны беларус з добрым веданнем справы бараніў свой народ ад нягодных нападак панскага ксяндза[606].

Тварэннем ксяндза-дэпутата была брашурка «Права парафіян у Касьцёлах Каталіцкіх на крэсах»[607], якую ён выдаў з грыфам Imprimatur (дазволу) генеральнага вікарыя ў Варшаве ад імя ксяндзоў паслоў Варшаўскага сойму. Сутнасць зместу брашуркі зводзілася да аднаго: палякі-католікі, якія больш як сямсот гадоў жывуць у Віленскай (паводле зместу

---

[602] Папроцкі Д. Dzikaść Ks. Maciewiča // Krynica. – 1921. – № 13. – 23 krasawika. – S. 2; Ę. Panskija ahitatary // Krynica. – 1921. – № 13. – 23 krasawika. – S. 4, 6.

[603] Папроцкі Д. Dzikaść Ks. Maciewiča // Krynica. – 1921. – № 13. – 23 krasawika. – S. 2.

[604] Ластоўскі, В. Канкардат / В. Ластоўскі // Крывіч. – 1925. – № 9 (1). – С. 94–98; Перадрук: Ластоўскі, Вацлаў. Канкардат / Вацлаў Ластоўскі // Творы. – Мінск : Беларускі кнігазбор, 1997. – С. 370.

[605] С. Цяжкі лёс Беларускае Вучыцельскае Сэмінарыі ў Барунах // Наша Думка. – 1921. – № 14. – 8 красавіка. – С. 4.

[606] З беларускага жыцьця // Наша Думка. – 1921. – № 7. – 18 лютага. – С. 6.

[607] Prawa parafian w Kosciolach Katolickich na kresach. – Warszawa, 1921. – 16 s.

больш аднаго мільёна палякаў), Гродзенскай і Мінскай землях, павінны строга трымацца свайго польскага звычаю ў касцёле, бо так было здаўна і так павінна быць і не паддавацца ворагам Польшчы, якія хочаць стварыць з іх новыя народы – літоўскі, беларускі і ўкраінскі і заводзяць свае мовы ў касцёле[608]. (Гл. дадатак 8). Галоўная мэта гэтай кніжкі, пісаў кс. В. Шутовіч, закрэпасціць для польшчыны беларуса-каталіка і зрабіць з яго з часам паляка[609].

На зямлі, звязанай з жыццём і дзейнасцю патрыярха беларускага адраджэння Францішка Багушэвіча, не толькі гурскія і маціевічы ваявалі супраць беларускасці. Так, вайсковы біскуп Бандурскі агітаваў у Ашмянскім павеце: «Трымайцеся моцна Мацеры Польшчы, бо згінеце з голаду»[610].

«У Солах пробашч Курпіс кожную нядзелю з амбоны ў касьцёле беларусам (там усе беларусы) тлумачыць, што ані беларусаў, ані ліцьвінаў няма, ня будзе і быць ня можа, што ўсе палякі і ўсе да Польшчы павінны належаць... Праўда, – так часам тлумачыць кс. Курпіс, – цяпер паўстаюць нейкія і беларусы, але ўсім трэба быць палякамі. І, калі да вас прыйдзе які беларус, дык вы яго ганіце вон...»[611]. Газета «Наша Думка» пракаментавала гэты выпадак наступным чынам: «Усе польскія ксяндзы без канца наракаюць на працу ксяндзоў-беларусаў дзеля таго, што, кажуць, палітыкай ксёндз займацца не павінен. А тым часам гэтага рабіць ня можна толькі беларусам, бо яны самі палітыкуюць нават і ў касцёле»[612].

Не выпадковым з'яўляецца і тое, што такія ксяндзы, як Курпіс, працавалі ў беларускіх парафіях не год ці два, а дзесяцігоддзямі, закладваючы такім чынам трывалы грунт польскасці ў парафіі – традыцыі на польскага ксяндза [613]. Пра ксяндза Курпіса (Курпіча) згадалі яшчэ раз беларускія газеты ў 1929 г. у артыкуле «Рэлігійны фанатызм». Парафіянін пісаў, што Сольская парафія знаходзіцца ў шмат горшым палажэнні, чым суседнія, бо сюды рэдка трапляе зерне беларускай свядомасці, а навокал пануе цемра... І нават пробашч кс. Курпіч, замест таго, каб усестаронне развіваць парафіянаў, прытрымліваецца старых парадкаў і «стараецца вытварыць нянавісць сярод насялення розных рэлігій». І калі дзяўчына з в. Кушляны выйшла замуж за старавера з в. Слабада, ксёндз загадаў усёй в. Кушлянам цэлы месяц насіць жалобу, а на памятку гэтага «смутнага» здарэння загадаў у Кушлянах паставіць крыж [614].

---

[608] Prawa parafian w Kosciolach Katolickich na kresach. – Warszawa, 1921. – S. 3–5.
[609] W. S. Ahlad biełaruska-katalickaha žyćcia na Biełarusi u 1921–1922 h. // Krynica. – 1923. – № 5. – 25 traunia. – S. 3.
[610] K. Panskija ahitatary // Krynica. – 1921. – № 13. – 23 krasawika. – S. 4.
[611] Ksiondz palitykuje // Krynica. – 1921. – № 13. – 23 krasawika. – S. 6.
[612] У Солах пробашч гаворыць няпраўду // Наша Думка. – 1921. – № 18. – 6 траўня. – С. 5.
[613] Дарэчы, такая традыцыя ў Солах захавалася да XXI ст.
[614] Лісты. Сольскі парахвіянін. Рэлігійны фанатызм. Сольская парафія, Ашмянскага пав. // Народ. – 1929. – № 1. – 20 лютага. – С. 1.

«Маем адну бяду, – паведамляў аўтар з м. Крэва. – Людзі кажуць, што пакараў нас Бог спярша вайною, а цяпер ксяндзом. Пробашчам у нас кс. Рамецкі. Ну і ксёндз, няхай Бог бароніць. Аб Богу, аб Евангеліі ён нічога і не тлумачыць. Усё лаіцца. Лаіць то нашага кс. А. Станкевіча, то каго іншага. А гэта дзеля таго, што ён за паноў абстаіць, простых ён не апраўдуе. Як было галасаваньне, дык кс. Рамецкі аж пеніўся, як намаўляў галасаваць за № 8. А было і так, што грошы плаціў тым, хто разносіў № 8. У Багданаве на фэсьце Сьв. Міхала, дык ён з воза намаўляў за № 8, але сяляне прагналі. З гэтай яго за паноў агітацыі нічога і ня выйшла. Цяпер людзі сьмяюцца, кажуць, што кс. Рамецкі, езьдзячы па Калядзе замест абразкоў можа раздаваць № 8. Адным словам, ксёндз нам не ўдаўся...»[615].

Не ўдаўся, відаць, ксёндз і ў Трабах Ашмянскага пав. – кс. І. Кондрат, які ідзець проціў беларускіх школ. «Школы гэты яму неяк коляць вока, – піша «Крыніца». – Ён іх ня можэць цярпець. Пробашчу, апомніся, за цябе гэта зробіць паліцыя, гэта не твая справа!», – іранізуе аўтар «Крыніцы»[616].

З суседняга Валожынскага пав. нехта N-ski пісаў, што ў іх мястэчку N. (Налібокі (?)) ёсць прыгожы мураваны касцёл, у якім пробашчам з'яўляецца кс. Х. – заядлы ненавісьнік сваіх парафіян і ўсіх беларусаў. Кс. Х. актыўна выступае супраць беларускага руху, называючы яго бальшавіцкай інтрыгай, лае з амбоны на свайго парафіяніна – беларускага дзеяча, а сялянаў (сваіх парафіян) называе «быдлам беларускім»[617].

Не лепшым з'яўляецца і ксёндз Браніцкі, пробашч у Забрэззі (Валожынскі пав.), які «надта ня любіць беларусаў, як ездзіў па калядзе, і калі спатыкаў дзе дзяцей, што вучацца па-беларуску, дык з той вёскі людзей усіх тады зваў бальшавікамі. Дык цікавіць, чаму так паступае духоўная асоба і ці ж ня ведае, што гаварыць глупствы і брыдка і неразумна[618].

Паводле інфармацыі невядомага аўтара з Івянца, пробашч кс. Жаброўскі, вядомы паланізатар, праводзіў моцную акцыю супраць актывізацыі беларускай нацыянальнай працы ў мястэчку ў 1917–1919 гг. Спярша ён стварыў «Коло млодзежы польскай», але ў «Кола...» прыйшло толькі некалькі кабет, і тады ксёндз стаў агітаваць адкрыта супраць беларускасці, у тым ліку і з амбоны. Цяперашнія ксяндзы больш апалітычныя, а адзін нават сімпатызуе беларусам, але эндэцкія ўлады на месцы робяць усё магчымае для замоўчвання і вынішчэння беларускага фактару і дэманстрацыі польскасці і паланізацыі[619].

Цікавым можа падацца пісьмо ў рэдакцыю з в. Шэмятова Свірскага пав. пра кс. Кусту, які ў касцёле гаварыў казанне пра тое, што беларускія

---

615 Kreuski. Krewa, Ašmianskaha paw. // Krynica. – 1923. – № 2. – 27 lutaha. – S. 10.

616 Koliać woka // Krynica. – 1921. – № 10. – 3 krasawika. – S. 4.

617 N-ski parachwijanin. «Bydło białoruskie» // Krynica. – 1921. – № 23. – 29 lipnia. – S. 5.

618 M. Zabreźzie. Wałożynski paw. // Krynica. – 1921. – № 17. – 27 traunia.– S. 4.

619 Ф. К. Мястэчка Івенец, Стаўпецкага пав. // Наша Думка. – 1921. – № 26. – 1 ліпеня. – С. 5.

ксяндзы ёсць фальшывыя прарокі, якія навучаюць наш польскі народ непраўдзіва, што кнігі іх трэба паліць і не спяваць іхнія песні, бо гэта грэх, і не слухаць беларускія навукі, бо гэта ўсё небяспечна для каталіцтва[620].

Не лепшай была сітуацыя і ў іншых рэгіёнах Заходняй Беларусі.

У шматлікіх карэспандэнцыях з месца аўтары пішуць пра адну вялікую праблему – праблему ксяндзоў-паланізатараў.

Так, Дзісненскі павет у 1917–1920-х гадах значна вылучаўся беларускім каталіцтвам: адкрываліся беларускія школкі і прытулкі, распаўсюджваліся беларускія газеты і часопісы, ствараліся гурткі БХД, праходзілі дэканальныя сходы з станоўчым вырашэннем пытанняў роднай мовы, і амаль што ў кожным касцёле гучала беларускае слова. Так, усплеск беларусізацыі Касцёла на Дзісненшыне, распачаты пры біскупе Э. Ропе ў 1917 г., у наступныя гады толькі развіваўся і рос, нягледзячы на перашкоды польскага клеру і свецкіх уладаў. Але пасля 1921 г. сітуацыя істотна змянілася на горшую, дзякуючы як мясцовым свецкім уладам, так і рэлігійным у асобах дэкана А. Асціловіча (той самы, хто ў 1904 г. залічваў сябе паводле нацыянальнасці да крывічоў)[621]. Так, кс. Антон Асціловіч[622] з'явіўся ў Міёрах нядаўна, дзесьці напрыканцы 1920 г. У карэспандэнцыі з Міёраў паведамлялася, што «ў нас тут ад некаторага часу пробашчам кс. А. Асціловіч. Покуль што пазнаець парафію… Кажа, што ён беларус і што мог бы гаварыць беларускія казанні, каб гэтага пажадалі людзі. Дык нас тут некаторых бярэ дзіва, чаму людзі ня хочаць, бо тут гаварылася беларускае казаньне і людзі прымалі яго дужа ахвотна…»[623]. Але ўсё інакш павярнулася, калі кс. Асціловіч стаў Міёрскім дэканам і ўжо ў першай палове 1921 г. заслужыў нядобрую славу найбольш актыўнага ганіцеля беларускасці на Дзісненшчыне. Кс. К. Стаповіч пісаў, што ўсе закіды дэкана Асціловіча зводзяцца ў адзін блудны круг, быццам польскасць – гэта эсэнцыя каталіцтва, а беларусы не могуць быць добрымі католікамі… А яшчэ настаўляў аб патрэбе малітвы да Маці Божай, каб яна дапамагла звесці беларускія навукі, інакш край могуць зноў далучаць да Масквы...[624].

Парафіянін з Міёраў інфармаваў, што «ў нас цяпер, як шмат каму ўжо ведама, працуе ксёндз Асціловіч, ненавісьнік беларускага адраджэньня. Ён не так даўно зрабіў фальшывы данос на кс. В. Шутовіча, вядомага беларуса, пробашча ў Барадзенічах, якога духоўныя ўлады заклікалі ў

---

[620] Swoj mir. Piśmo u redakcyju // Krynica. – 1921. – № 22. – 17 lipnia. – S. 8.

[621] Пробашч Пяскоўскага касцёла (Ваўкавыскі дэканат) Антон Асціловіч пісаў: «Имею честь почтительнейше донести, что я принадлежу к народности кривической...» (ліст ад 4.04.1904 г.). – Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. – Ф. 694. – В. 1. – Спр. 2797. – Арк. 10.

[622] Кс. Антон Асціловіч нарадзіўся ў 1969 г., пасвечаны ў святары ў 1895 г. Працаваў у розных парафіях Віленскай дыяцэзіі. У 1906 г. быў прызначаны пробашчам у м. Крэва, дзе распачаў будаўніцтва новага касцёла. Ад 1920 г. – пробашч касцёла ў Шаркаўшчыне і ў Міёрах.

[623] Bywały // Krynica. – 1921. – № 1. – 1 studnia. – S. 4.

[624] Ko-St. Śledam za dziedam // Krynica. – 1921. – № 21. – 10 lipnia. – S. 4.

Вільню і думалі пакараць, але хутка агледзіліся, што Асціловіч панапісваў на яго адны толькі глупствы»[625]. У наступнай карэспандэнцыі паведамлялася, што кс. Асціловіч выступае супраць сялянства. На сваёй плебаніі праводзіць прадвыбарныя сходы і сустрэчы польскіх кандыдатаў з выбаршчыкамі, агітуе за польскіх кандыдатаў і выступае супраць беларускіх ксяндзоў[626].

У Германовічах (Дзісненскі пав.) штогод адбываецца фэст – сарака-гадзіннае набажэнства, на якое прыязджаюць шмат ксяндзоў і раней абавязкова было беларускамоўнае казанне. У гэтым жа годзе «з'ехалася трохі ксяндзоў і ксяндзоў-беларусаў, як Пагоскі (кс. Баляслаў Шылка), Паркунскі, Задароскі (Францішак Рамейка) і іншыя, і яны хацелі казаць казанне па-беларуску, але пробашч Вярбоўскі не пазволіў»[627].

Сяляне з мястэчка Іказьнь (Дзісненскі пав.) скардзіліся на свайго пробашча Мацкевіча, які «пастанавіў змагацца з беларускім рухам і ў касьцёле нікому не дазволіць гаварыць беларускія казанні»[628]. Так, у Пагост на места кс. Я. Жука быў прызначаны ксёндз-паляк І. Славінскі, які на 40-гадзінным набажэнстве 17–19 верасня 1923 г. ані слова не прамовіў сам на беларускай мове і не дазволіў зрабіць гэта іншым ксяндзам, аргументуючы тым, што ён паляк, дык у яго парафіі ўсё павінна быць толькі па-польску. На гэта парафіяне пішуць, што няхай сабе ён будзе хоць французам, але калі ўся парафія беларуская, і ў касцёле часта гучала беларускае слова, дык ці варта было ксяндзу так іх крыўдзіць[629].

Яшчэ адзін аўтар з Дзісненшчыны пісаў у «Крыніцу» пра тое, як сярод сялянаў ксяндзы распаўсюджваюць шавіністычную польскую брашурку «Права парафіянаў у Касцёлах Каталіцкіх на крэсах»[630], як у польскіх газетах шальмуюць святароў-беларусаў, а дэкан Асціловіч усяляк стараецца абмежаваць праявы беларускасці ў рэлігійным і школьным жыцці парафіян, а там, дзе яшчэ застаюцца беларускія казанні, не абыходзіцца без вострай барацьбы паміж дэканам і мясцовымі пробашчамі, якія цвёрда абараняюць культурныя і рэлігійныя правы сваіх парафіянаў. Не зразумелай застаецца палітыка біскупа Матулевіча, які стаў прызначаць у беларускія парафіі Дзісненшчыны ксяндзоў-палякаў, да прыкладу – у Пагост альбо ў Шаркаўшчыну на места адышоўшага ў вечнасць кс. З. Якуця, а ксяндзоў-беларусаў у парафіі польскія[631].

[625] Miorski parachwijanin. Miory, Dzisnienskaha paw. // Krynica. – 1921. – № 30. – 9 kastryčnika. – S. 6; Міёры. Дзісненскага пав. // Беларускія ведамасьці. – 1921. – № 6. – 17 кастрычніка. – С. 2.

[626] Swoj. Ks. Ościłowič prociu sialanstwa // Krynica. – 1922. – № 6. – 8 kastryčnika. – S. 6.

[627] Parachwijanin m. Harmanowiczy, Dzisnienskaha paw. // Krynica. – 1921. – № 27. – 4 wieraśnia. – S. 6.

[628] Niahodny pastupak ksiandza // Krynica. – 1921. – № 11. – 10 krasawika. – S. 3.

[629] Pahoski. Pahost, Dzisnienskaha paw. // Krynica. – 1923. – № 13. – 22 kastryčnika. – S. 6.

[630] Prawa parafian w Kosciolach Katolickich na kresach. – Warszawa, 1921. – 16 s.

[631] Zet. Z Dzisnienscyny // Krynica. – 1924. – № 27. – 11 kastrycnika. – S. 3.

Нешта падобнае адбывалася і ў іншых парафіях Віленскага біскупства. Так, з м. Рось, Ваўкавыскага пав., аўтар пісаў, што пасля ўцёкаў у Польшчу ад бальшавікоў да іх зноў вярнуўся ксёндз з сваім тытунем, якім гандляваў (бо ў Польшчы мала давалі). Усіх стаў называць бальшавікамі, богаадступнікамі і палохаць жандармамі, асабліва тых, хто вызначаў сябе беларусамі[632]. Пробашчам касцёла у м. Рось быў кс. Фердынанд Гайковіч.

З парафіі Сухаволя, Сакольскага пав., паведамлялася, што былі «Ксяндзы-беларусы, якія за лепшых часоў маглі спраўляць свае рэлігійныя абавязкі і ў Сухаволі, цешыліся вялікім паважаньнем і найлепш зжываліся з вёскаю, а было гэта, перш за ўсё таму, што яны былі беларусамі і па-беларуску думалі... Некалі год таму быў у Сухаволі ксёндз, беларус, ён дык умеў з’арганізаваць моладзь і тады моладзь пачала цікавіцца культурнымі справамі. Але ксёндз, беларус, ці-ж мог доўга пасядзець на месцы? Перанесьлі, а разам з тым і арганізацыя ўпала...»[633]. Дапоўнім, што ў Сухаволі доўгі час (1912–1928 гг.) быў пробашчам кс. Антон Гайлевіч. У 1918 г. у Сухаволю быў прызначаны вікарыем кс. Ян Карыцкі, у 1920 г. – кс. Францішак Чарняўскі, які сцвярджаў, што кс. А. Гайлевіч дасылаў даносы кіраўніцтву праз яго беларускасць. Айцец Ч. Сіповіч пісаў, што «…Будучы вікарыям Францішак Чарняўскі дзе мог дапамагаў беларусам. Між іншым трох юнакоў паслаў у Віленскую беларускую гімназію, сярод іх Ф. Грышкевіч. «Распаўсюджваў сярод народу беларускія газэты і кніжкі. У 1921 г. паліцыя зрабіла рэвізію ў ягоным памяшканьні і забрала ўсё, што знайшла ў беларускай мове, аднак у наступным годзе зьвярнулі»[634]. Такім чынам, ксяндзамі ў Сухаволі, якія былі беларусамі і па-беларуску думалі, маглі быць і кс. Ян Карыцкі, і кс. Ф. Чарняўскі, і нават кс. П. Татарыновіч, які бываў частым госцем у кс. Ф. Чарняўскага. Не быў ворагам беларускасці ў Сухаволі і сам пробашч кс. А. Гайлевіч.

У чарговай інфармацыі з Сухаволі даведваемся, што «ў нас, як і ўсюды, беларус сынонім нечага, што адзываецца камунізмам, беластоцкім працэсам з погляду тутэйшае ўлады. І ў гэтым дзіўна згодна паступаюць адміністрацыя і духавенства. Летась у сухавольскім касьцёле ксёндз з Ганёндзу Адам Абрамовіч у казаньні накінуўся быў на вучаніка беларускай Віленскай гімназіі П. Грышкевіча. Але атрымаў ад гэнага адправу і сёлета ўжо не лаяўся...». Цікава, што пра падобныя адносіны да беларусаў мясцовага ксяндза А. Гайлевіча аўтар нічога не піша, акрамя хіба таго, што той не любіць школаў[635].

---

[632] Падарожны. М. Рось, Горадзенскае губ. // Наша Думка. – 1921. – № 10. – 11 сакавіка. – С. 6.

[633] Сухавольскі. Беларускі Дзень. – 1927. – № 23. – 20 жніўня. – С. 10.

[634] Дзедзінка, А. Айцец Францішак Чарняўскі (1893–1979) / А. Дзедзінка // Божым шляхам. – 1980. – № 151. – С. 10–14.

[635] Сухаволец. Сухаволя. Сакольскага пав. // Падняты сьцяг. – 1923. – 6 жніўня. – С. 8.

У артыкуле «Нас можна крыўдзіць» ставілася цікавае пытанне, чаму біскуп (а. Ю. Матулевіч) нават не звяртае ўвагі на праступкі ксяндзоў-палякаў да беларусаў: «Нягодна паступаюць з беларусамі ксяндзы-палякі: Курпіс у Солах, Гурскі ў Ашмяне, Крэтовіч у Вільні, Бобель у Друі, Даніловіч у Германовічах, Браніцкі ў Забрэззі, Саванеўскі ў Горадні і шмат іншых. Аб іх паступках «Крыніца» заўсёды піша, але Біскуп з гэтага нічога ня робіць»[636].

Неўзабаве на каталікаў-беларусаў і іх святароў рухнула такая навала польскай нянавісці, што працаваць практычна стала немагчыма, ані ў беларускім духу, ані ў хрысціянскім, ані ў каталіцкім.

Гучны рэзананс не толькі ў Заходняй Беларусі, але і ўва ўсёй II Рэчы Паспалітай мелі падзеі другой паловы 1920-х гадоў з беларускай мовай у касцёлах ў Барадзенічах і Жодзішках. Варта тут спыніцца на наступніку кс. В. Гадлеўскага ў Жодзішках кс. Рамуальду Дронічу, які быў прызначаны архібіскупам Р. Ялбжыкоўскім у травені 1927 г. для выпраўлення сітуацыі ў парафіі. Вядома, што паводле вынікаў галасавання ад 26.04.1925 г. за беларускую мову выказалася 60 адсоткаў вернікаў, што і дало права біскупу Матулевічу ўвесьці ўказ аб беларускіх казаннях у нядзелю і на святы ў час імшы. Такога парадку трымаўся кс. В. Гадлеўскі і нават сам кс. Р. Дроніч, які «ўрачыста даваў слова парафіянам, што будзе ён ксёндз ані польскі, ані беларускі, а толькі каталіцкі. Абяцаў тады сваёй парафіі, што нікога не пакрыўдзіць, што парадак набажэнства застаецца той самы і беларуская мова астаецца ў касцёле, як і даўней. Гаварыў аб гэтым і прыватна і публічна з святога месца – з амбону»[637]. Але неўзабаве перанёс беларускія казанні на час пасля імшы ў спадзяванні, што ніхто не будзе заставацца іх слухаць пасля асноўнага набажэнства, і такім чынам беларушчына ў касцёле памрэ сама собой, але так не сталася. Тады ён афіцыйна з амбону 09.10.1927 г. заявіў, што ён дае прысягу болей беларускіх казаньняў у касьцёле не гаварыць і дадатковых набажэнстваў у беларускай мове не адпраўляць. «Не памогуць вам аніякія паданьні і стараньні, – гаварыў кс. Дроніч, – хто ж будзе пяяць па-беларуску ў касьцёле, няхай ведае, што ён можа запяяць на Лукішках (у турме), як цяпер пяюць літоўскія ксяндзы!»[638]. І гэтыя свае словы пацьвердзіў прысягай, цалуючы на амбоне крыж. Болей таго, тэкст прысягі быў дасланы архібіскупу Р. Ялбжыкоўскаму[639].

636 Nas można kryudzić… // Krynica. – 1921. – № 17. – 27 traunia. – S. 6.

637 Dzikoje wystuplennie ks. Droniča // Biełaruskaja Krynica. – 1927. – № 42. – 14 kastryčnika. – S. 1.

638 Там жа.

639 W Imię Ojca i Syna i Ducha Św. Amen. – Ja, niegodny sługa Boży, przysięgam i obiecuję Panu Bogu Wszechmogącemu, w Trójcy Świętej Jedynemu, Najświętszej Pannie co w Ostrej świeci Bramie, że od dnia dzisiejszego nie będę odprawiał jakichkolwiek nabożeństw w języku białoruskim, ani też mówił kazań w tym języku. Tak mi dopomóż Panie Boże i Niewinna Męka Zbawiciela mego Amen. – Ks. R. Dronicz Admin[istrator] Kośc[ioła] w Żodz[iszkach]. Korespondecja ks. Romualda Dronicza, proboszcza parafii w Żodziszkach, do arcybiskupa wileńskiego ks. Romualda Jałbrzykowskiego. – Цыт. паводле: Zatarg o język kazań w Żodziszkach, cd.; Materiały źródłowe: Małgorzata Moroz // Białoruskie Zeszyty Historyczne. – 1998. – № 10. – S. 144.

А калі ў наступную нядзелю 16.10.1927 г. кс. Дроніч стаў гаварыць польскае казанне, дык народ абурыўся і беларускай рэлігійнай песьняй перарваў ксяндза. Ксёндз тады кінуўся да народу з вельмі непрыгожымі словамі, пасля з'явілася паліцыя, і арыштавалі 17 чалавек. Ад гэтага часу і распачаўся неспакой у Жодзішках. Парафіяне ў пошуках права на сваё рэлігійна-касцёльнае жыццё даслалі некалькі лістоў на імя арцыбіскупа Ялбжыкоўскага і нават да Нунцыя ў Варшаву, але станоўчых вынікаў пакуль што не дачакаліся[640]. Але толькі адменай беларускіх казанняў, дадатковых набажэнстваў і спеваў на беларускай мове кс. Дроніч не абмежаваўся. Што вырабляў гэты ксёндз у парафіі, добра сведчаць адны толькі загалоўкі публікацый у беларускіх газетах:

– «Дзікае выступленьне кс. Дроніча»[641] – кс. дае прысягу, што не будзе праводзіць беларускамоўныя казанні і набажэнствы.

– «Далейшыя выбрыкі кс. Дроніча»[642]. Да такіх аўтар адносіць не зусім тактычную дзейнасць ксяндза ў Жодзішках, як, да прыкладу, на першы дзень Калядаў абзываў парафіянаў з в. Сычаняты зладзеямі і іншымі словамі і стукаў кулаком па амбоне. У казанні гаварыў пра хваробу ў Францыі, у выніку якой назіраецца малы прырост нараджальнасці, і радзіў парафіянам мужчынам ехаць туды з мэтамі павялічваць люднасць. «Яшчэ б куды не ішло, – адзначаў аўтар артыкула, – калі б гэтага гаварылася ў іншы дзень, а тут людзі хацелі больш пачуць пра тое, як Хрыстос нарадзіўся…».

– «Ксёндз процiў беларускіх газет» – у артыкуле гутарка ідзе пра тое, як у касцёле м. Данюшава Кс. Дроніч ў казанні называў беларускія газеты бальшавіцкімі, бо яны крытыкуюць паноў і ксяндзоў, а хто чытае беларускія газеты, той ёсць апосталам Троцкага і г. д. Аўтар артыкула робіць высновы, якія ставяць яго вышэй за ксяндза: «...такія напасьці на беларускія газеты і чытачоў з боку ксяндзоў ня столькі ёсьць шкоднымі для нас Беларусаў, сколькі для Каталіцкага касьцёла»[643].

– «Нечуваны гвалт жандарма ў сутане» – кс. Дроніч склаў афіцыйную паперу з сваім подпісам у тым, што ён забараніў Ст. Грыбу наведваць касцёл толькі за тое, што той чытае «Беларускую крыніцу». Калі ж Ст. Грыб прыйшоў у касцёл, дык Дроніч са сваімі служкамі яго насільна вывялі. «Гэты факт сведчыць аб тым, – піша аўтар, – да якіх гвалтаў ужо даходзіць польскае духавенства, спаўняючы несправядлівы загад Арцыб. Ялбжыкоўскага»[644].

[640] Ż. Achwiary kaśielnaj palityki ks. Dronіča // Biełaruskaja Krynica. – 1930. – № 6. – 16 lutaha. – S. 1.

[641] Dzikoje wystuplennie ks. Dronіča // Biełaruskaja Krynica. – 1927. – № 42. – 14 kastryrčnika. – S. 1.

[642] Dalejšyja wybryki ks. Dronіča // Biełaruskaja Krynica. – 1928. – № 2. – 5 studnia. – S. 4.

[643] Toj samy parachwijanin. Ksiondz prociu biełaruskich hazet // Biełaruskaja Krynica. – 1928. – № 25. – 15 krasawika. – S. 4.

[644] Niačuwany hwalt žandarma u sutanie // Biełaruskaja Krynica. – 1928. – № 59. – 30 śnieżnia. – S. 1.

– «Дронічаўскі тэрор» – парафіянін піша, што «амбона ў нашым касьцёле замянілася на трыбуну праклёну. Ня чулі мы з яе навукі Храстовай ад выездку кс. В. Гадлеўскага. Якой толькі граззю кс. Дроніч не кідае на беларусаў. Пагражае, што іх не будзе спавядаць, хаваць на каталіцкіх могілках, не будзе хрысціць і даваць шлюб»[645].

– «Ахвяры касьцёльнай палітыкі кс. Дроніча» – аўтар робіць высновы з дзейнасці кс. Дроніча: «Гэты сумны выпадак лажыцца вялікай плямай на асобу кс. Дроніча, цяперашняга жодзіснага пробашча, як маральнага віноўніка ўсіх забурэньняў у спакойнай дагэтуль жодзішнай парафіі»[646].

– «Новы зьдзек кс. Дроніча над жодзішнымі парахвіянамі» – гутарка пра тое, як у першы дзень Вялікадня ў час казанняў кс. Дроніч заявіў, што ён ідзе ў жодзішскі касьцёл, як на Галгофу, а калі падае людзям Найсьвяцейшы Сакраменты (камунію), дык з такой неахвотаю, што лепш кінуў бы іх ў яму, чым падаваць тутэйшым людзям. Таксама заявіў, што з большай прыемнасцю даў бы цалаваць крыж-рэлiквію сатане, чым жодзішскім парафіянам. «З гэтага ясна, – робіць высновы аўтар артыкула, – якое місіянерства спаўняе Дроніч у Жодзішках»[647].

– «У змаганьні за праўду гартуецца дух» – аптымістычны змест артыкула пра тое, што два гады змагання Дроніча з сваімі парафіянамі не зменшылі іх цікавасці да беларускасці (да беларускіх газет, у тым ліку і да «Беларускай Крыніцы»). Тым больш, у касцёле, як і два гады таму назад, гучаць беларускія рэлігійныя спевы, супраць якіх пробашч Дроніч нічога не можа зрабіць, ані адмяніць, ані заглушыць, а толькі зняважыць і абразіць, але гэта ўжо беларусаў не палохае[648].

Але і тут кс. Дроніч дамогся таго, каб запалохаць беларускіх спевакоў. Зразумела, што аднаму чалавеку заглушыць спевы немагчыма, але аднойчы ў час рэлігійных спеваў у касцёле адбылося непаразуменне між беларускімі спевакамі і спевакамі на польскай мове (зразумела, што тут не абыйшлося без правакацыйнай дзейнасці кс. Дроніча). Тут жа былі вызначаны вінаватымі беларусы Ст. Грыб і М. Ермак і прыцягнуты да судовай адказнасці. 24 студзеня 1930 г. адбыўся суд, у выніку якога Ст. Грыб быў асуджаны на 9 месяцаў, а М. Ермак на 4 месяцы астрогу. Пры тым суддзя заявіў, што асуджаныя пакараныя не за спеў на беларускай мове, а за авантуры, віноўнікамі якіх паводле сведкаў (кс. Дроніча і яго людзей)

[645] Parachwijanin Dronіčauski teror // Biełaruskaja Krynica. – 1929. – № 13. – 22 sakawika. – S. 4.

[646] Ż. Achwiary kaśielnaj palityki ks. Dronіča // Biełaruskaja Krynica. – 1930. – № 6. – 16 lutaha. – S. 1.

[647] Żodziszny parachwijanin. Nowy ździek ks. Dronіča nad żodzisznymi parachwijanin // Biełaruskaja Krynica. – 1929. – № 14. – 6 krasawika. – S. 1.

[648] Žodzišny parachwijanin. U zmahanni za praudu hartuecca duch // Biełaruskaja Krynica. – 1929. – № 35. – 6 śnieźnia. – S. 3.

яны былі. Пазней апеляцыйны суд змяніў прысуды: С. Грыбу на 500 злотых штрафу, а М. Ерамаку на 300[649].

– «Ашуканства» – парафіяне інфармуюць пра чарговыя выхадкі кс. Дроніча, які апошнім часам перайшоў ад метадаў гвалту ў знішчэнні беларускасці да метадаў хітрасці і ашуканства. Аб'явіў ксёндз з амбоны, што хоча пакінуць Жодзішкі, калі гэтага пажадаюць парафіяне, якія павінны прыйсьці да яго на плябанію і падпісацца. Зразумела, што ніхто на плябанію не пайшоў, бо кожны ведаў, што такія подпісы пішуцца да вышэйшай улады, а гэты факт кс. Дроніч падаў у эндэцкай газеце «Наш пшыяцель» як факт таго, што ніхто не прыйшоў і не падпісаўся за беларускую мову ў касцёле. «Ксяндзок, на што такія штукі? – ставяць пытанне парафіяне. – Каб гэтак рабіў які жыд у краме і то стыдна было б, а ты-ж гэтак пступаеш у касьцёле. Ці-ж ты ня ведаеш, што апошнім часам мы паслалі да Нунцыя ў Варшаве просьбу вярнуць у наш касьцёл беларускую мову, падпісаную болей як тысячу подпісамі? Ці ты ня чуеш, як у жодзішным касьцёле за працэсіяй грыміць беларуская песьня? Ці ты ня бачыш, як мы стаім за сваё роднае?..»[650].

Што ганебным было ў такім змаганні, ды тое, што яно не было змаганнем за хрысціянства ці каталіцтва, пры тым гэта адбывалася ў час росту і пашырэння розных бязбожніцкіх ідэяў і псеўдарэлігійных сектаў. «Беларуская Крыніца» пісала, што «польскія ксяндзы, асабліва нацыяналісты-шавіністы, замест барацьбы з секцыярствам, бязбожнасцю, павучаючы народ праўды Божай, змагаюцца з беларускім нацыянальным адраджэньнем і шыраць пальшчызну». У якасці прыкладу прыводзіліся факты такой дзейнасці кс. Дроніча ў Жодзішках, «які "слаўны", як духоўны жандар, што ўсьмірае і падпарадкоўвае польскаму нацыяналізму беларускія душы. Гэты ксёндз у барацьбе з "Беларускай Крыніцай" карыстаецца ўсякімі спосабамі: нават з амбоны аб "Б. Кр." гаворыць няпраўду; 28.12.1934. кс. Дроніч казаў з амбону, што "Б. Крыніцу" выдаюць бальшавікі. Пэўна-ж такая бязглуздзіцца, гавораная з амбоны не ўкрапляюць наш народ у праўдзе Божай...»[651].

Калі даваць ацэнку такой «душпастырскай» дзейнасці кс. Дроніча ў Жодзішках, дык яе інакш, як палітычны заказ арцыбіскупа на знішчэнне беларускай мовы ў касцёле, не ахарактарызуеш.

Да паўнаты карціны варта прывесці колькі радкоў з ліста кс. Дроніча арцыбіскупу Р. Ялбжыкоўскаму: «… «Цвёрда перакананы, што беларуская мова ў касцёле патрэбна толькі ворагам Касцёла Божага (у Жодзіш-

---

[649] Суд над сьпевакамі беларускіх рэлігійных песьняў // Беларуская Крыніца. – 1930. – № 1. – 5 студзеня. – С. 2. Змагары за родную мову ў касьцёле // Беларуская Крыніца. – 1930. – № 5. – 9 лютага. – С. 1.

[650] Žodzišnyja. Ašukanstwa // Biełaruskaja Krynica. – 1930. – № 24. – 12 žniunia. – S. 4.

[651] Biazbożnaść i baraćba ksiandzou z Bieł. Krynicaj // Беларуская Крыніца / Biełaruskaja Krynica. – 1935. – № 1. – 6 studzienia. – S. 4.

ках). Тая надуманая выгада, быццам люд разумее лепш на беларускай мове, чым на польскай, не можа быць апраўданнем перад той страшнай шкодай, якую нясе бальшавізм пад прыкрыццём беларускасці. Падтрымліваць гэты дыялект (gwary) у касцёле – гэта значыць рыхтаваць тую канву, на якой бальшавікі будуць вышываць свае крывавыя ўзоры. Амаль усе так званыя Беларусы ў Жодзішскай парафіі хочаць чуць сваю мову (gwary) у касьцёле не для мілосці і прывязання да яе, а для таго, каб падкрэсьліць сваё права, а іх права то ўсёўладства чэрні…»[652].

Гісторыя з кс. Дронічам у Жодзішках закончылася тым, што паводле народнай інфармацыі «ўцёк ён з Жодзішкаў». Прычынай было тое, што яго моцна пабілі прыяцелі, якія дапамагалі яму вынішчаць беларускую мову ў парафіі[653].

Для большага разумення сутнасці праблемы з кс. Р. Дронічам і не толькі з ім, хацелася б прывесці некалькі цытатаў сучаснага даследчыка рымска-каталіцкага касцёла і, у прыватнасці, гісторыі Віленскай архідыяцэзіі кс. Тадэуша Крагеля: «У 1927 г. арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі прызначыў яго (Р. Дроніча) пастарам у Жодзішкі. Была тая парафія сканфліктавана папярэднікам кс. Вінцэнтам Гадлеўскім, *якi насуперак жаданням большасці парафіян праводзіў казанні на беларускай мове* (заўв. аўт. – *І. Т.*). Кс. Дроніч стараўся супакоіць прыход, перш за ўсё, абвяшчаючы Евангелле і распаўсюджваючы культ Панны Марыі... Кс. Дроніч пакінуў пасля сябе ўдзячную памяць у сваіх парафіян». Альбо: «Рэдка на дарогах паўсядзённага жыцця можна сустрэць такога святара. Гэта быў выключны каплан, – скончыла сваю аповесць пра яго адна з ваўкалацкіх парафіянак. – Гэта быў сапраўды шчыра адданы святар і вялікі патрыёт, гонар духавенства крэсовай Віленскай архідыяцэзіі»[654].

Нешта падобнае ў адносінах да беларусаў, як у Жодзішках, назіралася і ў касцёле Данюшава (Вялейскі пав.), балазе, было па-суседству. Толькі тут ужо змагаром супраць беларусаў выступаў кс. Бжазоўскі, якога нядаў-

---

[652] Korespondecja ks. Romualda Dronicza, proboszcza parafii w Żodziszkach, do arcybiskupa wileńskiego ks. Romualda Jałbrzykowskiego. – Цыт. паводле: Zatarg o język kazań w Żodziszkach, cd. ; Materiały źródłowe : Małgorzata Moroz // Białoruskie Zeszyty Historyczne. – 1998. – № 10. – S. 145.

[653] Кс. Дроніч уцёк з Жодзішак // Беларуская Крыніца. – 1935. – № 31. – 25 жніўня. – С. 4.

[654] «W 1927 r. arcybiskup Romuald Jałbrzykowski zamianował go proboszczem parafii Żodziszki. Była to parafia skonfliktowana przez poprzednika, ks. Wincentego Godlewskiego, który wbrew życzeniom większości parafian wprowadził kazania w języku białoruskim. Ks. Dronicz starał się uspokoić parafię głosząc nade wszystko Ewangelię i szerząc kult Matki Boskiej... Ks. Dronicz pozostawił po sobie wdzięczną pamięć swoich parafian. “Rzadko na drogach życia codziennego można spotkać takiego księdza. To wyjątkowy był kapłan”. Tak kończyła swoją opowieść o nim jednak z parafianek wołkołackich. To był rzeczywiście gorliwy kapłan i wielki patriota, chluba duchowieństwa kresowej wileńskiej archidiecezji». – Ks. Tadeusz Krahel. Ks. Romuald Dronicz [Электронны рэсурс] / Tadeusz Krahel // Czas miloserdzia. Bielostocki Biuletyn koscielny. – Рэжым доступу: http://www.bialystok.opoka.org.pl/czas/arch28/art/krahel.htm.

на перавялі з Падбярэззя (відаць, на падмогу кс. Дронічу). Кс. Бжазоўскі з амбоны забараніў чытаць «Беларускую Крыніцу», даводзіў, што яна антырэлігійная і бальшавіцкая газета, стаў заяўляць, што прыхільнікаў «Беларускай Крыніцы» не будзе ўважаць за католікаў, даваць ім шлюб, пазбавіць іншых касцёльных абслугаў. Пры гэтым ксёндз стараўся абразіць усё беларускае і не пастыдаўся нават з амбоны заместа тлумачэння Святога Евангелля прывесці «прыклады пекнай беларускай паэзіі»: «... і шырока і груба, і нізкага росту, есьць, вошы б'ець і чэша каросту». А яшчэ кс. пагражаў, што будзе зачытваць з амбоны прозвішчы тых католікаў, якія будуць чытаць «Беларускую Крыніцу» і наведваць вечарыны БІГіК, як вялікіх грэшнікаў[655]. Тых, хто чытае беларускія газеты, кс. Бжазоўскі праклінаў і даводзіў, што нават пры жыцці ад іх чорт не адчэпіцца і пацягне ў пекла на самае дно. Уратаванне – гэта каб ішлі да яго, выракаліся і давалі падпіску, што не будуць болей чытаць беларускіх газет, а інакш ён не пойдзе калядаваць да такіх асобаў[656].

У сярэдзіне 1920-х гадоў у шматлікіх парафіях Віленскай дыяцэзіі (архідыяцэзіі) пракацілася хваля масавых незадавальненняў з дзейнасці польскага каталіцкага кліра. У першую чаргу, гэта было звязана з пераводам беларускага святара ў іншую парафію і прызначэннем ксяндза-паляка альбо ліквідацыяй беларускіх школ і забаронай выкладаць рэлігію на беларускай мове. З другога боку, абурэнне выклікалі самі ксяндзы-палякі сваёй залішняй запалітызаванасцю, нянавісцю да ўсяго беларускага і элементарнай непавагай, нават пагардай, да сваіх калегаў ксяндзоў-беларусаў, што ўвогуле кампраметавала ўсё рымска-каталіцкае духавенства Віленскай архідыяцэзіі. На такую сітуацыю звярнуў увагу кс. В. Гадлеўскі ў спецыяльным Мемарыяле папежскаму нунцыю ў Варшаве, адзначаючы, што «...у адносінах польскага духавенства да духавенства беларускага цяпер можна спасьцерагчы тую злосную праяву, якая на сьвеце завецца “байкот”. У якасці доваду кс. В. Гадлеўскі прыводзіць шматлікія факты, як, да прыкладу, несправядлівая лаянка нейкай жанчыны на кс. А. Станке-

[655] Niedaloki. Zmahańni ks. Bżozouskaha z biełaruščynaj // Biełaruskaja Krynica. – 1930. – № 6. – 16 lutaha. – S. 3.

[656] Беларус. Наш «дабрадзей» (м. Данюшава, Вялейскі пав.) // Наперад. – 1930. – № 9. – 28 лютага. – С. 4.

[657] Гэта той самы Пуцята, які ў 1922 г. у якасці дэлегата наведаў Апостальскую Сталіцу з спецыяльнай прапановай аб рэарганізацыі Віленскага біскупства і патрэбы ў змене біскупа (а. Ю. Матулевіча). Пра гэтага кс. Пуцяту кс. Т. Крагель пазней напіша: «...Było to wynikiem starań politycznych. Ks. Puciata (патрабаванні ў змене Віленск. біскупства) natomiast w politykę się nie bawił. Był patriotą, ale bez szowinizmu. Brał w obronę mniejszości narodowościowe. Nie pragnął kariery i miał swoiste poczucie humoru» (... не быў палітыкам, быў патрыётам, але без шавінізму. Абараняў нацыянальныя меншасці. Не быў кар'ерыстам і меў пачуццё гумару). – Ks. Tadeusz Krahel. Ks. prof. Leon Puciata // W Służbie Miłosierdzia. – 2000. – № 3 (119). Атрымліваецца, што кс. Пуцята так жартаваў... (з Папежам, з біскупам, з кс. А. Станкевічам і з беларусамі).

віча ў бернардынскім касцёле ў Вільні за яго беларускую гаворку, а прысутны пры гэтым кс. Лявон Пуцята (доктар філасофіі і тэалогіі)[657], замест таго, каб заступіцца за свайго калегу, пахваліў тую жанчыну і абдарыў грашыма за абарону касцёла ад беларускай мовы; іншыя польскія ксяндзы прынцыпова не вітаюцца з беларускімі святарамі за руку (выпадак з кс. Я. Рэшацем); альбо ігнараванне парафіяльных свят у Міёрскім дэканаце, калі ў Барадзенічы на фэст св. Роха не прыехаў ні адзін ксёндз-паляк, альбо абвяшчэнне байкоту кс. В. Гадлеўскаму на сваёй радзіме (у час фэсту ў Поразава) Ваўкавыскім дэканам кс. Сперскім і іншыя выпадкі. «Такія злосныя адносіны альбо ціск, – піша кс. В. Гадлеўскі, – вельмі смутнае з’явішча і супярэчаць вучэнню Хрыста: «... Па гэтым пазнаюць усе, што вы мае вучні, калі будзеце мець міласьць адзін да другога» (Ян. 15.12)[658].

Іншы раз даходзіла да таго, што абразы з вуснаў ксяндзоў палякаў у адрас беларусаў і іх духоўнікаў гучалі прама з амбону. У час такіх «казанняў» людзі звычайна дэманстратыўна выходзілі з касцёла. Цікавы выпадак засведчыў чытач «Крыніцы» з Міёраў. 31 траўня, на Дзень Зыходжання Святога Духа (сёмухі) у касцёле праходзіла ўрачыстае набажэнства. Людзей было вельмі шмат («што ніколі гэтага не бывае») і, магчыма таму, што хадзілі чуткі наконт беларускага казання. Але, калі людзі ўбачылі, што гаварыць навуку ідзе свой ксёндз (пробашч А. Асціловіч, «якому калі хто скажа па-беларуску, дык ён гатовы вочы выдраць»), «дык пасыпалі з касьцёла, як град, бо ім польскія навукі да таго ж надакучылі, як горкая рэдзька». Ксёндз, калі ўбачыў, што ў касцёле засталося толькі пару чалавек, пайшоў на дзядзінец зганяць людзей з вазоў, а тыя пачалі хавацца, хто дзе: хто за мурамі, хто за вугламі, хто ўцёк у мястэчка, хто схаваўся ў хлеве... Ксёндз, не даўшы рады, вярнуўся на амбон і сказаў, што вы, як паганцы якія, замест таго, каб слухаць Слова Божае – у хлеў пахаваліся, як быдла якое... Далей аўтар пісаў пра тое, што слухаць польскія казанні няма аніякага сэнсу, бо ніхто іх не разумее[659].

Парафіяне з Шаркаўшчыны абураныя адносінамі пробашча да іх. Яны прасілі пробашча, каб на Зялёныя Святкі ў касцёле было казанне на беларускай мове, але ксёндз не звярнуў увагі на іх просьбы. Так пробашч і вывеў звычай гаварыць навукі на беларускай мове ў касцёле. Але калі ксёндз дрэнны да людзей, дык і людзі будуць дрэннымі да яго. Калі ён што-небудзь просіць зрабіць, людзі яго не слухаюць і тады ён страшыць паліцыяй[660]. Пасля смерці Зянона Якуця ў Шаркаўшчыну быў прызначаны кс. Зігізмунд Мілкоўскі.

---

[658] Z Memoryjału Ks. W. Hadleuskaha Papeskamu Nuncyju u Waršawie ab bajkocie polskimi Ksiandzami Biełaruskaha Duchawienstwa // Biełaruskaja Krynica. – 1926. – № 3. – 24 studnia. – S. 3–4.

[659] Tarapliwy. Biełarusy razumnieuć – z polskich kazańniau uciakajuć // Krynica. – 1925. – № 28. – 28 červienia. – S. 4–5.

[660] Pakryudžany parachwijanin. Nia ładzim z swaim probaščam // Krynica. – 1925. – № 32. – 26 lipienia. – S. 5.

Парафіяне з Браслава пішуць, што іх пробашч жыве сярод беларусаў, але беларускай мовы не выносіць. «Няхай хто да яго па-беларуску загукае, дык таго ад сябе на некалькі гоняў адгоніць. І ён гэта робіць ня толькі ў справах прыватных, але і на споведзі і ў другіх касьцельных справах»[661]. Нагадаем, што пробашчам у Браслаўскай парафіі на гэты час быў кс. Юзаф Савіцкі.

У карэспандэнцыі з Іказьні (Браслаўскага пав.) аўтар піша, што беларускі дух ахапіў шырокія масы сялян, але нягледзячы на гэта ёсць сілы, якія стараюцца задушыць яго. І першы душыцель беларускасці – гэта мясцовы пробашч. Ён смяецца над беларусамі, а калі праводзіць фэст, дык запрашае толькі польскіх ксяндзоў. Яны гавораць польскія казанні, якіх ніхто не слухае, і ніхто не ідзе спавядацца да ксяндзоў-палякаў[662]. Пробашчам у Іказьні на гэты час быў кс. Сікстус Ганусоўскі.

У парафіі Ліпнішкі (Валожынскі пав.) на 40-гадзінным набажэнстве на свята св. Казіміра ў касцёле прысутнічала вельмі шмат народу. Цікавасць выклікала і Слова Божае з вуснаў кс. Сперскага «слаўнага некалі пакутніка за часоў Маскоўшчыны, якога рускія жандары ганялі з голымі шашкамі па вуліцах Вільні». Калі залатыя словы праўды паліліся з вуснаў ксяндза, у касцёле была такая цішыня, што, каб муха ляцела, было б чуваць, а шмат хто нават стаў плакаць. А калі паважаны кс. Сперскі стаў гаварыць пра Польшчу, пра польскі народ і калі сказаў, што ніякіх беларусаў няма, а ў якой хаце чытаюцца, або ёсць беларускія газеты, то тая хата не будзе благаслаўлёная.., дык пачаўся вялікі шум і шмат хто з людзей павыходзілі з касцёла[663].

Нешта падобнае адбывалася і ў іншых парафіях, асабліва пасля забароны ў 1928 г. архібіскупам Р. Ялбжыкоўскім выпісваць і чытаць «Беларускую Крыніцу». У Камелішскім касцёле (Свянцянскі пав.) пробаш пераўтварыў амбону ў антыбеларускую трыбуну. Тых, хто чытае «Беларускую Крыніцу» ён называў бальшавікамі, бязбожнікамі і іншымі словамі для іх прыніжэння[664]. Нагадаем, што ў Кямелішках у гэты час пробашчам быў кс. Гіляры Даніловіч.

У в. Лукашэвічы (Свянцянскі пав.) мясцовы пробашч кс. Яськевіч крычаў на сваіх парафіянаў за тое, што яны чытаюць «Беларускую Крыніцу», а калі гэта не памагло, ксёндз перастаў прызнаваць іх за парафіянаў, бо па каляздзе не заходзіў у хаты дзейных беларусаў. Парафіянін, між іншым, заўважае, што «такі спосаб барацьбы з беларускасьцю ёсьць надта шкодным для Касьцёла»[665].

[661] Parachwijanin. Pa śliskaj darosie idze probašč // Biełaruskaja Krynica. – 1925. – № 9. – 22 listapada. – S. 4.

[662] Дзямідка, Зьмітрок. Народ герой. Іказнь, Дзісненскага пав. / Зьмітрок Дзямідка // Сялянская Ніва. – 1926. – № 2. – 17 студзеня. – С. 4.

[663] Sałdatau J. Uciakajuć z kaścioła // Krynica. – 1925. – № 19. – 10 traunia. – S. 4.

[664] Zdziek nad čytačami «B. Krynicy» // Biełaruskaja Krynica. – 1929. – № 8. – 22 lutaha. – S. 4.

[665] Pyrwaniścik. Ksiondz nia lubić swaich parachwijanau // Biełaruskaja Krynica. – 1929. – № 8. – 22 lutaha. – S. 4.

Пастаянны аўтар «Крыніцы» І. Ярмаковіч паведамляў, што ў парафіі Табарышкі (Ашмянскі пав.) пробашч Волк-Карачэўскі спалохаўся росту свядомасці беларусаў і, як той Дроніч, стаў агітаваць за пальшчызну і замест казанняў з амбону зневажае ўсё, што есць беларускае, і страшыць вернікаў тым, што калі не перастануць чытаць «Беларускую Крыніцу», арцыбіскуп зачыніць касцёл[666]. Яшчэ больш абурыўся ксёндз-паланізатар, калі ў Табарышках арганізаваўся гурток БІГіК, які актыўна стаў пашыраць беларускую свядомасць. Адыграўся ксёндз на беларускіх дзетках у школе, якіх караў і ставіў на калені за беларускія рэлігійныя кніжкі на лацініцы[667].

У чарговым артыкуле І. І. (І. Ярмаковіч) робіць спробу даць тлумачэнне супрацьстаянню між ксяндзамі-паланізатарамі і парафіянамі. Ён піша, што ў парафіях Тургелі, Табарышкі, Мур-Ашмянка (Ашмянскі пав.) амаль што ўсе з'яўляюцца католікамі-беларусамі, якіх польскія ксяндзы зрабілі палякамі, а веру іх назвалі польскай, г. зн. падмянілі паняткі каталіцтва на польскасць. Раней (пры нізкай нацыянальнай свядомасці) на гэта ніхто не звяртаў увагі, але калі людзі адчулі сябе беларусамі і сталі «адкрыта і заўзята змагацца за правы роднай мовы і агулам за правы Беларускага народу, абзываньне каталіцтва "польскай верай" абражае пачуцьцё рэлігійнае і народнае гэтых людзей. З гэтай прычыны між парафіянамі і пробашчамі гэтых парафій паўстае ўзаемнае недалюбліваньне... Ксяндзы, бачучы тут няўдачу сваёй «польскай місійнасьці», наракаюць з амбону на людзей «за адступленьне ад рэлігіі і ад Бога», ня бачучы, што не аб рэлігіі тут вядзецца змаганьне, а аб душы народу; ксяндзы намагаюцца перарабіць беларусаў на палякаў, а народ бароніцца ад гэтай перароблкі, каб захаваць у сябе сваю беларускасьць...»[668].

З м. Талмінава (Ашмянскі пав.) аўтар пісаў, што ў іх ксёндз з'яўляецца актыўным арганізатарам польскай шавіністычна-нацыялістычнай арганізацыі «Stowarzyszenia Mlodzieży Polskiej». Ён прымушае ўступаць у «Таварыства...» і тых, хто бярэ ўдзел у працэсіі, пагражаючы выгнаннем з працэсіі. А каб моладзь нават страціла свой вонкавы выгляд, ён патрабуе насіць польскую нацыянальную вопратку. Народ, бачучы такія паступкі ксяндза, памалу, але ўсцяж далей адыходзіць ад касцёла[669]. Рупліўцам гэтым быў нядаўна прызначаны кс. Уладзіслаў Матуліс. Дарэчы, згадваецца ён і яшчэ ў адным выпадку, які адбыўся трохі пазней у Мур-Ашмянцы (Ашмянскі пав.). 20 лістапада 1932 г. кс. А. Станкевіч прачытаў лекцыю

---

[666] Jarmakovič J. Ksiondz prociu narodu // Biełaruskaja Krynica. – 1929. – № 20. – 30 traunia. – S. 3.

[667] Siarmiaha. Ksiondz połonizator // Biełaruskaja Krynica. – 1929. – № 35. – 6 śniežnia. – S. 3, 5.

[668] J. J. Polskaja wiera i Biełarusy // Biełaruskaja Krynica. – 1932. – № 45. – 25 śniežnia. – S. 5.

[669] Katalik. Sumnaje źjavišča // Шлях моладзі. – 1932. – Вільня. – № 9 (44). – С. 13.

на тэму «Рэлігія і нацыянальнасць». Зала была перапоўнена. З лекцыі вынікала, што няма «польскай веры», а ёсць вера толькі каталіцкая. Усё гэта не спадабалася адной тэрцыянцы, якая і данесла пра лектара мясцоваму пробашчу з Талмінава кс. Уладзіславу Матулісу, а той з амбону стаў наракаць на кс. А. Станкевіча, гаварыць, што гэта не ксёндз, а бунтар і «юдэш», што трэба паліць тыя кнігі (катэхізмоўка з апрабатай біскупа), якія раздаваў кс. А. Станкевіч[670]. Але гэтага кс. Матулісу, відаць, было мала, і ён пазапісваў усіх, каго можна, у «Таварыства польскай моладзі», беларусаў страшыў паліцыяй і астрогамі і як з амбона, так і ў прыватных гутарках з парафіянамі даводзіў, што беларускім ксяндзам бальшавікі плацяць грошы за іх нацыянальную агітацыю[671].

Нічога не змянілася за гэтыя гады і ў м. Крэва (Ашмянскі пав): «Ходзячы да касьцёла можна часта пачуць, як пробашч крэўскі заклікае людзей, каб чыталі газету «Nasz Przyjacel», хвалячы, што гэта газета вельмі карысная. Нават пад касьцёлам прадаюць штонядзелю і штосьвята гэтую газету...». Далей аўтар ставіць пытанне, што ці не лепш было б ксяндзу падахвоціць парафіян, якія з'яўляюцца ўсе беларусамі (за выключэннем урадаўцаў і спаланізаваных паноў) да чытання беларускіх рэлігійных газет, да прыкладу «Хрысьціянскай Думкі»; і трэба парафіянам дамагацца сваёй мовы ў касцёле і магчымасцей чытаць свае беларускія газеты[672]. Нагадаем, што пробашчам у гэты час у м. Крэва быў кс. Казімір Каўрэцкі, прызначаны архібіскупам на пасаду ў 1928 г.

Паводле інфармацыі з парафіі Далёкія (Браслаўскі пав.), пробашчам у іх з'яўляецца заядлы эндэк і гарачы паланізатар ксёндз Уладзіслаў Пілціцкі, які хоча перарабіць сваіх парафіян беларусаў і літоўцаў на палякаў, а тыя не хочаць. Ксёндз у сваёй агітацыі выкарыстоўвае амбону, з якой абзывае рознымі словамі сваіх парафіянаў[673]. За інфармацыю ў «Беларускай Крыніцы» пад назовам «Польскі ксёндз называе парафіян беларусаў і ліцьвінаў «пасажытамі» (паразітамі) кс. У. Пілціцкі пагражаў з амбону судовай справаю, даводзіў, што «Беларуская Крыніца» бальшавіцкая газета і яна забаронена самім арцыбіскупам[674].

«Ксёндз-паланізатар» – менавіта так ахарактарызавалі парафіяне з м. Іказьні душпастырскую працу кс. Вінцэнта Лабана, які сам прызнаваўся, што прыехаў зрабіць з беларусаў шчырых палякаў. Напачатку ксёндз

[670] Makarewič Fr. Polski ksiondz prociu ksiondza Biełarusa // Biełaruskaja Krynica. – 1932. – № 43. – 11 śniežnia. – S. 4.

[671] Wusaty Broniečka. Nia moža uspakoicca // Biełaruskaja Krynica. – 1933. – № 17. – 30 krasawika. – S. 4.

[672] Katalik. Nabiwajucca z «Naszym Przyjacelem». Kreuskaja parafija // Biełaruskaja Krynica. – 1930. – № 4. – 26 studnia. – S. 3.

[673] Авідаўчук. Польскі ксёндз называе парафіян беларусаў і ліцьвінаў «пасажытамі» // Беларуская Крыніца. – 1933. – № 4. – 22 студзеня. – С. 4.

[674] Padawałka Januk. Nie spadabałasia // Biełaruskaja Krynica. – 1933. – № 9. – 26 lutaha. – S. 4.

стаў змагацца з праваслаўнымі і забараніў католікам наведваць праваслаўныя цэрквы. Пры гэтым даводзіў, што праваслаўныя і католікі – гэта зусім розныя «обозы» і трэба працаваць так, каб між імі не было аніякай сувязі – так ён падзяліў беларусаў на два варожыя лагеры. Нагодай для такіх высноваў была дзейнасць БГІГіК, у які ўваходзілі беларусы як праваслаўныя, так і католікі. Католікам ксёндз строга забараніў наведваць прадстаўленні і тым больш удзельнічаць у беларускім гуртку[675]. Ходзячы па калядзе, кс. В. Лабан зайшоў у хату скарбніка тутэйшага гуртка БІГіК М. Шпака. Пачаў страшыць яго Бярозай-Картузскай за тое, што ён дзейны беларус[676].

У Клюшчанах (Сьвянцянскі пав.) кс. Л. Іванчук усякімі праўдамі і няпраўдамі ўцягвае моладзь у С.М.П. (Саюз моладзі польскай). Тыя, хто падаўся на яго агітацыю, чамусьці «маюць фальшывае перакананьне, што Хрыстос нарадзіўся ў нейкай польскай стаёнцы, і што прывіталі Хрыста нейкія польскія пастушкі Мацей, Ян, Валенты, і што польская вера – найлепшая і найстарэйшая, і што С.М.П. ёсьць сьвятая»[677].

Яшчэ адзін чытач піша, што ў парафіі ў Лынтупах усе беларусы, але слова беларускага ў касцёле не пачуеш. І прычына ў тым, што парафіяне маюць малую свядомасць. Раней быў кс. Далінкевіч, які хоць і не гаварыў афіцыйна казанняў у касцёле на беларускай мове, але з парафіянамі гаварыў толькі па-беларуску, дзецям разам з іншымі часопісамі даваў «Хрысціянскую Думку», за гэта і не ўпадабалі яго розныя паны і паўпанкі. Зараз у парафіі два ксяндзы: адзін ліцвін (супраць беларускасці нічога не мае), другі паляк – калі хадзіў па калядзе, заместа Катэхізмы дапытваўся хто чытае «Б.(еларускую) К.(рыніцу)» і «Шлях моладзі», раіў чытаць толькі польскія часопісы і газеты[678].

Ксяндзы-паланізатары забаранялі чытаць не толькі «Беларускую Крыніцу», але і «Хрысьціянску Думку», нягледзячы на тое, што яна выдавалася з дазволу архібіскупа Р. Ялбжыкоўскага. Так нехта Янка Макар з в. Дуброва (Маладзечанскі пав.) пісаў пра тое, што ў суседняй парафіі ксёндз прэфект цікавіцца беларускімі справамі і выпісвае «Хрысьціянску Думку», а калі тамашняму пробашчу часопіс трапіў у рукі, дык ён яго кінуў у печ[679].

Аўтар з Крывічоў (Вялейскі пав.) паведамляе пра свайго ксяндза, які таксама не любіць беларускай каталіцкай газеты «Хрысьціянская Думка», бо калі парафіянін з Будслава Б. Бабарыка выпісаў «Хрысьціянску Дум-

---

[675] Каталік. Ксёндз-паланізатар // Bieiaruskaja Krynica. – 1933. – № 8. – 19 lutaha. – S. 4.

[676] Parachwijanin. Ksiondz strašyć // Bieiaruskaja Krynica. – 1935. – № 8. – 17 lutaha. – S. 4.

[677] Siwieńki. «Polskaja wiera» i rabota // Biełaruskaja Krynica. – 1935. – № 6. – 3 lutaha. – S. 4.

[678] Čytač B. K. Ab našych ksiandzoch. Łyntupy. Świancianskaha paw. // Biełaruskaja Krynica. – 1935. – № 8. – 17 lutaha. – S. 4.

[679] Čytač Janka Makar. Ksiondz spaliu «Chr. Dumku» // Chryscijanskaja Dumka. – 1931. – № 2. – S. 8.

ку» Яніне Булай, а нехта данёс ксяндзу, дык той дужа лаяў «Хрысьціянску Думку», называў яе камуністычнай і масонскай, і страшыў дзяўчыну публічнай лаянкай з амбоніі[680]. Нагадаем, што пробашчам у м. Крывічы ад 1924 г. быў кс. Язэп Крапіўніцкі.

У Новай Мышы (Баранавіцкі пав.) пробашч Мадалінскі, «зачарствянелы польскі шавініст-эндэк», перашкаджаў і выступаў супраць збору подпісаў за беларускія казанні, распаўсюджваў чуткі пра нейкую беларускую веру як гарэзію і адшчапенства, даводзіў з амбону, што ўсякія змены ў касцёле з'яўляюцца шкоднымі, агітаваў за подпісы супраць беларускай мовы[681]. Наступнік кс. Мадалінскага у Новай Мышы, чыста беларускай парафі, кс. Ламацкі, будучы пробашчам, паказаў сваю тактыку да нашага народу, а ў семінарыі знаюць яго клерыкі як надта вялікага ворага клерыкаў-беларусаў[682].

У Беластоку не дапускаюць беларускіх дзяцей да споведзі, якія слаба ведаюць польскую мову[683].

У «Dzicniku Wilenskiem» ад 11.02.1935 г. у артыкуле «Ксёндз на крэсах» кс. Сечка разважаў аб важнасці працы польскага ксяндза, асабліва сярод праваслаўных: «Праваслаўны, каторы навернецца на католіка, стаецца з беларуса або расейца палякам» – даводзіць кс. Сечка. «Гэтымі словамі кс. Сечка выразіў адвечную палітычную мэту польскага духавенства ў нашым краі. Дык няма нічога дзіўнага, – піша «Беларуская Крыніца». – што ад такога духавенства адварочваюцца ня толькі праваслаўныя, але і каталікі. Бо гэта не апосталы Хрыстовы, але апосталы польскага нацыяналізму і вынарадаўленьня беларусаў»[684]. У наступным нумары «Дз. Віл.» (№ 49) кс. Тадэуш Сечка даводзіць падрабязны план навароту праваслаўных на каталікоў і палякаў. Сярод метадычных пунктаў навароту згадваюцца 2 бочкі гарэлкі, 2 бочкі піва, 2 вазы хлеба[685].

Што ўжо гаварыць пра ксяндзоў, якія ў сваёй душпастырскай працы прапануюць метады супрацьлеглыя хрысціянскім прынцыпам. Але метады кс. Т. Сечкі могуць паказацца прымітыўнымі забаўкамі ў параўнанні з «місійнымі» метадамі вельмі актыўнага ксяндза-паланізатара Юзэфа Бародзіча.

Разгорнутую характарыстыку яго дзейнасці дала «Беларуская Крыніца» ў 1928 г. (№ 10) у сувязі з яго кандыдатствам у паслы (каб людзі ведалі, што гэта за асоба). Газета пісала, што кс. Бародзіч паводле пахо-

[680] Katalik Biełarus. Brydkoje zdareńnie // Chryscijanskaja Dumka. – 1933. – № 6. – S. 10.

[681] Tamašni. Jak narod dabiwaecca rodnaj mowy u kaściole i jak jaho kryudziać // Biełaruskaja Krynica. – 1929. – № 29. – 13 kastryrčnika. – S. 4.

[682] Pinćuk. Antybiełaruski kurs u Pinskaj dyjacezyi // Biełaruskaja Krynica. – 1933. – № 9. – 26 lutaha. – S. 3.

[683] Д-а. Ksiondzy paliaki kalečać biełaruskuju mowu // Biełaruskaja Krynica. – 1934. – № 12. – 11 sakawika. – S. 3.

[684] Što kaža ksiondz Siečka // Biełaruskaja Krynica. – 1935. – № 10. – 25 lutaha. – S. 2.

[685] Планы ксяндза Сечкі // Беларуская Крыніца. – 1935. – № 11. – 3 сакавіка. – С. 1, 3.

джання з'яўляецца літоўцам, але яшчэ ў маладосці перакінуўся ў палякі падзеля сваёй авантурнай кар'еры. Быў пробашчам (1903–1907 гг.) у Клюшчанах (Свянцянскі пав.), дзе завёў паншчыну (перш чым дапусціць да споведзі, застаўляў шмат працаваць), браў вялікія грошы за рэлігійныя паслугі (за пахароны сялянам прыходзілася прадаваць карову, каб разлічыцца), выбудаваў сабе плябанію-палац з трыма вежамі. Казанні ксяндза былі літаніяй самых моцных праклянццяў да канкрэтнай асобы: «каб цябе пярун трэснуў», «каб цябе першая куля не мінула» і інш. Апрача гэтага біў маладых і старых, кабет і дзяцей. Пасля віленскі біскуп перавёў яго ў Міёры, куды ён незаконна вывез дарагі абраз Маці Божай, куплены за грошы клюшчанскіх парафіянаў. У Міёрах Бародзіч збудаваў касцёл на людской крыўдзе, інтрыгах і здзіранні апошняга з парафіянаў, пасеяў нянавісць між праваслаўнымі і каталікамі, пераводзіў у каталіцтва не пераканаyннем, а хітрасцю і дэмагогіяй. Быў кс. Бародзіч яшчэ і ў Суботніках (дзе пакінуў пасля сябе такую ж памяць, як і ў Клюшчанах) і ў Расіі (Рыбінск), і за мяжой. Пра яго авантуры за межамі пісалі польскія газеты: «Кс. Бародзіч прысвоіў сабе касцёл і нерухомую маёмасць пастаўшую з польскіх складкаў... Італьянскі ўрад меў намер выслаць кс. Бародзіча за кантрабанду брыльянтаў да Швейцарыі» («Kurjer Wilencki», 1927, № 192). Пасля яго выселілі ў Іспанію, адкуль з прычыны незаконнага збірання складак для ўласнай карысці выдалены ў Францыю, але высланы і адтуль за крымінальныя справы (Rzeczpospolita, luty, 1922). Вярнуўшыся ў свой край (у Друю), ён аднавіў свае авантуры і меў нават нахальства падаць «Беларускую Крыніцу» і іншыя газеты ў суд[686]. Дарэчы, дастаткова апошняга факту – суду з газетай, каб у такім непрыхільным пафасе выказвацца пра асобу на старонках газеты.

Гучным рэзанансам адгукнуліся ў друку афёры кс. Бародзіча ў Леанполі (Дзісненскі пав.). Менавіта з гэтай нагоды пра яго ўпершыню згадала «Беларуская Крыніца» ў 1927 г. як пра асобу даволі вядомую на Віленшчыне. Гутарка ішла пра тое, што ў парафіі Леанполь дзякуючы ўніяцкай дзейнасці друйскіх айцоў-марыянаў (а. Андрэя Цікоты, а. Ф. Абрантовіча і інш.) не было істотнай розніцы між беларусамі праваслаўнымі і каталікамі, бо адныя і другія хадзілі як ў царкву, так і ў касцёл. Але, прызначаны Віленскім архібіскупам кс. Р. Ялбжыкоўскім на пасаду пробашча касцёла, кс. Бародзіч парушыў гэты парадак тым, што, гаворачы казанні (выключна па-польску), стаў даводзіць парафіянам, «каб яны кідалі гэтую праклятую гарэзію і не хадзілі да гэтых кудлатых папоў», пры тым заклікаў да «польскай» рэлігіі. У казанні на свята Ап. Пятра і Паўла падкрэсліў, што праваслаўныя – гэта паганцы і бальшавікі[687]. У чарговым нумары «Бела-

[686] Także kandydat u pasly // Biełaruskaja Krynica. – 1928. – № 10. – 6 lutaha. – S. 1.

[687] Malčeuski S. Misijna-palanizatarskija awantury słaunaha ks. Barodziča // Biełaruskaja Krynica. – 1927. – № 35. – 26 žniunia. – S. 4.

руская Крыніца» паведамляла пра тое, што віленскі ваявода і пракуратура зацікавіліся пасечанымі кс. Бародзічам дрэвамі і разваленымі помнікамі на праваслаўным магільніку ў Леанполі. «Будзем спадзявацца, – піша газета, – што Я. Э. Архібіскуп Віленскі зверне ўвагу на работу чалавека, якога ўжо высылалі з 4-х розных краёў за непапраўную самаволю і пайшле яго туды, дзе паланізатарам і фанатыкам няма чаго рабіць»[688]. У Леанполь кс. Бародзіча прызначылі «папраўляць крыўды, якія дазналі ўніяты і каталікі ад царскіх уладаў і ад праваслаўя. Але спосабы паправы гэтых крыўдаў, – пісаў нехта Н., – сталі новымі крыўдамі...»[689]. Так, чаго толькі варты быў мемарыял кс. Бародзіча, які ён падаў арцыбіскупу з абвінавачваннямі жыхароў мястэчка як людзей з «бандыцкімі поглядамі, сімпатызуючых бальшавікам і што раз болей дзічэючых». Дасталося ў мемарыяле і ксяндзам-беларусам, бо яны паводле кс. Бародзіча, спагадалі і тварылі грамадаўскія гурткі. «Кс. Бародзіч стаўся духам неспакою ў Леанполі. Разгарэўся фанатызм адных і другіх. Праваслаўныя, маючы за сабой пэўныя падставы, пачалі бараніцца проціў расфанатызованай жменькі каталікоў на чале з кс. Бародзічам. Пачаліся гвалты...»[690]. Гвалты гэтыя згадваліся на старонках тагачаснага друку. Так, «Сялянская Ніва» перадрукавала наступныя цікавыя весткі з «Кур'ера Віленскага»: «Вядомы кс. Бародзіч паміма таго, што некалькі дзён таму назад быў тут пракурор Раузе і кіраўнік аддзелу рэлігіяў у ваяводзкім урадзе п. Пятровіч, які рабіў падрабязнае высьвятленьне ў справе ўжо ведамых праступных здарэньняў, выкліканых тым жа капланам – не навучаны даследамі, арганізаваў сёньня ізноў банду, з дапамогай якое гвалтам увайшоў на праваслаўнакаталіцкі магільнік і паставіў там капліцу. Магілы і крыжы зноў зняважыў. У дадатку натоўп, падбураны кс. Бародзічам, паламаў усю загароду магільніка». Далей паведамлялася, што толькі дзякуючы спрыту каменданта пастарунку не дайшло да кровапраліцця на магільніку між каталікамі і праваслаўнымі. На разбор справы быў выкліканы браслаўскі староста і павятовы камендант паліцыі[691]. У наступным нумары «Сялянская Ніва» дала больш падрабязнае тлумачэнне справы, якая палягала ў тым, што кс. Бародзіч аб'ектам сваёй місійнай працы абраў праваслаўную царкву ў Леанполі з мэтай адабраць яе ад праваслаўных і пераўтварыць яе на польскі касцёл. Зразумела, што аніякіх юрыдычных правоў на гэта не было. Увесь далейшы час кс. Бародзіч рознымі сваімі ўчынкамі стараўся здэмаралізаваць праваслаўных і падбухторыць каталікаў сілаю захапіць царкву.

[688] Ks. Barodziča paciahnuć da adkaznaści // Biełaruskaja Krynica. – 1927. – № 36. – 2 wieraćnia. – S. 4.

[689] Н. Канец місійнай працы кс. Бародзіча ў Леанполі // Беларускі Дзень. – 1927. – № 26. – 14 верасьня. – С. 3.

[690] Там жа.

[691] Праца ксяндза Бародзіча ў Леанполі // Сялянская Ніва. – 1927. – № 64. – 7 верасьня. – С. 1.

Католікі паддаліся нагаворам ксяндза і некалькі разоў рабілі спробы захопу[692]. Больш дэталёвыя характарыстыкі працы кс. Бародзіча ў Леанполі падаў «Беларускі звон»: «Усе ў Дзісеншчыне памятаюць «працу» чалавека-ненавісьніка ксяндза Бародзіча. Гэты ксёндз у сваім часе ламаў крыжы праваслаўных, руйнаваў праваслаўныя капліцы, выкідаў з магіл нябожчыкаў і т. д. Дайшло да таго, што ў Леанполь змушаны быў у свой час выехаць ваявода, каб зьліквідаваць канфлікт, выкліканы гэтым дзікім ксяндзом...»[693]. Справа ў Леанполі і сапраўды дайшла да таго, што паліцыя і ўлада вымушаны былі бараніць праваслаўных ад ксяндза. Рэзананс авантуры кс. Бародзіча дайшоў не толькі да Вільні, але і да Варшавы. Была створана і выслана спецыяльная дэлегацыя адміністратыўнай і судовай улады, «на разборкі» прыязджаў нават сам арцыбіскуп кс. Р. Ялбжыкоўскі, каб на месцы разабрацца ў сітуацыі. Дарэчы, кс. Бародзіч не ўпусціў апошнюю магчымасць, каб пераканаць арцыбіскупа, што дзейнасць яго хоць і выклікала столькі скандалаў, але не размінаецца з прынцыпамі каталіцкага касцёлу і карнага кодэксу. Выступаючы далей з амбону, ён заявіў, што «над польскаю зямлёю ў Леанполі ізноў запанаваў дух Мураўёва, паліцыя прасьледуе касьцёл і яго верных капланаў...». Пасля гэтых словаў арцыбіскуп яго перарваў і адзначыў, што Польшча не дзеля таго паўстала, каб сеяць нязгоду паміж рэлігіямі...[694]. Трэба сказаць, што арцыбіскуп доўгі час «не заўважаў» такой «місійнай» дзейнасці свайго падначаленага, але ўрэшце пад ціскам свецкай улады вымушаны быў прызначыць у Леанполь новага ксяндза.

«Наш боль і сум, – піша «Сялянская Ніва», – параджаюцца ад таго, што ўсе тыя леванпольскія авантуры адбыліся паміж адзіным беларускім народам, разыходжаньні паміж якім выяўляюцца толькі ў розніцы, нават не рэлігіі як гэтакай, а ў адміністрацыйным падпарадкаваньні рэлігійных установаў і ў розніцы некаторых рэлігійных звычаяў»[695].

А яшчэ гэта яскравы прыклад таго, як лёгка можна прывесці адзін народ з неўстойлівай нацыятворчай пазіцыяй да стану варожасці і барацьбы між сабою.

А кс. Бародзіч, якому як у беларускіх, так і польскіх газетах за леанпольскія авантуры прарочылі Лукішкі, застаўся непакараным. Больш таго, неўзабаве ён выдаў у Вільні «Мемарыял...», у якім паказаў сябе нявінна пацярпелым за святую справу – пашырэнне польскасці. У друку адзначалася, што ўвесь гэты няздарны памфлет (Мемарыял) не заслугоўваў бы ўвагі, калі б не афіцыйныя асобы, якія трактуюць кс. Бародзіча як і сап-

[692] Леанпольская авантура // Сялянская Ніва. – 1927. – № 65. – 10 верасьня. – С. 2.

[693] Каталік. Кс. Бародзіч «за работай» (Дзісеншчына) // Беларускі Звон. – 1932. – № 27. – 30 верасьня. – С. 4.

[694] Леанполь звольнілі ад кс. Бародзіча // Сялянская Ніва. – 1927. – № 66. – 14 верасьня. – С. 2.

[695] Леанпольская авантура // Сялянская Ніва. – 1927. – № 65. – 10 верасьня. – С. 2.

раўды нявінна пакрыўджанага: Прызідэнт Рэчы Паспалітай п. Я. Пілсудскі, міністры унутраных і замежных справаў, кардынал кс. Глёнд і інш. прыслалі кс. Барадзічу прывітальныя спачувальныя тэлеграмы[696].

Улічваючы такі паварот справы, міжволі прыходзіш да высноваў, што ўся гэтая польская палітыка адносна беларусаў-каталікоў была суцэльнай авантурай. У сакавіцкім нумары «Хрысьціянскай Думкі» за 1928 г. паведамлялася пра тое, што кс. Барадзіч вылучыў на выбары сваю кандыдатуру ў Польскі Сойм, не звяртаючы ўвагі на забарону архібіскупа; за што архібіскуп адхіліў яго ад выканання душпастырскіх абавязкаў і забараніў знаходзіцца ў межах Віленскай архідыяцэзіі[697]. Але забарона такая, відаць, трывала нядоўга, бо ўжо ў чэрвені 1928 года кс. Барадзіч заявіў пра сябе чарговай авантурай у барацьбе з друйскімі айцамі марыянамі. Вядома, што паводле папежскага дэкрэту парафіяльны касцёл у Друі разам з зямлёй і іншай прыналежнай касцёлу маёмасцю быў перададзены ў 1923 г. айцам марыянам. Яны заснавалі свой кляштар і павялі душпастырскую, сапраўды хрысціянскую працу ва ўсёй Друйскай парафіі па-за палітычным кантэкстам. Іх цікавасць да беларускага народу і зварот да яго мовы, як піша «Беларуская Крыніца», «сталі косткай у горле ўсялякага роду польскім шавіністым»[698]. Каб стварыць канкурэнцыю айцам марыянам і пазбавіць іх магчымасці беларускай працы ў парафіі, узнікае праект будаўніцтва новага касцёла, які, быццам бы, запатрабаваны ініцыятывай саміх парафіянаў. Для рэалізацыі такой авантуры і быў выкарыстаны нядаўна прызначаны ў Друйскую парафію не хто іншы, а «спрытны ў такіх справах кс. Барадзіч». 13 чэрвеня 1928 г. кс. Барадзіч, спасылаючыся на загад Віленскага арцыбіскупа, распачаў акцыю па будаўніцтву новага касцёла. Спектакль, які наладзіў кс. Барадзіч пасля набажэнства на пляцы св. Антонія ў Друі ў момант выхаду людзей з касцёла (з выездам на возе, пад гукі нанятага жыдоўскага аркестра, з гучнай прамовай ахвяраваць на новы касцёл) ствараў карціну змушанага людзьмі выступу нейкага апостала ці місіянера[699].

Вядомы быў кс. Барадзіч і сваімі, такімі ж як і сам, скандальнымі кнігамі публіцыстычнага зместу. Прынамсі, назва адной з іх «Kresy Wileńskie w niebezpieczeństwie» сама гаворыць за сябе. Наіўна было б думаць, што Віленшчыне пагражае нейкае сусветнае зло ці стыхія. Пафас кнігі ў тым, што небяспека пагражае польскасці і каталіцтву на Віленшчыне з боку розных сацыялістычных, уніяцкіх і беларускіх ідэяў, праваднікамі якіх выступаюць знекуль узятыя беларусы, у тым ліку і беларускія каталіцкія святары[700]. Калі размежаваць паняткі польскага патрыятызму і

[696] Яшчэ аб кс. Барадзічу // Сялянская Ніва. – 1927. – № 74. – 12 кастрычніка. – С. 3.
[697] Kara ks. Barodziča // Chryscijanskaja Dumka. – 1928. – № 5. – S. 7.
[698] Awantura polskich endekau u Druji i ks. Barodzič // Biełaruskaja Krynica. – 1929. – № 22. – 28 červienia. – S. 1.
[699] Там жа.
[700] Borodzicz, J. Kresy Wileńskie w niebezpieczeństwie: dalszy ciąg pamiętników «Na wozie i pod wozem» (Polska i zagr.) / J. Borodzicz. – Wilno, nakład autora, 1928, Wilno, Druk. «Znicz».

польскага шавінізму, дык цяжка ўявіць сабе, што аўтарам такой кнігі з'яўляецца каталіцкі ксёндз. Не прыходзіцца гаварыць і пра гістарычную аб'ектыўнасць шматлікіх фактаў, аднабаковых аргументаў, тэндэнцыйных высноваў і г. д. Нават у Віленскай мітрапалітальнай капітуле звярнулі ўвагу і запярэчылі на самазваныя фальсіфікацыі аўтара з прысваеннем сабе тытула каноніка Віленскай капітулы кафедральнай[701].

Такія негатыўныя характарыстыкі асобы ксяндза і яго дзейнасці на старонках друку (асабліва беларускага) маглі б стаць нагодаю для шматлікіх судовых цяжбаў. Але, відаць, характарыстыкі гэтыя адпавядалі сапраўднасці, бо сам Бародзіч звярнуўся ў суд толькі адзін раз (судзіўся з «Беларускай Крыніцай»). Болей таго, той факт, што каталіцкі ксёндз далёка не каталіцкімі меркамі судзіць і абвінавачвае іншых ксяндзоў, і як хрысціянін далёка не хрысціянскімі метадамі заклікае да барацьбы з іншымі хрысціянамі, не мог быць прыкладам для апостальскай дзейнасці і спрыяць пашырэнню каталіцтва і хрысціянства. Магчыма, гэта разумелі і ў кіраўніцтве Віленскай Архідыяцэзіі, бо неўзабаве ў «Беларускай Крыніцы» з'явілася перапрашэнне кс. Бародзіча: «Усё, што я ў сваім часе крыўднае пісаў у брашурцы «Kresy Wileńskie w niebezpieczeństwie», а таксама ў іншых часопісах аб асобах духоўных, як аб сьв. пам. пралаце Скірмунце, кс. др. І. Бобічу, ксяндзах Марыянах, а таксама і аб іншых асобах, адклікаю і перапрашаю...»[702]. Аналагічныя лісты былі надрукаваны ў «Хрысьціянскай Думцы» (1932, № 9). Але гаварыць, што на гэтым кс. Бародзіч супакоіўся, было рана.

18 верасьня 1932 г. пры капліцы ў в. Бабалёве з'явіўся Бародзіч і сказаў казанне, у якім называў усіх некатолікаў «быдлём», а крыж іншых хрысціянаў – «чартоўскім». Праклінаў усіх тых, хто не пяройдзе ў каталіцтва, аж да сёмага пакалення. Прызываў да барацьбы з праваслаўнымі, як з «бальшавікамі»[703].

---

[701] «Ks. Józef Borodzicz, niegdyś należący do diecezji wileńskiej, obecnie zamieszkały w San Remo (Corso Imperatrice, villa "Polonia"), w książce swej Kresy polskie w niebezpieczeństwie, wydanej w Wilnie, na str. 9, podał, iż ś. p. Ks. Stefan Zwierowicz, Biskup Wileński, zaszczycił go (tj. ks. J. Borodzicza) "tytułem kanonika wileńskiej kapituły katedralnej", i dodał, iż "to wszystko miało być tajemnicą przed Moskalami". Kapituła Metropolitalna Wileńska niniejszem słwierdza, że o mianowaniu ks. Józefa Borodzicza kanonikiem w aktach kapitulnych żadnej niema wzmianki; członkowie zaś Kapituły, mianowani jeszcze przez ś. p. Biskupa Zwierowicza, oświadczyli, iż nigdy o tej nominacji nie słyszeli i żadne tego rodzaju sekretne nominacje nawet "przed Moskalami" przez ś. p. Biskupa Zwierowicza nigdy nie były praktykowane, jako zbyteczne i bezcelow e. W iadomość przeto powyższą należy uważać za fałszyw ą z gruntu. W imieniu Kapituły Metrop. Wileńskiej – za Prałata-Prepozyta Ks. Adam Sawicki Prałat-Archidiakon» // Wiadamości Archidiecezalnie Wileńskie. – Wilno, 1931. – № 11–12. – 10–25 czerwca. – S. 166–167.

[702] Да віны прызнаўся, але паправіцца не абяцаўся // Беларуская Крыніца. – 1932. – № 28. – 25 ліпня. – С. 2.

[703] Каталік. Кс. Бародзіч «за работай» (Дзісненшчына) // Беларускі Звон. – 1932. – № 27. – 30 верасьня. – С. 4.

На астатак гісторыі пра кс. Бародзіча хацелася б прывесці колькі цытатаў сучасных мясцовых краязнаўцаў пра яго і паказаць, як з недасведчанасці аўтараў «штампуюцца» «героі»: «У сузор'і яркіх, таленавітых святароў, якія працавалі ў Клюшчанскім касцёле і пакінулі аб сабе след у памяці пакаленняў, дабавілася яшчэ адна зорка першай велічыні – ксёндз Юзаф Бародзіч... Мы не маем права забываць тое, што зрабіў гэты святар для нашых продкаў і для нас, яго адданую працу на карысць касцёла, пабудаваныя ім шматлікія святыні для праслаўлення Бога... Яго жыццё – гэта прыклад ахвярнага служэння Богу. Яго праца назаўсёды будзе ўпісана ў нашу гісторыю... Ён дастойны таго, каб мы памяталі яго і былі яму ўдзячны... Толькі чалавек моцны духам, цвёрда ўпэўнены ў сваёй праваце і цалкам адданы той справе, да якой быў пакліканы, і толькі з Божай дапамогай можна было вытрымаць усе гэтыя выпрабаванні, не растраціць душэўны запал, веру, чысціню, вернасць ідэалам праўды і дабра...»[704].

З чым можна пагадзіцца з аўтарам, дык гэта з паловай сказа, што «Мы не маем права забываць тое, што зрабіў гэты святар для нашых продкаў і для нас...».

Нішто так не кампраметавала Каталіцкі Касцёл ў Заходняй Беларусі, як такая дзейнасць ксяндзоў-паланізатараў. Пра якія можна гаварыць уплывы такога святара, пра якую можна гаварыць павагу да яго з боку вернікаў?!

Дарэчы, пра тое, што польская каталіцкае духавенства страціла ўсякую павагу ў вачах беларусаў, яскрава гаворыць яшчэ адзін прыклад – учынак кс. капеляна капітана Міхала Завадскага, які арганізаваў у жніўні 1938 г. падрыў адной праваслаўнай капліцы у г. Маладзечна і спробу разбурэння другой. У рэзалюцыі пратэсту беларускай грамадскасці адзначалася, што такое руйнаванне хрысціянскіх святыняў не магло быць здзейснена без ведама польскіх духоўных і вайсковых уладаў[705], што пацвярджалася адпаведнымі дакументамі. «Кс. Міхал Завадзкі, капелян польскага войска ў Маладэчне, вёў адначасна акцыю «наварачваньня» праваслаўных «stosownie do udzielonego zezwolenia przez J. E. ks. Arcybiskupa Wilenskiego z dn. 16/1/1937 roku Nr. 0 – 1937»[706].

Напрыканцы 1930-х гадоў цікавы выпадак адбыўся ў Жодзішках. У час велікодных споведзяў каталік Антон Грышкевіч пайшоў спавядацца да пробашча кс. Яна Яськевіча, але той, пачуўшы беларускую мову, запатрабаваў споведзі на польскай. Калі ж А. Грышкевіч сказаў, што польскай не ведае, дык ксёндз з крыкам: «То ідзі спавядайся да Вільні, да ксяндза-беларуса» са злосцю пакінуў спавядальню і ўцёк[707].

---

[704] Валуевіч, Іаланта. Вернутыя імёны: да 150-годдзя ксяндза-пробашча Юзафа Бародзіча [Электронны рэсурс] / Іаланта Валуевіч // Астравецкая праўда. – 25.04.2011. – Рэжым доступу: http://www.ostrovets.by/?p=7694. – Дата доступу: 02.01.2017.

[705] Рэзалюцыя-пратэст сходу сяброў Беларускага Цэнтру ў Літве 1939 г. сакавіка мес. 10 дня // Беларуская Крыніца. – 1940. – № 18. – 5 сакавіка. – С. 2.

[706] Матэрыялы і дакументы // Biełaruskaja Krynica. – 1940. – № 22. – 19 sakawika. – S. 3.

[707] Sviedki. Ksiondz nia choca spaviadac bielarusa. Zodziski, Vialejskaha pav // Шлях моладзі. – Вільня, 1938. – № 16. – 25 ліпеня. – С. 8.

Пра што гаворыць гэты выпадак? Ці не пра тое, што дзякуючы палітыцы вынішчання беларускасці ў касцёле, іншыя ксяндзы на ўзроўні свядомасці і падвядомасці сталі баяцца самой беларускай мовы, каб хаця б не быць улічанымі ў яе падтрымцы ці патуранні, бо «за гэта можна пацярпець...». Але ад гэтага больш цярпела каталіцкая вера.

Такім чынам, гаворачы пра ксяндзоў-паланізатараў і шукаючы хоць нейкую зачэпку для разумення такой дзейнасці, міжволі ўзнікае лагічнае пытанне: адкуль родам былі ксяндзы-паланізатары? Як гэта не дзіўна, але толькі адзінкі з іх не мелі ніякага дачынення да беларускай этнічнай прасторы. Невядомы аўтар са Смаргоні ставіў слушныя пытанні наконт таго, чаму гэта ксяндзы, як пробашч Чарняк[708], ці Урбановіч[709], якія месцам народзін звязаныя са Смаргонямі, адкінулі свой радзімы корань, чаму не могуць быць светачамі і беларускай справы? Ці перашкаджае гэтаму ксяндзоўства? Ці не можа быць ксёндз адначасна духоўнікам і быць сейбітам нацыянальнай свядомасці? Чаму інакш вядзе справу кс. Гадлеўскі ў Жодзішках?.. [710].

Можна было б зразумець, але не апраўдаць, ксяндзоў, панаехаўшых з-пад Варшавы, з-пад Торуні, якія не ведалі б ані гісторыі краю, ані нацыянальных стасункаў, а ім сказалі, што гэта «kresy» польскія... Але так думаць – г. зн. быць не аб'ектыўным і наіўным, бо сапраўдныя місіянеры ў хуткім часе зразумелі бы самі, што да чаго. А гэтыя – ані ў якую, больш таго, прынцыпова не хацелі бачыць. І толькі таму, што фактар палітыкі для іх, фактар прыстасавання і асабістай выгады быў нашмат больш важнейшым, чым хрысціянская ідэя і апостальскае служэнне.

Кс. Адам Станкевіч пераканаўча раскрыў механізм залежнасці літоўскіх і беларускіх ксяндзоў ад мясцовых паноў. Усякі мясцовы пан стараецца ўслужыць свайму пробашчу, каб зрабіць яго сваім: то вазок, другі сена прышле, то пад фэст мяса, то прыцягне ў нейкія таварыствы, то запросіць пробашча на абеды ці свае вечарыны, дзе звычайна прысутнічае «шляхотнасць» і начальства, гуляюць у карты, вядуцца свецкія і палітычныя гутаркі. І пробашч часам не паспее аглянуцца, як трапляе ў кола

---

[708] Чарняк Леанард, беларускі каталіцкі святар (20.04.1893 г. у в. Дордзішкі Ашмянскага пав. Віленскай губ. (цяпер Смаргонскі р-н) – 11.06.1976 г.). Паходзіў з беларускай сялянскай сям'і бацькоў Міхала і Францішкі (з дому Смешкаў). Скончыў гарадскую 4-класную гімназію ў Ашмянах (1911 г.), Віленскую рымска-каталіцкую духоўную. семінарыю (1912–1917 гг.). У семінарыі быў перакананым беларусам. Пасвечаны ў святары 26.05.1918 г. Душпастырскую дзейнасць распачаў на пасадзе вікарыя ў парафіі Эйшышкі Радунскага дэканата. З 1920 г. служыў пробашчам у Смаргоні. З пачатку 1930-х гадоў – у парафіі Трабы Вілейскага дэканата (1933–1936 гг.). Прыхільнік Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Матэрыяльна падтрымліваў беларускую каталіцкую газету «Kryniсa».

[709] Урбановіч Міхаіл (1890–1973 гг.), каталіцкі святар заходняга абраду, магістар тэалогіі, манах-марыянін, місіянер, удзельнік беларускага хрысціянскага руху.

[710] Smarhoniec. Spauniajcie-ž abawiazak, jaki wymahaje Baćkauščyna-Biełaruś m. Smarhoń // Kryniсa. – 1924. – № 21. – 12 žniunia. – S. 4.

панскіх інтарэсаў і памаленьку зжываецца з панскімі паглядамі і прывыкае да панскай клямкі – і такім парадкам паміж дваром і плябаніяй пануе поўная гармонія. А людзі, пабачыўшы такую згоду, трацяць усякі давер да пробашча і між імі пачынаюцца недаразуменні. Для іх ксёндз і пан – адна хэўра. А для пробашча парафіяне, як і для пана – быдла. А каб падабацца свайму пану, шмат хто пачынае з ксяндзоў гаварыць па-польску нават з варшаўскім акцэнтам, каб барані Божа, ніхто не мог падумаць, што ён з мужыкоў, а калі яшчэ згадаць паланізацыйны курс у духоўнай семінарыі пра тое, што польская мова – галоўная навука і неаддзельная частка каталіцтва – і польска-шляхоцкі тып ксяндза гатовы. І дзве трэція ксяндзоў у нашым краі адносяцца да такога тыпу[711].

Падобнае пытанне ўзнікла на старонках «Беларускай Крыніцы» ў сувязі з высяленнем у 1940 г. з Вільні ваенным камендантам Літвы на год кс. У. Петкуна за дзейнасць «супярэчную з духам дзяржаўнасці» – дзяржаўнасці Літвы. Нарадзіўся кс. Петкун у Іказьні (Браслаўскі пав.) у беларускамоўнай сям'і. Вучыўся ў Друйскай марыянскай гімназіі, дзе залічваў сябе да беларусаў. У Віленскай духоўнай семінарыі стаў ярым польскім нацыяналістам. Цешыўся, калі польскія ўлады разганялі беларусаў і літоўцаў і шкадаваў, што позна да гэтага дадумаліся. Беларусь і Літва для яго былі чыста польскімі землямі. «Не сакрэт, – піша «Беларуская Крыніца», – у Віленскай архідыяцэзіі з малымі выняткамі большасць польскага духавенства – пераважна «петкуны». І гэтая большасць насупраць самага духа Эванэлі служа рашуча і выключна польскай чужацкай нацыяналістычнай справе. І бяда ў тым, што ў гэтай большасці вельмі шмат ёсць з паходжання беларусаў і літоўцаў[712]. І да такіх можна смела аднесці кс. дэкана А. Асціловіча, які напачатку залічваў сябе да народнасці крывіцкай, кс. П. Пякарскага – аднаго з заснавальнікаў беларускага гуртка ў Пецярбургскай духоўнай акадэміі[713], кс. дэкана Н. Тарасевіча, які з прыхільнікаў беларускасці стаў яе ганіцелем, біскупаў З. Лазінскага (нарадзіўся каля Наваградку) і К. Букрабу (нар. у Гродна) і сотні іншых «петкунаў». Прычыну такіх шкодных, немаральных, некультурных і нехрысціянскіх адносінаў «Беларуская Крыніца» бачыць у выхаванні, якое насычана прапольскай ідэалогіяй у духоўнай семінарыі[714].

Дарэчы, наконт духоўнай семінарыі. Усе просьбы да духоўнай улады пра увядзення ў Віленскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю прад-

[711] S. K-i. Lišnija uhodliwaść // Krynica. – 1925. – № 1. – 4 studnia. – S. 4.

[712] Nie u Petkunie sprawa // Biełaruskaja Krynica. – 1940. – № 27. – 5 krasawika. – S. 1.

[713] Пра далейшую дзейнасць кс. П. Пякарскага была адна невялічкая заўвага. У артыкуле «Незалежнасьць Беларусі і Каталіцкі Касьцёл» кс. В. Гадлеўскі згадваў ксяндзоў-беларусаў Віленскай дыяцэзіі (Гадлеўскага, Станкевіча, Цікоту, Пятроўскага, Пякарскага, Шутовіча, Шалкевіча, Рамейку і інш.). Да прозвішча Пякарскага ёсць невялічкая заўвага рэдакцыі: «Гэты аказаўся здраднікам і вырадкам Беларускага народа». – Skalmanouski W. Niezaležnaść Biełarusi i Katalicki Kaśćioł // Krynica. – 1921. – № 10. – 3 krasawika. – S. 2.

[714] Nie u Petkunie sprawa // Biełaruskaja Krynica. – 1940. – № 27. – 5 krasawika. – S. 1.

метаў беларускай мовы, літаратуры, гісторыі ня мелі аніякіх вынікаў. Наадварот, у семінарыі яшчэ больш сталі ўзмацняцца паланізатарскія тэндэнцыі. Браніслаў Туронак пісаў, што інспектар Любянец, як і раней, не радзіць клерыкам запісвацца беларусамі, даказваючы пры гэтым, што беларусаў ніколі не было і няма: «Духоўная каталіцкая семінарыя ў Вільні – гэта чужая і варожая для нашага народу ўстанова, гэта ўстанова толькі паланізатарская, гэта кузьня не здаровых і сільных характараў, не праўдзівых слуг Хрустусавых, а кузьня польскасьці, і польскай, а не каталіцкай веры[715]. Духоўная рымска-каталіцкая семінарыя ў Вільні заставалася такой жа прапольскай і чужой для беларускіх духоўных патрэбаў праз увесь міжваенны час і з поспехам працягвала і далей выхоўваць будучых пастыраў у янычарскім духу.

Ліквідацыі беларускасці ў каталіцкім жыцці шмат у чым паспрыяў, як гэта не парадаксальна, Канкардат, заключаны між Ватыканам (Папам Рымскім) і Польскім урадам.

## 2.4. КАНКАРДАТ МІЖ АПОСТАЛЬСКАЙ СТАЛІЦАЙ І ПОЛЬШЧАЙ (1925 г.). ВІЛЕНСКІ АРХІБІСКУП КС. Р. ЯЛБЖЫКОЎСКІ

Сітуацыя з праблемамі беларусаў-каталікоў і іх святарамі яшчэ больш пагоршылася з нагоды ратыфікацыі ўмоваў канкардату[716] між Польшчай і Апостальскай сталіцай. Ад імя Апостальскай Сталіцы дакумент падпісаў упаўнаважаны Папы Рымскага Піуса XI папежскі сакратар карданал П'етро Гаспары; ад Польшчы – міністр адукацыі і веравызнанняў Станіслаў Грабскі. 26.03.1925 г. канкардат быў ратыфікаваны Польскім Соймам пры ўдзеле ўпаўнаважанага прэзідэнта Польшчы, амбасадара пры Апостальскай Сталіцы У. Скрынскага і дэпутата парламента С. Грабскага.

Варта падкрэсліць, што ў час абмеркавання Соймам канкардату з Ватыканам кс. А. Станкевіч адмовіўся прымаць удзел у пасяджэнні, матыву-

---

[715] Krywičonak M. Duchounaja katalickaja seminaryja // Krynica. – 1921. – № 31. – 16 kastryrčnika. – S. 1.

[716] Канкардат – пагадненне між Апостальскай Сталіцай (рымскімі папамі) і свецкім урадам каталіцкіх дзяржаваў (паводле тэрміналогіі, прынятай рымскай курыяй) аб становішчы Каталіцкай Царквы, яе правах і прывілеях (прызначэнне біскупаў, царкоўная ўласнасць, вызваленне ад падаткаў, умовы дыпламатычных адносінаў з Ватыканам і інш.). Дамовы з некаталіцкімі дзяржавамі звычайна называюцца канвенцыямі. Праўда, у XIX–XX стст. прынцыповага разыходжання ў тэрміналогіі не існавала. Папа Рымскі Піус XI (1922–1939 гг.) быў ініцыятарам канкардатаў з Літвой і Румыніей (1927 г.), Італіей (1929 г.), Аўстрыей і Германіей (1933 г.). У савецкай гістарыяграфіі, а пазней у руска-праваслаўнай, канкардаты Ватыкана падвяргаліся крытыцы, як да прыкладу, канкардат з фашысцкім рэжымам Мусаліні ў Італіі (Латэранскае пагадненне, Рим, 11.02.1929 г.). Тут трэба разумець, што падобныя канкардаты Ватыкана былі адным з метадаў выжывання інстытута папства (Латэранскае пагадненне) і існавання каталіцтва ў свеце.

ючы гэта тым, што канкардат не вырашае беларускіх праблемаў. За такі ўчынак кс. А. Станкевіч меў нараканні з боку нунцыя Леўрама[717].

Канкардат уступіў у сілу ад 2.08.1925 г. Мэта пагаднення – павышэнне ролі Каталіцкага Касцёла ў аднаўленні ІІ Рэчы Паспалітай, зацвярджэнне права ўзаемадзеяння Касцёла і дзяржаўнай улады, стварэнне маналітнай каталіцкай нацыянальнай дзяржавы. Асноўныя палажэнні канкардата зыходзілі з свабодных адносінаў і супрацоўніцтва між дзяржавай і Каталіцкім Касцёлам у якасці грамадскага інстытута. Касцёл набываў права на сваю маёмасць, свабоду кантактаў з Ватыканам, кананічнай місіі для вывучэння рэлігіі ў школе і універсітэтах; у нядзелю і ў дзяржаўныя святы ўводзіліся абавязковыя набажэнствы за дабрабыт Польшчы і яе прэзідэнта (арт. 8), Ватыкан прызнаваў Польшчу паводле яе існуючых межаў на дадзены момант (арт. 9), займаць царкоўныя пасады мелі права толькі асобы польскай нацыянальнасці, для іншаземцаў патрэбен быў дазвол ад свецкіх уладаў (арт. 10) і г. д.[718]. Некаторыя артыкулы Канкардату выклікалі незадавальненне беларускай грамадскасці, былі прааналізаваны і асрэчаны ў друку[719].

Так, да прыкладу, паводле артыкула 11 Канкардату пры назначэнні на вышэйшыя пасады каталіцкай ерархіі, апошняе слова заставалася за прызідэнтам Польшчы, што «выключае магчымасці назначэння біскупа-беларуса, бо прэзідэнт Польшчы мае права запратэставаць проціў кандыдата дзеля матываў палітычных…» А такой прычынай можа быць прыналежнасьць да беларускай народнасьці[720]. Гэта значыць, калі б Рым і пайшоў насустрач беларусам-каталікам і даў бы згоду на двух-трох біскупаў-беларусаў, дык польскі ўрад мае поўнае права не дапусціць гэтага паводле 11 арт.

Артыкул 12 абавязываў духавенства даваць прысягу на вернасць Польскай Рэспублікі і аказваць ёй усемагчымую дапамогу ў яе ўмацаванні... Браніслаў Туронак пісаў, што «трэба толькі дзівіцца, як Папеж мог на гэта згадзіцца» – канчатак прысягі накладаў на біскупаў павіннасць падобную да даносаў ураду, бо біскуп павінен заканчваць прысягу словамі «... рупны аб дабро і інтэрас Гаспадарства буду старацца запабя-

[717] Станкевіч Адам, ксёндз: у 25-я ўгодкі сьвяшчэнства і беларускай нацыянальнай дзейнасьці (10.01.1915–10.01.1940 гг.) / рэдагаваў і выдаў Магістр Ян Шутовіч. – Вільня, 1940. – С. 46.

[718] Konkordat zawartypomiędzy Stolice Apostolske a Rzeczpospolite Polske // Kurenda kurii Diecezjalnej. – 1925. – № 4. – S. 36–48.

[719] Krušyna M. Konkordat i Biełarusy // Krynica. – 1925. – № 9. – 1 sakawika. – S. 1; Artaj. Duchounyja žandary // Krynica. – 1925. – № 17. – 26 krasawika. – S. 1; S. K-i. Dźwie polskija ćwiardyni // Krynica. – 1925. – № 13. – 30 sakawika. – S. 1–2; L. Mamonič. Z pryčyny Konkordatu // Krynica. – 1925. – № 28. – 28 červienia. – S. 1–2; Memoryjał da kanferencyji polskich Biskupau, złožany ksiandzami-biełarusami 18.V.1925 h. // Biełaruskaja Krynica. – 1925. – № 5. – 25 kastrycznika. – S. 3–5; Ластоўскі, В. Канкардат / В. Ластоўскі // Крывіч. – 1925. – № 9 (1). – С. 94–98.

[720] Stankiewicz Ad. Rodnaja mowa u światyniach. – Wilnia, 1929. – S. 141.

гаць (о ухіленне) усялякім для яго небясьпекам, аб якіх ведаў бы, што гразяць яму»[721]. Вацлаў Ластоўскі пракаментаваў гэты артыкул наступным чынам: «…г. зн., што касцёльныя дастойнікі на заваяваных Польшчай землях павінныісці не з народам, а супроць народу і яго незалежніцка-адраджэнчых ідэалаў, памагаць Польскай дзяржаве закоўваць у кайданы польскай няволі народы, падбітыя Польшчай. Урэшце гэты параграф і прысяга забавязуюць біскупаў, каб яны пільнавалі палітычнай дабрадзейнасці свайго парафіяльнага духавенства, што навязуе зверхнікам касцёла функцыі палітычнай паліцыі»[722]. Дарэчы, В. Ластоўскі ад імя беларускіх нацыянальных арганізацыяў асабіста ў рукі кардыналу Гаспары ў Рыме падаў мемарандум-пратэст супраць такога «ганебнага Канкардату».

Невыпадкова ў гэты час у «Крыніцы» з'яўляецца артыкул пад назвай «Духоўныя жандармы», у якім невядомы аўтар згадвае расейскія парадкі, рэлігійны і нацыянальны ціск, які быў пры цары, і такое «дзікае з'явішча ў духоўным жыцці», як прысягу праваслаўнага духавенства, дадзеную расейскаму ўраду ў тым, што «будуць усімі сіламі выкараняць «крамолу» і ўсякі бунт на «рускай» зямлі»... Даходзіла да таго, што папы мусілі даносіць ураду пра тое, што чулі на споведзі... Асабліва зорка сачылі папы за каталіцкім духавенствам – і, праўду кажучы, не было нічога горшага для каталіцкага духавенства, як папоўскае вока... Але тыя часы даўно ўжо прайшлі. Папы страцілі сваю сілу, змяніліся палітычныя варункі – толькі асталіся «духоўныя жандары» ўжо не ў папоўскай расе, але, як на дзіва, у ксяндзоўскай сутане...». Далей аўтар згадвае, як у часы польскай акупацыі (1919–1920 гг.) галоўнай апорай быў польскі ксёндз, ледзь не праваднік тайнай паліцыі, і дастаткова было ксяндзу паказаць на некага, каб таго арыштавалі як бальшавіка ці як беларуса. Пасведчанне ад польскага ксяндза як «добры паляк і католік» бараніла ад прыкрых неспадзяванак. «Перамяніліся толькі людзі і адзежа, – піша аўтар, – але спосаб астаўся той самы... Паводле канкардату біскуп вымушаны інфармаваць паліцыю пра ўсё, што можа пагражаць панствовасці польскай і даносіць нават на сваіх ксяндзоў... Біскупаў на моцы канкардату робяць «генеральнымі жандарамі». «Гэта нават і цару не снілася», – робіць высновы аўтар[723].

Артыкул 19 даваў права свецкай уладзе ўмешвацца ў кадравыя пытанні духоўнай улады «вымагае ад біскупаў, каб назначаючы ксяндзоў на пробашчаў, пыталі раней адпаведнага міністра польскага, каб упэўніцца, ці дзейнасць кандыдата на пробашча не пярэча бяспечнасьці дзяржавы. І тут ясна, што ў вачах міністра беларуская народная дзейнасьць ксяндза можа быць уважанай за небясьпечную для дзяржавы». Артыкул гэты дае

[721] Krušyna M. Konkordat i Biełarusy // Krynica. – 1925. – № 9. – 1 sakawika. – S. 1.
[722] Ластоўскі, В. Канкардат / В. Ластоўскі // Крывіч. – 1925. – № 9 (1). – С. 94–98; цыт. паводле: Ластоўскі Вацлаў. Канкардат / Вацлаў Ластоўскі // Творы. – Мінск : Беларускі кнігазбор, 1997. – С. 371.
[723] Artaj. Duchounyja žandary // Krynica. – 1925. – № 17. – 26 krasawika. – S. 1.

магчымасць польскаму ўраду не дапушчаць беларускіх ксяндзоў да кіравання беларускімі парафіямі[724].

Паводле 23 арт., усякія змены мовы ў дадатковых набажэнствах, казаннях, пры навучанні рэлігіі ў семінарыях маглі быць дапушчаны толькі з дазволу канферэнцыі польскага епіскапату, але на такой канферэнцыі прысутнічаюць выключна адны палякі, якія прысягнулі на вернасць Польшчы паводле 12 арт. Канкардату, што, практычна, цалкам пазбаўляла беларусаў-католікаў магчымасці такога дазволу. Кс. В. Гадлеўскі, каментуючы гэты пункт, не без іроніі адзначыў, што Польшча, ідучы на ўсход, трымаецца на дзвюх цвярдынях: польскі двор і польскі касцёл… Гэтым канкардатам, асабліва 23 арт., Папа Рымскі падтрымаў не Каталіцкі Касцёл у Польшчы, а польскую палітыку і «польскі» касцёл на «крэсах», тым самым праявіўшы вялікую крыўду для беларусаў, літвінаў і ўкраінцаў… бо іхнай мовы ўводзіць у касцёл не можна без згоды польскіх біскупаў…[725].

25 артыкул Канкардату зацягваў яшчэ тужэй пятлю беларусам-католікам. Паводле яго ўсякія загады і дэкрэты, выданыя перад Канкардатам, трацяць сваю юрыдычную сілу. Гэта значыць, што калі дзе беларусы дамагліся сваёй мовы ў касцёле або ёсць выданы касцёльнай уладай закон, як, напрыклад, пастанаўленне біскупа Э. Ропа ад 1917 г., дык усё гэта Канкардатам касуецца[726].

«Беларускае каталіцкае духавенства, – пісаў кс. А. Станкевіч, – як толькі даведалася аб падпісаньні Конкордату, у мемарыяле 20.III.1925 г. зьвярнулася да Нунцыя Апостальскага ў Варшаве, прадстаўляючы яму свае ўвагі што да тых пунктаў Конкордату, з якіх можа быць Беларусам крыўда»[727]. У гэтым мемарыяле беларускія духоўнікі прасілі аб выдачы Апостальскай Сталіцай спецыяльнага загаду аб ужыванні беларускай мовы ў навучанні рэлігіі і дадатковых набажэнстваў, аб прызначэнні ў Вільню і Пінск біскупаў суфраганаў з беларусаў, аб патрэбе ўводу беларусазнаўства ў духоўныя семінарыі. 18 мая 1925 г. беларускае каталіцкае духавенства злажыла чарговы мемарыял канферэнцыі біскупаў, у якім адзначаліся патрэбы роднай мовы ў асветніцкім, грамадскім, палітычным і рэлігійна-касцёльным жыцці каля аднаго міліёна беларусаў-каталікоў у Польшчы: «…А мы каталіцкія ксяндзы – духоўныя пастары беларусаў-каталікоў, як сыны яго такжа працуем для адраджэньня свайго народу, зварачваючы прадусім увагу на тое, каб вера каталіцкая, як дэпазыт і апора мела запэўненае сабе месца ў сэрцах каталікоў-беларусаў, а такжа, каб згэтуль прамянілася і на нашых братоў праваслаўных… Дык як беларусы-каталікі, так і духавенства іх, загаварылі ў справе ўжываньня роднай мовы ў Кас-

[724] Stankiewicz Ad. Rodnaja mowa u światyniach. – Wilnia, 1929. – S. 141; M. Krušyna. Konkordat i Biełarusy // Krynica. – 1925. – № 9. – 1 sakawika. – S. 1.
[725] S. K-i. Dźwie polskija ćwiardyni // Krynica. – 1925. – № 13. – 30 sakawika. – S. 1–2.
[726] Krušyna M. Konkordat i Biełarusy // Krynica. – 1925. – № 9. – 1 sakawika. – S. 1.
[727] Stankiewicz Ad. Rodnaja mowa u światyniach. – Wilnia, 1929. – S. 143.

цёле толькі дзеля таго, што польскую мову, як мову чужую, народ наш разумее з трудом, а часта зусім яе не разумее, <…> што пастырская праца сярод беларусаў-каталікоў у чужой для яго мове дужа трудная і часта зусім бескарысная…»[728]. Развязванне згаданых праблемаў беларускія святары бачаць у магчымасці рэалізацыі сваіх пастаянных просьбаў: вывучанне ў духоўных семінарыях у Вільні і Пінску беларускай мовы, гісторыі, літаратуры; у выданні Апостальскай Сталіцы нарматыўнага дакумента, які рэгуляваў бы ўжыванне беларускай мовы ў касцёльным жыцці; аб далучэнні беларускіх этнаграфічных асяродкаў, пры падзеле дыяцэзіі, да беларускіх этнаграфічных тэрыторыяў. Мемарыял гэты падпісалі 15 прадстаўнікоў беларускага каталіцкага духавенства: кс. Фабіян Абрантовіч (пралат Пінскай капітулы), др. кс. Язэп Рэшаць (прафесар Віленскай семінарыі), кс. Антон Зянкевіч (дэкан Глыбоцкага дэканату), кс. Вінцэнт Гадлеўскі (пробашч у м. Жодзішкі), кс. Андрэй Цікота (пробашч у м. Друя), кс. Францішак Рамейка (пробашч у м. Задарожжа), кс. Адам Станкевіч (пасол Варшаўскага Сойму), кс. Віктар Шутовіч (пробашч у м. Барадзенічы), кс. Ян Семашкевіч (пробашч у м. Ляварышках), кс. Кастусь Стаповіч (пробашч у м. Засвір), кс. Міхал Шалкевіч (пробашч у м. Тракелі), кс. Віталі Хамёнак (вікары ў м. Друя), кс. Францішак Аляшкевіч (пробашч у м. Удзел), кс. Аляксандр Аўгустыновіч (пробашч у м. Даўгінава), др. кс. Антоні Шышка (пробашч у Крошыне)[729].

На з’ездзе епіскапату (Варшава, 26–29 мая 1925 г.) быў заслуханы і мемарыял беларускага каталіцкага духавенства[730]. Біскупы прынялі рэзалюцыю, у якой адзначалася, што ўсе духоўныя патрэбы верных цэлай Рэчы Паспалітай, нягледзячы на нацыянальнасці, павінны вырашацца з прыхільнасцю і справядлівасцю[731]. Між іншым, гэта было слабай суцехай для беларусаў-каталікоў, бо далей слоў наконт прыхільнасці і справядлівасці справа не пайшла.

Саюзнікамі беларусаў-каталікоў у пратэстах супраць Канкардату выступалі літоўцы. Паводле ўмоваў Канкардату Вільня была далучана Папам Рымскім да касцёльных правінцыяў Польшчы, што і выклікала хвалю абурэння ў літоўцаў. У сувязі з гэтым, Літоўскі ўрад уручыў папежу дзве ноты пратэсту. У Коўне адбыўся шэраг мітынгаў і пратэстаў супраць Ватыкану. Папежскі прадстаўнік манс. Зацхіні вымушаны быў пакінуць Коўну[732].

[728] Memoryjał da kanferencyji polskich Biskupau, złożany ksiandzami-biełarusami 18.V.1925 // Biełaruskaja Krynica. – 1925. – № 5. – 25 kastrycznika. – S. 3–5; Stankiewicz, Ad. Rodnaja mowa u światyniach. – Wilnia, 1929. – S. 144.

[729] ЦНБНАНБ. – Ф. 23. – В. 1. – Спр. 32. – Арк. 5.

[730] Stankiewicz Ad. Rodnaja mowa u światyniach. – Wilnia, 1929. – S. 145.

[731] Wilk Stanisław, ks. SDB. Episkopat Kościoła katolickiego w Polsce w latach 1918–1939… – S. 390.

[732] A. B. Abrachunak dziejnaści arcybiskupa Jałbżykouskaha // Biełaruskaja Krynica. – 1936. – Nr. 39. – 27 wieraśnia. – S. 2.

Як успрыняў і выконваў умовы Канкардату Пінскі біскуп З. Лазінскі, можна меркаваць па тым, як ў дыяцэзіі з кожным годам станавілася ўсё менш і менш астраўкоў беларушчыны. А вось што да Віленскага біскупа а. Ю. Матулевіча, дык варта адзначыць, што такое пагадненне яшчэ больш абвастрала супрацьстаянне між біскупам і польскімі ўладамі з духавенствам.

Айцец Адам Станкевіч пісаў, што «Біскупу Матулевічу гэты Канкардат адкрыў магчымасьці, якіх ён баяўся і стараніўся. Для яго было ясным, што апіраючыся на Канкардаце цывільныя ўлады польскія будуць яшчэ больш, як раней, рабіць націск у кірунку паралізаваньня праз Касьцёл усякіх народна-рэлігійных пачынаньняў каталікоў, належачых у Польшчы да нацыянальных меншасьцяў. Для біскупа Матулевіча было ясным, што вытварыўшаеся палажэньне само праз сябе ўцягне яго як заінтарэсаванага дзеля яго касьцёльнага становішча ў вір барацьбы між урадам і нацыянальнымі меншасьцямі, так-жа і ў жыцьці касьцёльным. Усякай-жа барацьбы, усякага дзейнага змаганьня, біскуп Матулевіч, дзеля сьвятасьці свайго характару, стараніўся, дык дзеля гэтага летам 1925 г. прасіў сьв. Айца аб прыняцьці яго зрачэньня з Віленскай сталіцы…»[733].

Біскуп а. Ю. Матулевіч цудоўна разумеў, што такі Канкардат – не што іншае, як чарговы віток узаконенай паланізацыі краю, што прадыктаваны ён быў польскім урадам Апостальскай Сталіцы ў інтарэсах узмацнення і замацавання не столькі каталіцкасці, колькі польскай дзяржаўнасці і польскасці ў сферы рэлігійна-каталіцкага жыцця.

Просьба яго аб вызваленні з біскупскай пасады, пасля угавораў застацца, была прынятай адначасова з прысваеннем яму тытула архібіскупа[734]. Дарэчы, такі зыход а. Ю. Матулевіча задавальняў польскі епіскапат і спольшчанае духавенства ў Віленскім архібіскупстве, Польскі ўрад і Апостальскую Сталіцу.

### 2.4.1. Віленскі архібіскуп кс. Р. Ялбжыкоўскі

З прыходам на Віленскую архібіскупскую кафедру кс. Рамуальда Ялбжыкоўскага[735], дастойнага паланізатара і выканаўцы ўмоваў Канкардату, хваля праследаванняў беларускасці набывае адкрыты палітычны характар уціску і ганенняў. Сутнасць такой палітыкі была больш чым прымітыўнай. Пераканаўчы і аб'ектыўны яе аналіз быў пададзены ў друку ў артыкуле «Як выконваецца канкардат?». Маўляў, пакуль Польшча не мела канкардату з Рымам, датуль адміністрацыйныя ўлады не маглі ўлазіць (ангажавацца) у жыццё каталіцкага касцёлу, але з моманту ўвядзення канкар-

[733] Stankiewicz Ad, ks. Rodnaja mowa u światyniach. – Wilnia, 1929. – S. 147.

[734] Адзін з пунктаў Канкардату надаваў Віленскаму рымска-каталіцкаму біскупству статут архібіскупства (архідыяцэзіі) з прысваеннем кіраўніку (адміністратару) тытула архібіскупа. (Гл. дадатак 9.)

[735] Рамуальд Ялбжыкоўскі [7.02.1876 г., в. Лентово-Домб (Падляскае ваяводства, Польшча) – 19.06.1955 г., Беласток], рымска-каталіцкі біскуп Ломжскай дыяцэзіі (14.12.1925–24.06.1926 гг.), архібіскуп Віленскага архібіскупства (24.06.1926–19.06.1955 гг.).

дату касцёлам пачаў кіраваць быццам не духоўнік, а свецкі – палітык, а мо звычайны рэферэнт... Але цяпер каталіцкі касцёл (як і праваслаўная царква) перайшлі ў рукі польскай шавіністычнай палітыкі. Першым актам такой палітыкі была змена Віленскага біскупа. Трэба было знайсці такога пастыра, якому не трэба было пісаць цыркуляраў, як гэта рабіў адзін з віленскіх ваяводаў біскупу Матулевічу, а які сам, «з ласкі Божай» натхнёны польскасцю, пачаў бы праз касцёл паланізаваць беларускі народ. Не доўга прыйшлося шукаць такога адміністратара дыяцэзіі. Як толькі ён абняў сваю дыяцэзію, адразу прыступіў да «навядзення парадку», бо паліцыя не магла справіцца з ксяндзамі-беларусамі, якія вядуць беларускую ўсведамляючую працу (доўгія судовыя працэсы, непераканаўчыя абвінавачванні, бо камунізм цяжка прышыць ксяндзу і г. д.). А новы арцыпастыр тут жа, без ніякіх працэсаў, пасылае ксяндза-беларуса на баніцыю (пакуту) у польскую парафію, каб не гаварыў тут казанні па-беларуску, каб не чытаў беларускіх газет, каб не распаўсюджваў думкі аб беларускім адраджэнні[736].

«Беларуская Крыніца» пісала, што архібіскуп Р. Ялбжыкоўскі для беларусаў-каталікоў «ускрасіў бясслаўны дух Мураўёва»: на працягу 2–3 гадоў свайго «апостальства» ён скасаваў беларускія казанні ў Барадзенічах, Жодзішках, Друі і іншых парафіях; ксяндзоў-беларусаў выслаў у польскія парафіі, а на іх месца прыслаў ксяндзоў-палякаў, якія пад відам каталіцкай акцыі арганізуюць беларускую моладзь у «Саюз польскай моладзі». У адносінах да мовы беларусаў-уніятаў архібіскуп выказаўся болей чым цынічна, маўляў, калі вернікі захочаць, каб да іх прамаўлялі ў цэрквах па-расейску, дык капланы не могуць ім навязваць іншай мовы: ані польскай, ані беларускай; а калі абралі сабе польскую мову, дык ніхто не будзе ім навязваць мову расейскую[737]. А як можна было зразумець выказ арцыбіскупа карэспандэнту польскай газеты «Rzeczpospolita» пра тое, што ён «асабіста дазнаўся, з асабістых «баданьняў», што беларусы і літвіны ня хочуць, каб іх родная мова ўводзілася ў касцёл. Быццам усе задаволеныя польскаю моваю»[738]. Такія хітра сплеценыя варыяцыі добра гавораць пра тое, што і Яго Эксцэленцыя архібіскуп Віленскі быў не менш спрытным гульцом «у жмуркі», чым яго калега па Пінскай дыяцэзіі. З другога ж боку, пасля такіх «асабістых» прыкладаў з'яўленне розных мацiевічаў, дронічаў, бародзічаў і іншых авантурных духоўных дзеячаў у архідыяцэзіі – заканамерная з'ява. А знешне і сапраўды можна было паверыць у тое, што ніхто так не клапоціцца пра праблемы беларусаў, як гэта робіць арцыбіскуп. У самым пачатку 1933 г. ён выдае пастарскі ліст у справе

[736] Муха, Антон. Як выконваецца канкардат? / Антон Муха // Сялянская Ніва. – 1927. – № 5. – 15 студня. – С. 1.

[737] p-k. Arcybiskup Jałbżykouski suproć pryrodnaha prawa Biełarusau // Biełaruskaja Krynica. – 1933. – № 15. – 9 krasawika. – S. 2.

[738] Усё добра // Сялянская Ніва. – 1927. – № 74. – 12 кастрычніка. – С. 3.

Уніі, у якім між іншым адзначыў, што Касцёл павінен кіравацца толькі ўмілаваннем навукі Хрыстовай, мусіць быць заўсёды вольным ад палітычных і партыйных наветаў, не павінен накідаць чужой мовы і што ён як архіпастыр нікога не хоча вынарадаўляць і заўсёды радзіць вучыць рэлігійных праўдаў у той мове, якой карыстаецца мясцовае насельніцтва[739].

Негатыўнымі наступствамі палітыкі архібіскупа Р. Ялбжыкоўскага было і тое, што ў асяродку каталіцкага духавенства Віленскай архідыяцэзіі сталі фармавацца два відавочныя і варожыя адзін да аднаго лагеры: ксяндзы-паланізатары і ксяндзы-беларусы. На такую небяспеку падзелу адзінства духавенства вымушаны быў звярнуць увагу кс. В. Гадлеўскі ў мемарыяле папежскаму нунцыю ў Варшаве «Аб байкоце польскімі ксяндзамі беларускага духавенства», у якім кс. В. Гадлеўскі прыводзіць шматлікія факты публічнай непавагі і прыніжэння беларускіх святароў ксяндзамі-паланізатарамі[740]. Зразумела, што такая тэндэнцыя была створана пра маўклівым адабрэнні кіраўніцтвам архідыяцэзіі. Варта дадаць і тое, што пры архібіскупу Р. Ялбжыкоўскаму яшчэ больш узмацніўся прапольскі дух рымска-каталіцкай курыі Віленскай архідыяцэзіі. (Гл. дадатак 10.)

Не супадаюць з пункту гледжання звычайнай хрысціянскай этыкі і такія новыя метады працы падпарадкаванай арцыбіскупу курыі, як свядомае перамяшчэнне ксяндзоў-беларусаў у Польшчу, а на іх месца – ксяндзоў-летувісаў. І ўсё гэта рабілася дзеля таго, «каб больш затармазіць беларускае і літоўскае касьцёльнае жыцьцё і каб ня даць магчымасьці для беларускага і літоўскага духавенства быць блізкім свайго народу і мець з ім лучнасьць». Так, толькі за апошнія моманты ў беларускія парафіі былі прызначаныя ксяндзы-летувісы: кс. Кузьміцкі – у Крамянец (Ваўкавыскі пав.), кс. Палаўскі – у Дубі Руд, кс. Скродзіс – у Засвір[741].

У той жа час у польскія правінцыі высылаліся не толькі ксяндзы-беларусы старэйшага пакалення (А. Леваш[742], Я. Семашкевіч, В. Шутовіч, Я. Рэшаць), але і новыя ксяндзы-беларусы: кс. Ян Рыбалтоўскі, пасвечаны ў Пінску 20.04.1935 г. першую святую імшу адправіў у Ішкольдзі 24 красавіка і прызначаны на вікарыя ў Гайнаўку; кс. Віктар Барысовіч, пасв. 20.04.1935 г. і прызначаны на вікарыя ў Цехановец[743], Язэп Гадусевіч – на Валынь[744], Станіслаў Урбан – Заблудава. А беларусы Казімір Найловіч і Тамаш Падзява пасля студыяў у Рыме (1935) накіраваны ў Харбін.

[739] Pastyrski list J E Wielenskaha Arcybiskupa u sprawie Unii // Chryścijanskaja Dumka. – 1933. – № 3. – S. 9.

[740] Z Memoryjału Ks. W. Hadleuskaha Papeskamu Nuncyju u Waršawie ab bajkocie polskimi Ksiandzami Biełaruskaha Duchawienstwa // Biełaruskaja Krynica. – 1926. – № 3. – 24 studnia. – S. 3–4.

[741] Palityka Wilenskaje Biskupskaje Kuryji // Biełaruskaja Krynica. – 1926. – № 45. – 17 śnieżnia. – S. 6.

[742] Кс. др. А. Леваш, вікары касцёла св. Яна ў Вільні, сябра беларускага каталіцкага выдавецтва назначаны на пробашча ў Стара-Стальцы за Беластокам. Ks. dr. A. Lewoš // Chryścijanskaja Dumka. – 1932. – № 9. – S. 8.

[743] Nowyja ksiandzy biełarusy // Chryścijanskaja Dumka. – 1935. – № 5. – S. 7.

[744] Zamiest da swaich, dyk na Wałyń // Chryścijanskaja Dumka. – 1935. – № 7. – S. 8.

У выніку такой палітыкі беларускасць у касцёлах Віленскай архідыяцэзіі была даведзена да мінімума. На душпастырскіх курсах, якія праводзіліся штогадова для духавенства Віленскай архідыяцэзіі з мэтай абгаварыць працу духавенства сярод вернікаў, неаднойчы ставілася пытанне наконт беларускай мовы. У 1936 г. пра гэта на курсах гаварыў а. Вацлаў Аношка, у 1937 – кс. Станіслаў Глякоўскі, але ўсякі раз польскія ксяндзы выступалі супраць[745]. Тое, што ксяндзы-палякі выступалі супраць – гэта зразумела. Але тут узнікае пытанне, а сколькі засталося ксяндзоў-беларусаў у Віленскай архідыяцэзіі на гэты час, апрача тых, хто гэтае пытанне ініцыяваў? Адказ на гэтае пытанне вельмі не суцяшальны – адзінкі. Але і тыя адзінкі не мелі сталага месца душпастырскай працы: прыслугоўвалі ў асноўным у якасці спавядальнікаў і казнадзеяў па чужых парафіях, як, да прыкладу, ксяндзы С. Глякоўскі, А. Станкевіч, У. Талочка.

15.12.1938 г. атрымалі загад Віленскага ваяводы на высяленне з пагранічнай паласы два беларускія дзеячы: былы пасол Сойму і заслужаны культурны дзеяч кс. Адам Станкевіч і старшыня былога Беларускага Нацыянальнага Камітэту і культуры Адольф Клімовіч. Апрача таго, загад атрымаў таксама і шырока ведамы кс. Уладзіслаў Талочка[746]. 27.12.1938 г. яны пакінулі Вільню.

Праз дзесяць гадоў дзейнасці арцыбіскупа Р. Ялбжыкоўскага ў Віленскай архідыяцэзіі цалкам была выжыта беларуская мова з казанняў у касцёле і навучанні дзяцей рэлігіі. Амаль што ўсе ксяндзы-беларусы былі выселены за межы пражывання беларускага этнасу, а калі дзе і заставаліся, дык альбо без прыходу і магчымасці душпастырскай працы; а калі хто з іх застаўся ў парафіі, дык баяўся, у поўным сэнсе гэтага слова, рот адкрыць, каб не прамовіць хаця ж слова на роднай мове.

Такім чынам, умовы Канкардату між Апостальскай Сталіцай і Польшчай далі магчымасці супольнай працы дзяржаўных службаў і духавенства ў вынішчэнні беларускага элементу з усіх праяў культурнага, грамадскага і нацыянальнага жыцця. Калі на ўзроўні Апостальскай Сталіцы – апошняй інстанцыі, на якую ўскладала вялікія надзеі беларускае каталіцкае духавенства, былі праігнараваны духоўныя патрэбы беларусаў-каталікоў, дык што ўжо можна было гаварыць пра польскі епіскапат і свецкія ўлады.

Завяршыць гутарку пра польскую канфесійную і нацыянальную палітыку міжваеннага перыяду ў адносінах да беларусаў хацелася б трапнымі характарыстыкамі беларускіх дзеячаў, якія непасрэдна сутыкнуліся з гэтай ганебнай з’явай. Так, кс. Язэп Германовіч пісаў: «І як назваць усе кавэрзы паліцыі, польскага духавенства і інтэлігенцыі? Гэта быў нейкі фатальны чад польскага грамадзтва. Рабілі нам вялікую крыўду бяз ня-

[745] Bias rodnaje mowy niama duspastyrstwa // Chryścijanskaja Dumka. – 1937. – № 21. – S. 5.
[746] Vysialeńnie biełaruskich dziejačau // Hryścijanskaja Dumka. – 1938. – № 36. – S. 6.

кай карысьці для сябе, ні для каталіцкай веры, а ўважалі, што дзеяць з «чыстым» сумленьнем. Ламалі нашае прыроднае права на адраджэньне, засланяючыся сваім «Божым» правам, якое тлумачылі ў сваю нацыянальную карысьць. Польская інтэлігенцыя ўжывала розныя спосабы няпраўды, прычэпкі, зьдзеку, насьмешкі і іншыя чыста хамскія мэтады барадзьбы з намі, забываючыся аб сваёй традыцыйнай рыцарскасьці і гонары…»[747].

Трапна выказаўся наконт такой сітуацыі і Вацлаў Ластоўскі: «Сяпаміж усіх спосабаў вынішчэння беларускай нацыі, стасаваных Польшчай, найагіднейшым і найбольш абураючым людское сумленне з'яўляецца спосаб паланізацыі беларусаў праз каталіцкі касцёл, які на тэрыторыі Беларусі, пры помачы цяперашняй дзяржаўнай польскай улады, апынуўся цалкам у руках польскага духавенства, згрупаванага каля польскіх нацыянальных арганізацый і партый. Амбона каталіцкага касцёла на захопленай палякамі беларускай зямлі сталася палітычнай трыбунай. <…> Канфесіянал польскіх ксяндзоў служыць да агітацыі і да палітычнай разведкі. <…> Граніцы між польскім каталіцкім духоўнікам і польскім жандармам зацерліся…» [748].

## 2.5. АРГАНІЗАЦЫЯ ДЗЕЙНАСЦІ БЕЛАРУСКАЙ ХРЫСЦІЯНСКАЙ ДЭМАКРАТЫІ (БХДЗ – БХД – БНА)

У дадзеным параграфе акцэнтуецца ўвага на агульнай інфармацыі з некаторымі дапаўненнямі і ўдакладненнямі дзейнасці беларускіх каталіцкіх святароў у рэчышчы ідэалогіі і арганізацыі Беларускай хрысціянскай дэмакратыі.

У міжваенны перыяд палітыка ІІ Рэчы Паспалітай мэтанакіравана ўзяла курс на ліквідацыю беларускага нацыянальнага руху і поўную асіміляцыю беларусаў, як католікаў, так і праваслаўных. Супрацьстаяць гэтаму сталі многія беларускія палітычныя і культурныя арганізацыі і партыі, сярод якіх не апошнюю ролю адыгрывала Беларуская хрысціянская дэмакратыя.

Фактычным арганізатарам і кіраўніком БХДЗ становіцца кс. Адам Станкевіч. Ён жа стаў і першым яе летапісцам[749].

На 1921 г. БХДЗ была адной з найбольш папулярных і масавых партый у культурным і палітычным жыцці насельніцтва Заходняй Беларусі. Найбольш актыўнымі дзеячамі хрысціянска-дэмакратычнага руху ў гэты час былі святары Ф. Абрантовіч, І. Бобіч, В. Гадлеўскі, Я. Германовіч, М. Красоўскі, М. Пятроўскі, Ф. Рамейка, Я. Семашкевіч, А. Станкевіч,

---

[747] Германовіч, Я., а. Добры пастар – Віктар Шутовіч / а. Я. Германовіч // Божым шляхам. – 1964. – № 84. – С. 14.

[748] Ластоўскі, Вацлаў. Канкардат / Вацлаў Ластоўскі // Творы. – Мінск : Беларускі кнігазбор, 1997. – С. 370.

[749] Stankievič Ad. Biełaruski chryścijanski ruch (histaryčny narys). – Vilnia, 1939. – 272 s.

К. Стаповіч, У. Талочка, А. Цікота, В. Шутовіч, З. Якуць і іншыя. Там, дзе працавалі беларускія святары, арганізоўваліся суполкі прыхільнікаў хрысціянскай ідэалогіі, пазней гурткі Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры (БІГіК). Менавіта на ахвяраванні святароў стала выходзіць адноўленая «Крыніца» ў Вільні, а пасля яны прымалі непасрэдны ўдзел у абмеркаванні праграмы БХДЗ, пра што сведчыць як прыватнае ліставанне з кс. А. Станкевічам, так і публікацыі ў друку. Так, кс. Адамам Станкевічам і кс. Вінцэнтам Гадлеўскім былі пададзены найбольш даходлівыя тлумачэньні асновам беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Адзін з першых артыкулаў за 1921 г. кс. А. Станкевіча, прысвечаны гэтай тэме і меў такі назоў «Беларуская хрысьціянская дэмакрацыя»[750]. Варта заўважыць, што слова «злучанасць» не фігуравала ані ў назве, ані ў змесце артыкула. Ад гэтага часу можна лічыць змену назвы з БХДЗ на БХД.

Кс. В. Гадлеўскі на пытанне: «Ці можа ксёндз быць дэмакратам?» адказваў, што ксёндз не павінен належыць да дэмакратычнай партыі як партыйны сябра (як і да ўсякай іншай), але ксёндз павінен быць гарачым прыхільнікам дэмакратычнасці, бо гэтага вымагае справядлівасць, дабро рэлігіі і касцёла… бо дэмакратычнасць – гэта цэлы народ, а не жменька арыстакратаў[751].

Пры правядзенні выбараў у Дзяржаўны Сойм Польскай Рэспублікі (5.11.1922 г.) і ў Сенат (12.11.1922 г.) быў створаны Беларускі цэнтральны выбарчы камітэт, у склад якога ўваходзіла 37 сяброў ад розных партыяў, у тым ліку 12 прадстаўнікоў БХД і сярод іх 9 каталіцкіх святароў: кс. Я. Бароўка (Ашмяншчына), кс. М. Пятроўскі (Вялейскі пав.), кс. Я. Семашкевіч (Вялейскі пав.), кс. А. Станкевіч, кс. К. Стаповіч (Свянцянскі пав.), кс. В. Шутовіч, кс. З. Якуць, кс. Я. Жук, кс. Ф. Рамейка (Дзісненскі пав.)[752]. Дэлегатам быў абраны кс. А. Станкевіч у акрузе Дзісна, Браслаўль, Паставы, Свянцяны.

У красавіцкім нумары «Беларускай Крыніцы» за 1926 г. быў змешчаны рэдакцыйны артыкул «Час аднавіцца» з тлумачэннем прычын і заклікам да абмеркавання найбольш спрэчных пытанняў праграмы Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Тлумачылася, што з надыходам дыктатуры бальшавікоў Хрысціянская дэмакратычная злучнасць беларусаў, якая была створана ў Менску, была перанесена ў Вільню, дзе і надалей працягвала сваю дзейнасць толькі пад больш выразным назовам Беларуская хрысціянская дэмакратыя[753]. У наступных нумарах газеты «Беларуская Крыні-

[750] Ast. Biełaruskaja chryścijanskaja demakracia // Krynica. – 1921. – № 7. – 27 lutaha. – S. 1.

[751] Skalmanouski, W. Ci ksiondz moża być demakratam? / W. Skalmanouski // Krynica. – 1921. – № 29. – 25 wieraśnia. – S. 2.

[752] Siabry Biełaruskaha Centralnaha Wybarnaha Kamitetu. – Krynica. – 1922. – № 1. – 2 wieraśnia. – S. 2.

[753] Čas adnawicca // Biełaruskaja Krynica. – 1926. – № 13. – 18 krasawika. – S. 1.

ца» пад рубрыкай «Вольная трыбуна» зацікаўленыя асобы маглі выказаць свае меркаванні адносна праграмы БХД. Кс. В. Гадлеўскі прапанаваў і абгрунтаваў назву «Беларуская хрысціянская дэмакратычная злучанасць» як назву, кожнае слова якой адпавядае сутнасці і ідэйнасці арганізацыі і яе дзейнасці, у тым ліку і ў плане аб'яднання беларусаў католікаў і праваслаўных. У зямельнай справе кс. В. Гадлеўскі прапанаваў пакідаць касцёлу і царкве столькі зямлі, колькі выпадае на працоўную норму ў дадзенай ваколіцы, і патлумачыў гэта тым, што калі вернікі адбываюць «паншчыну» на касцёльных землях, дык гэта ксяндзам не надае аўтарытэту. Выказаўся за рэлігію ў школе, а таксама за раздзел царквы (касцёла) ад дзяржавы, маўляў, лішняя апека дзяржавы якой колечы рэлігіі зводзіць тую на «казённую» веру, як было ў Расіі з праваслаўем, а цяпер у Польшчы з каталіцтвам[754].

Праект праграмы БХД для абмеркавання быў надрукаваны ў летніх нумарах (№ 25, № 26) «Беларускай Крыніцы» за 1926 г.

У новай праграме больш канкрэтна былі сфармуляваны палітычныя мэты: «БХД імкнецца да самастойнасці Беларускага Народу на ўсіх яго землях, аб'яднаных у незалежную дэмакратычную рэспубліку, в ызначана спецыфіка канфесійных адносінаў: правы Каталіцкага Касцёла і Праваслаўнай Царквы трактуюцца на прынцыпах роўнасці; адзначаецца, што БХД прынцыпова супраць падзелу Касцёла (Царквы) ад дзяржавы, але, для таго, каб урад не мог выкарыстоўваць рэлігію ў палітычных мэтах альбо падтрымліваць адну рэлігію супраць другой, БХД уважае магчымасць падзелу для агульнага дабра». Дапаўненнем да аднаўленай праграмы была заява пра тое, што БХД «у жыцці касцёльным (царкоўным) змагаецца за поўныя правы беларускай мовы; у зямельным пытанні ўдакладнялася, што ўсе землі, якія перавышаюць працоўную норму, перадаюцца без выкупу на ўласнасць беззямельным і малазямельным сялянам; у адносінах да працоўных – БХД за 8-гадзінны працоўны дзень, за права страйкаў і кантроля за прадукцыяй і даходам[755]. Менавіта гэтыя і некаторыя іншыя параграфы сталі спрэчным момантам праграмы.

Так, а. Ф. Абрантовіч у лісце ад 21.10.1926 г. да кс. А. Станкевіча стараўся пераканаць апошняга, што гэты праект больш адпавядае Беларускай хрысціянскай лучнасці, а не ідэям БХД, што найважнейшая мэта хрысціянскай партыі альбо арганізацыі – у выпрацоўцы ідэалогіі і светапагляду, а не ў вырашэнні сацыяльных праблемаў. У адносінах да § 34 і § 47 ён пісаў: «Хай гэта робіць "Грамада"», а мы мусім паказаць, што ні самой бязвыкупнай зямлёй, ані 8 гадзінамі жыве чалавек, але ўсім і ўсімі 24 гадзінамі». Калі прапануецца зямля без выкупу, дык трэба так зрабіць,

[754] Hadleuski W., кs. Moj adkaz u sprawie Chr. Demakratyčnaj Złučnaści // Biełaruskaja Krynica. – 1926. – № 19. – 7 červienia. – S. 2–4.

[755] Stankievič Ad. Biełaruski chryścijanski ruch: histaryčny narys. – Vilnia, 1939. – S. 184–185.

каб гэтыя «без выкупу» рабіў урад, арганізуючы ўласнасць. Чалавек таго не цэніць, за што нічога не плоціць (так ва ўсіх адносінах) і прыклад таму – польскія асаднікі. Не шлях ісці за «Грамадой»[756].

24.10.1926 г. на ўрачыстым сходзе, прысвечаным святкаванню 10-м угодкам «Крыніцы», быў прыняты праект новай праграмы і абраны Цэнтральны Камітэт БХД, у які ад духавенства ўвайшлі кс. А. Станкевіч і кс. В. Гадлеўскі.

ЦК БХД неаднаразова выступала ініцыятарам лістоў на адрас «Яго Эксцэленцыі Віленскаму Рымска-Каталіцкаму Арцыбіскупу» кс. Р. Ялбжыкоўскаму. У лісце ад 12.11.1926 г. між іншым адзначалася, што «Каталіцкі Касьцёл згодна з воляй Хрыстуса аднолькава рупіцца аб духоўным шчасьці ўсіх народаў. Няма для яго ані Грэка, ані Рымляніна. Справядлівасьць Божая адна для ўсіх. Аднак воля людзкая, шукаючая часта сама сябе і сваіх інтарэсаў, надварушае планы Божыя і псуе іх. Вось-жа гэтую волю людзкую, як гістарычную праўду, балюча адчуў і адчувае на сябе Беларускі народ, а прадусім яго каталіцкая частка, аб якой тут даводзім да ведама Вашай Эксцэленцыі <…>. У Віленскай Архідыяцэзіі Беларусаў: у паветах Віленшчыны – Дзісьненскім, Паўстаўскім, Вялейскім, Валожынскім – 95 %, а ў пав. Віленскім, Лідзкім, Сьвянцянскім, Браслаўскім, Ашмянскім – 50–70 %, а ў пав. Гродзеншчыны – Гродзенскім, Ваўкавыскім, Слонімскім, Сакольскім – 90 %, у Беластоцкім – 40–50 %. <…>. «Дык вялікая дзеіцца шкода ідэі каталіцкай, калі народ бачыць, што вобак з яго крыўдзіцелямі становіцца і Касьцёл Каталіцкі. А думаць гэтак народ наш можа, гледзячы хоць бы на сваё агуленае высока ненармальнае і крыўднае палажэньне ў жыцьці касьцёльным. Тым больш ён можа так думаць, калі ёсьць факты, думкі яго пацьвярджаючыя <…>. А тым часам рух камуністычны пашыраецца. Вельмі яму памочным зьяўляецца карыстаньне беларускай мовай (згадаем, што гэта быў час беларусізацыі ў БССР, калі ў статуце сябра КП(б)Б было запісана, што камуністам можа стаць той, хто дасканала авалодае беларускай мовай (заўв. аўт. – *І. Т.*). На зразумелай мове лягчэй давесьці думкі, што яны «адзіныя абаронцы ўсяго пакрыўджанага» <…>. (У лісце згадваецца дзейнасць метадыстаў і іх пераход на беларускую мову). Высновы: «Касьцёл у форме польскай на нашых землях, як на рубяжы каталіцкасьці, цалкам траце свой місыйны характар, бо ўсякая яго акцыя ў форме польскай ці расейскай пашырацца ня зможа ніколі, бо беларускі рух народны спаралізуе яе…»[757]. Цалкам тэкст Мемарыялу надрукаваны ў «Беларускай Крыніцы»[758].

Паводле стылю і духу вельмі падобна на тое, што гэты ліст быў напісаны альбо добра адрагаваны кс. Адамам Станкевічам, бо менавіта зга-

[756] ЦНБНАНБ. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 1. – В. 1. – Спр. 138. – Арк. 6.
[757] Там жа. – Ф. 23. – В. 1. – Спр. 73. – Арк. 1–2.
[758] Memorjal Centralnaha Kamitetu BChD da Wilenskacha R.-Katalickacha Arcybiskupa // Bieiaruskaja Krynica. – 1926. – № 41. – 19 listapada. – S. 2.

даныя праблемы тады найбольш хвалявалі беларускае каталіцкае духавенства. Прынамсі, такім быў не адзін ліст.

6.XI.1927 г. у Вільні склікаецца З'езд прадстаўнікоў Беларускай Хрысціянскай Дэмакрацыі. На з'ездзе прысутнічалі 129 дэлегатаў і каля 50 гасцей. Старшынём аднагалосна быў абраны кс. Адам Станкевіч. Ён зачытаў прывітальныя тэлеграмы (у тым ліку і ад сяброў БХД кс. В. Шутовіча і кс. Я. Семашкевіча) і даклад на тэму: «БХД і яе ідэалогія»[759]. На з'ездзе дэлегатаў была абмеркавана і зацверджана праграма БХД. Пастановы, якія былі прыняты на з'ездзе ЦК БХД, былі дасланы Яго Эксцэленцыі Арцыбіскупу. У іх, між іншым, адзначалася, што: 1) з'езд дэлегатаў пратэстуе супраць пахвальчаньня правоў беларускай мовы кс. Дронічам у Жодзішках і дамагаецца павароту яе ў касьцёл. З'езд таксама пратэстуе проціў учынкаў таго ж ксяндза Droніча – не годных чалавека, а тым больш каталіцкага ксяндза; 2) з'езд выступае супраць скасавання беларускай мовы ў дадатковых набажэнствах у Барадзеніцкім касьцёле і дамагаецца павароту яе; 3)… дамагаецца ад Каталіцкай Духоўнай Улады ўвядзеньня ў Віленскай Духоўнай Каталіцкай Семінарыі выкладання беларускай мовы, беларускай гісторыі і літаратуры; 4) … каб па ўсіх беларускіх парафіях, у казаннях і дадатковых набажэнствах была ўведзена беларуская мова; 5) … пратэстуе супраць высылкі ксяндзоў-беларусаў у польскія парафіі; 6) … дамагаецца для беларусаў-католікаў асобнага касьцёла ў Вільні… 25.12.1927 г. (подпіс) старшыні ЦК БХД[760].

Для рэалізацыі праграмы сябрамі БХД былі створаны шматлікія гурткі, якія праводзілі практычную работу: «Працы для гуртка і кожнага з яго сяброў ёсьць шмат. Разгледзім папарадку ўсе магчымасьці працы: а) усьведамленьне беларускіх масаў, б) пашырэньне газет і літаратуры, с) выбары ў сойм і самаўрад (гмінны, павятовы), д) адкрываньне беларускіх школаў, е) змаганьне за правы беларускай мовы ў касьцёле і царкве. Пры гэтым трэба адзначыць, што гэтым апошнім пунктам (змаганьне за правы беларускай мовы ў касьцёле і царкве) Беларуская Хрысьціянская Дэмакрацыя розніцца ад другіх беларускіх партыяў, якія рэлігійнае жыцьцё беларусаў пакідаюць у старане»[761].

Чарговы з'езд БХД праходзіў 25.11.1928 г. (72 дэлегаты, 31 госць).

Аднаўленая БХД стала арганізацыяй агульнахрысціянскай, на з'ездах якой (пасля 1926 г.) прысутнічалі як католікі, так і праваслаўныя; тыя і другія ўваходзілі ў ЦК БХД (старшынёй абіраўся звычайна католік, а два яго намеснікі – праваслаўныя). Вышэйшым органам улады БХД з'яўляўся агульны з'езд партыі, на якім абіралася і зацвярджалася Рада, Цэнт-

[759] Zjezd Pradstaunikou Biełaruskaj Cryścijanskaj Demakracyi 6.XI.1927 h. // Biełaruskaja Krynica. – 1927. – № 47. – 18 listapada. – S. 1–3.

[760] ЦНБНАНБ. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 23. – В. 1. – Спр. 73. – Арк. 18.

[761] Instrukcyja, jak twaryc arhanisacyi Biełaruskaj Cryścijanska-Demakratyčnaj partyj na miajscoch. – Wilnia, 1926. – S. 7.

ральны Камітэт і Рэвізійная Камісія. Рада БХД складалася з сяброў ЦК, сяброў Рэвізійнай Камісіі і 7 прадстаўнікоў павятовых камітэтаў альбо ўпаўнаважаных ЦК. Рада прымала справаздачу аб дзейнасці ЦК, выносіла пастановы, а пры неабходнасці вырашала пытанні, якія ляжалі ў кампетэнцыі агульнага з'езду. ЦК кіравала дзейнасцю сваіх прадстаўнікоў і дэлегатаў у дзяржаўных і грамадскіх установах, а таксама павятовых камітэтаў і іншых арганізацыяў БХД.

У склад ЦК уваходзілі 11 сяброў, з якіх абіраўся прэзідыум колькасцю 5 чалавек: старшыні, два віцэ-старшыні, скарбніка і сакратара. На з'ездзе 25.11.1928 г. у ЦК абраны: І. Гагалінскі (старшыня), І. Красоўскі (нам. старшыні), Я. Пазняк (сакратар), Я. Шутовіч (скарбнік), М. Дварэцкі (нам. сакратара), кс. А. Станкевіч, П. Каруза, А. Стаповіч, І. Жук – сябры ЦК; кс. П. Татарыновіч, Галец – кандыдаты; Рэвізійную Камісію складалі: Б. Грабінскі – старшыня; кс. В. Гадлеўскі і А. Вашковіч – сябры.

10 снежня 1928 г. Віленскі архібіскуп Р. Ялбжыкоўскі обвінавацiў БХД у найбольш страшных грахах – рэлігійнай абыякавасці і бальшавізму і забараніў католікам належыць да арганізацыі. Нашумелы дакумент за № 5216 пад тытулам «Да Вялебнага Духавенства і Верных Архідыяцэзіі Віленскай» архібіскупа Р. Ялбжыкоўскага варты таго, каб яго працытаваць: «Падаём да Вашага ведама, укаханыя ў Хрыстусу Браты, што партыя «Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя» стала на памылковы шлях рэлігійнага індэферэнтызму і бальшавізму, што супярэчыць падставам нашай Сьвятой каталіцкай веры. Памылкі тыя бачым у праграме згаданай партыі і яе органе «Беларуская Крыніца». У сувязі з гэтым, у дадзеным лісьце, згодна кодэксу Кананічнага Права (Канон 1386, 1395, 1399, 1405 etc.), заяўляем, што католікам, а тым больш каталіцкім капланам, які належаць да партыі БХД, альбо нейкім чынам яе падтрымоўваць не дазволена. Не дазваляецца католікам выпісваць, чытаць, распаўсюджваць, супрацоўнічаць і дапамагаць часопісі, якая носіць назву «Беларуская Крыніца». Распараджэнне Наша неабходна пробашчам і рэктарам касьцёлаў абвясьціць верным з амбону ў найбліжайшую нядзелю»[762].

Зразумела, што несправядлівыя абвінавачванні БХД Віленскім арцыбіскупам, сябрамі БХД і беларускай грамадскасцю былі ўспрыняты крайне негатыўна, што хутка знайшло пацвярджэнне ў друку. У той жа дзень быў скліканы сход ЦК БХД, на якім было вырашана лічыць згаданую адозву архібіскупа несправядлівай і не спыняць сваёй дзейнасці; у пошуках справядлівасці скарыстаць права апеляцыі і звярнуцца ў Апостальскую Сталіцу. З адкрытым пратэстам выступіў ЦК БХД супраць адозвы архібіскупа ў звароце да беларусаў-каталікоў, сутнасць якога палягала ў тым, што праз увесь гэты час людзі згуртаваліся вакол БХД і вакол найстарэй-

[762] Wiedamości Archidiecezalne Wilenskie. – 1928. – № 23. – S. 325 (пер. з пол. аўтара); Stankievič Ad. Biełaruski chryścijanski ruch : historyčny narys. – Vilnia, 1939. – S. 202.

шай газеты «Беларуская Крыніца», стойка змагаліся ўсімі законнымі спосабамі за лепшую долю нашых братоў, перад усім светам гаварылі, што жыве беларускі народ, дамагаецца права на сваё самастойнае жыццё, на сваю родную мову, на зямлю, будзілі нясведамых, падтрымлівалі слабых… Не спадабалася гэта праціўнікам беларускага адраджэння, якім паказаў сябе Віленскі арцыбіскуп… Яго загад нельга ўспрымаць інакш, як новую нечуваную праяву ашалелага польскага шавінізму, бо пастаўленыя закіды ў рэлігійнай абыякавасці і бальшавізму ў БХД не апіраюцца на якія-небудзь падставы і факты… Тым больш, што ў праграме не было аніякіх зменаў адносна рэлігійных пытанняў і праграма на працягу доўгага часу прызнавалася архібіскупам як несупярэчная з духам каталіцкага касцёла, нягледзячы на пункты аб зямлі без выкупу і магчымасці аддзялення Касцёла ад дзяржавы… З усяго сказанага выходзіць, што архібіскуп не думае пра дабро Касцёла, а служыць польскай палітыцы праз касцёл і дагаджае багатым…[763]. 12 снежня ЦК БХД за подпісамі прэзідыума І. Гагалінскага, старшынь А. Стаповіча і П. Каруза і паслоў Сойму даслалі тэлеграму ў Рым да Святога Айца. У тэлеграме інфармавалі пра сваю нязгоду з несправядлівым абвінавачваннем арцыбіскупа паводле палітычных матываў і просяць разглядзець гэтую справу па атрыманні адпаведнага мемарыялу і скасаваць загад арцыбіскупа[764]. Апрача гэтага, грунтоўнае абвяржэнне надуманага абвінавачвання БХД падаў на старонках «Беларускай Крыніцы» пасол Сойму П. Каруза[765]. І пасля ўсяго гэтага ЦК БХД атрымаў паведамленне арцыбіскупа, што ніводнага пункта з дамаганняў апошняга з'езду ЦК БХД не будзе выканана. «Гэта толькі пацвярджае, – піша «Беларуская Крыніца», што Віленскі Арцыбіскуп адносіцца да нас не як каталік, а толькі як паляк»[766].

Слушная заўвага была пададзена на старонках «Сялянскай Нівы», што адозва арцыбіскупа не мае характару юрыдычнай забароны. Цывільная ўлада не рэагавала на гэта ніяк. БХД застаецца і надалей легальнай партыяй, і прыналежнасць да яе можа выклікаць канфлікт з ксяндзом, а не з паліцэйскім[767]. Але для іншага польскага паліцэйскага аўтарытэт арцыбіскупа быў нашмат большым, чым яго непасрэднага кіраўніцтва.

Абвінавачванне архібіскупам БХД у бальшавізме было заўважаным у савецкай Беларусі. У Дадатку да «Бюллетеня управления делами СНК БССР о заграничной польской информации с 10 августа по 10 сентября

[763] Biełarusy Kataliki // Biełaruskaja Krynica. – 1928. – № 57. – 15 śnieżńia. – S. 1.
[764] Telehrama da Światoha Ajca ad Centralnaha Kamitetu B.Ch.D. // Biełaruskaja Krynica. – 1928. – № 57. – 15 śnieżńia. – S. 1.
[765] Karuza Paweł, pasoł Sojmu. Pochod Arcybiskupa Jałbżykouskaha proci B.Ch.D. i «Bieł. Krynicy» // Biełaruskaja Krynica. – 1928. – № 57. – 15 śnieżńia. – S. 1.
[766] Там жа. – S. 2.
[767] Арцыбіскуп Ялбжыкоўскі і Беларуская Хрысь. Дэмакр. // Сялянская Ніва. – 1928. – № 40. – 28 сьнежня. – С. 3.

1930 г.» у артыкуле «Трагізм у становішчы Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі ў Польшчы» пастанова за № 5216 ад 10.12.1928 г. была пракаментавана тым, што Віленскі каталіцкі мітрапаліт угледзіў у зямельных артыкулах адноўленай праграмы БХД больш небяспекі, чым карысці… Небяспека была ў тым, што сяляне могуць перайсці на бок тых, хто мае нязломнае жаданне даць зямлю сялянам і паказвае шлях, як гэтае жаданне здзейсніць[768]. Нагадаем, што праграма была прынята на з'ездзе БХД 25 лістапада 1928 г. Паводле ёй зямельнае пытанне вырашалася пунктамі: «§ 37. Асновай зямельнай гаспадаркі служыць працоўная норма. § 38. Усе землі (дворныя, касцёльныя, царкоўныя), перавышаючыя працоўную норму, перадаюцца на ўласнасць і без выкупу беззямельным і малазямельным сялянам»[769]. Тое, што бальшавікі звярнулі ўвагу толькі на зямельнае пытанне праграмы – БХД магла стварыць гэтым канкурэнцыю КПЗБ – як довад таго, што іх больш нічога не цікавіла ў праграме БХД: ні нацыянальнае пытанне, ні праблемы беларускай культуры і асветы, ні лёс беларусаў.

Варта адзначыць, што зямлю без выкупу і сапраўды абяцалі бальшавікі, але ці гэта было галоўнай прычынай звароту і пастановы арцыбіскупа ў справе БХД?.. Больш праўдападобна выглядае версія з паказанняў былога старшыні ЦК БХД Паўла Карузы, што адной з галоўных прычынаў стала сяброўства і раўнапраўнасць у БХД праваслаўных і каталікаў[770]. А яшчэ слушна даводзіў П. Каруза, што «ад вякоў палякі прывыклі ўважаць каталіцкі касцёл за аружжа для пашырэння польскасці сярод беларусаў і адмовіцца ад гэтай пазіцыі яны ніяк ня хочуць. А тут знайшлася арганізацыя, дзякуючы якой у беларускім народзе пачало зьнікаць паняцьце польскай і рускай веры. Каталікі-беларусы пачалі разумець, што каталіцкасьць адно, а польскасьць зусім другое…»[771].

Так, Вельмі важным было польскаму ўраду не дапусціць масавага аб'яднання беларусаў-католікаў і праваслаўных у адну нацыянальную арганізацыю, у якой выключная роля належыла духоўным асобам і каталікам. А яшчэ важным было ў вачах міжнароднай супольнасці лішні раз падкрэсліць і нагадаць у мэтах кампраметацыі пра сувязь усяго беларускага руху з рухам камуністычным.

Допісы, заявы, просьбы на адрас Віленскага архібіскупства, як калектыўнага характару (кшталту пастановы і рэзалюцыі з'езду БХД) так і індывідуальнага (лісты ад сяброў БХД кс. В. Гадлеўскага, кс. А. Станкевіча, кс. У. Талочкі, інш.) заставаліся, з большага, без станоўчай рэакцыі з боку рэлігійных уладаў.

---

[768] НАРБ у Мінску. – Ф. 4. – В. 1. – Спр. 248.

[769] Prahrama Biełaruskaj Chryścijanskaj Demakracyj // Biełaruskaja Krynica. – 1928. – № 54. – 30 listapada. – S. 3.

[770] НАРБ у Мінску. – Ф. 242. – В. 1. – Спр. 435. – Арк. 30.

[771] Pawał Karuza, pasoł Sojmu. Pochod Arcybiskupa Jałbżykouskaha proci B.Ch.D. i «Bieł. Krynicy» // Biełaruskaja Krynica. – 1928. – № 57. – 15 śnieżńia. – S. 2.

Ад гэтага моманту распачынаецца адкрыты праслед беларусаў-католікаў і іх духоўнікаў (і нават спачуваючых ім) з боку польскага духавенства і свецкіх уладаў за малейшае праяўленне беларускасці, з якой атаясамлівалася і прыналежнасць да БХД і чытанне «Беларускай Крыніцы». У «Мемарыяле Беларускага пасольскага клубу ў Лігу Народаў у справе палажэньня Беларускага Народу ў межах Польскай Рэспублікі» ад 15.VIII.1929 г. гаварылася і аб стараннасці віленскага арцыбіскупа ў вынішчэнні беларускасці, пра высылку ксяндзоў-беларусаў у польскія парафіі і забарону католікам належыць да БХД і чытаць «Беларускую Крыніцу: «На падставе гэтага дэкрэту Ксяндзы Палякі тэрарызуюць беларускае насяленне, дапускаюць гвалты і выганяюць падпісшчыкаў забароненай газеты з касьцёла ў часе набажэнства»[772].

Ад найбольш актыўных і вядомых святароў-хадэкаў Віленскае архібіскупства запатрабавала афіцыйнага пацвярджэння іх выхаду з БХД: «Дзеля таго, што праграма арганізацыі «Бел. Хр. Дэмакрацыя» і часопіс «Беларуская Крыніца» спрыяюць рэлігійнаму індэферэнтызму і камунізму, згодна з сьвятымі канонамі 1386, 1395, 1399, 1405 etc., пастанаўляем пад консеквенцыямі права, каб зараз-жа пакінуў арганізацыю «Бел. Хр. Дэмакрацыя» і каб стрымаўся ад усякага супрацоўніцтва і спрыяння як адносна да названай арганізацыі, так і часопіса «Беларуская Крыніца»[773]. Такія лісты атрымалі кс. А. Станкевіч і кс. В. Гадлеўскі. Пасля такіх забаронаў яны не маглі ўваходзіць у афіцыйныя структуры БХД, і абодва вымушаны былі даслаць заявы ў ЦК БХД аб сваім выхадзе з арганізацыі і пацвердзіць свой выхад. Так, кс. В. Гадлеўскі пісаў: «Паважаны Кс. Рэдактар. Не адмоўце памясьціць у Вашай газеце гэтых некалькі слоў. Загад Я. Э. Віленскага Арцыбіскупа з дня 10.XIII.28 г. аб маім выхадзе з Б.Хр.Д. я споўніў таго ж самага дня. Гэтае пісьмо дасылаю ў рэдакцыю на жаданьне Я. Э. Арцыбіскупа»[774].

Але і кс. В. Гадлеўскі і кс. А. Станкевіч і далей мелі непасрэдныя адносіны да арганізацыі хрысціянскай дэмакратыі. Праз іх рукі праходзілі многія культурніцкія праекты і праграмы, рэзалюцыі, артыкулы, рэфераты. Кс. А. Станкевіч і надалей заставаўся фактычным куратарам дзейнасці БХД. У сувязі з тым, што сацыякультурная сітуацыя ў краі пастаянна мянялася, кс. А. Станкевіч адпаведна сітуацыі карэкціраваў і дапаўняў праграму БХД. У гэтым, зноў жа, дапамогу яму аказвалі беларускія святары. Слушныя парады, карэкціроўкі, удакладненні і дапаўненні да праграмы БХД дасылалі а. Ф. Абрантовіч у лісце ад 5.01.1929 г. [775] і кс. У. Талочка ў лісце ад 26.02.1929 г.[776].

---

[772] ЦНБНАНБ. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 4. – В. 1. – Спр. 67. – Арк. 8.
[773] Stankievič Ad. Biełaruski chryścijanski ruch: histaryčny narys. – Vilnia, 1939. – S. 203.
[774] Pismo u redakcyju // Chryścijanskaja Dumka. – 1929. – № 1. – S. 8.
[775] ЦНБНАНБ. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 4. – В. 1. – Спр. 138. – Арк. 10.
[776] Там жа. – Спр. 33. – Арк. 1–2.

Але нейкіх істотных і канцэптуальных зменаў у новых рэдакцыях праграм не было. Праграма БХД ад 1929 г. не мела прынцыповых зменаў ад праграмы 1927 г. У праграме 1932 г. быў перагледжаны момант аб адносінах дзяржавы да Царквы.

На чарговым з'ездзе БХД (13.12.1931 г.) у справаздачным дакладзе з дзейнасьці ЦКБХД за перыяд ад 25 лістапада 1928 г. (ад апошняга з'езду) было адзначана: «… У працы Б.Х.Д. у тую ж восень, а іменна, памятнага 11 сьнежня 1928 г. з'яўляецца і такая перашкода: Віленскі Каталіцкі Арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі аб'яўляе Беларускую Хр. Дэм. ледзь не камуністычнай арганізацыяй і забараняе католікам належыць да нашай партыі, а таксама чытаць наш орган «Беларускую Крыніцу» і ў ёй супрацоўнічаць. ЦК нашай партыі закіды Ялбжыкоўскага адносна Беларускай Хр. Дэм. і «Беларускай Крыніцы» вытрывала і з спакоем адкідае. На другім чарговым паседжаньні ЦК БХД выдае адозву да віленскіх католікаў, у якой разьясьняе адносіны арцыбіскупа Ялбжыкоўскага да нашай партыі і нагул да беларусаў. Адначасна ЦК БХД высылае тэлеграму да Апостальскай Сталіцы, запавядаючы ракурс на няслушную і крыўдзячую беларусаў свайго роду анафему арцыбіскупа Ялбжыкоўскага. Пасьля тэлеграмы пасылаецца і ракурс, у якім шырока выясьняецца ўся акцыя адносна нас арцыбіскупа Ялбжыкоўскага з паясьненьнем становішча нашага. І вось ужо прайшло тры гады і Апостальская Сталіца не пабагаславіла памятнага і гістарычнага загаду арц. Ялбжыкоўскага, якім ён прызнаў нашу партыю не хрысьціянскай»[777].

Так, Апостальская Сталіца не пабагаславіла той загад арцыбіскупа, але не было і чуваць, каб Апостальская Сталіца скасавала яго.

У сувязі з вышэйзгаданай забаронай архібіскупа, беларускія каталіцкія святары не маглі прыняць удзелу ў чарговых выбарах у Сойм 1928 года – таму ад БХД былі абраныя свецкія асобы Альбін Стаповіч і Паўла Каруза; у 1930 – Альбін Стаповіч.

Асабліва пільна была наладжана слежка за актывістамі беларускага руху, у тым ліку і святарамі, у час перадвыбарчай кампаніі. У тыднёвай справаздачы аб палітычнай сітуацыі за час ад 20 да 27 верасня 1930 г. па Навагрудскаму ваяводству сцвярджалася: «За справаздаўчы час удалося занатаваць спробы з выбарчай акцыяй БХД у Навагрудзкім павеце, а менавіта, кс. уніцкі Татарыновіч навёў кантакты ў Дамашаве з пробашчам уніцкім кс. Банько ў Далятычах і распачаў дзейнасць на карысць сваёй партыі і арганізуе да працы людзей»[778]. У справаздачы ад 8–16 красавіка 1931 г. гаварылася пра сустрэчу кс. Татарыновіча з Дамашава з кс. Паньскім у Далятычах[779].

[777] ЦНБНАНБ. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 23. – В. 1. – Спр. 73. – Арк. 20.
[778] Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці. – Ф. 551. – В. 1. – Спр. 1109. – Арк. 5.
[779] ДАГВ. – Ф. 551. – В. 1. – Спр. 1137. – Арк. 9.

Заслугі БХД і яе ролі ў сацыякультурным працэсе міжваеннага перыяду цяжка пералічыць. На фоне дзейнасці іншых беларускіх суполак і партыяў БХД выглядала найбольш аўтарытэтнай, мэтанакіраванай і паслядоўнай арганізацыяй. Адзначым некаторыя моманты яе дзейнасці. Так, паводле кс. А. Станкевіча, палітычны незалежны ідэал БХД лагічна выцякае з акта 25 сакавіка 1918 года, які абвясціў Беларусь незалежнай суверэннай дзяржавай. У аснову практычнай дзейнасці БХД пакладзены тэорыя эвалюцыйнага развіцця і самабытнасці беларускай нацыі[780]. БХД як канструктыўная грамадска-палітычная арганізацыя найбольш рэалізавалася ў культурна-асветніцкай дзейнасці. Менавіта гэты аспект БХД найбольш грунтоўна даследаваны ў працах Мазько Э. А.[781].

БХД ініцыявала шматлікія мемарыялы і звароты да духоўных і свецкіх уладаў, у якіх патрабавала ўводу беларускай мовы ў Віленскіх духоўных семінарыях (у каталіцкай і праваслаўнай), права казанняў на роднай мове і прызначэння беларускіх духоўнікаў у беларускія парафіі (каталіцкія і праваслаўныя), аб навучанні на беларускай мове рэлігіі ў школах і г. д. БХД інфармавала Лігу Нацый аб цяжкім становішчы беларускага народа ў Польшчы (1930 г.), звярталася да Папы Рымскага праз апостальскага нунцыя ў Варшаве аб правамернасці пастаноў архібіскупа «аб забароне чытаць “Беларускую Крыніцу” і належыць да БХД (1930 г.), а таксама аб патрэбе біскупа-беларуса ў Віленскім архібіскупстве (1932 г.). Апостальская сталіца пакінула звароты без адказу.

У выступах на сходах БХД гучаў даволі такі глыбокі і пранікнёны аналіз сучаснай палітычнай і культурнай сітуацыі ў Заходняй і Савецкай Беларусі. Так, адзін з былых сяброў БХД і супрацоўнікаў «Беларускай Крыніцы» Паўла Каруза ў сваіх паказаннях ад 25.01.1933 г. «Материалы для ознакомления» органам савецкай улады пісаў, што на сходах БХД разглядаліся праблемы аб недастатковым развіцці школьнай адукацыі ў БССР як спецметаду савецкай улады спыніць працэс росту нацыянальнай свядомасці масаў, што ў БССР з боку ўладаў назіраецца супрацьдзеянне навуковым метадам і мысленню, што грамадская форма ўласнасці ніколі не дасць станоўчых вынікаў – народы вельмі нізка стаяць культурна, каб асэнсаваць гэта… трэба 100–150 гадоў патраціць працы над чалавекам, каб падрыхтаваць яго да такога жыцця, якое ажыццяўляецца ў СССР: «Правядзенне волі зверху, механізуе чалавека і робіць з яго нейкую пародыю»[782]. Адпаведна высокі інтэлектуальны ўзровень быў ха-

[780] Stankievič Ad. Biełaruski chryścijanski ruch: histaryčny narys. – Vilnia, 1939. – S. 229–230.

[781] Мазько, Э. А. Уплыў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі на фармаванне культурнай сітуацыі ў Заходняй Беларусі ў 20–30 гады XX стагоддзя : дыс. … канд. гіст. навук : 24.00.02 / Э. А. Мазько. – Гродна, 2003. – 124 с.

[782] Обзор состояния и деятельности белорусских национально-политических и фашистских группировок в Западной Белоруссии и другие материалы по национальному вопросу : НАРБ у Мінску. – Ф. 242. – В. 1. – Спр. 435. – Арк. 83.

P. S. У паказаннях Паўлы Карузы просачваецца агульнавядомая інфармацыя пра ідэалогію БХД, яе лідэраў і кіраўнікоў – усё, што можна было б зачэрпнуць пры неабходнасці на старонках «Беларускай Крыніцы» і іншых перыядычных выданняў у Заходняй Беларусі.

рактэрным для шматлікіх артыкулаў сяброў БХД у «Беларускай Крыніцы» і «Хрысціянскай Думкі».

У плане супрацы з іншымі беларускімі арганізацыямі і партыямі варта адзначыць цесную сувязь БХД з Беларускім сялянскім саюзам (БСС) і Беларускім праваслаўным аб'яднаннем (БПА), а таксама часовае супрацоўніцтва з Таварыствам беларускай школы (ТБШ) .

Прапановы камуністычнай партыі Заходняй Беларусі (КПЗБ) аб супрацоўніцтве (1935) былі адвергнуты ЦК БХД з рознай нагоды, сярод прычын – непрызнанне КПЗБ як самастойнай партыі, яе залежнасць ад маскоўскага камуністычнага цэнтру, правядзенне палітыкі, якая не адпавядала патрэбам беларускага народа (кампартыя ў БССР праследуе нацыянальную інтэлігенцыю, а КПЗБ, у сваю чаргу, агітуе народ за сацыялізм і сусветную рэвалюцыю), непрымальнымі і супярэчнымі ідэямі БХД былі такія праявы, як камуністычная ідэалогія, інтэрнацыяналізм, гвалтоўная калектывізацыя, дыктатура пралетарыяту.

1935 г. прайшоў для БХД у працы па ўдасканальванні праграмы і стварэнні такой арганізацыі, якая магла б аператыўна і франтальна уздзейнічаць на сацыякультурны працэс, пра гэта сведчаць шматлікія артыкулы ў «Беларускай Крыніцы». Вынікам публічнага абмеркавання дзейнасці, мэтаў і задач партыі стала рэарганізацыя (студзень, 1936) БХД у Беларускае народнае аб'яднанне (БНА). У склад кіраўніцтва БНА ўвайшлі: Я. Пазняк – старшыня ЦК; С. Грынкевіч, М. Дварэцкі, А. Клімовіч, Я. Малецкі, Я. Найдзюк, В. Нарановіч-Бабарыка, Я. Чарнецкі, Я. Шутовіч – сябры.

З рэарганізацыяй праграмы БХД у Беларускае народнае аб'яднанне (БНА) не зусім быў згодны кс. В. Гадлеўскі. Ён у гэты час крытычна паставіўся да дзейнасці кс. А. Станкевіча і яго групы. Згодна В. Пануцэвічу, які падтрымаў а. В. Гадлеўскага і ўвайшоў у яго групу, прычынай разыходжання быў «народны фронт», які быццам быў ініцыятывай Масквы і з якім кс. А. Станкевіч ішоў на супрацоўніцтва і аб'яднанне[783]. Адзначым, што кс. А. Станкевіч сапраўды імкнуўся да супрацоўніцтва і аб'яднання з многімі рухамі з мэтай стварэння антыфашыстоўскай кааліцыі, але наколькі такое супрацоўніцтва было ініцыятывай Масквы, пытанне спрэчнае і застаецца бяздоказным. У той жа час кс. В. Гадлеўскі быў прыхільнікам собскай ідэалогіі, для выпрацоўкі якой, на яго думку, неабходна пазбавіцца розных іншародных уплываў, што і дасць магчымасць развязаць палітычныя, эканамічныя, гістарычныя і культурныя праблемы[784]. Група кс. В. Гадлеўскага аб'ядналася вакол газеты «Беларускі фронт». Далейшая яе праца працягвалася ў рэчышчы «...змагання беларускай ідэі з чужымі ідэямі, незалежных ідэй з залежнымі, беларускага фронту з чужацкімі

[783] Пануцэвіч, Вацлаў. Кс. Вінцэсь Гадлеўскі – Дзяржаўны Муж і Правадыр Народаў / Вацлаў Пануцэвіч // Спадчына. – 1993. – № 3. – С. 64.

[784] Там жа.

франтамі»[785]. У. Ладысеў у сваіх публікацыях пісаў, што ў чэрвені 1936 г. на базе кансерватыўна настроенай часткі членаў БНА быў створаны так званы Беларускі народны фронт (БНФ) пад кіраўніцтвам ксяндза В. Гадлеўскага на платформе антыдэмакратызму і антысаветызму[786]. В. Пануцэвіч адзначае, што «В. Гадлеўскі насіўся з думкай стварэння «беларускага нацыянальнага фронту», як антытэзы да «народнага фронту» – маскоўскага паходжання»[787]. Наконт паходжання – пытанне спрэчнае. Зазначым, што ў беларускай мове розніца паміж «народным» і «нацыянальным» істотная. Беларускі народны фронт як арганізацыя больш адпавядае аб'яднаўчым функцыям БНА, а Беларускі нацыянальны фронт замыкаецца ў структурах дзейнасці адной нацыі, што цалкам супадае з поглядамі кс. В. Гадлеўскага. У ЭГБ таксама адзначана, што ў працівагу БНА В. Гадлеўскі выступіў з ініцыятывай стварэння Беларускага нацыянальнага фронту[788].

Адной з найбольш істотных прычын рэарганізацыі, паводле кс. А. Станкевіча, была наяўнасць у назве слова «хрысціянская»: «І калі дзе якая палітычная арганізацыя называецца хрысціянскай, ці каталіцкай, дык гэта звычайнае непаразуменьне або толькі прыпадак. БХД у сваім Менскім перыядзе была апалітычнай. У Вільні БХД прыняла характар палітычны, але гэта фактычна не было згодна ані з істотай хрысьціянства, ані з навукай і практыкай Каталіцкага Касьцёла, ці Праваслаўнай Царквы, якія таксама ў сутнасьці з'яўляюцца апалітычнымі. Дужа ясна і глыбока тлумача гэта Я. Э. мітрапаліт а. Андрэй Шэптыцкі: «Ужо ў самім паняцьці каталіцызму, ці ўніверсалізму месьціцца супярэчаньне таго, што можна назваць партыяй. Каталіцызм гэта, навогул, цэласьць, а партыя гэта толькі нейкая частка. Таму ўсе каталікі сьвету прынялі тэзу, што ня можа быць палітычнай каталіцкай партыі і што каталіцызм і палітыка – гэта два словы, якія разам злучаныя месьцяць у сябе «contradictionen in terminis» – супярэчнасьць самую ў сябе»[789]. Тым больш, што афіцыйная назва «хрысціянская» давала права ўмешвацца духоўнай уладзе. Улада ж гэта ў нас, як у каталікоў, так і праваслаўных, чужая Беларусам нацыянальна, працы БХД спрыяць не магла, а магла быць толькі замінай і перашкодай. Практыка ўрэшце паказала, што гэтак было сапраўды»[790].

---

[785] Ад рэдакцыі // Беларускі фронт. – 1936. – № 1. – 12 чэрвеня. – С. 1.

[786] Ладысеў, У. Ф. Беларуская хрысціянская дэмакратыя / У. Ф. Ладысеў // Энцыкл. гісторыі Беларусі. У 6 т. – Мінск, 1993. – Т. 1. – С. 417–419; Ладысеў, У. Ф. Беларуская хрысціянская дэмакратыя – Беларускае народнае аб'яднанне / У. Ф. Ладысеў // Палітычныя партыі Беларусі : вучэб. дапам. – Мінск : Згода, 1994. – С. 78–82.

[787] Пануцэвіч, Вацлаў. Кс. Вінцэсь Гадлеўскі – Дзяржаўны Муж і Правадыр Народаў / Вацлаў Пануцэвіч // Спадчына. – 1993. – № 3, – С. 64.

[788] Рудовіч, С. С. Гадлеўскі Вінцэнт / С. С. Рудовіч // Энцыкл. гісторыі Беларусі. У 6 т. – Мінск, 1994. – Т. 2. – С. 447–448.

[789] Stankievič Ad. Biełaruski chryścijanski ruch (histaryčny narys). – Vilnia, 1939. – S. 243–244.

[790] Stankievič Ad. Biełaruski chryścijanski ruch: histaryčny narys. – Vilnia, 1939. – S. 246.

Зыходзячы з падстаў каталіцкай дагматыкі і сацыялогіі, дзеячы БХД улічылі неабходнасць строгага размежавання рэлігійных, сацыяльных і палітычных функцыяў – несумяшчальнасць каталіцтва і палітыкі: каталіцкая партыя роўна, як і хрысціянская, ёсць як супярэчнасць сама ў сябе. «Нацыянальнае беларускае сумленне такім чынам дыхтавала БХД выходзіць з вузкіх каталіцкіх ці агулам афіцыйна-хрысціянскіх рамак і весці агульна беларускую нацыянальна-сацыяльную палітыку»[791]. Праграма БНА – гэта праграма грамадска-палітычнай, свецкай, незалежнай ад духавенства арганізацыі, выкліканай да жыцця знешнепалітычнымі і ўнутрыдзяржаўнымі зменамі і арыентацыямі ў другой палове 30-х гг. У якасці галоўнай палітычнай мэты БНА падкрэслівалася імкненне да таго, «каб у незалежнай Беларусі быў створаны такі грамадскі лад, які, апіраючыся на працу, грамадскія роўнасці і справядлівасць, не дапускаючы эксплуатацыі адных другімі, забяспечыў бы грамадска-палітычныя, культурныя і эканамічныя патрэбы і запыты грамадзян. БНА была супраць дыктатур капіталізму, фашызму і камунізму»[792].

Новая партыя выступала за прыватную ўласнасць, дапускала магчымасць існавання дзяржаўнай уласнасці і калектыўнай гаспадаркі. Такія пункты праграмы былі нагодай у абвінавачванні ў радыкалізме і паддобрыванні з кампартыяй. Праграма БНА больш канкрэтна акрэслівала і гарантавала правы працоўным і сялянам, пашырала сферы задзеяння іх у працоўным працэсе, ставіла пытанні аб ахове здароўя, кааперацыі, падатках, судзе, арміі – ўсё, што спрыяла эканамічнаму росту. Для дасягнення сваіх мэтаў БНА выкарыстоўвала метады палітычнай агітацыі і культурна-аветніцкую працу: стварала прафесійныя саюзы і кааперацыі, прымала удзел у працы грамадска-палітычных устаноў і г. д.[793].

Актыўны ўдзел прымалі сябры БХД у прадвыбарных кампаніях у Польскі сойм у 1922, 1928 і 1930 гадах. З ініцыятывы БХД былі створаны і функцыянавалі пад яе кіраўніцтвам Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры (БІГіК), Беларускае каталіцкае выдавецтва, Беларускі каталіцкі цэнтр, Беларуская друкарня ім. Ф. Скарыны, выдавалася перыёдыка: «Беларуская Крыніца», «Хрысціянская Думка», «Зорка», «Калосьсе», «Шлях моладзі», «Пралеска», «Самапомач», «Беларуская борць», «Беларускі каляндар». Амаль што ўсе гэтыя ініцыятывы і іх арганізацыя абавязаны былі беларускаму каталіцкаму духавенству.

[791] Stankievič Ad. Biełaruski chryścijanski ruch: histaryčny narys. – Vilnia, 1939. – S. 247.
[792] Там жа.
[793] Stankievič Ad. Biełaruski chryścijanski ruch: histaryčny narys. – Vilnia, 1939; Tomaszewski Jerzy. Bieloruska Chrescijanska Demokracja : Uwagi o kryteriach ocen // Studia Polsko-Litewsko-Bialoruskie. – Warszawa, 1998; Ладысеў У. Ф. Беларуская хрысціянская дэмакратыя – Беларускае народнае аб'яднанне // Палітычныя партыі Беларусі : вучэб. дапам. – Мінск : Згода, 1994; Яго ж: Беларуская хрысціянская дэмакратыя // ЭГБ. – У 6 т. – 1993. – Т. 1 – С. 417–419; Канфесіі на Беларусі (к. XVIII–XX ст.) / В. В. Грыгор'ева, У. М. Завальнюк, У. І. Навіцкі, А. М. Філатава ; пад рэд. У. І. Навіцкага. – Мінск : В. П. «Эксперктыва», 1998.

## 2.6. АРГАНІЗАЦЫЯ ДЗЕЙНАСЦІ БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТА ГАСПАДАРКІ І КУЛЬТУРЫ (БІГіК)

У канцы 1920 года ў Вільні была склікана нарада, у якой сярод іншых прынялі ўдзел А. Луцкевіч, кс. А. Станкевіч, Ф. Ярэміч, В. Іваноўскі, М. Гарэцкі, А. Смоліч, Б. Тарашкевіч. На гэтай нарадзе прыйшлі да высновы, што лаяльныя адносіны мясцовай улады да беларускіх арганізацыяў трэба выкарыстаць для стварэння новых беларускіх культурна-асветніцкіх арганізацый, школаў і кааператываў[794]. Пасля гэтай нарады, дзякуючы намаганням Б. Тарашкевіча, 7.12.1921 г. было створана Таварыства беларускай школы (ТБШ). ТБШ адыграла значную ролю ў беларускім нацыянальным руху. Актыўны ўдзел у першыя гады дзейнасці Таварыства прымалі беларускія святары. Кс. А. Станкевіч у 1924 г. узначаліў ТБШ. Але ў сувязі з тым, што Беларуская сялянска-работніцкая грамада (БСРГ) знаходзілася пад моцным уплывам і прамым кіраўніцтвам камітэтаў камуністычнай партыі і манапалізавала многія культурныя арганізацыі ў Заходняй Беларусі, у тым ліку і ТБШ[795], прымаць удзел у такім Таварыстве каталіцкія святары больш не маглі.

У сувязі з такой сітуацыяй узнікла неабходнасць стварэння новай незалежнай беларускай арганізацыі з больш шырокай сферай дзейнасці. У 1926 г. з ініцыятывы прадстаўнікоў БХД (кс. А. Станкевіча, кс. В. Гадлеўскага), сяброў Беларускага сялянскага саюзу (В. Рагуля, Ф. Ярэміча), Беларускага праваслаўнага аб'яднання і сенатараў сойма А. Уласава, В. Багдановіча арганізуецца Беларускі Інстытут гаспадаркі і культуры (БІГіК)[796]. Новая арганізацыя была зарэгістравана 26.05.1926 г. Яе заснавальнікамі афіцыйна выступілі: А. Більдзюкевіч, А. Уласаў, Б. Грабінскі, А. Наза-

---

[794] Бергман, А. Слова пра Тарашкевіча / А. Бергман. – Мінск : Навука і тэхніка, 1996. – С. 47.

[795] «… Да пункту чацьвёртага: На ўтрыманне грамадскай арганізацыі патрабуецца 11 000 руб. у месяц. У гэту суму ўваходзіць: утрыманне легальнай партыі «Беларуская Рабоча-Сялянская Грамада», выданне беларускай легальнай газеты…» – Паводле «Годовой сметы КПЗБ и его представительства на 1926–1927 гг. – Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). – Ф. 4. – В. 21. – Спр. 112. – Арк. 9, 10.

«Гэта арганізацыя ствapалася пад непасрэдным кіраўніцтвам КПЗБ. У ЦК «Грамады» большасць камуністаў. (…) На мясцах добрая частка гурткоў была створана рукамі КПЗБ. Уся дзейнасць «Грамады» (асабліва яе ЦК і акруговыя арганізацыі знаходзяцца пад прамым кіраўніцтвам камітэтаў партыі). (…) Партыя павінна яшчэ больш узмацніць сваё палітычнае кіраўніцтва «Грамадой» і яшчэ больш замацаваць арганізацыйныя ўплывы партыі ў «Грамадзе». (…) «Грамада» стала манапалізатарам усіх культурных арганізацый у Зах. Беларусі («Беларускае таварыства школы», «Беларускае выдавецтва», «Беларускае навуковае таварыства», грамадскай арганізацыі «Беларускі нацыянальны камітэт», «Кааперацыя», БАНК)». – Паволе «Дакладной запіскі аб «повстанческих настроениях» у Заходняй Беларусі і задачах КПЗБ»: НАРБ. – Ф. 4. – В. 21. – Спр. 112. – Арк. 55, 74, 88. (Перакл. з расейскай мовы).

[796] Палуян, У. А. Беларускі Інстытут гаспадаркі і культуры / У. А. Палуян // Энцыкл. гісторыі Беларусі. – У 6 т. – Мінск, 1993. – Т. 1. – С. 433.

рэўскі. Мэта арганізацыі – развіццё і падтрымка сельскай гаспадаркі, кааператываў, рамёслаў, адукацыі, навукі, культуры. На выпадак дэлегалізацыі ўладамі беларускіх арганізацыяў – узяць пад кантроль гаспадарскае і культурнае жыццё народу ва ўмовах татальнай паланізацыі і пракамуністычных уплываў. Абмежаванняў паводле палітычных поглядаў і веравызнанняў Статутам не прадугледжвалася: усе сябры БІГіКа мелі права на тэрыторыі ІІ Рэчы Паспалітай быць арганізатарамі вытворчага працэсу (набываць нерухомасць, пасекі, майстэрні, памяшканні, абсталяванне і г. д.); арганізоўваць курсы ўдасканальвання, хаты-чытальні, бібліятэкі, музеі, школы; праводзіць навуковыя семінары, лекцыйную працу, дыскусіі, сходы, выставы, канцэрты, тэатральныя пастаноўкі, выдаваць сваю літаратуру і перыёдыку і распаўсюджваць яе сярод насельніцтва. У структурным плане БІГіК уяўляў сабою: Цэнтральную Раду (Цэнтраля Інстытуту) на чале з старшынём (А. Більдзюкевіч) і сябрамі ЦР Інстытута (А. Бабінскі, В. Багдановіч, К. Будзка, Э. Будзька, Я. Васілеўскі, П. Каруза, А. Назарэўскі, Я. Пазняк, С. Свістун, кс. А. Станкевіч, К. Юхневіч, Ф. Ярэміч), тэрытарыяльныя акругі (Віленская: кс. А. Станкевіч – старшыня (ад 05.1927 г. – скарбнік), сябры – В. Багдановіч, Я. Казлоўскі, Б. Туронак (ад 05.1927 г. – старшыня Ф. Ярэміч).

Гурткі БІГіК (найбольш актыўныя) існавалі ў Арлянятах, Данюшава, Муравана-Ашмянцы, Свірыдавічах, Шутавічах, пазней узніклі ў Мажалях, Пятровічах, Смаргонях (Ашмянскі пав.), Германовічах, Ёдах, Лужках, Пагосце, Расле (Дзісненскі пав.), Барадзенічах, Браслаўі, Іказні, Шальцінах, Шаўлянах (Браслаўскі пав.), Кляйпунах, Медніках, Ляварышках (Віленскі пав.), Будславе, Даўгінаве, Радашковічах (Вілейскі пав.), Гарадзішчы, Ляхавічах, Мядзведзічах, Рачканах, Райцах, Іванавічах, Гайніне (Баранавіцкі пав.), Рубяжэвічах (Стаўпецкага пав.), Пружанах, Шэрашаве (Пружанскі пав.), Вішнева Жодзішках, Клюшчанах, Лынтупах (Свянцянскі пав.), Орлі (Лідскі пав.), Лявонавічах (Нясвіжскі пав.), Далятычах (Навагрудскі пав.), Харках (Пастаўскі пав.) і іншых гарадах і мястэчках Заходняй Беларусі. У 1927 г. у Віленскую акругу ўваходзіла каля 50 гурткоў колькасцю да 800 чалавек. Пры тым не заўсёды арганізатарамі гурткоў былі каталіцкія святары.

Ад 3.02.1929 г. мяняецца склад Цэнтральнага кіраўніцтва БІГіКа. Старшыня – кс. В. Гадлеўскі, намеснік – А. Клімовіч, сябры – Я. Васілеўскі, П. Каруза, В. Рагуля, А. Стаповіч, Я. Пазняк, Б. Туронак, К. Юхневіч; у склад рэвізійнай камісіі ўвайшлі: В. Багдановіч, Э. Будзька, кс. А. Станкевіч, Ф. Ярэміч. У 1929 г. у сувязі з арыштамі сяброў БІГіК, якія сімпатызавалі камуністам, кіраўніцтва інстытута правяло перарэгістрацыю сяброў, у выніку чаго яго шэрагі скараціліся. У 1930 г. было 69 гурткоў і 36 бібліятэк, у 1931 – 52 гурткі і каля 700 сяброў, у 1933 г. – 53 гурткі і 937 чалавек, у 1934–1935 гг. колькасць гурткоў даходзіла да 80, а сяброў – да

1200. У 1936 г., у сувязі з націскам і абмежаваннем дзейнасці з боку уладаў, назіраецца скарачэнне Інстытута[797].

Фінансавалі БІГіК часткова субсідыі паслоў і сенатараў з Беларускага пасольскага клуба ў парламенце Польшчы, Друйскі кляштар а. марыянаў, складкі сяброў БХД.

БІГіК актыўна ўключаецца ў культурнае і гаспадарчае жыццё Заходняй Беларусі. Яго стараннямі за першыя два гады было пададзена 30 тыс. дэкларацый на ўтварэнне прыватных беларускіх школ[798]. З моманту прыняцця закону аб мовах (31.07.1924 г.) пры дапамозе БІГіК і ТБШ былі ўнесены прапановы аб адкрыцці 1 тыс. беларускіх школ[799] (культурная работа і праблемы школьніцтва былі той сферай дзейнасці супрацоўніцтва ТБШ і БІГіК – у іх сумеснай дэкларацыі было заяўлена, што абедзве арганізацыі дамагаюцца для суайчыннікаў роднай школы і спадзяюцца на шырокую падтрымку народу)[800]. Адпаведную інфармацыю падае У. Ладысеў: «У гмінныя рады, школьныя сакратарыяты было пададзена звыш 30 тыс. дыкларацый на адкрыццё школ на беларускай мове»[801]. Праўда, У. Ладысеў акцэнт робіць на «вялікай агітацыйнай і тлумачальнай працы, праведзенай мясцовымі арганізацыямі КПЗБ, павятовымі камітэтамі БСРГ і акруговымі ўправамі ТБШ»[802]. Безумоўна, гурткі КПЗБ карысталіся ўплывам сярод значнае часткі насельніцтва, але, заўважым, што яны жорстка праследаваліся ўладамі і агітацыйная праца іх была абмежаванай, у той жа час БІГіК, як легалізаваная ўладамі культурна-асветніцкая арганізацыя, мела значна большае кола дзейнасці і адпаведныя магчымасці.

БІГіК былі створаны 22 бібліятэчныя кропкі, атрыманы ад уладаў дазвол на адкрыццё 6 беларускіх прыватных школаў (адкрылася адна). Прэрагатывай БІГіК было правядзенне беларускіх урачыстых імпрэзаў, угодкаў, канцэртаў, а таксама вечароў беларускай паэзіі і песні, сустрэчаў, лекторыяў. Дзейнай і плённай была праца Віленскага аддзела БІГіК. (Гл. дадатак 11.)

Ад 1927 г. пры БІГіК (Вільня) існавала тэатральная секцыя (кір. П. Булгак); ставілі спектаклі (у тым ліку і выяздныя) паводле твораў

---

[797] Stankievieč Ad. Bielaruski chryscijanski ruch: histarycny narys. – Vilnia, 1939; Małgorzata Moroz. Białoruski Instytut Gospodarki i Kultury w północno-wschodnich województwach Drugiej Rzeczypospolitej (1926–1937) // Białoruskie Zeszyty Historyczne. – 2000. – № 14. – S. 125–147; Moroz, Małgorzata. «Krynica» Ideologia i przywodcy białoruskiego katolicyzmu / Małgorzata Moroz. – Białystok, 2001. – S. 191; Палуян У. А. Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры / У. А. Палуян // ЭГБ. – У 6 т. – Т. 1. – С. 433.

[798] Wabiszczewicz, Aleksander. Sytuacija szkolnictwa bialoruskiego na Bialorusi Zachodniej w latach 1921–1939 // Spolłeczenstwo bialoruskie, litewskie i polskie na ziemiach polnocno-wschodnich II Rzeczópospolitej w latach 1939–1941. – Warszawa, 1995. – S. 196.

[799] Станкевіч, Ад. Беларусы як нацыянальная меншасьць у Польшчы / Ад. Станкевіч // Беларускі гістарычны часопіс. – 1995. – № 2. – С. 113.

[800] Крэнь, Ірына. За долю і волю / Ірына Крэнь // Наша слова. – 1996. – 3 студз. – С. 2.

[801] Ладысеў, Уладзімір. Цяжкі шлях выпрабаванняў / Уладзімір Ладысеў // Беларускі гістарычны часопіс. – 1994. – № 1. – С. 85.

[802] Там жа.

Ф. Аляхновіча, Э. Ажэшкі, В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Купалы, Л. Радзевіча. Драматычныя секцыі, бібліятэкі, хаты-чытальні былі створаны амаль што у 2/3 гурткоў. Існавала сваё «Выдавецтва БІГіК» літаратуры як мастацкага, так і гаспадарчага зместу. Ад 1933 г. з ініцыятывы БІГіК пачаў выходзіць у Вільні часопіс «Самапомач» (Беларуская Кааператыўная-Гаспадарчая Часопісь), рэдактар і выдавец А. Клімовіч, ад 1935 г. – часопіс «Калосьсе»[803].

Выключныя заслугі ў арганізацыі такой дзейнасці БІГіК належаць кс. В. Гадлеўскаму як старшыні і арганізатару і кс. А. Станкевічу як куратару і каардынатару. Між тым, у артыкулах Энцыклапедыі гісторыі Беларусі не згадваецца прыналежнасць кс. В. Гадлеўскага да кіраўніцтва гэтай арганізацыі[804]. У «Беларускай крыніцы» за 1926–1936 гг. і «Сялянскай Ніве» (1926–1930 гг.) падаецца шырокая сетка дзейнасці гурткоў БІГіК на мясцах, паведамляецца аб перашкодах з боку мясцовых уладаў у правядзенні культурных імпрэзаў. У адным з нумароў «Беларуская Крыніца» падае інфармацыю аб дзейнасці гуртка БІГіК у Баранавіцкім павеце: «многа ў працы мясцовым гурткам дапамагае Цэнтраля Інстытуту. Адведзены ў мінулым годзе старшынёй Інстытуту кс. В. Гадлеўскім і віцэ-старшынёй інж. А. Клімовічам і іх лекцыі паднялі павагу Інстытуту на высокую ступень. Сёлетнія адведзіны старшыні В. Гадлеўскага ўскалыхнулі нізы і вярхі»[805]. В. Пануцэвіч піша, што кс. В. Гадлеўскі ўзначальваў БІГіК і тады, калі адбываліся пагромы «Грамады», ТБШ і БІГіКа[806], г. зн. ад 1929 да 1936 года. Адзначым, што аўтарытэт кс. В. Гадлеўскага ў беларускім руху, як былога вязьня польскай турмы за беларускую дзейнасць, быў вялікім. Увогуле гэтак жа, як і гурткі БХД, так і гурткі БІГіК, у бальшыні выпадкаў у парафіях, апекаваліся беларускімі каталіцкімі святарамі. Ва ўсякім разе, такі святар быў душою такіх гурткоў, генератарам ідэй і натхняльнікам. Невыпадкова найбольш актыўная дзейнасць БІГіК звязана з тымі мястэчкамі і вёскамі, у якіх альбо працавалі беларускія святары, альбо былі адтуль родам (Арляняты – кс. А. Станкевіч; Шутовічы, Барадзенечы – кс. В. Шутовіч; Жодзішкі – кс. В. Гадлеўскі, Мядзьведзічы – кс. П. Татарыновіч, Ляхавічы – кс. Л. Кавэцкі, Далятычы – кс. В. Аношка, Леварышкі – кс. Я. Семашкевіч).

[803] БІГіК займаўся і іншай культурнай і гаспадарскай працай. У 1927 г. з ініцыятывы БІГіК у Вільні былі арганізаваныя кааператыўна-бухгалтарскія курсы (вучылася каля 40 чалавек), створаны кааператыўны Прамсельгасбанк (А. Більдзюкевіч, В. Багдановіч, Я. Васілеўскі, В. Манкевіч, кс. А. Станкевіч, Б. Туронак), беларускае кааператыўнае таварыства «Пчала» (у Віленскай акрузе) і кааператыў «Рунь» у Баранавіцкім павеце.

[804] Палуян, У. А. Беларускі Інстытут гаспадаркі і культуры / У. А. Палуян // Энцыкл. гісторыі Беларусі. – У 6 т. – Мінск, 1993. – Т. 1. – С. 433; Рудовіч, С. С. Гадлеўскі Вінцэнт / С. С. Рудовіч // Энцыкл. гісторыі Беларусі. – У 6 т. – Мінск, 1994. – Т. 2. – С. 447–448.

[805] Аб дзейнасці Беларускага інстытуту гаспадаркі і культуры ў Баранавіцкім павеце // Bielaruskaja Krynica. – 1932. – 25 lipenia. – S. 2.

[806] Пануцэвіч, Вацлаў. Кс. Вінцэсь Гадлеўскі – Дзяржаўны Муж і Правадыр Народаў / Вацлаў Пануцэвіч // Спадчына. – 1993. – № 3. – С. 61.

У 1936 г. актывізуецца дзейнасць БІГіК у арганізацыі беларускіх школаў, што ўладамі было інкрамінавана як праяўленне нацыянальнага радыкалізму, і што стала прычынай яго ліквідацыі: 27.01.1937 г. віленскі ваевода Л. Бацянскі выдаў адпаведны загад.

## 2.7. КС. АДАМ СТАНКЕВІЧ – ПАСОЛ ВАРШАЎСКАГА СОЙМУ

Заслугоўвае ўвагі ў гэты час пасольская дзейнасць кс. Адама Станкевіча ў Варшаўскім Сойме. Дарэчы прыпомніць, што кс. Адам Станкевіч меў магчымасць балатавацца ў Польскі Устаўадаўчы Сойм у 1919 г., будучы ў Драгічыне, Бельскага павету. Яго супрацоўнікам быў вядомы польскі рэлігійны і палітычны дзеяч ад Народна-дэмакратычнай партыі кс. С. Мацеевіч, які неаднаразова ў свой час быў дэпутатам Расейскай Дзяржаўнай Думы. «Вось-жа з прычыны маёй кандыдатуры, – піша кс. А. Станкевіч, – польскія нацыяналісты паднялі крык і касьцельныя сьферы змусілі мяне зрачыся сваёй кандыдатуры, каб ня псуць ім»[807].

Кс. Адам Станкевіч 14.08.1922 г. атрымаў дазвол на ўдзел у выбарах у Варшаўскі Сойм ад тагачаснага Віленскага біскупа а. Юры Матулевіча. Балатаваўся кс. А. Станкевіч ад БХД і 5.11.1922 г. быў абраны ў акрузе: Дзісна, Паставы, Браслаў, Свянцяны, дзе яго добра ведалі як змагара за беларускія справы[808]. І праваслаўныя і каталікі Браслаўшчыны «ўсе ў адзін голас заяўлялі, на якім сьпісе будзе кс. Адам Станкевіч, за такі і галасаваць будуць»[809]. Будучы дэпутатам Сойму ІІ Рэчы Паспалітай, кс. Адам Станкевіч уваходзіў у Беларускі пасольскі клуб (БПК), быў адным з намеснікаў старшыні БПК Б. Тарашкевіча, а пасля расколу клуба (1925) увайшоў у фракцыю – Беларускі сялянскі саюз (БСС). У якасці галоўных мэтаў беларускага хадэцкага пасла Варшаўскага Сойму застаюцца ідэі развіцця беларускай нацыянальнай і грамадска-палітычнай свядомасці ў духу хрысціянскім і дэмакратычным, пашырэнне беларускай культуры[810]. І дэпутат кс. А. Станкевіч цалкам аддаецца сацыяльна-грамадскай і асветніцкай дзейнасці, выступае як абаронца нацыянальнай культуры і яе носьбітаў з прамовамі на пасяджэннях сойма і мітынгах, прымае актыўны ўдзел у інтэрпеляцыях БПК з нотамі пратэсту да польскага ўрада аб

---

[807] Stankievič Ad. Biełaruski chryścijanski ruch (histaryčny narys). – Vilnia, 1939. – S. 193.

[808] У кнізе А. Бергман дапушчана недакладнасць: «Ад. Станкевіч балаціраваўся ў Вільні» (Бергман, А. Слова пра Тарашкевіча. – Мінск : Навука і тэхніка, 1996. – С. 67).

[809] Станкевіч Адам, ксёндз: у 25-я ўгодкі сьвяшчэнства і беларускай нацыянальнай дзейнасьці (10.01.1915–10.01.1940) : рэдагаваў і выдаў Магістр Ян Шутовіч. – Вільня, 1940. – С. 84.

[810] Stankievič Ad. Biełaruski chryścijanski ruch (histaryčny narys). – Vilnia, 1939. – S. 164.

парушэннях правоў у адносінах да беларусаў і іншых нацыянальных меншасцей, з'яўляецца непасрэдным ініцыятарам многіх інтэрпеляцый. «Я, праз увагу на тое, што існаваў тады агульнабеларускі фронт, – пісаў кс. Адам Станкевіч, – працаваў як у Сойме, так і па-за Соймам ня столькі ў духу партыйным, сколькі для справы агульнабеларускай. Праца гэта праўлялася ў прэсе і ў публічных вечах у розных кутках нашага краю. Так, напрыклад, я з рознымі іншымі беларускімі пасламі выступаў на вечы ў наступных мясцох: у Горадні, Нясьвіжы, Барунах, Ашмянскага пав., некалькі раз у Жодзішках і Даўгінаве, Вялейскага пав., у Друі, Браслаўскага пав., у Дзісьне, Язьне, Плісе, Задарожы, Чарневічах, Лужках, Празароках Дзісненскага пав., у Мядзеле Паўстаўскага пав. і ў інш.»[811]. За патрыятычны выступ у Даўгінаве 8.05.1924 г. быў абвінавачаны пракуратурай, за беларускае казанне ў Жодзішках быў дасланы палітычны данос у Міністэрства веравызнанняў і адукацыі. Міністэрства ў сваю чаргу з адпаведным лістом ад 20.03.1925 г. звярнулася да архібіскупа Матулевіча, уведамляючы яго ў тым, што кс. пасол Станкевіч прамаўляў 1 і 2 лістапада ў Жодзішскім касцёле казанні ў беларускай мове, у якіх намаўляў народ ігнараваць польскія ўлады, бо яны гэтак жа ігнаруюць тутэйшую беларускую люднасць, заклікаў да еднасці і стварэння незалежнай Беларусі[812]. Гэта было абвінавачванне кс. А. Станкевіча ў антыдзяржаўнай дзейнасці. З гэтай нагоды ў тлумачальным лісце (ад 30.03.1925 г.) кс. А. Станкевіч адзначыў, што «праблемы палітычнай у касцёле не парушаў нідзе»[813].

Сітуацыя, якая пачала складвацца ў асяродку каталіцкага духавенства (аб'яўленне байкоту ксяндзам-беларусам, запалітызаванасць ксяндзоўпалякаў і ўзрастаючая паланізацыя), не магла не хваляваць беларускую грамадскасць. Так, кс. Адам Станкевіч як пасол Варшаўскага Сойму становіцца ініцыятарам і аўтарам Мемарыялу беларускіх соймавых паслоўкаталікоў св. Айцу Папу Рымскаму Пію XI. У Мемарыяле падавалася статыстыка беларусаў-каталікоў па паветах і дэканатах, давалася характарыстыка іх становішча ў царскай Расіі, прыводзіліся шматлікія факты паланізацыі і жаданні мець сваё рэлігійнае жыццё, у прыватнасці просьбы парафіян на імя віленскага біскупа і мясцовых пробашчаў аб правядзенні беларускамоўных казанняў з Лапеніцы (Ваўкавыскі пав.), Шэрашава (Слонімскі пав.), Клюшчанаў і Засвіры (Свянцянскі пав.), Баруны (Ашмянскі пав.) Барадзенічы, Шаркаўшчыны, Пагосце (Дзісненскі пав.), просьбы віленчукоў беларусаў у выдзяленні для іх асобнага касцёла... Адносіны біскупаў (З. Лазінскага і Ю. Матулевіча) да праблемаў беларусаў-каталікоў характарызаваліся як неспрыяльныя... «З вышэйапісанага палажэння Каталіцкага Касцёла на беларускіх землях у Польшчы вынікае, што гэты Касьцёл усьцяж траціць на сваёй паўсюднасьці (міжнарод-

[811] Stankievič Ad. Biełaruski chryścijanski ruch (histaryčny narys). – Vilnia, 1939. – S. 164.
[812] ЦНБНАНБ. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 4. – В. 1. – Спр. 47. – Арк. 1.
[813] Там жа. – Арк. 2.

насьці), стаючыся аружжам польскай вынарадаўляючай палітыкі адносна да беларусаў-каталікоў...». У якасці жаданняў беларускага каталіцкага люду паслы падаюць на разгляд наступныя прапановы: 1. Для Менскай дыяцэзіі ў якасці біскупа прапануецца кс. др. праф. Ф. Абрантовіч. 2. Для Віленскай дыяцэзіі – кс. Л. Хвецька, быўшы праф. каталіцкай семінарыі ў Петраградзе. 3. Выкладанне беларускіх прадметаў і беларускай мовы ў Віленскай духоўнай семінарыі. 4. Аддзельнага касцёла для беларусаў-каталікоў у Вільні[814]. Мемарыял быў пададзены св. Айцу 15.03.1923 г. праз рукі яго пасланца Лаўрыяга ў Варшаве. Але і гэты Мемарыял, як і дзясяткі іншых зваротаў беларусаў да вышэйшых касцёльных уладаў, застаўся ў гісторыі марным лямантам гукаючых у пустэльні.

Згадаем і іншыя факты пасольскай дзейнасці: «Кс. Ад. Станкевіч, будучы паслом, належыў да Соймавай заграпічнай камісіі і як ейнаму сябру прыйшлося быць у міністра заграпічных спраў Скшынскага на раўце ў 1923 г. з нагоды прызначэння Радай Амбасадараў Польшчы ўсходніх граніц. Кс. Ад. Станкевіч вёў гутарку з нунцыям Ляўрам, з французскім амбасадарам Панаф'е, з бразылійскім, з Дашынскім, з Трампчынскім і інш. Гутарка датычыла беларускіх праблем»[815]. 2.X.1924 г. дэлегацыя Беларускага пасольскага клуба на чале з кс. А. Станкевічам у складзе П. Мятлы і А. Уласава была прынята старшынёй Рады міністраў Польшчы П. С. Грабскім. Дэлегацыя падала шэраг патрабаванняў ад беларускага народу, звязаных з выкананнем закону аб мовах і аб школьніцтве для нацменшасцяў (прыняць закон аб школьніцтве, выдзяляць грошы на беларускія школы, узаконіць збор подпісаў за школы, зняць бюракратычныя перашкоды пры адкрыцці школ і інш.). Міністр запэўніў, што ўрад пастараецца, каб законы, закранутыя тут, былі выкананыя[816]. Праз два гады кс. А. Станкевіч у прамове з соймавай трыбуны абвінавачць п. Грабскага «за працу ў спалячванні нашага народу, выдзіраньне з душы беларусаў усіх сьвятасьцяў народных, за працу, у якой той хацеў сьцёрці імя Беларусі ў межах Рэчы Паспалітай»[817].

Прамовы кс. А. Станкевіча ў Сойме характарызуюцца актуальнасцю і глыбокім пазнаннем справы, аб якой ідзе гутарка. У прамове ад 12.02.1924 г. кс. А. Станкевіч гаворыць аб перашкодах і дзікунствах з боку павятовых старастаў і школьных інспектараў у адносінах да мясцовага насельніцтва і ў прыватнасці да беларускіх гімназіяў: «...і тут нам кідаецца ў вочы

---

[814] Memorjal bielaruskich sojmawych paslou katalikou sw. Ajcu // Krynica. – 1924. – № 1. – 4 studnia. – S. 4; № 2. – 21 lutaha. – S. 1.

[815] Шутовіч, Я. На пройдзеным шляху / Я. Шутовіч // Ксёндз Адам Станкевіч: у 25-я ўгодкі сьвяшчэнства і беларускай нацыянальнай дзейнасьці (10.01.1915–10.01.1940) / рэдагаваў і выдаў Магістр Ян Шутовіч. – Вільня, 1940. – С. 45–46.

[816] Biełorusini u przezeca rady ministrau // Kurjer Wilenski. – 1924. – 5 pazdz. – S. 2; Ad St-ič. Biełaruskaja škoła i staršyna ministrau p. Hrabski // Krynica. – 1924. – № 27. – 11 kastryčnika. – S. 1–2.

[817] Станкевіч, Ад. Прамова пасла кс. Ад. Станкевіча ў Сойме 24.IX.1926 / Ад. Станкевіч // Сялянская ніва. – 1926. – 7, 14, 21 кастрычніка.

страшэнны абраз, дзякуючы нягодным адносінам польскай ўлады (...) З існуючых 5 беларускіх гімназіяў засталіся 3, але і яны пазбаўленыя дзяржаўнай фінансавай падтрымкі, а выпускнікі гімназій вымушаны працягваць вучобу за мяжой, бо яны «не падрыхтаваныя» да вучобы ў польскіх ВНУ. Прамоўца робіць выснову, што такая дзейнасць уладаў не адпавядае трактатам аб меншасцях: Вэрсальскаму (арт. 9) і Рыжскаму (арт. 7), якія падпісаныя Польшчай і якія яна абавязвалася выконваць[818]. Выступаў кс. А. Станкевіч з прамовамі аб праблемах беларускага культурнага жыцця[819], палітыкі паланізацыі праз касцёл, патрэб роднай мовы і школьнай адукацыі[820], аб дадатковым бюджэце на 1924 г. [821].

Востра крытыкуючай польскую вонкавую і ўнутраную палітыку, асабліва ў адносінах да нацменшасцяў, была прамова кс. А. Станкевіча ад 24.09.1926 г. Параўноўваючы становішча беларусаў у Савецкай Беларусі і ў Беларусі пад Польшчай, пасол прывёў шэраг прыкладаў не на карысць апошняй. Між іншым адзначыў, што ён не адабрае савецкай палітыкі, але мусіць прызнаць, што, калі на той бок мяжы ідзе шырокая беларусізацыя ва ўсіх сферах культурна-грамадскага жыцця, школы там лічацца тысячамі, дык тут беларусам, на сваёй радзіме, нічога не належыць, што яны і далей пазбаўленыя сваёй школы, асветы, а зямлю павінны аддаваць асаднікам і быць матэрыялам для імперыялістычных і нацыяналістычных польскіх імкненняў[822]. Выступ кс. А. Станкевіча ўразіў нават партыйнае кіраўніцтва ў БССР, пра што сведчыць яго пераклад у «Материалах о работе КПП и КПЗБ. Пару слов о польских делах». Каментуючы выступ кс. А. Станкевіча, партыйны функцыянер адзначыў: «І гэта гаворыць ксёндз Адам Станкевіч, адзін з найбольш непрымірымых ворагаў Савецкай Беларусі»[823].

Адным з метадаў барацьбы БПК былі інтэрпеляцыі да кіраўніцтва ўраду з патрабаваннямі прыняць меры ў сувязі з парушэннямі правоў чалавека, антызаконнымі дзеяннямі і злоўжываннямі чыноўнікаў. Так, кс. А. Станкевіч з іншымі беларускімі пасламі складае прапазыцыю ў справе масавых арыштаў беларусаў на Гарадзеншчыне[824], супраць гвалту карнай паліцыі ў Косаўскім пав. і катаваннях арыштаваных[825], а таксама ў справе навучання рэлігіі ў шко-

---

[818] Станкевіч, Адам. Прамова ў Соймавай асьветнай камісіі ад 12.02.1924 / Адам Станкевіч // Крывіч. – 1924. – № 1(7). – С. 101. – 103.

[819] Станкевіч, Ад. Прамова пасла ў Варшаўскім Сойме ад 12.X.1923 / Ад. Станкевіч // Сьцяг Волі. – 1923. – 17 кастрычніка.

[820] Станкевіч, Адам. Прамова ў Соймавай асьветнай камісіі ад 12.02.1924 / Адам Станкевіч // Крывіч. – 1924. – № 1(7). – С. 101–103; Станкевіч, Адам. Прамова пасла кс. Станкевіча ў Сойме 1.VII.1924 / Адам Станкевіч // Сын Беларуса. – 1924. – 11 ліпеня.

[821] Станкевіч, Ад. Прамова пасла кс. Ад.Станкевіча ў Сойме 24.IX.1926 / Ад. Станкевіч // Сялянская ніва. – 1926. – 7, 14, 21 кастрычніка.

[822] Там жа.

[823] ЦНБНАНБ. – Ф. 4. – В. 21. – Спр. 112. – Л. 27.

[824] Інтэрпеляцыі беларускіх паслоў у Польскі Сойм 1922–1928 гг. : зб. дакументаў. – Менск : Беларускае дзяржаўнае выд-ва, 1927. – С. 25.

[825] Там жа. – С. 44, 46.

лах на роднай мове[826], канфіскацыі аддзельных нумароў «Беларускай крыніцы»[827], супраць умешвання паліцыі ў рэлігійнае жыццё і ўжыванне агнястрэльнай зброі і кулямёта пра гэтым[828], што мела месца ў м. Жодзішкі.

Звяртаўся кс. А. Станкевіч з асабістымі інтэрпеляцыямі да міністра ўнутраных спраў з нагоды незацвярджэння таварыства ксяндзоў-беларусаў «Сьветач» у Вільні[829], у абарону аднаго з праваслаўных прыходаў пад Вільняй, дзе ксёндз тэрарызаваў праваслаўных, забараняў ім званіць у царкве[830]. Гучаў голас кс. А. Станкевіча з высокай соймавай трубуны ў абарону пэўных асобаў, якія былі беспадстаўна асуджаныя ўладамі, альбо несправядліва пакаранымі за нацыянальныя перакананні. Сярод іх былі і каталіцкія святары: А. Зянкевіч, А. Цікота, В. Шутовіч, В. Гадлеўскі, Я. Рэшаць, Ф. Рамейка і іншыя[831].

У 1926 г. кс. А. Станкевіч сустрэўся з сваімі выбаршчыкамі ў в. Барадзенічы. «Сьцягнуў ён сваёй асобай шматтысячныя масы, якія хацелі даведацца аб дзейнасці беларускіх паслоў у Сойме, – піша аўтар з Браслаўшчыны, – бо сам ксёндз больш як хто з іх працаваў у Сойме для дабра нашага народу»[832].

* * *

Пры чарговых выбарах у Сойм (1928, 1930) каталіцкія святары ўдзелу не прымалі. Віленскі архібіскуп Р. Ялбжыкоўскі, на падставе спецыяльнай пастановы ад 15.03.1917 г. Папы Рымскага «У справе палітычнай дзейнасці духоўных асобаў», забараніў духавенству ўдзельнічаць у палітычным жыцці. Але на гэтым культурна-грамадская дзейнасць кс. А. Станкевіча не прыпынілася. Ён застаецца і надалей ідэйным кіраўніком БХД, адным з ініцыятараў і арганізатараў БІГіКа, фактычным каардынатарам усяго беларускага руху ў Вільні[833]. «Палітычна-грамадзянская дзейнасць Адама Станкевіча ўзвяла яго на арэну вялікага беларускага палітычнага руху», – пісаў Ф. Грышкевіч[834]. Варта было б скарэктаваць выказванне

---

[826] Інтэрпеляцыі беларускіх паслоў у Польскі Сойм 1922–1928 гг. : зб. дакументаў. – Менск : Беларускае дзяржаўнае выд-ва, 1927. – С. 240–241.

[827] Там жа. – С. 144, 159, 286, 299.

[828] Там жа. – С. 298.

[829] Там жа. – С. 86.

[830] Касяк, І. З гісторыі Праваслаўнай Царквы Беларускага народу / І. Касяк. – Нью-Йорк : Выд. Беларускай Цэнтральнай Рады, 1956. – С. 47.

[831] Інтэрпеляцыі беларускіх паслоў у Польскі Сойм 1922–1928 гг… – С. 45, 225, 240–241, 286–289, 298–299.

[832]*** М. Б. // Ксёндз Адам Станкевіч: у 25-я ўгодкі сьвяшчэнства і беларускай нацыянальнай дзейнасьці (10.01.1915–10.01.1940) / рэдагаваў і выдаў Магістр Ян Шутовіч. – Вільня, 1940. – С. 85.

[833] Najdziuk Jazep. Ks. Adam Stankievič i biełaruski druk u Vilni (артыкул) // Ксёндз Адам Станкевіч: у 25-я ўгодкі сьвяшчэнства і беларускай нацыянальнай дзейнасьці (10.01.1915–10.01.1940) / рэдагаваў і выдаў Магістр Ян Шутовіч. – Вільня, 1940. – С. 62–66.

[834] H. Fr. Adam Stankievič – biełaruski hramadzki i kulturny dziejač // Ксёндз Адам Станкевіч: у 25-я ўгодкі сьвяшчэнства і беларускай нацыянальнай дзейнасьці (10.01.1915–10.01.1940) / рэдагаваў і выдаў Магістр Ян Шутовіч. – Вільня, 1940. – С. 53.

Ф. Грышкевіча ў тым сэнсе, што палітычны рух у Заходняй Беларусі быў абмежаваны польскімі ўладамі культурнай грамадска-асветніцкай працай. Пры такой абмежаванасці палітычныя патрабаванні (дзяржаўнасць, незалежнасць, свабода слова, друку) звычайна ўладамі праследуюцца. Кс. А. Станкевіч парушаў устаноўленыя недэмакратычныя рамкі, але як каталіцкі святар строга прытрымліваўся эвалюцыйнага працэсу развіцця падзей і сваёй грамадска-палітычнай і культурна-асветніцкай працай, як мог, спрыяў гэтаму.

Усякі раз кс. Адаму Станкевічу, паводле выклікаў Віленскай курыі, прыходзілася бываць на аўдыенцыі архібіскупа Ялбжыкоўскага з тлумачэннем сваёй дзейнасці як дзейнасці не палітычнай. Паводле каментараў кс. А. Станкевіча канкрэтызуецца прычыннасць такіх выклікаў: «Быў 11.04.1927 г. Архібіскуп забараніў пісаць у «К(рыніцу)»; «Быў. Забараніў выязджаць на вёску і чытаць лекцыі народу. Быццам гэтага дамагаецца клер і цывільныя ўлады. Забараніў так-жа і кс. В. Гадлеўскаму» – на запрашэнне ад 19.09.1930 г.; Быў 26.01.1933 г.. Адмоніцыя за № 1 «Хрысціянскай Думкі 1933 г. (Перадавіца, Хроніка аб Кс. К. Кулаку, аб Данілышаве і Белане)»; «17.12.1937 г. Быў. Заклікаў за арт. «Без роднай мовы няма душпастырства («Хрысціянская Думка», 1937, № 21)»[835].

29 лістапада 1936 г. у памяшканні кс. А. Станкевіча быў праведзены вобыск з мэтай пошуку кампраметуючых матэрыялаў, а 10.06.1938 г. паводле загаду віленскага ваяводы Л. Бацянскага кс. А. Станкевіча высяляюць «на абшары пазагранічныя» тэрмінам на 5 гадоў[836]. Памылковым было б лічыць, што кс. А. Станкевіча (разам з ім выселілі з Вільні кс. У. Талочку і інж. А. Клімовіча) выслалі як «жамойцкіх прыхільнікаў»[837]. Яны былі прыхільнікамі літоўскага адраджэння як адраджэння кожнага народу; вядома і тое, што кс. А. Станкевіч арыентаваўся на федэрацыю Беларусі з Літвой[838], але наўрад ці было гэта галоўнай прычынай іх высылкі. Апрача літоўскіх праблемаў, якія значна абвастрыліся ў канцы 1930-х гадоў, польскія ўлады рабілі ўсё магчымае, каб не ўзніклі беларускія праблемы. У лісце да міністра па веравызнаннях кс. А. Станкевіч пісаў, што прычынай загаду з'яўляецца яго праца ў беларускім нацыянальным руху, якую ваявода кваліфікуе як антыпольскую і антыдзяржаўную, між тым, ён заўсёды адносіў і адносіць сябе да беларускага народу; палітыкай ад пасольскай дзейнасці (1922–1928 гг.) у цэлым не займаецца; працуе выключна на беларускай культурна-выдавецкай ніве, довадам чаго з'яўляецца яго 16 асобных публікацый з галіны рэлігіі, гісторыі, культуры, літаратуры; пра-

---

[835] ЦНБНАНБ. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 4. – В. 1. – Спр. 45. – Арк. 13, 21, 22, 39.

[836] Там жа. – Спр. 48. – Арк. 3.

[837] Пануцэвіч, Вацлаў. Кс. Вінцэсь Гадлеўскі – Дзяржаўны Муж і Правадыр Народаў / Вацлаў Пануцэвіч // Спадчына. – 1993. – № 3. – С. 71.

[838] Bergman Aleksandra. Sprawy Białaruskie w II Rzeczypospolitej. – Warszawa, 1984. – S. 116.

цу сваю праводзіў у кірунку гарманічнага сужыцця двух мільёнаў беларусаў у Польшчы з народам польскім як роўны з роўным, вольны з вольным; у польска-беларускіх адносінах не бачыць нічога пазітыўнага ў тых адміністрацыйна-рэпрэсіўных сродках, якія крыўдзяць беларусаў; аніякай віны супраць Польшчы і польскага народу ён за сабой не адчувае. У сувязі з гэтым, кс. А. Станкевіч просіць міністра адмяніць рашэнні ваяводы, якія ён лічыць беспадстаўнымі і абражаючымі яго[839].

Калі А. Луцкевіч, Р. Астроўскі і іншыя беларускія дзеячы прынялі больш угодніцкую тактыку да польскай палітыкі, дык святары А. Станкевіч і У. Талочка былі куды больш паслядоўнымі і непрымірымымі з такой палітыкай; адначасна былі найбольш аўтарытэтнымі і ўплывовымі асобамі ў Вільні – усё гэта, на думку ўладаў, магло ўяўляць пэўную небяспеку для дзяржавы: палякі добра ведалі цану кожнага слова каталіцкага святара, а тым больш святара лідара.

Дзейнасць кс. Адама Станкевіча ў беларускай гістарыяграфіі звычайна стараюцца падаць у кантэксце палітычнай дзейнасці, аргументуючы яго пасольскай працай і фактычным кіраўніцтвам Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай партыі. Увогуле ці варта так ставіць пытанне ў адносінах да беларускага каталіцкага святара. Ва ўсякім разе тут абавязкова патрэбны шматлікія агаворкі. З першага, перыяд дзейнасці кс. Адама Станкевіча – гэта перыяд палітычнай дамінацыі ў сферах грамадскага жыцця. Палітыкі, а не рэлігіі ці культуры. Гэта перыяд бязлітаснай палітычнай барацьбы за дзяржаўнасць Польшчы, Літвы, Украіны і Беларусі, распаду Расейскай імперыі і фармаванне новых імперскіх утварэнняў: Савецкага Саюза і ІІ Рэчы Паспалітай. Усякая дзейнасць пры такой барацьбе можа кваліфікавацца як палітычная. Пры такіх умовах прапаведаваць рэлігійныя ідэі, каб яны трапілі на якасную глебу і былі зразумелымі, можна было толькі на грунце сваёй нацыянальнай культуры, што магла гарантаваць свая дзяржаўная незалежнасць, чаго і дамагаўся кс. Адам Станкевіч. З другога боку, калі гаварыць пра палітычную дзейнасць кс. Адама Станкевіча, дык заўсёды трэба мець на ўвазе, што яго палітыка – гэта не барацьба за ўладу падзеля ўлады, пры якой усе сродкі барацьбы могуць быць апраўданымі, – гэта барацьба ў абарону сваіх нацыянальных каштоўнасцей, якія вынішчаліся альбо прысвойваліся іншымі народамі, гэта барацьба супраць падняволення беларусаў іншымі народамі, барацьба за боскую і гістарычную справядлівасць, барацьба за свайго Бога і свой шлях да Яго. Бо толькі падняволеныя народы, як тыя рабы, не маюць права на сваю гісторыю, культуру, мову і веру. І толькі ў сваёй дзяржаве можна правільна скарыстаць і рэалізаваць Богам дадзены народу патэнцыял у выкананні сваёй гістарычнай місіі. У гэтым сэнсе больш дакладней было б гаварыць пра культурную грамадскадзяржаўную дзейнасць кс. Адама Станкевіча. Ва ўсякім разе трэба кіравацца мэтамі і задачамі такой дзейнасці і метадай іх дасягнення.

[839] ЦНБНАНБ. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 4. – В. 1. – Спр. 48. – Арк. 4–5.

## 2.8. КС. УЛАДЗІСЛАЎ ТАЛОЧКА – ВІЛЕНСКІ ФРАНЦІШАК АСІЗСКІ

Праз увесь міжваенны час 1921–1939 гг. кс. У. Талочка заставаўся ксяндзом-спаведнікам у розных касцёлах Вільні. Чаму так атрымалася – было зразумела: ксяндзу, які некалі будзіў беларускі рух у Вільні, даваць парафію не адважыўся нават біскуп а. Ю. Матулевіч. (Дарэчы, не меў сваёй парафіі і кс. А. Станкевіч). Так і атрымалася, што ў спісе духавенства кс. У. Талочка фігураваў як святар «без занятку» нароўні з хворымі і пенсіянерамі. Службы Божыя правіў звычайна ў Бернардынскім касцёле і там жа спавядаў як запрошаны святар[840].

Пазней кс. У. Талочка пра сябе напіша: «У наступныя гады стаяў на абочыне, чыннага ўдзелу ў беларускім руху ня браў. Ня будучы ў цэлым палітыкам, заўсёды цікавіўся дзеямі палітычных ідэяў, а ў большасці лёсам беларускай ідэі ў нас. Дзеля гэтага часам хапаўся за пяро, каб абараняць беларускі люд перад прагавітасцю ворагаў, якія хацелі пазбавіць яго месца пад сонцам. Ба! Нават самога імя (Белапольска!)»[841].

Каб адказаць на пытанне: «чаму стаяў на абочыне?» (хаця вельмі спрэчнае сцвярджэнне), трэба добра ведаць кс. У. Талочку і яго публіцыстыку. Кс. У. Талочка ніколі не быў аматарам шумных кампаній і працэсаў, заўсёды стараўся быць на людзях непрыкметным і незаўважаным, але калі ўжо пісаў, дык пісаў з такой упэўненасцю і перакананасцю, што нельга было не верыць напісанаму ім. Паводле сваіх поглядаў кс. У. Талочка быў перакананым краёўцам і стаяў бліжэй да кансерватыўнага лагеру; лічыў, што дзейнасць групы святароў на чале з кс. А. Станкевічам і кс. В. Гадлеўскім (ксяндзы В. Шутовіч, М. Пятроўскі, Я. Рэшаць, Я. Семашкевіч, Ф. Рамейка, К. Стаповіч і інш.) з нагоды беларусізацыі рэлігійнага жыцця з'яўляецца паспешлівай, залішне нацыянальнай і нават крайняй, што можа прывесці да адваротных вынікаў: народ, які не сфармаваны ў нацыю, не зразумее такой дзейнасці[842]. Адна з першых публікацый кс. У. Талочкі, якая сутыкнула яго з ксяндзамі-беларусамі, – гэта была яго рэфлексія на артыкул «Беларусам патрэбны касьцёл у Вільні», у якім кс. К. Стаповіч выклаў аргументаваныя факты такой патрэбы[843]. Кс. У. Талочка, які яшчэ нядаўна сам ініцыяваў такія патрабаванні, заявіў, што такі касцёл пакуль што не патрэбны: «найперш трэба стварыць тып свядомага беларуса-каталіка, які адчуваў бы жывую патрэбу ў малітвах на роднай мове, і ў Вільні

[840] Гарошка, Леў. Айцец Уладыслаў Талочка / Леў Гарошка // Божым шляхам. – 1955. – № 66–67. – С. 15.

[841] Sołodych Adam. Pro doma sua // Przegląd Wileński. – 1923. – № 19. – 11 pazdęrnika. – S. 7.

[842] Трацяк, Янка. Уладзіслаў Талочка – жыццё і творчасць / Янка Трацяк // Гістарычны альманах. – 2005. – № 10. – С. 134–144.

[843] Ko-st. Biełarusam patrebny kaścioł u Wilni // Krynica. – 1923. – №. 12. – 7 kastryčnika.– S. 4.

малая колькасць беларусаў-католікаў…» і заклікаў да палітычнага рэалізму[844]. Літаральна ў наступным нумары часопіса кс. К. Стаповіч зрабіў даволі рэзкія заўвагі да артыкула кс. У. Талочкі, маўляў, пры чым тут палітычны рэалізм – касцёл не павінен быць на ўслугах палітыкі, аспрэчыў «не выраблены тып беларуса-католіка» і давёў, што касцёл жадаюць самі беларусы, а аргументацыю кс. Талочкі назваў здрадлівай і шкоднай[845].

Тут кс. Стаповіч і сапраўды можа меў больш рацыі, бо як можна вырабіць тып беларуса-католіка без беларускага касцёла?

У гэтым жа нумары друкуецца і артыкул кс. У. Талочка «Pro doma sua», у якім ён пісаў: «У наступныя гады стаяў на абочыне…» і прыводзіць канкрэтныя прыклады таго, што было ім прапанавана ў апошнія гады ў якасці рэвізіі і карэктуры шэрагу пунктаў беларускіх праграм. Так у артыкулах «Праблемы Заходняй Беларусі» («Przegląd Wileński», 1923, № 6), «Усход ці Захад» («Przegląd Wileński», 1923, № 7) ён падаваў канкрэтныя планы развіцця Заходняй Беларусі з арыентацыяй на адзінства з заходняй цывілізацыяй, да якой яна належыць тэрытарыяльна і веравызнаўча, але беларускія актывісты гэта ўспрынялі як правакацыю. Не прыслухаліся і да яго парад у арганізацыі беларускага душпастырства і ўвогуле, глядзяць на яго як на кар'ерыста і здрадніка. У сувязі з гэтым кс. У. Талочка пісаў, што такія адносіны беларускіх нацыяналістаў на яго пробы паглыбіць ідэалогіі беларускага каталіцтва змушаюць яго зрабіць вывады і адыйсці ўбок[846].

На такую заяву кс. У. Талочкі з жалем адклікнуўся кс. І. Бобіч: «Што гэта будзе, калі самыя лепшыя адзінкі пачнуць адыходзіць убок, – пісаў ён у лісце ад 2.XII.1923 г. да кс. У. Талочкі. – Я разумею, што кс. Уладыслаў мае абсалютную рацыю. Але ў такім выпадку маюць рацыю і Станкевічы, Шутовічы і г. д., што справу манапалізуюць для сябе, бо іншыя, лепшыя адыходзяць убок!» [847].

Складваецца ўражанне, што кс. У. Талочка ў гэты час адчуў сваю непатрэбу. Мянялася сацыякультурная сітуацыя, прыйшлі новыя людзі, лідары. Яго заклапочанасць у паглыбленні беларускага каталіцтва была свядомым уяўленнем у паглыбленні каталіцкай веры, у той жа час, калі іншых больш хваляваў факт таго, што ўвогуле могуць страціцца такія з'явы і ўяўленні, якія характарызуюць мянтальныя і светапоглядныя асновы народу як народу беларускага.

Але і надалей кс. У. Талочка пяра свайго не пакідаў. Яскрава праявіў сябе як таленавіты публіцыст: хвалявала яго ўсё, што мела нейкае дачыненне да беларускага народу: гісторыя, культура, палітыка. У сярэдзіне 1920-х гадоў кс. У. Талочка зноў разгарнуў шырокую дыскусію на ста-

---

[844] Sołodych Adam. W imia realizmu politycznego // Przegląd Wileński. – 1923. – № 18. – 28 pazdęrnika. – S. 7.

[845] K. S. O realizmie słow kilkoho // Przegląd Wileński. – 1923. – № 19. – 11 listopada. – S. 6.

[846] Sołodych Adam. Pro doma sua // Przegląd Wileński. – 1923. – № 19. – 11 pazdęrnika. – S. 7.

[847] ЦНБНАНБ. Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі. – Ф. 23. – В. 1. – Спр. 792. – Арк. 14.

ронках «Przeglądu Wileńskiego» на тэму аб заданнях беларускага каталіцкага клеру[848]. Больш увагі, згодна кс. Талочку, павінна надавацца фундаменту хрысціянска-каталіцкаму праз шырокую культурна-асветніцкую працу, чым нацыянальнаму. Увогуле, крайне непрыхільна адносіўся да паланізацыйнай палітыкі праз касцёл, вёў бескампрамісную барацьбу супраць дэнацыяналізацыі беларускага народу. Гэта і стала нагодай таго, што кіраўніцтвам Віленскай архідыяцэзіі ў міжваенны час ён не быў прызначаны да сталай душпастырскай працы.

Калі бліжэй знаёмімся з карэспандэнцыяй кс. У. Талочкі, складваецца ўражанне пра яго як пра чалавека, які ведаў месца кожнай з'яве, рэчы, прадмету. Такія людзі звычайна не памыляюцца, а калі і робяць памылкі, дык нязначныя і вельмі рэдка[849]. Быў ён не толькі абаронцам праўды, але і эталонам сумленнасці; яго крытычны рацыяналізм і прыродны інтэлект насцярожваў касцёльныя ўлады і палохаў уладу свецкую. Несумненна, што «Кс. Ул. Талочка быў чалавекам глыбокай еўрапейскай культуры і, працуючы амаль цэлае жыццё пяром, пакінуў па сабе духоўную спадчыну, пранікнутую наскрозь дзіўным павевам глыбокае гуманнасці і маральнае чысціні… Энцыклапедычная веда давала нябожчыку магчымасць выкарыстаць для сваёй працы еўрапейскія навукова-даследныя часопісы, у якіх яго працам заўсёды знаходзілася гасціннае прыймо»[850]. Атрымаўшы даволі-такі высокі ўзровень тэалагічнай адукацыі, У. Талочка добра валодаў класічнымі і славянскімі мовамі, ведаў літоўскую, нямецкую, італьянскую, французскую і іншыя мовы. Апрача гэтага, добра арыентаваўся не толькі ў біблейскіх тэкстах і рэлігійнай літаратуры, але і ў еўрапейскай філасофіі, гісторыі, культуры і мастацкай літаратуры. Цяжка знайсці тую праблему, тэму, якую не кранаў бы гэты, сапраўды энцыклапедычных ведаў святар. Яго публіцыстычныя і навуковыя артыкулы можна было сустрэць амаль што ўва ўсіх віленскіх выданнях да 1921 г., а пасля – якія выходзілі ў II Рэчы Паспалітай. Пісаў пад сваім прозвішчам і пад рознымі псеўданімамі і крыптонімамі, сярод іх: Adam Sаładuch (Адам Саладух, Ad. S.), P. Kantryba (Пётр Кантрыба), Archiwista, Aktivus, Observator, O. Erka, as, Gardiner, Gvarneri і іншыя. Дарэчы, разгадка аднаго з псеўданімаў кс. У. Талочкі – Адам Саладух – прасочваецца ў шлюбным запісу яго бацькоў. (Гл. дадатак 12.)

У адным лісце беларускі каталіцкі святар Язэп Германовіч (літ. псеўданім Вінцук Адважны) назваў святароў А. Станкевіча і У. Талочку «на-

[848] Obserwator. O zadania katolickiego kleru bialoruskiego // Przegląd Wileński. – 1924. – № 21; 1925. – № 1.

[849] Трацяк, І. І. Айцец Уладзіслаў Талочка – беларускі грамадскі дзеяч, гісторык, публіцыст / І. І. Трацяк // Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа : зб. навук. арт. У 2 ч. Ч. 2 / ГрДУ імя Я. Купалы ; рэдкал.: Э. С. Ярмусік [і інш.]. – Гродна : ГрДУ, 2009. – С. 20–26.

[850] Дубовіч, Андрэй. Ул. Талочка (1887–1942) / Андрэй Дубовіч // Беларускі голас. – 1942. – № 39. – С. 4.

шымі духоўнымі лідэрамі» і меў рацыю. Нездарма ж і Віленскі ваявода выдаў загад ад 15 снежня 1938 г. аб высяленні аднаго і другога з Вільні без ніякай матывацыі прычыны. Хаця беларускай грамадскасці гэтыя прычыны былі добра вядомыя. Беларускі каталіцкі святар В. Шутовіч пісаў свайму калегу кс. Я. Тарасевічу: «Боль свайго выгнання Талочка адчувае дзякуючы архібіскупу. Факт ёсць фактам, што бп. Яблжыкоўскі шапнуў ваяводзе, каб той выкінуў з Вільні Талочку. Калі гэта сталася і а. Адам Станкевіч прыйшоў да архібіскупа ў справе высялення а. Талочкі, то той, нявінна зрабіўшы міну, ледзь не расплакаўся над няшчасцем а. Талочкі» (З ліста кс. В. Шутовіча да кс. Я. Тарасевіча ад 18.07.1839 г.)[851].

Дарэчы тут напомніць, што яшчэ раней (1927 г.) Віленскі арцыбіскуп забараніў кс. У. Талочку супрацоўнітва ў газеце «Przeglad Wilenski». Рэдакцыя выказала жаль з гэтай нагоды, бо без кс. У. Талочкі газета не здолее праўдзіва асвятляць праблемы каталіцкага касцёла[852]. Але якраз праўдзівага асвятлення праблем каталіцкага касцёла больш за ўсё і баяўся сам архібіскуп, асабліва з боку свядомых беларусаў і такіх, як кс. У. Талочка.

Па-рознаму адгукнуўся віленскі друк на падзею дэпартацыі з Вільні беларускіх святароў, асабліва ў дачыненні да кс. У. Талочкі. Кс. В. Гадлеўскі ў сваёй газеце даў кароткую анатацыю: «У прэсавым паведамленні кс. Ул. Талочка быў залічаны да беларускіх дзеячоў. Аднак ужо на другі дзень польская віленская прэса («Kurjer Wileński») адзначыла, што залічэнне кс. У. Талочкі да беларускіх дзеячоў беспадстаўна, бо кс. У. Талочка не прымаў ніякага ўдзелу ў палітычным жыцьці наагул і ў беларускім у асобнасьці, дык паводле «Kurjera Wileńskego» прычыны высяленьня кс. У. Талочкі няясныя. Другая польская газэта «Słowa» зьмясьціла салідную абарону кс. У. Талочку, аднак без рэзультату. Кс. У. Талочка выехаў у Беласток»[853].

Станоўчую характарыстыку кс. У. Талочку даваў прапольскі «Кур'ер Віленскі». У прыватнасці, ён пісаў, што кс. У. Талочка з'яўляецца папулярным спаведнікам у віленскай інтэлігенцыі, якая каля 20 гадоў ціснулася да яго канфесіянала ў касцёле Св. Стэфана, ці ў базыліцы архідыяцэзальнай, ці ў бернардзінскім касцёле як да ўзорнага каплана. Яго ціхі, сціплы і атэстычны лад жыцця пры высокім узроўні адукацыі і інтэлекту рабіў з яго постаць выключную[854]. А яшчэ абвінавачвалі У. Талочку ня толькі ў беларускасці, але і «літваманіі» і нават у «польскосьці». Факты гэтыя гавораць пра тое, што кс. У. Талочка быў аўтарытэтнай асобай сярод передавой краёвай віленскай інтэлігенцыі. Слушна было сказана пра яго ў беларускім эміграцыйным друку: «У службе святой праўдзе, у сваёй дабрадзейнай місіі гаючага пасярэдніцтва розных міжлюдскіх суадносін

[851] Szchutowič W. Ęs. Viktar Szchutowič ab ks. Ul. Taloczku // Šnič. – 1964. – № 77. – S. 3.
[852] Марны трыумф // Сялянская Ніва. – 1927. – № 74. – 12 кастрычніка. – С. 3.
[853] Высяленьні з Вільні // Беларускі Фронт. – 1939. – № 1. – 1 студзеня. – С. 3.
[854] Rola kapłana katolieckego // Kurjer Wilenski. – 1938. – № 355. – 28 grudnia. – S. 4.

ён не знаў граніц, ні нацыянальных, ні веравызнанневых, ні іерархічна-дастойніцкіх, ні якіх іншых. У сэнсе аб'ектыўнага гаючага пасярэдніцтва шматнацыянальная Вільня без кс. Талочкі – гэта, калі можна прыраўняць, Асыж без св. «небаракі» Францішка, ці нешта падобнае»[855].

Айцец Л. Гарошка пісаў, што «…крапатлівая працавітасьць а. Уладыслава, ягоная ціхая й ахвярная праца для беларускага рэлігійнага жыцьця й глыбокая набожнасьць былі сапраўды ўзорнымі»[856].

На пытанне, чаму Талочка не гаворыць па-беларуску, кс. В. Шутовіч даваў такі адказ: «Калі ў нас з'явіліся Станкевічы, Шутовічы, Рэшацi, Гадлеўскія ды многа іншых, тады а. Талочка зразумеў, што для беларусаў хопіць ужо ксяндзоў, гаворачых па-беларуску. Ён тады для сябе выбраў крыху іншую дарогу: працаваць для беларускага народу, але гаворачы па-польску… Трэба было некаму ўзяцца за справу інфармаваньня польскую публічную апінію аб беларусах. У гэтым многа праўды...»[857].

З прыходам савецкай улады (1939 г.) кс. У. Талочка неўзабаве быў арыштаваны. Савецкая турма адняла здароўе настолькі, што яно так і не палепшылася пасля вызвалення. Яго калега, у сувязі з яго заўчаснай смерцю, пазней напіша: «Доўгія гады змагання за ідэалы Хрыста і справядлівасць міжнацыянальную, а ў канкрэтнасці за інтарэсы беларускага народу, прывялі яго да поўнае стабілізацыі свае народнае самаакрэсленасці, і ўміраючы палажыў канец усім сумнівам аб сваей нацыянальнасці, пішучы собскай рукой у тэстаменце: «Выдаў на свет мяне беларускі народ і ўміраю як яго верны сын-беларус»»[858].

Памёр кс. У. Талочка 13 лістапада 1942 г. Пахаваны на могілках Роса ў Вільні.

## 2.9. СПРОБА АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКАЙ КАТАЛІЦКАЙ АКЦЫІ. КСЁНДЗ П. ТАТАРЫНОВІЧ. КСЁНДЗ С. ГЛЯКОЎСКІ

Каталіцкая акцыя як евангелістычны рух свецкіх католікаў пачынала фармавацца ў 1870-х гг. Ідэя аднаўлення ў Хрысце індывідуальнага, сямейнага і грамадскага жыцця праходзіла праз усе энцыклікі папаў рымскіх канца XIX – першай трэці XX ст.

---

[855] С. Г. Жменька ўспамінаў аб Сьв. П. Кс. Уладыславе Талочку з нагоды 10-тых угодкаў яго сьмерці // Śnič. – 1953. – № 24. – С. 3.

[856] Гарошка, Леў, айцец. Праз навальніцы й нягоды / Леў Гарошка // Запісы. – New York : Беларускі інстытут навукі й мастацтва, 1999. – № 24 [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: http://belarus8.tripod.com/ZapisyBINIM/24.03.htm

[857] Szchutowič W. Ęs. Viktar Szchutowič ab ks. Ul. Taloczku // Śnič. – 1964. – № 77. – S. 3.

[858] С. Г. Жменька ўспамінаў аб Сьв. П. Кс. Уладыславу Талочку з нагоды 10-тых угодкаў яго сьмерці // Śnič. – 1953. – № 24. – С. 4.

Так, Папеж Піус X (1903–1914 г.), актывізуючы душпастырскую дзейнасць паводле прынцыпу «усё аднавіць у Хрысце», стаў праводзіць рэформы з мэтай паглыбіць рэлігійнасць сярод капланаў. Першае, што ім было зроблена, – гэта аднаўленне грыгарыянскіх спеваў. Другое – заснаванне Каталіцкай акцыі.

На першым нефармальным з'ездзе Епіскапату ў Варшаве ў 1917 г. разглядаліся пытанні аб неабходнасці ўдасканальвання рэлігійнага жыцця. На чарговым з'ездзе Епіскапату ў Гнёзна 26–30.08.1919 г. архібіскуп Дальбор праінфармаваў аб стварэнні новай каталіцкай арганізацыі для моладзі, для рабочых і жанчын пад назовам «Каталіцкая Ліга». 1.04.1920 г. быў зацверджаны статут арганізацыі. У статуце падкрэслівалася, што Каталіцкая Ліга з'яўляецца апалітычнай арганізацыяй, сябры якой могуць свабодна належыць да розных палітычных арганізацый, дзейнасць якіх не супярэчыць дагматам Каталіцкага Касцёла. Галоўнымі мэтамі Каталіцкай Лігі стала правядзенне Каталіцкай акцыі – менавіта так Папа Рымскі Піус XI акрэсліў патрэбу актывізацыі душпастырскіх абавязкаў і хрысціянскага жыцця ў грамадстве. Мэты і задачы Каталіцкай акцыі поўнасцю былі сфармаваны ў спецыяльнай энцыкліцы Папы Рымскага Піуса XI «Ubi arcano Dei» (23.12.1922 г.): актывізацыя капланскага духу сярод клеру і ажыўленне пастырскай працы з вернікамі, паглыбленне рэлігійнай свядомасці, удасканальванне казнадзейства, развіццё каталіцкага школьніцтва і друку, стварэнне каталіцкіх грамадскіх культурна-асветных, філантропных, міласэрных арганізацый сярод вернікаў усіх узростаў. Арганізацыйна Каталіцкая акцыя мелася складацца з чатырох таварыстваў мужчынскага, жаночага, моладзі мужчынскага і жаночага полу[859].

Каталіцкая акцыя – гэта непасрэдны ўдзел вернікаў пад кіраўніцтвам духавенства ў ерархічным апостальстве падзеля абуджэння каталіцкага жыцця ў сям'і і грамадстве. «Каталіцкая акцыя, – пісала «Хрысьціянская Думка», – гэта апостальства свецкіх людзей у кірунку лепшага пазнання Бога, асноваў рэлігіі любові да Бога і людзей і збаўлення вечнага»[860]. Патрэба ў такой дзейнасці выцякала з відавочнага ўпадку важнасці асноваў каталіцкага вучэння ў грамадстве, хрысціянскай этыкі і маралі, што было вынікам шматгадовага праследу Каталіцкага Касцёла і духавенства ў царскай Расіі, цяжкасцю працы ў час ваенна-рэвалюцыйнага становішча і барацьбы за незалежнасць Польшчы – усе гэтыя фактары моцна ангажавалі Каталіцкі Касцёл у сферу палітычную. У сувязі з такім становішчам, Каталіцкая акцыя павінна была праводзіцца па-за палітычнымі мэтамі і

---

[859] Wilk Stanisław, ks. SDB. Episkopat Kościoła katolickiego w Polsce w latach 1918–1939… – S. 246, 248; Ks. Bolesław Kumor. Historia Kościoła. Czasy współczesne 1914–1992. Kościoł Katolicki w okresie systemów totalitarnych I odnowy soborowej. Zniewolenie kościołow wschodnich, sekularyzacja i rozdrobnienie kościołow i wspólnot protestanckich. – Część 8. – Lublin : Redakcja Wydawnictw KUL, 1996. – S. 90.

[860] Aniśko D. Katalickaja Akcyja // Chryścijanskaja Dumka. – 1932. – № 4. – S. 1.

партыямі, менавіта да гэтага заклікаў Папа Рымскі Піус XI у энцыкліцы «Ubi arcano Dei».

Праблемам місійнай дзейнасці і Каталіцкай акцыі ў Віленскай архідыяцэзіі прысвячаўся місійны тыдзень, на працягу якога духавенствам разглядаліся адпаведныя пытанні. Місійны тыдзень праводзілі прадстаўнікі духоўнай улады, выкладчыкі духоўнай семінарыі, дэканы і непасрэдна самі святары. Тэарэтычныя і практычныя праблемы арганізацыі місійнай дзейнасці былі акрэслены ў артыкуле дасведчанага казнадзея і тэолага доктара, дэкана кс. І. Бобіча. У прыватнасці, гутарка ішла пра тое, як лепш праводзіць каталіцкую акцыю сярод цёмнага і абалваненага праваслаўем насельніцтва, на якім грунце павінна трымацца адзінства касцёла, і якая тэматыка казанняў найбольш будзе адпавядаць патрэбам місійна-каталіцкай акцыі[861].

Здавалася, патрэбная і зразумелая ідэя для выканання павінна была падняць дух і аўтарытэт каталіцтва ў краі, з'яднаць католікаў у адну супольнасць незалежна ад нацыянальных і дзяржаўна-палітычных поглядаў. Але так было не заўсёды. Каталіцкія акцыі, якія праводзілі святары, прадстаўнікі Польскай народна-дэмакратычнай партыі (эндыкі) у Заходняй Беларусі, часта з'яўляліся актыўнымі дзейнікамі польскіх нацыялістычных арганізацый і палітычных акцый. Так парафіяне з Клюшчан пісалі, што іх пробашч арганізаваў «Stowažyšenie Młodzieży Polskiej» («Таварыства польскай моладзі»), сабраў бібліятэку з польскай патрыятычнай літаратуры і распаўсюджвае польска-шавіністычную газету «Naš Pšyjciel» – і ўсё гэта называе каталіцкай акцыяй[862].

І так, дарэчы, было не толькі ў Клюшчанах – так было паўсюль, дзе працавалі ксяндзы-палякі, а працавалі яны ўсюды. «Беларуская крыніца» пісала: «У нас жа Каталіцкай Акцыі няма, бо над яе пляцоўкай праводзіцца партыйна-эндэцкага характару акцыя польскага нацыяналізму, які імкнецца праглынуць беларусаў і каталікоў»[863].

Той факт, што Каталіцкую акцыю, як акцыю чыста рэлігійна-апостальскую і апалітычную ў Віленскім архібіскупстве падмянілі на акцыю польскага нацыяналізму – мала каго здзіўляла. Уражвала іншае – тое, што такая падмена адбылася паводле загаду рымска-каталіцкага арцыбіскупа кс. Р. Ялбжыкоўскага. Менавіта ён прыняў у якасці формы Каталіцкай акцыі дзейнасць наскрозь польска-шавіністычнай эндэцкай пляцоўкі – арганізацыю «Stowažyšenie Młodzieży Polskiej». Як пісалі ў той час газеты: «... запрог у эндэцкі воз польска-нацыяналістычнага «Stowažyšenie

[861] Ks. Bobicz Ildefons. Tydzień misyjny // Wiedamości Archidiecezalne Wilenskie : Rocz. druhi. – 1928. – S. 25–26, 39–41.

[862] Z-aski. Katalickaja Akcyja ci polskaja palityka? // Bielaruskaja Krynica. – 1931. – № 28. – 20 wieraśnia. – S. 3.

[863] Akcija Katolicka ci akcyja polskaha nacyjanalismu? // Bielaruskaja Krynica. – 1933. – № 3. – 15 studzienia. – S. 2.

Młodzieży Polskiej» усё каталіцкае духавенства і наказаў яму працаваць там і толькі там»[864]. Ян Пазьняк пісаў, што праца ў «Stowažyšenie Młodzieży Polskiej» вядзецца выключна на польскай мове: чытаюцца рэфераты ў моцным духу польскага нацыяналізму, спяваюць толькі польскія песні і распаўсюджваецца газета «Naš Pršyjaciel», змест якой напоўнены нянавісцю да ўсяго, што не з'яўляецца польскім, асабліва да беларускага і літоўскага адраджэння. Больш таго, арцыбіскупам быў створаны цэлы камітэт, куды ўваходзілі інспектары, выключна ксяндзы-палякі, задачай якіх была дапамога ў арганізацыі і кантроль працы «Stowažyšenie Młodzieży Polskiej» альбо такой каталіцкай акцыі[865]. Пры гэтым розныя іншыя культурна-каталіцкія суполкі з арыентацыяй на іншыя (няпольскія) культурныя каштоўнасці строга забараняліся. І «…гэтая каталіцкая быццам акцыя праводзіцца польскімі ксяндзамі не сярод «шляхты», паноў-абшарнікаў, або польскага чынавенства, але выключна сярод народнай гушчы, сярод беларусаў і літоўцаў», – пісаў Я. Пазьняк[866].

Цяжка было разумець такую «каталіцкую акцыю» ў парафіях, якія на 90 адсоткаў складаліся з беларусаў. Але зразумець можна было – толькі не ў рэчышчы хрысціянскім ці каталіцкім, а ў палітычным і паланізацыйным.

Тое, што ад такой акцыі карысці для Польшчы было няшмат, а непатрэбнага і кампраметуючага каталіцкае духавенства шуму, – было аж залішне (чаго толькі варта была адна «Беларуская Крыніца» сваімі выкрывальнымі артыкуламі), стала даходзіць і да духоўных уладаў. Янка Пазняк пісаў, што апалячванне беларускай моладзі праз «Stowažyšenie Młodzieży Polskiej» «...для Каталіцкага Касцёла прынесла вялікую шкоду: беларуская моладзь пачала абходзіцца без уплываў духавенства і перастала адчуваць патрэбу касцёльнай навукі...»[867].

Вось тут варта было прыгадаць дзясяткі ксяндзоў-палякаў, якія дакаралі беларусаў за іх, быццам бы, захапленні сацыялістычнымі і камуністычнымі ідэалогіямі. А тое, што такія ксяндзы, праводзячы адкрытую паланізацыйную працу пад выглядам каталіцкай працы адбілі ўсякую ахвоту да Касцёла, варта было б абвінаваціць ксяндзоў-беларусаў.

Пазней духоўныя ўлады вырашылі прыхаваць польскі нацыяналізм каталіцкай акцыі пераіменаваннем арганізацыі на «Stowažyšenie Młodzieży Katolickiej», але ні ідэі, ні змест, ні мэты, ні інспектары акцыі – нічога не змянілася.

А што да сапраўднай Каталіцкай акцыі, то мела і яна пэўны поспех сярод беларускіх католікаў. Адзін з удзельнікаў такога мерапрыемства

---

[864] P-k. Jašče ab akcyi polskaha nacyjanalismu // Bielaruskaja Krynica. – 1933. – № 9. – 26 lutaha. – S. 2.

[865] Там жа.

[866] Там жа.

[867] P-k. Apalačywańnie biełarusau pad widam Katalickaj Akcyi // Bielaruskaja Krynica. – 1934. – № 30. – 10 žniunia. – S. 2.

паведамляў аб Саюзе каталіцкай моладзі ў Б. (Баранавічах), які ў 1926 г. дасягнуў найбольшага росквіту (150 чалавек). Кіраўніком і настаўнікам беларускай каталіцкай моладзі быў кс. N (кс. Пётр Татарыновіч). Адна з імпрэз Саюзу адбывалася ў чэрвені 1926 г. у Гаі (у двух вярстах ад мястэчка). Напачатку кс. N. паведаміў пра тое, што моладзь м. Б. разумее важнасць такіх сустрэч і колькасць сяброў паступова расце, адзначыў сістэматычную і сталую працу бібліятэкі Саюзу, на ліку якой 400 тамоў кніг і гадавыя падпіскі газет. Пасля акрэсліў мэту Саюзу: пад сцягам Бога і Бацькаўшчыны стаць добрым каталіком, грамадзянінам, разумным і дзейным сынам Касцёла і Бацькаўшчыны: «праз супольныя набажэнствы, рэкалекцыі, чытанне кніжак, гутаркі, адчыты, экскурсіі, песні і забавы мы стараліся паглыбіць любоў і прывязанасць да Бога і да так зразумелай Бацькаўшчыны… Не забываліся так жа разьвіваць узаемную пашану прапананьня і братэрскія адносіны ў сужыцьці сяброў розных народнасьцей… што да зразуменьня добрых адносінаў і грамадзкіх абавязкаў быў той здаровы, не вылучаючы міласьці ўласнага народу, па-каталіцку зразумелы інтэрнацыяналізм…» [868].

У 1930 г. быў створаны Беларуска-Літоўскі камітэт дзеля арганізацыі Каталіцкай акцыі ў Віленскай архідыяцэзіі, які 11.02.1930 г. падаў нунцыю ў Варшаве мемарыял у сувязі з недазволам духоўных уладаў склікаць Камітэт Беларуска-Літоўскага з'езду ў справе арганізацыі Каталіцкай акцыі. Нагодай для правядзення такога Беларуска-Літоўскага з'езду стаў той факт, што Каталіцкая акцыя ў дыяцэзіі праходзіла выключна на польскай мове. Патрэбны дазвол арганізатары атрымалі, і на 4.05.1930 г. быў скліканы Беларуска-літоўскі з'езд[869]. Гэты з'езд увайшоў у гісторыю як адзін з эпізодаў цеснага супрацоўніцтва за свае нацыянальныя правы католікаўлетувісаў Усходняй Літвы і католікаў-беларусаў Заходняй Беларусі.

Захаваліся пратаколы пасяджэння і іншыя дакументы Беларуска-Літоўскага камітэту Каталіцкай акцыі. Так, у запрашэнні на з'езд гаварылася: «Грамадзянін (…) Беларуска-Літоўскі Камітэт дзеля арганізацыі З'езду католікаў Беларусаў і Літоўцаў, атрымаўшы дазвол ад уладаў (Віленскі Урад Ваяводскі, Аддзел Бясьпекі, ад 12.04.1930, 4.05.) гэтым просіць Вас прыбыць на з'езд, які адбудзецца ў Вільні ў залі Гандлёва-Прамысловага Клюбу (вул. Міцкевіча, 33-а) 4 траўня 1930 г. а гадзіне 11 дня»[870]. Парадак дня быў наступны: 1) набажэнства ў касьцёле Сьв. Мікалая, 2) адкрыццё з'езду і прывітанні, 3) рэфераты ад беларусаў і літоўцаў на тэму: «Палажэньне, патрэбы і жаданьні католікаў Беларусаў і Літоўцаў у краю ў на-

---

[868] Z. P. Ziarniatki z rodnaje junackaje niwy (uspamin z pracy i żyćcia Sajuzu katalickaj moładzi u Biełarusi) // Chryścianskaja Dumka. – 1929. – № 1. – S. 2–8.

[869] Stankievič Ad. Biełaruski chryścijanski ruch (histaryčny narys). – Vilnia, 1939. – S. 226.

[870] Пратаколы і другія матэрыялы з'езду беларусаў і літоўцаў у Вільні : БДАМЛіМ. – Ф. 3. – В. 1. – Спр. 107. – Арк. 68.

шых часах», 4) даклады з месцаў, 5) рэзалюцыі, 6) выбары камітэту для Каталіцкай акцыі католікаў Беларусаў і Літоўцаў. У аргкамітэт уваходзілі: ад беларусаў – др. Баляслаў Грабінскі (старшыня аргкамітэту) і Мар'ян Пяцюкевіч; ад літоўцаў – Антон Юхневічус (сакратар) і К. Сташыс[871]. У прэзідыум з'езду былі абраны: ганаровы старшыня з'езду – дыр. Язэп Кайрукшціс, сябры аргкамітэту (п. К. Сташыс і др. Б. Грабінскі – старшыні, А. Юхневічус і М. Пяцюкевіч – сакратары) і чатыры сябры прэзідыуму – п. Дымша і п. Вальдэмарас (ад літоўцаў); п. Масла і п. Янкоўскі (ад беларусаў). Ад беларусаў з'езд віталі: Ян Пазьняк – ад Беларускага нацыянальнага камітэту; Фабіян Ярэміч – ад Беларускага пасольскага клубу; Язэп Малецкі – ад беларускіх студэнтаў-католікаў; Альбін Стаповіч – ад Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры; Язэп Найдзюк – ад рэдакцыі час. «Шлях моладзі». Рэфераты зачыталі: К. Сташыс «Палажэньне літоўскіх каталікоў, іх патрэбы і імкненні ў Віленскім краі» і на такую ж тэму, толькі аб беларускіх праблемах – М. Пяцюкевіч. У выступах бралі ўдзел 25 дэлегатаў. Была прынята рэзалюцыя з 7 пунктаў, у якой была звернута ўвага на неабходнасць прывітальнай тэлеграмы ад з'езда Папу Рымскаму, што беларусаў і літоўцаў у гэтым краі бальшыня, але яны адсунуты ад каталіцкай дзейнасці палякамі, якія праводзяць тут нацыяналістычную, палітычную прапольскую акцыю (эндэцыя), што беларускія і літоўскія казанні ў касцёлах былі нагодай для перамяшчэння іх у парафіях і паніжэннем у сане, што ёсць небяспека таго, што ў хуткім часе клерыкаў літоўцаў і беларусаў не будзе увогуле, бо ў Віленскай духоўнай семінарыі іх колькасць даведзена да мінімума, што польскія ўлады імкнуцца надаць у Заходняй Беларусі і Усходняй Літве польскі характар каталіцтву[872]. У сувязі з гэтым было вырашана абраць Беларуска-Літоўскі камітэт для правядзення Каталіцкай акцыі ў Заходняй Беларусі і Усходняй Літве. У склад такога камітэту ўвайшло 6 асобаў: Язэп Кайрукшціс, Вітаўт Лягейка, Антон Юхневічус (ад летувісаў), Баляслаў Грабінскі, Мар'ян Пяцюкевіч, Фелікс Цікота (ад беларусаў). З'езд скончыўся выкананнем беларускага і літоўскага рэлігійных гімнаў[873].

Магчыма, гэты беларуска-літоўскі з'езд католікаў не прыцягнуў бы такой нашай пільнай увагі, калі б не адна акалічнасць: ініцыятарам і арганізатарам з'езду быў кс. Адам Станкевіч. Менавіта ён быў заўзятым прыхільнікам у аб'яднанні з літоўцамі ў сумеснай барацьбе супраць палітыкі паланізацыі краю. Гэта можа пацвердзіць і змест рэферату «Палажэньне, патрэбы і заданьні католікаў-беларусаў у краі ў нашых часах», які быў на з'ездзе зачытаны М. Пяцюкевічам, але яго аўтарства мусім падзяліць з кс. А. Станкевічам, у чым, зноў жа, няцяжка пераканацца. У пачатку рэфера-

[871] БДАМЛіМ. – Ф. 3. – В. 1. – Спр. 107. – Арк. 68.

[872] Літоўскі цэнтральны дзяржаўны архіў. – Ф. 281. – В. 1. – Спр. 4. – Арк. 48–49. Пратаколы і другія матэрыялы з'езду католікаў беларусаў і літоўцаў у Вільні.

[873] ЛЦДА. – Ф. 281. – В. 1. – Спр. 4. – Арк. 12–14.

ту падкрэсліваліся прычыны такога з'езду: «… у далёкай мінуўшчыне ў беларусаў і літоўцаў была адна супольная доля і нядоля. Цяпер жа, калі няма ў нас долі, дык супольная ёсьць нядоля, над якой мы з'ехаліся радзіць. Сіла ж у еднасьці». Далей ідзе вельмі моцны філасофска-тэалагічны акцэнт на прыроднай сутнасці чалавека як істоты разумнай, грамадскай і рэлігійнай. Рэлігія звязвае чалавека з Богам, з іншымі людзьмі і з наваколлем. Без гэтай сувязі чалавек не можа існаваць. Калі ў дзяцей не развіта жыццё рэлігійнае, яны мала прыносяць уцехі сваім бацькам і грамадству. Так і ў народзе, калі замала жывой рэлігіі, дык зашмат людской крыўды і няшчасцяў. Не ведае гісторыя такога краю і народу, дзе пры заняпадзе рэлігіі назіраўся б росквіт людскога жыцця. Беларусаў і літоўцаў можа выбавіць ад той злыбяды, у якой яны знаходзяцца, толькі жывая, свядомая і дзейная лучнасць душы чалавека з тварцом сваім – Богам. Нягледзячы на тое, што беларусы-каталікі з'яўляюцца народам глыбока рэлігійным, уражвае іх недасведчанасць у каталіцкай справе: яны і да сёння называюць сябе людзьмі польскай веры, бо ў рэлігійным жыцці сваім чуюць толькі польскую мову; для іх характэрны рэлігійная цемната, няведанне асноўных праўдаў каталіцкай веры і прыхільнасць да паганскіх перажыткаў. Многія ж з іх з'яўляюцца каталікамі павярхоўна, фармальна, рэлігійнасць іх, як вада вясною, сплывае і аніякага следу ў жыцці чалавека не пакідае. Нельга не ўлічваць і бальшавіцкага фактару не столькі ў палітычным, колькі ў маральна-практычным значэнні: адыходзяць ад хрысціянскай маралі і ўпадаюць у процьму амаральнасці і ўсёдазволенасці (п'янства, распуста, разбой). З'яўленне розных сектаў таксама служыць довадам таго, што ў нашым каталіцтве не ўсё ў парадку. Да поўнай характарыстыкі стану беларускага каталіцтва варта дадаць і тое, што яно павінна кіравацца ўсім жыццём чалавека, у тым ліку і жыццём палітычным, г. зн., мець сваіх прыхільнікаў у шэрагах тых партыяў, праграмы якіх не пярэчаць хрысціянскай і каталіцкай навуцы. Нясведамасць беларусаў-каталікоў часта прыводзіць да таго, што яны падтрымліваюць не адпавядаючыя Касцёлу альбо варожыя беларусам, прынцыпы, ідэі, праграмы. Да пералічаных заганаў з каталіцкага жыцця беларускага і літоўскага народаў варта аднесці і адсутнасць такой супольнай арганізацыі, якая кіравала б іх рэлігійным, культурным і грамадска-палітычным жыццём. Да галоўнай прычыны такога сумнага стану каталіцтва ў краі варта аднесці выкарыстанне ў касцёльным жыцці польскай мовы, як мовы чужой і незразумелай народу: яна выкарыстоўваецца як палітычны фактар і з'яўляецца прычынай рэлігійнай несвядомасці, цемнаты, павярхоўнасці і адыходу ад каталіцтва. У тых парафіях, дзе беларусы выступаюць за родную мову ў касцёльным жыцці, рэлігійныя ўлады – архб. Р. Ялбжыкоўскі і бп. З. Лазінскі рашуча выступаюць супраць: забараняюць беларускія казанні і набажэнствы, пераводзяць беларускіх святароў у польскія парафіі, а на іх месца прысылаюць палякаў і, увогуле, садзейнічаюць польскай палітыцы ў адмаўленні

ўсякіх нацыянальных правоў у існаванні беларусаў у краі, да прыкладу, часопіс «Przyjaciel Ludu». Каб выправіць такую сітуацыю, неабходна абраць сталы беларуска-літоўскі камітэт Каталіцкай акцыі, абавязкам якога будзе правядзенне ў жыцці беларусаў і літоўцаў асноваў каталіцкай веры і этыкі, як адзінай падставы жыцця асабістага, грамадскага і палітычнага. Задачамі супольнага камітэту павіны стаць іх захады перад рэлігійнымі ўладамі аб выкладанні беларусазнаўчых прадметаў у духоўныя семінары Вільні і Пінску, дазволу беларускамоўных казанняў і набажэнстваў, навучанні дзяцей рэлігіі на роднай мове, магчымасці душпастырскай працы сярод свайго народу, заснаванні свайго каталіцкага выдавецтва і фінансаванні Каталіцкай акцыі[874].

У архіўных матэрыялах з'езду католікаў беларусаў і літоўцаў знаходзяцца старонкі з рэферату на беларускай мове (лацініцай) на тэму «Грамадская, нацыянальная і рэлігійная свабода»; на старонках ёсць адбітак пячаткі «Кнігазбор Адама Станкевіча». Несумненна, гэтыя старонкі рэферату належаць пяру кс. А. Станкевіча і былі адрасаваныя з'езду католікаў беларусаў і літоўцаў у якасці парады да выпрацоўкі пастановаў і рэзалюцыяў з'езду. Уражваюць маштабы нацыянальнага мыслення і практычныя захады кс. А. Станкевіча паводле рэферату «Грамадская, нацыянальная і рэлігійная свабода» ў рэалізацыі праграмы нацыянальнага адраджэння: «Нацыянальнае пытаньне. 1. Разьвіваць нацыянальную культуру ўва ўсіх яе галінах. Прысвайваць багацьці сусьветнае культуры і тварыць уласныя культурныя цэннасьці. Шырокае ўчасьце ў міжнародным культурным жыцьці. 2. Сутнасьць нацыянальнага жыцьця вымагае цягласьці культурнае працы – без ніякіх перарываў і спынаў. Праца гэта мусіць быць ведзена ўсімі магчымымі спосабамі, пры ўсіх палітычных варунках і рэжымах. 3. Разьвіваць у масах нацыянальную сьведамасьць, абапёртую на пачуцьці людзкіх правоў беларусаў. Узгадоўваць нацыянальна сьведамую інтэлігенцыю з гэтай мэты, – работа сярод моладзі, асабліва ўніверсітэцкай. Прыцягваць да дзейнай працы лепшыя элементы вёскі, зьвязываць іх з культурнымі і грамадзкімі цэнтрамі места. 4. Змагацца з перажыткамі нявольніцтва ў народных масах (у яго псыхіцы). Будзіць самапашану і веру ў сябе і ўласныя сілы. Без духовай незалежнасьці не можа быць незалежнасьці палітычнай. Будзьма вольнымі і незалежнымі ў душах нашых! 5. Актывізаваць народныя масы на грунце культурна-нацыянальнай, гаспадарскай і эканамічнай самадзейнасьці»[875].

Неўзабаве, 15 мая 1930 г. было склікана першае пасяджэнне Беларуска-Літоўскага камітэту Каталіцкай акцыі, на якім правялі падзел функцыяў: старшыня – Я. Кайрукшціс, віцэ-старшыня – Б. Грабінскі, скарбнік –

[874] ЦНБНАНБ. – Ф. 4. – В. 1. – Спр. 127. – Арк. 1–9.

[875] БДАМЛіМ. – Ф. 3. – В. 1. – Спр. 148. – Арк. 3; ЛЦДА. – Ф. 281. – В. 1. – Спр. 4. – Арк. 4–8.

В. Лягейка, сакратары – М. Пецюкевіч і Ант. Юхневічус, вольны сябра – Ф. Цікота. Камітэт вырашыў: 1) даслаць дэлегацыю ў складзе старшыні Я. Кайрукшціса і віцэ-старшыні др. Б. Грабінскага да Віленскага архібіскупа Р. Ялбжыкоўскага падзеля наладжвання супрацоўніцтва ў Каталіцкай акцыі; 2) выслаць рэзалюцыі Яго Эксцэленцыі нунцыю Апостальскай Сталіцы ў Варшаве і ўсім біскупам Віленскай мітраполіі ў тлумачэнні на польскай і французскай мовах; 3) апрацаваць Статут камітэту[876]. Паводле праграмных дакументаў камітэту адзначалася, што «Камітэт мае на мэце барацьбу з атэізмам і распушчэньнем маральным праз паглыбленьне веры каталіцкай сярод Літвінаў і Беларусінаў і навогул акцыі каталіцкай згодна апошніх папежскіх энцыклік»[877].

Шматлікія артыкулы на тэмы папулярызацыі ідэй Каталіцкай акцыі друкаваліся на старонках «Хрысьціянскай Думкі». Сярод аўтараў як свецкія асобы (Д. Аніська), так і святары (А. Станкевіч, П. Татарыновіч). Так Д. Аніська ў адным з артыкулаў слушна аргументаваў патрэбу арганізацыі вечароў Каталіцкай акцыі як метаду супраціву рэлігійнай абыякавасці і ўпадку хрысціянскай маралі[878]. Кс. А. Станкевіч пісаў, што ў кірунку беларускай Каталіцкай акцыі праводзіцца праца асобамі, якія згуртаваліся вакол «Хрысьціянскай Думкі» і Беларускага каталіцкага выдавецтва, але іх працы не нададзены арганізацыйныя формы[879]. Слушныя арганізацыйныя пытанні ставіў у друку кс. А. Станкевіч у неабходнасці стварэння такой арганізацыі, якая засяродзіла б сваю дзейнасць на паглыбленні каталіцкага жыцця сярод беларусаў-каталікоў і змагла б аб’яднаць іх у планава-ідэйным кірунку: «…нам патрэбная Каталіцкая цалкам незалежная арганізацыя саміх толькі беларусаў-каталікоў. Мэтай такой арганізацыі было-б паглыбленьне каталіцкага жыцьця сярод беларусаў-каталікоў, каталіцкае ўсьведамленьне, а так-жа здабываньне такіх правоў для беларусаў-каталікоў у жыцьці касьцёльным нашага краю, якімі карыстаюцца ў нас Палякі. Арганізацыя з падобнымі мэтамі фактычна была-б Беларускай арганізаванай Каталіцкай акцыяй <…>. Гэткая каталіцкая цэнтральная арганізацыя была-б так-жа інфармацыйным органам Апостальскай Сталіцы <…>. Беларусы католікі розных палітычных поглядаў маюць права грунтавацца на грунце, пазбаўленым палітыкі, на грунце каталіцкай навукі», – сцвярджаў кс. А. Станкевіч»[880]. Такой арганізацыяй, на яго думку, мог бы быць Беларускі Каталіцкі Цэнтр. Ідэя такога цэнтру найбольш адпавядала б патрэбам Каталіцкай акцыі сярод беларусаў-католікаў. (Гл. дадатак 13.)

---

[876] БДАМЛіМ. – Ф. 3. – В. 1. – Спр. 148. – Арк. 11; ЛЦДА. – Ф. – 281. – В. 1. – Спр. 4. – Арк. 15.

[877] БДАМЛіМ. – Ф. 3. – В. 1. – Спр. 148. – Арк. 30.

[878] Aniśko D. Wiečary Katalickaja Akcyja // Chryścijanskaja Dumka. – 1932. – № 12. – S. 4–5.

[879] Biełaruski Katalicki Centr // Chryścijanskaja Dumka. – 1933. – № 2(83). – S. 1.

[880] Там жа.

Рэалізацыя ідэі Беларускага каталіцкага цэнтру, пра які гаварыў кс. А. Станкевіч, часткова ажыццяўлялася ў наступным (1934) годзе праз арганізацыю «Каталіцкай Злучнасьці Беларусаў», мэта якой была арганізацыя Каталіцкай акцыі для беларусаў у беларускай мове. Беларусы-каталікі напісалі статут арганізацыі і падалі яго на зацвярджанне ў Архідыецэзальны інстытут Каталіцкай акцыі ў Вільні. Архідыецэзальны інстытут справу гэтую пераслаў у Цэнтральны камітэт Каталіцкай акцыі Польшчы, які знаходзіўся ў Познані, адтуль справа была перададзена на разгляд праўнай Камісіі Епіскапату, якая прыняла наступнае рашэнне: «У справе «Каталіцкай Злучнасьці Беларусаў» Камісія права Епіскапату на пасяджэнні ад 3.01.1936 г. пастанавіла, што прапанаваны статут той Злучанасьці не можа быць зацьверджаны таму, што статут Канстытуцыі Акцыі Каталіцкай у Польшчы не прадугледжвае падзелу той Акцыі на аддзельныя нацыянальныя арганізацыі. Замест яе можа быць створана ў рамках адной і той жа самай Акцыі Каталіцкай секцыя нямецкая, беларуская і г. д.»[881]. Згаданая праблема была агучана на чарговым з'ездзе Польскага Епіскапату 17–18.03.1936 г. у Познані: «…Епіскапат негатыўна ацаніў магчымасці прыналежнасці Беларускай каталіцкай злучанасці да Каталіцкай Акцыі ў характары самастойнай арганізацыі. Адзінае, што было дазволена, пры згодзе ардынарыя, дык гэта стварэнне аддзельнай секцыі ў рамках парафіяльнай арганізацыі Каталіцкай Акцыі»[882].

Такое рашэнне Епіскапату здзіўляе не толькі сваёй запалітазаванасцю, але і адсутнасцю месіянерска-апостальскага духу Епіскапату – складвалася ўражанне, што для Епіскапату польскасць у каталіцтве нашмат была важнейшай, чым само каталіцтва.

«Хрысьціянская Думка» пісала, што дзеля гэтага беларусы-каталікі цяпер павінны прасіць Віленскага арцыбіскупа, каб той даў загад Архідыецэзальнаму інстытуту Каталіцкай акцыі ў Вільні арганізаваць беларускую секцыю. Такія секцыі павінны паўстаць у цэнтралі Інстытуту, дэканатах і парафіях[883].

У другой палове 1930-х гг. Беларускі касцёльны камітэт правёў шматлікія ініцыятывы ў арганізацыі самастойнай секцыі беларускай Каталіцкай акцыі. З гэтай мэтай 18 кастрычніка 1936 г. адбыўся агульны сход беларусаў-каталікоў Вільні, на якім, між іншым, было адзначана, што мэтамі Беларускай Каталіцкай акцыі з'яўляецца арганізацыя беларускага рэлігійна-грамадскага і канфесійна-выхаваўчага выдавецтва і пашырэнне хрысціянскай ідэі ў жыцці беларускага грамадства ва ўсіх галінах жыцця[884].

---

[881] Katalickaja Akcyja siarod biełarusau // Chryścijanskaja Dumka. – 1936. – № 4. – S. 1.
[882] Wilk Stanisław, ks. SDB. Episkopat Kościoła katolickiego w Polsce w latach 1918–1939. – Warszawa, 1992. – S. 264.
[883] Katalickaja Akcyja siarod biełarusau // Chryścijanskaja Dumka. – 1936. – № 4. – S. 1.
[884] Рэлігійна-беларуская дзейнасьць у беларусаў-католікаў // Беларуская Крыніца. – 1936. – № 43. – 25 кастрычніка. – С. 2.

«Хрысьціянская Думка» адзначала, што пачатак гэтай арганізацыі адбыўся з дазволу Віленскага арцыбіскупа, а праца будзе праводзіцца ў рамках агульнага для ўсёй Польшчы Статуту Акцыі Каталіцкай[885]. Паводле пратаколаў ад 18.10.1936 г. першага сходу Беларускай каталіцкай акцыі, на якім прысутнічала 32 асобы, на парадак дня было вынесена пытанне «аб арганізацыі Аддзела Мужоў Католікаў – Каталіцкай Акцыі сярод беларусаў і выбар ураду». <…> У склад ураду былі выбраны: Кс. Язэп Германовіч – старшыня, Лявон Дубейкаўскі – скарбнік, Кс. Адам Станкевіч – першы віцэ-старшыня, Кс. Станіслаў Глякоўскі – другі віцэ-старшыня, Віктар Ермалковіч – сакратар і Вацлаў Папуцэвіч – кандыдат. На сходзе Каталіцкай акцыі для беларусаў 23.11.1936 г. разглядаліся наступныя пытанні: 1) справа Касьцёла, 2) справа выдавецтва, 3) вольныя прапазыцыі. Між іншым, кс. Адам Станкевіч паведаміў, што пробашч касьцёла сьв. Ганны кс. Пуцята адмовіўся пускаць у касцёл беларусаў, матывуючы тым, што нейкая дэлегацыя яго папярэдзіла аб плануемых беларусамі пагромах у касцёле. У сувязі з гэтым пастанавілі даслаць беларускую дэлегацыю да арцыбіскупа. У справе выдавецкай вырашылі выдаваць «Хрысьціянскую Думку» два разы ў месяц, а «Пралескі», з недахопу сродкаў, вярнуць кс. Станіславу Глякоўскаму[886].

31 кастрычніка 1936 г. арцыбіскуп Р. Ялбжыкоўскі прыняў дэлегацыю Беларускай каталіцкай акцыі ў складзе інж. Л. Дубейкаўскага і кс. Я. Германовіча. Арцыбіскупам быў зацверджаны ўрад Беларускай Каталіцкай акцыі з папраўкамі, згодна з якім старшынём быў прызначаны інж. Л. Дубейкаўскі, кс. Я. Германовіч – асістэнтам, а астатнія (кс. А. Станкевіч, кс. С. Глякоўскі, В. Ермалковіч) – сябрамі[887]. Дэлегацыя адначасова звярнулася і з просьбай аддзельнага касцёла для беларусаў-католікаў Вільні. Арцыбіскуп аднёсся да просьбы прыхільна і прапанаваў касцёл св. Ганны[888].

Зразумела, што праводзіць сваю Каталіцкую акцыю належным чынам без свайго касцёла немагчыма, але такую прапанову арцыбіскупа можна было ўспрыняць як здзек, бо хто ведаў адносіны адміністрацыі касцёла св. Ганны да беларусаў, ведаў і тое, што кс. Пуцята крыжам ляжа на парозе касцёла і ніводнага беларуса і блізка не падпусціць да касцёла. Добра ведаў гэта і арцыбіскуп. І таму няма чаму дзівіцца, калі ў наступным нумары «Хрысьціянская Думка» паведамляла, што справа касцёла для беларусаў у Вільні была на добрай дарозе... «Тым часам рэктар касцёла кс. Л. Пуцята не пагадзіўся пусціць беларусаў, быццам бы нехта пагразіў, што беларусаў з гэнага касцёла выкіне сілай»[889]. Не называючы про-

[885] Biełaruskaja Katalickaja Akcyja // Chryścijanskaja Dumka. – 1936. – № 11. – S. 6.

[886] Копіі пратаколаў пасяджэнняў Беларускай каталіцкай акцыі (LCVA. Ф. 51) // Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя : Жыццяпісы. Мартыралогія. Успаміны / аўт.-уклад. Ю. Гарбінскі. – Мінск : Мюнхен, 1999. – С. 644–646.

[887] Delehacyja Bieł. Kat. Akcyji u J. E. Arcybiskupa // Chryścijanskaja Dumka. – 1936. – № 11. – S. 6.

[888] Sprawa kaścioła dla Biełarusau katalikou // Chryścijanskaja Dumka. – 1936. – № 11. – S. 6.

звішча, часопіс «Шлях Моладзі» пісаў, «...што рэктару касьцёла св. Ганны заявілі польскія нацыяналісты, што калі ён аддасьць беларусам гэты касьцёл, то яны зробяць у касьцёле на беларусаў пагром. Вось да чаго даходзіць і да чаго даводзіць дзікі нацыяналізм палякаў... каталікоў»[890]. Ці былі такія пагрозы, ці не, ці гэта ўсё прыдумаў сам кс. Л. Пуцята – цяжка сказаць. Толькі беларусам католікам нічога не заставалася, як ізноў ісці да арцыбіскупа і вырашаць праблему ў гэтай справе, але на гэты раз паход дэлегацыі (Л. Дубейкаўскі, А. Клімовіч) не прынёс якіх-небудзь вынікаў. Выходзіла, што нічога не можа зрабіць арцыбіскуп з пробашчам касцёла, які не выконвае яго волю.

Беларускі касцёльны камітэт ад імя беларусаў-католікаў г. Вільні неаднаразова звяртаўся да кіраўніцтва Віленскай архідыяцэзіі з просьбамі залегазаваць хоць секцыю Беларускай каталіцкай акцыі, але пасля шматлікіх абяцанкаў было заяўлена ад імя Архідыецэзальнага інстытуту Каталіцкай Акцыі ў Вільні, што і секцыя не можа быць зацверджанай[891]. Такі ж адказ адмоўны ў лютым 1937 г. атрымаў урад Беларускай каталіцкай акцыі на просьбу ў Віленскі Архідыецэзальны інстытут Каталіцкай акцыі ў справе рэгістрацыі беларускай секцыі.

У працы Беларускай каталіцкай акцыі бралі непасрэдны ўдзел усе беларускія каталіцкія святары, у якіх была магчымасць працы сярод беларусаў-католікаў. Дзейнымі рупліўцамі Каталіцкай акцыі былі кс. Пётра Татарыновіч і кс. Станіслаў Глякоўскі.

### 2.9.1. Ксёндз П. Татарыновіч.

Кс. Пётр Татарыновіч [псеўд. і крыпт.: Дрыгвіч, Пётр Задума; Мядзведзіцкі, Пціч (Pticz); (ks. P. T., P. T, P. Z, Z.); 02.06.1896, в. Гайнін, Слуцкі павет, Мінская губерня (цяпер Ляхавіцкі раён, Брэсцкая вобласць) – 03.09.1978, Рым]. Вучыўся ў рымска-каталіцкай духоўнай семінарыі ў Петраградзе, Менскай рымска-каталіцкай духоўнай семінарыі, дзе рэктарам быў д-р кс. Ф. Абрантовіч, а прафесарам кс. А. Цікота. 12.06.1921 г. быў высвечаны на святара Менскай дыяцэзіі.

Адна з першых згадак пра кс. П. Татарыновіча з’явілася ў друку ў 1930 г. Аўтар з Рубяжэвічаў пісаў: «Першыя пачаткі ў нашым мястэчку над усьведамленьнем людзей, што яны ёсьць беларусы і што наша старонка называецца Беларусь, зрабіў кс. П. Татарыновіч, за што яму чэсьць і хвала»[892]. Рубяжэвіцкі эпізод жыцця кс. П. Татарыновіча адносіцца недзе да самага пачатку 1920-х гадоў.

---

[889] Sprawa kaścioła dla Biełarusau katalikou // Chryścijanskaja Dumka. – 1936. – № 12. – S. 6.

[890] Sprawa kaścioła dla Biełarusau katalikou u Wilni // Шлях Моладзі. – 1936. – № 11. – С. 17.

[891] Бел. Каталіцкая Акцыя // Беларускі Фронт. – 1937. – № 4. – 5 сакавіка. – С. 3–4.

[892] Студэнт. Каталіцызм ня ёсьць Польшчына // Беларуская Крыніца. – 1930. – № 1. – 5 студзеня. – С. 3.

Сёння пра кс. П. Татарыновіча, як, дарэчы, і пра кс. В. Гадлеўскага і кс. А. Станкевіча і іншых беларускіх святароў можна знайсці нямала матэрыялаў у даведніках, друку, інтэрнэце. Але неперадўзыйдзеным першым біёграфам кс. П. Татарыновіча быў і застаецца а. Часлаў Сіповіч, які прысвяціў яму шмат цёплых і добрых словаў, даследуючы яго жыццё і дзейнасць. Так, а. Ч. Сіповіч пісаў: «Першай пляцоўкай працы нававысьвенчанага сьвятара П. Татарыновіча быў Пінск (1921–1922 гг.), сталіца Палесься. Дзялянкамі ягонай працы апрача звыклай душпастырскай былі: рамонт спаленай сьвятыні і кляштару, дзе пасьля мясьцілася катэдра і пінская сэмінарыя; школьніцтва, абслуга далёкіх асяродкаў Пінскага дэканату, арганізацыя «Ювэнтус Хрыстіяна»[893]. Доўга, аднак, тут не прыйшлося быць. У хуткім часе быў адкліканы ў Наваградак, дзе, паводле яго ўспамінаў, было даручана «вучыцельства ў Ніжэйшай Сэмінарыі Духоўнай і ў школах элементарных, нотарыят пры дыяцэзальным судзе, пасьля яшчэ і вікарыят пры тамашнім дзекане кс. Букрабе, пазьнейшым біскупе (1922–1924 гг.)». Пасьля на долю кс. Татарыновіча выпала душпастырства ў Баранавічах, а менавіта: будова для школьнай моладзі спецыяльнай капліцы, прэфэктура ў пяцёх школах элементарных і адной сярэдняй, арганізацыя і кіраўніцтва беларускай Каталіцкай акцыі «Саюза каталіцкай моладзі» (1924–1926 гг.). «І калі жыцьцё наладзілася і здавалася можна ўжо было папрацаваць на адным мейсцы спакайней, падасьпела шовіністычная інтрыга, паводле якое я аказаўся «яко прэфэкт взоровы, а яко Бялорусін шкодлівы» – паводле выказу кс. П. Татарыновіча[894]. І як «шкадлівага беларусіна» выслаў яго біскуп З. Лазінскі ў мазурскую вёску (1926 г.), а праз год прапанаваў м. Дамачава (Брэсцкі дэканат) – «убогае і надта труднае да адміністраваньня, адкуль парафіяне чынна выгналі майго папярэдніка». За гады працы ў м. Дамачэва (1927–1932 гг.) кс. П. Татарыновіч аднавіў касьцёл (паставіў тры новыя алтары), плябанію, пабудаваў каталіцкі народны Дом. Дапамагаў усходнім каталіцкім парафіям (Дзялятычы ў Навагрудчыне), знайшоў і паслаў у езуіцкую калегію ў Холм добрага кандыдата на святара – Гмэнюка[895]. Нягледзячы на сваю беларускасць, пробашч парафіі ў Дамачаве кс. П. Татарыновіч пакінуў пра сябе вельмі добрыя ўражанні і памяць парафіян, сярод якіх былі не толькі беларусы, але і палякі, і немцы, і іншыя нацыянальнасці[896].

---

[893] Сіповіч, Ч., біскуп. Пралат Пётр Татарыновіч / біскуп Ч. Сіповіч // Божым шляхам. – 1979. – № 150. – С. 17; Перадрук : Сіповіч, Ч., біскуп. Пралат Пётр Татарыновіч (1896–1978) / Біскуп Ч. Сіповіч // Спадчына. – 1996. – № 3. – С. 264–272.

[894] Сіповіч, Ч., біскуп. Пралат Пётр Татарыновіч / біскуп Ч. Сіповіч // Божым шляхам. – 1979. – № 150. – С. 18.

[895] Там жа.

[896] Chorąży, Antoni. Tam mieszkał ich Bóg: Rzymskokatolicka parafia w Domaczewie w latach 1919–1945 [Электронны рэсурс] / Chorąży Antoni. – Рэжым доступу: www.domachevo.com. – Дата доступу: 01.03.2018.

Такую ж добрую памяць пра сябе ён пакінуў у кожным месце, дзе яму прыходзілася пабываць. Так, у парафіі Марочна (Пінская дыяцэзія) намаганнямі мясцовага пробашча кс. Антоні Дулінца – шчырага і ідэйнага беларуса – быў збудаваны мясцовы касцёл. 28 кастрычніка 1930 г. на пасвячэнні касцёла і ўрачыстым набажэнстве кс. П. Татарыновіч гаварыў казанне на беларускай мове. Парафіянін пісаў: «Красою стылю, глыбінёй думак ды вулканічным энтузіазмам казнадзей ачараваў нас, падымаючы на найвышэйшую ступень святочнага настрою. Вось калі мы паверылі ў свае культуральныя сілы і здольнасці, вось калі нашае «мужыцкае» слова паказалася нам цаннейшым ад «панскага». Душа вырывалася з цела, слухаючы гэных пламенных слоў! Пробашч Кс. Дулінец абяцаў надалей таксама гаварыць казанні па-беларуску, а людзі нашы абяцалі іх слухаць...» [897].

У 1932 г. кс. П. Татарыновіч быў пераведзены ў Столін, дзе працаваў да 1939 г. Пра гэтую працу ён пісаў: «Трудная была праца на гэтым прыгранічным разлеглым тэрэне, будучы ў частых выпадках азылям для ўсякага роду банкрутаў і афэрыстаў. Парафія складалася з разсваранага элемэнту наплывовага: войска, паліцыі, урадаўцаў, настаўніцтва і асадніцтва, якога месны праваслаўны й каталіцкі элемэнт паляшуцкі ды земянскі не любіў. Утрымаць якое-небудзь залатое мэдіюм у гэным конглёмэраце, вывесьці лінію Каталіцкай Акцыі і развою унійнага абсалютна нельга было без страты ласкі якой із старон. Найгоршы гнеў грazіў за ўспамаганьне Уніі, утрудняючай палянізацыю; ён не астаўся бязследным у маім жыцьці і працы... Паміма ўсяго гэтага ў працягу 6 год удалося аднак згуртаваць людзей добрае волі да каталіцкага чыну...». Апрача гэтага кс. П. Татарыновіч дапамагаў мясцовым уніяцкім парафіям: у Альпені, у Гарадной, на Мярлінскіх хутарах і Колках. І гэтае заданне кс. Татарыновіч выканаў выдатна. Атрымаўшы дапамогу ад князя Радзівіла, які жыў у сваім палацы ў столінскім прадмесьці Манькавічы, і ягонай адміністрацыі, ён арганізаваў такія царкоўныя і асветніцкія арганізацыі, як «Карытас», «Ювэнтус Хрыстіана», суполку «Жывога Ружанца», «Саюз Каталіцкай моладзі», гурткі Беларускага інстытуту гаспадаркі і культуры, актыўна праводзіў Каталіцкую акцыю, выступаў з казаннямі на беларускай мове і інш.[898].

Парафіяне з м. Мядзьведзічы інфармавалі ў «Шляху моладзі» пра тое, што 6 жніўня (1936 г.) на фэст у іх было вялікае свята, бо ў гэты дзень яшчэ святкавалі 15-я ўгодкі ксяндзоўства земляка і вядомага беларускага дзеяча кс. Пятра Татарыновіча. «Кс. П. Татарыновіч з'яўляецца вялікім і

[897] Swoj. Rodnaja mowa u Światyni // Chryścijanskaja Dumka. –1930. – № 21–22. – S. 9.

[898] Сіповіч, Ч., біскуп. Пралат Пётр Татарыновіч / біскуп Ч. Сіповіч // Божым шляхам. – 1979. – № 150. – С. 18; Аўдзяюк, Алесь. Палымяны сьвятар і патрыёт: У 30-я ўгодкі сьмерці беларускага каталіцкага сьвятара а. Пятра Татарыновіча) / Алесь Аўдзяюк // Царква : беларуская грэка-каталіцкая газета. – 2008. – № 4 (59). – С. 1; Аўдзеюк, А. Спогады кс. Пятра пра перабыванне ў Дамачава (архіўныя матэрыялы) [Электронны рэсурс] / А. Аўдзеюк. – Рэжым доступу: http://www.domachevo.com/historu–katoliki27–32-arxiv.htm. – Дата доступу: 11.10.2016.

гарачым беларускім патрыётам і каталіцкім пісьменнікам. Ён многа піша па-беларуску, зычлівы, ахвярны, любіць свой народ, а асабліва моладзь, сярод якой многа ўжо працаваў закладаючы беларускія каталіцкія арганізацыі, мэтай каторых было ўзгадоўваць добрых каталікоў і грамадзян, разумных і дзейных сыноў сваe Бацькаўшчыны»[899]. У гэты дзень адбылося пасвячэння новага дому, збудаванага кс. П. Татарыновічам дзеля культурна-прасветных мэтаў для беларусаў: «Трэба спадзявацца, што ў гэтым прыгожым доме паселяцца беларускія арганізацыі і наагул застанецца ён вогнішчам каталіцкасьці і беларускасьці», – спадзяваўся аўтар «Хрысьціянскай Думкі»[900].

Зразумела, што спадзяванні аўтара не спраўдзіліся – польскія ўлады такога дапусціць не маглі.

Папрацаваць у парафіі Перлеева, куды быў прызначаны кс. П. Татарыновіч у 1939 г., перашкодзілі ваенныя абставіны. Абагульняючы яго душпастырскую працу, а. Ч. Сіповіч адзначаў: «Што ёсьць характэрным для кс. Татарыновіча на працягу блізу 20 гадоў ягонай душпастырскай працы ў Пінскай дыяцэзіі, гэта ягоная стойкасьць як сьвятара і як беларуса. Сярод шматлікіх заняткаў ён знаходзіць таксама час, каб пісаць і друкаваць свае артыкулы і кніжкі ў розных віленскіх тагачасных часапісах, а такжа ў выдаваным езуітамі вунійным часапісе «Да Злучэньня». Ведамыя ягоныя кніжкі: «Сьвяты Ізыдар хлебароб» (Вільня, 1928), «Купальле» (Вільня, 1930) і іншыя»[901].

Апрача гэтага кс. П. Татарыновіч цесна супрацоўнічаў з беларускімі перыядычнымі і рэлігійнымі выданнямі «Kryniсa» («Białaruskaja Kryniсa», 1917–1940 гг.) і «Chryścijanskaja Dumka» (1928–1939 гг.).

### 2.9.2. Ксёндз С. Глякоўскі.

Кс. Станіслаў Глякоўскі – псеўд.: Stasiuk z-nad Niemna; Stasila. Нар. 2.03.1896 г. у м. Поразава Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Свіслацкі р-н, Гродзенскай вобл. Скончыў Віленскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю (1914–1921 гг.), пасвечаны ў святары (29.05.1921 гг.), вучыўся ў Грыгарыянскім універсітэце ў Рыме (1923–1927 гг.), атрымаў навуковую ступень доктара тэалагічных навук за працу на тэму «Характэрныя рысы духовасьці Яна Кранштацкага».

Пасля вучобы быў размеркаваны вікарыем у Ваўкавыск, а праз год архібіскуп Р. Ялбжыкоўскі перавёў на пасаду пробашча ў парафію Трышчоўка (Беластоцкі дэк.). І хаця гэты перавод, з аднаго боку, быў павышэн-

[899] Юнак. Вялікае сьвята ў Мядзьведзічах (Юбілей Кс. П. Татарыновіча) // Шлях моладзі. – 1936. – № 9. – С.14.

[900] 15-leccie swiatarstwa ks. P. Tatarynowica // Chryścijanskaj Dumka. – 1936. – № 9. – S. 8.

[901] Сіповіч, Ч., біскуп. Пралат Пётр Татарыновіч / біскуп Ч. Сіповіч // Божым шляхам. – 1979. – № 150. – С. 18.

нем, «Беларуская Крыніца» пісала, што зроблена гэта было з мэтай аддаліць беларускага ксяндза ад беларускага асяродка: «Словам, палітыка ў касьцёле праводзіцца без ніякага стыду»[902]. У 1929 г. быў прызначаны вікарыем пры касцёле св. Яна і адначасна настаўнікам Закону Божага (прэфектам) у сярэдніх школах г. Вільні, у т. л. і ў Віленскай беларускай гімназіі (1933–1939 гг.) і неафіцыйным капелянам беларускіх студэнтаў-католікаў. Гэта спрыяла таму, што ён з галавою кінуўся ў вір душпастырскае працы між моладзьдзю[903].

У віленскім касцёле Святога Мікалая ён часта адпраўляў набажэнствы для беларусаў і велікодныя рэкалекцыі для вучнёўскай моладзі, апекаваўся скаўтынгам у беларускай гімназіі, працаваў у камісіі дапамогі беларускай студэнцкай моладзі, выступаў з дакладамі ў Беларускім студэнцкім саюзе, арганізоўваў рэкалекцыі для беларускіх студэнтаў у часе Вялікага Посту. Усе беларускія паломніцтвы ў Кальварыю, якія ладзіліся перад Другой сусветнай вайною, не абыходзіліся без ягонага ўдзелу, а ў 1939 г., калі ўжо былі выселены з Вільні ксяндзы Станкевіч і Талочка, кс. Глякоўскі ачольваў беларускае паломніцтва. «Агулам дзейнасьць ксяндза Глякоўскага, – пісаў а. Леў Гарошка, – была тою душпастырскаю дзейнасьцю, якая найбольш патрэбна ў парахвіях і моладзі ў школе»[904].

Калі больш падрабязна гаварыць пра кс. С. Глякоўскага, дык варта адзначыць, што душпастырская і культурная яго дзейнасць прыпадае на канец 1920-х – 1930-я гады – час татальнага вынішчэння беларускасці ў касцёле. Толькі дзякуючы сваім глыбокім ведам, разважлівасці і такту яму ўдавалася быць запатрабаваным у Вільні душпастырам і заставацца пры гэтым беларусам.

Дзякуючы намаганням кс. С. Глякоўскага ў Вільні ў канцы 1920-х гадоў быў створаны гурток «Прыяцеляў беларускіх скаўтаў». 11.10.1936 г. у зале Віленскай Беларускай гімназіі адбыўся сход гуртка. Старшыня кс. др. С. Глякоўскі ў прыгожых словах выказаў агульную мэту скаўтынгу і іх ролю, якую яны павінны адыграць у адраджэнні беларускага народу[905].

Паводле ўспамінаў кс. П. Татарыновіча, кс. Станіслаў Глякоўскі, «Як чалавек з поўнай ведай і навукай, з тытулам «Доктара Касьцельных Усходніх Навук», ён глыбока разумеў душу чалавека, беларуса, а маючы духовае багацьце, умеў карысна аддзейваць на іншых. Гэта ён быў ініцыята-

---

[902] Nowaja kryuda Biełarusam z boku arcybiskupa // Bielaruskaja Krynica. – 1928. – № 49. – 2 listapada. – S. 2.

[903] Гарошка, Леў, айцец. Беларускія сьвятары й рэлігійныя дзеячы Беларусі / айцец Леў Гарошка // Запісы. – New York : Беларускі інстытут навукі й мастацтва. – 1999. – № 24 [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: http://belarus8.tripod.com/ZapisyBINIM/24.03.htm.

[904] Гарошка, Леў, айцец. Беларускія сьвятары й рэлігійныя дзеячы Беларусі / айцец Леў Гарошка // Адзін Госпад, адна Вера, адзін Хрост : Крыніцазн. дасьлед. / укл., прадм. А. Любіча, бібл. Л. Юрэвіча. – Мінск : Кнігазбор, 2007. – С. 26–27.

[905] У беларускіх скаўтаў // Шлях моладзі. – 1936. – № 6. – С. 8.

рам і старшынёю «Лігі Моральнага Адраджэньня» ў Вільні. Арганізацыя гэна імкнулася да ўздыму й паглыбленьня духа моральнасьці. Ейна часопісь «Logos» стаяла на даволі высокім узроўні ды рабіла немалы ўплыў на ажыцьцяўленьне хрысьціянскіх каталіцкіх прынцыпаў моральнасьці. З натхненьня гэтай арганізацыі быў ладжаны ў Вільні ў 1839 г. «Тыдзень барацьбы з порнографіяй». У працягу гэнага «Тыдня» амаль зьніклі беспаваротна з віленскіх кіёскаў, раней так абражаючыя вока, порнографічныя і масонскія ілюстрацыі»[906].

Апрача гэтага, кс. С. Глякоўскі уваходзіў ад снежня 1933 г. да 1939 г. у склад кіраўніцтва Беларускага каталіцкага выдавецтва ў Вільні. Быў арганізатарам выпуску рэлігійнай і мастацкай літаратуры. Так, у 1934–1935 гг., сумесна з Язэпам Найдзюком, выдаў на свой кошт тры зборнікі Міхася Машары («На сонечны бераг», «Смерць Кастуся Каліноўскага» і «Напрадвесні»), «Казку аб рыбаку і рыбцы» Вінцука Адважнага (ксяндза Язэпа Германовіча) і іншыя творы. Арганізаваў і фінансаваў выпуск часопіса для дзяцей «Пралескі».

Быў сябрам Беларускага навуковага таварыства. Публікаваўся ў газеце «Беларуская крыніца», часопісе «25 сакавіка» і інш.

Удзельнічаў у стварэнні восенню 1936 г. беларускай секцыі Каталіцкай акцыі. Але, нягледзячы на быццам бы бласлаўленне архібіскупа Р. Ялбжыкоўскага, ажыццявіць гэтую задуму, як вядома, не ўдалося.

У канцы 1930-х гадоў кс. С. Глякоўскі распрацаваў праграму новай арганізацыі, якая атрымала назоў «Хрыстосаўцы». Ідэйная сутнасць арганізацыі зводзілася да хрысціянскай ідэі, аргументавалася неабходнасцю аб'яднання, каб супрацьстаяць паганскаму фашызму і бязбожнаму камунізму. У гэтым найбольш павінны быць зацікаўленыя народы, якія тварылі Вялікае Княства Літоўскае, бо ім у першую чаргу пагражае небяспека. Яны павінны злучыцца пад ідэяй Ягелонаў, творачы гэты саюз на падставе канстытуцыі Хрыста – Праўды, Любові, Справядлівасці[907]. Такім чынам, «ягелонскую ідэю», актуальнасць да якой у 30-я гады не толькі не знізілася, але і ўзрасла»[908], кс. С. Глякоўскі разглядаў з пазіцыі «краёўцаў» і падмацоўваў яе прынцыпамі хрысціянскай маралі. «Актыўнай дзейнасці гэтай арганізацыі перашкодзіла вайна», – пісаў раней аўтар[909]. Увогуле, малаверагодным

[906] Дрыгоніч, П. Успаміны аб сьв. п. Кс. Др. Станісл. Глякоўскім / П. Дрыгоніч, П. Дрыгвіч // Źnič. – 1951. – № 67. – С. 4.

[907] Hlakouski St. Ideja Jahełonau, waladarstwa Chrysta // Chryścijanskaja Dumka. – 1939. – № 7. – S.12.

[908] Лазько, Р. Р. «Усходнія Крэсы» як фактар гальванізацыі «ягелонскай ідэі» ў Польскай Рэспубліцы / Р. Р. Лазько // Этнасацыяльныя і культурныя працэсы ў заходнім рэгіёне Беларусі: гісторыя і сучаснасць : матэрыялы Рэсп. навук. канф., 5–6 снеж. 1997 г. / пад рэд. І. П. Крэня. – Гродна : ГрДУ, 1998. – С. 130–133.

[909] Трацяк, Я. Роля беларускіх святароў у адраджэнні нацыянальнай культуры / Я. Трацяк // Культура ў Рэспубліцы Беларусь: гісторыя, сучасны стан і перспектывы развіцця : тэз. дакл. Рэсп. навук. канф., Мінск, 26 студз. 1993 г. – Мінск, 1993. – С. 110.

уяўляецца саюз паводле згаданых прынцыпаў між людзьмі, сацыяльна-эканамічны і прававы статус якіх знаходзіўся на розных узроўнях. І тым не менш, заслугоўвае вялікай пашаны і памяці руплівасць беларускага каталіцкага святара кс. С. Глякоўскага ў яго імкненні пашырыць хрысціянскія ідэі і паглыбіць маральна-духоўны ўзровень народу.

Кс. П. Татарыновіч пісаў пра свайго калегу, што асноўнаю характэрнаю духоўнаю рысай ягонага жыцця і дзейнасці быў аскетызм (асцэза), які не адштурхоўваў ад яго людзей, а прыцягваў. Быў ён цвёрдым для сябе, задавальняючыся найменшымі патрэбамі, і да крайнасці ахвярным для іншых. Будучы шчырым святаром-каталіком, ніколі не забываўся, што ён беларус, шчыры сын беларускае вёскі і народу, якому ў першую чаргу абавязаны пасвяціць свае сілы... Ягоная простая пабожнасць падымала ўсіх да малітаўнага ўзлёту... Ужо з гэтага кароткага падліку ідэйнай дзейнасці кс. Станіслава Глякоўскага відаць, якога духоўніка выдала беларуская вёска, які дала бліскучы прыклад святара-патрыёта, чыстае жыццё якога і духовая веліч бязумоўна не аднаго натхне беларускага юнака пайсці ягонымі сьлядамі[910].

[910] Дрыгоніч, П. Успаміны аб сьв. п. Кс. Др. Станісл. Глякоўскім / П. Дрыгоніч, П. Дрыгвіч // Źnič. – 1951. – № 67. – С. 4.

## ВЫСНОВЫ

Такім чынам, у частцы першай «Арганізацыя беларускага душпастырства ва ўмовах канфесійна-нацыянальнай палітыкі 1913–1939 гг.» разгледжаны некаторыя аддзельныя аспекты з дзейнасці беларускага каталіцкага духавенства, а менавіта: прававыя асновы і арганізацыя ксяндзоў-беларусаў у пераломныя моманты (1914–1921 гг.), віды і змест душпастырскай і грамадска-культурнай працы беларускага каталіцкага духавенства ва ўмовах ціску і праследу канфесійнай і нацыянальнай палітыкі II Рэчы Паспалітай (1921–1939 гг.).

У сувязі з гэтым, можна вылучыць некалькі асновапаложных высноваў:

1. Інтэнцыі беларускасці ў асяродку рымска-каталіцкага духавенства ад пачатку XX ст. не былі нейкай рэдкасцю ці нечым неардынарным і нязвыклым – былі яны з'явай вядомай і папулярнай у духавенства (шмат хто з святароў свядома адносіў сябе ў афіцыйных спісах да крывіцкай ці беларускай народнасці). Праяўляліся яны ў выкарыстанні беларускай мовы пры тлумачэнні Закону Божага ў школках і вывучэнні асноваў рэлігіі, а таксама пры катэхізацыі беларускіх дзяцей. Праўда, такая з'ява не магла стаць масавай, бо моўны фактар у 1910-х гг. стаў зноўку набываць палітычную матывацыю і акрэслівацца з канкрэтнымі канфесійнымі і дзяржаўна-палітычнымі структурамі. Такім чынам, моўны фактар рэлігіі як сродак пазнання веры стаў атаясамлівацца з палітычным фактарам, што нанесла значную шкоду ў фармаванні і паглыбленні рэлігійнай (хрысціянска-каталіцкай) свядомасці народу.

2. У 1917–1921 гадах беларускае каталіцкае духавенства фармуецца ў арганізацыйныя структуры вакол Саюзу ксяндзоў-беларусаў (не быў легалізаваным) і БХДЗ, праходзяць з'езды свядомага беларускага святарства (1917, 1918, 1921 гг.), на якіх абмяркоўваюцца пытанні беларускага рэлігійнага і нацыянальнага жыцця і прымаюцца адпаведныя рэзалюцыі, прымае актыўны ўдзел у грамадска-палітычным руху і сацыякультурным працэсе. Гэта час сфармаванага беларускага духавенства, якое практычна рэалізуе рэлігійна-нацыянальныя патрабаванні ў жыцці народу і час масавага прыходу святароў да беларускай дзейнасці. Лік іх даходзіць да 200 чалавек.

3. Прамымі абавязкамі кожнага беларускага каталіцкага святара была душпастырская праца ў парафіі: штодзённыя малітвы, набажэнства і казанні, правядзенне адпаведных рытуалаў і абрадаў, рэкалекцыі і выкладанне Закона Божага ў школах і гімназіях, апякунства і ўтрыманне дзіцячых прытулкаў і школ, рэлігійна-асветніцкая дзейнасць і правядзенне каталіцкай акцыі, арганізацыя парафіі і касцёльна-гаспадарчыя клопаты, рамонт, рэстаўрацыя і будаўніцтва касцёлаў і плябаніі, добраўпарадкаванне тэрыторыі і інш.

Апостальскае пакліканне патрабавала данесці Слова Божае да вернікаў у зразумелай форме. Такой формай магла бы стаць мова большасці вернікаў у беларускамоўных парафіях, аднак гэтаму перашкаджалі польскія касцёльныя і дзяржаўныя ўлады.

4. Прадстаўнікі беларускага каталіцкага духавенства выступалі ініцыятарамі арганізацыі беларускіх школ і дзіцячых прытулкаў, беларускай Каталіцкай акцыі і беларускіх грамадскіх згуртаванняў (арганізацыя і кіраўніцтва Беларускай хрысціянскай дэмакратыяй), культурна-асветніцкіх супольнасцей (гурткі БІГіКа) і розных культурных мерапрыемстваў і пачынанняў: царкоўныя хоры, драматычныя і музычныя гурткі, паказы, канцэрты, духавыя аркестры.

5. Пасля 1921 г. дзяржаўная палітыка ІІ Рэчы Паспалітай у заходніх рэгіёнах Беларусі правядзе курс па ліквідацыі беларускасці. Прымаць актыўны ўдзел у гэтым будзе польскае каталіцкае духавенства на чале з віленскім архіепіскапам Р. Ялбжыкоўскім. Асаблівай нянавісцю да беларускасці вызначалася адміністрацыя Віленскай дыяцэзальнай (архідыяцэзальнай) рымска-каталіцкай курыі.

6. Заключэнне канкардату паміж Папам Рымскім і ўрадам ІІ РП (03.10.1925 г.) яшчэ больш ускладніць становішча беларусаў-каталікоў. Дзейнасць беларускіх святароў праследвалася дзяржаўнымі і царкоўна-каталіцкімі ўладамі. Распаўсюджанымі мерамі пакарання былі: перавод у больш аддаленыя прыходы з паніжэннем пасады альбо на раўназначную, перавод у небеларускія прыходы (Польшча, РСФСР, Францыя, Харбін), часовае звальненне з пасады, забарона душпастырскай працы, ссылка пад нагляд паліцыі, штраф, арышт і заключэнне ў турму і іншыя меры адміністрацыйнага пакарання.

Шмат хто з беларускіх святароў у другой палове 1920-х і ў 1930-х гг. адышлі ад актыўнай беларускай дзейнасці. Страта беларускай дзяржаўнасці стала дамінуючым фактарам у выбары нацыянальнай афарбоўкі душпастырскай працы многіх святароў паводле дылемы: няма дзяржавы – няма народу.

7. У агульна-тэарэтычным плане ў Ватыкане шмат удзялялі ўвагі моўным праблемам Касцёла, народаў і роднага духавенства, але ўсе гэтыя захады насілі рэкамендацыйны характар. Апошняе слова ў вырашэнні такіх праблемаў Ватыканам было дадзена на разгляд мясцовым касцёльным уладам.

Пазіцыя Ватыкана ў адносінах да беларусаў-католікаў ніколі не была празрыстай, канкрэтнай і канструктыўнай. Тлумачылася гэта не толькі слабай асвядомленасцю праз польскіх інфарматараў сапраўдным становішчам беларусаў-католікаў у ІІ Рэчы Паспалітай, але і палітыкай Апостальскай Сталіцы ў адсутнасці цікавасці да большай аб’ектыўнай і праўдзівай інфармацыі, што яскрава пацвярджаецца такімі фактамі, як адмаўленне беларусам свайго візітатара з Ватыкану і паблажліва-ўгодніцкімі

стасункамі Апостальскай Сталіцы з польскімі ўладамі. Нездарма Пія XI (кс. Ахіл Раці) называлі «польскім папам».

8. Апрача запалітазаванасці і паланізацыйнага кірунку ў асяродку рымска-каталіцкага духавенства ў міжваенныя гады існавання незалежнай Польшчы сталі праяўляцца і такія, не характэрныя Касцёлу тэндэнцыі, як залежнасць духавенства ад эканамічнай і грамадска-сацыяльнай магутнасці пануючага класа, што зацміла ў яго душы рэлігію і маральнасць і прывяла да такой з'явы, як залішняя ўгодлівасць некаторых ксяндзоў перад больш багатымі і прыўладнымі асобамі.

9. На больш устойлівых пазіцыях як у плане хрысціянскай маралі, так і рэлігійна-нацыянальных патрабаванняў стаялі лідэры беларускага хрысціянскага руху ксяндзы В. Гадлеўскі, А. Станкевіч, У. Талочка і сотні іх прыхільнікаў.

10. Паводле падлікаў у міжваенны перыяд у Віленскай дыяцэзіі (архідыяцэзіі) лік свядомых беларускіх каталіцкіх святароў вагаўся ў межах 40–60 чалавек. Да іх яшчэ варта было б дадаць прыкладна столькі ж парафіяльных святароў, якія выконвалі свае душпастырскія абавязкі без асаблівага шуму і пры тым не цураліся беларускага слова ў казаннях, навуцы дзяцей рэлігіі і пры гутарках з парафіянамі. Пры спрыяльных абставінах дастаткова было б і такога ліку для беларусізацыі Рымска-каталіцкага Касцёла ў Беларусі[911].

Большая частка духавенства, каля двухсот асобаў, не была супраць беларускасці як такой і гатовая была працаваць у кірунку беларускамоўнага душпастырства як метаду больш даходлівага і зразумелага тлумачэння Святога Пісьма, але не маглі парушыць парадак паслушэнства сваім духоўным уладам, якія, як вядома, забаранялі такія метады.

***

У наступнай другой частцы манаграфіі «Беларускае каталіцкае духавенства ў сацыякультурным працэсе першай паловы XX ст.» гутарка будзе ісці пра спробы арганізацыі беларускага манаства, выдавецкую і рэдакцыйную дзейнасць беларускага каталіцкага духавенства, іх багатую і разнастайную творчую спадчыну, а таксама дзейнасць беларускіх каталіцкіх святароў ва ўмовах Савецкай Беларусі і ў гады Другой сусветнай вайны (1939–1941 гг.).

[911] Трацяк І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі… – С. 206–207.

# БІБЛІЯГРАФІЧНЫ СПІС

## 1. Архіўныя крыніцы

Архівы БНР. (Дзяржаўны архіў Літвы. Ф. 582. Рада Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі) / уклад. С. Шупа ; Беларускі інстытут навукі і мастацтва, Таварыства беларускага пісьменства «Наша ніва». – Вільня – Нью-Ёрк – Менск – Прага, 1998. – Т. 1. – Кн. 1.
Архівы БНР. (Дзяржаўны архіў Літвы. Ф. 582. Рада Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі) / уклад. С. Шупа ; Беларускі інстытут навукі і мастацтва, Таварыства беларускага пісьменства «Наша ніва». – Вільня – Нью-Ёрк – Менск – Прага, 1998. – Т. 1. – Кн. 1.

**Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва.**
Ф. 3. Калекцыя дакументаў Беларускага музея імя І. Луцкевіча ў Вільні. 1906–1944 гг.

**Бібліятэка Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх (ЦБАНЛ).** Аддзел рукапісаў.
Ф. 21. Калекцыя дакументаў Беларускага музея імя І. Луцкевіча ў Вільні.

**Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці.**
Ф. 551. Міністэрства ўнутраных спраў Наваградскага ваяводства.

**Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы.**
Ф. 604. Упраўленне Віленскай Рымска-Каталіцкай епархіі і кансісторыі.
Ф. 694. Дакументацыя Віленскай Рымска-Каталіцкай дыяцэзальнай (архідыяцэзальнай) курыі.

**Літоўскі цэнтральны дзяржаўны архіў.**
Ф. 281. Літоўска-беларускія адносіны.
Ф. 582. Рада Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі.

**Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь**.
Ф. 4. Цэнтральны камітэт Камуністычнай партыі Беларусі.
Ф. 242. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ.

**Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь у Гродна.**
Ф. 1. Канцелярия Гродненского Губернатара 2-го Стола.
Ф. 490. Киватичский р-к костёл Пружанского р-на.

**Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.** Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі.
Ф. 1. Калекцыя дакументаў Янкі Шутовіча.
Ф. 4. Калекцыя дакументаў а. Адама Станкевіча.
Ф. 5. Калекцыя дакументаў Адольфа Клімовіча.
Ф. 23. Калекцыя матэрыялаў па гісторыі навукі, культуры.

**Biblioteka katolieckiego uniwiersitetu Lubielskego (BKUL). Dziai rekapisow. – Zbiory Ks. Br. Ussasa.**

## 2. Перыядычны друк

«Беларуская Думка», 1919.
«Беларуская справа», 1926.
«Беларускі Дзень», 1927–1928.
«Беларускі Звон», 1931–1932.
«Беларускі фронт», 1936–1939.
«Беларускія ведамасьці», 1921–1922.
«Божым Шляхам», 1947–1980.
«Голас Беларуса», 1924.
«Да Злучэньня», 1932–1938.
«Думка Беларуса» (аднаднёўка), 1925.
«Калосьсе», 1935–1939.
«Католический вестник», 1932–1939.

«Крывіч», 1923–1927.
«Наперад», 1929–1930.
«Народ», 1927–1929.
«Наша Думка», 1920–1921.
«Падняты сьцяг» (аднаднёўка), 1923.
«Сын Беларуса», 1924.
«Сьцяг Волі» (аднаднёўка), 1923.
«Сялянская Ніва», 1926–1930.
«Сялянская Праўда», 1924.
«Шлях моладзі», 1929–1938.
«Biełarus», 1913–1915.
«Biełaruskaja Krynica», 1925–1940.
«Chryścijanskaja Dumka», 1928–1939.
«Chryścijanskaja Dumka», 1992.
«Dwutyhodnik diecezii Wilenskie», 1909–1917.
«Dziennik Miński», 1917–1918.
«Dzieńnik Wileńskie», 1921–1926.
«Homan» / «Гоман» /, 1916–1918.
«Kryniсa», 1917–1925.
«Krywičanin», 1918.
«Kurjer Wilenski», 1924–1939.
«Przegłęd Wilenski», 1922–1939.
«Rzeczpospolita», 1920–1932.
«Słowo», 1922–1933.
«Świetacz», 1917.
«Wiadomości Archidyecezalne», 1909–1914.
«Wiedamości Archidiecezalne Wilenskie», 1922–1939.
«Znič», 1951–1976.
«Życie Kościelne», 1909–1917.
«Iednaść», 1921–1922.

## 3. Даследаванні, даведачная літаратура

Аўдзеюк, А. Спогады кс. Пятра пра перабыванне ў Дамачава (архіўныя матэрыялы) [Электронны рэсурс] / А. Аўдзеюк. – Рэжым доступу: http://www.domachevo.com/historu–katoliki27–32-arxiv.htm – Дата доступу: 11.10.2016.

Аўдзяюк, Алесь. Палымяны сьвятар і патрыёт: У 30-я ўгодкі сьмерці беларускага каталіцкага сьвятара а. Пятра Татарыновіча) / Алесь Аўдзяюк // Царква : беларуская грэкакаталіцкая газета. – 2008. – № 4 (59). – С. 1.

Багдановіч, Ірына. Ідэя нацыянальнага адраджэння ў паэтычнай і рэлігійна-філасофскай творчасці К. Сваяка / Ірына Багдановіч // Лёс нацыянальнай культуры на паваротах гісторыі : зб. дакладаў / рэд. М. Трусаў. – Мінск, 1995. – С. 63–74.

Багдановіч, Янка. На жыцьцёвым шляху. Успаміны / Янка Багдановіч. – Мінск : Маст. літ., 1992. – 144 с.

Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя: Жыццяпісы. Мартыралогія. Успаміны / аўт.-уклад. Ю. Гарбінскі. – Мінск : Мюнхен, 1999. – 752 с.

Бергман, А. Слова пра Тарашкевіча / А. Бергман. – Мінск : Навука і тэхніка, 1996. – 191 с.

Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР : документы и материалы. Т. 2. – Мінск : Гос. Изд-во БССР ; Ред. соц.-экон. лит., 1972.

Вашкевіч, Андрэй. Супрацоўніцтва паміж КПЗБ і БХД (восень 1935 – восень 1936 гг.) / Андрэй Вашкевіч // Беларускі гістарычны часопіс. – 2006. – № 10.

Вучань Вінцука Адважнага. Айцец Язэп Германовіч – жыцьцё і творчасьць (з нагоды 50-х угодкаў сьвятарства) // Божым шляхам. – 1964. – № 82. – С. 9–12.

Гадлеўскі, В. З беларускага палітычнага жыцьця ў Менску ў 1917–1918 гг. : Рэфэрат Кс. В. Гадлеўскага, прачытаны на Надзвычайным Агульным Сходзе Беларускага Нацыянальнага Камітэту Вільні ў 16-я ўгодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі дня 25 сакавіка 1934 года / В. Гадлеўскі // Беларуская Крыніца. – 1934. – № 18. – 22 красавіка. – С. 2–3.

Гадлеўскі, Вінцэнт. Аўтабіяграфічны нарыс / Вінцэнт Гадлеўскі // Гарадзенскія запісы: старонкі гісторыі і культуры / гал. рэд. П. Сцяцко. – Гродна, 1993. – Вып. 1. – С. 120–130.

Гадлеўскі, Вінцэсь. Прычыны нашага часапісу / Вінцэсь Гадлеўскі // Беларускі фронт. – 1936. – 5 траўня.

Гадлеўскі, Вінцэсь. Публіцыстыка / Вінцэсь Гадлеўскі // Спадчына. – 1993. – № 2. – С. 38–51.

Ганчар, А. И. Римско-католическая церковь в Беларуси (вт. пол. XIX – нач. XX вв.). Исторический очерк : моногр. / А. И. Ганчар. – Гродно : ГГАУ, 2010.

Гарошка, Леў, айцец. Айцец Адам Станкевіч / айцец Леў Гарошка // Божым шляхам. – 1955. – № 68–69. – С. 16–20.

Гарошка, Леў, айцец. Беларускія сьвятары й рэлігійныя дзеячы Беларусі / айцец Леў Гарошка // Адзін Госпад, адна Вера, адзін Хрост : крыніцазн. дасьлед. / укл., прадм. А. Любіча, бібл. Л. Юрэвіча / айцец Леў Гарошка. – Мінск : Кнігазбор, 2007. – С. 7–45.

Гарошка, Леў, айцец. Пад знакам «рускай» і «польскай» веры / айцец Леў Гарошка // Божым шляхам. – 1954–1955. – № 60–64/65.

Гарошка, Леў, айцец. Праз навальніцы й нягоды / айцец Леў Гарошка // Запісы. – New York : Беларускі інстытут навукі й мастацтва. – 1999. – № 24 [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: http://belarus8.tripod.com/ZapisyBINIM/24.03.htm.

Гарошка, Леў, а. Айцец Антон Неманцэвіч / а. Леў Гарошка // Божым шляхам. – 1956. – № 70–75. – С. 49–54.

Гарошка, Леў, а. Айцец Уладзіслаў Талочка / а. Леў Гарошка // Божым шляхам. – 1955. – № 66–67. – С. 14–17.

Гацак, Максім. Адным з першых пачаў ужываць беларускую мову ў касцёле [Электронны рэсурс] / Максім Гацак. – Рэжым доступу: bchd.info/13286–adnym–z–pershyh–pachau–uzhyvac–belaruskuyu–movu–u–kascele.html. – Дата доступу: 07.03.2018.

Германовіч, Я., а. Добры пастар – Віктар Шутовіч / а. Я. Германовіч // Божым шляхам. – 1964. – № 84. – С. 13.

Германовіч, Я., а. Мае прыяцелі: Зэнон Якуць / а. Я. Германовіч // Божым шляхам. – 1965. – № 1. – С. 6.

Германовіч, Я. Мае прыяцелі – Францісь Рамейка / а. Я. Германовіч // Божым шляхам. – 1965. – № 3. – С. 6–7.

Германовіч, Яз. Мае прыяцелі – Вацлаў Аношка / а. Я. Германовіч // Божым шляхам. – 1966. – № 95. – С. 10–11.

Германовіч, Яз. Успаміны аб Андрэю Цікоце / а. Я. Германовіч // Божым шляхам. – 1969. – № 82. – С. 4–6.

Германовіч, Язэп, а. Мае прыяцелі (успаміны): Кастусь Стэповіч (1890–1926) – сьвятар, паэт, пісьменьнік / а. Я. Германовіч // Божым шляхам. – 1964. – № 87. – С. 15.

Германовіч, Язэп. Архімандрыт Андрэй Цікота / а. Я. Германовіч // Chryścijanskaja Dumka. – 1993. – № 1 (213). – С. 34–40.

Глагоўская, Лена. Браты Стаповічы / Лена Глагоўская // Беларусіка. – Albaruthenica 8. Беларусь – Расія – Японія : матэрыялы Першых Астравецкіх краязнаўчых чытанняў, прысв. памяці Іосіфа Гашкевіча / рэд. Г. Брэгер [і інш.] – Мінск : ННАЦ імя Ф. Скарыны, 1997. – С. 70–76.

Грыгор'ева, В. Каталіцкае духавенства ля вытокаў беларускага адраджэння / В. Грыгор'ева // Беларусіка : зб. арт. па матэрыялах Міжнар. навук. канф. «Фармаванне і развіццё

нацыянальнай самасвядомасці беларусаў», Маладзечна, 19–20 жніўня, 1992 г. / пад рэд. А. Анціпенкі. – Мінск, 1992. – Кн. 2. – С. 293–297.

Грыгор'ева, В. Праблемы каталіцкай царквы на Беларусі ў другой палове XIX – пач. XX ст. у творах Адама Станкевіча / В. Грыгор'ева // Кніга, бібліятэчная справа і бібліяграфія Беларусі. – Мінск, 1993. – С. 102–109.

Гурка, Леанард. Подвижники евангелизации. Актуальность евангелизированного дела святых Кирилла и Мефодия / Леанард Гурка // Един Господ. На пути к единству христиан. – Люблин, 1996. – С. 107–117.

Дзедзінка, А. Айцец Францішак Чарняўскі (1893–1979) / А. Дзедзінка // Божым шляхам. – 1980. – № 151. – С. 10–14.

Дзедзінка, А. Айцец Янка Тарасевіч / А. Дзедзінка // Божым шляхам. – 1979. – № 150. – С. 12–16.

Дрыгоніч, П. Успаміны аб сьв. п. Кс. Др. Станісл. Глякоўскім / П. Дрыгоніч, П. Дрыгвіч // Źnič. – 1951. – № 67. – С. 4.

Дубовіч, Андрэй. Ул. Талочка (1887–1942) / Андрэй Дубовіч // Беларускі голас. – 1942. – № 39. – С. 4.

Езовитов, К. Б. Белорусы и поляки: документы и факты из истории оккупации Белоруссии поляками в 1918 и 1919 годах : пер. с бел. / К. Б. Езовитов. – Ковна : Изд-во им. Ф. Скорины, 1919. – 124 с.

Жук-Грышкевіч, Вінцэнт. Рэфлексыі на сьмерць кс. Віктара Шутовіча / Вінцэнт Жук-Грышкевіч // Раіса Жук-Грышкевіч. Жыццё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. – Таронта – Канада, 1993. – С. 274.

Інтэрпеляцыі беларускіх паслоў у Польскі Сойм 1922–1928 гг. : зб. дакументаў. – Менск : Беларускае дзяржаўнае выд-ва, 1927. – 496 с.

Калеснік, У. А. Адважны Вінцук / У. А. Калеснік // БелЭЛіМ. – Мінск, 1984. – Т. 1. – С. 39.

Калеснік, У. А. Адважны Вінцук / У. А. Калеснік, А. В. Мальдзіс // Беларускія пісьменнікі. Біябібліяграфічны слоўнік. У 6 т. / пад рэд. А. Мальдзіса. – Мінск : Беларуская энцыкл. імя П. Броўкі, 1992. – Т. 1. – С. 49.

Калеснік, У. А. Быліна Янка / У. А. Калеснік // Беларускія пісьменнікі. Біябібліяграфічны слоўнік. У 6 т. / пад рэд. А. Мальдзіса. – Мінск : Беларуская энцыкл. імя П. Броўкі, 1992. – Т. 1. – С. 444–445.

Калеснік, Уладзімір. Старонкі рамантызму / Уладзімір Калеснік // Зорны спеў : Літаратурныя партрэты, нарысы, эскізы. – Мінск : Маст. літ., 1979. – С. 154–180.

Канфесіі на Беларусі (к. XVIII–XX ст.): В. В. Грыгор'ева, У. М. Завальнюк, У. І. Навіцкі, А. М. Філатава / пад рэд. У. І. Навіцкага. – Мінск : В. П. «Эксперктыва», 1998. – 340 с.

Карасэвіч, В. Кс. Віктар Шутовіч – праўдзівы патрыёт і добры пастыр (З нагоды атрыманых вестак аб ягонай сьмерці) / В. Карасэвіч // Źnič. – 1960. – № 76. – С. 4.

Конан, У. Ксёндз Адам Станкевіч і каталіцкае адраджэнне ў Беларусі / У. Конан. – Мінск : Выд-ва «Про Хрысто», 2003. – 128 с.

Конан, Уладзімір. Лідэр беларускага каталіцкага адраджэння / Уладзімір Конан // Наша вера. – 1998. – № 3(6). – С. 7–10.

Конон, Владимир. Вера и нация: христианство в судьбе белорусов / Владимир Конон // Нёман. – 1994. – № 5. – С. 156–164.

Ксёндз Адам Станкевіч: у 25-я ўгодкі сьвяшчэнства і беларускай нацыянальнай дзейнасьці (10.01.1915–10.01.1940) / рэдагаваў і выдаў Магістр Ян Шутовіч. – Вільня, 1940.

Ладысеў, У. Ф. Беларуская хрысціянская дэмакратыя – Беларускае народнае аб'яднанне / У. Ф. Ладысеў // Палітычныя партыі Беларусі : вучэб. дапам. – Мінск : Згода, 1994. – С. 78–82.

Ладысеў, У. Ф. Беларуская хрысціянская дэмакратыя / У. Ф. Ладысеў // Энцыкл. гісторыі Беларусі. У 6 т. – Мінск, 1993. – Т. 1. – С. 417–419.

Ладысеў, Уладзімір. Цяжкі шлях выпрабаванняў / Уладзімір Ладысеў // Беларускі гістарычны часопіс. – 1994. – № 1. – С. 81–88.

Лазько, Р. Р. «Усходнія Крэсы» як фактар гальванізацыі «ягелонскай ідэі» ў Польскай Рэспубліцы / Р. Р. Лазько // Этнасацыяльныя і культурныя працэсы ў заходнім рэгіёне Беларусі: гісторыя і сучаснасць : матэрыялы Рэсп. навук. канф., 5–6 снеж. 1997 г. / пад рэд. І. П. Крэня. – Гродна : ГрДУ, 1998. – С. 130–133.

Ластоўскі, Вацлаў. Выбраныя творы / Вацлаў Ластоўскі ; уклад., прадм. і камент. Язэпа Янушкевіча. – Мінск : Беларускі кнігазбор, 1997. – 500 с.

Л. А. Усходняя Беларусь: Статыстычныя і гістарычныя матэрыялы / А. Л. (Луцкевіч). – Мінск : Выд. Народнага Сэкрэтарыяту Міжнародавых спраў, 1918. – 13 с.

Луцкевіч, А. Польская акупацыя Беларусі. – Вільня, 1920; Перадрук: Луцкевіч, Антон. Польская акупацыя Беларусі / Антон Луцкевіч // Выбраныя творы: праблемы культуры, літаратуры і мастацтва / уклад., прадм., камент., індэкс імёнаў, пер. з пол. і ням. А. Сідарэвіча. – Мінск : Кнігазбор, 2006. – С. 202–214.

Лыч, Леанід. З родным словам да Бога / Леанід Лыч // Беларуская нацыя і мова : літ.-гіст. арт. – Мінск : Маст. літ., 1994. – 277 с.

Мазько, Э. А. Дзейнасць БХД па арганізацыі беларускага школьніцтва ў Заходняй Беларусі ў 20–30–я гг. XX ст. / Э. А. Мазько // Чалавек. Этнас. Тэрыторыя. (Праблемы развіцця заходняга рэгіёна Беларусі) : матэрыялы Міжнар. навук.-практ. канф., 23–24 крас. 1998 г. У 2 ч. Ч. 2. – Брэст, 1998. – С. 130–135.

Мазько, Э. А. Праблема нацыянальных меншасцей у ідэалогіі і дзейнасці Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі (1920–1930-я гг.) / Э. А. Мазько // Нацыянальныя меншасці Беларусі / нав. рэд. С. А. Яцкевіч. – Брэст – Мінск – Віцебск, 1996. – Кн. 2. – С. 57–59.

Мазько, Э. А. Уплыў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі на фармаванне культурнай сітуацыі ў Заходняй Беларусі ў 20–30 гады XX стагоддзя : дыс. … канд. гіст. навук : 24.00.02 / Э. А. Мазько. – Гродна, 2003. – 124 с.

Маракоў, Л. Рэпрэсаваныя каталіцкія духоўныя, кансэкраваныя і свецкія асобы Беларусі (1917–1964) / Л. Маракоў. – Мінск, 2008. – 776 с.

Мруз, Мацей. Каталіцызм на паграніччы. Адносіны каталіцкай царквы да ўкраінскага і беларускага пытання ў Польшчы ў 1918–1925 гг. / Мацей Мруз ; пер. з пол. мовы Я. Зелінскага ; навук. рэд. Г. Сагановіч. – Мінск : Медысонт, 2009. – 300 с.

Надсан, А. Pro patria aliena. Кляштар беларускіх айцоў марыянаў у Друі (1924–1938) / А. Надсан. – Менск, 2006. – 160 с.

Надсан, А. Магдалена Радзівіл і Грэка-Каталіцкая Царква ў Беларусі / А. Надсан. – Лёндан : Божым шляхам, 2004;

Надсан, А. Біскуп Чэслаў Сіповіч: сьвятар і беларус / А. Надсан. – Мінск : Бел-Франс, 2004. – 300 с.

Надсан, А. Выбранае / А. Надсан ; уклад. і камент. І. Багдановіч, прадм. Л. Савік. – Мінск : Кнігазбор, 2014. – 608 с.

Надсан, А. Друя і Грэка-Каталіцкая Царква на Беларусі, 1924–1938 / А. Надсан. – Лёндан : Божым шляхам, 2001. – 64 с.

Найдзюк, Язэп. Беларусь учора і сёньня. Папулярны нарыс з гісторыі Беларусі / Язэп Найдзюк, Іван Касяк. – Менск : Навука і тэхніка, 1993. – 414 с.

Николаев, К. Н. Экспансия Рима в Россию. Восточный обряд (Рим – Польша – Россия) / К. Н. Николаев. – М., 2005. – 360 с.

Николаев, Константин. Восточный обряд [Электронный ресурс] / Константин Николаев. – Рэжым доступу: http://www.blagogon.ru/biblio/248/ – Дата доступу: 07.04.2018.

Палуян, Сяргей. Беларуская літаратура ў 1909 гаду / Сяргей Палуян // Лісты ў будучыню. – Мінск : Маст. літ., 1986. – С. 104–107.

Палуян, У. А. Беларускі Інстытут гаспадаркі і культуры / У. А. Палуян // Энцыкл. гісторыі Беларусі. У 6 т. – Мінск, 1993. – Т. 1. – С. 433.

Пануцэвіч, Вацлаў. Кс. Вінцэсь Гадлеўскі – Дзяржаўны Муж і Правадыр Народу / Вацлаў Пануцэвіч // Спадчына. – 1993. – № 3, 5, 6.

Польскае таварыства «Асвета» у Мінску (1905–1917) // Каталіцызм (З пляцоўкі «Вікіпедыя»). – Рэжым доступу: http://www.wikiwand.com/be/Польскае таварыства «Асвета» ў Мінску /cite_ref–27. – Дата доступу: 08.02.2016.

## 4. Публікацыі

Рерум Новарум. Окружное послание Льва XIII от 15 мая 1891 г. «О положении трудящихся» // Сто лет социального христианского учения. – М. : Дом Марии, 1991.

Рудовіч, С. С. Гадлеўскі Вінцэнт / С. С. Рудовіч // Энцыкл. гісторыі Беларусі. У 6 т. – Мінск, 1994. – Т. 2. – С. 447–448.

Рэлігійнае жыцьцё на Беларусі. – Вільня : Выд. Беларускага рэлігійна-грамадзкага Зьвязу, 1932. – 64 с.

Саламевіч, Янка. Паэт-святар Андрэй Зязюля / Янка Саламевіч // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 1991. – № 7–8. – С. 140–145.

Сапраўдныя пастары беларускага народу // Шлях моладзі. – 1938. – № 13. – С. 8.

Сваяк, Казімір. Адраджэньне Беларусі і Унія / Казімір Сваяк // Унія. – 1991. – № 1(3). – С. 12–15.

Сваяк, Казімір. Дзея маёй мысьлі, сэрца і волі / Казімір Сваяк. – Выданьне другое. – Лёндан : Божым шляхам, 1991. – 47 с.

Сідарэвіч, А. Ксёндз Адам Станкевіч і яго справа / А. Сідарэвіч // Chryścijanskaja Dumka. – 1992. – № 2 (211). – С. 20–34.

Сідарэвіч, А. М. Беларускі пасольскі клуб / А. М. Сідарэвіч // Энцыкл. гісторыі Беларусі. У 6 т. – Мінск, 1993. – Т. 1. – С. 451.

Сідарэвіч, А. М. Беларускі цэнтральны выбарчы камітэт / А. М. Сідарэвіч // Энцыкл. гісторыі Беларусі. У 6 т. – Мінск, 1993. – Т. 1. – С. 458.

Сіповіч, Ч. Пралат Пётр Татарыновіч / Ч. Сіповіч // Божым шляхам. – 1979. – № 150. – С. 16–24; Передрук: Сіповіч Ч., біскуп. Пралат Пётр Татарыновіч (1896–1978) / біскуп Ч. Сіповіч // Спадчына. – 1996. – № 3. – С. 264–272.

Сіповіч, Часлаў. Айцец Архімандрыт Фабіян Абрантовіч / Часлаў Сіповіч // Божым шляхам. – 1957. – № 76–81. – С. 9–20.

Скалабан, В. У. Беларускае таварыства ў Петраградзе па аказанні дапамогі пацярпелым ад вайны / В. У. Скалабан // Энцыкл. гісторыі Беларусі. У 6 т. Т. 1. – С. 361.

Смалянчук, А. Ф. Палякі Беларусі і Літвы ў рэвалюцыі 1905–1907 гг. / А. Ф. Смалянчук. – Гародня : Ратуша, 2000. – 204 с.

Смоленчук, А. Ф. Конституционно-католическая партия Беларуси и Литвы 1906–1907 гг. / А. Ф. Смоленчук // Наш радавод : матэрыялы Міжнар. навук. канф. «Царква і культура народаў ВКЛ і Беларусі XIII – пач. XX ст.», Гродна, 28 верас. – 1 кастр. 1992 г. / адказн. рэд. і ўклад. Д. Караў. – Гродна, 1992. – Кн. 4 (Ч. 2). – С. 681–688.

Станкевіч, А. Выбранае / А. Станкевіч ; уклад., прадм. і камент. Ул. Конана. – Мінск : Кнігазбор, 2008. – 360 с.

Станкевіч, А. Беларусы як нацыянальная меншасьць у Польшчы / А. Станкевіч // Беларускі гістарычны часопіс. – 1995. – № 2. – С. 109–119.

Станкевіч, Ад. Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня / Ад. Станкевіч. – Вільня : Шлях моладзі, 1934. – 128 с.

Станкевіч, Ад. Прамова пасла кс. Ад. Станкевіча ў Сойме 24.IX.1926 / Ад. Станкевіч // Сялянская ніва. – 1926. – 7, 14, 21 кастрычніка.

Станкевіч, Ад. Прамова пасла ў Варшаўскім Сойме ад 12.X.1923 / Ад. Станкевіч // Сьцяг Волі. – 1923. – 17 кастрычніка.

Станкевіч, Ад. Прафесар Браніслаў Эпімах-Шыпіла: З яго жыцця і працы / Ад. Станкевіч. – Вільня : Хрысьціянская Думка, 1935. – 24 с.

Станкевіч, Адам, ксёндз: у 25-я ўгодкі сьвяшчэнства і беларускай нацыянальнай дзейнасьці (10.01.1915–10.01.1940) / рэдагаваў і выдаў Магістр Ян Шутовіч. – Вільня, 1940. – 102 с.

Станкевіч, Адам. З Богам да Беларусі / Адам Станкевіч ; уклад., навук. рэд., камент., прадм. А. Пашкевіча, А. Вашкевіча. – Вільня : Інстытут беларусістыкі, 2008. – 1097 с.

Станкевіч, Адам. Прамова пасла кс. Станкевіча ў Сойме 1.VII.1924 / Адам Станкевіч // Сын Беларуса. – 1924. – 11 ліпеня.

Станкевіч, Адам. Прамова ў Соймавай асьветнай камісіі ад 12.02.1924 / Адам Станкевіч // Крывіч. – 1924. – № 1 (7). – С. 101–103.

Станкевіч, Адам. Хрысьціянства і Беларускі народ: спроба сінтэзы / Адам Станкевіч. – Вільня : Хрысьціянская Думка, 1940. – 183 с.

Стаповіч, Бярнард. Словам і ўчынкам. (З успамінаў пра Казіміра Сваяка) / Бярнард Стаповіч // Полымя. – 1990. – № 2. – С. 192–205.

Суніца, Раман. Справа беларускага біскупа / Раман Суніца // Беларуская Думка. – Вільня, 1919. – № 19. – 9 чэрвеня. – С. 1–2.

Токць, С. М. Беларуская вёска на мяжы эпох: Змены этнічнай самасвядомасці сялянства ва ўмовах распаду традыцыйнага аграрнага грамадства (па матэрыялах Гарадзеншчыны XIX – першай трэці XX ст.) / С. М. Токць. – Гродна : ГрДУ, 2003. – С. 76–78.

Трацяк, І. І. Вінцэнт Гадлеўскі – грамадскі і культурны дзеяч / І. І. Трацяк // Старонкі гісторыі Свіслацкага краю : матэрыялы навук.-практ. краязн. канф. – Гродна : ГрДУ, 2001. – С. 201–206.

Трацяк, І. І. Асаблівасці рэлігійнай і канфесійнай сітуацыі на Гродзеншчыне (пачатак XX ст. – 1917 г.) / І. І. Трацяк // Шлях да ўзаемнасці : матэрыялы Міжнар. навук. канф. – Гродна, 2009.

Трацяк, І. І. Моўная палітыка на Гродзеншчыне ў пач. XX ст.: «Белорусское наречие… в целях разобщения католицизма от полонизма…» / І. І. Трацяк // Регионалистика : сб. науч. тр. / ГрГУ им. Я. Купалы ; редкол.: Т. И. Адуло ; науч. ред. В. Н. Ватыль. – Гродно : ГрГУ, 2009. – С. 187–196.

Трацяк, І. І. Спробы беларусізацыі каталіцкіх парафій на Гродзеншчыне (пач. XX ст. – 1939 г.) / І. І. Трацяк // Культура Гродзенскага рэгіёну: праблемы развіцця ва ўмовах поліэтнічнага сумежжа : зб. навук. пр. / адк. рэд. А. М. Пяткевіч. – Гродна : ГрДУ, 2003. – С. 137–143.

Трацяк, І. Доктар тэалогіі а. Янка Тарасевіч: жыццё і творчасць / І. Трацяк // Шчучыншчына: мінулае і сучаснасць : матэрыялы навук.-практ. краязн. канф., Шчучын, 24 сак. 1995 г. – Шчучын – Гродна, 1997. – С. 145–154.

Трацяк, І. І. Айцец Уладзіслаў Талочка – беларускі грамадскі дзеяч, гісторык, публіцыст / І. І. Трацяк // Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа : зб. навук. арт. У 2 ч. Ч. 2 / ГрДУ імя Я. Купалы ; рэдкал.: Э. С. Ярмусік [і інш.]. – Гродна : ГрДУ, 2009. – С. 20–26.

Трацяк, І. І. Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі : манагр. / І. І. Трацяк. – Гродна : ГрДУ, 2013. – 267 с.

Трацяк, І. І. Беларуская настаўніцкая семінарыя ў Барунах (1920–1922 гг.) і яе значэнне для развіцця беларускай школы / І. І. Трацяк // Ашмяншчына: гісторыя і сучаснасць : матэрыялы навук.-практ. краязн. канф. – Гродна – Ашмяны, 1995. – С. 87–89.

Трацяк, І. І. Ільдэфонс Бобіч – святар, пісьменнік, тэолаг / І. І. Трацяк // З гісторыі вякоў і пакаленняў Іўеўскага краю : матэрыялы навук.-практ. краязн. канф. / пад рэд. І. П. Крэня. – Гродна : ГрДУ, 1999. – С. 186–190.

Трацяк, І. І. Этнаканфесійныя праблемы ў культурным жыцці Гродзеншчыны (першая трэць XX ст.) / І. І. Трацяк // Этнасацыяльныя і культурныя працэсы ў заходнім рэгіёне Беларусі: гісторыя і сучаснасць : матэрыялы Рэсп. навук. канф., Гродна, 5–6 снеж. 1997 г. / пад рэд. І. П. Крэня. – Гродна, 1998. – С. 256–260.

Трацяк, Я. «...Чалавекам быў ён простым» / Я. Трацяк // Сьвіцязь. – 1995. – № 1. – С. 66–80.

Трацяк, Я. Бобіч Ільдэфонс / Я. Трацяк // Беларуская Энцыклапедыя. У 18 т. – 1996. – Т. 3. – С. 99.

Трацяк, Я. Роля беларускіх святароў у адраджэнні нацыянальнай культуры / Я. Трацяк // Культура ў Рэспубліцы Беларусь: гісторыя, сучасны стан і перспектывы развіцця : тэз. дакл. Рэсп. навук. канф., Мінск, 26 студз. 1993 г. – Мінск, 1993. – С. 108–110.

Трацяк, Я. Чалавекам быў ён простым / Я. Трацяк // Скрыжалі памяці: З творчай спадчыны пісьменнікаў Беларусі, якія загінулі ў гады Другой сусветнай вайны. У 3 кн. Кн. 3 / уклад., біягр. дав. і камент. А. Бельскага. – Мінск : Бел. кнігазбор, 2005. – С. 43–48.

Трацяк, Янка. «Палетку нашага араты...» / Янка Трацяк // Гарадзенскія запісы: старонкі гісторыі і культуры / гал. рэд. П. Сцяцко. – Гародня, 1993. – Вып. 1. – С. 115–119.

Трацяк, Янка. Беларускае духавенства (пач. ХХ ст. – 1930-я гады) / Янка Трацяк // Беларускі гістарычны часопіс. – 1999. – № 2. – С. 41–48.

Трацяк, Янка. Беларускае духавенства ў першай палове ХХ ст. / Янка Трацяк // Białoruskie Zeszyty Historyczne. – Białystok, 1999. – № 12. – S. 59–79.

Трацяк, Янка. Беларускія святары Гарадзеншчыны / Янка Трацяк // Наш радавод : матэрыялы Міжнар. гіст.-краязн. чытанняў, Ліда, 24–26 ліп. 1993 г. – Ліда, 1994. – Кн. 6. – С. 106–115.

Трацяк, Янка. Волаты духа, веды і сьвятасьці / Янка Трацяк // Сьвіцязь. – 1994. – № 1. – С. 75–85.

Трацяк, Янка. З'езд беларускага каталіцкага духавенства / Янка Трацяк // Энцыкл. гісторыі Беларусі. У 6 т. – Мінск, 1996. – Т. 3. – С. 439.

Трацяк, Янка. Матулевіч (Матулайціс) Юры / Янка Трацяк // Энцыкл. гісторыі Беларусі. У 6 т. – Мінск, 1999. – Т. 5. – С. 95–96.

Трацяк, Янка. Нацыянальная ідэя ў інтэрпрэтацыі беларускіх каталіцкіх святароў / Янка Трацяк // Беларуская нацыянальная ідэя : тэзісы Міжнар. навук. канф., Гродна, 17–18 крас. 1999 г. – Гродна, 1999. – С. 53–54.

Трацяк, Янка. Пачобка Баляслаў / Янка Трацяк // Энцыкл. гісторыі Беларусі. У 6 т. – Мінск, 1999. – Т. 5. – С. 459.

Трацяк, Янка. Роля беларускіх святароў у адраджэнні роднай мовы / Янка Трацяк // Гарадзенскія запісы: старонкі гісторыі і культуры / гал. рэд. П. Сцяцко. – Гародня, 1993. – Вып. 1. – С. 66–71.

Трацяк, Янка. Роля Браніслава Эпімах-Шыпілы ў фарміраванні беларускага каталіцкага духавенства / Янка Трацяк // Беларусіка-Albaruthenica. Кн. 15 : На шляхах да ўзаемапаразумення / рэд. А. Мальдзіс. – Мінск : Беларускі кнігазбор, 2000. – С. 284–287.

Трацяк, Янка. Рэлігійны сэнс нацыянальнага / Янка Трацяк // Полымя. – 1998. – № 9. – С. 224–238.

Туронак, Юры. Мадэрная гісторыя Беларусі / Юры Туронак. – Вільня : Інстытут беларусістыкі, 2006. – 904 с.

Туронак, Юры. Трагізм і загадкавасьць лёсаў / Юры Туронак // Наша Вера. – 1996. – № 1(2). – С. 24–31.

Akcija Katolicka ci akcyja polskaha nacyjanalismu? // Bielaruskaja Krynica. – 1933. – 15 Studzienia. – S. 2. as. Kościol garnkowi prygania / as // Przegląd Wilenski. – 1923. – 30 maja.

as. Pod nowa maska /as // Przegląd Wilenski. – 1923. – 2 wrzesnia. – S. 4.

Biełaruskaje Katalickaje Wydawectwa // Chryścijanskaja Dumka. – 1934. – № 1(92). – S. 1.

Biełaruski Katalicki Centr // Chryścijanskaja Dumka. – 1933. – № 2 (83). – S. 1.

Bobič, Ildefons. Niadzielašnija Ewanhielii i Nawuki. Čaść druhaja (ad niadzieli pa Wialikadni da X Niadzieli pa Zialionych światkach) / Ildefons Bobič ; pad red. ks. Ad. Stankiewiča. – Wilnia : Krynica, 1921. – 74 s.

Bobič, Ildefons. Niadzielašnija Ewanhielii i Nawuki. Čaść pieršaja (ad 1-aj niadzieli Adwentu da wialikodnia) / Ildefons Bobič ; pad red. ks. Ad. Stankiewiča. – Wilnia : Krynica, 1922. – 62 s.

Bobič, Ildefons. Niadzielašnija Ewanhielii i Nawuki. Čaść trecija (ad Zialionych światkach da...) / Ildefons Bobič; pad red. ks. Ad. Stankiewiča. – Wilnia : Krynica, 1921. – 68 s.

Bobizc, Ild. Klamstwa i potwarze «Dziennika Wielenskiego» (№ 268, art. «Nasze Kresy» I. F.) / Ild. Bobič // Przegląd Wilenski. – 1923. – 15 wrzes.

Borodzicz, J. Kresy Wileńskie w niebezpieczeństwie: dalszy ciąg pamiętników «Na wozie i pod wozem» / J. Borodzicz. – Wilno : Druk. «Znicz», 1928 (Nakład autora).
Budkiewicz, K. Wizytacya kanoniczna parafii dyecezyi Minskej / K. Budkiewicz // Wiadomosci Archidiecezalnie. – 1914. – № 13. – S. 175–177.
Calendarium pro clero diocesis Vilnensis in Annum Domini 1915. – Vilnae : Sumptibus Cancellariae Curiae Episkopalis, 1914. – 333 s.
Catalogus ecclesiarum et cleri archidiocesis vilensis pro Anno domini. – Vilnas : Exeudebat Officina Typographica Archideoecesana, 1927. – 167 s.
Catalogus Ecclesiarum et cleri Archidiocesis vilnensis pro Anno domini 1934. – Vilnac : Exeudebat Officina Typographica Archideoecesana, 1934. – 196 s.
Chorąży, Antoni. Tam mieszkał ich Bóg: Rzymskokatolicka parafia w Domaczewie w latach 1919–1945 [Электронны рэсурс] / Chorąży Antoni. – Рэжым доступу: www.domachevo.com. – Дата доступу: 01.03.1918.
Choruży, Wiesław. Ks. dr. Jozef (Atanazy) Reszeć / Wiesław Choruży // Białoruskie Zeszyty Historyczne. – Białostok, 1997. – № 7. – S. 157–166.
Czeczot, W. Diecezja mińska i jej pasterz Zygmunt Łoziński / W. Czeczot. – Wilno, 1925. – Ч. 2. – T. 1. – 647 s.
Dar Polski Bielorusinam, Rosianam, Ukraincom na Tysieclecie ich Chrystu Swiętego : praca sbiorowa / pod redakcija Kasimirza Podlaskego. – London : Polonia, 1989. – 280 s.
Direkrorium horarum canonicarum et Missarum pro diocesi Vilnensi in Annum Domini Commumem MCMV 1915. – Vilnae, 1904. – 410 s.
Direkrorium horarum canonicarum et Missarum pro diocesi Vilnensi in Annum Domini Commumem MCMV 1915. – Vilnae, 1904. – S. 170.
Dzicrzkowska, Danuta. Zbior rękopisow afiarowanych, przez ks. Br. Ussasa bibliotece Uniwiersiteckiej KUL / Danuta Dzicrzkowska. – Lublin : Tow-wa Naukowa Katolick. Uniwer. Lubelskiego, 1979. – 176 s.
Dzwonkowski, Roman (SAC). Kościoł katolicki w ZSSR 1917–1939 : Zarys historii / Roman Dzwonkowski (SAC). – Lublin : Towarzystwo Naukowa Katolickiego Uniwersytetu Lubelskiego, 1997. – 477 s.
Godlewski, Wincenty. Dzikie obyczaje / Wincenty Godlewski // Przegląd Wilenski. – 1925. – 8 list.
Gomołka, Krystyna. Bielorusini w II Rzeczy pospolitaj / Krystyna Gomołka // Ekonomia, Nr. XXXI; Zeszyty naukowe, politechniki Gdanskej. – Gdansk, 1992. – 179 s.
Górcki, Tadeusz MIC. Rozmiłowany w Kościele : Błogosławiony Arcybiskup Jerzy Matulewicz / Tadeusz Górckł, MIC. – Warszawa, 1987.
Hadleuski, W, ks. Historyja Świataja abo Biblijna Nowaha Zakonu. Z 36 rysunkami u tekście i 2 kartami / W. Hadleuski, ks. – Wilnia : Wydańne Bielaruskaha Katalickaha wydawiectwa, 1933. – 186 s.
Hadleuski W, ks. Historyja Świataja abo Biblijna Staroha Zakonu / W. Hadleuski, ks. – Wilnia : Wydańne Bielaruskaha Katalickaha wydawiectwa, 1930. – 167 s.
Hadleuski W. Niezaleźnaść Biełarusi i Katalicki Kaściol / W. Hadleuski, ks. // Krynica. – 1921. – 3 kras.
Hadleuski, W. Z żyćca i dziejnaści ks. W. Hadleuskaha : Autobiohrafičny narys / W. Hadleuski // Biełaruskaja Krynica. – 1928. – № 14. – 16 lutaha. – S. 3.
Hlakouski, St. Ideja Jahełonau, waladarstwa Chrysta / St. Hlakouski // Chryścijanskaja Dumka. – 1939. – № 7. – S. 12.
Informator Rymo-Katolieckiego Kościola w Polsce 1936–1937. – Warszawa : Trybuna. – 542 s.
Instrukcyja, jak twaryc arhanisacyi Biełaruskaj Cryścijanska-Demakratyčnaj partyj na miajscoch. – Wilnia, 1926.
Konkordat zawartypomiędzy Stolice Apostolske a Rzeczpospolite Polske // Kurenda kurii Diecezjalnej. – 1925. – № 4. – S. 36–48.
Krahel, Tadeusz. Bobicz Ildefons / Tadeusz Krahel // Słownik polskich teologow katolikow. W 5 t. – Warszawa, 1983. – T. 5, 1918–1981. – S. 131–136.

Krahel, Tadeusz Ęs. Ks. Romuald Dronicz [Электронны рэсурс] / Tadeusz Krahel // Czas miloserdzia. Bielostocki Biuletyn koscielny. – Рэжым доступу: http://www.bialystok.opoka.org.pl/czas/arch28/art/krahel.htm

Kubicki, Paweł. Bojownicy kapłani za sprawę Kościoła i Ojczyzny w latach 1861–1915 : część druga. Dawna Litwa i Białoruś. T. II / Paweł Kubicki. – Sandomierz, 1936. – 756 s.

Kubicki, Paweł. Bojownicy kapłani za sprawę Kościoła i Ojczyzny w latach 1861–1915 : część druga. Dawna Litwa i Białoruś. T. I / Paweł Kubicki. – Sandomierz, 1936. – 976 s.

Kubicki, Paweł. Bojownicy kapłani za sprawę Kościoła i Ojczyzny w latach 1861–1915 : część druga. Dawna Litwa i Białoruś. T. III / Paweł Kubicki. – Sandomierz, 1936. – 791 s.

Kumor, Bolesław, ęs. Historia Kościoła. Czasy współczesne 1914–1992. Kościoł Katolicki w okresie systemów totalitarnych i odnowy soborowej. Zniewolenie kościołów wschodnich, sekularyzacja i rozdrobnienie kościołów i wspólnot protestanckich. Część 8 / Bolesław Kumor, Ks. – Lublin : Redakcja Wydawnictw KUL, 1996. – 704 s.

Memorjal bielaruskich sojmawych paslou katalikou sw. Ajcu // Krynica. – 1924. – № 1. – 4 studnia. – S. 4 ; № 2. – 21 lutaha. – S. 1.

Memorjal Centralnaha Kamitetu BChD da Wilenskacha R.-Katalickacha Arcybiskupa // Biełaruskaja Krynica. – 1926. – № 41. – 19 listapada. – S. 2.

Memoryjał biełaruskich sojmawych pasłou katalikou św. Ajcu // Biełaruskaja Krynica. – 1924. – № 2. – 18 studnia. – S. 2.

Memoryjał da kanferencyji polskich Biskupau, złożany ksiandzami-biełarusami 18.V.1925 h. // Biełaruskaja Krynica. – 1925. – № 5. – 25 kastrycznika. – S. 3–5.

Moroz, Małgorzata. Biełoruski Instytut Gospodarki i Kultury w północno–wschodnich województwach Drugiej Rzeczypospolitej (1926–1937) / Małgorzata Moroz // Biełoruskie Zeszyty Historyczne. – 2000. – № 14. – S. 125–147.

Moroz, Małgorzata. «Krynica»: Ideołogia i przywodcy białoruskiego katolicyzmu / Małgorzata Moroz. – Białystok, 2001. – 230 s.

Na mahilu s. p. ajcu prafesaru Jazepu-Atamazu Reśсheciu, OSB // Znič. – 1958. – № 44. – S. 3–5.

N. K. 31-šy Mižnarodny Eucharystyčny Kanhres / K. N. – Wilnia : wyd. Chr. Dumki, 1933. – 55 s.

Nasze Kościoły. Archidiecezja Mohyłowska. Dekanat Lepelski / pod red. Ks. Jozafata Żyskara ; Nasze Kościoły. Archidiecezja Mohyłowska, Witebszczyna. T. 1. Część 3. – Warszawa : Biblioteka Narodowa, 2001.

Nasze Kościoły. Diecezja Mińska / pod red. Ks. Jozafata Żyskara. T. 1. Część 2. – Warszawa : Biblioteka Narodowa, 2001.

Nasze Kościoły. Opis ilustrowany wszystkich Kościołów i Parafji znajdujacych się na obscharach dawnej Pîlski i ziemiach przyległych / Archidiecezja Mohyłowska : ułożyli i wydali Ks. D. Baczkowski i Ks. J. Żyskar. – Warszawa – Petersbug, 1913. – T. I.

Obserwator. O zadania katolickiego kleru bialoruskiego / Obserwator // Przegląd Wileński. – 1924. – № 21. – S. 2.

Obserwator. Zadani ideologii kleru biełoruskiego / Obserwator // Przegląd Wilenski. – 1925. – № 1. – S. 4–5.

Operarius. O zadanni Katolickiego Kleru bielorusrego / Operarius // Przegląd Wilenski. – 1925. – 7 stycz. – S. 21; Przegląd Wilenski. – 1925. – 14 stycz. – S. 4–5.

Paczobka, B. «Biełarus» (Ze wspomien redaktora) / B. Paczobka // Przegląd Wileński. – 1925. – 11 padz. – S. 3–6.

Piela, Michał, SDS. Udzał Duchowieństwa w polskim życiu politycznym w latach 1914–1924 / Michal Piela, SDS. – Lublin : Wyd. Katolick. Uniwer. Lubelskiego, 1994. – 360 s.

Piotrowski, Stanislaw. Wojna religijna na kresach / Stanislaw Piotrowski. – Warszawa : Nakladam autara, 1930. – 31 s.

Podziawo, Tomasz, Ks, MIC. Wspomnienia; Do druku przygotowal ks. Ian Bukowicz, MIC / Tomasz Podziawo. – Puszcza Mariańska, 2001. – 227 s.

Ponarski, Zenowiusz. Władysław Tołoczko – ostatni obywatel Wielkoho Księstwa Litewskiego / Zenowiusz Ponarski // Biełoruskie Zeszyty Historyczne. – Białostok, 1997. – № 8. – S. 81–89.

Prahrama Biełaruskaj Chryścijanskaj Demakracyj // Biełaruskaja Krynica. – 1928. – № 54. – 30 listapada. – S. 3.

Pramowa pasła Ks. A. Stankiewiča padčas dyskusii nad ekspoze Premjera 22.X.1925 h. // Biełaruskaja Krynica. – 1925. – № 6. – 1 listapada. – S. 6.

